Кніга другая

# Скрыжалі памяці

У трох кнігах

***З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны***



Мінск, «Беларускі кнігазбор», 2005



# Пётр КАЛБЫКА

Пётр Васільевіч Калбыка нарадзіўся ў 1926 г. у в. Шынкаўцы Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці.

У гады фашысцкай акупацыі вучыўся ў Шчучынскай настаўніцкай семінарыі. Уступіў у дыверсійную групу капітана Таранава, у складзе якой знаходзіўся да прыходу Чырвонай Арміі. Летам 1944 г. быў мабілізаваны на фронт. Прымаў удзел у баях пад Варшавай і ў Цэнтральнай Польшчы, потым ваяваў ва Усходняй Прусіі. Радавы 114-га асобнага сапёрнага батальёна П. Калбыка быў цяжка паранены і неўзабаве, 17 лютага 1945 г., памёр у шпіталі пад Эльблангам. Узнагароджаны медалём «За адвагу».

Вершы пачаў пісаць падчас вучобы ў настаўніцкай семінарыі. Паэтычны сшытак 1942–1944 гг. П. Калбыкі захавала яго маці. Творы з літаратурнай спадчыны паэта ў 2000–2001 гг. апублікавалі газета «Чырвоная змена» і часопіс «Ад лідскіх муроў» (г. Ліда).

# Паэзія

## ПЕСНЯ ЗВОНАМ РАЗАЛЬЕЦЦА

Хоць песнь мая яшчэ няўдала,
Хоць у ёй няма таго агню,
Каб сэрца й душу хвалявала,
Муціла звонам цішыню.

А хутка прыйдзе, прыйдзе час,
І песня звонам разальецца,
А звон яе ўсхвалюе вас
І ў вашых сэрцах адклікнецца.

Бо чую я агонь ў душы,
Пачатак творчай хвалі.
Адным-адзін паміж цішы
Пачну будзіці далі.

Табе, табе аддам труды,
О край мой наймілейшы!
Свае пакіну тут сляды
На памяць дням яснейшым.

*12 лютага 1942 г.*

## ПРАДБАЧУ Я

Прадбачу я той страшны час,
Што ў нашы годы маладыя
Зямелька-маці прыме нас
І ад людзей ліхіх укрые.

Тады адзін спакойны сон
Нам стуліць вочы наўсягды.
Не збудзіць, не,
нас песняў звон.
………………………………..
Цяпер, пакуль дык сэрца б'е...*

* * *

Пакляпаўшы добра косу,
Косаньку стальную,
Выйду з ёю я на росы
Ў траваньку густую.

Размахнуся на прыволлі,
Накладу пракосаў.
Ідзе работа як ніколі
Ў лоне буйных росаў.

Мілы, ветлы халадок
Прыдае ахвоты,
Недалёкі ручаёк
Звоніць тыя ж ноты.

Свішча косанька стальная,
Звоніць срэбным звонам,
Траўка клоніцца густая**

## ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

Хоць жывеш далёка
Ад сваёй краіны,
Ды адтуль ты бачыш
Родныя даліны.

---

* Верш застаўся няскончаны.
** Апошні радок недапісаны.

Бачыш сенажаці
І палёў разлогі,
Як на іх працуе
Беларус убогі.

Бачыш лес магутны,
Чуеш яго гоман,
Як плыве, бурліцца
Срэбналіцы Нёман.

Бачыш, як рунее
Траўка маладая...
Як шуміць даспеўша
Ніва залатая...

Чуеш, як шчабечуць
Птушкі навакола,
Як іграюць краскі
Ветліва, вясёла.

Стуль прыемным звонам,
Звонам срэбналітым
Славіш край свой родны,
Сонейкам заліты.

Пэўна, што пяснярку
Ўсцешыла навіна,
Што ўжо вольнай стала
Родная краіна.

Дык віншуй радзімку
Песняю шчаслівай,
Што закрасавала
Васільком над нівай.

## СЯБРАМ

Шукайце праўды, яснай,
як праменні,
Шукайце тых нязведаных
шляхоў,
Каб даць прастор ўсім
новым пакаленням

Айчызны нашай
будучых сыноў.

Туды, дзе мгла,
дзе цемень векавечна,
Вы пракладайце сонечны
свой шлях,
Каб сын ўжо твой
ішоў туды бяспечна
І не блуждаўся там
ў пацьмах!

## МЕНСК — СТАЛІЦА МАЙГО КРАЮ

Спелым збожжам звоняць ланы,
льюцца радасці званы.
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Ты, як зорка ў небе цёмным,
мілым светам вабіш душу!
Ты квітнееш, мы не згінем,
пераможам мора, сушу...

Беларусам я названы,
Беларусі мы сыны,
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Доўга край наш быў стаптаны,
кроў пілі з нас груганы,
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Перасціхнуў боль і раны,
з рук нам спалі кайданы.
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Ты, як зорка ў небе цёмным,
сваім светам вабіш душу.

Ты квітнееш, мы не згінем,
пераможам мора, сушу!

Сёння шчасця дужа маю,
новых злыдняў не страшусь!
Менск — сталіца майго краю,
край мой родны — Беларусь!

## НА ДЗЕНЬ ІМЯНІНАЎ СПАДАРУ ДЗЯМІДАВУ
*(акруговаму інспектару ў Лідзе)*

У гэты цудны зімні час
пад небам роднае краіны
наш семінарны III клас
ўстрачае Вашы імяніны.

З глыбінь душы ў саду душы
вам, поўныя кахання,
прыносяць ў дар для Вас,
спадар,
сардэчны пажаданні.

У гэты дзень, так дарагі,
рады за волю змагароў,
узняўшы радасці сцягі,
Вам жыць жадаюць сто гадоў!

Ў красе жыцця — для Вас дзіця
праменіць шчасцем воблік,
бо толькі Вы сабе знайшлі
ў ягоным сэрцы водклік.

І гэтых мілых дзетак рой,
што кожна ранне ў школу йдзе,
Вам кожны з іх ў душы сваёй
падзяку шчырую нясе.

І кожны з нас у гэты час
сардэчна просіць Бога,
каб Ваш прамень і ўноч,
і ўдзень
паказваў нам дарогу.

Бо Вы, як месяц паміж зор,
што светам цудным залаціцца
і рассвятляе той прастор,
дзе цемень вечная таіцца.

Ў віру награнуўшых часоў
хай ззяе нам Ваш цудны свет!
Вам жыць жадае сто гадоў
у гэты дзень юнак-паэт!

## УСПАМІНЫ

О годы шчаслівыя!
Юныя годы!
Пакінулі мілы вы мне успамін.
У лонах праўдзіва
ўрочай прыроды
правёў я раскошна
прабегі часін.
О вёска кахана,
дзе хата мне родна
стаіць між кудравых
і сумных бяроз,
з табой не разлучыць
нас сіла ніводна,
бо я там радзіўся,
вучыўся і рос.
Ўсе тыя куточкі і гаік урочы,
квяцісты лужочак
над ціхай ракой, —
цяпер я спакойна
заплюшчыўшы вочы
усё гэтае бачу
жывым прад сабой.

Як ўспомню мінула,
дык з жаласці плачу,
і быццам я чую
тых птушачак хор.

О, там я пазнаў свайго
шчасця праменні,
мне муза прыслала свой
скромненькі дар.

Ці чуеш? О брат мой,
мае ўсе адозвы,
мае усе ўчуцця у гэты вось час.
З табой шчэ нядаўна
гараў тыя нівы,
цяпер промень шчасця
зацьміўся, пагас.
О праблiскі шчасця,
ніякай заганай
я вас не прыкрыю
ўжо сённяшнім днём.

Як ўзоры дзяўчыны,
так мною каханай,
што сэрца праменіць
кахання агнём.
Пакінуў я вёску, радзімую хату,
пакінуў дзяцінства,
шчырэйшых сяброў,
той мілы куточак,
фалісты, узняты,
зялёныя нівы і пасмы лугоў.
О Шчучын далёкі!
Глухі і пануры,
як сумна і сонна ў прасторы
глядзіш.
Шчэ душу ўцяшаюць
мне школьныя муры,
ў якія штораніцы
з сшыткам ляціш.
І разам з сябрамі
у цесным з’яднанні
за школьнаю лаўкай
спакойна сядзіш,
а ўсё ж адчуваю
ў душы парыванні,
каб зноў завітаць у вясковую ціш.

У вёсцы мне роднай
чулейшыя гукі,
пад дзіўную песню
і свіст салаўя
ніколі не чую там суму і скукі,
для вёскі, і толькі, народжаны я.
А сёння, о муза!
прышлі мне натхненне
раскрый прада мною паэзіі свет.
Мо хто, праслухаўшы
мае ўсе тварэнні,
з усмешкаю скажа:
«Ён будзе паэт».
Цяпер перад вамі
з душы хваляваннем
стаю й выяўляю
сардэчны свой жар,
і кожны мой водклік
вам повен каханнем,
бо вас паважае
і любіць пясняр.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Алесь Жалкоўскі*

## АБАРВАНАЯ ПЕСНЯ

У маіх руках стары агульны сшытак. Цудам захаваўся ён з вогненна-крывавых ваенных часоў. Як самы бясцэнны дар берагла гэтую памятку пра сына лідчанка Наталля Калбыка. Разам з яго адзіным лістом з фронту і малітоўнікам. А ў сшытку тым вершаваныя радкі яе першынца Пеці, прагнага да ведаў юнака, паэта. Вершы напісаны ў 1942–1944 гадах, першая частка лацінкай, другая — кірыліцай.

Родам Пётр Калбыка з Шынкаўцоў, што пад Астрына. У дні фашысцкай акупацыі вучыўся ў Шчучыне ў беларускай настаўніцкай семінарыі. Ды закончыць яе, як і іншым сябрам-таварышам, з-за складаных абставін не ўдалося. У вучэльні юнак напісаў нямала вершаў. У іх выразна бачыцца захапленне роднай старонкай, туга па любай Айчыне, вера ў яе лепшую будучыню. Аптымізм і надзея, напрыклад, гучаць у вершы «Гэй, сябры!».

Нямала ў Пятра Калбыкі шчымлівых і трывожных радкоў. У вершы «Загінуў наш цвет», прысвечаным загінуўшаму сябру, аўтар асуджае нелюдзяў, прагных да крыві:

За шчырую працу,
За родную справу
Вы, злыдні-бандыты,
Зрабілі расправу.

Боль за мукі людскія гучыць і ў іншых творах.

Летам 1944 года Пётр Калбыка ў 18-гадовым узросце прызываецца ў Чырвоную Армію. Удзельнічаў у баях пад Варшавай і ў Цэнтральнай Польшчы, затым — ва Усходняй Прусіі. 6 лютага 1945 года малады салдат быў цяжка паранены і ў шпіталі пад Эльблангам закончыў свой зямны шлях. У кішэні яго гімнасцёркі разам з дакументамі знайшлі чарнавыя накіды вершаў. Вядома, на

беларускай мове. А яшчэ ёсць сведчанні, што, прыйшоўшы ў прытомнасць, перад самай смерцю Пеця шаптаў адрывістыя фразы.

Гэта былі яго вершы.

…Сшытак, на жаль, застаўся недапісаны, а песня маладога аўтара — абарванай.



# Уладзімір КАНДРАЦЕНЯ

Уладзімір Ігнатавіч Кандраценя нарадзіўся ў сакавіку 1917 г. у в. Смалічы Чырвонаслабодскага раёна (цяпер Капыльскі раён) Мінскай вобласці.

Пасля заканчэння Смалічоўскай сямігодкі (1932) паступіў на рабфак у Бабруйску, які скончыў у 1935 г. Затым вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні Мінскага педагагічнага інстытута (скончыў з адзнакай у 1939 г.). У 1939 г. прызваны на службу ў армію, быў супрацоўнікам армейскай газеты. На пачатку вайны разам з вайсковай часцю пад Полацкам У. Кандраценя трапіў у акружэнне і апынуўся ў палоне. Уцёк з нямецкага канцлагера дамоў. Па даручэнні камандзіра партызанскага атрада В. А. Васільева пайшоў працаваць у Чырвонаслабодскую школу, а затым перабраўся ў Слуцк і ўладкаваўся дворнікам у сірочы прытулак. Стварыў падпольную групу, вёў антыфашысцкую дзейнасць. Па даносе правакатара падпольная група была раскрыта ў снежні 1942 г. Пасля катаванняў у слуцкім засценку У. Кандраценя 23 лютага 1943 г. быў расстраляны, пахаваны ў в. Смалічы.

Публікацыя апавядання «Спаганяюць падаткі» на старонках газеты «Палеская праўда» стала пачаткам літаратур-

най дзейнасці У. Кандрацені. У 1938 г. выдаў зборнік прозы «Любоў». Свае творы змяшчаў у часопісах «Полымя рэвалюцыі», «Работніца і калгасніца».

# ПРОЗА

## КАХАННЕ
*Аповесць*

### I

За нашаю вёскай, непадалёчку ад гарбатых гумен, каля зжатага палетка, — калгасная хата-чытальня.

На змроках моцна пахне рамонак, і вільготную свежасць нясуць сюды маўклівыя палявыя прасторы.

Кожны вечар тут сумятліва і весела. З усёй вёскі сыдуцца квяціста прыбраныя дзяўчаты, прывядуць хлопцы гарманіста, і ўраз ажывае ціхі сіні вечар. Песням няма канца, і танцы да сёмага поту, — дарма, што ўвесь дзень працавалі! На загарэлых тварах хлопцаў і дзяўчат няма нават і ценю ад дзянной зморанасці, бо вядома — такая ўжо маладосць...

Звіняць мядзяныя талеркі, гулка бухае бубен, на ўсе галасы заліваецца гармонік, а пары лёгка, нібы на невідочных шаўковых крыллях, кружацца-вальсуюць у прыгожа расквечаным карагодзе. Плытка кружацца-кружацца пары... мільгаюць ружовыя бесклапотна шчаслівыя твары дзяўчат.

На сярэдзіне хаты, над галовамі танцуючых, ярка зіхаціць вісячая лямпа з зялёным абажурам.

Успёршыся рукою на падаконнік, у журлівым задуменні стаіць чарнавокая Марына. Беленькая кашуля, вышытая чырвонымі ўзорамі, рэзка адцяняе прыгожы смуглы твар. Цераз кволую акругласць пляча спускаецца на грудзі тоўстая чорная каса. Смуглыя тонкія пальцы з паспешнай нервовасцю перабіраюць кончык касы, які бліскае зыркімі іскрамі чарнаты.

Чаго ж засмуцілася чарнявая красуня?

Падыходзілі хлопцы да Марыны, запрашалі танцаваць — яна моўчкі адмаўлялася.

— Ганарышся! — скоса пазіраючы, з іроніяй і неяк нараспеў прамовіў нечакана збянтэжаны хлапец. — Няма Алеся, дык на

другіх глядзець не хочаш... — Ён разгублена стаяў, спадзеючыся, што Марына падатліва працягне яму сваю руку.

Чорныя, неспакойна-гарачыя вочы дзяўчыны рашуча бліснулі:

— Сказала табе — не пайду...

І яна ні то кпліва, ні то ў знак прымірэння засмяялася:

— Кавалер...

Марыне самой не вельмі хацелася стаяць збоку: на пагулянках яна не прапускала ні аднаго танца, а цяпер было гэтак жа многа рухавай весялосці!

«Чаму яго няма? І ўчора вечарам не паказаўся, і сёння не прыходзіць...»

Увесь дзень Марына працавала ў полі, а думкі дзявочыя былі там — каля яго... Ледзь дачакалася вечару. А як сцямнела — з заміраючым сэрцам (дзе не бачылі людзі — аж подбегам) — хутчэй на музыкі.

«Забыўся... А можа, знарок не хоча?.. Прыйдзе, казаў жа... Напэўна, работаю заняты», — сама сябе заспакойвае Марына.

На апошнім развітанні Алесь намякнуў, што ў наступны раз скажа ёй нешта вельмі значнае і цікавае.

На ганку спяваюць, Марына выйшла туды. На лавачцы нізка абшаляванага ганка сядзяць прыбраныя дзяўчаты, каля іх увіваюцца хлопцы. А дзяўчаты заманліва выпяваюць, прыемна трывожаць хлапечыя сэрцы:

Каб мне з горачкі спусціцца,
З ручайка вады папіць.
Каб мне з міленькім сысціся,
Пра любоў пагаварыць.

У хаце гулка бухае бубен, а тут бойка звіняць прыпеўкі, расказваюць пра пачуцці дзявочыя і спадзяванні...

Я надзену бела плаце,
Вышываны рукава.
Ой, няўжо ж ды я не буду
Сельсаветчыка жана?

Няма ў садзе салаўя,
Няма й шчабятання.
Няма мілага майго —
Няма і гуляння.

Над зжатым палеткам — вечаровая сінь. Залатымі кроплямі высыпалі ў небе зоры. Над дымчата-цёмнаю сцяною лесу нерухома стаіць задуменна-бліскучы месяц.

Зжатым полем ад хаты-чытальні выходзіць на загуменную

дарогу вузенькая шэрая сцяжынка.

Марына ўкрадкава пазірала ў сінязмрочнасць, траціла надзею, а потым зноў ёй думалася: «А можа, прыйдзе, абяцаў...»

А таварышкі нібы адгадвалі яе думкі, весела спявалі:

Вышывала я платочак
Селязнямі, уткамі.
Дажыдала я мілога
Часамі-мінуткамі.

Марына ўціснулася між таварышак на лаўку, разам з імі пачала спяваць:

Пойце, дзеўкі, пойце, дзеўкі,
Пойце — весяліцеся!
Наша лепшая брыгада,
Дзеўкі, не журыцеся!

Спявае Марына, толькі з твару яе не сыходзіць засмучэнне. Спрабавала смяяцца і жартаваць — выходзіла ненатуральна, фальшыва, бо на душы было інакшае. У гэтыя хвіліны нецярплівага чакання да яе прыйшло пачуццё, падобнае на ясны сонечны дзень з тонкаю блакітнаю палоскай смугі на даляглядзе — каля лесу. Блакітная смуга — гэта лёгкі смутак, невыразны і шчымлівы, ціхія летуценні пра яго, мілага, добрага, што немаведама чым і як завараажыў гарачае сэрца дзяўчыны.

З неба звёздачка упала
У раку на самы край.
Мяне любіць прэдседацель,
А падругу — сакратар.

Марына прыкусіла губы, каб схаваць хітравата-вясёлую ўсмешку: «У мой агарод каменьчыкі кідаюць». Яе апаноўвае весялосць, сэрца па-калыскаваму прыемна гушкаецца на высокай, светлай хвалі радасці: там, дзе навакол бадзёрасць, не ўмее жыць смутак, ён развейваецца, знікае, нібы лёгкі ружовы дымок у звонкім марозным паветры сонечнай раніцы.

Марына раз-поразу, нібы ненарокам, кідае позірк на сцежку.

Плавае блакітны змрок. Чарнеюць нязграбныя сілуэты гумен. Яшчэ здалёк заўважыла на дарозе белую пляміну. Неўзабаве цёмная постаць закалыхалася бліжэй... «Няўжо Алесь? У белай рубашцы...» Мляўка замірае дзяўчыніна сэрца — стукае напорыста і гэтак часта-часта...

А як распазнала, што не ён, — адразу стала нядобра і крыўд-

на. «Чаму яго няма? Каб жа ведаў ён, як тужыць маё сэрца...»

Дзяўчаты перасталі спяваць, пазнавалі, хто ідзе.

Да ганка прыкульгаў Саўка.

— Добры вечар, сакатухі! — весела крыкнуў ён і ступіў на ганак. — Чаго прымоўклі?

Дзяўчаты дружна адказалі на прывітанне старога, наперабой узбуджана загаманілі:

— Каго прычакаліся!

— Дзядзька Саўка!

— Сядайце...

— Скучылі без вас.

— ... Вось тут, тут!

Пакульгваючы, Саўка тупаў, кружыўся на адным месцы, расчулена соп носам, нарэшце лёгка ўзмахнуў рукамі, нібы вузкімі белымі крыллямі.

— Сесці ля каторай? Ай, ды нязручна, што вы!.. — жартаўліва загаварыў ён, папраўляючы на белай рубашцы папружку. — Які з мяне кавалер! З хлопцамі не хачу спорыць. Куды ўжо мне! Ах, зводніцы...

Дзяўчаты весела засмяяліся. Саўка ўрачыста сеў і неўзаметку падкруціў вусы. Тут ён адчуваў сябе сваім чалавекам. Дзяўчаты любяць яго за маладую вясёласць душы. Дзе Саўка, там заўсёды звініць смех.

— Што з вамі зробіш! Кавалер я такі — сівыя валасы на галаве, а от жа ўмеюць дзяўчаты старое сэрца сагрэць, — дай ты ім рады!

Ён адчувае пяшчотнасць дзявочай увагі, ласкавай і кволай, як месячнае святло, і заўжды, калі прыходзіць слухаць песні моладзі, яго ахапляе пачуццё шчаслівага замілавання. У гэтыя светлыя часіны ён стараецца забыць пра пакутную сваю маладосць, так несправядліва скалечаную людзьмі.

— Сёння вы ў нас госць, дзядзька.

— Госць, шчабятухі мае, госць — унь адкуль прыехаў! Паглядзеў Саўка свету. А людзі якія? Хіба раскажаш? К саменькаму мору заехаў, на цёплыя воды — любата... Нага перастала балець, а то бывала ж... А мора тое... Ай, ды мора, дзяўчаткі, сіняе-сіняе, без канца-краю... — голас старога губляе жартаўлівую афарбоўку, становіцца летуценна-ціхім. — Пазіраў я, а сіняе мора от як сон... І самому сабе не верылася. Што вам сказаць? Дзяўчаткі мае, сакатухі... І там, каля мора таго сіняга, было так — ходзіш па берагу, радуешся, хочацца людзям сардэчныя словы гаварыць... А калі-нікалі службу ў пана ўспомню і надта ж горка

стане — не стрываць, як прыпамінаю...

Ён на хвіліну змоўк.

І стаяла на ганку блакітнае маўчанне — многа чулай спагады ў маладых сэрцах.

— А сёння дадому прыехаў. Наша машына якраз у Слуцку была — нарыхтоўку прывозіла. То я от у сельсавет заходзіў, пашпарт аддаў на прыпіску. Чакайце ж! Галаву замарочылі — чуць не забыў. Дзе ж Марына? Сюды, красуня, сакрэт да цябе, — таямніча і хітра загаварыў Саўка. Марына падышла, нахілілася, мяккі вус прыемна казытаў кончык яе вуха. Саўка ціхенька, каб не пачулі суседкі, шапнуў:

— Алесь прасіў, каб зайшла. Там ён адзін, нешта ўсё піша, падлічвае...

Адыходзячы, Марына яшчэ пачула расчуленыя словы старога:

— Нешта цягне да вас. Трэба ж каму расказаць, шчабятухі, як дарогаю ехаў, як мяне чужыя дзяўчаткі даглядалі, нібы роднага бацьку. От такія дакторкі, як вы, — маладзенькія...

— Дзядзька, — запытаўся дзявочы голас, — а чаму нага ў вас такая?

Марына не чула ўжо адказу на пытанне.

У дрымотным спакоі маўчыць вёска. Замоўклі пералівістыя галасы гармоніка, сціх гулкі бубен, не чуваць дзявочых песень...

Блакітная ноч і цішыня.

—Скажу табе, Марына... — голас Алеся задуменна-ціхі.

Чорныя вочы дзяўчыны шырока адкрыты, і ў глыбіні іх тулілца, на момант успыхваючы бліскучымі аганькамі, пякучая радасць. «Што ён скажа?..» Ад нез’яснёна-салодкай устрывожанасці замірае сэрца.

Марына дагадваецца, пра што ён загаворыць, і гэта палохае, соладка мучыць: і хочацца, каб хутчэй сказаў, і крыху сорамна ад сваёй хітраватай здагадкі, і раптам неяк боязна: няхай бы потым, пачакаў бы яшчэ... а з глыбіны душы нібы чыйсьці голас нашэптвае са спакуслівай настойлівасцю: нічога страшнага — выслухай, тыя словы будуць па-ранейшаму ласкавыя і прынясуць табе шчасце, — вось гэтак, у дзіўны вянок сплятаюцца дзявочыя пачуцці.

Пабраўшыся за рукі (леваю рукою Алесь сціскаў пругкія Марыніны пальцы), яны паволі ідуць соннаю вуліцай. У гэтай іх паходцы, каб хто глянуў збоку, заўважыў бы нешта па-дзіцяча-

му простае і мілае.

— Скажу табе...

Алесь пачаў і не дагаварыў, паглыбіўся ў свае думы.

Цёмнымі, дымчата-сінімі воблакамі пышна падымаюцца над будынкамі сады — адтуль плыве салодкі пах спелых ранніх яблык.

Прыпыніліся каля яе хаты. Было позна, але вокны няярка чырванелі: у хаце нехта яшчэ не спаў.

Алесь пазіраў у цёмныя Марыніны вочы, ружовая кволасць разыходзілася па целе, і ён ласкава, разгублена гладзіў гарачыя плечы каханай, а другою рукой перабіраў яе чорную касу.

Надыходзіў рашучы момант — Марына чакала яго слова. Ён меў натуру мяккую, гэты дабрадушны летуценнік, а таму важны крок зрабіць яму было цяжка, хоць і ведаў, адчуваў усёю істотай, што не адвернецца Марына і не бразнуць за ёю дзверы.

— Марына, паслухай...

У цёмна-сіняй вышыні мігацяць бліскучыя кроплі зор. Казачным залатым руном высыпалі яны на малахітавы аксаміт неба і — недасяжна-далёкія — заманліва зіхацяць...

І яшчэ — насупраць двара, над самым балотам, — мяккая белая палоска туману.

— Кажы, Алесь...

Марына ловіць яго руку, моцна сціскае, і ён раптам разумее, што дзяўчына ведае, аб чым ён хоча сказаць. Пэўна, таму, што адгадала, Марына абнадзейвае яго няхітрым словам:

— Гавары.

Алесь гарыць нязвыклым хваляваннем, нясмела падымае свае добрыя вочы — ад ружавеючых акон яны дзіўна мякка блішчаць у зеленавата-сіняй імгле ночы.

А патрэбных слоў няма. Зблыталіся і няўлоўна кружацца, як цені, квяцістыя гірлянды думак. Алесь выпесціў і бярог іх, як чыстату сваёй душы, для адной Марыны. А слоў не падабраць, каб выказаць тыя думы проста, задушэўна і хвалююча, гэтак, як умее расказваць народ у сваіх песнях.

— Марына, — кажа Алесь і, здзіўлены, голасу свайго не пазнаў. — Я хачу быць блізка... заўсёды з табою... Мне сну няма, Марына...

І ўжо цвёрда канчае:

— Будзем жыць разам.

Марына шчыльней прытулілася да яго, шэптам сказала:

—З бацькамі пагавару.

—Чаму — з бацькамі? — здзівіўся Алесь. — Выдумала. Быццам бацькі скажуць нешта насуперак.

Пасля хвіліны маўчання ён дадаў:

—А каб нават не згадзіліся, то мы ўсё роўна ж не можам разысціся.

—Добра, што ў цябе такі бацька...

— А твой?

— Сам ведаеш, які мой... — патупіўшы вочы, сказала Марына.

— Згодзіцца, нават не думай!

— Павінен... Я і сама думаю... А калі што-якое, — раптам усхвалёвана і рашуча сказала Марына, раззлавана пазіраючы Алесю ў вочы, — калі што-якое, дык я не паслухаю, зраблю, як мне па сэрцу, — яна мацней сціснула Алесеву руку і памкнулася ў двор.

— Пабудзь, хоць трошкі...

— Позна, Алесь. Спаць ідзі, а то заўтра ў дарозе драмаць будзеш.

І нібы шчоўкнуўшая трэль салаўінай песні — пацалунак. У ціхім спакоі спіць вёска.

На камінку цьмяна блішчыць газнічка. Над жоўтым аганьком чорнаю стрэлкаю падымаецца копаць. Душна да млосці і смярдзіць куродым.

—Тата, — сказала Марына, — няхай бы ты лямпу запаліў.

—Уга, лямпу! — нездаволена мармытнуў Арцём, не падымаючы вачэй ад падранага чаравіка. — Адно газу паліць... Не было чаго.

—Шкадуеш газы... У хаце дыхнуць нельга, і сам вочы слепіш.

Марына падышла глянуць на карпаніну. Сівы, як голуб, бацька натужана схіліўся над растаптаным чаравікам.

— Нашто яны табе? Гэтыя атопкі пара на сметнік выкінуць.

— Уга! — аж суняўся стары і пачухаў сінюю валасатую пляміну на шчацэ. — Разумная нашлася! Пры даўнейшым рэжыме можа ў мяне толькі на думцы было, каб мець што з тавару на ногі. А цяпер — на сметнік, разбагацела вельмі... уга!..

— Лепш новыя купіць, чым над гэтым карпець. Каб не было ж за што.

— Багатырка нашлася...

— А то чаго ж. Рахункавод нядаўна падлічваў працадні, у

нас больш як у каго, — сказала Марына і ўжо дадала пераміралі-ва: — Навошта для сябе капейку шкадаваць? Лепей жа новыя купіць.

— Уга, новыя! Прывыклі, каб усё новенькае ды чысценькае... А чым ганьба гэтым чаравікам? Верх падлатаю, то вунь колькі насіць можна: падэшва тут, як костка. Старая даносіць. Зімою, пане мой, добрую анучку акручвай, і муляцца не будзе — прасторныя, — замілавана абмацваў Арцём сухія пакарэжаныя скураты.

Марына не выцерпела.

—Зноў сваё правіш... — стрымліваючы слёзы, з сэрцам сказала яна. — Нудота, слухаць нельга...

—Лажыся от! Як аса якая над вухам... Не тваё дзела!

—Тата... — ледзь прамовіла Марына і змоўкла, падышла к шафцы пашукаць чаго-небудзь з'есці.

Марына змаўчала, бо не хацела сварыцца: уцехі кахання поўняць сэрца пяшчотнай дабрачыннасцю. Аднак яна не магла, ніколі не магла змірыцца з бацькавай скарэднасцю: гэтае бацькава пачуццё было для яе незразумелым і выклікала злосную агіду. Часта з гараччу думала: «У таварышак бацькі як бацькі, а ў мяне... Скнара...» — і крыўда спірала дыханне. Як меншаю была — ледзь не кожны дзень плакала, хацела пераставіць бацьку, а ён упарта маўчаў або пачынаў у злосці мармытаць...

Але як ні ёсць — бацька... І можа, ад таго, што любіла яго як бацьку, можа, таму гэтак бязлітасна і злосна ненавідзела цёмную пляміну яго душы.

«Людзі з яго смешкі строяць, а дачцы трэба ўсё слухаць, цярпець...»

— Тата, лёг бы паспаў лішнюю мінуціну. Табе ж на зары коні выганяць.

— Адчапіся ты, прыбілася к аднаму... То лягу ўжо, лягу. Але ж як аса...

II

У сенцах дрымотны паўзмрок, бялее адзінае ў сцяне акенца.

Алесь ужо прачнуўся, але ўставаць не хочацца. Адразу ўспомнілася ўчарашняе, і самому стала крыху ніякавата за тую сваю нерашучасць. Вечар з бляскам зор і месячным ззяннем схіляе да рамантычнасці; уранні ж кожны чалавек, нават летуценнік, больш цвяроза, рэальна падыходзіць да рэчаў. «Гэта ж так проста, а я нібы саромеўся чаго...»

Алесь заплюшчыў вочы, чарнявая красуня нахіляецца да яго, і ён адчувае, як гараць яго смаглыя вусны ад дзявочага паца-

лунка, і нават пачуўся на міг перабоісты свіст салаўя, як тады, на развітанні...

Але клопат не дае спакою нават у сне. Алесь зноў прачынаецца, рашуча зрывае з сябе коўдру і саскаквае на падлогу. Каб хоць не спазніцца ў банк — так далёка ж раённае мястэчка!

У хаце ўжо чуецца гамонка: маці гатуе снеданне.

Праз некалькі хвілін Алесь завіхаецца на прыгуменні, ладзіць з бацькам калёсы ў дарогу. На траве пад нагамі рассыпаюцца танюсенькія кропелькі расы.

— Ты глядзі, — навучальна кажа бацька, заблытваючы зад драбін вяроўкаю. — А то, не дай бог, што-якое, то прападзеш. З грашмі не жарты. Чалавек, ён, сказаць, такі, што к сабе цягне; не дурны нехта выдумаў: курыца і тая пад сябе грабе.

— Цяпер жа, бацька, свет не той. Людзі сталі інакшымі.

— Табе думаецца так. А колькі яшчэ брыдкіх людзей. Таму непарадкаў многа. От палукашка няма, без яго не з рукі ў такую дарогу. Абабегаў усе прыгуменні — няма. Абы палажыў што на відавоку, то прыбяруць. Возьме, а назад не паложыць жа... Ліха ведае, што робіцца. А ты кажаш — людзі...

...Над борам устае заспанае малінавае сонца. У зеленаватым паветры вільготная свежасць.

Каля дарогі ў аўсе пералівіста свішча перапёлка.

Нешта заспакойваючае і ласкавае нашэптваюць шыны колаў.

Алесь не выспаўся, яго лагодна цягне заснуць, млявае цела ахутвае дурманячы туман ранішняй дрымоты. Як бы добра так вось — спакойна, ціхенька — ляжаць, не варушачы ні адной часткай цела.

Сонца, нібы толькі што народжанае і выкупанае ў светлай вадзіцы дзіця... Будзе маленькае — любы крыкунчык...» — у паўсне думае Алесь, і саромлівасць ружовіць яго шчокі.

Ціхамірна шыпяць па пяску шыны.

А перад вачамі нібы матылёк кружыцца, пырхае... зусім блізка, каля самых вачэй трапечуцца мяккія крылцы, на расніцы асядае павуцінне, прыемна-пахучы пылок...

«Марына... і дзіця...»

На вуснах гасне сарамлівая усмешка.

Шурхаюць шыны.

Памаленьку хіліцца-хіліцца галава...

Калісьці тут адзін пры адным стаялі пышнакудрыя ядлоўцавыя кусты ў рост чалавека. Рэдка дзе пракідалася лапінка немудрашчай травы. Неяк адной восені хлапчук, пасучы авечкі,

падпаліў высокі куст, дзьмухнуў вецер, абпалены ядловец тонка і злосна затрашчаў тысячамі іглiц...

З таго дня цэлы тыдзень звінелі з дымам кусты, пакуль не спусціліся асеннія дажджы.

Потым, як арганізаваўся калгас, выйшлі мужчыны і расцерабілі для пашы вялікую плошчу. На сівых круговінах пажарышча дружна зазелянела трава.

Яшчэ і цяпер на затравянелых Радоўках тырчаць чорныя абгарэлыя стырчакі. Каля кучомістага ядлоўцавага кусціка сіратліва стаіць абымшэлая невысокая хвойка.

Саўка з Арцёмам чуць свет выганяюць на Радоўкі калгасны табун. Матава блішчаць сцюдзёныя кропелькі расы, коні, не адрываючыся, грызуць сакавітую траву.

Як толькі стаў на ногі калгас, Саўку і Арцёма выбралі пасвіць коней, і абодва яны вось ужо другое лета не адлучаюцца на іншую работу. Спачатку Арцём нудзіўся, спрабаваў для ўцехі мармытаць забытыя песні: выходзіла смешна, недарэчна, і ён адразу пакінуў гэты занятак, баючыся, што нехта падслухае і высмее. Цягнула рабіць на полі, натужана ступаць за плугам па халоднай гладкай разоры...

— Стой з гэтымі падламі, хай іх воўк парэжа... — нездаволена мармытаў Арцём.

А пасля да таго звыкся са сваёй прафесіяй, што нібы ад роду выйшаў пастухом пры конях.

Сёння Саўка выехаў у чыстай белай сарочцы, як на свята якое. Арцём не сказаў яму ні слова, толькі насмешліва скасавурыў схаванае ў сівізне валасоў выцвілае вока. «Кавалер нашоўся, — падумаў ён. — Кульгавы... Фанабэрыцца, як з водаў прыехаў. Пры конях і ў горшым адзенні можна, не то што... А ён — як жаніх...»

Саўка ўзбуджана чыкіляе каля табуна, накульгваючы на вывернутую ў калене левую нагу. Ён ходзіць гэтак, нібы знарок пераломваецца ў паясніцы, каб леваю рукою падхапіць нешта з зямлі. Яшчэ не апала настыўшае за ноч срэбра расы, і ззаду няроўна кладуцца дзве мокрыя зялёныя сцяжынкі. Без патрэбы Саўка нязлосна пакрыквае на коней, нібы вітаецца з імі пасля доўгай разлукі.

Арцём насоўвае на вочы пашарпаны казырок нейкай старасвецкай шапкі з сінім верхам і чорным аколышам. «Не пасядзіць, — панура думае Арцём, косячыся на крывую нагу Саўкі. — Сюды грабе гэтаю кульбакаю...»

Падыходзіць Саўка, ён ззяе як сонца — жылісты, бронзавы

ад загару.

— То паглядзеў я свету, паглядзеў, — мякка ўсміхаецца Саўка, варушыць залатымі кольцамі вусоў. — Вунь які шырокі ды вялікі свет! — захапляецца ён, выкладаючы ўражанні, што шумнаю вясноваю паводкай уварваліся ў яго добрую памаладзеўшую душу. — Сеў на поезд, значыць, а машына тая грыміць-грыміць... і ляціць мой Саўка, як вецер, у дальную старану. Мне на вяку ездзіць чыгункамі не давялося, у салдатах не быў, як, значыць, нага няспраўная. І от я, значыць, Саўка — колішні панскі пастух, кульгавы чалавек, я, значыць, — калгасны конюх еду на поездзе, вус падкручваю. Як губернатар які сяджу, людзі з павагай на мяне глядзяць, загаварваюць ветліва... ну, вядома ж, абы-каго на поезд не пасадзяць!

— Хвалішся.

— Праўда ж! Поруч са мною малады хлапец сядзеў, прыгледзеўся я: на сінім рукаве птушка вышыта. Разгаварыліся — аж ён лётчык, на вераплане лятае. Як сказаў ён мне, што малым авечкі пасвіў, то я веры не даю! А ён смяецца... Чуў, га? Ты ўсё не верыш, от праехаў бы, сваімі вачамі паглядзеў... Я от і цяпер лягу, закрыю вочы — так і грукае, калыша і грукае, нібы зноў еду. Забыць не магу. Усю дарогу ад акна не мог адарвацца — хараша так! Кружацца палеткі, адыходзяць вялізныя белыя сёлы, каля гарадоў дымяць трубы, мінаем раз’езды, станцыі — на вузлавых станцыях перагукаюцца, крычаць паравозы... У няведамы край еду, у дальнюю старану — к сіняму мору. Падумаю — жаласць агорне... Мала добрых, ласкавых слоў чуў я ад чалавека, а от пад старасць другія людзі прыйшлі і мяне — калеку — лячыцца адправілі. Думалася мне ў дарозе: хто мяне там дагледзіць? Аж дзе бачыў! Як роднага бацьку прынялі. Прыветлівыя такія дзяўчаты ў белых халатах...

— А нага ж як? — не падымаючы вачэй, нечакана зацікавіўся Арцём.

— Ды палепшала! Ужо не ные, а тыя разы спакою не знойдзеш — гэтак баліць. А зараз — нічога. Каб, значыць, не крывая, то ступаў бы настаяшча.

— Яна ў цябе ад прыроды не згінаецца?

Як рукою зняло весялосць Саўкі. Ён пацямнеў з твару, у правым кутку неяк канвульсіўна варухнуліся губы, уздрыгнула залатое кальцо вуса.

Арцём аж сумеўся: такая дзіўная перамена адбылася з чалавекам!

Стаяла няёмкае маўчанне.

— Ад прыроды... — глуха, нібы ў пакутным сне, загаварыў Саўка, задуменна і натужліва ўзіраючыся шэрымі вачамі ўдалячынь.

— Каб жа ад прыроды, — на поўныя грудзі ўздыхнуў ён і ўжо разважліва сказаў: — Сама прырода не псуе, гэта мяне скалечылі, — даўно было. Людзі скалечылі. За чужую, значыць, капейку.

— От як, — безуважна кінуў Арцём.

Панагінаўшы касцістыя глянцавіта-бліскучыя галовы, перабіраючы тоўстымі губамі, коні грызуць з расою смачную сакавітую траву. Калі ляжаш на пахучы травяны дыван, пачуеш, як ірвецца конскімі зубамі трава, — здаецца, далёка-далёка галопам лапацяць узгуляўшыя коні.

— Табун! — неўспадзеўкі выказвае затоеную сваю думку Арцём, любуючыся конмі. — Каб аднаму, га?

Саўка неадабральна крутнуў галавою і ўсміхнуўся гэтак, як усміхаецца дарослы, пачуўшы наіўнае глупства дзіцяці, — толькі больш пагардліва.

— Выдумляеш, Арцём, — сказаў ён, — слухаць праціўна.

— Ну, я к слову... — спахапіўся Арцём, нібы шукаючы апраўдання. — Мой сусед меў чэцвера стаенных, то ён любіў гаварыць пра коней! (Яго летась выслалі, гэта калі было высяленне кулакоў.) Ён хваліць сваіх ардэнаў, а мне, такі ж праўда, слухаць нудна, зайздрасць бярэ. Кабылка мая незавідная была — нечым пахваліцца.

— Вока ў цябе шырокае, — асуджальна сказаў Саўка. — Мабыць, набраўся суседавага духу. Нядобра, чалавеча. Нашто табе, каб запытаў у цябе, канечна аднаму, калі так усяго хапае?

— Ну, я к слову, — апраўдваецца Арцём.

За зялёным куском пашы, за разгорністым жытнім палеткам над цёмна-сінім лесам у мяккіх малінавых колерах нараджаецца новая раніца. Стройныя гонкія сосны купаюць свае вершаліны ў агністым марыве палаючага неба.

Па зеленаватым шкле высокага звонкага неба адзінока плыве сівае пузырыстае воблачка. Усход красуецца дзіўна прыгожымі фарбамі світання і насустрач ім павольна, нібы ў роздуме, плыве тое адзінокае, ледзь кранутае чырванню, сівае воблачка, — на фоне зялёнай шклістасці яно здаецца лішнім і непатрэбным.

Арцём садзіцца на мяккую высокую купіну, прысланяецца плячамі да тонкага абымшэлага ствала хвойкі. Не ўмее ён любавацца маўклівымі цудамі прыроды. Ён бачыць перад сабою толькі

маленькі кусцік сакавітай травы ды чуе, як фыркаюць і грызуць коні. Заскарузлыя кароткія пальцы рукі блытаюцца ў сіняй лапінцы валасоў на шчацэ.

Вось ужо другі год, як уступіў Арцём у калгас. Сям'я працуе не пакладаючы рук, ёсць на стале і хлеб і к хлебу. А цяпер такое ўрадзіла жыта, што сярпа не ўбіць, — густое ды высокае, на працадзень яшчэ больш прыйдзецца. Аднак унутры гняздзіцца неадступнае назойлівае пачуццё, смутна будзіць думку: «Каб аднаму гэтулькі багацця... От жыў бы, паміраць не трэба! Ну, але ж такі ўсякаму трэба».

— Паглядзі коней, — кажа Саўка, — а я схаджу паснедаю.

— Схадзі, — мармыча Арцём і схаваным у валасах вокам пазірае, як паспешна чыкіляе Саўка, перагінаючыся ў паясніцы, нібы намагаецца нешта ўхапіць з долу.

— Падпускайся к дарозе! — азірнуўшыся, гукнуў Саўка і зноў пачаў паспешна заграбаць леваю нагою.

На не высахшай яшчэ дарозе, цёмнай ад расы, ляжала штосьці чорнае.

Арцём крытычна і зацікаўлена стаў прыглядацца да той чорнай пляміны, палічыў яе адразу за кучку конскага памёту, і нерашуча, гатовы вярнуцца ў любы момант, ступіў у бок дарогі. І раптам чорная рэч люстрана заблішчэла на сонцы вузенькай бляшкай.

Пужка ўпала з Арцёмавых рук, ён мігам напружыўся ўвесь (здавалася, ад гэтай натугі, нібы сок, выступіў на ім пот), напружыўся і рвануўся на дарогу.

У руках калаціўся чорны пузаты партфель з бліскучымі бляшкамі, нібы жывое стварэнне бяссільна вырывалася з учэпістых падрапаных пальцаў... Гэтак задрыжэлі Арцёмавы рукі!

Забыўшыся аб усім на свеце, ён сядзеў на карачках, як дзіця, чмыхаў валасістымі ноздрамі, а тоўстыя патрэсканыя пальцы сутаргава рвалі замок, жалеза ўпарта не адчынялася... Тады рука машынальна ўціснулася ў сярэдзіну напакаванага партфеля, намацала глянец лапаткіх паперак; перад вачамі, нібы ў сне, мільганулі знаёмыя узоры на лошчанай паперы.

— Грошы!.. Грошы!.. — і спалохана, і ўзрадавана, і здзіўлена шэптам крыкнуў Арцём.

Зверавата азірнуўся вакол і, прыціскаючы к сабе знаходку дрыготкімі рукамі, кінуўся да ядлоўцавага куста.

— Хвойка... — шапталі заросшыя валасамі губы. — Прыкмета... Хваіна ля куста...

Пухкім гарбом імху ўздуваецца зеленавата-цынамонавая

купіна. Арцём упаў на калені і стаў сярдзіта ўздзіраць мокрую ад расы купіну. Мох даваў у нос густым іржавым смуродам.

«Грошы! — з ліхаманкавай паспешнасцю працавала Арцёмава думка. — Грошы!.. Зроду гэтулькі не бачыў... Спатрэбяцца, уга! Дзірка знойдзецца... А пужка дзе?.. Гэтулькі! От яно — шчасце!.. Дачцы пасаг!.. Ад хлопцаў адбою не будзе... Такога жаніха высватаю!..»

Ён акуратна прыкрыў партфель, маючы намер перахаваць яго ў гэтую ж ноч.

— Каб ты спрахла!.. — збянтэжыўся ён, убачыўшы акрываўлены палец на правай руцэ, і пачуў непрыемна-казытлівы боль. На ўказальным пальцы адтапырыўся пачарнелы ногаць. Арцём стаў махаць рукою, каб заглушыць вострае пакольванне.

— Баліць жа... Скрабянуў па кораню, трэба ж... і не чуў, калі...

Як прахапіўся Алесь — у руцэ не было выгладжанай скураной ручкі партфеля... Хутчэй інстынктыўна, чым усвядомлена, ён тузануў к сабе лейцы, каб спыніць каня.

— Тпр!..

У тым месцы, дзе б’ецца сэрца, балюча заныла, і ў той жа міг нутро апустошылася. Аж сам Алесь жахнуўся: гэткае маўкліва-напружанае ўтрапенне апанавала было яго на адзін момант. А пасля, у наступнае імгненне, ён да фізічнага болю адчуў, што трэба як мага хутчэй шукаць.

Завярнуў каня і пагнаў бягом. Адразу, як зразумеў Алесь тое, што здарылася, ён убачыў сябе ўжо вінаватым. Яму здалося, што згубленага вярнуць нельга.

Ніколі не чуў аб сабе благога слова і раптам...

Як нязносна-цяжка было дваццацігадоваму юнаку, з чыстаю душой дзіцяці, адчуваць, што яго чакаюць недаверлівыя позіркі людзей... «Заснуў... Як жа расказаць?.. Хто паверыць? Скажуць ці не, а падумае кожны — я знарок падстроіў, каб сабе забраць грошы...» І ён бачыў дакорлівую ўсмешку, якая гаварыла: ведаем такіх — у ціхім балоце чэрці водзяцца...

Насустрач плыве голая спіна дарогі, яшчэ цёмная ад нявысахшай расы. Вочы ўчэпіста хапаюцца за кожную чорную плямiну на зямлі. Нягледзячы на такую раннюю пару, сюдой нехта ўжо ехаў і пакінуў на вільготным пяску сляды колаў — пераблытаныя шэрыя істужкі. Аднак Алесь заспакойваў сябе тым, што падвода, магчыма, паехала раней, перад ім.

Напружаная ўсхваляванасць і непакой пачалі спадаць, толькі

ў скронях бесперапынку чуўся прыспешаны бег крыві.

«А калі хто падняў, няўжо прападзе?» — думаў Алесь. «Аддадуць», — цяпліў ён надзею.

У такім становішчы чалавек міжвольна прыгадвае здарэнні, падобныя таму, якое трапілася з самім. Алесю ўспомніўся нядаўні выпадак. Супрацоўнік райспажыўтаварыства згубіў у дарозе вялікую суму грошай; партфель з грашмі падняла маладая жанчына-калгасніца і прынесла ў сельсавет. Пра гэта ўведалі па ўсім раёне! І ў кожнай вёсцы многа тады было гаворак. Людзі захапляліся чыстым сумленнем жанчыны і самі, напэўна, хацелі быць такімі. Вядома, не ўсе былі гэткія ўжо дабрачынныя, аднак у словах людзей адчувалася моцнае жаданне стаць лепшымі.

Толькі зрэдку прабіваўся зайздросны галасок:

— А каб яна, не дурная, сабе тыя грошы. То вунь колькі год пажыла б, як пані якая...

— Добрая жызня — на чужыя грошы! — чулася кплівая насмешка, і скнара моўчкі хаваў зайздроснае смакаванне.

Алесь не хацеў і думаць, што партфель прападзе. У глыбіні душы ён намагаўся заглушыць вострую, як шпілька, устрывожанасць, і, можа, ад таго нядобрыя прадчуванні ўздымаліся з новаю сілай. «Аддадуць, — абнадзейваў ён сябе. — Няўжо ёсць такія сквапныя людзі? Нашто каму чужыя грошы, калі можна сумленна зарабіць».

Алесеў таварыш вучыцца ў Менскім інстытуце, ён прыехаў цяпер на адпачынак і расказаў многа цікавага пра нашу сталіцу. Ад яго Алесь даведаўся, між іншым, пра цікавы буфет без прадаўца ў сталовай адной фабрыкі: падыходзіць рабочы, бярэ, што яму патрэбна, а грошы апускае ў касу. Некалькі раз рабілі рэвізію і аж дзіўна: не то што не было недахопу, але знаходзілі заўсёды па некалькі рублёў лішніх. Гэты буфет уяўляецца Алесю маўклівым сведкам чалавечага сумлення.

Алесь запэўнівае сябе, што калі хто і падняў партфель, то зверне.

Тым часам ён параўняўся з табуном. Коні пасвіліся пры самай дарозе. Яшчэ здалёк Алесь пазнаў Арцёма па сіняй шапцы з аксамітным аколышкам (кажуць, што гэтую сінюю шапку Арцём пашыў к свайму вяселлю, і яна зносу не ведае да гэтага часу, адно што трохі выліняла).

Арцём ганяецца за маладым жарэбчыкам, размахвае пугаю — хоча пераняць яго, але бліскучы, як лялька, жарэбчык наравіста, па-лебядзінаму выгнуўшы зграбную тонкую шыю, падбрыкнуў, нібы адбіваючыся бурштынавымі капытамі ад сярдзітай лаянкі

нялюбага пастуха, і ўрачыста залапацеў па Радоўках, лёгка, нібы на спружынах, падкідаючы стройнае цела, устрасаючы чорнай грывай.

— Хай на яго... — пераводзячы дыханне, загаварыў Арцём, на хаду выціраючы зрэбным рукавом потны валасаты твар з бруднымі плямамі на шчоках. — От падла, не слухаецца... Малады...

Нясмела глянуўшы на Арцёма, Алесь зразумеў, што і пытацца няварта: у старога быў выгляд чалавека, які ўвесь заняты сваёй справай і больш нічога не ведае. Гэта непрыемна ўразіла Алеся, прыгняло яго дух.

— Я тут... — нібы сарамліва апраўдваючыся, сказаў Алесь, — я згубіў партфель... Можа, бачылі...

— Не, — спалохаўшыся, крутнуў Арцём вылінялай сіняй шапкай з чорным аколышкам.

Яго ледзь у жар не кінула, і каўнер зрэбнай кашулі здаўся залішне цесным, нібы ад унутранай барацьбы разбухала кожная частка цела. Яму было і страшна і прыемна ад сказанай няпраўды; узорыста распісаныя мяккімі фарбамі лапаткія паперкі мігалі перад вачамі. «Дачцы шчасце... Дзіцяці свайму шчасце... Пярвейшага хлопца ёй засватаю...»

Алесь ведае: хутка Арцём стане яго цесцем, і знае яшчэ Алесь, што гэта вядома і Арцёму, таму хлапец адчувае сябе вінаватым перад будучым сваім цесцем. Каб ён смела і строга глянуў на Арцёма, то, напэўна, заўважыў бы хваравітае яго замяшанне.

Глыбока схаваныя ў сівых валасах вочы Арцёма люструюць унутраную разгубленасць, і спалохана стараючыся, каб гэтага не заўважыў Алесь, ён з робленай спакойнасцю, баючыся праглынуць словы, загаварыў:

— Не. Не бачыў, я ж кажу. Саўка пайшоў снедаць, а я толькі што к дарозе з коньмі падпусціўся. Тут нядаўна старынцы праязджалі, я здалёк бачыў — дзве падводы.

— А хто паехаў? Я з той вёскі ўсіх ведаю...

— Не пазнаць было.

— На якіх конях?

— Пярэдні на белым. То, можа, яны паднялі, я ж кажу...

Марудзіць было некалі. Алесь пагнаў каня назад, да мястэчка, спадзеючыся дагнаць старынцаў — калгаснікаў з суседняй вёскі.

За нешырокаю градою лесу след колаў звярнуў з бітага шляху на пасёлак — туды павяла вузенькая крывая дарожка, на ёй значыліся круглыя шэрыя выціскі конскіх капытоў.

— Дык гэта ж нехта не ў раён... А можа, як найшоў грошы,

то наўмысля збочыў, каб іх запраторыць...

Алесь паехаў па чужым следзе.

А навакол расквечвала свае фарбы яркая сонечная раніца. Шырокія абшары размашыста выпрасталі свае магутныя грудзі і мляўка дрэмлюць пад ласкамі сонца. Залаціцца роўна падстрыжанае жняяркамі іржышча.

Высока над полем радасна цюрлюкае нябачны жаўранак.

Алесь пазіраў на ўсё навакольнае і нічога не бачыў: чаруючае хараство гэтай раніцы не песціла яго чулага сэрца. Мучыла прадчуванне, што ў поглядах таварышаў будзе таіцца стрыманая недаверлівасць. «Хто паверыць?..» — думаў Алесь, і яму рабілася яшчэ горш.

Цёплы сонечны праменьчык пяшчотна казыча шчаку. «Вось табе і вяселле... — з болем падумаў ён. — Вяселле... Што чакае мяне, калі партфель не знойдзецца?..»

Паснедаўшы, Саўка ўрачыста і самаздаволена кульгае ўзбоч дарогі па вытаптанай сцежцы. Ён ідзе не спяшаючыся, любоўна аглядае шырачэзны палетак спелага ячменю і раз-поразу папраўляе новенькую белую рубашку. «Ураджай які! — думае ён і станавіта падкручвае русыя завіткі вусоў. — Зроду такога не было!»

Ад лесу пачалі ўжо жаць: здалёк відна, як плывуць у ячмені бліскучыя конскія спіны і парывіста-лёгка ўзмахваюць павуцінныя крыллі жняярак.

Прыграе ранішняе сонца. Каля далёкага лесу ўжо дыміцца сіняя смуга. Дзесьці залівaецца жаўранак.

Над зямлёю — цёплая сонечная празрыстасць.

Саўка падышоў да Арцёма і запытаў:

— Хто тут з табою гаварыў?

Арцём, непрыкметна ўцягваючы ў рукаў правую руку, нехаця мармытнуў:

— Алесь, — і памкнуўся быў адысці ўбок, каб ахвочы да размоў Саўка не заўважыў часам акрываўленага пальца.

— То куды? Чакай. Нечага таіцца, ад людзей не схаваеш. Значыць, твой зяць. Я чуў — гавораць, — што вяселле збіраецеся ладзіць, — хітравата ўсміхнуўся Саўка, варухнуўшы залатым кальцом вуса. Рэзвая цеплыня яго шэрых вачэй праменіць на скроні веерамі тонкіх маршчынак.

— Вяселле, вяселле... Такой і гаворкі не было! — агрызнуўся Арцём, думаючы: «Пакуль тое вяселле, то па ўсіх сёлах

уведаюць, гасцей наедзе процьма. Сваякоў набярэцца, што ты іх хоць махалам адганяй...»

— Напэўна, па гарэлку паехаў?

— Ну... па гарэлку... — натужана кашлянуў Арцём, а тоўстыя пальцы нервова ўздрыгваюць — варушацца на пугаўі, нібы перабіраюць клапаны флейты. — Ён так сабе паехаў, па справах...

«Зяць... Абы пасаг вялікі, то зяць знойдзецца... Сам выберу».

— А чаго варочаўся Алесь?

Не сказаў, з натугаю выдыхнуў Арцём:

— Грошы згубіў...

— Як згубіў?

— Ехаў і згубіў, а як там у яго выйшла — не ведаю.

Звычайна вясёлы і гаваркі Саўка засмуціўся раптам.

— Згубіў... — у раздум'і паківаў ён галавою. — От што... І не знайшоў?

— Не, шукае.

— От што... Калі добры чалавек падыме, то аддасць... Але схадзі на снеданне, тады я раскажу табе... Са мною было...

Саўку агарнулі ўспаміны. Жыццё ўставала перад ім адзінокімі ўрыўкамі. З самага малку было гэтак — прасветлай мінуціны не бачыў. Сям'я жыла ў вечных нястатках: мала калі ляжаў на стале хлеб. Маленства — адно гора і нэндза. Як падняўся трохі на ногі — па людзях у заработкі пайшоў. Горкі чужы хлеб, мулкая не свая пасцель... А плечы — вузкія — не аршынам мераюцца, — трудна было на іх гора насіць. Добра, што натуру меў вясёлую: як ні прыходзілася крута, а не губляў духу.

У гэты ціхі сонечна-бліскучы дзень усё ўспаміналася Саўку, усё: і далёкае сяло, што цяпер на тым баку граніцы, і дзяцінства без радасці, і юнасць, і той страшны пакутны дзень...

Коні спакойна шчыпаюць траву.

Саўка прысеў на высокую купіну каля ядлоўцавага куста. Срэбная сляза бліснула на залатым кальцы вуса.

Маці паставіла на стол снеданне. Дыміцца і прыемна казыча нос засквараная капуста.

Арцём уважліва кроіць булку хлеба.

Марына сочыць за бацькам: пад яго сівымі нахмуранымі брывамі глыбока хаваюцца вадзяніста-шэрыя вочы. Пра дзявочую радасць хоча сказаць Марына бацьку, але сустракае яго шэры абыякавы погляд, і яе жаданне патухае.

Нечакана ўмешваецца маці. У печы выпалілася, і старая мяшае качаргою — устрывожаны жар зіхаціць зыркай чырванню, па вугаллі трапятліва бегаюць ціхія блакітныя аганькі.

— То гэта ж Марына замуж ідзе, — усміхаючыся, кажа маці і чакальна глядзіць на Арцёма вялікімі чорнымі вачамі.

— За каго?

— Алесь бярэ.

Бохан хлеба выслізнуў з Арцёмавых рук і глуха стукнуў аб лаву.

— Бязрукі, — мякка ўсміхаецца маці ўдумлівымі, як у дачкі, вачамі.

— Бярэ... — як бы нешта пакутна ўспамінаючы, маршчынячы лоб, сказаў Арцём. — Ён жа грошы згубіў...

— Ён?.. — спалохана ўстрапянулася Марына. — Алесь?.. Згубіў?..

— На дарозе. А нехта, мабыць, падняў... Я бачыў — ехалі старынцы.

Марына палажыла лыжку і вылезла з-за стала.

— Еш. Чаго ты? — засмучана і ласкава глянула на яе маці.

Але Марына больш нічога і ў рот не ўзяла, не паспытала: есці ані не хацелася. Ёй рупіла падрабязней распытаць пра Алеся.

Старая выправіла Арцёма ў кааператыў. Ён узяў там паўтара літра газы і хутчэй выйшаў на сонечную вуліцу. Яму здавалася, што вось-вось пачнуць распытваць пра грошы і лаяць невядомага злачынца.

Баяўся падняць вочы... «А як знойдуць, хто вінаваты, засмяюць», — думае Арцём, і яму становіцца страшна.

Ззаду нечакана зазвінеў дзіцячы галасок:

— Дзед, дзед!

Падбег шустры, абпалены сонцам светлавалосы хлапчук.

— Вы грошы забыліся, на прылаўку, — залепятаў хлапчук, усміхаючыся яснымі блакітнымі вачамі, і працягнуў трохрублёвую паперку.

— Бач ты... — нібы прачынаючыся, загаварыў Арцём. — От маладзец... Гэта ж я... але, — забыўся...

«Дзіця прынесла мае грошы... тры рублі...» — падумаў прыемна і балюча збянтэжаны Арцём.

Тут упершыню ён пазнаў новае пачуццё. Гэта была расчуленасць і крыўда на самога сябе. Яго апанавалі гнятучыя думкі. Да самага дома ён праз усю вуліцу чмыхаў зарослым валасамі носам.

А Марына ляжыць у сенцах на ложку, утуліўшы твар у пухо-

вае бяздонне падушак. Неўзабаве трэба выходзіць на работу, яе паклічуць таварышкі. «Ён такі нясмелы... — думае яна пра Алеся і прыкусвае губу, каб не заплакаць. — Ад людзей пра яго слова благога не пачуеш. На макавае зерне нікому кепскага не зрабіў, а яму... Каб які рухавы, то, можа, і найшоў бы, а ён жа... сарамяжлівы такі... Старынцы ехалі... Няўжо не прызнаюцца?..»

Бразнулі дзверы.

Марына рыўком падняла галаву, думала — таварышкі прыйшлі.

Асцярожна пераступіўшы парог, бацька сказаў, стараючыся не глядзець на Марыну, нібы яго займаў другі клопат:

— Чаго ты надулася?

Ён сам быў хмуры, як дажджлівы дзень восені. Ён меркаваў ашчаслівіць дачку, і вось — у яе сухія нявыплаканыя вочы... Не, дачка не павінна ведаць пра яго ўчынак. Яна тады пракляне...

Марына лічыла, што боль яе сэрца перадаўся бацьку, таму ён стаў гэтакі пануры. Трохі сабраўшыся з сіламі, яна пачала распытваць пра старынцаў.

— Не чую... Што?.. Ага, ці пазнаў? Не, вочы мае далёка не бачаць. Як зблізку, то разгледжу, а як чуць падалей, то быццам туманам засцілае...

— Ты ўсіх старынцаў ведаеш, тата...

— То кажу ж, далёка ад дарогі быў...

— Нешта не так... Ты знаеш, скажы.

— А што ж! Каб ведаў, то я сам не маўчаў бы.

— Тата... нехта зрабіў хлопцу пакуту. Тата, скажы: хто?

— Прыбілася...

Яна заўважыла, што бацька хавае вочы; яе як агнём пекanула: «Пэўна, падзялілі, то і маўчыць».

Тады Марына парыўча ўсхапілася з ложка і гнеўна сказала, сціскаючы рукою чорную, як гарапнік, касу:

— Хлусіш ты, бацька! Хлусіш!..

Збіты з панталыку Арцём затупаў па сенцах, нібы нешта шукаючы, і паспяшыў з дому. У дарозе ён крыўдаваў: «Дурная. Чаго яна крычыць? Я для яе стараюся, а яна зверам на мяне пазірае...»

Часта, каб схаваць або загладзіць сваю віну, чалавек з усіх сіл хапаецца за работу. Сёння Арцём услужліва носіцца за коньмі, крычыць на непаслухмяных, якія наровяць вырвацца ў шкоду.

— Куды! Каб цябе!.. Куды ты, ваўкарэзіна! — пагрозліва крычыць Арцём і злосна ляскае пугаю.

З-за бегатні ў яго як бы не знаходзіцца вольнай хвіліны, каб падысці да Саўкі. «Яшчэ на палец такая прычына...»

У поўдзень пусцілі коней на барок — сярод купістага балота скучыліся нізкарослыя хваіны на невялічкай круговіне высокага грунту, як на выспачцы. Кожны дзень у самую гарачыню стаяць тут коні пад каржакаватымі хваінамі, у халадку.

Пахне смалой і сухім балотам.

Саўка гукнуў Арцёма:

— Аддыхнем, сівы дзед, ці што?

— Хай іх... — кажа Арцём, сцеражліва падыходзячы на вокліч, і рукавом сцірае з ілба пот. — У канюшыну рвуцца, там клінок насенны...

Падняўшыся ў рост чалавека, хваіны разыходзяцца на крывыя чырвоныя ралы, аздобленыя зялёнымі кустамі ігліц. У частым пераплёце галля трашчаць патрывожаныя дразды. Каля кучаравістага кусціка ядлоўцу пужліва свішча-ціўкае, спрытна і лёгка махае доўгім хвосцікам шэрая пліска, гатовая пырхнуць увысь.

Пастухі разляглiся на мяккай траве, у цяньку, пад высокім і густым ядлоўцавым кустом. Як добра адпачыць стомленаму пасля працы ў прыемным халадку!

— Алесь назад паехаў, грошай няма, — сказаў Саўка, выразна глянуўшы на Арцёма. — Няшчасце ў твайго зяця.

— Але, бач ты... Згубіў... От як... Грошы згубіў... А што яму за гэта?

— Хто яго ведае. Можа, знойдуцца яшчэ, — хітравата і стрымана ўсміхнуўся Саўка, нібы ён нешта даведаўся, але не хацеў сказаць.

Арцём палахліва скасавурыў схаванае ў сівізне вока, яму здалося, што Саўка бачыць яго навылёт і ўсё ведае... Яго непрыемна кальнуў страх, цела зрабілася нейкім мякка-бязвольным, а дзесьці зусім блізка, за кустом, пачуўся сухі шорах, ён прыгадаў Арцёму шэлест трохрублёвак... Было страшна, а ў глыбіні нутра нешта млява ныла: «Гэтулькі грошай!..» І ён выразна чуў, як шамацяць папяровыя грошы… Страх ледзяным холадам абдаваў сэрца, і Арцём не стрываў:

— Што гэта?..

— Дзе?

— Чуеш... шапоча, як жывое...

— Ды нічога. Грошы...

Ахоплены жахам, Арцём аж прыкіпеў да зямлі.

— Што ты... што... — прашаптаў ён, сіняя пляміна на шчацэ пабялела. — Што ты выдумляеш?..

Саўка зайшоўся ад рогату, ёрзаў па траве і рагатаў да слёз.

— Прыслухаўся, хай цябе... — загаварыў ён, а залатое кальцо вуса яшчэ дрыжэла ад нутранога смеху. — На траве чуць паварушышся, то і шамаціць, а ты — як дзіця. — І ўжо зусім сур'ёзна: — Я хацеў сказаць пра гэтыя грошы. Нехта ж узяўтакі. Ёсць такія. Прыгорне чужое і вокам не маргне. Што ты скажаш!..

—Што тут казаць... Ну, узяў... Узяў нехта... Бывае... Ну, выпала так...

—Не заікайся, — насмешліва і горка сказаў Саўка. — Палюдску скажы.

Арцём украдкаю зірнуў на Саўку, і яму зноў паказалася, што Саўка ўсё чыста ведае.

— То слухай, — пачаў Саўка, ямчэй разлёгшыся на мураве.

Ён сумна пазірае на шчабятлівую пліску. Шэрая вёрткая птушка злёгку гойдаецца на ядлоўцавай галінцы. Напэўна, яна падоўгу праседжвала на яйках, саграючы іх цеплынёю матчынага сэрца, пакуль не заціўкалі ў гняздзечку маленькія жоўтыя істоты.

«Дзеці... — мільгае ў думках Саўкі. — Няма ў мяне...»

Даўно, яшчэ ў маладосці, былі хвіліны заманлівых летуценняў. Замілавана любаваўся харaством летніх начэй: у дзіўным невядомым маўчанні сінела высокае зорнае неба... Тады марыў аб русагаловым сыне, нават бачыў яго — маленькага, смешнага, мілага да слёз. Сын працягвае белыя ручкі, ляпеча: «Тата, тата!»

Шэрая пліска заліваецца тонкім шчабятаннем, замíраючы ад радаснай трывогі маткі.

— Тады я ў пана служыў. Семнаццаць год было мне. Кроў кіпіць і шчасця хочацца, — першая маладосць, як гавораць. Палюбіў я адну дзяўчыну. Яна ў пана служанкаю на кухні была. Доўга насіў я ў душы таемную думку. Верна і шчыра люблю, а прызнацца не адважуся, — характар такі. Хаджу як у тумане. Жаласлівыя песні з грудзей просяцца. Зірнеш, бывала, на яе — і няма таго туману, і навакол гэтак прыгожа ўсё заззяе... А яна — нясмелая такая, вочы патупіць, шчокі заірдзяцца румянцам, сарамліва адвернецца і — пайшла ў сваю дарогу.

Усяму, значыць, ёсць пачатак і канец. Так і тут: не сцярпеў я нарэшце — прызнаўся.

Эх, сівы дзеду мой... Прыгожая была дзяўчынка. Волькаю

звалі. І душа ў яе была добрая, светлая...

Дзе б я ні быў, што ні рабіў — адна яна ў маіх думках. Абы вечар настаў, у полі сустракаемся. Напрацуешся за дзень — сем патоў выльецца: убачу яе — і не стома ў сэрцы, а песня... Харошая такая песня.

Пахне канюшына, конікі стрыкочуць, ціхі вечар, — такая харашыня!.. А Волька мае валасы кудлычыць, ціхенька смяецца. «Нічога, кажа, не саромся... Ты, кажа, слаўнейшы за ўсіх. Няхай дурныя заглядаюцца на бліскучыя боты». Гэтак і кажа. А сама туліцца да мяне. Я не ведаю, што рабіць ад шчасця: ці плакаць, ці смяяцца. Рэдка бачыў тады чалавек светлую мінуціну. Несці гора на плячах умелі, змалку к гэтаму прывыкалі. А як сустрэць шчасце — хто яго ведае — навіна.

Вось аднойчы я і кажу Вольцы: «Давай сыдземся, кажу, будзем жыць разам. Жыццё наша — цёмная ноч, а ты для мяне — сонца». Маладосць, як бачыш, цёплае слова любіць.

Сказаў я так, а Волька мне ў адказ: «Палюбіўся, кажа, ты мне, таіць не хачу». Гаворыць яна, удалячынь пазірае. Далёка там, у сяле, цягучую песню заспявалі хлопцы. Вялікі смутак чуўся ў песні... А мне так добра, на душы радасць, і сілы гэтулькі, што гатоў зямлю перавярнуць.

«Нам, — кажа Волька, — адна дарога з табою».

На тым і сышліся.

А потым вось як было.

Ужо восень стаяла. Ночы — халодныя. Раніцой на кладках іней бялее. Перад самымі, значыць, замаразкамі было. У тую пару праязджаў нейкі важны чын. Сам ён, казалі, аж з губерні. Гасцяваў у нашага пана. А пасля грошы ў дарозе згубіў. П’яны ён быў, ці што.

Я з поля ехаў. Вечар ужо нагортваўся. Бачу — ляціць назад — аж пыл курыць. «Чаго, думаю, гэтак нясе яго нялёгкая?» А ён да мяне прычапіўся: аддай яму грошы! Якія грошы? Я іх і ў вочы не бачыў. Нехта, значыць, забраў, але каб аддаць — дудкі! Людзі гэтак рабілі: што ўварваў, то — тваё.

Арцём нецярпліва заёрзаў, нібы ўюн на гарачай скавародзе, прыўзняўся:

— Чакай, Саўка, — пачаў ён узірацца ў бок коней, — ці не жарэбчык там загуляў? Ён, падла, увесь табун павядзе...

— Жарэбчык вунь, каля хваіны стаіць.

— Мне здалося, нешта як бы стукнула за кустамі...

— То слухай жа.

Прывёў мяне той чын к пану. А пан наш паганы быў. Як толькі яго зямля насіла. Сярдзіты, што звер. Тады ў маёнтку нелады былі. То ён рад быў: нашлося на кім злосць спагнаць. Клянуся, нявінны я, а пан слухаць не хоча. Ну, і захадзіліся яны каля мяне. Білі чым папала, дапытваліся.

Я ціхі быў хлапец, сэрца ад крыўды зайшлося. «За што?» — прашуся.

«Ага, за што? — ціхенька, страшна шыпіць пан, — а за тое! Ага... вырадак...»

«Заб'юць, — думаю, — няма ратунку...» — і самога сябе да слёз шкода.

Увесь дух з мяне выбілі... Я ў непрытомнасці быў. Не чуў, як яны ў сад мяне выцягнулі... Не раўнуючы як жывёліну якую.

Ачухаўся я трохі, вочы расплюшчыў. Праз галлё бачу — высока зорка блішчыць. Нібы залатая кропля, трымціць зорка, вось-вось, здаецца, упадзе. І плача нехта... Зусім блізка... Зямля, што лёд — халодная. Паварушыцца не магу. Цела як прыбіта да зямлі. Левая нага баліць, як агнём пячэ. Так хацелася, каб усё гэта — сон...

А нехта плача. Сухое лісцё шурхае. Раптам чую: «Устань...» Па голасу пазнаў — Волька. «Устань! — спалохана шэпча яна, дрыжыць ад плачу. — Зямля сырая, устань... Буджу, а ты як анямеў. Думала — памёр...»

Яна вечарам падслухала ў пакоях панскую гаворку, ратаваць мяне прыбегла. Каб не яна — памінай як звалі...

Тады я ледзь выжыў. Нават дактары думалі, што памру. Паслухае мяне трубкаю дзяжурны доктар, і па вачах яго бачу, што не верыць ён, каб я паправіўся. А сам я не думаў аб смерці, думкі такой у галаве не было. Жыць хацелася. Сонца гляне ў бальнічнае акно, і, здаецца, крыкнуў бы, заплакаў — да таго хораша на дварэ...

Можа, таму і ачуняў, што аб адным жыцці ў мяне смутак быў. Толькі нагу ў калене сагнула. Да самай смерці знак...

Прыкульгаў я ў маёнтак. «Ты мне больш не работнік, — раззлаваўся пан. — За вас, зладзеяў, я не буду закладаць свае грошы», — кажа ён, а тут усё глядзіць, што ў мяне нага сагнутая... «Марш адсюль!» — крыкнуў і белым пальцам на дарогу паказаў.

Сашчапіў я сківіцы, каб не заліцца слязьмі, сабраў манаткі ды ціхенька ў поле — дадому накіраваўся.

За вярсту ад маёнтка, каля дарогі, на высокім пясчаным

узгорку — невялікі могільнік. Хто прыйдзе на магілку дачасна сканаўшага парабчука? Чыя сляза ўпадзе на жоўты выцягнуты курганчык? Над пахіленымі чорнымі крыжамі — белыя, без лісця, бярозы, нібы заплаканыя маладзіцы з распушчанымі валасамі...

Сеў я на задзірванелую магілку, дума ў галаве чорная, як пахілы крыж. І не плачу — сэрца каменем стала. «Што ж, — думаю, — калека ёй не патрэбен... Я не хачу, каб яна з-за мяне пакутавала...»

Прыйшла яна. Тут у нас развітанне было...

Заходзіла сонца.

Вочы яе чырвоныя, прыпухлі — многа плакала. «Не паверу, — кажа, — не паверу чужой няпраўдзе... Ты за чужое...»

Плача яна, а вочы — сухія...

«Я сама, — кажа, — зараблю. Са мною жыві...»

«Не, — адказваю, — я цяпер не пара табе. Шукай другога — ёсць добрыя людзі на свеце...»

Гэткім было наша развітанне. Назаўсёды... Успомніш — і гаркота на душы... І нянавісць, такая вялікая нянавісць у сэрцы, што не даў бы жыцця панам на ўсёй зямлі!..

А што са мною потым было — доўгае казанне.

— Такое няшчасце... — адводзячы ўбок вочы, загаварыў Арцём, каб скіраваць гаворку на другое, баючыся, што Саўка зноў пачне пра грошы. — То ты здалёк?

— З Віленшчыны. Як у вайну бежанцы рушылі, то я неяк сюды прыбіўся, у ваш край. І тут пачалася была старая песня: па багатых людзях цягаўся — хлеб зарабляў гэтак. Абы надвор’е кепскае, нага баліць. А работы не пакінеш: трэба ж як жыць. Цяжэйшую работу на плечы ўзвальвалі. Да самага калгасу так. У калгасе я плечы разагнуў. Тут і работа лёгкая найшлася, і на воды паслалі. Каб, значыць, даўнейшае калецтва выправіць.

Арцём ляжыць, неяк натужна скурчыўшыся. Шырокім рукавом паношанай сарочкі ён, нібы ад сонца, закрыў твар, каб схаваць вочы. Яму здаецца, што па вачах можна прачытаць тое, аб чым ён зараз думае. «Скарэй бы той вечар, — ледзь не застагнаў Арцём. — Натварыў работы... На сваю галаву...»

— От што... — усміхаецца Саўка засмучанымі шэрымі вачамі. — Грошы. За чужое прыйшлася была мне пакута. Пастараліся злыя людзі. Брыдкі быў свет. Даўней не пыталіся ў мяне, чаму нага такая: у кожнага свой клопат. Чужая скула не баліць. Чалавек пра аднаго сябе дбаў, а тай няхай, хоць свет нђпал развальваецца.

Пастухі маўчаць. Чутна, як фыркаюць і глуха стукаюць капытамі коні, адганяючы зђедзь.

Аб чым зажурыўся Саўка? Напэўна, шкада яму скалечанай маладосці. Шчаслівы тыя, чыя юнасць сагрэта ласкавым сонцам нашых дзён.

Пануры сівавалосы Арцём расплюшчыў вочы. Над ім высока сінела чыстае шырокае неба. Ні адна хмурынка не пляміла мяккую разгорністую сіняву, нібы вогненнае сонца няўмольна расплаўляла снегавы пух воблакаў, пакуль яны не паспелі яшчэ ўсплыць над гарызонтам. «Глядзі ты... — падумаў Арцём. — Хораша як!..» Штосьці незнаёмае кальнула сэрца. Многа год хадзіў па зямлі Арцём і бачыў перад сабою толькі вузкую сцяжынку, галава заўсёды была апушчана. З маленства клопаты аб куску хлеба не давалі спакою. Нават жаніўся наспех: усё не было калі, на полі чакала работа.

Часам, яшчэ ў маладыя гады, яму хацелася ўзяць на рукі і пяшчотна прыгарнуць да грудзей сваё дзіця, але ён тут жа з болем усведамляў, што сэрца агрубела, стала чэрствым...

— Не люблю малых, — мармытаў Арцём. — Пялёнкі гэтыя...

Ён думаў тады, што кволыя радасці зямлі цураюцца яго назаўсёды. З таго часу многа незвычайных жыццёвых з’яў адбылося перад яго вачамі.

Цяпер з кожным годам навакольнае мяняе сваё аблічча. Усюды ідзе вялікае абнаўленне.

...Якое чыстае сіняе неба! У высокім блакіце чырванакрылым птахам плыве сонца.

Вярнуўшыся з мястэчка, Алесь узяўся за падрыхтоўку к калгаснаму вечару. За ядою ён бегла прагледзеў новы нумар журнала «Рабфак на даму» і адразу ж паспяшыў у чытальню. Там яны ўдвух — Алесь і загадчык хаты-чытальні — майстравалі невялічкую сцэну.

Стукат малатка і сякеры поўніў вялікае памяшканне. Пасля дзённых трывог у Алеся засталося адчуванне, падобнае на далёкае водгулле грымотаў. Цяпер яго істоту перапаўняла гарачая энергія маладосці. Ён песціў у сэрцы думку аб чарнавокай красуні, і малаток паспешней узлятаў у яго руцэ. Шчасліваму чалавеку праца прыносіць найвялікшае задавальненне.

У чытальню напрыбягалі цікаўныя дзеці, — яны заўсёды паспеюць туды, дзе робіцца нешта новае.

— Хлапчукі! — загаварыў з імі Алесь. — Збегайце дадому

па коўдры.

Дзеці рады, што старэйшыя даручылі ім справу, — кінуліся навыперадкі з чытальні. На дварэ пачуліся іх гучныя пярэклікі, зазвінеў гарэзны смех.

— Колька!

— Даганяй!

Праз паўгадзіны сцэна была завешана каляровымі коўдрамі.

— Хадзем у валейбол пагуляем, — прапанаваў Алесю таварыш.

— А сталы?

— Вечарам усе гуртам прыйдзем і паўносім. Хутчэй будзе.

Стомленае сонца хіліцца к небакраю.

На полі кіпіць работа. Каля лесу жняяркі канчаюць невялікі кусочак ячменю. Нібы баючыся не ўправіцца к вечару, яны паспешна стрыкочуць, аж заліваюцца сталёвым лёскатам. Пышназялёны лес пераймае гукі напружанай працы, — там, у высокіх чырванастволых соснах, прыгожа адгукваецца тонкае металічнае рэха.

— Нічога, не тужы, — спачувальна заспакойвае Марыну маленькая ўвішная дзяўчына, не адрываючыся ад работы.

Дужыя смуглыя рукі Марыны спрытна сціскаюць перевяслам цяжкі сноп ячменю. Смаглыя вусны просяць піць.

— Праўда, Волечка, — уздыхае Марына. — Слязьмі гору не паможаш.

У чорнай касе блытаюцца мяккія сонечныя праменні.

— Сёння дажынкі, — у роздуме кажа Марына. — Вечар будзе. А мне, Волечка, нічога не наўме...

— Нічога... нічога... — намагаецца супакоіць таварышку Волечка. — Ён жа паехаў назад! Хай бы мы гукнулі, распыталі... Ну, каб я так жыла, — ён знайшоў грошы!

— Не кляніся... Я не ведаю, Волечка... Я не хацела гукаць яго. Яму было б нядобра... Ды і самой неяк лепей, калі пэўна не знаю: не-не ды падумаю — а можа, і праўда, што знайшліся?..

— Чаму ж не! — весялее Волечка, яе зялёныя вочы шчасліва смяюцца. — Паскачам сёння! Духавую музыку прывязуць.

— Паскачам, але калі смутак на сэрцы...

Марына расказала аб усім толькі сваёй блізкай сяброўцы Волечцы. У сэрцы яна мела надзею, што Алесь вернецца з раднаю весткай. Дзіўна бывае ў жыцці: толькі чалавеку выйсці на аблюбаваную дарогу, як — не: знойдзецца ж такая прычына і

пераблытаюцца камеры, разрахункі, спадзяванні... Хутка пачалося б сумеснае жыццё з Алесем, поўнае шчасця і радасных трывог, а цяпер — хто яго ведае, што будзе...

З лесу выскачыла грузавая аўтамашына, асляпляюча бліснулі музыкальныя інструменты духавога аркестра.

— Марынка! — усклікнула Волечка, выпусціўшы з рук перавясла. — Наша машына! Духавая музыка паехала!

Марына кончыла вязаць сноп і разагнулася.

За зялёным кузавам машыны гналася шэрае воблака пылу. Відаць былі і цьмяныя постаці аркестрантаў.

III

Пад вечар Арцёма паклікалі ў сельсавет. «На дапрос...» — з жахам падумаў ён, не чуючы пад нагамі зямлі. Зайшоў на свой двор палажыць пужку і нечакана ўбачыў на ганку вялізныя мяхі. «Глядзі ты... Што ж гэта?»

З адчыненых сянец выйшла жонка.

— Авансам раздавалі, — сказала яна, дабрадушна ўсміхаючыся. У гэтай усмешцы жанчыны быў стрыманы гонар за сваю працу. «Гэта ж мы, сваімі рукамі», — гаварыла яе мяккая добрая ўсмешка.

— Спачатку па кілу на дзень далі. То мы прывезлі з Таклюсяю, насілу з воза сцягнулі. Як гліна — такія цяжкія. Не паварушыць.

Развязаўшы тугі мяшок, Арцём набраў жменю зярнят. Ноздры заказытаў прэсна-салодкі палявы пах. Чатыры мяхі такога збожжа!

Над самым лесам стаяла чырвонае сонца.

«А грошы?.. Міліцыя прыехала...» Залатымі прадаўгаватымі кроплямі пасыпаліся ў мяшок зярняты з шырокай далоні...

Насунуўшы на вочы патрэсканы цёмны казырок, Арцём панура паплёўся ў сельсавет хісткім няпэўным крокам. Ён ішоў, як на сваю пагібель. Каб не грошы, з спакойным сэрцам лёг бы адпачываць, а заўтра павёз бы малоць... І Марына была б вясёлай, і Алесь не знаў бы пакуты... Чалавек іншы раз такое зробіць, што потым сам не рад, але, як гаворыцца, сябе за локаць не ўкусіш.

Пастух гоніць з пашы авечак. Яны коцяцца ў ружовым пыле вуліцы чорнымі, белымі клубкамі; некаторыя з іх мінаюць свае двары і жаласна бляюць, нібы просячы дапамогі.

Арцём пайшоў загуменнем.

У канцы сяла, за гумнамі ў полі, стаіць вялізны новы будынак школы, трохі ўбок — сельсавет і хата-чытальня з калгаснаю канцылярыяй. Як толькі выйдзеш на загуменне, адразу кідаецца ў вочы доўгі касяк чырвонай страхі сямігодкі.

Каля школы на шэрым прамавугольніку пляцоўкі гуляюць у валейбол. Над галовамі ўзлятае і апускаецца падбітаю птушкай чорны мяч. «Кожны раз новае, — падумаў Арцём. — То па двары ганялі нагамі, а гэта ўжо рукамі адбіваюць».

На валейбольнай пляцоўцы былі калгасныя хлопцы, два настаўнікі, Алесь і старшыня сельсавета — дабрадушны нізенькі таўсцяк.

«І старшыня з імі... — здзівіўся Арцём. — Думай ты!.. Няхай настаўнікі, то яны ж — маладыя, а чаго старшыні?»

Пасля глухога гуку чорны мяч коса пералятае павуціну сеткі, хлапец у блакітнай саколцы маланкава ўзмахвае цёмнымі ад загару рукамі, і мяч у тую ж секунду падскаквае ўгору на другім баку сеткі.

— Наш!

— Падавай, Алесь!

— Размаўляць не дазваляю! — папярэджвае «суддзя» гульні.

— Фетбол!

Белакуры Алесеў чуб стаіць у вачах Арцёма. Арцёму боязна падняць вочы, а між тым штосьці настойліва прымушае кінуць позірк на ўспацелы белакуры чуб...

«Праз мяне адпакутуе хлапец нявіннаю душою. А ён вясёлы... смяецца... Бач ты яго — вясёлы... Праворна як мячык адбівае!.. Што ж я нарабіў?.. Прызнацца перад старшынёю?.. Сказаць — пажартаваў?.. Не, у мяне жарты ніколі не выходзілі... Бач ты — дзіця і тое аддало... Не ўцямлю, чаму ён такі вясёлы?.. А можа, яму ніякай кары за тыя грошы?..»

Арцём парашыў проста ісці ў сельсавет. Яго дагнаў старшыня, прывітаўся за руку:

— Што гэта з пальцам?

— Як сказаць... Дзвярамі прышчаміў... Аж ногаць адстаў...

— Хай бы схадзілі ў амбулаторыю, там перавязку зробяць, а так можа загнаіцца.

«Няхай... — пакутна думаў Арцём. — Няхай... Абы скарэй усяму канец... Міліцыянер... Сказаць? Пра дачку няслава пойдзе... Сам перапрашу Алеся...»

— Я вас чакаў, — казаў старшыня, і Арцём, пазіраючы сабе пад ногі, адчуваў, што старшыня ўсміхаецца.

Страшэнная ніякаватасць перад людзьмі прыгняла Арцёма. Сапраўды, каго ж ён абакраў?

Як адчыняў старшыня дзверы, Арцёму здалося, што клямка ляснула надзвычай моцна... Аж у левым баку нешта кальнула.

У сельсавеце ніякага міліцыянера не было, і гэта на першы пачатак прынесла Арцёму радаснае аблягчэнне. Ён адчуў сябе, як тапельнік, якому пашанцавала выбіцца на мель.

За сталом, на якім ляжала яшчэ раней разгорнутая кніга, прысеў старшыня.

— Вось добра! — ветліва ўсміхнуўся старшыня, і яго пухлыя шчокі яшчэ больш надуліся. — Я баяўся, што спозніцеся. Сядайце.

Звычайна Арцём сеў бы на крэсла, але цяпер, несучы на душы цяжар віны, ён разгублена мармытнуў:

— Я... што... пастаю... Я... не, не...

У гэты момант ён радасна думаў, што цішком зверне Алесю партфель. Арцёму — як ні дзіўна — чамусьці здавалася, што ён пазбавіцца нават гэтай позняй радасці, калі сядзе на крэсла.

— Вы забралі грошы?

Арцёма кінула ў пот, і зноў як іголкаю кальнула ў левым баку.

Шырокі карычневы стол, разгорнутая кніжка, круглая чарнільніца, этажэрка з тоўстымі кнігамі, — усе рэчы пачалі хіліцца набок, нібы пакой сарваўся з месца...

Арцём інстынктыўна схапіўся за край стала:

— Грошы?.. Якія грошы?..

— Не ведаеце?

— Грошы... Нашто мне чужое?..

— Тут гаворка не пра чужое, — усміхнуўся старшыня і ад задавальнення пацiснуў шырокімі плячамі. — Вы свае забярыце, у праўленні грашовы аванс раздаюць. Цэлы скарб! — скрыпеў крэслам дабрадушны вясёлы таўсцяк. — Слаўнае згуляем вяселле. Ну-ну, не адгаварвайцеся. Мне Алесь расказваў. Ды сядайце, што гэта!

Арцём неахвотна прысеў, сцёр з ілба халодны пот:

— А дзе ж Алесь?

— Дома цяпер. Грошы вазіў у банк.

«Хіба старшыня не ведае?» — мільганула ў думках Арцёма.

Праз акно сонца палажыла на стол шырокую светлую паласу.

— Вось што, — ужо зусім сур’ёзна сказаў старшыня. — К нам з раёна прыехаў...

«Міліцыянер!..» — кальнула Арцёма, зноў стала душна, на момант здалося, што нават на ступні нагі выступіў пот.

— ...Прыехаў таварыш з раённай газеты, карэспандэнт. Хоча пра нашых заможнікаў напісаць. Ён вас групкаю сфатаграфуе для газеты.

Сонечная палоска на стале паяснела. Усе рэчы напоўніліся мяккаю цеплынёю. Арцём ўсміхнуўся ўсім сваім валасатым тварам. Мутнавата-шэрыя вочы шчасліва заблішчэлі.

— А дзе ж больш мужчыны?

— Пайшлі рыхтавацца. Яшчэ завідна той хлапец з рэдакцыі хоча вас сфатаграфаваць.

— Глядзі ты! Дык і я пабягу... Я — мігам!

Жыццё фармуе ў людзей новыя пачуцці і разуменні. Пастаянна ў душу чалавека прыходзяць новыя ўражанні, там яны дрэмлюць і непрыкметна для самога крэпнуць, растуць, чакаючы шчаслівай хвіліны свайго другога нараджэння. І вось настае такі пераломны момант, калі раптам дзівосна ярка акрэсліваюцца тыя ціхія змены, што наспявалі ў душы часам праз цэлыя гады. І чалавек аж здзіўляецца, недаўмявае, як гэта раней ён мог думаць і адчуваць інакш, чым цяпер!

... Над зямлёю стаіць сіняя ноч. Новенькаю срэбнаю манетай блішчыць месяц.

Арцём штохвіліны азіраецца, як злодзей. Кожны кусцік ён прымае за прысеўшага чалавека. Яму здаецца, што нехта хоча падсачыць яго таямнічую справу, каб потым разнесці па ўсёй ваколіцы вялікую няславу аб працавітым калгасніку.

У блакітным змроку чарнее адзінокі кусцік. А побач журыцца чахлая хвойка — забытае дзіця пышнага палескага бору. А можа, у дзіўных снах бачыць сябе яна сярод стромкіх сясцёр-сосен такою ж выносістай, гордай, з кучомістай зялёнай кронай...

— Хвойка... тая самая... Кусцік... — шэпча Арцём і ледзь не подбегам падыходзіць да купіны, нагінаецца...

Пальцы паспешна шараць у халодным, вільготным імху. Дарэмна — партфеля ўжо няма...

— Што за прымха?.. куст... і хвойка...

Арцём не верыць, некалькі раз абыходзіць вакол куста. «Нехта забраў... Ёсць жа яшчэ людзі... Што я нарабіў?.. І грошы, і хлеб свой маю... Хоць тры вяселлі спраўляй... А гэта ж... бач ты...»

Падыходзячы к сялу, ён пачуў глухі гул бубна. «Позна як гуляюць... — падумаў і яшчэ ніжэй схіліў галаву. — А я што

бачыў у маладосці?..»

На ганку хорам спявалі дзяўчаты, галасіста падыгрываў гармонік. <...>

У цёмнай вадзе канаўкі згубленаю манетай бліснуў месяц.

Чужыя грошы, што каменні, — цяжка на душу кладуцца. Бывае ж так: чалавек грашам не рад...

Пасля невялічкай пастаноўкі выступаў хор — калгасныя хлопцы і дзяўчаты. Сярод дзяўчат — усе ў белых вышываных кашулях з шырокімі рукавамі — стаяла на сцэне Марына, яе смуглыя шчокі ружавелі ад хвалявання.

У зале ў тры рады размешчаны сталы, застаўленыя пітвом, рознымі стравамі і ласункамі. За сталамі ўрачыста сядзяць прыбраныя мужчыны і жанчыны; Марына сустрэла там любыя блакітныя вочы і ціха ўсміхнулася.

У пляшках зырка чырванее піва, малінавым бляскам адсвечвае віно. Чуецца прыцішаная гамонка:

— Першы сорт — машына з Слуцка прывезла.

— Што мне піва або віно? Панскае пітво...

— Ну, а цяпер нашае.

— Ад піва ніякага смаку, — горкая вада. Лазою пахне.

— А хіба гарэлка салодкая?

— Ад яе кроў аж гарыць!

— Чаго захацеў!

— Ну-тка, даставай светленькую, а то кішэню адарве...

— Ціха вы!.. Пецць будуць...

Алесь не зводзіў вачэй са сцэны. Марына была прывабнай, як ніколі. На яе смуглым усмешлівым твары ззяла тая весялосць, што ідзе з глыбіні шчаслівай душы. Паплыла звонка-пералівістая задушэўная песня... Алесь слухаў як зачараваны. У такія хвіліны ў яго абуджаліся тысячы думак, і тонкія, шчасліва-салодкія адчуванні поўнілі ўсхваляванае сэрца...

...Пад поўнач павыносілі на двор сталы, яшчэ весялей загрымела духавая музыка. Каля музыкантаў уюцца хлапчукі, каб улучыць момант і пакратаць рукамі бліскучую медзь труб (малых выправаджвалі дадому, але і яны ўпарта не хацелі сёння рана лажыцца спаць).

Гулка бухае турэцкі бубен, яму ўторыць зухаваты перастук хлапечых каблукоў. Імкліва кружацца пары, мітусяцца ногі, бязгучна развінаюцца шырокія каляровыя спадніцы, мільгаюць маладыя і пажылыя твары. Падлога аж дрыжыць — да таго ра-

зышліся танцоры!

Стаміліся музыканты, а ім спачыну не даюць.

— Вясёлае што! «Лявоніху»! — просіць Марыніна маці і — высокая, стройная — яна шырока, нібы кагосьці гарэзна ловячы, разводзіць рукамі; урачыста і лёгка выплывае на сярэдзіну круга; за ёю, як па камандзе, вырываюцца з натоўпу жанчыны ў яркім стракатым убранні.

— І-іх!..

— Ух! Ух!

Над галовамі ледзь прыкметна пакручваюцца вісячыя лямпы. Дбайна ўвабраныя рукамі дзяўчат у каляровыя істужкі, яны нагадваюць казачных жар-птушак з залатым пер’ем: уляцелі тыя птушкі праз адчыненае акно і ціха кружаць пад столлю — не налюбуюцца маладой весялосцю!

— Ганна, сюды!

— І-іх!

Моладзь, пасмейваючыся, любавалася гучным імклівым танцам пажылых жанчын.

У шчыльным натоўпе праціскваўся, пакульгваючы леваю нагой, устрывожаны Саўка, спалохана пытаўся:

— Не бачылі Арцёма?.. І тут не было, і дома няма — я хадзіў глядзець... От што, браткі мае... Дзе ён дзеўся?

У імклівым віхры мільгаюць, мітусяцца асляпляюча-яркія колеры жаночага ўбрання.

— Ух! Ух я!

— Саўка! Сюды!

— Што вы старыя... Усхадзіліся!

Саўку схапілі за руку, ён міжвольна закружыўся ў віхурным каляровым карагодзе; потым ужо сам, нібы ў сне, ахвотна і ўсхвалявана абдымаў гнуткі стан нейкай жанчыны. Ад выпітага віна ў жылах па-маладому напорыста струменіла гарачая кроў, перад вачамі мільгалі рухлівыя колеры — сіні, белы, чырвоны, зялёны... Упершыню яму здалося, што крывая нага выпрамілася і стала зусім здаровай.

— Глядзі, як прыстуквае! — пачуў ён і ў думках адказаў на чыесьці словы з грамады: «А што ж! Можа, і Саўка... Можа, і Саўка ўмеў бы патанцаваць...»

Мяккая цішыня, і соладка пахнуць яблыкі...

У садзе на лаўцы, блізка прыхіліўшыся, сядзяць Алесь і Марына. Каля іх ног, на мураве, нерухома ляжаць узорыстыя

цені лісця.

— ...Я на пасёлак, аж там упаўнаважаны з райвыканкома, гэта ён ехаў і звярнуў на пасёлкавую дарогу. Добра знаёмы хлапец, разам у Чырвонаслабодскай сямігодцы вучыліся, нават дружылі. Каб ён і падняў, то не прапалі б. Я адтуль зноў назад. Аж тут Саўка прыпыніў мяне на дарозе, кульгае, смяецца.

— Залаты чалавек.

— Хі-ітры! Ён так павадзіў за нос твайго бацьку! Умее за жывое ўзяць.

— Сорамна мне, Алесь... За бацьку сорам...

— Нічога, ты цяпер яму ні слова аб гэтым: я сам калі-небудзь пагавару.

— Як хочаш.

Дрымотная, мядова-пахучая цішыня; заснула вёска, толькі па вуліцы, за частаколам, пройдзе, упаўголаса размаўляючы, сельская варта — дзве захутаныя цёмныя постаці. А то часам бязгучна сарвецца яблык, чыркане — раз, два — па лісці і глуха стукне аб зямлю.

— Алесь, я табе вось пра што хацела. Ты служыш. А я простая калгасніца. Трэба, кажуць, роўнага сабе падбіраць. А я табе, можа, і не раўня.

— Нашла пра што думаць! Табе бацька нагаварыў? Або жанчыны?

— Чаму, гаварылі і жанкі.

— А ты не слухай. Я служу ў сельсавеце, а ты за мяне куды больш зарабляеш. А што яшчэ трэба? Сельсавет адпускае лесу на хату. Зайшоў у калгасную канцылярыю, а там мужчыны ўжо збіраюцца калоды вывозіць з лесу. «Хай, кажуць, з малацьбой трохі ўправімся, то мы табе за два дні выкінем з Клянова хату». Пацешны народ! Я пажартаваў тады: што вы, кажу, у мяне і на думцы не было, каб жаніцца! Дык на мяне ўсе як узваляцца! Нібы <...> ліхую. «Каханне між вамі, кажуць, ёсць? Вяселле будзе з чаго справіць, каб аж зямля пайшла ў скокі? Ну вось! То якога ж табе яшчэ ражна! Бяры дзяўчыну ды жывіце на здароўе». Ледзь не заклявалі. Асабліва жанкі.

І зноў — мядовы пах спелых яблык...

У хвіліны найяснейшых пачуццяў моўчкі прыслухоўваецца чалавек да нез'яснёна прыгожай музыкі збліжаных каханнем сэрцаў. Навошта словы, калі поціск рукі, калі адзін позірк адкрывае нязведаныя таямніцы — квяцістую гаму пачуццяў блізкага чалавека. Марына разумела яго сэрцам: датаго блізкі і родны быў ён... Яна сама ведала, што Алесь пасмяецца над яе сумнен-

нямі; разумела, што сказанае ёй не мае важкасці, але чамусьці часам гэтак хочацца, гэтак маніць нешта ўпэўніцца яшчэ раз, пачуць акурат тое, што бясконца прыемна слухаць...

Марыніна сэрца томяць нез'яснёныя адчуванні, падобныя на маўклівую музыку вясёлкавых колераў. Хочацца заўсёды быць разам, бачыць яго даверлівыя блакітныя вочы і слухаць мілае, пяшчотнае нашэптванне...

Дзе каханы — там усё міла. Абы ён поруч, тады на душы пякуча-радаснае хараство, і ўсё навакольнае, нібы паддаючыся гіпнозу шчаслівых сэрцаў, неяк весела святлее, напаўняецца чымсьці невымоўна прыгожым. Як многа ясных хвілін прыносіць чыстае каханне маладосці!..

— Алесь! Яблыкі ападаюць!..

Дома Арцём запаліў лямпу і пачаў тупаць па хаце. «Саўкава работа. Ліха яго матары! Я бачу, па вачах прыметна, бачу, як ён нешта пры сабе хавае... От кульбака!.. Я для сябе, можа, хаваў. А не то што каб другі нехта спажыў...» Ён не лажыўся, бо ведаў, што не засне. Хтосьці залез у нутро і не дае спакою. Думы — нібы занепакоеныя асеннія хмары. Ад іх скамянела сэрца.

Бязмэтна сноўдаўся на дварэ па халодным паветры. Бліскучаю манетай дражніўся месяц.

А як толькі вярнуўся ў хату, зноў стала горача і нядобра.

Радасная ўвайшла Марына. Яна толькі што развіталася з Алесем; на вуснах яшчэ адчувалася імпэтная гарачыня хлапечага пацалунка. Уся яна была перапоўнена светлым пачуццём шчасця і пяшчотнай дабраты. Яна не заўважыла бацькавага смутку. У яе было гэтак многа шчаслівай весялосці, што нават незразумелым стала, каб хто-небудзь мог тужыць.

— Тата! — радасна ўсклікнула Марына, здзіўлена пазіраючы на бацьку: яго твар быў выгалены; на шчоках, дзе прайшлася брытва, загарэлася чырвань.

«Як ты памаладзеў!» — хацела сказаць яна і, забыўшыся на сталасць, па-дзіцячаму весела заскакаць па хаце. Марына падбегла і хуценька паправіла кнот у лямпе. На аконных шыбах пацямнела сінява ночы.

— Татачка, — патупіла Марына вочы, перабіраючы чорную касу. — Я замуж пайду. За Алеся...

— Дачка мая... — не падымаючы галавы, панура загаварыў Арцём. — Дачка мая... Вінаваты я... Перад табою, перад людзьмі... Я... схаваў... а грошы тыя прапалі...

— Грошы?.. — нечакана спалохалася Марына і толькі цяпер заўважыла пакутнае засмучэнне бацькі. — Чые грошы?..

— На дарозе Алесь згубіў, а...

— Алесь згубіў?! Знайшліся! А я спужалася... Думала, зноў якое няшчасце.

— Знайшліся, кажаш? — падняў галаву бацька. — Ты не хлусіш?..

— Чаго мне хлусіць? Праўда.

— Глядзі ты! — адразу павесялеў бацька. — Знайшліся! Глядзі ты! Але! Знайшліся? — усміхаючыся, перапытваў ён, нібы хацеў канчаткова ўпэўніцца, што дачка сказала праўду.

Потым, узбуджана ходзячы па хаце, ён казаў:

— Ідзі. За каго хочаш ідзі. Абы ён добры хлопец быў. Свайму дзіцяці я не вораг. Мне што — стары я, нямнога асталося па зямлі хадзіць, а ў вас — наперадзе ўсё. Цяпер такі свет настаў, што і старому паміраць не хочацца... Чула? Мяне ў газету, як лепшы, значыцца, заможнік. Ну, дачка, справім вяселле... Уга, такое вяселле — гай зашуміць!

«Светла сёння ў нас! — падумала шчасліва ўзрушаная Марына. — Нібы ў чытальні».

У мляўка заміраючым сэрцы цешыла яна думку аб той раніцы, калі яе сардэчныя таварышкі прыйдуць памагчы прыбіраць хату і запяюць вясельныя песні.

Наперадзе вялікае заманлівае жыццё!

Яшчэ нацямку пастухі выпускаюць на Радоўкі калгасны табун. Коні бягуць пагонам — паабапал дарогі загароджаны платы.

На белым кані ўрачыста гарцуе Саўка.

— От што, — жартуе ён, стукаючы каня пад бакі пяткамі. — Ты і вусы выгаліў, нідзе валаска на ўспамінак не пакінуў.

— Трэба ж маладзіцца.

— Пэўна, к вяселлю?

— Будзе і вяселле.

— От што, чалавеча. Табе і душу трэба падмаладзіць: на ёй многа сажы асела са старога коміна. Завесці б цябе ў лазню ды венікам, венікам гарачым... Каб тая сажа змылася...

— ...Яны так хочуць. Няхай, — гаварыў Арцём, нібы не пачуўшы Саўкавых слоў. — Няхай. І бацьку хораша глядзець, калі яго дзіця знойдзе шчасце. Я сам у маладосці шукаў шчасця — не выйшла. На старасць знайшоў. Толькі ты мне скажы... — Арцём на момант запнуўся, нібы не адважваючыся выказаць

затоенай думкі. — Ты мне адно скажы... Я пра грошы. Гэта твая работа?

— А то чыя ж? — хітра ўсміхнуўся Саўка, варухнуўшы залатым кольцам вуса.

— На вяселлі я цябе на самым покуце пасаджу.

— А то хіба не варта?

Маўкліва нараджалася світанне. Кволае святло памаленьку разбаўляла сінявую цемру. Убаку, над сенажаццю, бялеў туман. У туманавай муці, нібы невядомыя цені, драмалі кусты.

Было ціха-ціха...

Павольна святлела на ўсходзе. Там ярка зіхацела ранішняя зорка.

«Хораша як! — падумаў Арцём. — Жыць бы і жыць!» Сэрца яго варухнулася, стукнула... Ён аж прытаіў дыханне — такая вострая і тонкая слодыч прайшлася па яго целе!

Стары радасна прыслухоўваўся да таго новага, што неўпрыкмет вырасла і цяпер прачнулася ў яго грудзях.

*1937 г.*

## ДНЯМІ АСЕННІМІ
*Апавяданне*

Густая цемень асенняй начы недалужна плешча па маленькіх вакенцах канцовае хацінкі, і шкло ваконнае ад тых капель дажджавых нагадвае тварык зарумзанага дзіцяці. Спакваля паўзуць уніз восеньскія слёзы — брудныя такія, непрыветна-сцюдзёныя. Скугатлівая ноч утаропіла зрэнкі чорных падслепаватых вачэй у асветленую смалякамі хацінку.

За сталом сядзяць на карачках малыя дзеці ў даўгіх — аж па самыя пяты — зрэбных кашулях, а насупроць іх, на ўслоне, маці трымае на руках самага меншага.

Дзеці хапаюць з міскі гарачую бульбу і, апякаючыся, пхаюць яе ў рот. А вочкі — маленькія рухлявыя зайчаняткі — гараць галодным агнём...

— Мамка... хлебка каб крышку... — крывіцца адно малое і пачынае хліпаць.

— Малацка хачу... — безнадзейна падае голас другое...

Жанчына перакідае ў руках не аблупленую яшчэ бульбіну, каб крыху астудзіць яе, і, стрымліваючы слёзы, суцяшае малых.

— Чаго вы, саколікі мае? Супакойцеся. Хай от кароўку купім...

А сама ж добра знае: доўга — хто ведае колькі? — трэба чакаць кароўкі тае...

— А нашу Вішню ваўкі з’елі? — з трывогай пытае старэйшы хлопчык Васілёк і дапытліва глядзіць на матулю.

— Не ваўкі, дзіцятка, а паны...

— Мама... а паны — ваўкі?..

— Горшыя яшчэ... Яны і татку вашага без пары ў магілу загналі...

Васілёк трэ вочы кулачком. Гэта не слёзы ў яго, гэта там, на комінку, карчы, мусіць, ярчэй разгарэліся, і бліскучае святло закалола неяк... Ці парушынка якая ўляцела... Але дзе бачылі, плакаць каб... Ад дробязі ўсякай... А татка... Добры ён быў такі... На рукі возьме, аж пад самую столь падкіне, рукой шурпатай пагладзіць. Па галоўцы...

— Раскажы пра татку...

— Пасля хіба...

— Не, ты цяпер, мамка... Ты забываеш, калі пасля...

Ды от перабіў якраз Іцка. Ускочыў узнерваваны і такі радасны. Усмешка іскрыцца на вуснах хлапцоўскіх. Добрая ўсмешка, светлая. Такое няма ў бацькі яго, у Абрама старога, сівым мохам паросшага; той сядзіць на табурэціку скураным ды пастуквае малатком: толькі раз махне — і сядзіць у падэшве бярозавы тонкі цвічок. І падэшва прыліпае да скуратоў — канём не адарвеш. Скураты пусцяць, а цвікі каб — ніколі. Спецыяльнасць... Так казаў — Васілёк чуў — сам стараста, выхвальваючыся некаму сваімі ботамі.

— Сілкуецеся?

— Да от жа... як табе сказаць... Хоць з большага перакусіць. Пазычыла пазаўчора ў Антося бульбы кошык. На адработак... То от і з’елі...

— У многіх так... Пухнуць людзі з голаду...

— Не кажы, ведаю. Хто яго ведае, як быць... На далей як... Далёка ж яшчэ лецейка тое. Зіма ўперадзе. Галодная, халодная. Аж думаць страшна...

Абмяняўшыся некалькімі скупымі словамі, Іцка сказаў шэптам Вольцы, каб «лайдакі» малыя не падслухалі часам:

— Сходку збіраем... у лазні. Прыходзь. З горада адзін там... Ад партыі.

Ускорасці пасля адыходу Іцкі Волька ўсцягнула даўгі пары-

жэлы ад старасці халат і, асцярожна скрыпнуўшы дзвярыма сянец, неахвотна ступіла ў хлюпатлівую вераснёўскую ноч. Зверху сыпалася драбнюткая сцюдзёная імжака, запаўняючы пустэльную вуліцу вострым смуткам восені...

Дайшоўшы да куста калючага ядлоўцу, жанчына на хвілінку спынілася, прыслухалася. Штосьці нібы плюхнула... Там — ззаду... За чорнай плямай кустоў...

І ўжо мучыла, спакою не давала глухое падазрэнне: «Мо асаднік Бжэзоўскі? Мо кулак Антось крадзецца па гарачых слядах?»

...Цішыня... Толькі сваволіць вецер-назола, у кустах забаўляецца нечага... Вольку працінаюць халодныя дрыжыкі. Яна апошні раз азіраецца на патухаючыя квадраты акон і з глеістае дарогі накіроўваецца ўбок, да гарбатае бабулькі-лазні.

Пераступіўшы нізкі трухлявы парог, жанчына акунаецца ў цёплую прытульнасць. Мяккую, лагодную. І як добра тут, у будынку, калі за сцяною выхурыць сцюжа!..

У густых воблаках сінявага самасейкавага дыму калышацца ціхая гудлівая гутарка. Сяляне парассядаліся на круглых знарок паўцяганых бярвеннях. Разважаюць... Абмяркоўваюць. Спакойна, дзелавіта. Больш маўчаць. Зацягваюцца ёлкім гаркавым дымам.

—...і якое толькі трасцы не выдумаюць на галаву нашу на мужыцкую?.. — абураўся кіраўнік падпольнай арганізацыі Мікалай Кузьміч, нібы хочучы выкласці рабочаму, таварышу Івану Гарадоцкаму, усё набалеўшае, накіпеўшае на сэрцы. — Камасацыя, шарваркі, падаткі... А для каго яно ўсё?..

— Усселі пан з кулаком і дыхнуць вольна не даюць...

— Ат... што казаць... Паперці б гадаўё тое, каб і духу не засталося... Ад іх, паганых...

Узапёршыся на нізкую пячурку, у цёмным прадонні якой квола дыміўся чыйсьці недакурак, Іван Гарадоцкі пачаў спешна кідаць словы ў раптоўна нахлынуўшую цішу.

Гаварыў... Проста. Зразумела. Шчыра. Хіба нельга пазнаць шчырых слоў?

Волька ўважліва слухала. У галаве гучна звінелі абрыўкі ягонай гаворкі:

— Надыдзе час... выступаць... Сумесна... Пад кіраўніцтвам...

Гарадоцкі сеяў у сэрцы гэтай жанчыны плённыя зерні пазнання жыццёвае праўды, развейваючы цёмныя здані непаразуменняў, што ахутвалі яе свядомасць. Выныралі напаверх калісьці нясмела зароджаныя імкненні. Волька асэнсоўвала невядомы

дагэтуль складаны механізм барацьбы класаў, і ў яе ўяўленні велічна паўставала ясназорнае нешта... заклікаючае...

— Нельга сядзець склаўшы рукі... Сама сабою перамога не прыйдзе... Яе трэба здабываць нам самім... У змаганні... У агні... У крыві...

Унутры жанчыны нібы полымя шугала. Яе твар засцілаўся гарачай маладою чырванню, а трапяткое сэрца ледзь грудзей не разносіла... Паланіла яе ўзнёслая радасць. І як скончыў Гарадоцкі, яна папрасіла слова. Неяк дзіўна і нязвыкла палыхалі іскрыстыя вочы чорным пякучым праменнем.

— Правільна сказаў таварыш... У нас забіраюць апошняе... Нас рабуюць сярод белага дня, а мы...

Ёй цяжка было гаварыць. Яна хвалявалася, бо першы раз выступала перад такою масаю, але ў яе было многа агню, запалу, шчырасці. І сілы. Новай... народжанай...

— У нашага брата хіба толькі праклецца слова праклёну... Няма таго, каб разам от, гуртам... А трэба ж гэтак.

Усім сходам вынеслі тады пастанову згрупаваць сялян ваколічных вёсак для масавай няздачы падаткаў. І ўсе пацяліся гэтым цвёрдым рашэннем.

Дамоў вярталася Волька з прыўзнятым настроем.

— Пакажам мы ім, — казаў Іцка, ідучы побач з Волькай, — абсякуцца ірады...

Апавяшчалі поўнач пеўні рыплівымі гарластымі крыкамі ды глухім лапаценнем крыл.

З нябачнага неба цярусілася тая ж асенняя імжака.

Неласкавае і халоднае ранішняе сонца хуталася ў калматыя аўчыны хмар, што стадамі цяжка сунуліся па смутнай сіняве, спяшаючыся адплыць у шэрую невядомасць...

Збіраліся ехаць на поле сяляне. Ладзілі калёсы, выцягвалі пастромкі і каромыслы на прыгуменне. Аглядалі старыя ламакі-плугі заржавелыя, каб пайсці рыхліць чэрствыя грудзі зямлі. Балазе абсохла яна, атужэла.

Ужо рэдка з якога коміна віліся брудныя скруткі дыму, як нечакана трывожная вестка спалоханай ластаўкай абляцела ўсю вёску:

— Прыехаў валасны секвестратар!

І тыя, што рыхтаваліся ў поле, кінулі мазаць калёсы, паклалі збрую на месца і пайшлі з нервовай дрыготкай ўнутры... На вуліцу. Ішлі, цяжка соўваючы ў пякуча-халодную гразь ногі —

каравыя, чорныя, шарбухаватыя.

— Хай будзе, што будзе, але — не даць!

Набліжаўся крытычны момант...

...На ўскраі вёскі нізка прыхілілася да зямлі гарбатае тулава Вольчынай хацінкі, паўз якую бегла дарога ў далёкую воласць — праз палеткі, лясы і балоты.

Прадбачылася, што секвестратар першым чынам наведае Вольку, а таму от і «кашу заварваць», як жартаваў тады на сходзе Мікалай Кузьміч, павінна была яна — вясковая ўдава.

— Ды глядзі не зблытала каб... Не прамазала...

— Дзе бачыў! Сказана — зроблена.

Сказала так і задумалася. Спахмурнела чагосьці... Гэтак вось хмурыцца блакіт неба... Перад дажджом-навальніцай. Як павісне спакой трывожны, старожкі...

Усплылі дні, поўныя балючай роспачы... Волька іх добра памятае... Нібы ўчора тое было...

Прыйшоў быў Васіль з Луцкае турмы. Узрадавалася. Дзіва ж то: тры гады не бачыліся. Гаворкі аднае колькі было...

Ды занямог нешта Васіль. У пасцель залёг. Вянуць пачаў, сохнуць. І што дзень міне, то горш. Не да папраўкі ішло, не да лепшага...

Пачынала расцвітаць маладзіца-вясна і цёплым дыханнем сваім будзіла надзеі вялікія ў людзях. Але хіба знаходзіць свой адбітак пышнасць прыроды ў душы чалавека, калі ў таго поўна смутку, чорнае пустэчы...

За вакном бязрупатна чылікалі вераб’і, а ў паўзмрочным чатырохкутніку на ложку ляжаў Васіль. Пры смерці ўжо... Упаўшыя ссохлыя грудзі ўздымаліся то часта, парывіста, то павольна, ледзь прыметна...

— Жыві, — цяжка дыхаючы, казаў Вольцы. — Дзяцей глядзі... і сябе...

Глыбокі сухі кашаль з гнойным харкавіннем рваў на кавалкі словы, прымушаючы хворага змаўкаць, але той збіраў апошнія сілы і гаварыў далей:

— Ах, Воля, Воля... Грудзі гарачь... Разрываюцца... Чаго ты плачаш?.. Дзяцей не палохай... Ты заменіш мяне...

Глыбока расчуленая, паклялася тады Волька жыццё аддаць на барацьбу з душагубамі...

І ці адных яе, Вольчыных?.. Колькі бяздомных сірат з жабрачымі торбамі блукае па краіне?..

...Галушкаю ўкаціўся элегантны секвестратар. Для прыліку кінуў сухое прывітанне і, не марудзячы, приступіў да справы:

— Вам належыць...

— Пачакайце, пане... — перабіла Волька рухавага чыноўніка. — А скуль тых грошай, скажыце, вызычыць? Выкалупаць адкуль? У мяне нават бульбіны беднай няма, не то што грошай...

— Дзяржава павінна спагнаць законна належачае...

— З нас, з гаротнікаў? А Антосю унь яшчэ з казны даюць... У яго і сваіх па горла. Дзяржава!..

Аднак чыноўніку некалі было размаўляць. Яго чакаў край непачатай работы грабежніка і, спасылаючыся на жалезныя законы, ён склаў пратакол і пхнуў Вольцы, каб падпісала.

— Я сама горш за жабрачку якую... Рабіце што хочаце, але нічога не дам!

Секвестратар спанталычыўся. Вочы — вялікія, чырвоныя, як ракі вараныя, — ледзь на лоб не вылазілі. Чорнае шчацінне брывей на пераноссе ссунулася, настырбучылася... Як у вепрука таго раззлаванага.

— Хамы! Вы вечна агрызаецеся, бурчыце! Вас трэба вучыць, як паважаць Жэч Паспаліту! — прашыпеў праз зубы і ўладарна памкнуўся забіраць падушкі.

— Вон з хаты!.. Каб і нага твая не смярдзела тут! — узгарэлася Волька і вырвала падушку. — Вон, кажу!..

— Цо?.. Цо таке?.. Бунтаваць?!. — наліўся крывёю дэфензіўшчык.

Дзе дзявалася фальшывая лагоднасць.

Моцным ударам нагана адкінуў Вольку, загроб на бярэмя падушкі і пацягнуў іх на падводу, што стаяла на вуліцы. За ім услед выскачыла жанчына, расхрыстаная, узнерваваная...

— Ратуйце!..

На вуліцы стаяў анямеўшы ў напружаным чаканні натоўп. Маўклівы, грозны.

І калі пачуўся галасны крык, тады лопнула спружына цярпення...

— Бі гада!

— Гані яго — сабаку аблупленага!..

— ...зладзюгу паганага!

— Даволі! Нацярпеліся!

Наперад неўзаметку праціснуўся збялелы стараста Антось. Замахаў рукамі, нібы вятрак той крыллямі. Засіпеў гадзюкай падкалоднай:

— Мужчынкі!.. Браточкі!.. Проці ўласці...

— Ідзі да д’ябла з уласцю сваёй!

— Запеў!.. Як поп на клірасе...

— Бі сволач!!!

Градам ляцелі з натоўпу цяжкія вострыя камені, камякі гразі — халоднай, ліпкай. Хтосьці пляснуў у самы твар секвестратару рэдкай гразёю, і той, недалужна растапырыўшы рукі, пад узнёсла-трыумфальны рогат, пацiснуўся да падводы.

— Браточкі... — пралепятаў пан «староста». У яго голасе ўжо выразна загучэлі ноткі фальшывай ліслівасці.

— Даўно «браточкамі» сталі? — востра ўкалоў нехта з грамады. — Яшчэ ўчора вывеў з хлява апошнюю кароўчыну, а сёння зяпу разяўляеш: брато-о-очкі!.. Падлізнік панскі!

— ...Нябось насмакталіся крыві нашае!

Над натоўпам пагрозна ўздымаліся спрацаваныя мускулістыя рукі, сціснутыя кулакі...

Падстрэленым сабакам ускочыў на воз секвестратар, злосна сцебануў порсткага каня і, не азіраючыся, паляцеў да воласці.

— Дарэмна такі не ўзяў паліцыянтаў... Забіць маглі... Добра, што жывым вылузаўся.

...Праз гадзіну абветраныя тэлеграфныя драты разносілі трывогу, крыклівую, неспадзяваную...

Дзесьці над зямлёй цвітуць зоры ў сінім небе. Сіратлівы месяц брыдзе поначы ў вышыні. І марудліва ўзіраецца на зямлю, на ўзбунтаваныя вёскі… На чырвоныя заравы пажараў, што ўсё часцей і часцей рвуць на шмаццё чорную навалу жыццёвай цемры...

А тут...

Скупа асветленае закапцелай лямпай сутарэнне. Душнае паветра з рэзкім пахам гнілля атручвае лёгкія. Нібы ў нейкім вычварным танцы, кружыцца галава... Баліць. На двор толькі выйдзеш — і ўваччу мярэжыстасць.

Засумавалі некаторыя бунтары. Зжахнуліся, глянуўшы ў твар здзекам тым крывавым.

Прынеслі ўчора Андрэя Селівончыка ў крывяных ацёках.

Цела, размалёванае цёмна-сінімі рубцамі-пісягамі, распухла, загнаілася.

— А браточкі мае!.. Вот счарнілі чалавека... Майстры... — і ў голасе чуўся боль чалавечы, адчай і туга. І яшчэ — нянавісць вострая, як нож.

Андрэя цяжка было пазнаць. Жоўтая, як воск, скура абвісла на твары. Глыбака запалі бясколерныя вочы, і пад імі з’явіліся чорныя пухліны.

Андрэй не стагнаў. Увесь боль яго знікаў недзе за мяжою свядомасці. Толькі часам, схамянуўшыся, ён бедаваў па жонцы, па дзецях, што засталася ў вёсцы.

— Адны там... Хто пасее?.. га?.. З голаду паўміраюць... Эх ты, доля наша!.. Мужычая.

— Нічога, Андрэйка!.. — суцяшае Волька старога. — Асталіся ж у вёсцы каторыя... Ну, нашыя. Кінь ты так аб сваіх. Пеpакідаюцца неяк...

А потым шматзначна:

— Будзе радасць, свабода будзе!

— Не прычакацца мусіць таго...

— Прычакаеш, дзядзька, — умешваецца ў гаворку малады хлапец. — Толькі ў муках нараджаецца шчасце.

— Не магу я... Скрабе за сэрца... А скуль жа ты будзеш, хлопча? — зацікавіўся Андрэй.

— З Лодзі, з фабрыкі.

— Як жа яны цябе сюды?..

— Хіба доўга ўмеючы? У іх — мігам. І шыта-крыта. Бадзяўся я па вёсках. Працы шукаў. Дык яны от... Прызнавайся, кажуць, ты савецкі шпік? Не адкараскаешся, як прычэпяцца чаго.

...На допыт выклікаюць па некалькі разоў на дзень.

— Уласовіч Волька!

Трэба было ўставаць і ісці на здзекі. На нечалавечыя катаванні...

— Прэндзэй, прэндзэй! — злуецца жандар і падганяе прыкладам. Суровы начальнік «пастарунку калкоўскага» кожны раз робіць метадычны ўступ з даволі значнаю дозаю далікатнасці.

І, зусім не выбіраючы зручнага моманту, накідаецца раптам:

— Хто кіраўнік?

Прыплюшчаныя хітрыя вочы ўпіваюцца ў Вольчыну постаць, бессаромна абмацваюць з ног да галавы. Працінаюць наскрозь вострым холадам.

Жанчыне хочацца сказаць нешта грубае, абразлівае, каб сцерці з тлустага твару заслону фальшу.

Але замест гэтага зрываецца лаканічнае:

— Не ведаю.

Начальнік лянiва выпускае з рота тонкім струменьчыкам ватавы дым папяросы...

— Гм... Вы яшчэ зусім маладая. Вы, відаць, забыліся пра сваіх дзяцей? Яны загінуць, калі вы аб іх не патурбуецеся.

— Пан начальнік! У вас такія прыгожыя словы... але за імі хаваецца дзікі звер... Той звер, што губіць гаротных... і дзяцей

маіх... Сірат...

— Дзіўна!.. Я першы раз сустракаю такую бязглуздую жанчыну. Але вы ўсё ж павінны сказаць.

Глухое маўчанне... Напятае, гнятучае...

— Няўжо вас не кліча воля сонца?

— Дарэмна турбуецеся, пане!

— А-а-а... так?!. Я прымушу адказваць! — пераступіўшы мяжу раўнавагі, крыкнуў дыфензіўшчык. Сарваўся з месца і нервова закрочыў па пакоі:

— Псякрэв, бальшавічка!.. Мёртваю загаворыш...

Па яго загаду два здаравенныя жандары, груба схапіўшы безабаронную жанчыну, уштурхнулі яе ў сумежны пакой і ўмомант прывязалі ніцма да кастравых дошчак.

— Двадзесце! — як праз сон пачула жанчына грозны загад, і ў тую ж хвіліну, з лёгкім посвістам расцяўшы паветра, узвіўся бізун, апаліў, гадзюкай уеўся ў цела. Па спіне пацякло штосьці вільготнае, цёплае...

Спачатку востра-пякучы боль рваў на кавалкі цела, спачатку жанчына, хваравіта крыўляючы твар, да крыві кусала губы... А потым перад самым тварам закружыліся, затрымцелі лёгкія каляровыя кружочкі — меншыя, большыя, зыбучыя. Перад вачыма рассцілаліся пухкія малачавыя туманы веснавых паплавоў... Тонка звінелі, рассыпаліся тысячы драбнюткіх аскепкаў патрушчанага шкла... Бяздонная зяпа небыцця паглынала апошнія праблескі свядомасці.

...Сярод ночы, калі партыя арыштаваных была пераведзена ў турму — нечакана ўскочыў з ліхтаром наглядчык і крыкнуў:

— Адась Янскі!

Той, каго клікалі, — малады лодзінскі тэкстыльшчык — павольна ўзняўся, востра глянуў на цьмяны ліхтар у руцэ наглядчыка і паспешна пацiснуў усім рукі...

І яшчэ ўпаўголаса прашаптаў:

— Бывайце... Мяне, відаць, у расход...

Андрэй туга сціснуў вусны; на выцвілых вачах выступіла бліскучая муць. І калі забразгаў ключ у дзвярах, сказаў:

— Эх, гады!.. Такога чалавека!?. Самы цвет!

А гэтым часам у далёкай глухой вёсцы — адсюль за сотні кіламетраў — руплівы Іцка праводзіў нечарговае пасяджэнне бюро камсамольскай ячэйкі.

А як заірдзеўся ўсход тае начы чырванню макавай, як запал-

іўся небакрай дзівосным агнём світання, там за горадам, у полі, у рэдкім змроку, суха трэснуў абрывісты залп карабінаў. І жандары паспешна засыпалі вільготным пяском яшчэ глуха стогнучыя ў прадсмяротнай агоніі жывыя целы, нібы баючыся, што смяротнікі гатовы паўстаць з глухое, чорнае ямы...

Вакенца заплецена тоўстымі прэнтамі жалезных крат. Праз металічныя квадрацікі толькі часам урываецца праменне асенняга сонца.

...Халодная цэментовая падлога вярнула жанчыне свядомасць, развеяўшы жудасныя кашмары. Прахапіўшыся, яна ўзаперлася локцямі на брудныя шматкі пасцелі.

Падымацца не хацелася. Усё цела ныла густым болем.

Змучаны твар жанчыны раптам прасвятлеў. Яна дрыжачаю рукою асцярожна выцягнула з рызманоў пасцелі скамечаную паперку і ўжо мо дзесяты раз перачытвала напісанае дробнымі літарамі. То быў ліст з волі.

«Волька! Не сумуй! І другім скажы, не падаюць хай духам. За вас працуем мы. Расце наш партызанскі атрад — сын бунтарскай Белавежы. Учора вызвалілі арыштаваных, зняўшы па дарозе канвой. Часта бываю ў гарадскім падпольным камітэце.

Дык не сумуйце, любыя таварышы! Мы помнім, добра помнім свае абавязкі!

Нач. партызанскага атрада *Іцка*».

Які маленькі кавалачак паперы, а колькі радасці... жыцця!

І ў стукатлівым сэрцы жанчыны ярчэй распалялася прагнасць да змагання.

Турма вучыць любіць і ненавідзець... Добра сказаў нехта. Праўдзіва.

Жанчына закрыла твар рукамі і глыбока ўздыхнула:

— Хутчэй бы туды... Да іх. І — за зброю!

## КОРЧ

*Апавяданне*

Аратыя паехалі ў Лубяны, за гумнамі аддалялася жалезнае сакатанне калёс.

— Няшчасце? Якое няшчасце?..

На затравянелым росным прыгуменні я паспешна запрагаў

каня: сёння будзе ў нас гарачы дзянёк! Толькі ўзяўся засупоньваць хамут, — выбягае з-за гумна брыгадзір наш, Васіль. Белая шапка ўсхвалёвана збіта на патыліцу, а ў руцэ — барак ад парацоннага плуга: на бойку — не іначай! — спяшыць брыгадзір. Ён ніколі не ходзіць, як людзі, а ўсё подбегам, подбегам: мала часу чалавеку на багатыя справы яго.

Убачыўшы мяне, ён раззлавана сказаў:

— Што тут парадзіш! Няшчасце...

І — заклапочана, пануры — не спыніўся, пашыбаваў на вуліцу:

— А што?.. Што там, Васіль?!.

— Ды Антон!.. — адчайна махнуў рукою брыгадзір, нібы хацеў яшчэ дадаць: «Лепей не пытайся...»

З маіх рук выскачыла супоня, мільганула вёрткім хвастом яшчаркі.

— Няшчасце?.. Якое няшчасце?.. Антон...

За саламяным пачарнелым касяком страхі прыгожа і ласкава гарэла сонца — вялікае і маладое.

І не забуду таго імгнення, калі болем азвалася маўчаўшае сэрца, а рукі — незнаёмыя, дрыжачыя — не маглі завязаць супоні... «Цяпер усё зразумела, — падумаў я, — нават вельмі зразумела... І што ж гэта будзе?..» Нядаўна, можа тыдзень таму назад, ад'язджаў Антон у раённае мястэчка на аперацыю, і ўсе мы жадалі яму лёгка і скора выздаравець...

З невясёлымі думкамі выехаў я за сяло. Гэта былі тыя самотныя і прыкрыя разважанні, якія прыходзяць у ясны дзень жыцця пры напаміне аб смерці. З'яўленне на зямлі новага чалавека заўсёды выклікае моцнае здаровае пачуццё гонару і радасці за род чалавечы, за яго вечнасць. Смерць блізкага друга, як лахматая чорная хмара, кідае на душу цёмны траурны цень. Але прасунецца змрочная хмара, рассыпле па зямлі сонца залатое ззянне, і бадзёрача зазвіняць дзіцячыя галасы, і зноў прыходзіць у душу вялікая радасць. Бо не для смутку нараджаецца чалавек!

Трушком бяжыць сівы. Жаласна вызваньвае ланцужок плуга. Дрыгаціць у драбінах расслабленая лёстка. А на шырокім белым языку сашніка трымцяць, пераліваюцца як жывыя залатыя блікі малінавай раніцы.

— Няўжо памёр?..

Я не хачу гэтаму верыць, але нядобрая здагадка, як чорны цень месячнай ночы, неадступна палохае, нараджае гнятучую нуду па блізкім чалавеку.

Чаго яму было паміраць?

Мы ж разам хадзілі ў полі за плугамі... Так прыемна ступаць босымі нагамі па цвёрдых разорах, гладка выструганых сашнікамі...

Мы ж вечарамі, хораша агорнутымі блакітным шоўкам, любілі гукаць песні, задумна-радасныя, звонкія, быццам сонечныя вёсны.

І яшчэ будуць песні... Кожны вечар песні — раздольныя, песцячыя душу. Ніколі не змоўкнуць яны на зямлі нашай, бо неўміруча радасць... Бо безгранічны размах чалавечых імкненняў да кіпучай, напорыстай творчасці. Будаванне цуд-святліцы, імя якой — сацыялізм, самае вялікае шчасце для раскрыленых сіл душы чалавечай, і колькі б разоў ні прыходзіў ка мне смутак, ён не будзе доўгім госцем, ён знікне, як чорны альховы стырчак на сенажаці пад блакітнымі водамі шумлівых веснавых паводак.

Пад’язджаю к Лубянам і ад замяшання цягну каня не за тую лейчыну, але разумнае стварэнне бачыць памылку гаспадара і замест таго каб лезці на калючы ядлоўцавы куст, заварочвае на зялёны, у залаціста-срэбным акрапленні расы грудок, дзе мужчыны распрагаюць коней, здымаюць з драбін плугі... А ў плугах высерабраныя зямлёй сашнікі...

Цяплей гарыць сонца, і над размашыстай круговінай поля раставаць пачалі золкія туманы — сівыя вывадкі ночы.

...Даўным-даўно, пэўна ж, не за маю памяць, у звонкім старажытнім бары, каля балацяных Радовак, ускапалі працавітыя нашы прадзеды заросшую драцяным верасам прагаліну, шырока раскарчавалі кругом яе лес і назвалі гэтае месца Лубянамі.

Яшчэ малым хлапчуком насіў я бацьку полудзень у Лубяны. Памятаю, што сярод палетка, у залатым жыце, самадавольна гняздзіўся стары разлапісты дуб; пышнае галлё яго апускалася да самых каласоў. Заўсёды, калі я прыходзіў у Лубяны, маю ўвагу займала гэтае адзінокае дрэва. Я чамусьці ўяўляў, як журботна тут яму, сіраце палявой, асабліва ж восенню, калі на загонах ані душы і дождж імгліць бесперастанку. А ноччу зусім страшна, бо пагрозна трубяць у хмызняках ваўкі ды вільготныя вятры прыгінаюць к зямлі касматую галаву. А паблізу не свецяцца ласкавыя аганькі вясковых хат...

Тады я не ведаў — ды наогул, хто гэта мог згадаць, — колькі клопатаў і гаркаты можа прынесці чалавеку прыземісты стары дуб з чорным дуплом. Казалі, гаспадарлівы Антон намерыўся-

такі аднойчы паваліць яго, каб ачысціць свой загон, але як толькі пад ударам сякеры зябка ўздрыгнуў глухі камель, то зверху, з круглае чорнае дзіркі, выпукла аброслай тоўстым кольцам кары, хмарай высыпаліся рыжыя перавязістыя шэршні. Бяда, дый годзе. Хоць ад загона адракайся: з канём тут заўсёды трэба асцерагацца з-за гэтай немачы.

На шчасце, дуб спаліла маланка. Некаторыя меркавалі, што пад ім, у зямлі, павінен ляжаць камень, іначай вогненная страла пайшла б на высокі бор. Так яно ці не — цяжка сказаць. Тымчасам Антон навастрыў пілу і накіраваўся ў Лубяны з суседавым хлапчуком Янкам. Нават без злосці ўспамінаў ён вечныя скаргі Ахрэмчыка — назойлівага і злога, як агонь, чалавека. Торгаючы даматканыя, у крывую палоску штаны, паплёўваючы амаль пасля кожных трох слоў, быццам ад іх рабілася горка ў роце, Ахрэмчык не раз страчыў, як машына:

— Табе дрэва, дрэва — цьфу! — гадаваць, а на мой шнур цень, увесь цень, пад ім жыта не расце, — вунь як!.. Каб хоць — цьфу! — адну галінку адсек — цьфу!.. — для прасвятлення...

Спілавалі расколаны перуном камель дуба, пры саменькай зямлі. Узрадаваны і задаволены Антон павольна абцёр рукавом потны лоб.

— Твой бацька, — сказаў ён Янку, — не раз маракаваў з-за гэтага дуба. Мажа, яно і варт было. Толькі і мне гэтая ламачына расла не на радасць: каб якое вартае дрэва, а то ж — адны ралы.

Сярод загона чарнеў круглы пляскач пня.

— Ну, няхай, дабяруся і да цябе, — з усмешкай сказаў Антон і крануў наском бацінка востры кант пня, зрабіўшы той рух, якім спрактыкаваны чалавек збівае ў лесе чарвівы грыб.

Нават хацеў заспяваць, — можа, адвечную сумную песню пра поле ў скучанай блытаніне загонаў, якія — на момант здалося — пахнуць горкім потам... А мо вясёлае што, душэўнае — пра вёсны маладыя, далёкія, пра хітраватую ўсмешку чарнявай дзяўчыны... Замест песні з грудзей вырваўся хрыплы стогн, і Антон змоўк, быццам спалохаўся, што сапсуе сваім голасам задавальненне, выклікана сканчэннем прыкрай работы.

«Старэю...» — з тугою падумаў ён.

Ранняй восенню, аручы сваю палоску, парваў пастромак: за корань зачапіўся сашнік. Звязваючы тоўстыя нягнуткія вяроўкі, Антон злосна прыгразіў карчу, як жывому:

— Чакай, я табе дам рады!

Пасля абеду прывёз рыдлёўку, цяжкую сякеру і доўгі пад-

важнік. Каня прыпяў пасвіцца каля лесу, на зялёнай дарожцы, а сам пачаў завіхацца каля карча. Мякка шорхала рыдлёўка, уціскаючыся ў зямлю; час ад часу глуха абзываўся корань, тады, замест рыдлёўкі, узвівалася ў руках замашная сякера. Усё глыбей падкопваючыся, паперабіваў усе тоўстыя корані, але корч упарта стаяў у яме, як калека, на адной назе. Аднаму не зрушыць яго з месца.

Якраз Ахрэмчык дасяваў свой загон: размерана ступаў па пульхнай зямлі, несучы перад сабой сявеньку, як барабан; перад ім, рассыпаючыся залатым дымком, успыхвалі зярняты, а чалавечак машынальна дакранаўся свабоднай рукой да штаноў, быццам правяраў, ці не выпаў з кішэні кашалёк.

Антон паклікаў на дапамогу суседа.

— Яно — цьфу! — не забаўна, — няўрымсліва схапіўся Ахрэмчык за абедзве калашыны, быццам босыя ногі залівала вада — мутная і халодная. — Але няма калі. Скарэй забараную тут, скарэй — цьфу! — і на Прыдаткі. Жонка там з насеннем, уга — загрызе, ведзьма, — паспешна гаварыў, хмыкаў, пляваў пад ногі, а ў думках: «Адкасніся са сваім карчом. Мой конь не спаткнецца. Гэтага — цьфу! — карча і да вечара не вывернем. От яшчэ — цьфу! — Ахрэмчыку свае работы мала. Добра, што мой хлапчук памог...»

Крыўда, як агнём, апаліла Антонаву душу. Навылет бачыў ён Ахрэмчыка.

— От і людзі... Сусед... Драбней маку рассыпаўся, а па вачах бачу — гад...

Пераплеценае загончыкамі асенняе поле нагадвала агромністую кругавіну павуціння. Удалечыні рухаліся людзі — натужана, марудна, быццам валаклі на нарах стальныя ніці ўчэпістай павуціннай сеткі. Здаўна ляжыць на зямлі гэтае замыславатае плеціва вузкіх сялянскіх палосак — трымае ў палоне каласістую сілу зямлі, каменем замуроўвае адзыўчывы звон чалавечага сэрца.

З непрыемным асадкам унутры Антон пачаў прымайстраванне. Загнаў пад вытырклую лапу карча падважнік і з усяе сілы пацягнуў уверх, быццам хацеў сарваць усю накіпеўшую горач. Канец падважніка на той бок карча ўеўся ў зямлю. Антону ж здалося, што гэта корч паддаецца. Яшчэ раз паднатужыўся з гарачкі — і тут здарылася тое, чаго ніяк нельга было прадбачыць.

І магчыма, не таму, што разануў боль, а таму, што ашаломіла

нешта куды страшнейшае, амаль бязгучнае, змяінае, — магчыма, пагэтаму з мярцвеючым сэрцам паваліўся на раллю... Быццам пульхная, у крывавых пескавых плямах, глеба магла дапамагчы... Ніколі так блізка не ляжала зямля, — пахучая да дурману, рассыпчатая, нямая, такая знаёмая і праклятая...

Нібы з другога свету пачулася спалоханае войканне Ахрэмчыка. Голас суседа не ўзбадзёрыў, не падняў на ногі — ён толькі выклікаў узрыў горкай роспачы. Душа кіпела, нямеючы ў марознай замеці.

— Людзі...

Чамусьці здавалася цяпер, што ва ўсім вінават не сам, а гэты танцуючы сусед, што каб не было яго тут, побач, то Антон змог бы ўстаць, як ні ў чым не бывала...

Шалеючы ад болю і калючай крыўды, Антон падняў галаву і глуха, неяк адным горлам, выгаварыў:

— Прэч адсюль!..

А там, дзе хадзіў конь з апушчанаю галавой, расла даўней выносістая, з камлём у тры абхваты хваіна... Яшчэ малому яна ўрэзалася ў памяць, бо высока, на развілінах рал, чарнела буслава гняздо... На месцы старой хваты дружна і весела ўзвіліся зялёныя чубы маладых сасонак.

Той самы лес, зялёны, вечна зялёны, з задуменнымі перашэптамі...

Навакольнае было знаёмым, хвалюючым... Можа, таму не хацелася верыць, што здарылася страшнае, што скалечыў сябе навек.

«Як жа так?.. — здавалася, пытаўся ён маўклівым поглядам, пакутна і недаўменна. — Каб чужы, незнаёмы лес?.. А гэта ж...»

Праз тры вясны Лубяны сталі калгасным палеткам. На загоны ўрачыста ўзышоў грукатлівы трактар, звальваючы задзірванелыя грывы меж, рвучы векавую сетку разбітага на шнуры поля. Ап’яняюча пахла з’яднаная магутнымі плугамі зямля, шырокая, выпрастаная, з вараным адлівам. Маўкліва і пакорна чакала глеба казытлівага россыпу зярнят.

На трактары працаваў свой хлапец, сын Ахрэмчыка, — Янка.

Аднойчы на калгасным двары Янка запраўляў трактар перад начным выездам у Лубяны. Да яго няспешна падышоў Антон і, выбраўшы момант, калі нікога побач не было, загаварыў з напускною абыякавасцю, нібы раптам успомніўшы тое, што трэба сказаць:

— Ага, не забудзь жа: там, у палетку, корч. На маім палетку. Помніш — мы спілоўвалі разбіты дуб. Асцерагайся, каб машыну не сапсаваў. Той корч у зямлю ўрос, і гара — не зрушыць.

— Дробязь. Я ланцугом выцягну.

— А хіба можна?

— Як слова сказаць!

— То вырві, браток...

Даўно рупіла такі Антону вывернуць пракляты пень, бо заўсёды пазіраў ён з чырвонай упадзіны чорным злавесным вокам і выклікаў прыкрыя ўспаміны.

Янка выканаў абяцанне. У Антона аж на душы палягчэла. На месцы карча засталася толькі іржавая пляміна; з кожным годам яна цямнела, набліжаючыся да колеру глебы. Але дзіўна: усякі раз, калі даводзілася араць тут, на гэтым знакаметным месцы, Антону здавалася, што жывот пачынае балець востра і колюча, як і ў той страшны дзень.

У сяле з цягам часу забывалася Антонава няшчасце. Антон сам рад быў гэтаму. Здаровы ад прыроды, ён не любіў слухаць аб хваробах, тым больш прыгнятала яго, калі гутарка заходзіла аб яго ўласным недамаганні. Праўда, Антон не належаў да тых людзей, з якіх, звычайна, любяць у вёсцы ўдоваль пакпіць або проста — дабрадушна пасмяяцца, аднак і спачуванні нязносна было яму слухаць. Каб сказаў хто, а то ж Ахрэмчык — недаморак гэты, верабей, у прыгаршчах схаваеш яго, а — глядзіш — і ён з такой нахмуранай сур'ёзнасцю ківае галавой, нібы яму — здароваму, вясёламу ад усведамлення сваёй сілы — сапраўды балюча за другога...

Кволячыся, Антон нікому не скардзіўся, нават жонцы. Адно што твар тады цямнеў, а на сківіцах, пад загарэлай скурай рухлівымі ўзгорачкамі вызначаліся жалвакі.

Толькі не схаваеш ад жонкі, адразу пазнае, быццам усяго і справы ў яе, што сачыць за мужам. Прыціхне, спахмурнее яна, — жанчына чулым сэрцам сваім мацярынскім заўсёды адгадае нават тайны боль чалавека.

І шапатком, нібы перадаючы страшную весць, запытаецца:

— Баліць?..

Ах, як не любіў гэтага Антон! І якраз за тое, што ў трывозе жонкі была праўда, панура злаваўся:

— Баліць, баліць!.. Нечага рабіць — выдумляеш...

— То чаго ты... Я ж табе не ліхадзейка. Колькі разоў гаварыла — пакажыся ў больніцу, такі ж далі б якую раду.

— Ад такое хваробы не памогуць.

— Глядзі, чалавеча, каб не было позна. Можна ж і ў Слуцак, там, ведама, лепшыя дактары. А як будзеш гнуцца ды цярпець, то можа кепска выйсці...

Словы жонкі спраўдзіліся.

У час сенакосу Антону стала зусім кепска. Але ён не пакідаў работы. Дзень у дзень то махаў касой, то вазіў з поля сухую канюшыну. Спаборніцтва з другой брыгадай было ў самым разгары, вечарам калгаснікі тоўпіліся каля праўлення. На сцяне вісела «Дошка тэмпаў», паказваючы выпісанымі мелам лічбінамі вынікі працы за дзень. Першая брыгада, у якой працаваў і Антон, садзілася ўжо на поезд: пераходны сцяг, можна сказаць, быў у яе руках. Калонка, над якой імкліва ляцеў самалёт, сімвалізуючы рэкордныя тэмпы, была яшчэ незапоўненай. Антону страх як не хацелася выходзіць са строю. А то часам закрадалася горкае сумненне: «Брыгадзір яшчэ пакрыўдзіцца, маракаваць пачне: у самы, моў, непадыходзячы час брыгаду пакідаеш, Антон». Ды к таму ж, наогул, не выйсці на поле, выпусціць з рук касу — значыць здацца, канчаткова прызнаць сябе слабым. Вось тут і памяркуй, як быць. Учора брыгадзір пакінуў Антона ў гумне таптальнікам, а не паслаў звазіць канюшыну, як тыя дні. Антон сам ужо хацеў папрасіць лягчэйшае работы, але выйшла так, што брыгадзір загадзя як бы адгадаў яго намер. «Мабыць, я асунуўся, і Васіль бачыць...» — падумаў ён.

Хвароба ўжо сагнула Антона. Плечукі неяк выдаліся ўверх, спіна прыгорбілася, нібы за плячамі быў дзесяціпудовы мяшок.

Нарэшце прызнаўся жонцы, неахвотна, з нудою, быццам аддаваў на здзек самае дарагое, любімае:

— Ну, нешта нездаровіцца...

Быў вечар. За акном хораша сінела. Чуліся хвалюючыя словы песні:

Эй вы, росы, мае росы —
Чыстая вада,
Роўна сцелюцца пракосы —
Косіць грамада.

— А што?.. Не гаварыла табе?

— Маўчы...

— Лезь на печ. Кажуць, памагае...

Пад той час зайшоў брыгадзір, не ўвайшоў, а ўляцеў, — белая шапка толькі мільганулася цераз хату. Прысеў каля стала, а за плячом яго сінела вечаровая фіранка, а дружная песня ўсё мацнела, заклікала:

Эй, рэж, каса, рэж, рэж,
Мы не ведаем меж, меж!

— Дзе ж Антон?

— Дома я, дома... — заварушыўся той на печы, злазячы.

— Чаго на печы поўзаеш? Чарэн праломіш.

— Папружка закінулася, не знайсці...

— Хлусіць! — не стрывала жонка. — Жыватом кволіцца, вось.

Антон адвярнуўся ад вісячай лямпы, шарыў у кутку, на стыку лаваў, здзіўляўся:

— Дзе гэта мая шапка?

Жонка не змаўкала — было перад кім выказаць крыўду.

— У яго ўсё пагубілася... Дзіва, як не згубіў сёння галавы. А таго не скажа, што хворы, што счарнеў як зямля...

— Чуеш? — загаварыў брыгадзір. — А чаго ж маўчыш, Антон?

— Хіба ён прызнаецца!..

— Я не так прыйшоў к табе, Антон.

— Гавары... — глуха сказаў гаспадар хаты і павольна апусціўся на лаву.

А за плячом брыгадзіра сінню дзівоснай мяккасці і хараства свяцілася фіранка змрокаў... А белая шапка значылася на фоне засінелага акна, як залучыўшы ў хату на праведы месяц-маладзік.

— Гавары, я ўжо знаю...

— Кожнаму відаць — прыглушыла цябе хвароба. Яшчэ пазаўчора бачу: нешта няладнае з чалавекам. Заікнуўся табе, распытаць хацеў, а ты не сказаў, праўды не сказаў. Я падумаў: можа, так і ёсць — фельчар з мяне невялікі. Аднак, бачу ж па твары тваім, што неўмагату табе падняць добрую ладку канюшыны на высокі воз. Каго ж табе абманваць? Гуртом памаглі б, а ты няхораша робіш і для сябе, і для ўсіх нас...

— Праўда, занядужаў я, чалавеча, — не падымаючы галавы, прызнаўся Антон, адчуваючы віну перад сваім брыгадзірам, віну за тое, што зманіў, што нядобра неяк падумаў аб ім. Цяпер Антону здалося, што на самае сэрца капнула срэбная звонкая сляза спачування, ад яе шырыцца сэрца, напаўняе грудзі гулкімі ўдарамі нязнанай дасюль радасці. Бадзёрыла ўсведамленне таго, што не адзінокім астанешся ў няшчасці, што людзі-таварышы твае па рабоце зробяць усё, каб не туманіла вачэй тваіх росная муць гаравання, каб быў ты і дома і ў людзях гэтакім шчаслівым, як і яны.

— Занядужаў, — гаварыў Антон без смутку і спакойна, як аб перажытым, бо ў глыбіні душы адчуў, што яму дапамагаюць выбавіцца з няшчасця. — У мяне туга ад гэтае хваробы. Не прывык я па больніцах хадзіць. Раз паказаўся туды, дык, не прычакаўшы чаргі, уцёк: не магу на хворых глядзець, і яшчэ гэты больнічны смурод.

— Добра, — перабіў яго Васіль. — Ведаеш што? У Чырвоную Слабодку прыехаў мінскі доктар — хірург. Спрытна, кажуць, аперацыі робіць, ужо многім лішняе павыразаў.

— Страшна нож пускаць у цела...

— Хіба хочаш, — трэба, як гаворыцца. Не з дабра пад нож кладуцца.

— Які ўжо работнік з латкаю на целе, — палавіны цаны яму няма.

— Нават не гавары. Едзь. На поле не пушчу, як сабе хочаш. Каб лішняе выразалі, то не знаў бы ты пакуты. Хіба гэта жытка — з хваробаю ў здаровым целе? Бяры каня ды едзь.

— Хай трохі з уборкаю ўходзімся.

— Уборка — не прычына. Збірайся, як табе кажу, і едзь. Адклад — не ў лад. Табе не на раду напісана з ганьбай векаваць.

— Пагляджу, — уступчыва сказаў Антон, — памяркую.

— А іначай праўленнем пастановім — не выкруцішся, — засмяяўся Васіль і ўстаў: — Трэба бегчы.

— То чаго ты прыходзіў?

— Так сабе зайшоў, бачу — свет у хаце, дай, думаю, забягу, — і ўжо стукнуў дзвярамі, за акном мільганула белае — шапка брыгадзірава. «Маніш, — усміхнуўся ў душы Антон, — ты так, без дзела, не ходзіш...»

Яго ўзяло раздум’е.

— А што каб паспрабаваць? Горш не будзе. Такі ж праўда: чаго мне насіцца з гэтаю хворасцю?.. Нязручна, як у полі, на рабоце, так і дома. Трэба, каб усё ў спраўнасці. Хай рэжуць, мо паможа...

Змучаны недамаганнямі, ён з радасцю ўхапіўся за гэтую думку, але, адчуваючы, што наперадзе яшчэ многа разваг і меркаванняў, і ўголас нездаволена:

— Не можаш, Мар’я, прыдзяржаць язык...

— Язык дзяржаць, — загарэлася злосцю жонка, як уколатая. — Цябе ў газетку прапячаталі, табе слава за працу тваю... Саромеўся б насіць хворасць паганую.

— Ну-ну — разышлася... — насупіўся Антон.

А сказаць праўду, яму так захацелася ехаць к таму мінскаму доктару, што, здавалася, пайшоў бы запрагаць каня нанач. Уявіў сябе здаровым, дужым, як у маладосці, — тупаў па хаце, курыў папяросу адну за другой.

Ужо за поўнач выйшаў у халадок сянец, на ложак, і ўзрадаваўся, што жонка, напрацаваўшыся за дзень, спіць моцным сном: прыемна было аддацца няспынным маўклівым разважанням — яны абнадзейвалі і радавалі. Усю ноч напралёт не заснуў, ляжаў з мокрымі вачамі і, здавалася, што бачыць гэтыя ціхія слёзы — драбнюткім срабрыстым россыпам дрыжаць яны на расніцах...

Так рупіла яму хутчэй у больніцу — да доктара!

Назаўтра, у тым жа нецярплівым і нервовым чаканні, прыехаў на машыне (якраз ішла на базу па бензін) у Чырвоную Слабодку і астаўся ў больніцы.

Чакаў аперацыі з надзеяй. Гатоў быў на самыя страшныя мукі, абы знайсці здароўе і зноў адчуць у целе дужасць.

З доктарам выйшла ў Антона нечаканая размова. Доктар — энергічны нізкарослы мужчына гадоў трыццаці — рабіў абход палаты напярэдадні аперацыі. «Заўтра ён пусціць нож у маё цела...» Прысеў на Антонавым ложку, абмовіўся словам-другім, а тады і кажа:

— Гм... Ваша прозвішча я сустракаў у газеце.

— Праўда, — адказаў Антон, дзівячыся: галава якая ў доктара! — і, акрамя чырвонай лысіны, яго ўвагу прыкавалі вялікія ўдумлівыя вочы; здавалася, яны бачаць чалавека наскрозь, як і належыць незвычайна мудраму доктару. І не зважаючы на непрыемны халат, Антон адчуў, што нічога страшнага — такому можна даверыцца. — Праўда, было апісанне маёй працы.

— Сябры па шчасцю, — усміхнуўся доктар і выйшаў, неяк цвёрда і рэзка ступаючы кароткімі нагамі. Белымі крыллямі разляталіся ўбакі крысы больнічнага халата.

Тая памятная раніца была сонечнай. Яшчэ на світанні кроўю гарэла за акном прадаўгаватая хмурынка, як свежая рана на кволым і аксамітным целе неба. Маркотна стала Антону, а на калідоры нязмоўчна шыпела, аглушальна пасвістваючы, нейкае прыстройства, бянтэжыла думкі. А збоку, на суседнім ложку, прыпадняўся збялелы хлапец, шэпча:

— А ці вельмі баліць?.. Ці баліць?.. Душа млее... Дзядзька, не баішся?..

— Чаго там, я ўжо на сваім вяку ўсяго бачыў.

— Баюся... А ці доўга робяць?.. — не адстае, назаляе хлопец.

Ледзь не вылаяўся: «Праваліся ты, блазнюк, прычапіўся... І без цябе тут...»

А гугнявы Захвей не мармыча песень, ляжыць з закрытымі вачыма, але не спіць і ён...

Антон уявіў, што скора ўсё скончыцца і добра. Настане палягчэнне. Усведамленне гэтага вярнула яснае самаадчуванне.

І ў высокае акно білася ўжо сонца, як жывое, як птушка з залатымі крыллямі, што нясе гаючы бальзам з далёкіх шклістых крыніц і бадзёрачыя янтарныя пахі з сыр-бору...

У палаце — светласць і цішыня-цішыня...

Першым паклікалі Антона.

Непрыемна здзівілі сядзелкі з завязанымі марляй тварамі. Тут усё было дзіўным, незнаёмым. Пасярэдзіне пакоя — шырокі стол, на ўскраі яго паднос з кучай бліскучых інструментаў. Павінна было адбыцца нешта незвычайнае, таемнае. Сядзелкі ўжо разгортвалі вялізную карычневую простыню — на ёй бліснуў касы прарэз.

А лысы доктар загаварыў аб другім:

— Пацікавіўся праверыць газету, правільна — ваша імя. Пра нас, выйшла так, у адным нумары напісалі. І вось сустрэліся, так сказаць, на маім участку.

— Весялей было б, доктар, стрэцца на калгасным полі, а па вашым...

— Дробязь, праз тры дні зможаце хадзіць на прагулку ў поле.

Высокія белыя сцены. Зялёная галінка махае ў акно, а сярод лісця рассыпаліся яблыкі, сокам наліваюцца. Нейчыя ж рукі выгадавалі такую ўрадлівую яблыню!

Над вачамі навісла карычневае пакрывала, а ён бачыў, не выпускаў з памяці абвіслую галінку ў густым россыпе буйнеючых яблык.

У гэты дзень, пра які я расказваю ў пачатку апавядання, мы выехалі даворваць канюшынішча.

Выехалі рана, паднялося нашае сонца, пад ім свяцілася тлустая клейкая ралля.

І нечакана вось — ён, той, пра каго я думаў...

Іду, як да сонца, — насустрач добрай усмешцы высокага плячыстага чалавека. Мы не заўсёды былі сябрамі — пажылы і малады.

Пасля радаснага ўзрушэння і спешных кароткіх запытанняў прыходзіць раздум’е: «Пра якое ж няшчасце гаварыў брыгадзір? Нешта ёсць... А дзе няшчасце?»

Мерна ступаюць коні, а за плугамі — схіленыя ў напружанні спіны аратых. Спераду ў мяне агромністы Антон, плечы яго засланяюць каня, толькі збоку відаць, як ківаецца касцістая галава гнядога, быццам жывёліна згаджаецца прыняць пад увагу выкрыкі аратага. Я заўважыў, што на тым месцы, дзе калісь стаяў стары дуб, Антон рэзка ўзмахваў пужкай, пакрыкваў басавіта і строга, а потым зноў яснелі, гучэлі звонка і лёгка новыя ноткі ў голасе яго. Гэта добра, калі чалавеку весела, калі праца нараджае безгранічнае задавальненне.

Люблю і я пругкае ўздрыгванне ручак плуга, люблю хадзіць па гладкай свежай разоры. Не ведаю, ці ёсць на свеце другая крыніца такой крыштальна-чыстай радасці, якую прыносіць праца. Вольная, хвалюючая, бясконцая ў багатай сваёй разнастайнасці, яна асвятляе шпаркі бег нашых дзён, будзіць да дзярзання творчы дух чалавека, яна ў сэрцах людзей нараджае пачуцці нязнанай дасюль прыгажосці.

Выпрагаем коні: хай пасуцца на лужку. А мы пряляжам на ўзлеску, пад цёмным конусам старажытнай яліны: трэба ж адпачыць; падсілкуемся ды зноў да працы. Сонца высушыла траву нават тут, у зацені; а трава — зялёная, пахучая і ласкавая.

— Аддыхнем, Валодзя: мы папрацавалі, — кажа дзядзька Антон, і ад яго добрай усмешкі ясней становіцца ў маёй душы.

Прылёгшы каля мужчын, ён пазірае ў поле, шырокае, далёка агорнутае сіняватым вянком лесу... Шэрае вока прыжмурана ўсмешкай, якую нельга стрымаць, затоіць.

Так заўсёды. Прыйдзе перапынак у рабоце, адчуваем стомленасць, і разам з тым нейкая асаблівая гордая радасць напаўняе ўсю істоту.

Гэта ж нашы рукі вадзілі тут плугі, нашы ногі абходзілі гэтае поле, і вось — шчыльна прыляглі адна да адной баразны, як зыбучыя чорныя хвалі.

Павеяў цёплы вецярок, ласкава крануў светлыя потныя валасы на Антонавай галаве. Загарэлы твар з рэзкімі ўпартымі рысамі злёгку кранут бледнасцю, быццам больнічныя сцены палажылі на ім свой водбліск. Я не магу забыць нядобрага слова брыгадзіра аб няшчасці, асцярожна распытваю Антона пра больніцу. Ён адказвае нехаця, як чалавек, заняты інакшымі клопатамі, больш пільнымі і цікавымі. Нарэшце, магчыма, каб адвязацца ад непрыемных запытанняў, сказаў:

— Горка там, Валодзя. Не любіць чалавек больнічнага хлеба, а мне давялося пакаштаваць. Мой бацька (каб ты ведаў) памёр, не знаючы, што такое хвароба. Дужы быў чалавек, любіў ён

гаварыць: «Ты, Антон, на мой капыл роблены; еш горкае, пі кіслае, памрэш — не згніеш». Не вытрымаў Антон высокае маркі... Пастукаўся ў больнічныя дзверы. Пекла, скажу табе.

Я аж сумеўся:

— Даглядалі кепска?

— Не ў тым справа. Ад таго, можна сказаць, і бяда, што сёстры глядзяць за кожным тваім паваротам, не чыхнеш без дазволу. Скажам, калі чалавек пры вялікай гарачцы — даглядайце, ратуйце, а я, можна сказаць, у поўным здароўі. Чаго ж вы каля мяне танцуеце?

— Ля хворага жанчыне няма ніякага натхнення, радасці ніякай, — заўважыў чорны ад загару Макар і, дапаўняючы сказанае, хітра ўсміхнуўся здаровымі белымі зубамі.

— Такі ж праўда. Чаго вы каля мяне, калі я на трэці дзень у садзік выйшаў. Як рукою зняло.

— Ведама — доктар мінскі, там спецыялісты, — заўважыў Макар і дадаў: — Усё гэта добра, толькі пасцярогся б. Няўрокам кажучы, каб не зашкодзіла. Хвароба — наравістая баба, далікатна трэба яе выжываць.

— Ат смяешся хіба. Другі Васіль, гэта той уз’еўся, гармідар падняў.

— Васіль? За што? — спахапіўся я, зразумеўшы, што тут трэба шукаць разгадкі таго, што загадаў мне брыгадзір.

— Ёсць яму лад, — і, нахмурана памаўчаўшы, неяк углыбіўшыся ў самога сябе, загаварыў: — У той больніцы душа мая збалелася. Пад’ясі, газетку прачытаеш, выспішся, а нечага не хапае. Трывожыць нешта, не адступае. І такая мяне нуда апанавала, што не выказаць. Раз гуляў у садзіку. Адтуль поле відно, і песню чую, жанкі спявалі. Ішлі жытнім палеткам і спявалі, толькі касынкі відаць — чырвоныя, белыя, зялёныя... І здаецца, не ідуць яны між жыта, а купаюцца, плывуць у залатым моры... Узяло мяне за сэрца, дыхнуць не магу, — чорт ведае што!.. Калгаснікі, думаю, на работу ідуць, а мне тут сноўдацца... Сарваў бы, здаецца, з сябе балахон гэты — халат з доўгімі рукавамі — і туды, на поле, дзе праца... Без работы быць — няма страшнейшае кары для працавітага чалавека. А брыгадзір...

— От ён сам ідзе, — сказаў сусед мой, Макар, — лёгкі на ўспамін.

— Ну, быць вайне... — устрывожыўся Антон.

Прыпадняўшыся, я ўбачыў, як між сосен, за густымі кустамі арэшніку, мільгае белая шапка. Брыгадзір набліжаўся з таго боку, дзе хораша пахлі хвоі смалой-жывіцай, дзе чуўся перабоісты,

нейкі срэбны і струнны посвіст лясных птушак. За арэшнікам пырхала шапка, як белая птушка шчасця.

— Ты тут, — ціха сказаў і аслупянеў Васіль, у твар кінулася чырвань. — Прэч з поля! Прэч!..

Задрамаў быў Ахрэмчык, усхапіўся на крык, працірае вочы, дапэўняецца:

— Запрэгчы?.. Хто крычыць запрагаць?..

Гэта рассмяшыла Макара. А я ў гэты момант проста быў збянтэжан і не разумеў, чаму каменна сціскаюцца Васілёвы губы.

— Дзе тваё слова? — сказаў ён пагардліва, але ўжо астываючы, нават як бы раскайваючыся, што гарачыўся. — Даў слова не ехаць, а тут — на табе!.. Прасіў жа цябе як чалавека...

— Памірымся, Васіль. Я табе так скажу: заваявалі мы пераходны сцяг, так што бараніць яго трэба. Другая брыгада нас даганяе, тваёй бы душы балець...

— Не вельмі ўгледзіш збоку — баліць ці не брыгадзірава душа. Толькі не аб гэтым гаворка. У нас праграма такая: усё — для чалавека. І работа — на вялікую радасць... А ты ідзеш на калецтва, сам ідзеш...

— Далёка забягаеш, я ж не блазан, бяру па сіле, я чую сябе.

— Разбярэшся з табой... — аціхаў брыгадзір. — Як след не акрыяў — і на поле. Ды мяне ж за такое, што дапусціў, мала пад суд аддаць, не то што... Думаеш, людзі маўчаць будуць? Адразу цэляць: хворага, скажуць, пацягнуў Васіль на работу, абы сцяг заваяваць... — і як бы ўспамінаючы далёкае, мулкае, з глухою крыўдай праказаў: — А душа, можа, і баліць... Чужы боль цяжка прачытаць... Можа, і баліць... Толькі няма пякельнейшага болю, як за чалавека... Няшчасце мне з табой. Папсуеш лячэнне, тады сам пакаешся...

Мы запрагалі коней у плугі. Зноў за работу. Хітравата і расчулена ўсміхаючыся, Антон казаў мне:

— ...Я асаду жонкі насілу вытрымаў. Што ты зробіш з жаночым праціўленнем! Прычэпіцца, як калючка да адзежыны... Вырваўся неяк, абмануў. А тут брыгадзір, як каршун, наляцеў (прынесла нялёгкая). «Не дазволю, кажа: цябе ў чалавечы выгляд настроілі, а ты не хочаш пасцерагчыся». Я давай яму, што мне дазволена, што моташна без працы і радасці няма, — куды! — слухаць не хоча. От я і гэтага абмануў: няхай, кажу, калі такая воля твая — не паеду. Думаеш, каб няможна, то я паехаў бы? Хто свайму здароўю вораг... Але ж мне доктар засведчыў сваім словам, што лёгкая работа не зашкодзіць. Цяжкое падымаць — гэта яшчэ нельга.

Я любуюся маляўнічым хараством таго, што разгортваецца перад вачамі.

Над кучаравым старажытным сыр-борам, агорнутым кволай сінню смольнага дыхання, чародамі белакрылых лебедзяў падымаюцца, плывуць воблачкі. Захопленае іх плаўным лётам, падае сонца на срэбныя пругкія крыллі... Сядзе сонца на імклівыя лебядзіныя крыллі і, нібы схамянуўшыся, зноў узлятае ўвысь ды ідзе спрадвечным блакітным шляхам сваім, саграваe планету нашу і любімца свайго — чалавека.

У прыспешаным бегу дзён будуць падаць светлыя дажджы, ткучы празрыста-паркалёвы ўбор для зямлі.

На радасць людзям запаліць сонца не адну каляровую вясёлку.

І ад той ружовай плямінкі на лубянскім палетку не застанецца і следу.

Я гляджу на выпрамленыя шырокія плечы Антона і ў моўным гэтым сузіранні думаю: «Толькі не зрушыш з душы чалавека ўспамінаў: скамянелай крыўдай леглі яны там, як маўклівае і страшнае пракляцце старому свету. І няхай. Няхай не змаўкае гэтая святая нянавісць».

А поле наша — шырокае ж, шырокае — абведзена сінявым вянком лесу... Не верыцца, што тырчала тут дуплістае дрэва, з-за якога гэтулькі пакутаваў чалавек.

Ляжыць цяпер поле каля ног нашых — чыстае, прасторнае, без задзірванелых меж. Яно то ціха спускаецца ў нізіну, то падымаецца плаўнымі ўзгоркамі, сходжанае нашымі нагамі поле — шырокае, шырокае...

За работу, хлопцы!

*1939 г.*

## ГЕНЕРАЛ
*Навела*

Некалькі дзён засаб стаялі звонкія маразы. Нават высокае неба нагадвала сабою сінявата-халодную размашыстую ільдзіну.

Па вуліцах мястэчка людзі не хадзілі, а проста бегма беглі, каб хутчэй схавацца ў хату.

А ў суботу неба пашарэла, стала срабрыстым, быццам выкаваным з настыўшага на марозе металу, і здавалася — простым вокам заўважыць можна было ў паветры мігатлівыя матавыя

іскаркі, якія халодным агнём абдавалі твар і рукі... А тут яшчэ к абеду ўсхадзіўся вецер — няласкавы госць далёкай поўначы.

У намёрзлую сцяну Іванавай хаты глуха пастуквала няшчыльна прыбітая аканіца, пастуквала ўпарта, патрабавальна, быццам намагалася разбудзіць гаспадара, задрамаўшага на цёплым чарэне печы. Мо таму неспакойным быў яго сон. Толькі самкнуў павекі, як пачуліся басавітыя галасы гармат...

Быццам раз-поразу б'юць, гнеўна перагукваюцца рускія і нямецкія батарэі, з аглушальным трэскам узнімаюцца к небу чорныя слупы зямлі, і ў кароценькую хвіліну зацішку Іван з болем думае: «Як жа па такім полі мужык з плугам пойдзе?.. Адны ямы чортавы...» А высокія крутыя ўзгоркі, што ясна вызначаліся на крывавым схіле неба, нагадвалі чорныя нарасты на параненым целе зямлі...

У памяці былога салдата рускай арміі пачынаў уваскрасаць фронт каля Мілейкава, але нечакана грукат страшнай сілы адагнаў сон, прымусіў усхапіцца. Ад прыкрасці Іван адразу ледзь не плюнуў: гэта ж думаць — так прыплялося ў сне даўняе! — як зноў, зусім блізка, грукнула цяжкая гармата.

— Ого-го!.. — заварушыўся Іван. — Дык гэта ж з настаяшчае!..

І раптам, расколваючы цішыню, басавіта і таропка загаварылі гарматы. У маленькія перапынкі паміж стрэламі чуваць было, як пявуча адклікаюцца ваконныя шыбы ды шуміць, шуміць і пасвіствае за сцяной вецер...

Старая спалохана тупала каля покуці, зазірала то ў замураванае марозам акно, то падымала вочы на зашклёнага ў цёмнай выцвілай рамцы Бога...

— Іван... Чуеш?..

— Не глухі, можа, — чую.

— Мацвей сышоў, і нявестку чорт у скудзельніцы пагнаў, а тут вайна... О! — чуеш, як бухаюць... От, о!..

— Ах, як табе страшна! — насмешліва загаварыў Іван, асцярожна спускаючыся з печы. — Ах гэтыя бабы!

— А ты слухай, — прыцішыла старая голас, — можа, не дай Бог, можа, зноў палякі...

— Палякі, палякі! — не залюбіў Іван, не даў старой нават дагаварыць, бо яна, як відаць, разагналася была яшчэ нешта сказаць. — От выпаліла. Палякі... От дадумалася! Панам строга загадана, каб сюды больш не смелі паказвацца, а ты — палякі...

Аднак жа, праўду кажучы, Іван сам не на жарт занепакоіўся:

— Ліха яго знае, што там на белым свеце... Вайна — не вайна, а такі нешта ёсць. Поблізу войск жа нідзе не было. Ды каб сказаў манеўры — таксама не можа быць, як пагода непадхадзяшчая: мароз, вятрыска... Ого, ды з двух бакоў! От б’юць дык б’юць!..

Хата Іванава абнавілася, адразу набыла святочны выгляд. Сам Іван памагаў гаспадыні мыць падлогу, старанна выціраў мокрай анучай ваконныя шалёўкі, пераплёты рам, расстаўляў на свае месцы рэчы, — адкуль толькі ўзялася у старога такая жвавасць!

— Падлогу вышаруй, каб блішчэла, ды хутчэй жа... — сумяціўся Іван, не знаў за што ўхапіцца, к чаму рукі прылажыць. — Абразы хіба выцерці, а то гразі на іх не раўнуючы як... Або — слухай — так: саўсім багоў здымем!

Палашка недаўменна і часта замаргала, быццам калючы зімовы вецер разануў яе па вачах.

— Што ты гаворыш?.. Перад святым днём... Што ты...

— Як што? — расхрабрыўся Іван. — Як што? Каб нашаму генералу вочы мазолілі? Ды ці знаеш ты, што такое ёсць — генерал?!.

Ад свайго ён не адступіў. Беражна зняў густа запыленыя абразы, вынес іх у сенцы. Узбуджаны радаснай весткай, ён, каб прымеў, то гатоў бы хату ўсю нанава перабудаваць.

Скора гарматы прыціхлі, і вецер данёс зласлівы стукат кулямётаў...

— Настаяшчая вайна! — задаволена смяяўся Іван. — Каб кварцір’ер не забег, хто б яго ведаў, што такое творыцца. У такую няхвілю! На фронце, вядома, і ў нас так здаралася: у самую непагоду на непрыяцеля ішлі. Як пачнем, бывала, з гаўбіц, — аж зямля стогне і неба гудзе, як медны звон... А каб яшчэ навуку далі тады нашаму брату, — летуценна ўздыхнуў Іван, міжвольна ўспомніўшы кплівыя насмешкі тупога унцера, які настойліва імкнуўся пагасіць дапытлівасць маладога салдата, — каб навуку к нашым рукам, к смеласці нашай, — ніякая сіла на свеце не ўстаяла б супроць нас...

— Ух, які храбрэц!

— А табе адкуль знаць. Можа, і храбрэц. Праз зладзюгу-унцера залатога краста не палучыў, а па заслугах выходзіла...

— Выхваляйся ўжо, выхваляйся, — дапякала Палашка, недавольная самаўпраўствам Івана над святымі ўгоднікамі: аж пад ложак, у нейкія лахманы запхнуў...

— Ат, што з табой... От ідзі дастань чыстую рубашку.

Навёўшы ў хаце парадак, Іван доўга мыўся, шумна плёскаючы ў твар сцюдзёнай, з крыштальнымі льдзінкамі вадой...

— Я ўжо з ім пагавару, — радаваўся ён. — Пра ўсё на свеце распытаюся! От пагавару... Такая цяпер калатня па чужых дзяржавах, столькі крыві, а к чаму яно ўсё? Англійцы сашчапіліся з немцам, італьянцы з грэкамі, пэўна ж, люду нявіннага гіне цьмацьмушчая, — а чым жа гэта ўсё скончыцца? Хіба можа свет цярпець такую няпраўду? Распытаю, хай расталкуе...

Іван усхвалёвана расхаджваў па хаце, мысленна ўжо ўступаючы ў размову з генералам, засыпаючы яго пытаннямі; станавіта пагладжваў пышную пасівелую бараду, касіў вокам на багата расшытую чырвонымі ўзорамі манішку святочнай рубашкі.

У пасвятлеўшай хаце тонка пахла нейкім асаблівым лугавым араматам, які бывае пасля мыцця падлогі, і здавалася, што за акном не лютыя маразы студзеня, а майская цяплынь, і гарыць у небе залатое сонца... Па-ранейшаму злаваў вецер, шастаў, як сляпы, па сценах, але не мог ужо ўчапіцца за шчыльна прыбітую гаспадаром аканіцу.

Тым часам па ўсім мястэчку таропка рыхтаваліся да сустрэчы дарагіх гасцей, прыбіралі ў хатах. Нямеркнуча жылі ў памяці людзей вялікія падзеі восені трыццаць дзевятага года. Тады трыумфальным маршам прайшлі тут пяхотныя палкі, прагрымелі матарызаваныя злучэнні, праскакалі казакі на гордых конях, — часці чырвоных насцігалі і разбівалі ўшчэнт астаткі бясслаўна паўшай польскай арміі, гналі прэч адвечных катаў беларускага народа. Таму не дзіва, што вестка аб размяшчэнні энскай дывізіі на начлег гэтак моцна ўзрадавала местачкоўцаў.

— Гэта ж думаць: такі чалавек! — не перастаючы цвярдзіў Іван. — Такі чалавек!.. Ну, ці скора ж ён?..

Некалькі раз нават выходзіў на двор, прыслухоўваўся, — замоўклі стрэлы, і зноў у ваколіцы стаяла звычная цішыня, толькі пасвістваў вецер, абдаваў магучым халодным дыханнем...

— Няўжо павярнулі на другі шлях? От яшчэ... — астываў, хмурыўся Іван.

Хвіліны працягваліся гадзінамі.

Нарэшце пад самым акном, казачна распісаным срэбнымі ўзорамі, пявуча ўскрыкнула аўтамабільная сірэна.

Іван не мог знайсці сабе месца. Ён адразу нават не разгледзеў як след генерала, пакуль той, коратка і весела прывітаўшыся, прытупваў у парозе, абіваючы з валёнак снег. Толькі потым,

як госць зайшоў, прыгнуўшыся, у баковачку, Іван успомніў, што ён вельмі ж маладжавы і статны, апрануты ў кажушок. Прызнацца, гаспадар чакаў чалавека пажылага, грузнага, можа, нават з абвіслымі шчокамі (чамусьці так яму ўяўляўся вобраз генерала) — і невыказна здзівіўся, убачыўшы на парозе сваёй хаты воіна зусім маладога, амаль юнака.

— От табе і раз... — ледзь не прагаварыў уголас Іван, успамінаючы высокую статную постаць і рэзкія жвавыя рухі ваеннага. — У кажушку, у валёнках, без ніякіх там украс... Праўда, яно кажух зімою — надзейная справа, не шынель які-небудзь... Але як такі малады выйшаў у генералы? Дзівота адна!..

— Нарэшце адпачну, дзве ночы не давялося спаць, — загаварыў госць, распранаючыся.

Голас яго быў звонкі, вясёлы, і адразу Іван улавіў у ім тыя ноткі, што гучаць у голасе гаспадарлівага чалавека, які расказвае пра хораша зробленую работу. «Чорт яго знае, — строіў дагадкі Іван, — можа, з выгляду, скажам, малады, а на галаве лысіна да патыліцы. Чаго не бывае на белым свеце...»

— Малых у нас няма, спакойна можаце адпачыць, — пачціва загаварыла старая, прымайстроўваючы на прыпеку трыножкі, каб сагрэць чаю. — Адно што, можа, баковачка цесная, прабачце ўжо...

«Прыдзяржала б язык, — нездаволена падумаў Іван, — разумнейшага не прыдумала... Гэта ж не абы-хто...»

— Дзякую, тут вельмі раскошна, — адказаў старой госць, дабрадушна і ўдзячна ўсміхаючыся; сказаў неяк проста, па-свойску, быццам тут ён кватараваў ужо не адзін месяц. Гэта ўзбадзёрыла Івана, аднак ён быў да таго ўсхвалёван, паглынут сваім шчасцем, што не мог падабраць тых значных слоў, з якімі можна было звярнуцца да генерала, адкашліваўся, папраўляў на стале белы з прошвамі настольнік. Палашка добра яго разумела, ціхенька пасміхвалася: «Падскакаў, памяло сівае... Хваліўся, што пагаворыць. Гэта яму не з сваімі мужчынамі: як пачне языком, дык адкуль у яго бярэцца, — такі балабон. А гэта, як мова аднялася... Нябось з высокім чалавекам гаварыць, то навукі там розныя трэба знаць. Куды яму, невуку. От абразы, — глянула яна на непрывычна пусты, завешаны чыста выбеленымі рушнікамі кут, — абразы — добра прыдумаў. Каб які стары генерал, то мо ўважыў бы, а гэты з маладых гатоў бы і незалюбіць...»

Старая прапанавала генералу чаю:

— З дарогі ды з такога марозу хоць пагрэйцеся.

Госць ветліва падзякаваў і, выйшаўшы з бакоўкі, запрасіў старога раздзяліць з ім трапезу. Іван з пачцівасцю пачаў быў адмаўляцца, аднак праз якую хвіліну сядзеў ужо за адным сталом з генералам, паважна хмурачы лоб, баючыся, каб хоць не абярнуць шклянкі, асцярожна пазваньваў лыжачкай аб шкло.

— Моцна сёння вашы грукалі, — загаварыў Іван, усміхаючыся так, нібы ён бачыў і цяпер успамінаў спрытную, зладжаную работу артылерыстаў, любаваўся іх хуткімі ўладарнымі рухамі. — Ну проста — настаяшчая вайна!

— Так, гэта трохі падобна было на вайну. Цяпер мы, дзядуля, усе заняткі праводзім прыбліжана да баявой абстаноўкі. Выходзіш у поле — адчувай сябе як на вайне, рабі ўсё так, як рабіў бы пад кулямі ворага: абманвай свайго супраціўніка, хітруй як толькі можаш, закапвайся ў зямлю, маскіруйся, цэлься, каб не было промаху.

— От як! — дзівіўся Іван, уважліва разглядаючы субяседніка.

Хлопцу на выгляд можна было даць не больш дваццаці пяці год. Прыгожы абветраны твар выдаваў яго нават за юнака. Наперакор меркаванню Івана аб лысіне, у госця над высокім ілбом чарнелі густыя, акуратна прычасаныя валасы.

— ...Каб вы бачылі, як смела ішла пяхота за агнявым валам, як сапёры ачышчалі поле ад мін і прараблялі ў дротавых загародах праходы, як па-пластунску перапаўзалі байцы, — вось тады вы сказалі б: так, гэта настаяшчая вайна.

— Пачакайце, і гэтак на ўсіх вучэннях?

— Абавязкова.

— І зімой?

Генерал усміхнуўся, магчыма, больш ад прыемнасці, чым ад наіўнага запытання. Наогул, Іван адразу заўважыў, што ён гаворыць пра байцоў з нейкай радаснай гордасцю, быццам аб добрых братах сваіх.

— А як жа — вучымся і зімой, — сказаў генерал, наліваючы з блакітнага чайніка новую шклянку. — Вам дабавіць? Як хочаце, толькі, я думаю, не пашкодзіць... У тым уся і справа, каб навучыцца ваяваць у самых цяжкіх умовах. Вайна, як вядома, з порамі года не лічыцца. Узяць хоць бы цяперашнія падзеі. Адны ваююць на траскучым марозе, другія ў нясцерпнай гарачыні.

— От-от!.. — не сцярпеў Іван, узрадаваны, што гутарка сама сабою пайшла ў патрэбным кірунку. — Я хацеў з вамі пра гэта самае, як вы чалавек ваенны... Што ў тых Ахрыках творыцца? І не разбяруся, чыю руку трымае там генерал, імя ў яго такое

моднае... От жа помніў! Пачакайце... Нейкі Гол... Голы...

— Генерал дэ Голь?

— От-от, ён самы. Вы ўжо прабачце... Я такі назойлівы...

— Гэта добра: патрэбна ўсім цікавіцца.

— Справідловае слова чую! На тое ж чалавеку і розум дан! А што ў нас было? Жылі мы тут пры паляках, як у цёмным лесе: цемната была кругом непраглядная... А як таварышы прыйшлі — думка ў людзей ажыла!

Наперакор уяўленню Івана аб хмурым, недаступным вайскоўцы, генерал аказаўся зусім простым і гаваркім чалавекам.

Тым часам пачынала цямнець, старая прынесла настольную лямпу, і на ваконных шыбках, адмыслова расквечаных срэбнымі ўзорамі, загарэліся халодныя блакітныя іскаркі. Палашка доўга мясціла лямпу, усё не магла рашыць, дзе ямчэй паставіць яе.

— Добра ўжо, добра, — з ноткай нездавальнення сказаў Іван, што азначала: «Тут сур'ёзная гаворка пачалася, выбірайся скарэй, не перашкаджай...»

Генерал ахвотна пачаў расказваць дапытліваму сівабародаму местачкоўцу пра сучаснае эканамічнае становішча абодвух ваюючых бакоў, пра іх ваенную магутнасць. Захапіўшыся апавяданнем, генерал машынальным рухам адсунуў на край стала сваю недапітую шклянку, прыўзняўся, шпаркімі рухамі наносіў на блакнотны лісцік пазіцыі ваюючых армій, кропкамі абазначаў гарады і ўсё расказваў, прычым так, быццам на свае вочы бачыў і прасоўванне грэчаскіх войск у напрамку Валоны, Тэпелене, Паградзеца, і лінію Чэрчыля на ўсходнім узбярэжжы Англіі, імклівыя аперацыі англічан і аўстралійскіх палкоў у Лівіі, Эрытрэі, Абісініі, і пазіцыі французскага генерала дэ Голя ў сыпкіх гарачых пясках Афрыкі...

Іван слухаў тлумачэнні з глыбокай пачцівасцю, баючыся праранiць лішняе слова, толькі час ад часу, не сцярпеўшы, устаўляў:

— От як!..

Праўда, аб многім Іван знаў ужо з газет, але зараз, слухаючы простае, захапляючае апавяданне, усё гэта быццам ажывала, напаўнялася глыбокім сэнсам, разрозненыя факты — нават там, дзе гэтага ніяк нельга было прадбачыць, — набывалі ўнутраную сувязь, ствараючы грандыёзны малюнак сусветнага руйнавання, выкліканага звярыным законам прагнасці да нажывы.

Быццам хадзіў Іван у незнаёмым змрочным пакоі, пазнаваў

навакольнае навобмацак, як раптам светлымі праменнямі загарэліся словы госця, ярка выступілі контуры кожнае рэчы, зніклі неадступна мучыўшыя пытанні, вырашыць якія не мог ні сам, ні суседзі, асабліва ж у такі час, бясконца багаты самымі нечаканымі падзеямі за межамі нашай краіны. Іван адразу намерваўся проста дазнацца, хто ж нарэшце пераможцам стане: Германія або Англія, — аднак цяпер ён сам ясна ўсведамляў усю недарэчнасць такога запытання.

Жыхар маленькага заходнебеларускага мястэчка, загубленага сярод дрымучых лясоў Белавежы, страшэнна многа перажыў, слухаючы гэты спакойны, упэўнены голас вайскоўца, аднак самым моцным адчуваннем было радаснае захапленне вобразам самога генерала. Іван быў не то што здзіўлен, а проста ашаломлены: «От генерал! — мысленна цвярдзіў ён. — Ва ўсім свеце такога не знойдзеш: малады, сказаць, а галава якая! Нашы хлопцы ў яго годы зналі хіба што за плугам ці за бараною хадзіць...»

Каб не позні час, то Іван гатоў бы ўсе хаты Залесся абабегаць, каб расказаць людзям пра мудрага генерала, выказаць сваё захапленне. Наўрад ці знайшоўся б такі чалавек, які не пазайздросціў Іванаваму шчасцю мець такога начлежніка!

Сон яго быў неспакойны. Толькі (здавалася потым) заплюшчыў вочы, як адразу апанавалі знаёма-неверагодныя відзенні: то ярасна раўлі гарматы, шырока разяўлялі свае сталёвыя вогненныя пашчы, то далёка-далёка сярод чорных венікаў, абвітых крывавымі змеямі, бездапаможна бегалі шэрыя салдацікі, малітвенна падымалі рукі, быццам безнадзейна просячы літасці...

А за мястэчкам, каля Доўгага лужка, тварылася штосьці незвычайнае: каля высокай разлапістай хваіны заварушыліся чорныя камочкі, сумятліва забегалі, рассыпаючыся цёмнай хмарай па снежнаму полю...

— Эге, — устрывожыўся Іван, — і адкуль столькі пацукоў узялося?..

Дзягцяная хваля кацілася на мястэчка, усё бліжэй і бліжэй...

— Гэта ж палякі... — аж пахаладзела Іванава нутро, а сэрца як быццам сціснуў нехта ледзянымі клешчамі.

Цацачна-маленькія жаўнеры з белымі арламі на рагатых шапках чорным каціліся валам, пагрозна ўзмахваючы карабінамі...

— Зноў гэтую немач на наш край... Ах, поскудзь!..

Іван кінуўся ў гумно па дубовы цэп, але сэрца яго да таго балела, што ён ледзь перастаўляў ногі, баючыся зусім упасці,

з горыччу падумаў: «Знясілеў, старасць... Задушаць нягоднікі...»

Але ў гэты момант знаёмы голас рашуча:

— Нічога, я сам.

Разамкнуліся ледзяныя клешчы, што сашчамілі сэрца.

У глыбока выкапаным у снезе акопе стаялі чырвонаармейцы, прытуліўшыся шчокамі да грозных вінтовак, а ззаду, каля гармат, хмурыўся малады генерал, толькі ўжо не ў кажушку, а ў доўгім шынялі з залатымі пятліцамі...

— Калі яны паспелі! — узрадаваны, расчулены да слёз папоўз к батарэйцам Іван, а насустрач яму ўсміхаўся знаёмы твар...

У бок непрыяцеля нацэльваліся зялёныя дулы гармат.

— Ага! Яны думалі зноў наваліцца на Івана! Не выйдзе! Не выйдзе! Смаліце па іх, хлопцы!

Яго разбудзіла Палашка:

— Стогнеш, крычыш, — што з табою?

— Сон такі бачыў дзівосны... — і ціхенька: — Спіць?

— Пайшоў.

— Саўсім?

— А ты думаў што.

— Ого!..

Івана як ветрам знясло з пасцелі. Ужо зусім развіднела, а ён спіць!

Прасочваючыся праз срабрысты роспіс аконных шыбак, хату напаўняла блеклае, нейкае ціхае святло раніцы.

— Даўно ён?..

— Толькі што.

— То войска, можа, яшчэ не выехала... Хоць пагляджу.

Паспешна ўсцягнуўшы кажух, схаваўшыся ў яго ласкавую густую воўну, бегма прыпусціўся да суседа: на вуліцы было яшчэ ціха ў гэты ранні час.

— Снег бы абабіў, усю хату заследзіш, — насупіўся Трахім, беражна згартаючы з падлогі залацістую салому, на якой ноч правялі байцы.

— Ды пастой ты — снег, наследзіў...

— Таварышаў колькі было, а якія акуратныя.

— А ведаеш, які ў мяне чалавек начаваў?

— У цябе. Начавалі і ў мяне. Ды толькі не адзін, многа было.

— Я не пра тое. Былі, скажам, і ў цябе, але ж не такія!

— Хай сабе не такія, але, напэўна, не горшыя, чым у цябе...

— Маўчы, маўчы! У мяне — асаблівы, во!

— Табе, Іван, не загневайся, — абы хваліцца (прывык жа

чалавек!). Каб і на маіх паглядзеў, то сказаў бы, што не простыя. Такія хлопцы, што пашукаць толькі: адзін у аднаго! Дарма, што з розных там краёў, а — дружныя, вясёлыя! Ноч і дзень ішлі, чалавек жа не каменны, не машына там якая, вядома, стоміцца, і па іх бачу — зусім замарыліся хлопцы мае, а — як арлы! Праворныя і бойкія, як адзін. Быццам адна маці спарадзіла, — пачынаў цёпла неяк усміхацца звычайна пануры, негаваркі Трахім. — Рады, бачу, хлопцы, што многа прайшлі, сіле і спрыту свайму рады, дух такі ў іх вясёлы. З такімі, чалавеча, усю зямлю кругом абысці можна...

— Я — нічога, — украдчыва, тонам прымірэння загаварыў Іван, як бы выпрошваючы права выказаць жа нарэшце сваё. — Разам з таварышамі быў у цябе і камандзір іхні, вядома — быў, але ж, — тут зноў Іван не змог вытрымаць звычайнага тону, ажыў неяк, пасвятлеў і натхнёна замахаў перад Трахімам рукамі, — але ж мой, каб ты знаў, які чалавек!..

— Знаю, расказвалі ўчора.

— О! Вядома раскажуць!

— Ты адно пра майго аднаго паслухай, — зноў пачаў Трахім, ласкава ўсміхаючыся, прысеў на лаву і не зводзіў вачэй з кучы залацістай саломы, быццам там спаў яшчэ той, пра каго ён гаварыў. — Адзін быў чорненькі такі, адны зубы блішчаць, з-пад ранца таго не відзён, кацёлачка такая. Гляджу гэта на яго, дзівуюся: крамнёвы хлапчук! Імя нават у памяці асталося: Юлдашавым празываўся. Ранец яго на вагу спрабаваў — як набіты каменнем. А вінтоўка зноў жа не бывалешняя, патроны самі ў патроннік заскакаюць... Цяжкая, як падняць. Думаю, пэўна, яго самога на падводзе везлі, куды такому малому. А тут мне камандзір іхні кажа, што гэты таварыш Юлдашаў лепей за ўсіх ішоў, нават адстаючаму аднаму памагаў. А як размясціліся яны ў маёй хаце, гавораць: «Давай сваю музыку, таварыш Юлдашаў». Гляджу, што будзе. Дастае наш Юлдашаў з ранца дудачку і давай весяліць братву сваю! Слухаю і думаю сабе: «Пэўна ж, не лёгка яму было, але дух ужо такі напорысты, заядлы...»

— От праўда! ім ні мяцеліца, ні халады, — знай, робяць сваё дзела і ўсё тут... Чакай, цяпер жа я пра свайго раскажу.

— Расказвалі пра твайго. Учора вечарам я к Мікалаю заходзіў, там акурат гаворка была.

— Пра такога маўчаць не будуць! Сам генерал...

— Праўда, хваліў яго генерал. От, кажа, малайчына...

— Пастой, пастой, ты пра якога генерала? Нешта ты не тое.

Генерал у мяне начаваў!

— Так і знаў, што напляцеш абы-чаго...

— От які! Хадзем к Палашцы...

— Яшчэ чаго не было! Сведку нашоў... — незалюбіў Трахім. — Што праўда, то праўда: хвалілі там начлежніка твайго. Адслужыў ён сваё і на звыштэрміновую астаўся, у акадэмію рыхтуецца.

— Вядома, яму толькі ў акадэміях і вучыцца, як ён генерал ёсць.

— Генералам мо будзе, слова не скажу, але цяпер ён проста генералаў шофер.

Іван стаяў ашаломлены канчаткова.

— Генерал у Мікалая начаваў, на свае вочы бачыў, а твой — проста шофер...

— Трахімка!.. — неяк тоненька, як певень з плота, ускрыкнуў Іван. — Ці ты жарцікі строіш?..

— Не тая пара, годы не тыя, каб жартамі забаўляцца. Схадзі, калі не верыш, к Мікалаю.

Іван рынуўся з хаты, каб забегчы да другога суседа: яго падшыбала дазнацца праўды, тым болей, што ён яшчэ не згубіў канчаткова веры ў сваю правату. «Як жа не генерал?.. Калі не самы генерал, то, пэўна, ужо нейкі падгенерал... Няйначай... От табе кажушок і валёнкі... Не мог жа я аслепнуць... Кварцір’ер сказаў, што генерал будзе, нумар дома запісаў...»

Аднак перайсці на другі бок вуліцы, к Мікалаю, было немагчыма: несканчона ішло войска. Адразу, як глянуў Іван на Мікалаеву хату, яго ўвагу прыкаваў выразна выпісаны на белай дошчачцы нумар.

— Дваццаць сем... Дваццаць сем... А наш, — ён агледзеўся, — наш — дваццаць шэсць... Біць мяне, дурня, трэба... Замест свайго чужы нумар назваў! От як...

Ісці нават у сваю хату не хацелася. Спяшаць было некуды, і ён стаў глядзець на праходзячыя войскі. І з старым здарылася нешта незвычайнае. Сам нават не заўважыў, як прайшло, сцерлася пачуццё прыкрасці. Пазіраючы на тое, як байцы чотка адбіваюць пад каманду крок, праходзячы роўнымі радамі, як горда падняты іх строгія абветраныя твары, міжвольна залюбаваўшыся іх выпрастанымі постацямі, пабліскваючай у прадранішнім святле зброяй, пачуўшы ў галаве калоны звонкі голас запявалы і тое, як дружна падхапілі яго сотні галасоў, Іван ледзь не праслязіўся...

— Гэтыя — могуць!.. — перасільваючы хваляванне, аж задыхаючыся ад частага стукату зношанага сэрца, шаптаў Іван. — І палкоўнікамі, і генераламі! Баявыя хлопцы!..

Ва ўрачыстай імгле світання ўпарта і нястомна будуць ісці яны — маладыя воіны — блакітнымі снегавымі дарогамі. Нічога ім не страшна: ні замеці, ні траскучыя маразы.

Не збаяцца хлопцы нашы тысячакіламетровых пераходаў па далёкіх землях...

*Люты 1941 г.*
*Полацк*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Мікола Аўрамчык*

## УЛАДЗІМІР КАНДРАЦЕНЯ

Сярод радкаватага падлеску беларускай літаратуры Уладзімір Кандраценя мужнеў і вырастаў якраз у тыя гады, калі яго высокія і трывала ўкаранелыя лясіны асабліва паспешліва і без жалю высякаліся амаль спрэс.

Васемнаццацігадовы выпускнік бабруйскага рабфака Уладзімір Кандраценя выступіў у «Полымі рэвалюцыі» ўвесну 1935 года. А ўвосень таго ж года, ужо будучы першакурснікам літфака Мінскага педінстытута, ён надрукаваў у тым жа салідным літаратурным выданні апавяданне «Крык гневу». На працягу наступных двух гадоў у «Полымі рэвалюцыі» з'явіліся яго апавяданні «Фінал», «Капа сена», «Каля граніцы» і аповесць «Каханне».

Я добра памятаю, як на пашыраным пленуме праўлення пісьменніцкай арганізацыі ў 1938 годзе ў яе шэрагі былі ўрачыста прыняты Пімен Панчанка і Уладзімір Кандраценя. Аб творчасці апошняга даклад на гэтым пленуме рабіў не абы-хто, а сам Кузьма Чорны.

Свой шлях у беларускую літаратуру Уладзімір Ігнатавіч Кандраценя пачынаў упэўнена і трыумфальна.

У тым жа 1938 годзе яны з Піменам Панчанкам былі ўдзельнікамі Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў у Маскве, а ўлетку наступнага, 1939 года, разам з Усеваладам Краўчанкам, Іванам Грамовічам і Рыгорам Нехаём ездзілі ў працяглую творчую камандзіроўку на Украіну.

Калі я паступіў на першы курс літфака Мінскага педінстытута, Уладзімір Кандраценя вучыўся ў ім на чацвёртым курсе. Неяк адразу мы пазнаёміліся і хутка зблізіліся.

Яны з Іванам Грамовічам жылі ў адным пакоі студэнцкага інтэрната, што знаходзіўся ў падвале галоўнага корпуса Універсітэцкага гарадка.

Дарэчы, у гэтым пакоі яны і пазнаёмілі тады мяне са сваімі сябрамі, настаўнікамі-завочнікамі Піменам Панчанкам і Рыгорам Нехаём.

Уладзімір Кандраценя нарадзіўся ў 1917 годзе ў вёсцы Смалічы тагачаснага Чырвонаслабодскага (цяпер Капыльскага) раёна Мінскай вобласці).

Бацькоў у яго тады ўжо не было. Дзесьці там жыла толькі яго родная сястра.

Уладзімір быў сярэдняга росту, рыжавалосы, сардэчны і да самазабыцця адданы літаратуры. Да яго вельмі прыхільна ставіўся Кузьма Чорны, з якім у Кандрацені былі прыязныя адносіны. Мне самому давялося быць маўклівым сведкам іхняй сяброўскай сустрэчы ў даваенным Доме пісьменнікаў пасля вызвалення Кузьмы Чорнага з-пад арышту. Наш славуты празаік бачыў у маладым аўтары здольнага пісьменніка.

Вядома, цяпер, перачытваючы некаторыя апавяданні Уладзіміра Кандрацені, можна заўважыць іхнія слабасці, у прыватнасці, тагачаснае захапленне прыгранічнай шпіёнаманіяй і выкрыццём разнастайных шкоднікаў у народнай гаспадарцы. Але ўсё гэта было данінай модзе, выдаткамі часу. Нельга ж не ўлічваць і нявопытнасць маладога аўтара.

У мяне захавалася наша невялікае фота. Мы сядзім побач з Уладзімірам. Ён трымае на ўлонні загорнутую ў газету кнігу. Гэта яго першы зборнік «Любоў», выдадзены ў Мінску ў 1938 годзе. Кніга гэтая таксама ўцалела ў маёй роднай вёсцы сярод студэнцкіх канспектаў. Вось які надпіс пакінуў на ёй Уладзімір:

«Мікола!

Мастацтва патрабуе самаахвярнасці. Гэта — праўда. Аддадзім жа яму ўсё таемнейшае, што ёсць у сэрцах нашых.

*2.6.39 г.* *Ул. Кандраценя*».

Пасля заканчэння педінстытута Уладзіміра накіравалі настаўнікам у Чырвонаслабодскую сярэднюю школу.

Запомнілася мне наша апошняе спатканне з Уладзімірам, калі ён працаваў там. Сустрэліся мы нечакана ў актавай зале ўжо іншага будынка педінстытута, бо ў галоўным корпусе Універсітэцкага гарадка пасля ўз'яднання з Заходняй Беларуссю быў штаб вайсковай акругі. Помню, што Уладзімір быў апрануты ў цёмна-карычневае скуранае паліто. Ён расказваў тады мне пра суполку беларусаў у Маскве, на зборы якіх бачыў Максіма Лужаніна.

Са школы Уладзімір быў прызваны ў Чырвоную Армію. Служыў ён у Заходняй Беларусі. У пачатку вайны яго часць трапіла ў варожае акружэнне, і ён апынуўся ў палоне. З лагера Уладзімір уцёк і вярнуўся дадому. Спачатку ён настаўнічаў у Чырвонаслабодскай школе, а ў верасні 1942 года пераехаў у Слуцк, дзе пачаў працаваць дворнікам у сіроцкім прытулку. Там ён стварыў падпольную групу, якая была выдадзена правакатарам. 23 лютага 1943 года немцы расстралялі Уладзіміра. Пахаваны ён у роднай вёсцы.



# Аляксей КОРШАК

Аляксей Ігнатавіч Коршак нарадзіўся 22 лютага 1920 г. у в. Вуглы Капыльскага раёна на Міншчыне.

У 1938 г. скончыў Капыльскую сярэднюю школу. Затым паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, дзе вучыўся з 1938 па 1941 г. Вайну сустрэў у Мінску, вярнуўся да бацькоў на Капыльшчыну, у в. Закопанка. Працаваў настаўнікам Вуглоўскай пачатковай школы. Пасля вызвалення родных мясцін быў мабілізаваны ў армію (1944), ваяваў на фронце. Разведчык А. Коршак загінуў ад кулі фашысцкага аўтаматчыка 27 лютага 1945 г. каля паселішча Ласлейндорф ва Усходняй Прусіі.

Літаратурную дзейнасць распачаў у 1937 г. Першыя вершы апублікаваў у 1938 г. на старонках газеты «Літаратура і мастацтва». Выступаў як паэт, друкаваў таксама артыкулы і рэцэнзіі ў газетах «Звязда», «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва». Напярэдадні вайны падрыхтаваў кніжку вершаў «Пялёсткі», рукапіс якой захавалі бацькі паэта. Зборнік «Апаленыя пялёсткі» выйшаў у 1963 г. Творчая спадчына А. Коршака і ўспаміны пра яго склалі кнігу з такой жа самай назвай, якая пабачыла свет у 1993 г.

Асобныя паэтычныя творы друкаваліся ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 3), «Дзень паэзіі» (1965), «Крывёю сэрца» (1967), «Зорка Венера» (1972), «Адданасць» (1978), «Беларуская балада» (1978), «Такія сэрцы ў нас» (1980), «Дзень паэзіі» (1984), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), «Сляза на камень» (1995), «Першацвет адраджэння» (1995) і інш. У пасляваенны час вершы паэта передрукоўваліся беларускімі газетамі і часопісамі, перакладзены на рускую, украінскую і польскую мовы.

# Паэзія

* * *

Сабраў я песень звонкае бярэмя,
Гатоў далей ісці жыццём маім.
Ну, дружа мой, я ў сэрцы недарэмна
Назваў цябе таварышам сваім.

Далёкі шлях, далёкая дарога...
Хто вось такім стварыў цябе, жыццё?
З даўно-даўно апрыклага парога
Пайду, куды нас кліча пачуццё.

Мільгнуць лятункі, сонечныя мары...
Мо будзе там і прыкрае смяццё.
Ах, недарэмна, любы мой таварыш,
Даецца нам кароткае жыццё.

Такі ён — горкі лёс наш чалавечы:
Тварыць, спяваць, каб заўтра расцвіло…
Ды сум далоў — істоту ён калечыць,
Дзе ранне косы ў сонца распляло.

Ляпей удалеч крочыць і смяяцца.
Хай вокал песень плаваюць чаўны.
Таварыш мой, вялікшае ёсць шчасце
Быць сябрам сонца, песні і вясны.

*1938 г.*

# РОСТАНЬ

Ты руку на ростань падала
І маўкліва глянула мне ў вочы.
Сэрца мне самота абняла.
Мы стаялі ціха сярод ночы.
Я ўздыхнуў, руку як падала
І маўкліва глянула мне ў вочы.

Я ўздыхнуў журботна і руку
Я табе пацікнуў на расстанне.
Што ж цяпер мне будзе, бедаку,
Дзе маё шчаслівае прыстанне?
Я пацікнуў кволую руку,
Можа быць, на вечнае расстанне.

Я пацікнуў кволую руку,
Любую руку, — і ў сэрцы гора.
Я ж такое ў ім цяпер таю...
Каб сказаў, пагаслі б нават зоры.
І усмешку сцерлі б з губ тваю.
Вось таму й такое ў сэрцы гора.

Не забыць цябе мне праз гады,
Толькі ж сэрца... хай яно не плача.
Будзе мне найлепш хіба тады,
Як ізноў каханую пабачу.

Мо не ўбачу доўгія гады,
Толькі ж сэрца... Хай яно не плача…
Мо не ўбачу шчасця светлы міг...
У душы тугі асенняй мора.
Паглядзець бы зноў у дарагіх
Воч вялізных чорныя азёры.
Прамільгнула ўсё, як светлы міг.
У душы тугі асенняй мора.

*1938 г.*

* * *

Равно и жить и умереть.
*В. Брусаў*

Там неба даль... А пад акном таполі.
Гартае вецер іх зялёныя лісты.
Бяры, чытай ты кожны подых волі
І завучы усё на памяць ты.

Шпакі ўгары, і самалёт над гаем,
І спевы звонкія, і дзённы яркі гул…
Упала неба ў возера, дзе з краю
Квятчаных пахаў радасны разгул.

Плывуць галінкі бэзу і усмешкі
Людзей прыгожых, сэрцу дарагіх.
Пад ногі ім кладуцца шчасця сцежкі,
І сонца з вышыні вітае іх.

Адкрый жа дзверы, кроч на сцежкі тыя.
Сягоння ў сэрцах радасць не адна.
У тых вачах, што сонца сёння мые,
Ты чэрпай любасць ясную да дна.

Няхай не засцяць сонца нам аблокі
І растае начэй празрысты дым.
Блукай між сэрцаў блізкіх і далёкіх
І сып усмешкі цветам залатым.

Зірні — тваё сяброўства паміж імі,
Каханне сінявокае пайшло.
І от за тымі вербамі крывымі
Гармонік зазвінеў на ўсё сяло.

І хараша, і хараша на сэрцы,
І тоне ў радасці прачытаны дакор.
Хіба ўсё роўна жыць тут і памерці,
Калі ў грудзях і воля і прастор?

*1939 г.*

## СПАКОЙ

Я спакой згубіў. Іду, шукаю...
Дзе ж ён, каля саду, ці ля гаю,
Ці на рэчцы плавае ў чаўне,
Ці між яблынь з песняю блукае,
Ці сядзіць над кнігаю ў акне?..
Я спакой згубіў. Іду, шукаю...

Зоры над зямлёй сузор’і вяжуць...
Я да іх працягваю руку.
Дзе ж спакой мой? Зоры мо адкажуць?
Зоры ж толькі свецяцца, не кажуць,
Зоры асыпаюцца ў раку.

Сцежка у траве і сярод кветак,
Рэжа напалам жытоў палетак,
Можа, тут праходзіў той спакой?
Толькі ж сцежка моўчкі ўецца гэтак.
І бяжыць далей перада мной
Сцежка у траве і сярод кветак.

Запытацца ў рэчанькі бязмоўнай,
Што, як сэрца, цішынёю поўна...
Адкажы мне, рэчка, адкажы,
Дзе сустрэцца з любаю, чароўнай?
Рэчка не схіснецца, не дрыжыць,
Застаецца ціхай і бязмоўнай.

Што ж мне, ад чаго ж я так смуткую?
Сад зялёны, ты загавары.
Пад твае лісты нясу тугу я.
Ты яе ў свой шорах забяры.
Сёння я блукаю і смуткую.

Абышоў бы ўсё, здаецца, ў краі...
Колькі я сягоння ні блукаю,
Не знайшоў спакою я нідзе —
Ні ў зялёным садзе, ні у гаі,
Ні ў бары густым, ні на вадзе...
Там, дзе ты, спакой мой, дарагая.

*1939 г.*

# НА ЎСХОДЗЕ РОЙ ВЫСОКІХ ЗОРАК

Над табою ветры прасвісталі,
Косы параскідвалі твае.
Глуха ў бераг стукаюцца хвалі,
Пена беласнежная ўстае.

Кланяюцца стромкія бярозы,
Гнуцца неспакойна чараты.
Кацяцца з вачэй блакітных слёзы.
Чым жа засмуцілася так ты?

З любым тут блукала у ракітах...
Болей не хадзіць з табой яму.
І шуміць рака, шуміць сярдзіта,
Як шуміць далёка там Амур.

Боль, нібы нажом, па сэрцы водзіць.
Змрок паўзе па беразе крывым.
Ты прайшла ў гушчар, і ў ціхай згодзе
Вецер прытуліўся да травы.

Супакойна. Толькі непакорна
Вее над бярозамі туга.
Так гудзе пад небам белазорным
Дальняя калматая тайга.

Не знайсці спакою, ні прыстання —
Так усё знаёмае табе.
Тут хадзіў, казаў ён пра каханне,
Асыпаў тут кветкамі цябе.

Вось чаму і ходзіш, і рыдаеш,
Вось чаму так ные у грудзях.
Да яго, жывога, дарагая,
Не вядзе ўжо больш ніякі шлях.

На усходзе рой высокіх зорак,
Век збіраць — усіх не пазбіраць...
Зоры тыя ж ціха, без дакораў
Над яго магілаю гарадзь.

*1939 г.*

## ДРЭМЛЕ ЧОВЕН

Дрэмле човен на вадзе азёрнай,
Да крутога берага прынік.
А пад ім, абняты кругам зорным,
Супачыць спыніўся маладзік.

Сінь такая чыстая, прыгожая,
Воблакі вадою аднясло.
Мне цяпер адно спакой трывожыць —
Мокрае кляновае вясло.

Аглядаю поплаў — бачу, бачу
Белую сукенку над травой.
Любая прыходзіла, няйначай,
І плыла над гэтай глыбінёй.

Ад чаго ж пайшла ў садоў пажары,
Дзе спяваюць песні юнакі
І бясконца сыплюцца удары
Ў барабана гулкія бакі?

Я саджуся ў човен неспакойны,
Дзе яна сядзела — сяду я.
Праплывай жа ты цяпер пад чоўнам,
Глыбіня азёрная мая.

Колькі скрозь нязнаных сэрцу чараў.
Супакой вакол і цішыня...
Пазбіраю сны яе і мары,
Што ў вадзе рассыпала яна.

Я такі на свеце ўжо не першы,
Што плыву і ціха, сам сабе,
На вясле пішу алоўкам вершы
Аб дзяўчыне, сэрцы і журбе.

Ты вярніся зноў, як вечар ляжа,
Вось сюды, на бераг, за сяло.
Пра мяне усё табе раскажа
Спісанае вершамі вясло.

*1939 г.*

## ПЕРАСАДКА

Станцыя... Пакінуты вагоны.
Ззяюць электрычныя агні.
Чамаданы на асфальце чорным,
Вір людское гулкай мітусні.

Тут мяне чакае перасадка.
Дай жа поціск мне свае рукі.
Што-нібудзь успомнім без парадку,
Покуль не пачуліся гудкі.

Як жа часу мала ў нас з табою.
Б'е дванаццаць... Ліхтары гараць.
От сышліся стрэлкі між сабою,
Ну, а нам расходзіцца пара.

Ты — на Гомель. Мне цяпер на Морач.
Распусці ж, як некалі, касу
І нясі вачэй блакітных моры,
Чамадан твой сам я паднясу.

Хоць не вельмі цяжкі ён, фанерны,
Усё роўна я дапамагу.
Я хацеў бы ў гэты свет бязмерны
Знесці і сардэчную тугу.

Ад яе ж ніяк не ўратавацца.
Ты скажы мне, любая, цішком,
Ці здалею з ёю я расстацца
І адправіць іншым цягніком?

*1939 г.*

## КРОЧУ Ў ПЕСНЯХ

Вечар сіні. Салаўі у садзе.
Над ракою зоры паплылі.
Песні ходзяць, карагоды ладзяць,
Ручаямі звоняць па зямлі.

І звіняць, плывуць і адплываюць
Ці сплятаюцца адна з адной,

Расплятаюцца і высь кранаюць,
Што павісла ў зорах з цішынёй.

З вокан хат выскакваюць на волю,
Мчацца рэхам, зорамі гараць,
Па лугах раскіданы раздольных,
Па лясах асмоленых дрыжаць.

Акружылі радасныя гукі,
Аж ад шчасця мроіцца ўваччу.
Прад сабой выцягваю я рукі,
Я абняць вакольнае хачу.

Полем, нібы морам, праплываюць,
Захліснулі усяго мяне.
Крочу ў песнях, песню я спяваю
Аб жыцці, аб шчасці, аб вясне.

*1939 г.*

## МАЛАДОСЦЬ

*Прысвячаецца І. С.*

Як прарастаў на небе месяц
І ў змрок плыла нуда мая,
Стаяў сярод дарогі ў лесе
І маладосць праводзіў я.

Як слёзы, дрыгацелі зоры.
Здалёку крыўся шорах траў...
Яна адходзіла з дакорам
У далеч дзён, у шэрань спраў.

І з кожным крокам, што рабіла
Яна на ростань ад мяне,
Такая жальба сэрца крыла,
Было так горка ў сэрцы мне.

Хацелася сказаць: вярніся,
Не забірай юнацкіх год,
Са мною ўцехамі дзяліся,
Дай несці груз тваіх клапот.

Не патушы юнацтва шчырасць
І не губі лятункаў сад.
Ой, не ляці ў далёкі вырай,
Скуль не вяртаюцца назад.

Без водгуку... Пайшла... І ў цвеце
Завянуў той тужлівы лёс...
Сяброў развеяў ён па свеце,
Як лісце з восеньскіх бяроз.

І па дарозе той, што людзі
Завуць здавён-даўна жыццём,
Пайшоў, самотны я, у грудзях
З цяжкім, як камень, пачуццём.

Здавалася, прайшло юнацтва —
З навалай дум, з цвіценнем мар,
І сэрцу больш не развінацца
Да неба яснага, да хмар.

І не сягаць парыўна ў просінь,
Не рассыпаць, бы ружы, кроз...
Здавалася, прыйшла ўжо восень,
Ды па-другому кінуў лёс.

Зноў дні ў маёвым цвеце снежным,
І дружба ёсць, і шчасце ёсць,
І па-даўнейшаму гарэзна
Віруе ў сэрцы маладосць.

## ЛАСТАЎКА

Простае, звычайнае здарэнне.
Думы ж! Паспрабуй іх супыні.
З поўным песень радасных бярэмем
Ластаўка мільгнула ў вышыні.

Погляд твой сачыў за ёй: стралою
Жвава праімчалася яна.
Села на вяршку кудлатай хвоі,
Вырасшай ля самага акна.

Ціха пасядзела. Спачывання
Доўга не сцярпела. Ў вышыню
Ўспырхнула і ў сінім акіяне
Песні панясла насустрач дню.

Шчасная, ў паветраных абшарах
Весела купалася яна.
Потым знікла у небе, нібы мара, —
Сіняя ўтапіла вышыня.

Знікнула... Ты поглядам за ёю
Доўга ў далі ясныя плыла.
Сэрца агарнулася тугою
Лёгкаю, як майская імгла.

Мілага, напэўна, вобраз любы
Дум паклікаў сонечных палёт…
Дзе ён, чарнавокі, чарначубы,
Сёння свой кіруе самалёт?

Мо над сенажаццю ці шырокім
Морам зелянеючым тайгі...
Як ляціць ён — нізка ці высока,
Сумны ці вясёлы дарагі?

Пэўна, шлях любімаму далёкі,
Гэткі, як і ў радасным жыцці.
Хутка ці няхутка чарнавокі
Любую пабачыць прыляціць?

Простае, звычайнае здарэнне:
Ластаўка мільгнула — і ўсяго.
Колькі ж незвычайных летуценняў,
Клопатаў і думак ад таго.

*1938 г.*

## ВОСЕНЬ

Восень неба выпіла і хмары
Над зямлёй развесіла ўгары.
Ні блакіту, ні сузор’яў жару,
Ні віна вячэрняе зары.

Толькі туманоў сівых кудзеля
І кастрыца лісця крые дол;
Толькі лісце тое ўспалымнела,
І зямля ў агні уся вакол;

Толькі людзі ходзяць, восень хваляць,
Склаўшы лета ў гумны на спакой;
Толькі жураўлі плывуць удалеч,
Несучы пад крыллем смутак свой.

## ЖУРАВІНЫ

Тут зара, як хустка, палыхала,
Воблакам барвовым плыў усход.
Як упала ў возера — прапала,
Патанула ў глыбі сонных вод.

Дзень высокі ўстаў на пуцявінах,
Толькі засталіся у бары
Спелыя, як ранак, журавіны —
Кроплі патанууўшае зары.

*1940 г.*

## СОНЦА

Яно плыве ў бяздонні небным,
І ў кожнай рэчцы тут — зірні —
Ягоны вобраз ярка-срэбны
Адлюстраваны ў глыбіні.

І ў гэтай лужыне мізэрнай
Яго паўтор патаў на дно.
Зірні, і яркасцю бязмернай
Аслепіць погляд твой яно.

Глядзіш — і не адрозніш, мусіць,
Дзе сонца — ў небе ці ў вадзе?
Але ступі ў ваду, і ў муці
Той бляск святочны прападзе.

А першавобраз такжа ззяе,
Кідаючы святло і цень.
Яго з гразёю не змяшаеш,
Бо ён адзіны творыць дзень.

## ВЕЧАР

Белы месяц локцем на сасну
Абапёрся й думае аб нечым.
На руках калышучы вясну,
У прасторах марыць шэры вечар.

Белакрылых зорак сотні стай
Паплылі павольна над крыніцай.
Абступіў раку высокі гай,
Хоча срэбнай свежасці напіцца.

Цішыня бязмоўная плыве,
Апускаецца ў кустах ракіты.
Сук бярозы, падаючы, рве
На кускі рачныя аксаміты.

Часам птушка спуджана ўзляціць
Над густою роснай асакою.
Хараства другога не знайсці,
Тону ў шчасці гэтым з галавою.

*1939 г.*

## У ЛЕСЕ

Лізне агонь чырвоным языком
У твар імглу, і тая ўбок адходзіць,
І падыходзіць зноў яна. Кругом
Аб нечым шэпча, нейкі шорах водзіць.

Маўкліва сосны мараць навакол,
На медзі іх камлёў святло і цені.
І адзінокі дуб упёрся ў дол,
Упаў прад ім ядловец на калені.

Глядзяцца зоры зверху ў гэты лес.
О, як забыць пра гэтую хвіліну:
Шчарбаты месяц вышай лез і лез
І зачапіўся краем за хваіну.

І скрозь спакойна. Скрозь тут ціш і ціш
У траваў росных і ў празрыстых зорах,
Яна паўзе ад хвой да ног маіх,
Глынае кожны гук і кожны шорах.

І я, што ў песнях славіў гоман той,
Шукаў уцехі ў гуле, ў воч ірдзеннях,
Сяджу ўначы і п’ю ўначы спакой
І зорак ясных зорнае натхненне.

*1939 г.*

* * *

Напалам паломана маланка,
Ў полі ўпала, пакаціўся гром...
Адчыню акно я свежым ранкам
І далоні вымыю дажджом.

Пра глыбокай радасці крыніцы
У крылатай песні запяю...
Хай ніколі буры й навальніцы
Маладосць не кідаюць маю.

*1939 г.*

## ПЯЧНІК

Поўны гоманам сёлы.
Я ля хаты стаю.
Ён ідзе невясёлы,
Звесіў голаў сваю.

Ваксаваныя боты
Па-святочну рыпяць,
І фабрычнай работы
Галіфэ не абняць.

Паясок з кутасамі —
Колер спелых малін.
Русы чуб над брывамі
Пахіліўся адзін.

І прывет ад знаёмых,
Дзе ні пройдзе, чуцён.
Ад чаго ж, невядома,
Зажурыўся так ён?

Ад чаго ж, невядома,
Гэтак ён затужыў?
Дружбаку маладому
Адкажы, раскажы.

Печы ж разам рабілі,
Памагаў я табе...
Сядзьма ж тут,
ля рабіны,
Не хавайся ў журбе.

Ён кіўнуў галавою,
Уздыхнуў горка так:
— Ой, не ведаць спакою
Мне цяпер аніяк.

Не схаваю дасады,
Што у сэрцы жыве.
Печ рабіў я ля саду
Маладой удаве.

Як ступіў я ахвочы
Першы дзень праз парог,
Працаваў да паўночы,
Бо іначай не мог.

Як назаўтра прыходзіў —
Толькі досвітак быў, —
Што казаць,
не знаходзіў,
Нібы мову забыў.

А на трэцяе ранне
Кінуў справы свае
І кажу з хваляваннем,
Што кахаю яе.

Засмяялася звонка
Маладая ўдава:
— Што ты кажаш да жонкі
Да чужой, галава?

Хіба ты і не знаеш
Пра навіны мае,
Што ў нядзелю спраўляю
Я вяселле свае?

Ты б дзяўчыну ўжо сватаў,
Памагу табе хоць,
У нядзелю на свята,
На вяселле прыходзь.

Ад таго і засмучан,
Што іду ад яе.
Я ад долі адлучан,
Ад каханай свае.

Ад таго і самотай
Поўна сэрца праз край,
І такая маркота,
Хоць ты песню складай.

*1939 г.*

## СА СТУДЭНЦКАГА ДЗЁННІКА

Вечар сіні і зерні-зоры
Супакой адабралі мой.
Сёння сумам я нейкім хворы,
Поўны радаснаю журбой.

Так прыгожа, што хоць адзень ты
Месяц белы ў сузор'е мар...
Ходзяць вуліцамі студэнты,
Ходзіць многа шчаслівых пар.

Песні льюцца над імі жвава,
Заліваюць прасцяг красы...
Толькі мне не пабачыць нават
Залатое яе касы.

Кінуў кнігі, канспекты кінуў,
Што пазычыў сабе на ноч.
Дзе капрызнай тае дзяўчыны
Пырскі сінія сініх воч?

Хоць бы ўбачыць яе, смуглянку...
Мо ў паветры касой махне.
Але справу псуе фіранка,
І навошта яна ў акне?

Ад тугі я складаю вершы
І вандрую сабе ўначы.
І квітнее вясна у сэрцы,
Вісне ноч на маім плячы.

Хоць і сумна, а ўсё ж прыгожа
Ад таго, што кахаю я.

Як туман, вее сум сардэчны,
Супакой мой украла ноч.
Патануў, мусіць, ён навечна
У азёрах дзявочых воч.

* * *

Не назаву я морамі тваіх
Чарнявых воч (яны глыбей за моры)
І з зорамі раўняць не буду іх,
Яны ярчэй за ўсе на свеце зоры.

Не стану песняў ім складаць сваіх
(Навошта нараканні і дакоры),
Глядзецца толькі буду ціха ў іх,
Бы ў люстраў неабдымныя прасторы.

Ледзь думка прамільгне або парой
Спаўе мне сэрца сум ці неспакой —
І вочы спавіюцца кволым сумам.

Удзень і ўноч, калі гляджу, тады
У люстрах воч тваіх лаўлю заўжды
Адбітак і трывог сваіх, і думак.

* * *

Што ж, кажы, што сэрца у мяне
Цвёрдае, нібыта камень нейкі,
Што яго ні роспач не кране,
Ні сляза маркотная жалейкі.

Аб такое сэрца толькі ўдар —
Пырснуць іскры, як праменні ранкам,
Страшныя, як восеньскі пажар,
Яркія, як першая маланка.

*1940 г.*

## ВЕЧАР
*Санет*

Калі сканае сіратлівы вечар
І згасне ў шыбах чырвань спелых фарб,
Адчыніць неба залацісты скарб:
Збярэцца зор многакалёрных веча.

І месяц паміж хмар, нібыта карп,
У невад трапіўшы, ледзь-ледзь трапеча,
Плыве кудысьці ўдалеч Шляхам Млечным
Без ветразяў, без компасаў і карт...

Ты адчыні акно часінай гэтай,
Глядзі ўгару, у зорную вышынь,
Там караваны зор, там неба сінь,
Там далі таямнічыя сусветаў...

І ў сэрцы, поўным ціхага агню,
Народзіцца імкненне ў вышыню.

*1940 г.*

## ВОЗЕРА НОЧЧУ

Зоры у возера высыпаў нехта,
Парассыпваў іх зернямі золата.
Многа зорам цяпер вось пацех там,
Покуль воднае шкло не паколата.

Раптам зморшчыкі, глянь, агарнулі
Вока-возера з траваў расніцамі.
Гэта ветру павевы дыхнулі,
Зоры топячы хваль навальніцамі.

Зноў спакойна. І толькі іскрыцца
Неба, ўстаўшае скрозь над прасторамі,
Зноўку возера ў неба глядзіцца
Незлічонымі чыстымі зорамі.

*1940 г.*

* * *

Мігне аўто ў імгле начной,
Прарэжа цемру белым мечам,
І зноў настоены спакой,
І цішыня, і шэры вечар.

Плывуць аблокі шляхам крыл,
Чапляюць лахманы на зоры,
І зоры сыплюцца, як пыл,
У расхінутыя азёры.

Гляджу і мар лаўлю крыху.
Прыгожа мчацца ўдаль рашуча,
Калі ж упасці на шляху,
Дык толькі зоркаю бліскучай.

*1940 г.*

* * *

Ідзі у луг — трава і краскі,
Прасторы мараць аб касе.
Крані траву дыханнем ласкі,
І ўбачыш — росы атрасе.

Прыслухайся да цішы гэтай,
І ты пачуеш кветак спеў.
Ён для цябе, вясной сагрэты,
Пад небам і пад сонцам спеў.

Прайдзіся ў гуле дня напеўным
І ў травы упадзі пасля.
Адчуеш ты тады, напэўна,
Як пахне свежая зямля.

І, заварожаны (знянацку
Заўважыў столькі дзіўных крас),
Ты прывітаеш дні юнацтва,
Што сонцам вышыты для нас.

*1940 г.*

## МЕЛОДЫЯ

Смутак развею па ветры,
Песняй развею нягоды я.
Квола трапеча ў паветры
Тоненькі волас мелодыі.

Вырву яго з навакольнага —
Сіняга,
          яснага,
                    вольнага.

На гэтую нітку празрыстую
Сум наніжу серабрысты я.
Сэрца трывогі былыя,
Словы, што ўпалі на ростані,
Сны неспакойныя,
Сны залатыя

(Хай празвіняць яны рыфмамі
простымі).

Потым на памяць, натхненнем сагрэтыя,
Я падару табе пацеркі гэтыя
За ясныя ўсмешкі,
За сінія вочы,
За салаўіныя громы паўночы.

## КЛЯНОВЫ ЛІСТ

Паслана золата кляновае ўдалі...
І вось апошні ліст плыве агнёвы,
І лёг ля ног маіх на стомленай зямлі
Асенні ліст, апошні ліст кляновы.

Кляновы ліст, апошні гэты ліст
Я на далоні ўзяў, сухі, памяты.
Няхай жа вар'яцее ветру свіст,
Я прынясу яго сабе дахаты.

Я песню напішу пра гэты ліст.
Аб ім у сэрцы след нічым не сцерці.
Жыві ж, асенні ліст, кляновы ліст,
Жыві ж у песні, ў памяці, у сэрцы.

Вясна прамые неба сінявой,
І кожны расцвіце вакол закутак,
Тады з галінкі памяці маёй
Ты ападзеш, як нейкі ціхі смутак.

І ў сэрцы ты завянеш назаўжды,
Адзенецца жыццё зялёным лістам,
І толькі ў песні гэтай будзеш ты
Звінець заўсёды звонам залацістым.

## ПАВУЦІННЕ

Кляновым лісцем высланы даліны,
Туман і сон, туман і ціхі дзень.
Прадзе ў пprasторах восень павуцінне,
Празрыстае і лёгкае, як цень.

Прадзе і на галлі, ад лісця голым,
Тканіну невядомую снуе.
А я іду, гляджу, як сонца кола
Зайшло ў палацы хмарныя свае.

І цішыня, і смутак нейкай згубы.
Я ў павуцінні з ног да галавы.
Мне павуцінне гэтае нялюба,
Ляпей вясновы гоман баравы.

Таму вось і не йду да той мясціны,
Дзе мне сказала ты цябе чакаць.
Я сэрца тваё думаў пакахаць.
Аж паглядзеў — яно у павуцінні.

*1940 г.*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Яшчэ нядаўна ты ў туманах
Стаяў ля мокрых берагоў.
Лісты кляновыя, як раны,
Гарэлі на грудзях лугоў.

Ды раптам хмар паўсталі горы,
Аж неба шэры дах апух,
І чула звіслі над прасторай,
Цярусячы срабрысты пух.

І от зіме як быццам рана,
А ўжо глядзі — не жарт, не смех, —
Лістоў кляновых чырвань-раны
Забінтаваны ў першы снег.

* * *

Пра зорку людзі казкі баялі,
Якою вызначан іх лёс.
Ад казак гэтых сэрцы таялі
І песні пеліся без слёз.

І ты шукала зоркі гэтае,
Калі дзіцём ішла ў траве...
І от зірні — агнём сагрэтыя,
І не адна, а цэлых дзве.

Ты паднімаеш вочы чорныя
Туды, дзе воблакі плывуць.
Яны на крыллях, непакорныя,
За хмары любага нясуць.

*1940 г.*

## ПРОСТЫ СВЕТ

Зірні перад сабою, і пабачыш
Прасторы неабдымныя, як мора,
І колераў яснейшых разнастайнасць —
Зялёную зямлю і неба сінь,
Магутныя, шырокія прасторы,
Што дыхаюць размахамі жывымі
Адвечнай маладосці і жыцця.
Яны травою леглі прад табою,
Яны — сасновым лесам каля поля,
Яны — ракой сінеючаю збоку,
Яны — вясновым шэлестам навокал
І птушкамі і небам над табою.
І ты, жыхар у гэтым простым свеце,
Блукаеш, поўны гэтым навакольным,
І слухаеш травы шурпаты шорах,
Журчанне рэчак, звон вішнёвай пены,
І назіраеш, як увечар зоры
На небавым блакіце усплываюць,
Як раніцай яны ў бяздонні тонуць.
І бачыш ты, як пралятаюць птушкі,

Губляючы з-пад крылляў крыкі ўніз,
Як на балоце ў стоме нерухомай
Застылі хвалі маладых алешын.
Блукаеш ты. І ў гэтым простым свеце,
Дзе лішняе няма ніводнай зоркі,
Ці лішняе травінкі або зыку,
У гэтым свеце, тут, тваё жыццё,
Тваё натхненне, мар тваіх крыніцы
І маладосці радаснае дом.
Аб ім адно падумаеш, і ў сэрца
Пальецца радасць ясная й багацце
Пачуццяў поўных, як у лузе рэкі,
І яркіх, як маланкавае ззянне,
І разнастайных, быццам бы вясёлка,
Ірдзеючая колерамі ўсімі
Над свежаю зямлёю.
Нейкі голас
На вуха шэпча ціха мне: «Ідзі,
Чакае свет цябе ў цішы вячэрняй,
У громе дня, бязмернасці стэповай,
У свежасці азёрнай і крынічнай.
Ідзі у гэты свет!»
І я іду,
Вясёлая і сумная істота,
І кожны зык і песню, што губляюць
З-пад неба птушкі, паднімаю я
І ў сэрца іх запісваю навечна...

*1939 г.*

* * *

Захоча сэрца смеху чалавека,
Ягоных слоў і поціску рукі,
І кідаю тады я шум дуброўны,
Іду ў натоўп вясёлы, мнагатвары,
Шматвокі і няспынны. Між людзей
Блукаю я, гляджу ў чужыя вочы
І бачу сэрцы, поўныя вясною,
Чытаю ўсмешкі іх і бачу — шчасце
Пад руку з чалавекам крочыць скрозь.

Яго я пазнаю, яно такое ж,
Як ты і я, як нашае сяброўства,
Як наш вялікі непаўторны край,
Па ім хачу ісці з празрыстай песняй,
Адкрыўшы грудзі ветру і вясне.
О колькі рук я з радасцю паціснуў!
О колькі плеч крануўся я плячыма!
О ў колькі воч я шчыра заглядаў!
І колькі слоў пачуў, як зоры, ясных!
З такім вялікім шчасцем добра жыць!
...............................................

Дзе хіліцца ў расхінутай даліне
Зялёных вербаў радасны прыбой,
Жывуць сябры мае у новых хатах
З адчыненымі вокнамі ў вясну.
З іх выплываюць песні, нібы птушкі,
Пад воблакі сівыя узлятаюць
І падаюць адтуль уніз, у лес,
Дзе разбівае іх на тысячы кускоў
Дуброўскае зайздрослівае рэха.
Бяру я песні гэтыя, як кветкі,
І крочу з імі проста па вясне,
Крычу прасторам, травам, зорам, людзям:
— Люблю я вас! Люблю!

*1940 г.*

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Б’ецца мора аб бераг дзікае,
Пер’е пены губляе скрозь.
Зноў з тугою, як свет, вялікаю
Ён прыйшоў сюды з краю кроз.

Кіпарысы вакол, як волаты,
Вецер гне іх і не сагне.
Кінься ўдалеч, і стрэнеш волю ты
Ці на хвалях, ці мо на дне.

Блудзіць погляд жывымі далямі...
Што там бліснула на скале?
Белы ветразь мільгнуў між хвалямі
І у пеннай растаў імгле.

Можа, гэта Страціму-лебедзю
Расставанне з жыццём прыйшло?
Ці патала, ў сухотах з’едзенай,
Маладосці твае крыло?

З дарагімі юнацтва рысамі
Адыходзіць яна без слёз...
Вузкаплечымі кіпарысамі,
Здэцца, свет тут увесь зарос.

А далёка, дзе край азёрамі
Заглядзеўся у неба сінь,
Ночы сыплюць густымі зорамі,
Ветры сцелюць лісцё асін.

Скарга, лепшую долю хвалячы,
Высцілае прастораў гладзь.
Трэба, трэба у тыя далечы
Песню славы, як гром, паслаць.

Б’ецца мора аб бераг дзікае.
Дык тугу ад сябе гані,
Хай пылаюць ярчэй вялікія
Залатыя жыцця агні.

Несучы у душы узрушанай
Мора сіняга грозны гнеў,
Ён прыбег у пакой, аглушаны,
Ён за столік з паперай сеў.

І калі ён, ад кашлю стомлены,
Адышоў ад гарачых слоў,
На паперы гарэлі полымем
Палкі верш і жывая кроў.

*1940 г.*

## ТРЫПЦІХ

### I

Патанулі ў рэчцы белыя аблокі,
І падплыло пад берагі там неба —
Блакіт ласкавы, плынны і глыбокі.
Для хараства яшчэ хіба што трэба?
І падплыло пад берагі там неба.
На берагах стаяць алешын сцены.
Для хараства яшчэ хіба што трэба,
Калі ад сонца уцякаюць цені?
Па берагах стаяць алешын сцены.
Лісты злятаюць і плывуць па плыні.
Калі ад сонца уцякаюць цені,
У сэрца радасць ліўнем вольна хлыне.

### II

Нахіліцца над рэчкаю крушына,
Зачэрпне срэбра у лістоў далоні.
На хваль блакітных кволую тканіну
Спадзе сляза з ліста лагоднай скроні...
...............................................

Ручай закленчыць ля калень кляновых.
Гляджу я задуменнымі вачамі
На астравы густыя лапуховы,
Што плаваюць забытымі слядамі.

### III

І сумна мне, і радасна чагосьці,
А думы наплываюць, нібы чоўны.
Аб нейкай невядомай прыгажосці
Складаецца ў душы напеў чароўны.
А думы наплываюць, нібы чоўны...
Гляджу я на струменістыя хвалі,
Аб нейкай невядомай прыгажосці
Нанізваюцца думы, як каралі.
Гляджу я на струменістыя хвалі,
На вольны, нібы мора, луг зарэчны.

Нанізваюцца думы, як каралі...
І так, здаецца б, скрозь, і так бы вечна.

*1940–1941 гг.*

* * *

Горы вакол і смутак.
Кружыцца галава...
Мора як на далоні,
Скалы і сінява.

Хвалі — авечы статак,
Ветразь крыляе ўдаль.
Ветразь, вазьмі мой смутак
І пахавай між хваль.

## РЭЧКА

Дзе лозы гнуцца ніцыя
І шэпча асака,
Блакітнай бліскавіцаю
Успыхнула рака.

Здалёку кліча, вольная,
На бераг, у кусты,
Дзе коціць плынь павольная
У зараснік густы.

Там ноччу зоры чыстыя
Гараць у хваль чаўне,
Там сонца днём срабрыстае
Ляжыць на самым дне.

Там вір гудзе задзірлівы
І сом купае вус,
Жыве шчупак пранырлівы,
Заўжды ляны мянтуз.

Туды усе дарожанькі
Вядуць вясёлых нас,

Дзе вербы мыюць ножанькі,
Пастаўшы на папас.

Дарожанькамі-сцежкамі
Бяжым хутчэй туды.
Далонямі з усмешкамі
Зачэрпнем мы вады.

Мы пазбіраем зоры ўсе,
Не ўтоне ні адна.
І нават з хваль угору, ўвысь,
Падымем сонца з дна.

І хоць да самай поўначы
Блудзіць ля берагоў,
Наловім рыбы поўна мы
І вернемся дамоў.

Дарожанькамі-сцежкамі
Мы пусцімся бягом.
І, бегучы узмежкамі,
Мы песеньку складзём:

«Дзе лозы гнуцца ніцыя
І шэпча асака,
Блакітнай бліскавіцаю
Ірдзеецца рака».

*1941 г.*

## УСПАМІНЫ

Станеш, слухаеш у смутку светлым —
Вее даўнім ад лугоў, далін.
Быццам зерне ў полі, ледзь прыкметна
Прарастае ў памяці ўспамін.

А за ім наступны... І праз хвілю
Ўжо рунеюць успаміны скрозь,
Як калісьці з любай тут хадзілі,
У вянкі прыбраўшы маладосць.

Як пасля ў імгле, вясной сагрэтай,
Патанулі русых дзве касы

І не адшукаліся дагэтуль...
Хіляцца ўспамінаў каласы.

Іх не зжаць і не скасіць, не сцерці.
Калыхні іх — і павее золь,
Як раса, асыплецца на сэрца
Радасць пражытая і боль.

*1941 г.*

## РАЗВІТАННЕ

Не схмурнею, як асенні вечар,
Галавы не абхаплю рукамі.
Абміну цябе я пры сустрэчы,
Як мінаюць прыдарожны камень.

Не застыну, як таполя ў полі,
І ад гора ж, пэўна, не заплачу.
На цябе, вось гэткую, ніколі
Сэрца маладога не растрачу.

Лепш аддам яго зялёным травам,
Громам гучным і світальным зорам,
Шэлесту лагоднае дубравы,
Небу, што навісла сінім морам.

Лепш аддам яго шляхам шырокім,
Ручаямі што плывуць па свеце...
Глянеш — скрозь лясы ў зялёным змроку,
Вішні патанулі у белым цвеце.

Абыду зямлю усю дарэшты,
Кожнай кветцы пакланюся нізка,
Бо яны, хоць і касой зарэж ты,
А да здрады й не падступяць блізка:

Бо у іх, аж покуль смерць іх,
Хопіць шчырасці і ледзь спагады,
Дык ідзі ж к другім з парожнім сэрцам,
Іншыя табой хай будуць рады.

Я ж не стану, як асенні вечар,
Галавы не абхаплю рукамі,

Абміну цябе я пры сустрэчы,
Як мінаюць прыдарожны камень.

*1941 г.*

## ГАРАЧЫНЬ

Гарачынь, як у пекле...
Над засмяглымі травамі
Бачаць вочы адну толькі вялую сінь.
Без ніводнай хмурынкі
неба томіцца млявае,
Смаліць сонца, астаткі адбіраючы сіл.
Хоць бы ценю якога...
Хіба дыхаць тут можна?!
Пачарнелыя вусны
хоць бы ў кроплі змачыць!..
На густых сенажацях,
на істужках дарожных —
Скрозь
прылеглі
вандроўцы
спачыць.
Гэты, землю абняўшы,
быццам сябра сустрэчнага,
Гэты, з неба
не зводзячы воч застылы блакіт, —
Так спачылі на хвілю...
Што кажу я?
Навечна.
Чуеш, сэрца? Навечна.
Скуль жа холад такі?
Быццам дроў наваляна…
Глянь, і жудасна стане...
Па-над імі ці ў сонцы, ці ў слязінах дажджу
Скора ўстануць курганы, і на кожным кургане,
Быццам яблыню, песню сваю пасаджу.

*Чэрвень 1941 г.*

## ЗВАРОТ ДАМОЎ

За вокнамі завея і віхор,
Сядзіць матуля, гледзячы на двор.

«Ох, дзе ты, — шэпча, — сыне, любы мой,
Мо налажыў даўно ўжо галавой

Ці на чужыне злы йшчэ мучыць лёс?»
Дрыжаць на вейках кроплі светлых слёз.

Раптоўна ў шыбу — стук. Ён чутны ледзь,
Але даволі матцы, каб самлець.

Заходзіць пара белая... Як сон!
Матуля рукі выцягнула — ён!

І як на дол бяроза ў бурны час,
Звалілася на грудзі сыну ўраз.

Плывуць урыўкі слоў. Радзіўся смех,
І на шыне шэрай тае снег.

Скідае шапку сын, і ў гэты міг
Матуля бачыць скроні й снег на іх.

І сціснуў сэрца боль пякучы ёй,
Што не растане снег ніколі той.

## ПАРАНЕНЫ

От і ўсё.
За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
Пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
Злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і блізкае
У астатні раз.

Меншыцца яно, маланкай бліскае,
Пачарнела ўраз.

Дзесьці плача кнігаўка...
Ці маці...
Мама, бліжай сядзь.
Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
Галавы не ўзняць.

Што ж ты не прытулішся, матуля?
На мяне хоць глянь,
Гіне сын героем твой ад кулі,
Каб квітнела рань.

Што з табою? Плачаш? З воч блакіту
Цэлы лівень слёз.
…………………………………….
Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцэ ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май,

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што я ў бітве лёг
За прыгожы родны край азёрны,
За вясну ў палёх.

*1942 г.*

## ПАЭТУ

Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся б цэлы свет:
І снягамі высыпаны студзень,
І маёвы бэзу сіні цвет,

Восеньскія жудасныя ночы,
Спевы салаўіныя вясны...
Нават дзён крывавых прывід змрочны,
Нават нашыя надзеі й сны.

Кожная травінка і усмешка
Месца адшукае сабе хай...
Толькі, ідучы жыццёвай сцежкай,
У няволю сэрца не прадай.

Як дзяціны ўсмех, хай чыстым будзе…
І калі сапраўдны ты паэт,
Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся б цэлы свет.

*1942 г.*

* * *

Няхай пацiскаюць плячамі,
Няхай сабе кажуць аб тым,
Што я і халодны, як камень,
І шэры, як дым.

А толькі ж як змоўкнуць напасці,
Як выйду ў прастораў красу,
І сэрца, адкрытае насцеж,
Я скрозь панясу.

Усім гэтым гладзенькім, глянцавым
Я кіну ім вокліч жывы:
— А вось яно! От яно! Гляньце вы!
Бачыце вы?!

І здзівяцца ж, мусіць, бясконца,
Убачыўшы ў сэрцы, ўнутры,
І палкасць ліпнёвага сонца,
І яркасць зары.

*1942 г.*

* * *

О бедны народ мой! О край мой радзімы!
І чым угнявіў ты свой лёс?
Плывуць саламяныя вёскі за дымам
У шэрую далеч нябёс.

Па полі, па хатах, між лоз і сасонкаў
Крывавыя кроплі расы...
Бяздомная маці над мёртвым дзіцёнкам
Ірве на сабе валасы.

Бы кроўю, ўсцілае людскія магілы
Лістоты асенняе медзь...
О сэрца, якою ўладаеш ты сілай,
Што гэтулькі можаш цярпець!

Гляджу навакол з ледзяною тугою,
І ў сэрцы адчаю уздым...
За край мой, заліты нявіннай крывёю,
Пракляцце чужынцам ліхім.

*1943 г.*

## РАССТРЭЛ

Пад расою густою
Адубелі дубы.
Залатою жарствою
Неба ўслана нібы.

Па-над возерам вербы...
Іх мой шлях не міне.
Тры маўклівыя стрэльбы
Праважаюць мяне.

Ледзь калышацца суччa,
Лісце шэпча над ім.
Ныюць раны балюча
Ды на целе маім.

Ласкай іх не атуліш,
Не абмыеш расой:

Тры халодныя рулі
Строга сочаць за мной.

Зоры тонуць на ўзлессі,
Ноч ужо растае;
Неба, поўнае песняў,
Нада мной устае.

Мне ў яго не ўзірацца
Больш ні ў яве, ні ў сне:
Куляў цэлых пятнаццаць
Нарыхтована мне.
Ой вы, вербы й сасонкі,
Зораў спелых сям'я!..
З вамі сёння на золку
Развітаюся я.

Стрэлы раніцу раняць,
Пырсне кроўю зара,
І звалюся я ў яму,
Нібы дуб ці гара.

Над курганам, што ўстане
Нада мною тады,
Закрасуецца станам
Дужы дуб малады.

Прыйдзе днямі другімі
К яму сябраў сям'я.
Павітаюся з імі,
Гэты дуб — гэта я.

Хтосьці ў спеве чароўным
Ўспамяне мяне там...
Вось і жвір супакойны...
Дык страляйце! Ўсё роўна
Не забіць мяне вам!

*1943 г.*

* * *

Часам зморыцца думка ад грымотаў і бітваў,
Ад крыві чалавечай, што навокал праліта.
Стукне сэрца ў грудзёх так:
цішыні б і спакою,
Як у вечар ліпнёвы над азёрнай вадою.

І паўстануць у думках — і каханае вочы,
І спатканні й расстанні ў салаўіныя ночы,
І юнацкія мары, і гарэзныя ўсмешкі,
І да самага сонца залацістыя сцежкі.

Ні дратоў, ні кайданаў, і прыяцелем кажны...
Смерць блукае далёка дзесь за годаў гарою,
І ад думкі, што гэта ўсё цяпер недасяжна,
Быццам студня вадою, сэрца поўна нудою.

*1943 г.*

* * *

Будзе калісь ранак светлы.
Прыйдзе радасць сеяць чары.
Засмяецца сонца ветла,
Расплывуцца ў неба хмары.

Змоўкне гул пад небам сінім,
Запылае меч у горне...
І, як маці тая сына,
Працы гул наш край агорне.

*1944 г.*

* * *

І я прыйшоў сюды, дзе ззяе медзі колер,
Галосяць і гудуць, спяваюць струны хвой.
У спеве тым журба, у гудзе непакой,
У звоне — востры жаль.
Трава аж сохне з болем,

І хочацца грудзьмі зваліцца й плакаць доле,
На вецер там пусціць, развеяць смутак свой,
Развеяць успамін, які блукаў тут колісь,
Што прозвішчам сваім гартоўным
скрозь звінеў,
Што ў гуле гэтых хвой тапіў пякучы гнеў
І песняй шалясцеў, нібы самотны колас.
А потым, гінуў як, мо думкай жыў адной:
Паслухаць бы ізноў акорды родных хвой.

*1944 г.*

## КАПЫЛЬСКІ САНЕТ

Хоць быццам воспа тут была: руіны
Скалечылі шырокіх вуліц твар,
Усё ж смяецца сонца з шэрых хмар,
Куляючыся ў лужы й каляіны.

Садоў зялёных скрозь гарыць пажар,
На ўзгорках прытуліліся хаціны.
І бесклапотны смех звініць дзяціны,
І сэрца поўніцца салодкіх мар.

Як ручаёк, ліецца спеў жалейкі,
І гул аўто, і жыхароў хада,
І вокан бляск, і неба, бы слюда...

Стаіць, і ў марах, пэўна, бачыць ён
Сябе асілкам даўніх слаўных дзён.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Соф'я Спясівых*

## СЛОВА ПРА БРАТА

«Аляксей, Алёшачка, сынок, дзе ты, дзе цябе шукаць?» — так галасіла маці, абнімаючы стройную бярозку каля хаты, гледзячы на дарогу ў першыя тыдні вайны. Ужо прайшлі, адступаючы, і нашы змучаныя воіны з разбітых часцей, ужо і немцы ў Капылі, а сына ўсё не было.

Ён прыйшоў, яшчэ адарыў нас сваім цяплом, але вайна ўжо няўмольна акрэсліла лінію яго лёсу чорным колерам смерці... І вось ужо амаль паўвека я магу толькі ўспамінаць яго, майго любімага брата.

Хата ў вёсцы Вуглы, дзе нарадзіўся Аляксей, стаіць і цяпер, толькі перанеслі яе з нізінкі, якая кожную вясну ў паводку затаплялася, на пагоркавы сухадол. За вокнамі шуміць сад, які Аляксей садзіў разам з бацькам. І тут жа, нахіліўшыся адна да адной, шэпчуцца тры бярозы. Іх пасадзілі бацькі: тры бярозкі — трое дзяцей у сям'і.

Сям'я наша працавітая, сялянская. Хлеб здабывалі цяжкай работай, ды ўволю яго амаль і не было. Калі пачалі будаваць сваю першую хату, маці дзень і ноч прала і ткала льняное палатно на продаж, збіраючы капейку да капейкі. Радасцей, уцех амаль не ведалі, але была надзея, што дзецям выпадзе шчаслівейшы лёс і лепшая доля. Глядзелі маці з бацькам на Аляксея і здзіўляліся, як гэта ён у такой нястачы ўжо з чатырох-пяці гадоў пацягнуўся да ведаў. Паглядзіць на які малюнак і складае па ім «гісторыі», а ўжо калі кніжка ў рукі трапіцца — не адабраць. Калі брату споўнілася шэсць гадоў, ён ужо прачытваў усе газеты на вышыню свайго росту, якімі была паклеена па беднаце замест шпалераў наша хата. Падыдзе малы да сцяны і чытае.

У Вуглах Аляксей закончыў тры класы, а сямігодку — у Доктаравічах. Абедзве гэтыя школы не захаваліся — іх спалілі ў вайну немцы.

Ужо ў пачатку вучобы настаўнікі пра Алёшу гаварылі, што гэты хлопчык незвычайны, вельмі здольны, яму абавязкова трэба вучыцца

далей. І бацькі адправілі сына ў Капыль, у дзесяцігодку. Дарэчы, у гэтай школе (адбудаванай, лепш аснашчанай) вучацца дзеці і цяпер. Жыў Аляксей на кватэры самастойна. Хацелася і пагуляць, самы час маладосці, але ён увесь быў аддадзены вучобе. Насупраць школы — хата сям'і Александровічаў, у іх была па тым часе добрая бібліятэка. Аляксей гадзінамі праседжваў у прыбудове да хаты з кнігамі. Пісьменнік Сцяпан Александровіч напісаў пра гэты час успаміны.

Вялікай радасцю было для бацькоў атрымліваць са школы падзякі ад такога сына. Але ў Аляксея здараліся часам і непаразуменні. Ён не толькі шмат чытаў, але і сам пісаў вершы, нават часам і на ўроках. Аднойчы на ўроку працы ён так захапіўся вершамі, што не паспеў выканаць заданне. Яму настаўнік паставіў адзінку. Гордасць не дазваляла брату прынесці дамоў такую адзнаку. Літаральна за некалькі хвілін ён выканаў заданне і, звычайна сціплы, рашуча накіраваўся ў настаўніцкую выпраўляць становішча. Тут яму ўпершыню давялося прызнацца, што ён піша вершы.

А праз нейкі час у бацькоўскім доме гэтая гісторыя знайшла свой працяг. Да ганка верхам на кані пад'ехаў хлопец, увайшоў у хату і стаў патрабаваць у маці, якая разгубілася, рукапісы Аляксея. Што было — забраў і на пытанне, што здарылася з сынам, кінуў: «Арыштавалі!» Што тут пачалося! Бацька хадзіў з кутка ў куток і выгаворваў маці: «Я табе казаў, правярай, што хлопец піша. Можа, глупства якое. Прапалі мы цяпер». А вечарам з'явіўся і сам брат. Стаіць у дзвярах, усміхаецца: «Ды пажартаваў ён. За што мяне арыштоўваць? Проста за вершамі паслалі. Сказалі, каб я ў газету аддаў».

Так праходзіла дзяцінства і юнацтва. Усе мы дзякуючы Аляксею пазналі паэзію і вельмі ім ганарыліся. Асабліва калі ён пасля дзесяцігодкі паступіў у Пединстытут імя А. М. Горкага ў Мінску. На канікулы Алёша прыязджаў з кніжкамі. Многае перапісваў. З сшыткамі было цяжка, дык ён з асобных лісткоў сам рабіў іх або маленькія кніжачкі, сам разводзіў з фарбы чарніла і каліграфічным почыркам перапісваў свае вершы і вершы любімых паэтаў. Толькі адна такая кніжачка, як пакласці на далонь, і захавалася. Вершы з яе пасля вайны ўжо былі надрукаваны ў зборніку «Апаленыя пялёсткі». Знаёмыя ўспаміналі, што Аляксея часта можна было бачыць, як ён сядзіць у інстытуцкім калідоры на падаконніку з нязменным спадарожнікам — кніжкай у руках. Яго любілі таварышы — за добрае сэрца, за гумар, за пастаянную гатоўнасць дапамагчы і падзяліцца апошнім. Быў бы з Аляксея добры настаўнік, бо ён не толькі шмат ведаў, але і ўмеў знайсці падыход і да людзей.

Але ўсе планы і мары парушыла вайна. Ужо з ахопленага агнём Мінска, калі дыміліся руіны разбомбленага педінстытута, пайшоў Аляксей па Магілёўскай шашы на ўсход.

Вось тады і адчулі мы ўпершыню, як цяжка чакаць роднага чалавека, калі зямля вакол гарыць.

Пакінула вайна свой след і ў Вуглах. 22 раненыя савецкія салдаты з тых адступаўшых некалькі дзён хаваліся ў сялянскіх сем'ях. Бацька збіраў па хатах збожжа, малоў муку, а маці пякла для іх хлеб. І прыгаворвала: «Можа, і мой сынок дзе-небудзь так маецца, можа, і яму чыя маці дапаможа».

Прыйшоў Аляксей дамоў толькі праз два месяцы, калі маці ўжо ўсе слёзы выплакала, а Капыль занялі фашысты і ўстанавілі свае звярыныя парадкі. Не ўдалося групе студэнтаў прабрацца да сваіх, немцы хутка пасоўваліся. Памятаю, ледзь рыпнулі дзверы, як маці кінулася да парога:

— Гэта ты, сынок?!.

— Я, мама.

Аляксей прыйшоў змучаны, ледзь трымаўся на нагах. З ім быў таварыш. Маці пачала накрываць стол, але яны ад яды адмовіліся. Аляксей сказаў: «Калі я цяпер паем, вы мяне і пахаваеце, бо я даўно нічога не еў». Па маленькаму кавалачку хлеба яны ўсё ж з'елі. На ноч маці паслала на лаўцы, дала самую лепшую падушку, але брат з-пад галавы пераклаў яе пад ногі. Калі мы зірнулі на іх, то ледзь не самлелі: ногі моцна апухлі, былі ў пухірах і вадзянках. Колькі ён прайшоў пешшу, больш ноччу, па балотах і лясах, колькі хаваўся днём — усё ўбачылі мы на гэтых знявечаных нагах.

Праз нейкі час стала чуваць, што людзі ідуць у лясы, у партызаны. А мы не маглі пайсці: цяжка захварэў бацька — у яго адкрылася язва страўніка. Забралі партызаны нашу карову і каня, каб фашыстам не дасталася. А жыццё наша пакрылася суцэльным змрокам, напоўнілася страхам. Моладзь гналі ў Германію. Выратавацца ад гэтага было амаль немагчыма. Было адно толькі выйсце — пайсці служыць немцам тут, у Капылі. Але гэта выйсце было не для нашай сям'і. Аляксей добра ведаў нямецкую мову, яму прапаноўвалі працаваць перакладчыкам, але ён адмовіўся, спаслаўшыся на хваробу. Мне ж ішлі позвы за позвай. Аднойчы ўдалося ўгаварыць начальніка паліцыі ўзяць мяне працаваць на вапнавы кар'ер. Работа там была жахлівая, надзвычай цяжкая, але ўсё ж на радзіме, а не на чужыне ў фашысцкім рабстве. Так і выратавалася. Але шмат гадоў яшчэ хварэла пасля гэтай работы на рэўматызм. Аляксей таксама ўсяляк хаваўся, унікаў з'яўляцца па позвах, а потым пайшоў у лес. І зноў пачаліся дні і ночы хваляванняў. Малодшы брат Віктар (ён быў у той час падлеткам) раздабыў вінтоўку і таксама ўсё парываўся пайсці ў партызаны. А вакол толькі і чуваць было, што расстралялі партызанскую сям'ю,

спалілі хату. Аднаго разу ўзялі заложнікамі дваццаць двух чалавек за двух забітых фашыстаў, загналі ўсіх у адну хату і спалілі жывымі. Хто з вокнаў спрабаваў выскачыць, таго з аўтаматаў расстрэльвалі. Давялося і нам ісці ў лес. А бацька ж быў вельмі хворы — важыў усяго 35 кілаграмаў, так схуднеў. Страшны быў час. Аляксей вельмі сумаваў і перажываў ад таго, што родная зямля пад немцам і гінуць нявінныя людзі. Гэты настрой яскрава адчуваецца ў вершах Аляксея таго часу. Увесь боль душы ён укладваў у вершы.

І як быццам прадчуваў свой лёс...

Калі нашыя войскі пачалі гнаць фашыстаў, Аляксей уступіў у Чырвоную Армію і стаў разведчыкам. Мы і думаць не маглі, што ён будзе разведчыкам, бо быў зусім не волатаўскага складу, хударлявы. А душой быў вельмі чулы і спагадлівы. Але, відаць, сіла духу ў ім была большая за яго фізічныя сілы. Помню, як ён прыслаў пісьмо аднекуль з-пад Жабінкі, у якім пісаў, што яго абавязак — гнаць немцаў з роднай зямлі, а мой — дагледзець бацькоў, выратаваць іх.

І яшчэ помніцца. Калі брат адыходзіў з наступаючай Чырвонай Арміяй, то раптам заспяваў:

Умирать нам рановато,
Есть у нас еще дома дела...

Так, рана, вельмі рана забрала вайна жыццё Аляксея. Было яму ўсяго 25 гадоў. Колькі ж добрых спраў ён не паспеў зрабіць?!.

Я і цяпер не магу сабе дараваць, што не зберагла кожны лісток, які быў напісаны яго рукой, кожную кніжку, якую ён чытаў і так беражліва захоўваў.

Жыццё, жыццё... Гора доўга не пакідала нашу сям’ю, давялося перажыць і смерць бацькоў, і смерць сваіх маленькіх дзяцей, і шматлікія хваробы... Я не перастаю здзіўляцца, які несправядлівы і незразумелы лёс. Два гады «праваяваў» у партызанскім атрадзе наш конь і якімсьці чынам уцалеў — прыйшоў сам з лесу пад нашы вокны, жывы, цэлы — адваяваўся.

А брат загінуў...

Доўга, многія гады шукала я магілу брата. У «пахаронцы» толькі значылася, што загінуў ён ва Усходняй Прусіі. І вось толькі ў 1987 годзе атрымала я вестачку. Прыводжу яе поўнасцю. Магчыма, добрыя людзі, каму дарагое імя паэта Аляксея Коршака, калі будуць у тых мясцінах, наведаюць і яго магілу.

«Калінінградскі абласны ваенны камісарыят. 236029, г. Калінінград-29 (абласны).
Грамадзянцы Спясівых С. І.

Паведамляю, што на аснове паведамлення ЦАМА СССР радавы

Коршак Аляксей Ігнатавіч занесены ў спісы загінуўшых і пахаваных у брацкай магіле пас. Корнева Баграціёнаўскага раёна Калінінградскай вобласці. Маршрут руху да месца пахавання: да г. Калінінграда поездам і далей да пасёлка Корнева аўтобусам. Для праезду ў пас. Корнева ў аддзеле ўнутраных спраў па месцы Вашага жыхарства аформіце пропуск.

Калінінградскі абласны ваенны камісар
палкоўнік В. *Міронаў*».

Афарміла я пропуск і паехала... Падышла да мемарыяльнага комплексу на брацкай магіле. Ледзь змагла падняць вочы на паўтараметровыя пліты з тысячамі прозвішчаў. Калі ўбачыла «Коршак», сэрца сціснулася і слёзы паліліся з вачэй. Падышла я да салдата з аўтаматам, не, не да жывога, а да манумента, схіліла галаву на яго цяжкі шынель і ў думках звярнулася да яго, як быццам гэта і ёсць мой брат:

«Добры дзень, Алёшачка. Я выканала твой запавет, пражыла сваё жыццё сумленна. Але як мне цябе не хапала! Як бы ты абараніў мяне ў бедах, як бы дапамог парадай! Ты самы высокі і стройны, стаіш з аўтаматам так, як і тады, калі пайшоў ад роднага парога. Чаму ж ты маўчыш і не гаворыш нічога? Чаму ж ты мне ні разу не прысніўся? Скажы хоць слоўка, як мне жыць, як сям'ю весці далей?»

Пайшла я каля доўгага рада пліт, пад якімі ляжаць нашы бедныя салдацікі. Прозвішчы іх усіх па алфавіце расстаўлены — белым па шэрым полі, як сівізна.

Лежыцё вы тут, родныя, і ты, мой брат, Аляксей Ігнатавіч, каб унукі нашы жылі. Больш за ўсё я мару, каб мой унук Дзімка вырас падобным да цябе і зрабіў тое, што не паспеў зрабіць ты для сваёй Радзімы.

*1990 г.*

*Сцяпан Александровіч*

## ВАРУШАЧЫ ПАМЯЦЬ

Табе, Аляксей, пяцьдзесят. Ты крыху ссутуліўся, памажнеў. На скронях ледзь-ледзь пасвятлелі твае русявыя паласы, у вачах па-ранейшаму глыбокі роздум, а ля вуснаў застыла ўсмешка, поўная ўвагі і дабраты...

На маёй кніжнай паліцы звыш дзесятка тваіх зборнікаў вершаў, раман (а мо вялікая эпічная паэма) пра вайну, які ты пачаў пісаць яшчэ тады, у 1943 годзе. Часцяком ты заходзіш да мяне, я — да цябе, сустракаемся ў рэдакцыях, чую твой голас у тэлефоннай трубцы:

— Давай паедзем у Капыль... Чаго? Проста паходзім, з людзьмі пагаворым. Можа, што і напішацца... Заглянем у маю Закопанку...

Так магло быць, але так ніколі не будзе. Няма і дзесяці зборнікаў, ёсць толькі тоненькая кніжачка «Апаленыя пялёсткі», выдадзеная пасмяротна.

Аляксею Коршаку магло быць сёлета пяцьдзесят (нарадзіўся ён 22 лютага 1920 года), але яму будзе заўсёды толькі 25. Бо загінуў таленавіты паэт і мой добры сябар напрадвесні, 27 лютага 1945 года ў далёкай і хмурай Усходняй Прусіі. Яго шчаслівейшыя аднагодкі становяцца дзядамі, а Аляксей, малады, спакойны і, як заўсёды, крышачку задуменны, пазірае на мяне.

Капыляне старэйшага пакалення памятаюць, як у канцы Какорыцкай вуліцы неяк хутка выраслі сцены двухпавярховай школы. Было гэта, здаецца, у 1933 годзе. Складзеная з яловых круглякоў будыніна выглядала весела і прывабна, у класах былі прастор і сонца. З усяе ваколіцы пацягнуліся дзеці ў дзесяцігодку.

Прыйшоў у 1935 годзе з Доктаравіцкай сямігодкі ў восьмы клас і Аляксей (я тады вучыўся ў сёмым). Знаёмства наша адбылося ў першы ж дзень вучобы. Мой старэйшы брат Ісмаіл вучыўся таксама ў восьмым класе і пасля ўрокаў прывёў Аляксея да нас у хату: нейкім чынам новы вучань уведаў, што ў нас шмат кніг.

Брата некуды паслала маці, таму я павёў Аляксея ў бакоўку, дзе на самаробных паліцах стаялі кнігі. Сарамяжы і скупы на слова хлопец узяў тады ў нас добры дзесятак кніг, і — о, дзівак! — усё гэта былі зборнікі вершаў. Праз некалькі дзён ён зноў выбіраў кнігі, а праз які месяц-два стаў у нашым доме сваім чалавекам. Забярэцца ў бакоўку і корпаецца на паліцах. Вучоба яму давалася лёгка, над падручнікам ён сядзеў мала, увесь час аддаваў чытанню.

Зімовымі вечарамі маці запальвала ў грубцы, ставіла чыгунок бульбы, я прыносіў са склепа міску капусты. Калі сілком усаджвалі Аляксея за стол, ён браў якую бульбіну і лыжку шаткаванкі. За чужым сталом, на людзях, адчуваў сябе заўсёды няёмка. Іншым чалавекам ён выглядаў, калі збіралася ў нас свая вучнёўская братва. Аляксей тады мог парагатаць, расказаць што-небудзь смешнае.

Кватараваў Коршак непадалёку ад нас, на Дубніцкай вуліцы. Побач жылі хлопцы з Доктаравіцкай школы ці проста знаёмыя і аднакласнікі. Збіралася вясёлая кампанія, якая завальвалася на вячоркі да дзяўчат ці чвэрыла якія жарты дома. Аляксей уцякаў тады да нас або ішоў у нардом, дзе была бібліятэка.

Зрэдку хлопцам удавалася ўцягнуць у свае начныя паходы Аляксея. Колькі было пасля з яго кепікаў і жартаў! А ён маўчаў і загадкава пасміхаўся. Аднойчы пасля такой начной вылазкі Аляксей прыбег да нас вясёлы і ўсхваляваны. Мы зачыніліся ў бакоўцы, і ён даў майму

брату сшытак, у якім была вясёлая паэма «Капрызы фартуны» — пра школьных сяброў і іхняе жыццё. Хапіла перцу ўсім: і знаёмым вучням, у тым ліку мне з братам, і нашым настаўнікам. Падзеі разгортваліся на фоне капыльскіх навін, падаваліся з лёгкім гумарам і дасціпным жартам. Брат паспеў дачытаць паэму да палавіны, як у хату ўварваліся раз’юшаныя героі паэмы. Пачалася валтузня, хлопцы хацелі адабраць і знішчыць сшытак, але дужы Аляксей не даўся. Праўда, пасля героі паэмы дабраліся-такі да таго сшытка і пусцілі яго з дымам...

Нядаўна, пераглядаючы Коршакаў архіў, я натрапіў на чарнавікі, дзе захаваліся кавалачкі паэмы. Пачыналася яна гімнам роднаму мястэчку:

Капыль, Капыль! Мой любы дружа,
Люблю я строгі выгляд твой,
Твайго нардома корпус дужы,
Сады з зялёнаю ліствой...
……………………………………

Як я люблю дзяўчат спяванні,
Што падпіраюць ноччу плот,
Тваю Брахалаўку й Русанкі,
Куды калісь хадзіў Санот...
О светлае пары гулянкі,
О далечы забытых год!

Удалося разабраць яшчэ некалькі мясцін. Вось капыльскі побыт таго часу:

Быў ясны дзень, прыгожы, светлы,
Як пчолы, гуў вакол кірмаш,
Хіляўся Эмала так ветла.
Як слуп, стаяў Карповіч наш,
Лузаў гарбузікі Заброцкі,
І цераз плошчу, як жабрак,
Цягнуў карзіну Максімовіч,
Высокі й тонкі, як гусак* .

Было ў паэме многа гумару, сатырычных мазкоў, мясцін з падтэкстам, якія маглі зразумець толькі мы. Адначасова было шмат жывых і рэальных герояў, яркія малюнкі капыльскіх мясцін, проста памятных дэталей («было ля больніцы гумно — гарэла сённячы яно...»). Усё

* У Капылі Брахалаўкай называлі цэнтр, дзе звычайна ўвечары збіралася моладзь; Санот і Максімовіч — вучні; Эмала — капыльскі жыхар; Карповіч і Заброцкі — настаўнікі.

гэта надавала твору нейкі своеасаблівы каларыт.

Аляксей, вядома, узлаваў некаторых хлопцаў сваёй паэмай, але замацаваў свой аўтарытэт паэта. Многія з нас рыфмавалі для насценгазеты, і кожны ведаў, колькі над гэтым трэба было папасядзець. А тут за якія тры вечары з'явілася паэма! Ды якая!

Поспех першага твора акрыліў Аляксея, і ён прапанаваў выдаваць рукапісны літаратурны часопіс. Так з'явіўся першы нумар «Юнага племя», які прыгожа аформіў мой брат. Аляксей даў вершы, я — прозу, хлопцы — гумар, сатыру і пародыі. За зіму мы выпусцілі тры нумары. Вясной 1937 года праца наша трапіла ў рукі школьнаму начальству. Надоўга ўсчалася цяганіна і тузаніна. Найбольш шышак сыпанулася на Аляксееву галаву.

Па-ранейшаму ён прыходзіў да нас, да позняга праседжваў у бакоўцы за кнігамі, мала гаварыў, зусім перастаў смяяцца. На нашыя роспыты адмоўчваўся ці пераводзіў гаворку на іншае. І раней ён не вельмі ахвотна паказваў каму свае вершы, а цяпер не хацеў пра іх гаварыць і аднекваўся:

— Не пішу ніякіх вершаў...

Аднак мы хутка даведаліся, што Коршак зрэдку друкуецца ў слуцкай раённай газеце, атрымлівае лісты з мінскіх рэдакцый. Пра гэта расказвалі хлопцы, што з ім кватаравалі. А вясною 1938 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіліся два яго вершы. Мы ад душы радаваліся яго поспеху.

Потым надышло расстанне з капыльскай школай і школьнымі сябрамі. 22 чэрвеня 1938 года адбыўся выпускны вечар, у звязку з гэтай падзеяй Аляксей напісаў верш, які так і не адважыўся прачытаць...

Улетку ён разы са два прыходзіў да нас, каб дамовіцца з Ісмаілам наконт паездкі ў Мінск (брат таксама закончыў школу і збіраўся паступаць у інстытут). Пасля я атрымаў ад Коршака некалькі лістоў з Мінска (на жаль, яны не захаваліся), ён вучыўся на філфаку Пединстытута імя М. Горкага. Неўзабаве і я прыехаў вучыцца ва універсітэт. Аляксей узяў нада мной апеку і знаёміў са сталіцай. Аднак у Мінску я доўга не затрымаўся: праз месяц мяне прызвалі ў армію і накіравалі ў Куйбышаў. Там я з радасцю чытаў Аляксеевы лісты.

Вось адзін з іх, датаваны 4 студзеня 1940 года. Жыў тады Коршак у студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Энгельса, 52-а, пакой 4: «Шлю табе некалькі сваіх вершаў. Праўда, яны не зусім апрацаваны, не хапае часу і ўмоў. Я імі яшчэ сам незадаволены...

У нас у інстытуце арганізуецца выданне літаратурнага часопіса. Ужо выбралі крыху матэрыялу, на днях прыступілі да друкавання.

Чытаў зборнік вершаў Максіма Танка «На этапах»... Гэта ўжо другі зборнік М. Танка, які я прачытаў (уперад я чытаў «Пад мачтай», выдання 1938 г.). Вельмі таленавіты паэт».

Лісты прыходзілі не так часта, летам, на канікулах, Аляксей не пісаў, але затое з Мінска дасылаў вестку кожны месяц. Звычайна гэта былі змястоўныя і сур'ёзныя думкі, трапныя назіранні над жыццём і студэнцкім побытам. Дзякуючы шчасліваму выпадку ў мяне захаваўся ліст, які я атрымаў у Баку. Ён пісаў:

«Зараз на вуліцы гразь, дождж — нікуды не выйсці цяпер. А што такое гразь і дождж на Студэнцкай вуліцы (я там жыву), ты павінен ведаць. Не вуліца, а балота нейкае — Студэнцкае Палессе. А тут яшчэ грошы хутка скончацца, і як падумаеш аб гэтым, дык кепска становіцца на сэрцы. Ты ж ведаеш пастанову аб стыпендыі. Многія галаву згубілі. Але я не адступаю. Не даюць грошай? Напляваць! Пражывем і без іх. Людзі не так жылі, як мы, і заўсёды знаходзілі выхад з становішча... Наогул, трэба адзначыць, што кожная з'ява ў жыцці мае два бакі: дадатны і адмоўны. Такім чынам, і гэтая з'ява, аб якой мы гаворым, мае свой дадатны бок. А іменна: цяпер вучыцца не будуць розныя выпадковыя людзі, а іх, трэба прызнацца, многа ёсць. Па-другое, павысіцца якасць вучобы, будзе менш невукаў... Студэнты сталі цяпер больш вольнымі. Я хацеў сказаць, адчулі сябе смялей. Прапускаюць лекцыі, нікога не баючыся (у прыватнасці, я). Што новага ў літаратурным жыцці? Выйшлі з друку зборнікі вершаў М. Багдановіча, М. Танка (на беларускай мове ў Мінску і на рускай — у Маскве), П. Пестрака, Н. Тарас, апавяданні М. Лынькова і інш. Выйшаў пяты нумар «Полымя рэвалюцыі», у якім змешчаны канец нядрэннага рамана Р. Мурашкі «Салаўі святога Палікара». Хутка павінны з'явіцца ў свет новыя кнігі А. Куляшова і П. Панчанкі, гісторыя беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры для сярэдняй школы і інш. Бывай! *Аляксей*. Пішы па адрасе: БССР, Мінск, Студэнцкая, дом 42, кв. 6.

*18 лістапада 1940 г.*»

Радкі яшчэ з аднаго пісьма, напісанага перад самай вайною: «Апошні месяц у мяне быў заняты больш як калі. Патрэбна было здаваць экзамен, пісаць семінарскую работу, хадзіць на лекцыі і, акрамя гэтага, працаваць. Як табе вядома, я працую літкансультантам у «Чырвонай змене»...

Цяпер у нас, у інстытуце, пачаўся паход на беларускую мову. Быў загад дырэктара, каб пэўныя лекцыі чыталіся на беларускай мове. Гэта мне вельмі падабаецца. Чытаю Спінозу...»

Вайна застала Аляксея ў Мінску. На трэці дзень ён з сябрамі пехатою падаўся на ўсход, у кірунку Магілёва. Але прабіцца не ўдалося, давялося вярнуцца да бацькоў у родную Закопанку, што на Капыльшчыне.

Сустрэліся мы зноў у кастрычніку 1942 года. Паспытаўшы ба-

ланды з гнілых буракоў і кукурузнага шалупіння, я ўцёк з лагера ваеннапалонных у Крывым Розе і пасля амаль двухмесячных начных пераходаў давалокся ў вёску Сярэднікі, дзе зваліўся з ног. Там нейкі дзядзька злітаваўся нада мною і прывёз дамоў, у Капыль. На трэці дзень яшчэ ўранку прыпёрся Аляксей і адразу пытаецца пра мяне. Гэта вельмі здзівіла маіх бацькоў, пра маё вяртанне яны нікому яшчэ не гаварылі, бо баяліся, што мяне забяруць у слуцкі лагер ваеннапалонных.

У дзвярах паказалася знаёмая постаць, на твары радасная ўсмешка. Аляксей, дарагі браток! Мы сардэчна павіталіся. Тры гады як не бачыліся. Не так многа прайшло часу, а колькі неспадзяванага на свеце! У Капылі немцы. У сваю хату я прыйшоў тайком...

— Ну, Сцяпан, цябе і размалявалі! — заклапочана прамовіў Аляксей і прысеў на край ложка (пасля галадання, ацёкаў і жаўтухі я стаў лысы і азызлы тварам).

Слова за слова — і пачалася гутарка. Рахункі невясёлыя. Аляксей пакуль што працуе настаўнікам у Вуглоўскай пачатковай школе. Ён зрабіў выразны акцэнт на словах «пакуль што», падкрэсліваючы, што праца гэта да часу... Гаворка перайшла на франтавыя навіны, успомнілі знаёмых, школьных сяброў...

Маці прынесла пачастунак, я падняўся з ложка. Бяседа наша крыху ажывілася. Я распытваў Аляксея, што ён напісаў новае, але ён, як звычайна, не любіў гаварыць пра свае вершы і перавёў размову пра Я. Купалу («Ці праўда, што паэт памёр?»). Гэта для мяне была навіна...

Зімой з 1942 на 1943 год мы яшчэ некалькі разоў сустракаліся. Аднойчы напрадвесні Аляксей прыйшоў нейкі асабліва ўзбуджаны і, можна сказаць, радасны. Было гэта ў другой палове дня, і я ўгаварыў яго заначаваць у нас (да Закопанкі ад Капыля добрыя кіламетраў дзесяць). У тую ноч мы сядзелі з Аляксеем да позніх пеўняў. Ён прызнаўся, што чытаў некалькі нумароў «Правды» з матэрыяламі пра разгром немцаў на Волзе, пахваліўся, што апошнія дні яму трохі пішацца. Задумаў напісаць вялікую рэч пра вайну.

Пасля Аляксей прапаў надоўга. Што з ім і дзе ён, я нічога не ведаў. На другі дзень вызвалення Капыля Савецкай Арміяй наш партызанскі ўзвод атрымаў заданне выехаць у Доктаравічы, каб наладзіць сувязь з камандаваннем воінскай часці, што там размясцілася і расчышчала кусты на лузе для палявога аэрадрома. Ад Доктаравіч рукой падаць да Закопанкі, і я адпрасіўся наведаць свайго сябра.

Я застаў яго ў садзе пад яблыняй. Яму заўтра ў армію. Мой прыход быў для яго такой жа радаснай неспадзяванкай, як некалі яго для мяне пасля вяртання ў Капыль. Тут жа, на мяжы пад яблыняй, мы пажадалі адзін аднаму самага лепшага і развіталіся... назаўсёды.

Аляксей прасіў застацца: у абед збярэцца радня, паседзімо, пагаворым. Я не мог. Каб жа ведаў тую бяду!..

Пехатою дайшоў Аляксей да Белавежскай пушчы, даганяючы сваю вайсковую часць — палявая пошта № 16131 «Ы». Спачатку я атрымліваў ад яго скупыя словы, а потым прыйшоў салдацкі трохкутнік такога зместу:

«*6 снежня 1944 г.*

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны маёй убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю...

Вось гэтыя словы, дарагі мой сябар, нашага выдатнага Якуба Коласа я паўтараю са сваімі сябрамі амаль кожны дзень. Калі знаходзішся ад роднага краю на многія сотні кіламетраў, калі навокал цябе не рассцілаюцца шырокія палі роднае Случчыны, а кругом чужыя прасторы і іншыя людзі, калі перад тварам знаходзіцца яна, чужая, суровая, незразумелая і варожая Усходняя Прусія, тады асабліва вырастае ў сэрцы замілаванне да свайго краю, за лёс і жыццё якога вядзем мы зараз зацятае змаганне.

Зараз у нас яшчэ цёплае па-восеньскаму надвор'е. Снег прабаваў церусіць, але зараз жа і гінуў. Вецер, гразь, часам дождж. Аднак і распісаўся я. Хопіць. Пяройдзем да справы. Я толькі што атрымаў твой ліст ад 15 лістапада. Цікавыя навіны паведамляеш ты мне, і я шчыра дзякую табе за гэта. Прышлі мне, браток, выразак такіх, якія мяне цікавяць. Ты ведаеш якія. Адносна кніжак. Шкада, што многія з іх у цябе загінулі. У мяне дома нічога цікавага, на жаль, не засталося. Аднак схадзі калі-небудзь да нашых, перагледзь мае кніжкі і забяры цікавейшыя. Бацькам, замест дазволу, пакажы мой ліст. Там дзесьці і мае вершы і сшыткі. Можаш іх забраць усе.

Дарэчы, Сцёпа, ёсць там недалёка ад цябе адна антыкварная рэч. У адной вёсцы Слуцкага раёна маецца камплект «Нашай нівы». Вось пастарайся дастаць яе, калі яна яшчэ цэлая. Шукай яе па гэткім адрасе: пас. Міхайлаўка Сярэдніцкага с/с, Канонсык Павел.

У гэтай справе табе можа дапамагчы мая стрыечная сястра. Падумай над гэтым.

*P. S.* Пахваліўся надвор'ем, а тут якраз пачаў ляпіць снег. Ну, бывай! Пішы. З нецярпеннем чакаю твайго пісьма.

Твой сябар *Аляксей*».

Праз некалькі дзён прыйшоў новы ліст:

«*4 студзеня 1945 г.*

Добры дзень, дарагі сябар!

Даўно ўжо не меў ад цябе лістоў. І сам не прыдумаю прычыны гэтаму. Праўда, цяпер я на новым месцы, і пісьмы твае на стары адрас да мяне не дойдуць...

Зараз я знаходжуся на фронце ва Усходняй Прусіі. Пішу табе ліст у бліндажы пад гром артылерыйскай кананады. Штосьці ўзбэнчыўся сёння нямчур і не хоча ціха сядзець. Жыццё франтавое пакуль ніштаватае. Трывожнае, праўда, але ж без гэтага нельга.

Маю адну просьбу: пішы хутчэй і больш і не забудзь прыслаць чаго-небудзь пачытаць з мінскіх газет і часопісаў. Прыслаў бы табе сваіх вершаў, але не маю больш паперы. Іншым разам напішу больш і прышлю вершы...»

Апошні трохкутнік быў таксама кароценькі:

«*18 лютага 1945 г.*

Здароў, Сцёпа!

Што гэта змоўк ты? Ніводнага слова ад цябе не дабіцца... Навіны мае невялікія і шмат апісання не зоймуць. Знаходжуся я зараз на фронце ва Усходняй Прусіі.

Змаганне зараз ідзе надзвычайна жорсткае...

Меў лісты ад Астапенкі. Ён ужо выпускае зборнік вершаў. Зайздросна становіцца, калі прачытаеш пра гэта. А мне тут нават ліст чыркануць і то не выбачыць часу.

Ну што ж, будзем чакаць. Будзем жывы, то сваё нагонім».

Чакаў я, чакаў абяцаных Аляксеевых вершаў і не дачакаўся. Не было і лістоў. У сэрца закрадалася трывога, ва Усходняй Прусіі ішлі зацятыя баі. Пісаў у Капыль лісты і прасіў даведацца, што чуваць пра Коршака. На майскія святы 1945 года я прыехаў дамоў, тут мяне чакала страшная вестка: нібыта Аляксей загінуў пад Цэхановам. Пасля стала вядома, што разведчыка Аляксея Ігнатавіча Коршака падкасіў нямецкі аўтаматчык 27 лютага 1945 года каля вёскі Наслейндорф ва Усходняй Прусіі...

Нядаўна я наведаў Закопанку, пасмуткаваў разам з Таццянай Максімаўнай. Яна і сёння аплаквае сына... Перагледзеў запісы, чарнавікі, чыставыя рукапісы Аляксея. Многае тут вартае ўвагі і публікацыі. Яшчэ больш такіх чарнавых матэрыялаў, якія нельга друкаваць, але якія сведчаць, як сур'ёзна, старанна і многа працаваў малады паэт, наколькі шырокі быў дыяпазон яго творчых інтарэсаў. Тут матэрыялы да слоўніка беларускай мовы, народныя песні, тэзісы артыкула пра дарэвалюцыйную беларускую паэзію, пачатак нарыса пра Капыль і многае, многае іншае... Колькі задум, планаў, чарнавых фрагментаў і загатовак для будучых твораў...

Як крыўдна і балюча, што песня таленавітага паэта абарвалася на паўслове...

*1970 г.*

*Рыгор Бярозкін*

## НАД КАСТРОМ ВЯЛІКАГА СЯБРОЎСТВА

З-за далечы гадоў, нястрымана імклівых і поўных выпрабаванняў, вобраз гэтага юнака паўстае ўжо авеяны лёгкай смугой. Помніцца, прыходзіў перад самай вайной у рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» ціхі хлопец, засяроджаны на нечым вельмі сур'ёзным, што жыло ў глыбінях яго чалавечай істоты і настойліва шукала выйсця да людзей-таварышаў, людзей-сяброў. Хлопец прыносіў вершы, і гэтыя вершы падабаліся ўсім: «Аляксей Коршак? Цікава... Далёка пойдзе паэт...»

Ён і сапраўды пайшоў далёка. Толькі не радасным шляхам паэзіі, а цяжкім, крывавым шляхам вайны: над паселішчам Ласлейндорф, што ва Усходняй Прусіі, баявога разведчыка Аляксея Коршака скасіла нямецкая куля. І асталіся пасля яго чырвоная зорка над абеліскам, добрая памяць ва ўсіх, хто ведаў паэта, і невялічкі сшытак вершаў, выдадзеных нядаўна асобнай кніжкай.

Я ўважліва прачытаў гэту кніжку. Яна пакідае светлае ўражанне. Адчуваецца, што яе пісаў чалавек з талентам і сэрцам, праўда, яшчэ недастаткова спелы і вопытны.

Творчасць Аляксея Коршака даваенных год была ва ўладзе агульнага і слаба акрэсленага ў сваіх абрысах, але шчырага юнацкага рамантызму... Першае каханне, першая сустрэча з прыродай. Шчасце, мары, сум, захапленне — гэтымі эмоцыямі, узятымі пакуль што даволі адцягнена і ўмоўна, вызначалася літаральна ўсё ў паэзіі Коршака: сюжэты, матывы, вобразы і фарбы верша.

Паэт яшчэ не заклапочаны тым, каб знайсці свае ўласныя сродкі, здольныя перадаць усю непаўторную характэрнасць жыццёвай з'явы.

Штодзённаму побыту людзей ён давярае мала. Сутнасць майстэрства ён разумее як умельства напісаць трыпціх або трыялет, і лірыку Коршака захліствають «паэтызмы», накшталт: «І не сягаць парыўна ў просінь, не рассыпаць, бы ружы, кроз»; «Вечар сіні і зерні-зоры супакой адабралі мой»; «Як туман, вее сум сардэчны»; «Колькі скрозь нязнаных сэрцу «чараў»; «Сінь вачэй засмучаных бачу я сярод зор» і г. д. і г. д.

Заўважу, дарэчы, што і сёння можна сустрэць «знаўцаў» паэзіі, цвёрда перакананых, быццам у падобнага роду «паэтызмах» і заключаецца якраз чароўнасць лірыкі, яе эмацыянальная сіла, яе здольнасць хваляваць чалавечыя душы. Што да Аляксея Коршака, то ён хутка зразумеў усю несапраўднасць гэтай прыгажосці, разлічанай

на павярхоўны і малапатрабавальны густ, зразумеў і пачаў пісаць інакш, хаця да канца пераадолець інерцыю «лірычнага» штампа яму так і не ўдалося.

Лепшы сродак выратавацца ад штампа — жывое назіранне, і малады паэт пільна ўглядаецца ў навакольны свет, хай сабе і абмежаваны лесам, полем, вясковай ваколіцай.

«Маўклiва сосны мараць навакол, на медзі іх камлёў святло і цені» — гэта ўжо куды лепш за «белы месяц», што «локцем на сасну абапёрся й думае аб нечым». Лепш, бо дае магчымасць убачыць сасну сапраўдную, у пералівах святла і ценю, у медзі камля, а не метафарычную, вынесеную за межы нашых рэальных пачуццяў.

А вось яшчэ пра лес, і яшчэ лепш, з большай пластычнасцю, з вастрэйшым адчуваннем жывой прыроды і яе хараства:

Развітаемся ж, мой бор густы,
Дзе між веццяў ўспыхвалі і гаслі
Рыжыя вавёрчыны хвасты...

І, нарэшце, трэці — асенні — лес, убачаны і «перажыты» паэтам:

Кляновым лісцем высланы даліны,
Туман і сон, туман і ціхі дзень.
Прадзе ў прасторах восень павуцінне,
Празрыстае і лёгкае, як цень.

Чыста, хораша, проста!..

Вершы Коршака «ажываюць», бо ў іх увайшло назіранне. Аднак дзеля таго каб рыфмаваныя радкі сталі сапраўднай паэзіяй, аднаго назірання мала, — трэба, каб яно будзіла роздум, і верш пра асеннюю пушчу ў ціхі туманны дзень Коршак працягвае так:

І цішыня, і смутак нейкай згубы,
Я ў павуцінні з ног да галавы.
Мне павуцінне гэтае нялюба,
Ляпей вясновы гоман баравы.

Тут ужо ёсць намёк на характар, спроба яго раскрыць, але іменна спроба і толькі намёк. Усяго чалавека мы яшчэ не бачым у гэтым агульным супрацьстаўленні вясны і восені, «гоману баравога» і смутку «нейкай згубы». Лірыка вымагае канкрэтнасці перажывання, цэласнасці настрою, і часта бывае так, што іменна ў адным душэўным руху перад намі вырастае ўвесь чалавек, і вырастае настолькі рэльефна, што мы можам сабе ўявіць гэтага чалавека як жывы характар, можам уявіць, як ён будзе думаць, адчуваць і дзейнічаць у самых непадобных і розных жыццёвых сітуацыях.

Чытаю лірычны верш Коршака «Кляновы ліст»:

Паслана золата кляновае ўдалі...

І вось апошні ліст плыве агнёвы,
І лёг ля ног маіх на стомленай зямлі
Асенні ліст, апошні ліст кляновы.

Скажуць: звычайная асенняя замалёўка, з тых, што ў паэзіі сустракаліся не раз, традыцыйны матыў развітання з летам, добра «апрабіраваны» ў многіх і многіх вершах сумна-элегічны тон. Не, лепш пачакаем з вывадамі і ацэнкамі, не будзем спяшацца.

Эпігонствам і перапевам знаёмага тут і не патыхае, — вельмі ўжо выразна даюць сябе адчуць глыбокая сканцэнтраванасць паэта, стрыманая, скупая на словы ўсхваляванасць яго размовы. Я знарок падкрэсліваю скупасць маладога паэта, які ўмее так паўтарыць адно і тое ж слова, што яно стварае адпаведны настрой і патрэбную эмацыянальную атмасферу. Здавалася б, паэт топчацца на месцы, некалькі разоў паўтарыўшы «асенні ліст», «кляновы ліст», «апошні ліст». Але ж радкі не пакідаюць уражання аднастайнасці. Наадварот, яны здаюцца вельмі маляўнічымі, неяк па-чалавечы задуменнымі і багатымі на рэальны сэнс, што хаваецца не толькі ў словах, а і ў паўзах паміж словамі.

Ну, а дзе тут усё-такі ўвесь чалавек, што павінен вырасці перад намі з лірычнага верша? — запытаецца чытач. А вось ён — у вершы, у гучанні яго, у гэтым даверы да ўсяго жывога, у гэтай пяшчоце клапатлівай рукі, што падымае памяты ліст, каб несці яго ў цяпло, дахаты. Мала? Чытаем далей:

Я песню напішу пра гэты ліст.
Аб ім у сэрцы след нічым не сцерці.
Жыві ж, асенні ліст, кляновы ліст,
Жыві ж у песні, ў памяці, у сэрцы.

Вясна прамые неба сінявой,
І кожны расцвіце вакол закутак,
Тады з галінкі памяці маёй
Ты ападзеш, як нейкі ціхі смутак.

Песімізм? Ні ў якім разе, наадварот. Прасветленасць, дабрата, надзея, вера ў заўтрашняе абуджэнне прыроды:

І ў сэрцы ты завянеш назаўжды,
Адзенецца жыццё зялёным лістам.
І толькі ў песні гэтай будзеш ты
Звінець заўсёды звонам залацістым.

Верш закончаны, і ў сэрцы астаецца адчуванне чагосьці светлага, спелага, раскрытага для ўсіх радасцей і нягод жыцця. Выпадак, карціна, пейзаж, астаючыся ў сваіх уласных «мэтах», абудзілі ў нашай душы нешта такое, што далёка перарастае ў сваім значэнні рамкі

прыватнай карціны альбо проста выпадку, — мы пазнаёміліся і ўвайшлі ў шчыльны кантакт з чалавекам, якому можна даверыцца, бо ён чалавек шчыры, чысты і добры. Іменна такім чалавекам аставаўся Аляксей Коршак у пераважнай большасці сваіх твораў. Вось, напрыклад, верш «Дрэмле човен», напісаны ад імя закаханага хлопца:

Я такі на свеце ўжо не першы,
Што плыву і ціха, сам сабе,
На вясле пішу алоўкам вершы
Аб дзяўчыне, сэрцы і журбе.

Ты вярніся зноў, як вечар ляжа,
Вот сюды, на бераг, за сяло.
Пра мяне усё табе раскажа
Спісанае вершамі вясло.

Паспрабуйце падставіць замест гэтага мокрага вясла якую-небудзь іншую падрабязнасць, скажам, галінку бэзу, і верш стане падобным на многія аналагічныя па змесце творы, страціць сваю навізну і свежасць...

У сваёй даваеннай творчасці Аляксей Коршак не распрацоўваў шырокай сацыяльнай тэмы сучаснасці, але ва ўсім, што ім было напісана, жыла сапраўдная чалавечнасць, народжаная новымі грамадскімі ўзаемаадносінамі, усім духам, усёй сутнасцю савецкага калектывізму. Паэт цягнуўся да людзей, ён не ўяўляў сабе існавання адгароджанага, ізаляванага, індывідуалістычнага.

Вельмі характэрны ў гэтым сэнсе верш «Паляўнічы»:

Развітанне вам, прастор балот,
Дзе стаяць маўклівыя чароты.
Хай жыве таемны твой народ!
Больш блукаць мне тут няма ахвоты.
……………………………………………

Прывітанне ўсім! Як рукі ўноч,
Над агнём начлежным, звыкла, проста,
Грэю сэрца я сваё ізноў
Над кастром вялікага сяброўства.

Рассыпаныя «вішнёвым цветам» усмешкі — гэта яшчэ, вядома, уступка «лірычнаму» трафарэту, але астатняе ў гэтым вершы дыхае ўжо спеласцю, чалавечай і творчай. І самае галоўнае: верш напісаны паэтам, які жыве сярод людзей і для людзей і добра ўсведамляе сваю прыналежнасць да «вялікага сяброўства» таварышаў і аднадумцаў.

У 1940 годзе Аляксей Коршак напісаў радкі, якія з асаблівай цікавасцю чытаюцца сёння, у эпоху заваявання Сусвету савецкімі

героямі-касманаўтамі:

Ты адчыні акно часінай гэтай,
Глядзі ўгару, у зорную вышынь,

Там караваны зор, там неба сінь,
Там далі таямнічыя сусветаў...

І ў сэрцы, поўным ціхага агню,
Народзіцца імкненне ў вышыню.

«Ціхі» па натуры, лірычны паэт Аляксей Коршак прадчуваў тыя грозныя навальніцы, што чакалі яго наперадзе, і смела ішоў ім насустрач. У вершы 1939 года мы чытаем такія радкі:

Напалам паломана маланка,
Ў полі ўпала, пакаціўся гром...
Адчыню акно я свежым ранкам
І далоні вымыю дажджом.

Пра глыбокай радасці крыніцы
У крылатай песні запяю...
Хай ніколі буры й навальніцы
Маладосць не кідаюць маю.

Буры і навальніцы не абмінулі Коршака — яны сустрэлі яго на парозе дваццаць першай вясны. Ціхі, добры юнак, што зусім нядаўна спісваў вершамі «мокрае кляновае вясло» і, страціўшы спакой, шукаў яе, дзяўчыну, каля саду, ля гаю, на рэчцы, стаў салдатам-разведчыкам.

Вайна не перакрэсліла таго добрага, чалавечага, што жыло ў характары юнака; яна спалучыла гэтае добрае з нянавісцю да захопнікаў, з мужнасцю, загартаванай у бітвах.

Як сведчыць аўтар прадмовы да зборніка «Апаленыя пялёсткі» Сцяпан Александровіч, «...не ўсё з яго (Коршака) творчай спадчыны гэтага часу [часу вайны. — *Р. Б.*] захавалася і дайшло да нас». Аднак кожны, хто чытаў такія вершы паэта ваенных год, як «Паранены», «Гарачынь», «Няхай пацiскаюць плячыма...» і асабліва «Расстрэл», безумоўна, згодзіцца з Александровічам, што «ў гады вайны мужнеў і гартаваўся паэтычны голас А. Коршака».

Праўдзіва, драматычна, сурова гучыць лепшы, на маю думку, верш Коршака ваенных год — «Расстрэл». Усё ў гэтым вершы-баладзе гаворыць аб неўміручасці тых, хто аддаў сваё жыццё, сваю маладосць за шчасце свайго народа, за яго будучыню і свабоду. Верш пабудаваны як маналог героя, як апошняе перад смерцю развітанне байца з родным краем:

Па-над возерам вербы...
Іх мой шлях не міне.

Тры маўклівыя стрэльбы
Праважаюць мяне...

Зоры тонуць на ўзлессі,
Ноч ужо растае;
Неба, поўнае песняў,
Нада мною ўстае.

Мне ў яго не ўзірацца
Больш ні ў яве, ні ў сне:
Куляў цэлых пятнаццаць
Нарыхтована мне.

І далей верш пераключаецца з апавядальнага плана ў план песенна-фальклорны:

Над курганам, што ўстане
Нада мною тады,
Закрасуецца станам
Дужы дуб малады,

Прыйдзе днямі другімі
К яму сябраў сям'я.
Павітаюся з імі,
Гэты дуб — гэта я...

Прыведзеныя радкі былі запісаны ў 1943 годзе. Аляксей Коршак загінуў, непахісна верачы, што «змоўкне гул пад небам сінім... і, як маці тая сына, працы гул наш край агорне».

Працы гул стаіць над краінай, выратаванай самаахвярнай мужнасцю многіх тысяч герояў, такіх, як Аляксей Коршак. Вечная слава яму, нашаму таварышу, слаўнаму паэту і чалавеку!

*1963 г.*

*Рыгор Няхай*

## АПАЛЕНЫЯ ПЯЛЁСТКІ

Вясной, калі адцвітаюць і ападаюць пялёсткі, белым пухам пакрываючы зямлю, на сэрцы становіцца радасна і цёпла. Ты жывеш прадчуваннем буйнага росквіту лета, адчуваеш яго гарачае дыханне. Вясна заўсёды прыносіць радасць. Але вясна 1945 года прынесла і шмат смутку, хоць яна была радаснай вясной Перамогі.

Успамінаюцца тыя незабыўныя дні. У разбураны Мінск вярталіся апаленыя вайной воіны, тыя, хто апошняю аўтаматнай чаргой уславіў нашу перамогу. Вярталіся на папялішчы, шукалі родных,

знаёмых і часам не знаходзілі.

Збіралася і пісьменніцкая сям’я. З блізкіх і далёкіх дарог вайны прыходзілі ўзмужнелыя людзі і прыносілі багатыя ўспаміны, вершы, апавяданні, безліч думак і вобразаў.

Тыя, хто вярнуўся, браліся за работу, а многіх яшчэ не было. Праходзілі гады, а мы так і не дачакаліся з франтавых дарог Міколу Сурначова, Аляксея Коршака, Леаніда Гаўрылава, Андрэя Ушакова, Алеся Жаўрука і яшчэ многіх здольных пісьменнікаў. Яны аддалі сваё жыццё за шчасце і свабоду Радзімы, якую любілі ўсёй душой, як родную маці. Але да нас прыйшлі іх вершы. І мы зразумелі, што гэтыя песні-вершы трэба аддаць народу, каб ён ведаў, чым жылі, аб чым марылі яго лепшыя сыны, якія думы і пачуцці хвалявалі іх у апошнюю хвіліну жыцця. Так былі выдадзены зборнікі вершаў Міколы Сурначова, Леаніда Гаўрылава, а нядаўна выйшла з друку і кніжка вершаў Аляксея Коршака «Апаленыя пялёсткі».

З вялікім хваляваннем браў я ў рукі кніжку вершаў Аляксея Коршака. Гартаў старонку за старонкай, учытваўся ў радкі, і ў памяці ажывалі перадваенныя студэнцкія гады, нашы гарачыя спрэчкі. У кожным радку паэта я знаходзіў нешта знаёмае, дарагое і блізкае, што не забываецца ніколі...

Вось верш «Сабраў я песень звонкае бярэмя...». Дык яго ж Аляксей Коршак чытаў на студэнцкім вечары ў Педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага! Асабліва запомніліся радкі, напоўненыя глыбокім, светлым пачуццём:

Таварыш мой, вялікшае ёсць шчасце
Быць сябрам сонца, песні і вясны.

У педінстытуце было шмат аматараў паэзіі, і перш чым верш маладога паэта з’яўляўся ў друку, ён праходзіў строгае чысцілішча ў студэнцкім сяброўскім асяроддзі. Так было з вершамі Аляксея Коршака «Ластаўка», «Ростань», «Спакой», «На ўсходзе рой высокіх зорак» і іншымі.

Усім нам падабалася глыбокая лірычнасць вершаў Коршака. Адчувалася, што паэт плённа вучыцца ў класікаў беларускай літаратуры і асабліва ў Максіма Багдановіча. І ўсе мы, «строгія суддзі», аднадушна захапляліся Аляксеевым вершам «Маладосць», які быў прысвечаны каханай:

Не патушы юнацтва шчырасць
І не губі лятункаў сад.
Ой, не ляці ў далёкі вырай,
Скуль не вяртаюцца назад.

І хоць лёс развеяў па свеце сяброў, як лісце з восеньскіх бяроз, але паэт моцна верыў у жыццё, а таму з поўным правам гаварыў:

Зноў дні ў маёвым цвеце снежным,
І дружба ёсць, і шчасце ёсць,
І па-даўнейшаму гарэзна
Віруе ў сэрцы маладосць.

З маладосцю ён не мог ніяк расстацца. Такім і застаўся яго светлы вобраз у нашай памяці.

Як і ўсе юнакі, Аляксей Коршак быў поўны творчага гарэння. Асабліва шмат пісаў ён у часе летніх канікул, калі прыязджаў на сваю родную Капыльшчыну. Памятаю, у канцы жніўня 1939 года ён вярнуўся ў Мінск з цэлым сшыткам вершаў. Сустрэліся мы з ім на скверы па вуліцы Свярдлова. Селі на лавачку, і ён папрасіў паслухаць яго новыя вершы. Прачытаў «Дрэмле човен», «Перасадка», «У лесе», «Крочу ў песнях» і «Пячнік».

З лірычных вершаў мне асабліва спадабаўся «Дрэмле човен». Ды і каго не крануць яго шчырыя радкі:

Я саджуся ў човен неспакойны,
Дзе яна сядзела, сяду я.
Праплывай жа ты цяпер пад чоўнам,
Глыбіня азёрная мая.

Колькі скрозь нязнаных сэрцу чараў,
Супакой вакол і цішыня...
Пазбіраю сны яе і мары,
Што ў вадзе рассыпала яна.

Я такі на свеце ўжо не першы,
Што плыву і ціха, сам сабе,
На вясле пішу алоўкам вершы
Аб дзяўчыне, сэрцы і журбе.

Ты вярніся зноў, як вечар ляжа,
Вось сюды, на бераг, за сяло.
Пра мяне усё табе раскажа
Спісанае вершамі вясло.

Сярод лірычных вершаў сшытка 1939 года выдзяляўся верш «Пячнік». Гэта было нешта новае для паэта. Калі раней у паэта пераважала пачуццё, якім афарбоўвалася ўся фактура верша, то ў «Печніку» выступае канкрэтны вобраз чалавека ва ўсёй яго жыццёвай складанасці. Пячнік, малады хлопец, рабіў печ маладой удаве і закахаўся ў яе. Закахаўся так, што вырашыў да яе пасватацца. Ён быў упэўнены, што ўдава згодзіцца пайсці за яго. Ажно ж яна ўжо засватана і запрашае хлопца на вяселле, а яму абяцае пасватаць дзяўчыну. І хлопец засумаваў...

Паэт спрабаваў свае сілы ў класічных формах паэзіі, бо хацеў,

відаць, дамагчыся дысцыпліны формы, яснасці паэтычнай думкі. У зборніку «Апаленыя пялёсткі» мы знаходзім санеты, трыпціхі і іншыя класічныя формы верша.

Ішоў 1940 год. На небасхіле збіраліся хмары вайны. У творчасці паэта з'яўляюцца новыя матывы, ён імкнецца зазірнуць у будучыню і вызначыць сваё месца ў баявым страі.

Прыгожа мчацца ўдаль рашуча,
Калі ж упасці на шляху,
Дык толькі зоркаю бліскучай, —

піша Аляксей Коршак у вершы без назвы.

Вобразы крывавай вайны ўсё часцей сустракаюцца ў лірыцы паэта. У вершы «Першы снег» лісты кляновыя, як раны, гарацъ на грудзях лугоў. Гэты паэтычны вобраз развіваецца і далей:

І от зіме як быццам рана,
А ўжо глядзі — не жарт, не смех, —
Лістоў кляновых чырвань-раны
Забінтаваны ў першы снег.

Калі пачалася вайна, Аляксей Коршак, як і ўсе юнакі яго ўзросту, стаў салдатам.

Нямнога вершаў паэта данёс да нас суровы час, але і па іх мы можам меркаваць, што, калі грымелі гарматы, яго муза не маўчала. Відаць, у кароткія перапынкі паміж баямі, у рэдкія хвіліны адпачынку ён браўся за аловак. І мы бачым у яго нешматлікіх вершах светлую юнацкую душу паэта-воіна.

У вершы «Гарачынь» паэт са смуткам гаворыць:

Скора ўстануць курганы, і на кожным кургане,
Быццам яблыню, песню сваю пасаджу.

Мы не ведаем, як складваўся франтавы шлях паэта, аднак вершы — сведкі яго душэўных перажыванняў — гавораць, што ён зазнаў шмат гора і пакут, хоць у душы заўсёды жылі светлыя вобразы роднага краю, шырокі свет маленства:

Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцэ ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край

Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май,

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што я ў бітвах лёг
За прыгожы родны край азёрны,
За вясну ў палёх.

Аляксей Коршак марыў некалі пра сваю кніжку вершаў і хацеў назваць яе «Пялёсткі». Але пры жыцці ён яе не пабачыў. Толькі цяпер дзякуючы клопатам сяброў удалося сабраць нешматлікую, але каштоўную спадчыну паэта і выдаць асобнай кніжкай. Да тае задуманай паэтам назвы цяпер прыйшлося дадаць журботнае слова — «апаленыя». Хай гэтая кніжка «Апаленыя пялёсткі» і будзе той яблыняй, якую марыў паэт пасадзіць на кожным кургане загінуўшага салдата.

*1963 г.*

*Ілья Клаз*

## ЧУЮ ГОЛАС ЯГО...

Гэта было ў пачатку 1940 года. У Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага рыхтаваўся чарговы нумар рукапіснага часопіса «Наша творчасць». Часопіс выходзіў два разы на год, быў даволі вялікі. У ім змяшчаліся творы маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў. Рыхтаваць чарговы нумар рэдкалегія даручыла мне. Перадалі свае вершы паэты Мікалай Аўрамчык, Алесь Астапенка, апавяданні — Іван Сіняўскі і Аркадзь Турчыновіч.

Пасля заняткаў у аўдыторыю зайшоў высокі, злёгку сутулаваты хлопец. У яго быў адкрыты, крыху смуглявы твар з рабаціннем. Жывыя, хуткія вочы абеглі аўдыторыю і спыніліся на мне. Ён падышоў і, працягнуўшы вялікую, шырокую далонь, пазнаёміўся:

— Аляксей.

Я зразумеў, што гэта і ёсць Аляксей Коршак, якога чакаў і шукаў некалькі дзён.

У перапынках паміж лекцыямі з ім сустрэцца было нельга. На мінуту ён з'яўляўся то ў адным канцы калідора, то ў другім, потым яго бачылі на другім або трэцім паверсе, потым са студэнтамі ў курыцельным пакоі, хоць сам ён не курыў. Уласна кажучы, за два гады я не памятаю выпадку, каб Аляксей стаяў адзін на калідоры. Ён заўсёды быў у акружэнні сяброў і, здаецца, без іх не мог жыць ніводнай мінуты. А магчыма, было і так, што сябры не маглі абыходзіцца без Аляксея. Сяброў у яго было шмат. Сыходзіўся ён з

хлопцамі лёгка, проста, і неяк адразу станавіўся неабходным у простай і вясёлай студэнцкай кампаніі.

— Вершы прынёс, — сказаў Аляксей Коршак і паклаў на стол некалькі лісткоў, напісаных не зусім роўным почыркам.

Цяпер, праз дваццаць дзевяць гадоў, я не памятаю, аб чым былі гэтыя вершы. Адно ведаю — гэта была лірыка. Харошая, светлая. Ад кожнага радка павеяла родным, мілым сэрцу беларускім краем.

Не ведаю, ці лёгка, ці цяжка даваліся вершы Аляксею Коршаку. Памятаю толькі, што раніцай да пачатку заняткаў студэнты прыносілі з інтэрната вестку: Аляксей напісаў новыя вершы. Амаль заўсёды паэт чытаў іх на сходзе літаратурнага гуртка, якім кіраваў Пятро Глебка. Перад тым як пачаць чытанне, ён сарамліва папярэджваў: «Я яшчэ не зусім закончыў...» Мы не здзіўляліся яго словам — ведалі, з якой патрабавальнасцю адносіўся ён да сваіх вершаў. Здаралася, што вершы Аляксей Коршак перарабляў да непазнавальнасці, мяняў радкі, шукаў новыя, свежыя вобразы і параўнанні.

Асабліва ўпарта і настойліва працаваў паэт над тэорыяй літаратуры, шмат чытаў, глыбока цікавіўся асновамі сучаснай мовы. Бадай ніхто з нас, студэнтаў, не праседжваў столькі ў бібліятэцы, як Аляксей. Ён меў фенаменальную памяць. Таму невыпадкова, калі неабходна было высветліць якое-небудзь пытанне ў галіне літаратуры або ўспомніць радкі з апублікаваных вершаў — звярталіся за дапамогай да Коршака.

Неяк наладзілі вялікі літаратурны вечар, на які запрасілі Янку Купалу і Якуба Коласа. На ім Коршак чытаў вершы. А праз некалькі дзён пасля вечара адзін з іх быў апублікаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва».

Апошні раз я бачыў Аляксея Коршака 21 чэрвеня 1941 года. Мы дагаварыліся ісці на адкрыццё Камсамольскага возера ў Мінску. Але на наступны дзень пачалася вайна...

...Восенню памятнага 1945 года сябры мне расказалі пра Аляксея Коршака. Быў ён разведчыкам. Не адзін раз яму даводзілася сустракацца твар у твар з ворагам. І ніколі мужнасць не пакідала яго. У перадышках паміж баямі ён пісаў вершы. У апошніх чыслах лютага 1945 года, ужо на прускай зямлі, Аляксей Коршак выконваў заданне камандзіра часці. Разведчыкі вярнуліся стомленымі і ледзь прылеглі пасля бяссонных начэй, як на іх участак пасыпаліся міны, пачуўся трэск аўтаматаў. Гітлераўцы пайшлі ў атаку. Аляксей падняў байцоў, і яны накіраваліся насустрач ворагу. Ён быў наперадзе. У гэтым баі, каля паселішча Ласлейндорф Аляксей Коршак быў забіты куляй фашысцкага аўтаматчыка...

Мінаюць гады. Але мне па-ранейшаму бачыцца высокая, крыху сутулаватая фігура паэта, яго разумныя жывыя вочы, чуецца, як ён

чытае вершы.

*1969 г.*

*Ніна Беляковіч*

## МАЛАДОСЦЬ, АПАЛЕНАЯ ВАЙНОЙ

З дваццаці сямі выпускнікоў Капыльскай сярэдняй школы № 1 (1938 г.) жывымі вайна пакінула толькі адзінаццаць, з іх усяго — тры хлопцы. Астатнія загінулі.

Рэдка, ды і не з усімі адзінаццаццю аднакласнікамі даводзілася сустракацца ў пасляваенныя гады. Па-рознаму склалася іх жыццё, сённяшніх пенсіянераў.

Аб лёсе некаторых нашых хлопцаў я нічога не ведала. Але, прыехаўшы ў Капыль у лютым 1990 года, у адной з перадач па радыё я пачула пра паэта-лірыка Аляксея Ігнатавіча Коршака. І адразу ўспомніліся школьныя гады, заняткі ў гуртках, тэматычныя вечары і вечары адпачынку...

...1935 год. Наша школа, 8-мы клас, і новы вучань — Аляксей Коршак. Высокі, стройны, светлавалосы, сарамлівы хлапец. Хадзіў ён у простым касцюме. На перапынках яго часта можна было бачыць з кнігай у руках — ён быў вялікі кнігалюб. Асабліва захапляўся паэзіяй. Сваёй начытанасцю Аляксей адразу вылучыўся сярод нас. Вучыўся добра па ўсіх прадметах, але больш увагі ўдзяляў гуманітарным. Пісаў граматна, хоць правілы вучыць не любіў. Нашы настаўнікі-літаратары Віткін Лазар Давыдавіч і Кароль Смарахі Васільевіч зачытвалі нам яго кароткія, але змястоўныя сачыненні.

З першых дзён у школе Аляксей пасябраваў з аднакласнікам Ісмаілам Александровічам і яго малодшым братам Сцяпанам. Па тым часе ў сям'і Александровічаў было многа кніг, і Аляксей Коршак браў іх чытаць. Асабліва ён захапляўся творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча...

Пісаць вершы, як мы даведаліся, Аляксей пачаў рана, але доўгі час хаваў гэта. І толькі са з'яўленнем паэмы «Капрызы фартуны» (пра жыццё школы, настаўнікаў, сяброў) тайна адкрылася. Згадваю, што ў паэме было многа гумару ў адрас аднакласнікаў і настаўнікаў.

У 9-м класе пачалі выпускаць літаратурны альманах «Юнае племя». Выпусцілі тры нумары. Аляксей пісаў вершы, Сцяпан — апавяданні, а Ісмаіл прыгожа афармляў. Аўтары альманаха выкрываць сябе не спяшаліся, і некаторы час не ведалі ў школе, хто займаецца гэтай справай. Але вясной 1937 года тайна выпуску рукапіснага альманаха стала вядома настаўнікам, і хлопцам прыйшлося перажыць

многа непрыемных хвілін. Але Коршак працягваў пісаць, і ў 1938 годзе яго некаторыя вершы былі надрукаваны ў раённай газеце. Нам падабаліся вершы «Сябру», «Ластаўка», «Развітанне». Да выпускнога вечара Аляксей напісаў верш «Дзяўчына ў белай сукенцы», але, саромеючыся, не прачытаў у зале, а прачытаў нам, дзяўчатам, у калідоры.

Стаўшы студэнтам філалагічнага факультэта Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, Аляксей падрыхтаваў да выпуску зборнік «Пялёсткі».

Не вельмі часта мы сустракаліся ў студэнцкія гады. Калі-нікалі ён з Ісмаілам (сябравалі яны і ў студэнцкія гады) прыходзілі да нас у інтэрнат. Аляксей, па-ранейшаму сціплы і сарамлівы, не вельмі ахвотна чытаў свае вершы. Хоць прачытаць яму было што. У гэты час ён напісаў вершы «Са студэнцкага дзённіка», «Вечар», «Ноч», «Сонца», «Рэчка», «Кляновы ліст», «Дома», «Мелодыя» і іншыя.

...Прайшло больш за паўстагоддзя. Усім нам па 70, а Аляксею Коршаку — 25, столькі яму споўнілася 22 лютага 1945 года. Нядаўна я пазнаёмілася з сястрой Аляксея — Соф’яй Ігнатаўнай Спясівых. Успаміны, размовы пра Аляксея, яго гераізм на фронце і пра дзень 27 лютага 1945 года, калі ён загінуў... Паэт, смелы разведчык на вайне, ён аддаў сваё маладое жыццё за Радзіму. Я падтрымліваю сувязь са сваімі былымі аднакласнікамі Ратомскай Мацільдай Адамаўнай і Шыманскай Аляксандрай Вікенцьеўнай. У нашай памяці Аляксей застаўся назаўжды маладым.

Мы ганарымся Аляксеем Коршакам і рады, што яго памяць ушанавана не толькі вершамі. Яго імем названа адна з вуліц у горадзе Капылі, які ён любіў і апеў у сваіх вершах.

Прыемна, што ў літаратурным музеі мінскай 150-й школы захоўваюць тое каштоўнае, але, на жаль, нямногае, што ўцалела са спадчыны палеглых у віхуры вайны воінаў-літаратараў, у тым ліку і Аляксея Коршака.

*1990 г.*



# Аляксандр
# КОЎШ

Аляксандр Коўш нарадзіўся 2 жніўня 1884 г. у в. Верцялішкі Гродзенскага павета (па іншых звестках — у 1890 г. у в. Рыдзялі на Гродзеншчыне).

У 1904 г. скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў на Століншчыне. Вучыўся на бухгалтарскіх курсах у Любліне, пасля іх заканчэння працаваў у Люблінскім аддзяленні Расійскага дзяржаўнага банка. На пачатку Першай сусветнай вайны быў эвакуіраваны ў Разань, затым у Майкоп. У 1921 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь і ў Гродна быў рукапаложаны ў сан праваслаўнага святара. Служыў настаяцелем царквы ў Ваўкавыскім павеце. У 1925 г. атрымаў прыход у Сніпішках пад Вільняй (цяпер у межах горада). Працаваў галоўным бухгалтарам Беларускага кааператыўнага банка. З 1926 г. выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх настаўнікаў у Вільні, Клецку і Навагрудку. У сувязі з дзейнасцю Беларускай сялянска-работніцкай грамады быў арыштаваны (1927) польскімі ўладамі, знаходзіўся ў Лукішскай турме, але ў 1928 г. быў апраўданы. У 1928—1929 гг. — рэдактар-выдавец царкоўна-грамадскага часопіса «Беларуская зарніца». Кіраўнік секцыі Чырвонага Крыжа пры Беларускім цэнтры.

У 1930 г. вызвалены з пасады законанастаўніка Віленскай беларускай семінарыі. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху быў пазбаўлены польскімі ўладамі месца настаяцеля Пятніцкай царквы і высланы з Вільні. Працаваў святаром у Пастаўскім і Вілейскім паветах. У 1939 г. вярнуўся ў Вільню, служыў настаяцелем Свята-Мікалаеўскай царквы. У самым пачатку вайны арыштаваны гестапа, пасля вызвалення прыехаў на працу ў Мінскую епархію. Протаіерэй А. Коўш атрымаў прыход пад Мінскам і быў прызначаны ў выдавецкую камісію пры мінскім архірэі. Пасля працаваў у Плешчаніцах, аднавіў Свята-Мікалаеўскую царкву. У сакавіку 1943 г. арыштаваны гестапа і за дапамогу яўрэйскаму насельніцтву расстраляны (называюцца таксама іншыя прычыны гібелі).

Выступаў у заходнебеларускім друку. Аўтар твораў і артыкулаў у «Беларускай зарніцы», «Народнай ніве» і іншых тагачасных перыядычных выданнях.

# Проза

## ЗАРА ХРЫСЦІЯНСТВА

Была зіма, зіма поўдня — з дрэвамі без лісця і пладоў, з частымі дажджамі, з свісцячым ветрам, з начамі халоднымі і жудаснымі.

Па гарадох Іудзеі кіпела жыццё, — бо рымскі імператар Цэзар Аўгуст даў загад перапісаць усе падуладныя яму народы, і ўсе павінны былі ісці запісацца ў свой родны горад.

Падпарадкуючыся гэтаму загаду, пайшоў з Назарэта ў Віфлеем і стары сталяр Язэп з абручанай яму Дзевай Марыяй, быўшай не празнай. Яны былі вельмі бедныя і не маглі за грошы купіць сабе той прытулак, які багатыя знаходзілі сабе нават у самых перапоўненых гатэлях.

Змораныя доўгай трохдзённай падарожжай па горных шляхох, святыя падарожнікі падыходзяць то да аднаго, то да другога дома, просячы пусціць іх на ноч. Яны абышлі ўсе вузкія і брудныя вуліцы Віфлеема, але ніхто не злітаваўся над беднымі падарожнымі.

Пахадзіўшы дарэмна ў цемнаце і холадзе па віфлеемскіх вуліцах, яны ўрэшце апынуліся за местам, знайшлі пустую пяшчэру, у якую пастухі падчас непагоды заганялі быдла. І зайшлі яны ў хлеў, дзе было хаця ж трошкі зацішней ад ветру, дажджу і дзе не адчувалася начная сцюжа.

І тут у гэтым хляве адбылося вялікае здарэнне: на горбачцы саломы быў паложаны, радзіўшыся ў плоці, Цар Віфлеемскі, тут знайшоў сабе месца Той, хто прыйшоў дзеля таго, каб сваёй кроўю спасці род чалавечы.

Якое страшное паніжэнне перацярпеў Бажэсцвенны Спасіцель ужо пры самым нараджэнні Сваім! Ужо пры нараджэнні Яго збыліся словы Святога Пісання: «Во своя прииде и свои Его не прияша». Людзі не далі яму нават і столькі месца, каб прытуліць галаву.

Дзіцятка Ісус ляжыць у пяшчэры, у жалабу, а з людзей нават ніхто і не думае аб тым, што здарылася на зямлі, ніхто не думае, што Бог зышоў з неба на зямлю, што Слова стала Целам.

У гэтую цудоўную, у гэтую святую ноч недалёка ад пяшчэры Спасіцеля толькі пастухі не спалі, яны пільнавалі статкі і, разлажыўшы вогнішча, грэліся каля дыміўшыхся трашчучых сукоў. Яны не спалі па сваім абавязку ў гэтых гадзінах, у той час, як спаў Віфлеем, спаў Іерусалім, спала ўся Іерусалімская зямля; спала ўсё чалавецтва, увесь свет быў ахоплены сном, — не ведаючы, што ў гэтую часіну адбываецца пералом ва ўсім чалавечым жыцці, у лёсе былых, сучасных і будучых людзей.

Пакуль што апрача Дзевы Марыі, старога Язэпа толькі некалькі ласкавых пар вачэй кароў ды валоў бачылі святое Дзіця.

Пастухі пільнавалі статкі. Сукі трашчалі, гарэлі і дымілі, і неяк цішэй гучала звычайная гутарка гэтых людзей, — часцей перарываліся галасы, цяжэй з вуснаў выходзілі словы. Хацелася маўчаць, бо нешта невыразнае, нешта надзвычайнае, незразумелае спавівала зямлю.

Нейкае шчасце, даўно, пяць з паловаю тысяч гадоў згубленае шчасце, сходзіла з неба да сэрцаў людзей і перадусім да гэтых простых пастухоў, якія паслі статкі каля гэтае пяшчэры з жолабам.

Цемень начная прайшла. Паміж небам і зямлёй ужо блізкаблізка каля іх гарэла, пералівалася, сіяла, трапятала цудоўная зорка. Нешта новае, цудоўнае ўлівалася ў іх душы, сэрцы біліся, вочы разгараліся. Ніколі ў іх жыцці не было падобнае хвіліны.

Яны маўчалі — маўчалі... І раптам перад імі з’явіўся ангел у сіяючым свеце і сказаў: «Не бойцеся. Я прынёс радасную вестку ўсім людзям. У месце Віфлееме радзіўся Спасіцель — Хрыстос. Ідзіце паглядзіце. Ён у пелянах ляжыць у жолабе».

І паплыла ангельская песня. Гэта была песня, якой чакалі і не дачакаліся ўсе дагэтуль жыўшыя і цярпеўшыя пакаленні. Гэта была песня прабачэння і згоды, абяцаючая вечнае шчасце. Тут не было водгуку таго, што паліла і мучыла людзей, успамінаў згубленага шчасця, жалю, раскаяння граху. Тут было адно неабмежаванае шчасце.

Гукі калыхаліся паміж небам і зямлёю. Самае неба расчынілася, — зоры ў тым месцы рассунуліся па абодвух баках, і паліліся тонкія залатыя струі да статка і пастухоў, і ў гэтых струях, як жывыя ўсходы ад Віфлеема і да неба відны былі ангелы; гэта іх вусны пяялі песню згоды, пяялі і паўтаралі ўсе адныя словы:

«Слава в вышних Богу и на земли мир, в человецех благоволение».

Але людзі... людзі ўсе спалі.

Над пяшчэрай сіяў цудоўны свет — людзі спалі і не бачылі яго.

Зышоў з неба ў надзвычайным адзенні ангел — людзі спалі і не бачылі яго.

Неба расчынілася, ноч заблішчэла надзвычайным светам — людзі спалі і не бачылі гэтага.

Паплыла цудоўная ангельская песня — людзі спалі і не чулі яе. Іх не цікавіць, што з'явіўся нябесны Пастыр, каб вызваліць іх.

Так было даўно — $19^1/_4$ стагоддзяў таму назад. А цяпер?.. Ці ж мала такіх і сярод нас, душы якіх знаходзяцца ў каменным сне?

Ці ж мала такіх, якія амаль не думаюць аб Хрысце і зусім да яго не прывязаны?

У іх іншыя прывязанасці, іншыя думкі, іншыя клопаты, іншыя радасці, іншы бог і спасіцель.

Дзіцятка Ісус ляжыць у жолабе. Людзі адпіхнулі Яго ад сябе. Гэтаму Дзіцяці належыць увесь свет, належыць усё, што ёсць у свеце і чым свет уладае. А між іншым Дзіцятка Ісус ляжыць у жолабе. У Віфлееме не знайшлося ў хаце месца для святога Дзіцяці, людзі адпіхнулі Яго ад сябе.

І як было ўперад, так і цяпер.

Як часта Гасподзь хоча ўвайсці ў чалавечае сэрца, якое з'яўляецца Яго свяшчэннай уласнасцю, якое Ён стварыў і адкупіў коштам Свае святое крыві. Як часта Ён хоча ўвайсці і застацца ў ім.

Гасподзь стаіць каля дзвярэй гордага і кажа: «Сыне, дай мне сваё сэрца!» Але Яму адказваюць: «Няма месца, бо яно занята скупасцю». Каля дзвярэй эгаіста, п'яніцы, распусніка, зладзея, душагубца і г. д. і г. д. — і ўсё атрымлівае адзін адказ: «Месца занята».

І як у тую халодную, непагодную ноч Гасподзь быў пакінены, так і цяпер шмат хто з нас адпіхае Яго ад сябе. Няма месца Госпаду ў нашай душы, — яна ўся занята парокамі, страсцьмі, злосцю, нянавісцю і рознаю іншаю подласцю.

Але гэта яшчэ не ўсё. Ёсць людзі, якія для свайго няшчасця і ў ганьбу для нас радзіліся і застаюцца ў хрысціянстве, але здзекуюцца з Хрыста, не прызнаюць Яго як Найвышэйшага Творца.

Усе стыхіі сведчылі, што прыйшоў Стварыцель іх, Яго пры-

знала Богам неба, бо зараз па нараджэнні Яго паслала зорку. Яго прызнала мора, бо зрабілася цвёрдым пад нагамі Яго. Яго прызнала зямля, бо задрыжэла падчас смерці Яго. Яго прызнала сонца, бо схавала свае праменні ў хвіліну смерці Яго.

Яго прызнала пекла, бо звольніла па смерці Хрыста знаходзячыхся ў ім нябожчыкаў.

Усе стыхіі разам з ангеламі, усхваляючы нованароджанага Ісуса, пяялі, што Ён — Бог.

Але вернемся зноў да тае памятнае ночы.

Ангельская песня сціхла і спынілася, як усё на зямлі, адбываючаеся ў часе. І сказалі пастухі друг да дружкі: «Пайдзем у Віфлеем і паглядзім, што там здарылася». І знайшлі яны там у жолабе ляжачае Дзіцятка і расказалі Дзеве Марыі ўсё, што бачылі і чулі.

Водгук жа тае песні гучаў у іх душах доўга-доўга, аж пакуль яны самі не перайшлі ў новы свет жыцця. А ангелы ў тую ноч ужо не калыхаліся больш усходамі ад Віфлеемскага поля да неба.

Толькі Дзіця адно засталося з грэшнымі.

## СУСВЕТНАЯ АХВЯРА

Ноч страшная, ноч душная, быццам перад грымотамі. За Кедранскім патокам у Гефсіманскім садзе глыбокая цемра. Стуль нясецца нечый глыбокі-глыбокі ўздох, ад якога мімаволі робіцца жудасна. Чуваць нечый голас, але слоў пакуль што разабраць нельга.

Праз нейкі час — зноў уздох, страшны, пакутны. Чутны словы: «Айцец мой! калі не можа гэты келіх прайсці міма мяне — дык п’ю з яго, — няхай будзе воля Твая».

О Божа, Божа! Гэта ж Яго голас, гэта ж Яго словы, якія выклікаюць страх! Гэта Ён моліцца ў садзе Гефсіманскім. Гэта Ён гаворыць аб келіху сваіх блізкіх, немінучых, страшэннейшых крыжавых пакутаў.

За Кедранскім патокам мігацяць агні. Рухаецца нейкі натоўп. Чутны галасы, пагрозы. Натоўп зблiжаецца. Ад святла факелаў ужо можна разгледзіць зближаючыхся: уперадзе ўсіх — адзін з Яго вучняў, а за ім народ з аружжам і каламі, а такжа архірэі і старшыя з іудзеяў. Хутка святло ад факелаў упала і на Яго Бажэсцвенныя рысы: Ён стаяў і чакаў.

Усемагутны Божа! Колькі было святасці і кротасці ў Яго абліччы!

І вось той самы вучань, які прывёў увесь гэты натоўп, падыходзіць да Яго і, кажучы: «Радуйся, вучыцель», цалуе Яго. Сэрца падказвае, што пацалунак гэты фальшывы, прадажны.

А Ён, каторага прадавалі, ласкава так кажа свайму прадажніку: «Прыяцель мой, рабі тое, па што прыйшоў».

Тады натоўп абступіў Яго. Яго вязалі, быццам злодзея, быццам разбойніка.

Бачачы гэты гвалт, гэтую страшэнную несправядлівасць, адзін з Яго вучняў схапіў нож і адсек вуха ў аднаго слугі архірэйскага, які найбольш здзекаваўся з Спасіцеля. Як жа на гэта зарэагаваў Бажэсцвенны Мучальнік? Ён сказаў свайму вучню: «Улажы нож твой назад у похву, бо кожны, хто нажом бароніцца, ад нажа і згіне».

А пасля, звярнуўшыся да народа, кажа: «Вы як на збойцу выйшлі з аружжам і каламі. Я ж кожны дзень сядзеў з вамі ў царкве і вучыў вас, — чаму ж вы не бралі мяне тады?»

Як не разарваліся сэрцы людскія, як не асляплі вочы іх навекі ад такога страшэннага абразу?

Раніцай Яго засудзілі на смерць — смерць цяжкую, смерць мучальніцкую.

Усе вуліцы былі запоўнены народам. Яго, абкружанага жаўнерамі, вялі на смерць. Ён нёс цяжкі крыж, на якім павінны былі раскрыжаваць Яго, — а Ён быў такі слабы, такі зморany, што не раз падаў пад цяжарам свае ношы.

Добры твар Яго быў увесь у крыві і ад udaраў жаўняроў па твары і па галаве, і ад вянка з калючага цёрну, які надзелі на Яго галаву.

За ім рухаўся натоўп. Чутно было, як у гэтым натоўпе плакалі жанчыны. А Ён паглядзеў на іх і кажа: «Дочкі іерусалімскія! не плачце аба мне, плачце аб сабе і аб вашых дзецях: падыходзяць дні, калі вы скажаце: шчаслівыя няплодныя, шчаслівыя ўтробы, якія не родзяць і сасцы, якія не кормяць. Тады вы скажаце гарам: упадзіце на нас і пакрыйце нас!»

Вось Ён ужо на гары слёз, гары касцей.

Раздаецца глухі стук малатка і трэск касцей: гэта прыбіваюць да крыжа Яго рукі і ногі.

Крыж з прыбітым да яго Мучальнікам падымаюць...

З натоўпу нясецца гістэрычны, душу раздзіраючы плач. Гэта плача Яго маці — найсвяцейшая Дзева Марыя.

У працягу трох гадзінаў Ён пераносіў на крыжы да нічога не параўнаныя мучэнні. Але Ён яшчэ жыў. Сонца касымі праменнямі яшчэ асвятляла Яго бляды-бляды твар. Але вось раздаюцца Яго апошнія бажэсцвенныя словы: «Айцец! у рукі Твае

перадаю дух Мой!..»

Бажэсцвенная душа аддзялілася ад цела і адышла ў абоймы Прадвечнага Айца. У гэты момант сонца пагасла. Густая цемра спавіла зямлю.

Натоўп задрыжэў і затросся, бо задрыжэла і затраслася гара, на якой Ён паміраў, задрыжэлі і затрасліся сцены Ерусаліма, дрыжэла і траслася зямля. Скалы і каменні далі трэшчыны, гудзелі грымоты, а бліскучыя маланкі яшчэ больш павялічвалі гэты агульны ні з чым непараўнаны хаос.

Гэта так рэагавала прырода на зробленае на зямлі небывалае зладзейства, якога свет не бачыў ад пачатку свайго існавання.

## ХРЫСТОС І ДЗЕЦІ

Ерусалімскія дзеці гулялі ў Кедранскага патоку. Ранняе сонейка толькі што выкацілася з-за Елеонскай гары і пазалачала сваімі яснымі, але яшчэ не пякучымі праменнямі дах Саламонава храма і зубчастыя сцены святога горада.

У глыбіні Іесафатавай даліны пасліся козы і оўцы, збіраючы бедную раслiннасць паміж магільных плітаў.

Раптам на дарожцы, якая вяла ў Віфанію, паказалася некалькі падарожнікаў. Яны, відаць, ішлі ў Ерусалім. Па запыленай адзежы іх відаць было, што ідуць яны здалёк.

Бліжэй і бліжэй, — і паміж іх вырысоўваецца Ён. Гуляючыя дзеці зараз жа пазналі Яго. Яны ўжо не раз бачылі Яго. Дый хто б не пазнаў Яго па бажэсцвеннаму, кроткаму вобліку!

І запраўды гэта быў Ён! Яго абкружалі вучні, з якіх некаторыя зрывалі тут жа каля дарожкі паспеўшыя каласы пшаніцы, перацiралі іх у далонях і заспакойвалі свой голад.

Дзеці даўно ўжо палюбілі Яго. Ён з такою ласкаваю любоўю заўсёды глядзеў на іх.

Калі Ён і вучні мінавалі нізкія акопы Гефсіманскага саду, перайшлі праз Кедран, дзеці, пакінуўшы свае гульні, здалёк пайшлі за імі.

Яны ўвайшлі ў святы горад праз Оўчыя вароты.

Там было ўжо шмат людзей: жабракі, хворыя, ўсе пакрыўджаныя лёсам і людзямі. Яго, відаць, чакалі. Тут былі і кніжнікі і фарысеі.

Дзеці нясмела, асцярожна зблізіліся да Яго: ім хацелася дакрануцца хаця ж бы да полаў Яго адзежы. Яны бачылі, што гэта часам рабілі другія, дарослыя. Дзеля гэтага і самыя пастанавілі

зрабіць таксама. Яны ж яго так любілі!

Яле некаторыя з Яго вучняў, заўважыўшы іх намер, праганялі іх.

Ён гэта пабачыў і сказаў: «Не адганяйце ад мяне дзяцей, — няхай яны прыходзяць». І паглядзеў на іх Сваім нежным, любячым поглядам.

Дзеці прыбліжыліся да Яго ўжо смялей.

І раптам, неспадзявана для сябе, тыя з дзяцей, якія былі спераду другіх, адчулі Яго бажэсцвенныя рукі на сваіх галавах! І пачулі Яго словы: «Не адганяйце ад Мяне дзяцей, не перашкаджайце ім прыходзіць да мяне, бо да іх і да падобных ім належыць Царства Божае».

Вялікі Божа! Што адчулі тады ў сабе дзеці!

Здавалася, нейкая невядомая Бажэсцвенная сіла, нейкае бязмернае шчасце напоўніла іх душы, напоўніла ўсю істоту іх.

І з тае пары прайшло многа гадоў, — дзеці сталі ўжо старымі, а ўсё бачылі Яго, усё чулі Яго Бажэсцвенны голас...

Так, Ён заўсёды быў з імі!

## СВЯТЛЕЙШАЯ З НАЧЭЙ…

Цёмная палесцінская ноч.

Усё ў прыродзе спавіта было глыбокім сном, на ўсім ляжала заслона начной таямнічай цішыні і спакою.

Здалёк бялеюць зубчатыя сцены Іерусаліма. Спіць стары горад. Спакойна адпачываюць у ім іудзейскія старэйшыны і першасвяшчэннікі.

Галгофа пустая. Толькі ўчарашнія тры крыжы, быццам чорныя здані, чарнеюць на ёй. Сэрца замірае, калі глядзіш на гэтыя страшэнныя прылады чалавечае нянавісці і жорсткасці.

Падыходзіць поўнач... У садзе Восіпа Арымафейскага, каля запячатанае пяшчэры, рухаюцца нейкія цені. Гэта варта, прыстаўленая да гроба, у якім пахаваны Ісус з Назарэта.

Цішыня... цемната... Раптам... што гэта такое?

Жаўнеры ў вялікім страху нейкаю няведамаю сілаю раптоўна адкінены ад гроба, які яны пільнавалі, і пападалі на зямлю.

Пячаць цэлая, не паломаная, а між тым Ён, учора яшчэ засуджаны на смерць, перацярпеўшы страшныя мучэнні, перацярпеўшы здзекі і кпіны, памёршы разам са злодзеямі на крыжы, — Ён, гэты сталяр з Назарэта, Ісус, — васкрэс!

Светлы, поўны любві і прабачэння воблік Хрыста звернены

на Іерусалім. Замест праклёну замучыўшаму Яго свету — Ён падняў свае прабітыя цвікамі рукі для бласлаўлення гэтага свету.

Хрыстос васкрос — і ўсё аджыло!

Хрыстос васкрос — і знікла цемната ночы.

Хрыстос васкрос — і загараецца зара новага дня.

Хрыстос васкрос — і ўсё імкнецца да жыцця, да радасці.

Вялікая наша радасць ад васкрасення Хрыста! І як не радавацца такому дню? Якое вялікае багацце даравана ўсяму чалавецтву!

Хрыстос васкрос — і ўсё напоўнілася святлом: неба і зямля, і нават пекла!

Хрыстос васкрос — і жыццё святкуе перамогу над смерцю!

Хрыстос васкрос — і пекла разбурана!

Хрыстос васкрос — і сіла любві і праўды перамагла цёмныя сілы хітрасці і зла.

Няхай Праўда зняважана, замучана, нават пахавана, прыціснена цяжкім каменем, — але Яна паўстане, падымецца, разарве ўсе ланцугі і прыгожая, светлая, як сонца, з'явіцца свету!

Хрыстос васкрос і заклікае ўсіх нас ад смерці да жыцця, ад зямлі да неба!

Хрыстос васкрос, і вышэй падымаецца душа, забываюцца ўсе няшчасці жыцця, — робіцца зразумелым, што жыццё ёсць шлях да неба, да святла, да праўды, і што для падарожжа па гэтаму шляху нам дадзены новыя сілы.

Хрыстос васкрос, і вось увесь свет хрысціянскі «утру глыбоку» прыносіць Яму радасныя песні. Сэрцы людзей зліваюцца ў адным найвышэйшым імкненні, і ўсе, як браты і сёстры, гатовыя абняць адны другіх і ўсё прабачыць адны другім.

Чыё сэрца не б'ецца ад радасці пры словах: «Хрыстос васкрос»?

Для каго з нас не салодкія песні васкрасення Хрыста?

Войдзем жа ўсе ў радасць Госпада нашага. Няхай усе радуюцца цяпер: і багатыя, і бедныя, і ўстрыманыя, і неўстрыманыя, і руплівыя, і неруплівыя. Няхай ніхто не плача аб грахах, бо з гроба засіяла прабачэнне!

Васкрэсшы Спасіцель свету са Сваім Крыжам, сімвалам любві, дабраты, пакуты і самаахвярнасці, ашчаслівіў нас тым, што навучыў нас адчуваць і разумець, што сапраўднае шчасце — не ў зле і гвалце, а ў любві і згодзе, і што запраўдны сэнс жыцця не ў прывязанасці да цела і да зямных, хвілёвых прыемнасцяў, — а ў вялікім служэнні Бажэсцвеннай любві.

Запомнім жа ўсё злое і нячыстае, пакінем усе спрэчкі і падамо друг другу рукі і з радасным біццём узварушанага сэрца, з душою, поўнаю светлай любві, скажам адзін другому: «Хрыстос васкрос! Запраўды васкрос!»

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## УЗАЕМААДНОСІНЫ ДУХАВЕНСТВА І ПРЫХАДЖАН

Адным з найцяжэйшых пытанняў у адносінах паміж духавенствам і прыхаджанамі з'яўляецца пытанне аб узнагароджанні прыхаджанамі духавенства за трэбы. Гэтае пытанне з'яўляецца амаль што адзінай і выключнай прычынай непаразуменняў паміж духавенствам і міранамі. Шмат чаго прыхаджане могуць выбачыць свайму настаяцелю, але цеpазмернага спаганяння за трэбы яны не выбачаюць.

І запраўды, прадставім сабе абраз, даволі часта сустракаючыйся ў жыцці.

Да свяшчэнніка прыходзіць прыхаджанін і кажа, што ў яго памерла жонка, ці бацька, ці матка, прычым просіць пахаваць нябожчыка «як трэба», г. зн. з імшой, і пытаецца, колькі свяшчэннік возьме за хаўтуры.

Пры гэтым запытанні абое, і свяшчэннік, і прыхаджанін, апускаюць вочы ў зямлю. Свяшчэннік гаворыць суму.

— Дорага, бацюшка, я ж чалавек бедны, а ў мяне малыя дзеці ў хаце.

— Так, але ж і мне жыць трэба, — адказвае свяшчэннік.

Такім чынам паміж духаўнікам і яго духоўным сынам у той момант, калі апошняму найбольш патрэбна духовая дапамога і пацяшэнне з боку свайго духаўніка, пачынаецца гандаль — гандаль самы страшны, бо прадметамі яго з'яўляюцца малітва і мёртвае цела. Праз нейкі час абодва бакі застанаўліваюцца на пэўнай суме.

Прыхаджанін выходзіць ад свайго айца духоўнага, ідзе дахаты і плача. І цяпер ён не зусім ясна разумее, чаго ён плача, чаго яму больш шкада: нябожчыка — нябожчыцу ці тую часта апошнюю карову, якую ён змушаны прадаць, пакінуўшы дзетак без малака, — прадаць спяшаючыся, а дзеля гэтага за палову яе

вартасці з тым, каб каля паловы атрыманых грошай аддаць прычту за хаўтуры.

І натуральна, што ўсю гарчыню, сабраўшуюся ў яго на душы, прыхаджанін пераносіць на свяшчэнніка. Ён не толькі думае, але і расказвае іншым, што яго «абадралі».

А свяшчэннік? Застаўшыся адзін, пасля адыходу прыхаджаніна, ён пачынае адчуваць мучэнні сумлення, ён разумее, што яшчэ далей адышоў ад прыхаджан, што яны яго абгаворваюць за ўзятыя грошы, што яму, як айцу духоўнаму, трэба было б падтрымаць, пацешыць свае духоўнае дзіця ў яго горы, што пры гэткіх учынках ён ніякімі найкрасамоўнейшымі казаннямі не дасягне свае мэты, што яго ўплыў на сваіх духоўных дзяцей будзе з кожным разам усё памяншацца.

З другога ж боку, ён думае аб сваіх родных дзецях, што адныя з іх знаходзяцца ў школьным веку, другія ўжо перараслі гэтыя гады, што іх трэба вучыць, а вучыць няма за што, што ён не мае магчымасці не толькі даць ім адукацыю, але не можа нават адзець, абуць іх як трэба. Ён параўноўвае становішча сваіх, застаючыхся без адукацыі дзяцей са становішчам дзяцей сваіх прыхаджан у будучыні, якія, як і іх бацькі, усё ж будуць гаспадарамі, і з сумам думае аб тым, якая будучыня чакае яго ўласных дзяцей. Трэба заглянуць глыбей і зразумець і разглядзець тую трагедыю, якую перажывае знаходзячыйся ў такім становішчы свяшчэннік. І хто ведае, магчыма, ён, змушаны абставінамі, не раз, як чалавек, аплаквае не толькі момант свайго пасвячэння ў свяшчэннікі, але і час свайго нараджэння.

Які ж выхад з гэтага ненармальнага і цяжкога для абодвух бакаў: духавенства і прыхаджан, а таксама шкоднага для царквы наагул становішча?

А выхад ёсць. Патрэбна толькі добрая воля з абодвух бакоў. Гэта — самаабкладка прыхаджан для ўтрымання прычту. Пытанне аб колькасці і спосабе самаабкладання з усімі дакладнасцямі з ім злучанымі ў кожным прыходзе можа быць вырашана і апрацавана ў залежнасці ад мясцовых варункаў. Выконваць гэтае самаабкладанне ў сельскіх прыходах выгадней усяго было б не грашыма, а збожжам; з душы, дзесяціны ці гаспадарчай адзінкі — гэта пытанне мясцовае.

Ініцыятыву ў гэтай справе павінна ўзяць на сябе духавенства. Ясна, што сярод прыхаджан знойдуцца праціўнікі такога вырашэння пытання, але смушчацца не трэба, а далей весці працу.

Неабавязкова адразу з цэлым прыходам, спачатку можна

з паасобнымі вёскамі.

Калі ўдасца дагаварыцца і саставіць прыгавор з адной вёскай, гэта ўжо будзе палова працы. Колькасць гадавога ўзнагароджання прычту лёгка азначыць. Падставай гэтага павінна быць агульная сума даходаў за год, якая ёсць у кожным прыходзе. Гэтую лічбу, каб унікнуць ад тых непрыемнасцяў, якія змушаны пераносіць прычт пры персанальным прымусовым пазысканні за трэбы, можна нават паменшыць.

Для прыхаджан такі спосаб узнагароджання прычту будзе таксама больш раўнамерным, а дзеля гэтага і лягчэйшым. Калі прыняць пад увагу, што гаспадаркі на цэлых надзелах цяпер сустракаюцца даволі рэдка, што ў большасці выпадкаў яны падзелены на 4–6 асобных гаспадарак, дык пры самаабкладанні на ўтрыманне прычту, напрыклад: з поўнага гаспадарчага надзелу па 6–8 пудоў, з асобнай частковай гаспадаркі прыйдзецца плаціць 1 $^{1}/_{2}$ – 2 пуды.

Між тым амаль не бывае ў прыходзе хаты (частковае гаспадаркі), з якой у працягу года не зварочваліся б да прычту: то хаўтуры, то народзіны, то метрыка, то вяселле, а значыць, усё пуды ды пуды, і, здараецца, што з некалькіх асобных гаспадарак аднаго надзелу трэба аддаць прычту за год 12–15 пуд. замест 6–7 без непаразуменняў.

Прычт са свайго боку павінен быў бы выпаўняць усе абавязковыя трэбы, як хаўтуры, хрэсьбіны, шлюбы, выдаванне метрыкаў, споведзь, асабліва вялікапосную, бясплатна.

Гэта адзіны карысны для абодвух бакоў выхад з ненармальнага спосабу платы за трэбы.

Гэта зблізіла б духавенства і прыхаджан, стварыла б больш шчырыя ўзаемаадносіны між імі, паставіла б духавенства ў большую залежнасць ад прыхаджан, што зусім не страшна духавенству. Карыстаючыся любоўю і пашанай з боку прыхаджан праз ухіленне прычынаў, паралізуючых гэтую любоў і пашану, духавенства аўтарытэтна выкарыстала б сваё становішча для дабра Царквы, што так неабходна ў сучасную пару ў нас у Заходняй Беларусі.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Лявон Луцкевіч,*
*Галіна Войцік*

## АЛЯКСАНДР КОЎШ

Аляксандр Коўш нарадзіўся на пачатку 80-х гг. XIX ст. Дакладных звестак аб часе ягонага нараджэння няма, але ёсць меркаванні, што нарадзіўся ён у верасні 1884 г. Месца нараджэння — в. Рыдзялі Верцялішскай воласці Скідзельскага павета. Бацька Аляксандра, малазямельны селянін, мусіў адбыць салдатчыну, якая тады трывала 25 гадоў. Вярнуўшыся пасля службы ў родную вёску, ён ажаніўся і прыдбаў дзесяцёра дзяцей. Працаваў сторажам пры школе і сяк-так, хоць і не сытна, жыў. Здарылася бяда, дзеці пачалі адно за адным паміраць ад нейкіх хваробаў, і маламу Аляксандру маці ўжо шыла кашулю на смерць. Але, відаць, тады не прыйшла яшчэ ягоная гадзіна.

Аляксандр пайшоў у школу, вучыўся добра, хаця для навукі меў толькі зіму, бо вясной і ўлетку хадзіў у падпасках. Вучыцель накіраваў яго ў Свіслацкую вучыцельскую семінарыю, дзе ён здаў конкурсны экзамен на стыпендыю. На ўсё жыццё засталіся ў памяці лекцыі расейскай мовы, на якіх вучыцель шмат разоў змушаў паўтараць «рюмка», «репа», «ремень», а ў хлапчукоў з беларускае вёскі ніяк не атрымоўвалася ні мяккае «р», ні «е» перад націскам. Аляксандр падсвядома адчуў, што такое вымаўленне чужое яму, хаця і змушаны быў гэтае апаноўваць.

Пасля сканчэння семінарыі атрымаў скіраванне на працу ў школу ў мястэчка Дамачэва. Цяпер, як чалавек ужо дарослы, пабачыў, што атрымліваецца недарэчнасць: беларускі народ са сваёй асаблівай мовай, самабытнай культурай мае чужую яму расейскую школу і царкву. Чаму так — яшчэ не мог разабрацца. Бачыў толькі, што і сам ён робіць не тое, што патрэбна народу.

Адпрацаваўшы абавязковыя чатыры гады ў школе, Аляксандр перайшоў на працу ў дзяржаўны банк у Любліне. На пачатку Першай сусветнай вайны банк разам з усімі супрацоўнікамі быў эвакуіраваны на ўсход. Сем гадоў блукаў па Расеі: Масква, Разань,

Славянск, Майкоп... Цяжкія гады рэвалюцыі. Як толькі пачалася рэпатрыяцыя, пачаў рыхтавацца да ад’езду на бацькаўшчыну. Пасля двухмесячнага падарожжа, напрыканцы восені 1921 г., апынуўся ў Горадні.

Даўно ўжо ў яго з’явілася думка прыняць духоўны сан. Пабожны быў з дзяцінства пад уздзеяннем маці. Жаданне ягонае ўмацавалася пад уплывам жахлівых падзеяў, каторыя несла з сабой вайна і рэвалюцыя. Горадзенскі епіскап пасвяціў яго ў сан свяшчэнніка, і на пачатку 1922-га ён ужо быў настаяцелем парафіі ў в. Дзятлавіч Ваўкавыскага павета, дзе і прабыў да канца 1925 г. Гэта былі найспакайнейшыя гады ягонага жыцця.

Натура ягоная аднак вымагала актыўнасці. Аляксандр паехаў у Варшаву і навязаў там лучнасць з пасламі Беларускага пасольскага клуба. Паслы Мятла і Валошын прыязджалі на вялікія святы ў Дзятлавічы, прамаўлялі да людзей, сенатар Багдановіч чытаў у царкве «Апостала» па-беларуску.

У тым часе ў Вільні меў быць заснаваны Беларускі кааператыўны банк. Арганізацыя банка была даручана Аляксандру Каўшу, як чалавеку, каторы добра ведаў банкаўскую справу. Пры канцы 1925 г. ён пераехаў у Вільню, а ўжо на пачатку 1926-га Беларускі кааператыўны банк пачаў дзейнічаць. Працуючы ў банку, а. Коўш, як асоба духоўная, мусіў быць прыпісаны да нейкае царквы. Вольных месцаў у Вільні не было. Заставалася толькі занядбаная царква каля Кальварыйскага рынку, у якой у часе вайны немцы зрабілі электроўню. Пасярэдзіне царквы была глыбокая яма, не было вокнаў, абразоў. Аляксандр Коўш узяўся за рамонт. Улетку 1926-га царква была адрамантаваная ды высвечаная тагачасным віленскім епіскапам Хвядосам. Айцец Аляксандр быў назначаны настаяцелем і атрымаў пахвальную грамату за адбудову царквы.

Тады яшчэ ягоныя адносіны з віленскімі праваслаўнымі духаўнікамі складваліся даволі добра. Яны ахвотна карысталіся з ягонае гасціннасці, а якую заняць пазіцыю ў дачыненні мацнеючага беларускага руху — яшчэ не вызначылі. У хаце а. Аляксандра часта збіралася і беларуская інтэлігенцыя. Аднак гэткае спакойнае, з абяцаючай перспектывай жыццё ў тамтэйшым беларускім асяроддзі трывала нядоўга. Позна ноччу, з 14 на 15 студзеня 1927 г., пачуўся моцны стук у вокны і дзверы. Уварваліся паліцыянты і, зрабіўшы рэвізію ў кватэры, загадалі апранацца. Гэта была ноч разгрому Грамады.

Назаўтра сярод беларускай інтэлігенцыі запанавала прыгнечан-

не. Яна зразумела, што з боку санацыйных уладаў пачалася атака на ўвесь беларускі рух. Не разумелі толькі таго, што атака йшла таксама і з усходу: адныя правакавалі, другія паддаваліся на правакацыю. Мэта ж, як першых, гэтак і другіх, была адна тая самая — загасіць полымя беларускага адраджэння, якое, на іхні погляд, разгаралася надта моцна.

Для Аляксандра Каўша пачаліся доўгія месяцы следства. Ён не быў сябрам Грамады, а быў арыштаваны як галоўны бухгалтар банка. Банк пракуратура абвінаваціла ў тым, што праз яго йшлі грошы з Масквы на падпольную работу супраць Польшчы. Аднак, нягледзячы на жорсткую экспертызу, даказаць гэта не ўдалося.

Як жа зрэагавала на арышт а. Каўша праваслаўнае духавенства? Віленскі архіепіскап Хвядос замест таго каб згодна з правіламі элементарнай людской этыкі заступіцца за свайго падуладнага ці, прынамсі, выявіць хоць бы нейкае зацікаўленне ім, — зусім не па-хрысціянску пазбавіў яго парафіі і нават забараніў адпраўляць усе літургічныя чыннасці, хаця ж у астрозе а. Коўш і так не меў такое магчымасці.

Нарэшце адбыўся суд. Аляксандр Коўш быў апраўданы і выйшаў на волю. Парафіі яму не далі. Праваслаўнае духавенства пачало старанніцца яго. Раптам да іхняе свядомасці дайшло, што ён ёсць беларус, а ў іхнім разуменні праваслаўны святар не мог быць беларусам. На чалавека ў духоўным стане, каторы адважыўся быць беларусам, яны глядзелі (як, дарэчы, і цяпер глядзяць) як на ерэтыка. У банк на працу яго не прынялі. Адзінае, што атрымаў: некалькі лекцыяў рэлігіі ў Віленскай беларускай гімназіі. Вольнага часу заставалася шмат. А без заняткаў Аляксандр Коўш сядзець не любіў.

У Вільні была яшчэ адна напаўразбураная царква — Пятніцкая, першая хрысціянская святыня ў Вільні. Царква была перададзена кансісторыяй гімназіі і неўзабаве, дзякуючы стараннямі а. Аляксандра, адбудавана. У нядзелю гімназісты хадзілі сюды слухаць ягоныя набажэнствы. Аднак у тым самым часе варожыя беларушчыне сілы, каторыя перад тым развалілі Грамаду, пачалі, карыстаючыся дзеля гэтага з кожнай нагоды, сваю дэструкцыйную дзейнасць і ў гімназіі. Такой нагодай былі і лекцыі рэлігіі. Яны намаўлялі вучняў не вучыцца рэлігіі, кпілі з тых, хто хадзіў у царкву. Адчувалася, што нехта звонку арганізаваў групу вучняў у старэйшых класах і хоча праз яе дэзарганізаваць увесь гімназіяльны парадак з далейшай мэтай ліквідацыі гімназіі. Не памагалі ўгаворы вучыцялёў. Скончылася ўсё вучнёўскім мітынгам у актавай зале, пасля якога частка вучняў была выдалена з гімназіі пад нагляд бацькоў. Здавалася, што нехта падняў кувалду ды хоча стукнуць ёю па ўсіх праявах

нацыянальнага бел[арускага] жыцця. Гімназія аднак была выратавана дзякуючы рашучай пазіцыі ейнай дырэкцыі. Шмат якія выдаленыя вучні, што хацелі вучыцца далей, былі нанова прынятыя ў ВБГ.

Айцец Аляксандр як ніхто іншы разумеў, што і эксцэсы ў гімназіі, і разгром Грамады, і засілле расейскага духавенства ў праваслаўнай царкве, і нават тое бясконцае паўтаранне словаў «рюмка» і «ремень» у дні ягонага юнацтва, — усё гэта сцежкі, каторыя вядуць да аднае мэты — знішчэння нацыянальнай саматоеснасці беларускага народа. Чужацкая прапаганда ішла ў народ двума шляхамі: праз школу і праз царкву. Праз школу ішлі цяпер уплывы польскія, але школу, прынамсі, баранілі беларускія арганізацыі. Царквой жа ніхто не займаўся. Чамусьці лічылі, што гэтая справа не вартая ўвагі. Аляксандр жа з маленства ведаў, які ўплыў на вёсцы мае царква. Калі ў школу чалавек ходзіць некалькі гадоў, дык у царкву ён хадзіў усё жыццё. І ўсё жыццё яму стараліся ўбіць у галаву, што ягоная родная мова нейкая нявартасная і нягодная для таго, каб на ёй гаварыць казанні ў царкве. Нават стаяць у царкве перад прастолам меў права толькі той, хто ўмеў гаварыць па-расейску. Гэткім чынам у душы сялянаў усялялі адчуванне, што іхняя мова нейкая горшая, а нават і нейкі «жаргон».

На думку Аляксандра Каўша, галоўнае было не тое, каб псальмы чыталіся па-беларуску — няхай сабе Евангелле чытаюцца па-царкоўнаславянску, тым больш што мова Евангелляў вельмі даступная, зразумелая, — галоўнае тое, каб само праваслаўнае духавенства не было народу чужым. На прыкладзе ж беларускага народа а. Аляксандр бачыў, як негатыўна ўплывае на яго чужацкае духавенства. А які дадатны ўплыў царква можа мець на жыццё народа, ён бачыў на прыкладзе суседзяў, заходніх украінцаў. Бачыў таксама і на прыкладзе народа Ізраіля, каторы, нягледзячы на стагоддзі расцярушання па ўсім свеце, захаваў сваю самабытнасць, дзякуючы таму, што ўсюды гуртаваўся каля сваіх рэлігійных установаў.

З такімі думкамі а. Аляксандр Коўш узяўся за справу стварэння беларускай нацыянальнай царквы. Пачалася барацьба не на жыццё, а на смерць, у якой адзін чалавек перамагчы не мог. У гэтай барацьбе яго падтрымоўвала беларускае каталіцкае духавенства. Іх тады была ўжо суполка ў некалькі чалавек. Беручы з іх прыклад, Аляксандр Коўш заснаваў Беларускі царкоўны камітэт. Наладзіў выдавецтва царкоўнага часопіса на беларускай мове «Беларуская зарніца». Шмат прыкрасцяў ён мусіў перацярпець і ад расейскага духавенства, і ад віленскага расейскага грамадзянства, згуртаванага ў «Виленском русском обществе». Проста дзіўна было, скуль у людзей бралася

столькі фантазіі, каб выдумляць пра а. Аляксандра ўсялякую, часам пачварную, хлусню.

Аляксандр Коўш наладзіў кантакты са студэнтамі-беларусамі тэалагічнага праваслаўнага факультэта Варшаўскага універсітэта, арганізаваў там беларускі гурток. Варшаўскі мітрапаліт Дзіянісій ставіўся да яго даволі прыхільна: ці то мітрапаліт разумеў, што беларусізацыя можа быць карыснай таксама і для царквы, ці то ён шукаў у ёй сабе апоры. (Вялікая частка расейскага духавенства не магла даравацьмітрапаліту Дзіянісію аўтакефаліі, якую абвясціў на пачатку 20-х гг. ягоны папярэднік мітрапаліт Георгій, парваўшы з Масквой і папрасіўшыся пад юрысдыкцыю ўсяленскага патрыярха. Гэта непамерна абурыла расейскае духавенства ў Польшчы. У выніку гэтага незадавалення мітрапаліт Георгій быў застрэлены ў сваіх пакоях манахам Смарагдам, каторы шукаў таксама забіць і памочніка мітрапаліта Дзіянісія, ды быў схоплены паліцыяй. Дзіянісій ведаў, што мае шмат непрыхільнікаў і, магчыма, хацеў абаперціся на беларусаў, высцерагаючыся, аднак, зрабіць гэта адкрыта.)

Тым часам віленскі епіскап Хвядос пазбавіў а. Аляксандра права выкладаць рэлігію ў ВБГ на той падставе, што той не меў духоўнае асветы, а пасля загадаў яму ехаць на парафію ў Пастаўскі павет у в. Ласіца. Фактычна гэта была ссылка. У Ласіцы а. Аляксандр не меў магчымасці займацца ні выдавецкай, ні грамадскай дзейнасцю. Па некаторым часе ён быў пераведзены ў Вілейскі павет у в. Кастыкі. Тут яго заспела Другая сусветная вайна. Ён адразу ж вярнуўся ў Вільню, каторая часова была далучаная да БССР. Беларускі царкоўны камітэт дамогся назначэння яго ў Свята-Мікалаеўскую царкву вікарыем. Загадана яму было жыць пры царкве ў кватэры настаяцеля Бяляева.

У Вільні Аляксандр Коўш нанова распачаў сваю грамадскую дзейнасць. Разам з кс. Адамам Станкевічам заклаў Беларускую секцыю Чырвонага Крыжа. Арганізаваў сталоўку, у якой бясплатна атрымлівала абеды пацярпелае ад вайны беларускае жыхарства, раздаваў вопратку. Беларускі царкоўны камітэт імкнуўся да пераняцця кантролю над усёй дзейнасцю праваслаўнай кансісторыі, таксама і фінансавай, чым выклікаў ейнае абурэнне. Узмоцнілася даўняя варожасць кансісторыі да а. Аляксандра.

У першых днях заняцця нямецкай арміяй Вільні Аляксандр Коўш быў арыштаваны нямецкім гестапа. На якім грунце быў зроблены арышт і хто зрабіў данос немцам — невядома. Пасля допытаў ён быў звольнены і недзе ў верасні 1941 г. выехаў у Беларусь, у Менскую епархію да беларускага епіскапа Філафея. Атрымаў парафію ў

Крайску каля Менска і супрацоўнічаў у выдавецкім аддзеле Менскай епархіі.

У Крайску на яго быў ізноў зроблены данос немцам. Ёсць прыпушчэнне, што ён дапамагаў жыдам перахоўвацца ад гітлераўцаў і нават хаваў некага з іх у сваім доме. Аляксандр Коўш быў арыштаваны і расстраляны. Здарылася гэта хіба недзе ў сярэдзіне 1943 г.

Характэрнай рысай светапогляду Аляксандра Каўша была талерантнасць. Ён быў далёкі ад рэлігійнага фанатызму. Можна дапусціць думку, што ягоная праца праваслаўнага святара не была самамэтай, што, па сутнасці, ён разглядаў яе як адзін са спосабаў служэння абяздоленаму працоўнаму народу Заходняй Беларусі, выкарыстоўваючы маральныя прынцыпы ды гуманістычныя аспекты хрысціянства. Пра гэта сведчаць ягоныя блізкія кантакты і нават супрацоўніцтва з той часткай беларускага каталіцкага духавенства, каторая ставіла перад сабой аналагічныя мэты.

Але, наогул, у сваім шчырым змаганні за беларускасць праваслаўнай царквы ён быў даволі адзінокім. У зменлівых варунках нацыянальна-вызваленчай барацьбы ён не меў дастатковай падтрымкі ад сваіх, але затое сустрэў шмат праяваў зверскай варожасці з боку чужых. У гэтым ёсць і нейкая заканамернасць ягонай заўчаснай гібелі з рук фашыстоўскіх акупантаў.

Айцец Аляксандр Коўш і ягоная дзейнасць заслугоўваюць самай глыбокай нашай пашаны. Ён назаўжды застанецца ў памяці нашчадкаў як непахісны змагар за беларускую справу.

*Лідзія Кулажанка*

## ЖЫЦЦЁ І ПАКУТНІЦКАЯ КАНЧЫНА ПРОТАІЕРЭЯ АЛЯКСАНДРА КАЎША (1884–1943)

Аляксандр Коўш нарадзіўся 2.8.1884 г. у вёсцы Верцялішкі Гродзенскага павета (цяпер Гродзенскі р-н) у праваслаўнай сям'і Стафана і Марыі з дому Бялугаў. Быў ахрышчаны ў мясцовай Аляксандра-Неўскай царкве. Скончыўшы Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1904), працаваў настаўнікам на Століншчыне. У 1921 г. у Гродне епіскапам Уладзімірам (Ціханіцкім) быў рукапаложаны ў сан праваслаўнага свяшчэнніка.

Асноўная частка святарскага служэння а. Аляксандра Каўша прыпала на 20–30-я гг., калі заходнебеларускія землі, паводле Рыжскай дамовы 1921 г., трапілі ў склад Польскай дзяржавы. На тэрыторыі

Заходняй Беларусі былі створаны Віленская, Гродзенская і Пінская епархіі, дзейнічала 500 прыходаў і храмаў, 5 манастыроў, што было прыкладна ў 2 разы менш, чым да Першай сусветнай вайны. Польскія ўлады зачынілі ўсе цэрквы і навучальныя ўстановы пры шпіталях і турмах, каля 100 прыходаў і 8 манастыроў было перададзена каталікам або аддадзена на патрэбы дзяржавы.

Пазіцыя дзяржаўных улад вынікала з пераканання, што найлепшым грунтам дзяржаўнай стабільнасці будзе канфесійнае адзінства на аснове Каталіцкага Касцёла, тым больш што Праваслаўная Царква магла спрыяць замацаванню расійскіх уплываў на «крэсах» ці стварэнню асяродкаў беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў. Таму, нягледзячы на канстытуцыйныя гарантыі роўнасці канфесій, польскі ўрад праводзіў палітыку на абмежаванне Праваслаўнай Царквы, на паступовую яе паланізацыю, інспірацыю т. зв. «польскага праваслаўя», выкарыстанне яго ў якасці сродку асіміляцыі карэннага беларускага насельніцтва. У такіх умовах частка святарства, грунтуючыся на прынцыпе саборнасці, роўнай адказнасці свяшчэнства і міранаў за лёс Царквы, імкнулася наблізіць Праваслаўную Царкву да патрэбаў сваёй паствы, пашырыць свой удзел у грамадскім жыцці, каб быць звязаным з народам не толькі культам, але стаць з ім сапраўды адзінай духоўнай сям’ёй.

Першым прызначэннем а. Аляксандра было месца настаяцеля царквы ў Дзятлавічах Ваўкавыскага павета. Ужо ў той час у сваіх казаннях і гутарках з прыхаджанамі а. Аляксандр падкрэсліваў прыніжанае становішча беларусаў у Польскай дзяржаве, агітаваў за стварэнне беларускіх школ, заклікаў да арганізаванасці ў мэтах здабыцця незалежнасці.

З 1925 г. а. Аляксандр атрымаў прыход у Сніпішках пад Вільняй, прыклаў нямала намаганняў для аднаўлення мясцовай царквы. Акрамя клопату аб прыходзе чынна працаваў з моладдзю. З 1926 г. выкладаў Закон Божы і быў кіраўніком інтэрната ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе шмат увагі надавалася рэлігійнаму выхаванню. Намаганнем а. Аляксандра Каўша, іншых настаўнікаў Віленская духоўная кансісторыя перадала гімназіі старажытную (XIV ст.) царкву св. Параскевы Пятніцы «з мэтай узгадавання беларускай моладзі і грамадзянства ў праваслаўна-нацыянальным духу» (Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 605, воп. 11, спр. 131, л. 7). Акрамя таго, ён быў адным са стваральнікаў і актыўных удзельнікаў Беларускага дабрадзейнага таварыства, якое займалася матэрыяльнай і маральнай апекай асірочанай і незаможнай моладзі.

Асветніцкая дзейнасць прот. Аляксандра Каўша ажыццяўлялася непасрэдна ў царкве праз катэхізатарства і прапаведніцтва, а таксама

праз грамадскую і выдавецкую дзейнасць. Аляксандр Коўш быў шырока вядомы за сваю ахвярную і нястомную працу супраць паланізацыі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Ён супрацоўнічаў з Цэнтральным беларускім праваслаўным камітэтам (ЦБКП), які быў створаны на з'ездзе праваслаўных беларусаў у 1930 г. (старшыня Ф. Вернікоўскі). Мэтай камітэта было аб'яднаць «намаганні праваслаўных беларусаў дзеля захавання сваёй веры, узмацнення хрысціянскай маралі на нацыянальным грунце». У 1928–1929 гг. а. Аляксандр Коўш быў рэдактарам-выдаўцом царкоўна-грамадскага часопіса «Беларуская зарніца», мэтай якога было, як паведамлялася ў рэдакцыйным артыкуле, «сказаць праўдзівае слова аб царкоўных патрэбах і іх задавальненні мясцовым беларускім насельніцтвам». Прысвячаўся часопіс «беларускаму народу, які ў вясковай глушы захоўвае родную праваслаўную веру, і тым мучанікам-духаўнікам, якія, мучаючыся горам і бедамі сваіх прыхаджан, на сабе перацярпелі ўвесь цяжар сучаснага царкоўнага быту і бяспраўя (Беларуская зарніца, 1928, № 1). Галоўныя прынцыпы выдання ажыццяўляліся праз публікацыю артыкулаў па гісторыі праваслаўя ў Беларусі, пра ўдасканаленне прынцыпаў арганізацыі царкоўнага жыцця, праз павучальныя апавяданні для дзяцей і моладзі, што сведчыла пра вялікую любоў і пастырскі клопат а. Аляксандра. У лісце да рэдактара адзін з чытачоў пісаў, што даўно чакаў такога часопіса, «каля якога, як каля роднага сцягу, павінны згуртавацца ўсе тыя беларускія праваслаўныя, каму дарагая справа адраджэння роднай беларускай царквы» (Беларуская зарніца, 1929, № 4).

У віленскі перыяд а. Аляксандр Коўш наводзіць блізкія кантакты з беларускімі грамадска-культурнымі арганізацыямі. Як сведчыць сакрэтны данос міністру ўнутраных спраў у Варшаву, складзены віленскім суддзёю Ст. Паўловічам, на кватэры Каўша праходзілі сходы, у якіх прымалі ўдзел вядомыя дзеячы Беларускай сялянска-работніцкай грамады — Бр. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, А. Луцкевіч і інш. У 1927 г. А. Коўш быў арыштаваны, некаторы час знаходзіўся ў турме на Лукішках, але ў 1928 г., за недаказанасцю абвінавачвання, апраўданы.

Чынная грамадская дзейнасць а. Аляксандра Каўша і яго намаганні па беларусізацыі Праваслаўнай Царквы выклікалі незадавальненне як антыбеларускіх сіл у грамадска-палітычным руху, так і сярод віленскага епархіяльнага начальства. У 1930 г. пастановай Віленскай духоўнай кансісторыі протаіерэй Аляксандр Коўш быў пазбаўлены пасады законанастаўніка Віленскай беларускай гімназіі. Але за яго ўступілася значная частка віленскай беларускай грамадскасці. Пытанне аб захаванні за а. Каўшом пасады

законанастаўніка ў Віленскай беларускай гімназіі разглядалася нават Свяшчэнным сінодам польскай Праваслаўнай Царквы. У спецыяльнай пастанове сінода, прынятай у ліпені 1931 г. у падтрымку прот. Каўша, гаварылася: «У сувязі з цяжкім становішчам (хвароба правячага архірэя, націск уніі, атэізм, рэлігійная індыферэнтнасць), а таксама ў сувязі з дэмакратызацыяй віленскай беларускай грамадскасці, яна (грамадскасць) мае асабліва вострую патрэбу ў энергічным чалавеку, які б, стоячы на варце рэлігійных і маральных інтарэсаў, змог бы аб’яднаць вакол сябе здаровыя элементы беларускай грамадскасці і даць адпор уніяцкай і атэістычнай агітацыі. Святар Коўш арганізацыяй Сніпішскага прыхода ў Вільні паказаў сябе такім энергічным работнікам, а апошнія прызнанні аўтараў недастойных лісткоў выразна паказалі, што а. Аляксандр Коўш у іх не павінны, а таму і прымененая да яго мера спагнання ў выглядзе пазбаўлення яго законанастаўніцкай пасады ў Вільні можа быць адменена...». Свяшчэнны сінод пастанавіў: «Блаславіць святара Гродзенскай епархіі Аляксандра Каўша прыняць на сябе пасаду законанастаўніка Віленскай беларускай гімназіі і Беларускай настаўніцкай семінарыі і прадаставіць Віленскаму епархіяльнаму начальству прыпісаць а. Каўша, на аснове канонаў, да адной з цэркваў Вільні, лепш за ўсё да Пятніцкай, дзе моліцца беларуская моладзь» (Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 605, воп. 10, спр. 132, лл. 4–23). Аднак на практыцы рашэнне Свяшчэннага сінода не было выканана, бо 10 верасня 1931 г. у лісце да архіепіскапа Віленскага Феадосія Аляксандр Коўш звяртаўся з просьбай растлумачыць непаразуменне ў сувязі з прызначэннем 1.01.1931 г. выкладчыкам Закона Божага ў Віленскую беларускую гімназію святара Ніла Кульчыцкага. Абгрунтоўваючы неабходнасць сваёй працы, ён прыводзіць і наступны аргумент: «Выкладанне рэлігіі ў беларускай навучальнай установе значна аблягчае маю працу па складанні падручнікаў па рэлігіі на беларускай мове як для сярэдніх, так і ніжэйшых школ, у чым зацікаўлены і навучальныя ўлады». Толькі пасля паўторнага ліста ад мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Дзіянісія ад 25 верасня 1931 г. да архіепіскапа Віленскага Феадосія, дзе, між іншым, гаварылася, што змяшчэнне А. Каўша з пасады пагражае царкоўнаму міру ў Вільні, а. Аляксандр быў адноўлены на пасадзе законанастаўніка з абавязкам адпраўляць багаслужбы ў царкве св. - Параскевы Пятніцы. Аднак ужо ў наступным годзе ён усё ж быў пазбаўлены месца настаяцеля царквы і пераведзены спачатку на другое святарскае месца ў віленскую царкву свц. Мікалая на Вялікай вуліцы, а затым высланы з Вільні і пераведзены ў Норыцу (Ласіцу) Пастаўскага павета. У спісе свяшчэннаслужыцеляў Віленскай епархіі

за 1933 г. адносна А. Каўша няма ніякай інфармацыі, што пацвярджае, што ён сапраўды быў у ссылцы і не меў сувязі з епархіяй. Паводле пазнейшых сведчанняў, у Ласіцы а. Аляксандр прамаўляў пропаведзі па-беларуску, стварыў царкоўны хор, які развучваў і спяваў беларускія духоўныя песні. Выклікаўшы гэтым вялікую незадаволенасць мясцовай польскай адміністрацыі, быў пераведзены (1937) у Кастыкі Вілейскага павета. У 1939 г., пасля перадачы Вільні Літве, вярнуўся сюды, некаторы час служыў настаяцелем Свята-Мікалаеўскай царквы. У 1940–1941 гг. працаваў старшым бухгалтарам у Літоўскім дзяржаўным банку, адначасова быў старшынёй Беларускага Чырвонага Крыжа.

У час Другой сусветнай вайны нямецкае камандаванне скарыстоўвала высокую рэлігійнасць мясцовага насельніцтва для прыцягнення яго на свой бок. З дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў на ўсходнія тэрыторыі прыбывала духавенства з Заходняй Беларусі для працы ў адноўленых храмах і прыходах. Сярод іх быў і протаіерэй Аляксандр Коўш, які быў прызначаны ў выдавецкую камісію пры мінскім архірэі. Атрымаўшы прыход у Плешчаніцах Лагойскага раёна, аднавіў Свята-Мікалаеўскую царкву, закрытую бальшавіцкай уладай у 1933 г. У найскладанейшых умовах прот. Аляксандр наладзіў жыццё прыхода, шчыраваў у справе храмаўладкавання, з любоўю працаваў з дзецьмі, стварыў дзіцячы хор. Насуперак загаду нямецкіх уладаў, па якому забаранялася хрысціць і вянчаць яўрэяў, а. Аляксандр выконваў гэтыя трэбы, рызыкуючы сваім жыццём. У сакавіку 1943 г. у час службы ў Плешчаніцкай царкве яго арыштавала гестапа і памясціла ў мінскую турму СД. Пасля пакутных допытаў ён быў расстраляны. Па сведчанні відавочцаў, адпявалі а. Аляксандра ў царкве мінскага Спаса-Праабражэнскага манастыра. Чын адпявання адслужыў мітрапаліт Мінскі і ўсяе Беларусі Панцеляімам (Ражноўскі).

Паводле сведчанняў нешматлікіх відавочцаў, «трагічны фінал быў праведзены без следу, без архіўнай дакументацыі, без прэсавых інфармацый». Таму акрамя названай версіі аб прычынах гібелі а. Аляксандра — забароненае хрышчэнне яўрэяў — існуюць і іншыя. Сярод беларускай эміграцыі пераважае думка (якую падтрымліваў і сын Аляксандра Каўша — протапрасвіцер Святаслаў Коўш; 1916—1999), што прычынай паслужыла абвінавачванне, сфабрыкаванае антыбеларускімі і антыправаслаўнымі сіламі яшчэ ў Вільні, у санацыйнай Польшчы. Спісы грамадоўцаў з характарыстыкай іх «антыўрадавай і пракамуністычнай» дзейнасці маглі быць выкарыстаны правакатарам і перададзены немцам (Царкоўны светач, 1982, № 32, с. 4–6). Але сёння ёсць дакументальнае пацвярджэнне, што Аляксандр Коўш фармальна не ўваходзіў у Грамаду і яе кіруючыя органы, а быў толькі тэхнічным работнікам — бухгалтарам. Таму разгадка прычын і абставін гібелі а. Аляксандра Каўша, ахвярнага дзеяча на карысць праваслаўнай царквы і беларускага народа, яшчэ наперадзе.



# Сяргей
# КРЫВЕЦ

Сяргей Міхайлавіч Крывец нарадзіўся ў 1909 г. у в. Сухінічы Гродзенскага павета (цяпер Мастоўскі раён Гродзенскай вобласці).

Быў пастухом, а з 1929 г. працаваў цесляром. Займаўся самаадукацыяй. У 1925 г. абраны сакратаром гуртка Таварыства беларускай школы. У 1930–1933 гг. жыў у Гродна, з 1933 па 1944 г. — у Беластоку. Удзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі, сядзеў у астрозе. Вучыўся ў Беластоцкім педагагічным інстытуце (1940–1941). Пасля вызвалення Беластока ад гітлераўцаў (1944) быў прызваны ў армію, удзельнічаў у баях. Пасля цяжкага ранення пры штурме Гдыні (Польшча) сканаў 28 красавіка 1945 г.

Першы верш апублікаваў у 1928 г. у часопісе «Заранка». Выступаў пад псеўданімамі С. Пастушок, Сярожа Пастушок, Сымон Табала. Апрача беларускай пісаў таксама на рускай, польскай і нямецкай мовах. Друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях, а з 1940 г. — у беластоцкай газеце «Вольная праца». Пасля смерці творы паэта ўключаліся ў калектыўныя зборнікі «Мы іх не забудзем» (1949), «Сцягі і паходні» (1965), «Дзень паэзіі» (1967), «Крывёю

сэрца» (1967), «Ростані волі» (1990), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), «Першацвет адраджэння» (1995), «Сляза на камень» (1995). Р. Шырма ўклаў і выдаў паэтычны зборнік С. Крыўца «Дубок» (1972). Пісаў апавяданні, перакладаў Ф. Шылера.

# ПАЭЗІЯ

## МОЛАДЗЬ, МОЛАДЗЬ...

Моладзь, моладзь, ўся надзея
Маткі Беларусі.
Наша першая ідэя:
Смелымі быць мусім.
Будзем слабых бараніці,
Праўды дамагацца.
І у згодзе брацкай жыці.
За волю змагацца.
Дружна возьмемся за дзела
З ранняю зарою.
І наперад пойдзем смела
Моцнаю сцяною.
Гэй, да працы, люд свабодны!
Браты і сястронкі!
Хай ляціць наш гімн народны
Ува ўсе старонкі.
Няхай зыкам сваім вольным
Ўскалыхне паветра,
Каб пачуў яго цвет польны,
Роднай пушчы нетра.

*1928 г.*
*Дубна*

## ЛІСТАПАД

Сонца крыецца ў хмарынках.
Хмары дождж халодны льюць.

Птушкі ў лесе на галінках
Летніх песень не пяюць;
Паляцелі ў край далёкі
Ад асенняе слаты.
Лес астаўся адзінокі,
Вецер рве з яго лісты
І па полі іх разносіць:
Скруціць, кіне, схопіць зноў,
Вые, свішча і галосіць
Па завугаллю дамоў.
Усё шэра: поле, межы...
Рэчка, здуўшыся, цячэ,
А марозік першы, свежы
На вакне узоры тчэ.
Белы снег часамі ўпадзе,
Цераз дзень, цераз другі
Зноў растане і прападзе,
Нарабіўшы калюгі.
І скаціна ўжо не ходзіць.
З дрэва ліст ляціць, як град.
Канец восені надходзіць,
Бо ўжо месяц лістапад.

*1927 г.*
*Дубна*

## ЧАМУ НЕ ЙДУ Ў ЛІТАРАТУРУ

Чаму не йду ў літаратуру
І я з адточаным пяром
Тварыць народную культуру,
Нясці яе на паралом?
Ці словам уладаць не ўмею?
Ці я звычайны вершаплёт?
Чаму бо выйсці я не смею
З пяром туды, дзе мой народ?
Ці ж я дрыжаў, калі касою
З другімі праганяў пракос?
Ці я чужою паласою
Снапоў замала перанёс?

Ці, можа, цэпам не ударыў
Як след у часе малацьбы?
Ці, можа, болей я не веру
Ў законы нашай барацьбы?
Хваліцца мы не маем чым,
Маўчаць нам грэх перад народам,
Аднак упарта мы маўчым,
Як рэкі бурныя пад лёдам.
І што, браты, за шчасце ў нас?
І што за лёс такі ганебны?
Ці то на ўсё патрэбен час?
Ці, можа, лепшы гарт патрэбны?
Ды часу многа уплыло,
Што хваль на Нёмне — не палічыш.
А гарту хіба не было?
І гарту мы яшчэ пазычым.
Чаму ж загналі нас ў тупік?
Чаму закрылі вокны, дзверы?
І што такое панскі шпік
Для рук ад плуга і сякеры?
Часіна злая, што й казаць,
Ў апошнім часе, трэ прызнацца,
Не можаш думак павязаць,
А ўжо на подзвіг — і не ўзняцца.
Мы чахнем, сохнем без пары,
І нашы горныя палёты,
Як камень, коцяцца з гары
Ў зыбун мяшчанскага балота.
Як быць? Завошта учапіцца?
І дзе падзеўся пункт апору?
Як можна з гібеллю мірыцца,
Чаму пра гэта не гаворым?..
Я згодзен з тым, што можна гінуць
З спакойным сэрцам і сумленнем,
Калі ўдалося след пакінуць,
Засекчы ствол, зламаць галіну
На знак наступным пакаленням.
Туман і той расою сядзе,
Замкне ў прыродзе нейкі круг,
Найменша кропля ў вадападзе
І тая робіць нейкі рух.

А мы... а мы жывыя людзі!
Мы — фокус бачымых міроў,
У нас ёсць розум, ў нашых грудзях
Кіпіць збунтованая кроў.
Навошта ж мы тады марудзім?
Загінуць так, як тая свечка,
Накрыта цёмным каўпаком,
На свет радзіцца батраком,
А кончыць подлым чалавечкам, —
Хай трахне гром такую долю!
Тады зусім не варта жыць.
Падобным лёсам даражыць —
Мне сорамна свайго мазолю.
Няма закону быць рабамі.
Мы ведаем закон жыцця:
Ратуй жыццё сваё зубамі,
Калі не змог ужо рукамі,
За волю біся да канца.
За міг адзіны людскай волі
Аддай няволі сто гадоў,—
І ўжо ты жыў, з цябе даволі,
Ты апраўдаць сябе гатоў.
Калі б святыя намаганні
Ты дарма толькі пагасіў,
Прыняць адкрытае змаганне
Ў цябе яшчэ замала сіл,—
Зыдзі набок, зашыйся ў нору,
Чакай спрыяючай пары,
А час прыйшоў, ты выбраў пору,
За горла ворага бяры.
Жыцця не чэрпаюць на жмені,
Жыццё бяруць усё зараз.
Інакш людзей не будзе з нас,
Інакш з нас будуць толькі цені.
Не я спаборніцтва баюся
З касою, плугам, тапаром.
Надыдзе час, і Беларусі
Паслужым мы яшчэ пяром.
Надыдзе час, і на пракосы
Быллём парослай стараны
Спадуць адклёпаныя косы,
А ў нетрах гракнуць перуны

Раскатным рэхам тапароў, —
Тады скажу і я: «Гатоў!»
З батрацкім стажам за плячыма
Патрэбны будзе авангард,
Ў той час і я сваёй айчыне
Аддам рукі працоўнай гарт.
Цяпер, пакуль на нашых весях
Тэрор крывавы пралятае,
Славянскім пасынкам на крэсах
Я дні ліхія каратаю,
І толькі часам, так, украдкай,
Калі усё навокал спіць,
Чыркнеш у схованых нататках:
«Народ жыве!.. І будзе жыць,
Не змусіць нас панам служыць».

## ДУБОК

Дубок падцяты малады
Пры першай буры марна згіне.
Пры ім жыццю — такой бяды,
Ды з жалем ён яго пакіне.
Нядаўна жыў і красаваў
І быў таго ж жыцця аздобай,
Цяпер зялёны ліст завяў,
Прадчасна скошаны хваробай.
Праходзіць ноч. Ўстае зарніца.
Дубок галінкамі дрыжыць.
Ён просіць сонца: — Дай мне жыць!
Ён смерці холаду баіцца.
Злятае дзень, і звод нябёс,
Прыбраўшысь зорамі, іскрыцца.
Дубок раняе кроплі слёз...
Каго прасіць, каму маліцца?
І ўжо згубіў надзею ён.
Надарма ўсе яго старанні.
Праходзіць рад апошніх дзён,
Ён загаіць не можа раны.
І крыўды горкай пачуццё
Іржой лісткі яго з’ядае.

Наўкол дубка цвіце жыццё —
Дубок маўкліва памірае.

*1929 г.*
*Дубна*

## АДНОЙЧЫ

Ночкай цёмнаю аднойчы
Чую смелы стук.
Раптам брызгае мне ў вочы
Святла цэлы пук.
Грымнуў голас: — Стаць, ні кроку!.. —
Пэўны і сухі.
Бачу, бачу сярод змроку
Ззаду, спераду і збоку
Зіхацяць штыкі.
Сон ці ява — вось пытанне —
Хто адкажа мне?
Ў хаце плач і нараканне,
Быццам дом ў агне.
Сталь кайданаў, чую, ўецца
Змейкай каля рук.
Нехта жудасна смяецца
З нашых горкіх мук.

*Кастрычнік 1929 г.*

## ШТО Ж ТЫ, МАЛАДОСЦЬ?

Мы забылі, што можна любіць.
Мы кахання яшчэ баімося.
А тым часам скрадаецца восень
І снуе серабрыстую ніць.
Ды, як цень з-за далёкіх узгоркаў,
Замаячыць вячэрні сутунак, —
Ноч крадзецца з усмешкаю горкай
Свой халодны злажыць пацалунак.
Так падлічацца нашы заслугі,

Так адкрыецца наша сіроцтва.
Згасне сэрца, як спалены вугаль,
І мы ўспомнім сваё адзіноцтва.
Ды ўспаміны асеннім туманам
Завалочаць прабытыя далі.
Што ж ты, доля, так мала дала нам?
Мы ж так многа ў няволі жадалі.
Але колькі б мы там ні пыталі,
Не сагрэем грудзей сваіх лёдам,—
Салавейкі ж ў гаю шчабяталі,
Шчабятаць яны будуць заўсёды.
Паняволі ўздыхнеш, аглянешся...
Эх, вазьму вось, здаецца, за краты
Ды...
        І краты асталісь на месцы.
Што ж, заслаб. Ну, а слаб —
                                вінаваты.

*Верасень 1930 г.*
*Гродна*

## МІЖ РАЗОРАЎ

Нешта коціцца па полі,
Нешта скача цераз межы
І лажыцца між разораў,
Затаіўшы дух.

Ці туга па лепшай долі?
Ці мо подых ветру свежы
Коціць хваляю ад бору,
Ці то новы зрух?

Як ля снуйніцаў, навітых
Тонкай пражаю, дзяўчаткі,
Ходзяць важныя сяўбіты,
Рассыпаючы зярняткі,
І снуюць, снуюць...

Гоман коціцца па полі,
Гоман скача цераз межы

І ўжо будзіцца з разораў
Новы зрух.

— Нацярпеліся, даволі! —
Хтось сказаў, відаць, не здзержаў.
Голас бразнуў, быццам горам
Порваны ланцуг.

## ГЭЙ ТЫ, МОЛАДАСЦЬ!

Гэй ты, моладасць,
Гэй ты, буйная!
Дзе ты, моладасць,
Мая скрылася?
Ці ўзляцела ты
Ўвысь блакітную?
Ці на ростанях
Ты разбілася?
Ці апала ты,
Перацвіўшая,
Цветам яблыні
У гразь чорную?
Ці лісты твае
Абарвалі ўсе
Пералётныя
Вятры горныя?
Ці змяла цябе
Хмара чорная
Ў чыстым полі
У сонечны дзень?
Дзе ж ты, моладасць
Непакорная?..
Ці ты блудзіш,
Як выкляты цень?
На зялёны луг
Ты скацілася
Пераразвонам батрацкай касы,
Ой, лямежыкам
Прытупілася
Ў баразёнцы чужой паласы.

Рэхам голасным
   Па сырым бары
Пракацілася,
   Заміраючы,
Дзе звіняць-гудуць
   Тапары,
На карчы вякоў
   Ападаючы.
Праляцела ты
   І не вернешся,
Як не вернецца к полымю дым.
   Туманом на лог
Сум мой сцелецца —
   Па гаротным жыцці маладым.

## Ў ЦЯЖКІЯ ДНІ МНЕ ВЫПАЎ ЛЁС

Ў цяжкія дні мне выпаў лёс —
Пра вас, грамадскія падонкі,
Ўнясці на гэтыя старонкі
Нашчадкам сведчанне сваё.
Мінулых дзён сляды жывыя
Тут калі-небудзь знойдзе ўнук,
Калі мазольных сілай рук
Ён кнігу гэтую адкрые.
І, прачытаўшы мой расказ,
Мае душы адчуе боль.
І вось, суддзі прыняўшы ролю,
На допыт ён пакліча вас.
І знайце: строгі прыгавор,
Напэўна, кожны з вас пачуе.
А потым, хоць і замаўчу я,
Ён вас дастане з вашых нор.

*8 жніўня 1934 г.*
*Беласток*

## ВОСЕНЬ

Ўжо даўно мінула лета,
Свецяць пусткаю палі.
Лес гарыць агністым цветам,
Ветры ў полі загулі.

Даль закрылася імглою.
Хмары неба аблеглі
І, павісшы над зямлёю,
Дождж халодны праліілі.

Дзень за днём паўзе марудна,
Як на шарварк мужыкі.
Цёмны бор заплакаў нудна,
Зашумелі лазнякі.

Зашасцеў чарот ў балоце,
Засвістала асака,
Плешча ў бераг у маркоце
Мутнай хваляю рака.

Пушча жудасна завыла,
Дробны дождж сячэ, імжыць.
Восень карты разлажыла,
Пачынае варажыць.

*1931 г.*
*Гродна*

## ПРАЗ ШПАРЫ КРАТ

На дне грамадскае пучыны
Ляжаў я каменем бязвольным
І прыглядаўся, як згараў,
Бы тая смольная лучына,
Мой дух ў агні пякельных дум.
Навокал мрок начны і сум.
І раптам чую — са двара
Падходзіць нехта ціхім крокам.
Гляджу ў акно. Над Беластокам
Дрыжыць вячэрняя зара.

З па-за фабрычных камiноў
Кацiўся месяц серабрысты;
На тле кароны цемналiстай
Гарэлi свечкi каштаноў.
I водар iх,
як веснi чад,
Плыў да мяне праз шпары крат,
Як ясны цень юнацкiх мар.
Як бляск далёкiх iдэалаў,
Перада мною твар у твар
Жанчыны летуцень стаяла.
Я адчуваў яе дыханне,
Яе хвалюючы пагляд.
I чарам першага кахання
Павеяла з-за крат.
Як шэпат нiў, як шум дубровы,
Знаёмы галасок яе:
— Скажы, чаму ты так суровы?
Чаму не любiш ты мяне?
Здалёк аднекуль з-за палёў,
Дзе край нябёс з зямлёю злiўся,
Як быццам плачам кулiкоў,
Ўспамiн далёкi пракацiўся.
I я сказаў тады вясне:
— Не для мяне...
Ад пут нашу крывавы знак.
Клянуся я табе сумленнем,
Што радасць вып’ю ўсю да дна,
Ды толькi ў новым пакаленнi.
Не можа крыўды той забыць,
Хто сам другiх не мог пакрыўдзiць,
Не можа той ужо любiць,
Хто раз пасмее ненавiдзець.
Пакiнь... Ты бачыш: я стаю
На алтары народнага змагання.
Спалiў я моладасць сваю
I з ёй, вясна, тваё каханне.
Заходзiць кат ўбiваць свой цвiк.
Вясна схiлiлася на грудзi.
А я да крат плячом прынiк,
Глядзеў на неба i марудзiў.
З нябёс далёкiх палатна

Звязда бясшэлестна апала.
Праз шпары крат турэмнага акна
Мяне вясна пацалавала.

## НЕ РАЗ, НЕ ДВА ЎЖО ПРЫСЯГАЎ

Не раз, не два ўжо прысягаў
Я перад геніем маўчання,
Калі ў душы перамагаў
Спакой над гневам і адчаем,
Што болей слова не прамоўлю
Пра здзек, дапушчаны багамі.
Няхай акупленая кроўю
Святыня топчацца нагамі,
Няхай бясчэсцяць іншаверцы
Майго народа алтары,—
Я супакою сваё сэрца
І буду лепшай ждаць пары.

Не раз, не два ламаў з размаху
Канон, пастаўлены сабой,
Гатоў пайсці ляпей на плаху,
Як вол ахвярны на убой,
Чым тлець паволі на вуголлі
Стыдом згараўшага сумлення,
Гнаіці дух ў сырым падполлі,
Маўчаць, чакаць з нябёс збаўлення.
Чакаць патолі безгалосна,
Калі так хочацца рыдаць,
Рукам ахвота волю даць...

О не! зацяжка, занязносна.
Ўставаў, штосілы біў трывогу
Ў набатны несціханы звон.
Хоць кляў багоў — маліўся Богу,
Калі напраўду ёсць дзе ён.
На ўсё, што людскае пад небам,
Яго прасіўшы, заклінаў:
— Паглянь на наш пакутны жрэбій
І дай мне ў рукі перуна, —

Прытон драпежнікаў я знішчу,
Адпомшчу крыўду нашу злую
І на гарачым папялішчы
Хоць камень родны пацалую.

## КУДЫ НІ ГЛЯНЬ — КРУГОМ ЗАСТОЙ

Куды ісці? і што рабіць?
*М. Багдановіч*

Куды ні глянь — кругом застой
І скрозь павольнае кананне.
Падзеяў цень над галавой
Звісае знакам запытання:
Куды падзецца? што рабіць?
І што пачаць? з якога боку?
І чым ударыць, як прабіць
Халодны змрок над Беластокам?
На плынь грамадскага жыцця
Гляджу з пануравю тугою.
Няма былога пачуцця.
На ўсім, што сэрцу дарагое,
Ляжыць мінуўшчыны пячаць.
Замёр акорд, астыў, разбіты,
І струны звонкія маўчаць,
Іржой бяздзеяння пакрыты.

Бягуць гады... і пыл сядае
Бяльмом на нашай палатніне;
Задор і вера маладая
Дрыжыць, сціраецца і гіне.
Плывуць гады.
Злятае час.
Гарэў агонь —
агонь пагас...
Маўчыць злавешчая пячаць
Магільных пліт...
І сум, і жаль, і боль, і стыд.
Бо ўсе «жывуць», і ўсе маўчаць.
Ці й мне дапальваці агонь

Сваіх надзей?
І над труной разбітых сіл
Паставіць прымірэння пліту?
Ці мне ісці сярод магіл
Шукаць жывых яшчэ людзей
І кідаць кліч у змрок нябыту?
У кім гарыць хоць іскра веры
Ў святую праўду нашых мэт,
Хто гонар свой не звонам мерыць
Здабытых здрадаю манет, —
Займі пакінутае месца!
Не нам вяртацца з паўдарогі.
Хай зноў над намі разаўецца
Сцяг нашай пэўнай перамогі.

*Лістапад 1937 г.*
*Беласток*

## З ВОПЫТАЎ

Вучы другіх і сам вучыся,
Як жыць з навучаным — з табой.
Глядзі, мой дружа, сцеражыся,
Бо можаш трапіць на убой.

Хоць дужы ты, не знаеш страху,
Ўсяму і ўсім даеш адпор.
Не ляж, глядзі, цяпер на плаху —
Над плахай ўзнесены тапор.

Цябе не выдасць ўласны розум,
Ды выдасць друг, калі ён раб.
Глядзі ж на рэчы, брат, цвяроза,
Глядзі, каб часам не аслаб.

Ты з рабствам кінуўся змагацца,
Ў няволю сам не пападзі.
Ты перастаў судоў баяцца —
Бярыся сам другіх судзіць.

Аднак не будзь залішне горды,
Спусці на тон і заключы,

Што, першу скрыпку ведучы,
Ты мусіш знаць усе акорды.

*3 лютага 1939 г.*
*Беласток*

## ДУМКІ

Ночка цёмным пакрывалам
Мне акно завесіла.
Ў хаце холад (дроў замала),
На душы нявесела.
Мо паесці? Што ж і трэба,
Думка — не гарэзія.
Сеў, падумаў. (Скуль ўзяць хлеба?)
Эх, жыццё — паэзія.
Цяжка й дарма. Але веру —
Возьмеш цябе прозаю.
Стаў пісаць (няма паперы) —
Думкі нецвярозыя.
Ёсць кавалак (з сінім штампам),
Стоп. Тут штось знаёмае.
Стаў чытаць. (Пагасла лямпа.)
Справа трыццаць сёмая.
Слініць дождж. На панадворку
Ноч ў гразі палошчацца.
Закурыць (была б махорка)
Неяк надта хочацца.
Ператрос усе кішэні,
Ціха, назбіраецца!
Пацягнуў (адны карэнні) —
Чад клубком гушкаецца.
Сыплюць думкі, сыплюць мроі
Іскаркі з-пад крэсіва.
Прыйдзе час (і мы героі!),
Ну й гульнём жа весела.

*1936 г.*
*Беласток*

## МЫ ЗАБЫЛІ, ШТО МОЖНА ЛЮБІЦЬ

Мы забылі, што можна любіць.
Эх, ты, моладасць наша суровая!
Але сёння ужо так і быць
Пацалую цябе, чарнабровая.
Не судзі мяне, хто малады,
Правы сэрца не намі напісаны.
На вясне пачынаюць сады
Разгарацца ружовымі вішнямі.
Дык хай будзе, што мае ўжо быць,
Покуль вішня красы не асыпала,
Покуль кроў маладая дыміць,
Я люблю.
Не магу не любіць,
Бачна, доля такая мне выпала.

*1940 г.*

## ПЕРАСТАНЬ!

Ой ты, галубанька, дзеванька мілая,
Што ж так глядзіш на мяне?
Ведай, ў грудзёх у мяне баязлівае
Сэрца калышацца ў сне.

Ведай, што чорныя вочы дзявочыя
Могуць яго разбудзіць;
Буду ўздыхаць па іх кожнае ночы я.
Ах, перастань!.. Не глядзі!

Веюць далёкія ясныя марывы,
Сыплюць чароўныя сны,
Моладасць буйная ў струны ударыла
Песню разгульнай вясны.

Муціць вячэрнюю цішу навокала,
Звонячы ў сталь, маладзік.
Ах ты, навеяна здань чарнавокая!
Стой! Пашка дуй, не глядзі!

Рокаты лірныя сэрца напоўнілі,
Хочацца жыць і любіць.
Ўсё, што забылася, вочы прыпомнілі,
Іх мне ужо не забыць.

Чую ўжо, ведаю, буду няшчасны я
Следам за шчасцем хадзіць
З ціхай малітваю: — Зорачка ясная,
Выйдзі ка мне, паглядзі!

## ВАЙНА

Сарвалася лавінай жалезнаю,
Закруцілася бурай шалёнаю,
Разлілася стыхіяй бязмежнаю,
Саранчою апала зялёнаю.
Застагналі палі пад калёсамі,
Задрыжала зямля пад ударамі,
Узвіліся дымы пад нябёсамі,
Старана засвяціла пажарамі.
Свет напоўнены грукатам, рокатам,
Бабы носяцца проставалосыя,
Людзі падаюць, коцяцца покатам,
Быццам тая травіца пад косамі.

## КІПІЦЬ БЯСКОНЦАЯ ЧАРГА

Кіпіць бясконцая чарга.
Народ шуміць каля пякарні.
Дзяржуся месца як мага,
Ды ўсе тут высілкі намарна.
Скруцілі, сціснулі ў клубок,
Напёрлі, ухнулі, рванулі,
А потым, чую, распранулі
І раптам выкінулі ўбок.
Стаю, апёршыся на плот,
Кругі плывуць перад вачамі,

На лоб халодны выйшаў пот,
Марозам сыпле за плячамі.
А там раве, а там клякоча,
Як ў віры чорная вада, —
Адзін другога з'есці хоча,
Адно глядзець бярэ жуда.
Вішчаць кабеты, плачуць дзеці.
Мужчыны лаюцца на смерць.
Ото ж пайшла бяда па свеце!
Жахліва слухаць і глядзець.
І гэтых пару нейкіх грам
Дастаць на пашпарт не даецца.
А колькі тут панурых драм!
Там баба з бабаю ўжо б'ецца...
Адна другой у валасы,
Як ведзьма ў фурыю, ўпілася,
І ўміг з жаночае красы
Адна брыдота засталася.
Там лезе бабаю-ягой
Бабуля сівая, старая,
Ў руцэ паперы, а ў другой
Кіёк бярозавы трымае.
Дзядок старэнькі, як грыбок,
Жартуе з ласкаю старэчай:
— Ага?.. Што кажаш, галубок?
Мацней, не чую, чалавеча...
— І ты, кажу, за доўгі век
Яшчэ, гаворыш, не пад'ела?
— Як бачыш, добры чалавек,
Спяшала нават — не паспела.
Жыву далёка. Колькі йсці!
А што, гаворыш, расхваталі?
Людцы, маглі б мяне пусціць,
Старую б вы паратавалі...
Ды просьбу бабкі заглушыў
Пякельны лямант нейкай дамы:
— Ратуйце, людзі, задушыў!
Куды на галаў лезеш, хаме?
— Дзе лезеш, ведзьма?
Затрымаць! —
Бабулька ўжо ляжыць на бруку.
А хтось, падбегшы падымаць,

Найшоў паломаную руку.
— За што вы мой старэчы век?..
Мае праўнукі ўжо служаць...
Вады мне, добры чалавек...
Мне свет вось так-такі і кружыць...
Схадзі да ўнучкі, добрым будзь...
А дзе ж мой пашпарт? Ох, згубіла...
Скажы ёй, толькі не забудзь...
А што сказаць — навек забыла.

* * *

...правізарычным бурмістрам
горада Беластока назначаю...

*З абвесткі*

Ты быў Лукашык, я — Крывец,
І мы калісь з табой дружылі.
Ды ў кожнай дружбе ёсць канец,
Чаго б ў яе мы ні ўлажылі.
І каб тады ты быў пагіб,
Я быў бы рад такому лёсу:
Прынамсі, гэты перагіб
Табе зрабіць не давялося б,
Прынамсі б, цень яго не лёг
На нашай дружбы успамінах,
І я з заблытаных дарог,
Пайшоўшы простай каляінай,
Данёс бы светлы вобраз твой,
Яшчэ не кранут ганьбы пылам,
Ў старонкі памяці жывой,
Як сказ пра нашага Ахіла.
Ды не дабіў цябе абух
Тупой нянавісці палякаў.
І я, як твой адзіны друг,
Тваё канчыны не аплакаў.
Паміма ўсё — астаўся жыць
І толькі тым сябе запляміў.
Цяпер няможна даражыць
І нашай прошласці вуглямі.

Ты мне закінеш не адно,
А я табе адно закіну:
Хоць мы спаткаліся й даўно —
Я знаў цябе напалавіну.
І я мыліўся, прызнаюся,
За што сумленне і грызе,
Бо думаў, што на Беларусі
Не будзе гетманаў мазеп.
Ў імя якіх такіх надзей,
Для мэт якіх, з якой прычыны
Ты сэрца выхапіў з грудзей
І кінуў камнем у Айчыну?
Адказвай ты мне, ўражы сын,
Каторым збітым афарызмам
Апраўдваць будзеш подлы чын
Свайго згібання прад фашызмам?
Каму, за што пайшоў служыць?
За штэмпель здрадніка на лобе?
Ну, сам падумай і скажы,
За што ты сам сябе угробіў?
Ты скажаш: цяжка разумець
Тваё высокае прызванне.
Сказаць не штука, трэба мець
Яшчэ у тым перакананне.
Ў цябе яго якраз няма,
Затое ёсць пустая дурасць.
І гэты твой самаабман —
Даволі нізкая натура.
Я сам яшчэ зусім не волен
Ад пэўных дробных перасудаў.
Я сам быў многім недаволен,
Утойваць гэтага не буду.
Я сам занадта чалавек,
Каб ўсё прымаць халаднакроўна,
Што нам дае дваццаты век,
І мне далёка не ўсё роўна
Глядзець на будні нашых дзён,
На светлым фоне бачыць цені
Перастарэўшага сумлення
Яшчэ не новых грамадзян.
Ды я пачуў сябе іначай,

Калі успомню пра адно:
Пры сонцы цені нам відно,
А ноччу й ценяў мы не бачым.
І я, блудзіўшы столькі лет
Па сцежках нашага народа,
У першы раз пабачыў свет
Пад сцягам ленінскай свабоды.
Таму умею даражыць
Я гэтым сцягам нашай волі,
І покуль толькі буду жыць,
Яго бясчэсціць не дазволю.
Ты мне гаворыш: — Наш народ
Іначай радасць сваю мерыць.
Народ трэ ведаць напярод,
А потым толькі ў яго верыць.
А ты ж не знаў свяшчэнных мук
Душы народнай пазнавання,—
Ў цябе «народ» — парожні гук
Іржавых струн без хвалявання.
І першы ты, як помніш сам,
Сказаў аднойчы мне даслоўна:
— Чаго хацець беларусам?
Ратунак тут наш, безумоўна.
Тым больш ў гадзіну злых падзей
Дзіўлюся я тваім паглядам.
Ды хто пачаў як ліцадзей —
У рэшце рэшт канчае гадам.
Як смееш ты сябе назваць
Яго настрояў віртуозам?
Народу, знаеш, напляваць
На кракадзілавыя слёзы.
Зірні з вышынь пустога «я»,
Паглянь, што робіцца навокал.
Дарожка кончыцца твая
Адсюль ўсяго за пару крокаў.
Тваёй пятою — твой азарт —
Шалёны выбрык самалюба.
Ў тваёй пустыні твая згуба,
Калі не вернешся назад.
І дзе твой зрок, і дзе твой слух?
Чаго ты жджэш, аб чым ты марыш?

Бывай!
Я больш табе не друг,
Ад сёння ты мне не таварыш.

*Ліпень 1942 г.*
*Беласток*

## СПАКОН ВЯКОЎ ПЯЕ НАРОД

Ў жыцці ёсць многа злых хвілін.
Ды ў гэты час, у гэту пору
Народных песень і былін
Краса нам служыць за апору.
Бывае так — слабеюць сілы,
Зрок засцілаецца туманам
І з-за найбліжшага кургана
Павее холадам магілы.
Хіснецца дух. І вось здаецца —
Апошня іскра дагарае,
І толькі з вуснаў шэпт сарвецца:
«Сябры, бывайце!.. Уміраю...»
А вып’еш коўш заветнай брагі —
Ты зноў гатоў, як волат ў байцы,
З несакрушальнаю адвагай
Ісці у бой далей змагацца.
Спакон вякоў пяе народ,
І песні б’юць жывой крыніцай.
Мы плыні тых крыштальных вод
Спяшым з прыемнасцю напіцца.
З грамадскіх сходзячы дарог,
Мы часта йдзём у цень дубровы
Грудзьмі прылегчы на мурог
І чэрпаць з гукаў роднай мовы
Нектар жывога пачуцця:
Па з’явах ў люстры гэтых водаў
Знаходзіць шлях свайго народа
Ў віры спрадвечнага жыцця.
Спакон вякоў пяе народ,
І песні льюцца, быццам рэкі.
Ў іх быт прастога чалавека
Адбіўся, быццам небазвод.

Якія ж гамы тут настрояў
Плывуць ў размер народных дум!
То сыплюць краскі ясных мрояў,
То вераснёвы ціхі сум,
То з восеньскага паднябесся
Крык развітальны жураўлёў,
То з сенажацяў і палёў
Сталёвых кос праравецца песняй.
Там хмары восені дажджлівай,
Там сонца летняе гарыць,
Там льецца золата зары,
Вясны разгульнай і шчаслівай.
Калыша маці свайго сына,
Шчабеча ў садзе салавей,
Над рэчкай журыцца дзяўчына,
Лябёдка ў завадзі плыве,
Кукуе сівая зязюля,
Матуля сына выпраўляе,
Сіротка тужыць за матуляй
І з буйным ветрам размаўляе.
Сядае плытнік за вячэру,
Памёр чумак здалёк ад хаты,
А недзе б'ецца дзікім зверам
Юнак, закінуты за краты.
Сіротка плача над магілай,
Сумуе дуб сярод палёў,
Ў кургане спіць герой-асілак
Са знакам чорных мазалёў.
А песні, песні аб прыгоне!
Хто чуў іх раз, той не забудзе:
Здаецца, стогнуць ўжо не людзі,
А ўся зямля, здаецца, стогне.
Фальклор, фальклор, душа народа!
Люблю размах тваіх шырот.
Люблю парою веснаходу
З берагавых тваіх высот
Глядзець, як трэскаюць аковы
На лоне роднае ракі.
Здарова, брацця мужыкі!
Смялей, смялей, народ вясковы!
А як прыемна ў гэты час,
Свой вутлы выцягнуўшы човен,

Пусціцца ў ім з патокам мас
Па зыбкім пеністым узроўні.
Лячу стралою ўздоўж русла,
Ўваччу наўкол усё віруе,
Абломкам старага вясла
Дзе-недзе толькі пакірую.
Ізноў кірунак, як струна,
Ляжыць да першага загібу.
Не трэба ветразі й стырна.
Мне ведам шлях радзімых глыбяў.
Мільгаюць — лес, даліны, горы,
А горды човен мой імчыць.
І вось я бачу тое мора,
Дзе ўсе сцякаюцца руччы.

*10 кастрычніка 1942 г.*
*Беласток*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор ШЫРМА*

## СЯРГЕЙ КРЫВЕЦ

Замест вянка на далёкую магілу
ў ратным полі

Са зброяй у руках загінуў на фронце малады паэт Сяргей Крывец. <...> Імя гэтага незвычайна сціплага, але высокаталенавітага паэта мала хто ведае. Сабраная пасля яго смерці літаратурная спадчына дае пэўнае паняцце аб тым, які гэта быў цудоўны, востры і моцны талент. Сяргей Крывец быў паэтам-грамадзянінам, які заўсёды з запалам выступаў супраць тых, хто нясе няволю народам, хто творыць гвалты над светам.

Калі напаўфашыстоўская панская Польшча ўстанавіла на захопленых землях Заходняй Беларусі свой жорсткі паліцэйскі рэжым і, здавалася, жандарскім штыком загарадзіла ўсе шляхі да свабоды і незалежнасці, паэт адважна ставіў недвухзначнае пытанне:

Чаму загналі нас ў тупік,
Чаму забілі вокны, дзверы?
І што такое панскі шпік
Для рук ад плуга і сякеры?

Гэта была пара цёмнай рэакцыі і нарастання фашызму ў Еўропе. Гэта была пара «сондув даразьных» — палявых судоў — над членамі падпольных арганізацый Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі — партыі, якая па-сапраўднаму вяла барацьбу з фашызмам і абараняла працоўныя масы ад панскай кабалы і гвалту. Гэта была пара, калі, па словах паэта,

І нашы горныя палёты,
Як камень, коцяцца з гары
Ў зыбун мяшчанскага балота...

Але так жыць або пайсці на ўгоду і канчаць жыццё «подлым чалавекам» — вялікая ганьба. Жывая палымяная думка паэта падказвае:

За міг адзіны людскай волі
Аддай няволі сто гадоў...

Годнасць чалавека і чулае сумленне не дазваляюць яму спакойна глядзець на таптанне самых элементарных правоў народа, разам з якім паэт ішоў цярністымі шляхамі:

Мы пад плотам начавалі,
Ласкі не прасілі.
Нас ганялі-бічавалі,
Запрашалі-білі.
Абдзіралі нас да ніткі,
У ярмо ўпрагалі,
Адабраўшы ўсе набыткі,
Горам надзялялі.

Творчая думка паэта палыхае спапяляючай нянавісцю да ворага, які не толькі трымаў народ у няволі, але ў сваім палітычным крэда запісаў ужо страшны прысуд: эканамічнае закабаленне, паніжэнне да «комплексу нізшосьці» і поўнае знішчэнне беларускага народа на забраных землях.

Глыбокая вера ў народ не пакідае паэта. У мінуты найвялікшага разгулу рэакцыі ён кідае ў твар панам:

Народ жыве і будзе жыць,
Не змусіць нас панам служыць.

Яго паэзія, шчодра перасыпаная афарызмамі, не знала друкарскага станка. Яна жыла і пашыралася ў рукапісах сярод беларусаў — рабочых і сялян Беласточчыны.

...Цудоўная наднёманская прырода з дрымучымі, у сакавітай зеляніне лясамі, якія зліваюцца з масівамі Налібоцкай і Рудніцкай пушчаў, узгадвала светлую музу паэта. Срабрысты Нёман звонам крынічнай вады ў сваіх пясчаных берагах пяшчотна баюкаў маладую дзіцячую душу, аж пакуль ваенная хваля ў 1915 годзе не змыла і не выкінула з родных наднёманскіх берагоў сялянскую масу, разам з якою вынесла і будучага паэта аж у Саратаўскую губерню.

Нарадзіўся Сяргей Крывец у 1909 годзе. <...> Гадаваўся без бацькі. Матка жыла вельмі бедна, часта выязджала на працу далёка ад дому і пакідала дзяцей пад апекай сямідзесяцігадовага дзеда. Дзед Сымон, па вулічнай мянушцы Табала, на той час быў чалавек «вучоны», знаў цану грамаце. Ён жа і навучыў шасцігадовага ўнука чытаць па-беларуску з нейкага календара. А праз год хлапчук добра чытаў славянскія і рускія кнігі. Калі пайшоў у школу, захапляўся маляваннем і выказаў у гэтым пэўныя здольнасці. За свае малюнкі часта атрымліваў ад на-

стаўнікаў падарункі. Аднойчы, калі ён намаляваў вёску, а ў ёй царкву, школу і дарогу праз поле, па якой ён хадзіў у школу, то за гэта атрымаў каляровыя алоўкі. Якая ж гэта была радасць для сялянскага хлопчыка!

Вярнуўшыся з нямецкага палону, гаспадар, у якога жылі на кватэры дзед з унукамі, выкінуў на сметнік сваю бібліятэку. Сяргей адразу дабраўся туды і добрую палову перацягнуў да сябе ў хату. Гэта былі ўсялякія «Жыцця святых», брашуры рэлігійнага зместу. Гэтая літаратура, як пабачым далей, зрабіла свой уплыў на ўражлівую дзіцячую душу.

У 1921 годзе памёр дзед. Матка з хлопчыкамі вярнулася на бацькаўшчыну, якая апынулася ў межах панскай Польшчы. Умовы жыцця маткі з двума дзяцьмі былі жудасныя: ні страхі над галавой, ні працы, ні хлеба. Зіма 1921 года была галодная і халодная. На вясну 1922 года матка ўладкавала хлапцоў пастушкамі, каб толькі пракарміцца. Увосень, вярнуўшыся да маткі, Сяргей прачуў пра Жыровіцкі манастыр. Будучы пад уплывам рэлігійных кніжак, хлапчук падаўся туды. Брат правёў яго далёка за вёску, а вярнуўшыся дадому, ён з маткай доўга плакаў.

Аднак, як кажуць, свет не без добрых людзей. Сяргея сустрэў сердабольны інак-манах, які пазнаёміў яго з манастырскім жыццём, расказаў, якія там людзі і чаго яны сабраліся. Сяргей адчуў, што не знойдзе ў манастыры ні праўды, ні навукі, і праз пару тыдняў, напляваўшы на ўсякае боства, прыйшоў дамоў і распарадзіўся з рэлігійнымі кніжкамі, як той гаспадар, вярнуўшыся з палону.

Дома зноў быў змушаны батрачыць. Але і ў гэты час ніколі не расставаўся з кніжкамі. Пачаў пісаць вершы, якія друкаваў у дзіцячым часопісе «Заранка» пад псеўданімам Сярожа-пастушок.

У 1925 годзе бурна вырастаюць на вёсках гурткі Рабоча-сялянскай грамады і Таварыства беларускай школы. Сяргея, нягледзячы на яго маладыя гады, выбіраюць сакратаром гуртка ТБШ. У гэты час ён захапляецца творамі Якуба Коласа, чытае «Сымона-музыку». Можа, яшчэ падсвядома, але ўжо адчувае, што ва ўмовах капіталістычнага ладу народным талентам няма шляхоў да развіцця. Сяргей пачынае пісаць бунтарскія вершы злабадзённага напрамку.

У нас ёсць розум, у нашых жылах
Кіпіць збунтованая кроў, —

прызнаецца ён і, як рыба, трапіўшая ў сеці, зноў некуды імкнецца, шукае шляхоў. Паспрабаваў перайсці за мяжу ў Савецкую Беларусь, але ў Стоўбцах быў затрыманы паліцыяй і па этапу накіраваны дамоў. З той пары, дзе б ён ні быў, заўсёды адчуваў над сабою апеку паліцыі.

У панскай Польшчы, ва ўмовах нацыяналістычнага чаду і фанатычнага рэлігійнага сярэднявечча, дапытліваму, але не выпрабаванаму ў жыцці юнаку цяжка было знайсці адразу сапраўдны шлях. Пазней аб гэтым сам паэт іранічна напіша: «Ніяк не мог на грунт напасці».

Перабраўшыся ў 1929 годзе з вёскі ў сяло Дубна над Нёманам, Сяргей Крывец вучыцца сталярнаму рамяству, ходзіць цесляром, будуе дамы і не расстаецца з кніжкамі, як і ў пастушыя свае гады, выпісвае прагрэсіўныя беларускія і польскія газеты і часопісы. Гэты незвычайны цясляр у дасканаласці вывучае рускую і польскую мовы. А калі пачаў вывучаць нямецкую, то на пытанне брата, нашто яму здалася гэтая мова, ён адказаў: «Хачу ў арыгінале прачытаць Гётэ і Шылера». Але ён не толькі чытаў, у яго рукапісах захаваліся вершы, напісаныя ім на рускай, польскай і нямецкай мовах.

Малады паэт дасканала ведаў жыццё беларускай вёскі: нечаканыя начныя арышты з вобыскамі і кайданамі («Аднойчы»), панскія падаткі з секвестратарамі, якія забіралі апошні набытак («З асенніх матываў»), мары аб хлебе для галодных дзяцей («Мроі катаржаніна») і сум маладосці, якая не бачыць прасвету «ў баразёнцы чужой паласы», якая змушана батрачыць або ў панскім маёнтку, або на кулацкім хутары.

У 1930 годзе Сяргей Крывец разам з братам пакінулі Дубну, «пайшлі, куды вочы нясуць». Праз два дні апынуліся ў горадзе Гродна. Тут, ім здавалася, хутчэй можна знайсці працу, чым у згалелай вёсцы. Але і ў горадзе следам за імі крочыла злая доля беспрацоўнага.

З багатым жыццёвым дасведчаннем, з глыбокімі назіраннямі чулай душы паэт асеў у Беластоку, дзе сутыкаецца з моцнай рабочай праслойкай. Там ён прымае ўдзел у рэвалюцыйным руху і там, як і іншыя паэты Заходняй Беларусі, не мінае астрога.

Сяргей Крывец ведаў літаратуру і любіў яе. Прыемна было весці з ім бяседы на літаратурныя тэмы, чытаць жывыя, вострасатырычныя яго апавяданні. Бывала, цэлымі начамі мы хадзілі па ўскраінах Беластока і ў бяседах пра Горкага і Чэхава, пра Пушкіна і Міцкевіча, пра Купалу і Коласа, пра савецкую і заходнееўрапейскую літаратуры не заўважалі, калі «ўсход разгараўся пурпурнай палоскай». Гэты рабочы з асветай за два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную эрудыцыю.

Беластоцкі перыяд свайго жыцця паэтам адлюстраваны ў такіх вершах, як «Восень песню мне парвала», «Не раз, не два ўжо прысягаў», «Мы жывём», «Праз шпары крат» і іншыя, дзе так многа людскога болю за народ, нянавісці да ворага, радасці і суму першага юнацкага кахання, абуджанага «прывідам» жанчыны за астрожнаю сцяною.

Праз шпары крат турэмнага акна
Мяне вясна пацалавала! —

піша Сяргей Крывец аб гэтым першым подыху вясновай пары ў жыцці маладога паэта, пакліканага будзіць народ і служыць народу. Яскравы вобраз беспрасветнага пралетарскага жыцця ва ўмовах капіталістычнага ладу дае паэт у вершах «Думы безработнага», «Другім будуеш камяніцы», «Крызіс».

Адсюль нараджаюцца самі сабой бунтарскія настроі, адсюль вырываецца з душы заклік да тых,

У кім не гасне іскра веры
Ў святую праўду нашых мэт,
Хто гонар свой не звонам мерыць
Здабытых здрадаю манет, —

каб заняць месца таварышаў, што загінулі ў барацьбе за свабоднае шчаслівае жыццё.

Калі сёння перачытваеш гнеўныя вершы Крыўца, здаецца, зноў ідзеш з вялікаю асцярогаю па вуліцах панскага горада, насычанага жандарамі ды сышчыкамі ў загнутых на лбе капелюшах.

А як шчыра, з якім чулым шчаслівым хваляваннем разам з беларускім народам вітаў паэт прыход Чырвонай Арміі ў верасні 1939 года:

Да нас зляцеў чырвоны вырай,
Ўсе йшлі вітаць жаданых птахаў.
Усе уцешыліся шчыра,
І я ад радасці заплакаў.

<…> У 1940 годзе ён з поспехам здаў экзамены ў педагагічны інстытут, дзе вучыўся да вераломнага нападу фашыстаў на Савецкі Саюз.

Апынуўшыся са старою маткаю ў акупацыі, ён гнеўна бічуе сваім сапраўды «железным стихом» прыспешнікаў ворага, якім хацелася апраўдаць «подлы чын свайго згібання прад фашызмам». <…>

У 1944 годзе, пасля вызвалення Беластока, Сяргей Крывец уступае ў рады Савецкай Арміі. У прыфрантавой газеце «Боевые резервы» было паведамлена, што падчас мітынгу, напярэдадні Дня Канстытуцыі, 4 снежня 1944 года паэт пакляўся не выпускаць зброі з рук, не шкадаваць і самога жыцця, пакуль над Берлінам не запалошчацца сцяг Перамогі.

Але яму так і не давялося дачакацца гэтага светлага дня Перамогі над Германіяй. У красавіку 1945 года падчас штурму Гдыні яму адарвала нагу нямецкім снарадам, а 28 красавіка ён памёр.

Беларуская паэзія панесла вялікую страту. Абарвалася жыццё паэта-самародка. <…>.

*Юрка ГОЛУБ*

# ДОЛЯ ТАКАЯ ВЫПАЛА…

## I

Ён памёр у шпіталі 28 красавіка 1945-га пасля таго, як напярэдадні пры штурме Гдыні яму варожым снарадам адарвала нагу. За лічаныя гадзіны да найблізкай Перамогі. А жыць мог бы яшчэ і сёння, бо родам з тысяча дзевяцьсот дзевятага... І гэта ён амаль шэсцьдзесят гадоў таму пісаў у Беластоку:

Мы забылі, што можна любіць.
Эх, ты, моладасць наша суровая!
Але сёння ужо так і быць,
Пацалую цябе, чарнабровая.
Не судзі мяне, хто малады,
Правы сэрца не намі напісаны.
На вясне пачынаюць сады
Разгарацца ружовымі вішнямі.
Дык хай будзе, што мае ўжо быць,
Покуль вішня красы не асыпала,
Покуль кроў маладая дыміць,
Я люблю.
Не магу не любіць,
Бачна, доля такая мне выпала.

Калі да мяне наноў вяртаюцца гэтыя Крыўцовы радкі, тады дастаю з нязменнай шуфляды магнітафонную стужку, і з яе гучыць непаўторны окаючы голас Рыгора Раманавіча Шырмы, сябра паэтавай маладосці. Запісу, зробленаму ў свой час у кабінеце гаспадара ў Саюзе кампазітараў, амаль трыццаць...

«Сяргей Крывец ведаў літаратуру і любіў яе. Прыемна было весці з ім бяседы на літаратурныя тэмы, чытаць жывыя, вострасатырычныя яго апавяданні. Бывала, цэлымі начамі мы хадзілі па ўскраінах Беластока і ў бяседах пра Горкага і Чэхава, пра Пушкіна і Міцкевіча, пра Купалу і Коласа, пра савецкую і заходнееўрапейскую літаратуры не заўважалі, калі «ўсход разгарэўся пурпурнай палоскай». Гэты рабочы з асветай за два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную эрудыцыю».

Але ж, каб дапясці да названай нацыянальным патрыярхам эрудыцыі, С. Крыўцу давялося, як і ахвярным ягоным сучаснікам, напоўніцу паспытаць і холаду, і голаду, і скрухі. Пасля ўжо знойдуцца юнацкія

вершы, напісаныя на крэўнай, а таксама на рускай, польскай і нямецкай мовах!

А пакуль што...

Гадаваўся без бацькі пад апекай дзеда Сымона, які і прыхінуў унука да роднай граматы з выпадковага беларускага календара. Першая сусветная вынесла землякоў ажно ў Саратаўскую губерню, адкуль дзеду ўжо не суджана было вярнуцца. А Сяргея і малодшага сына маці прывезла пад голае неба бацькаўшчыны — на здзек і бясхлебіцу. Давялося, каб неяк пракарміцца, батрачыць, хадзіць за чужым быдлам, намацваючы ў зрэбнай торбачцы сякое-такое, але запаветнае кніжаня. Тады ж, пэўна, і пачынаўся «Сярожа-пастушок» з віленскага дзіцячага часопіса «Заранка», дзе значна пазней выступіў са сваімі першымі кволымі, як вясновыя жаўрукі над пашай, радкамі. Сакратар тадышняга мясцовага гуртка Таварыства беларускай школы, цясляр ля акоранага бервяна, вясковы знаўца, ён прагнуў жыцця і ведаў. І далейшыя сцежкі прывялі недзе ў 30-м годзе спачатку ў Гродна, а потым у Беласток. А следам ішлі і вярэдзілі неўтаймаваны розум новыя выпрабаванні беспрацоўя, занозныя паэтычныя радкі:

Хваліцца мы не маем чым,
Маўчаць нам грэх перад народам,
Аднак упарта мы маўчым,
Як рэкі бурныя над лёдам.
І што, браты, за шчасце ў нас?
І што за лёс такі ганебны?
Ці то на ўсё патрэбны час?
Ці, можа, лепшы час патрэбны?

І абставіны, і нясцерпныя думкі пра лёс народа сапраўды надавалі паэту сіл і гарту, клікалі да дзеяння, што і прывяло да турэмных нараў. Але і гэта не перашкодзіла яму ў чэрвені 1937 года ўсклікнуць: «Наша песня недапета. Мы жывём і будзем жыць!» Можна беспамылкова сказаць, што на грунце вось такіх сцвярджальных радкоў з’яўляліся і наступныя вершы С. Крыўца, напісаныя пры тымчасовым санацыйным рэжыме: «Куды ні глянь — кругом застой» (лістапад 1937 г.), «Да нас выйдзі» (16 сакавіка 1938 г.), «Народ у трагедыі вялікі» (25 ліпеня 1938 г.) і іншыя. У іх знаходзяцца і непахісная рашучасць маладога змагара «Біцца так гатоў даўно я, я ж тутэйшы, беларус!»), і спакусная надзея-сцвярджэнне («Сонца ўстане і застане Беларусь жывою!»).

Непрацяглымі сталіся вызвольныя для Заходняй Беларусі і (вядома ж!) для С. Крыўца дні, калі ён нанова адчуў, як «свеціць ласкай незямною майго народа ўзрок глыбокі». Бо нечуваная дасюль вайна «сарвалася лавінай жалезнаю, закруцілася бурай шалёнаю...». Па волі

трагічных падзей з першых яе дзён С. Крывец разам з нямоглай маці апынуўся пад нямецкай акупацыяй. Але яго бескампрамісная натура не дазваляла маўчаць: не трывала, абуралася, ненавідзела. І тады рука бралася за гнеўнае пяро.

Памятаецца, як недзе ўлетку 1966-га ў палымянскім памяшканні былы франтавік галоўны рэдактар «Дня паэзіі–67» Анатоль Вялюгін з узнятай угору скалечанай на вайне рукой узрушана цытаваў прысутным Крыўцову «Эпіграму» на аднаго з фашысцкіх прыхвасняў:

На смех курам, на здзекі гусям
Якісьці доктар, сукін сын,
Адсюль заехаўшы ў Берлін,
Малюе карту Беларусі.

І пасля чытання пытаўся: «Пазналі?.. І калі вы, хлопцы, думаеце напісана?» І сам жа адказваў: «Сяргеем Крыўцом 10 кастрычніка 1942 года ў акупіраваным Беластоку». І дадаваў: «Максім Танк з Рыгорам Шырмам перадалі для «Дня паэзіі».

Можна было б яшчэ прыводзіць іншыя і сёння не астылыя радкі паэта, занатаваныя ў той жахлівы і шалёны час. Але хочацца звярнуць увагу на тое, што ратавала і мацавала ў самай сапраўднай безвыходнасці. Вось яно:

Ў жыцці ёсць многа злых хвілін.
Ды ў гэты час, у гэту пору
Народных песень і былін
Краса нам служыць за апору.

*(«Спакон вякоў пяе народ», 10.Х.1942)*

Вось такой красой узгадаваны і знайшоў Сяргей Крывец апірышча ў паэтычным слове. Як вядома, яго першы верш быў надрукаваны ў 1928 годзе ва ўжо згаданым раней віленскім дзіцячым часопісе «Заранка». І пасмяротна ўжо асобныя творы змешчаны ў розныя гады ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем», «Сцягі і паходні», «Крывёю сэрца», «Ростані волі». А ў 1972 годзе выйшла найбольш поўнае выданне паэзіі С. Крыўца «Дубок», уклаў якое і напісаў да яго прадмову Рыгор Шырма, а адрэдагаваў Максім Танк.

## II

Неяк напрыканцы 1971 года на адной з вуліц Гродна сустрэўся мне цяпер ужо, на жаль, нябожчык, былы газетчык, а тады музейны работнік Аляксандр Іванавіч Кіркевіч. Калі ён паміж іншым даведаўся, што рыхтую на тэлестудыі перадачу пра паэта-земляка С. Крыўца, усклікнуў: «А ведаеш, яго малодшы брат Сымон — амаль мой сусед!»

Такое сталася неспадзяванкай — і вось я ў доме нумар сем па вуліцы Друскеніцкай. І хаця дагэтуль бачыў я толькі не лепшым чынам рэпрадуктаваны фотаздымак С. Крыўца, тым не менш падабенства гаспадара да свайго старэйшага брата было відавочным і неаспрэчным. Падобнымі былі рэзка акрэсленыя рысы твару, нерастрачаная чупрына мужчыны, якому ўпрытык да шасцідзесяці. Зусім незбянтэжана, а па-нашаму грунтоўна, з цікавымі згадкамі апавядаў Сымон Міхайлавіч пра братава і сваё маленства, пра круталомныя жыццёвыя пуцявіны, якія заўчасна не пахавала зайздросная ягоная памяць. І зараз застаецца толькі пашкадаваць не занатаваных тады ўспамінаў паэтавага брата.

Дык вось, з таго аповеду вынікала, што С. Крывец нарадзіўся не ў Дубне, як заўсёды паведамляюць адпаведныя даведнікі, слоўнікі, іншыя выданні, а непадалёку, у вёсцы Сухінічы (зараз Мастоўскі раён Гродзенскай вобласці). Гэта выклікала зразумелы інтарэс, а Сымон Міхайлавіч, нібы ў доказ неаспрэчнасці ўласнага паведамлення, разам з нешматлікімі фатаграфіямі брата выняў з шуфляды... пашпарт Сяргея Крыўца! Толькі што сказанае Крыўцом-малодшым адразу пацвердзілася: у пашпартнай графе «час і месца нараджэння» запісана — 1909 г. в. Сухінічы, Гарадзенскі павет.

Вядома, я тут жа з імпэтам запрасіў Сымона Міхайлавіча да ўдзелу ў тэлеперадачы. Яна і прайшла ў эфір, але без удзелу аўтара: якраз недарэчы давялося адбываць вайсковыя зборы. Тая ж сустрэча з Крыўцом-малодшым сталася першай і апошняй: неўзабаве ён адышоў на вечны спачын.

III

І вось праз гады зноў стукаюся ў пафарбаваны дамок па вуліцы Друскеніцкай, 7 з зыркімі кветкамі на падваконні — яркі кантраст бялюткаму снегу ў суседніх гародчыках. Адчыніла дзверы сталага ўзросту мілавідная жанчына — Наталля Сымонаўна Касянчук, пенсіянерка, дачка Сымона Крыўца і, само па сабе, пляменніца Крыўца Сяргея. Пасля знаёмства і непрацяглых пошукаў на стол леглі тыя ж здымкі і пашпарт, якому ні многа, ні мала — пяцьдзесят дзевяць гадоў!

З трапяткой неабходнасцю пагартаем гэтую кніжачку са словам «пашпарт» на пяці мовах на парэпанай вокладцы.

Чытаем:

«Пашпарт

Сапраўдны па 15 сакавіка 1945 года

1. Імя, імя па бацьку, прозвішча — Крывец Сяргей Міхайлавіч

2. Час і месца нараджэння — 1909 г. в. Сухінічы, Гарадзенскі павет

3. Нацыянальнасць — Беларус

4. Подпіс уладальніка пашпарта — [Подпіс]

5. Сацыяльнае становішча — Служачы

6. Адносіны да вайсковай службы — Вайсковаабавязаны

7. Хто выдаў пашпарт — Пашпартны пункт № 3, 1-ае аддзяленне Р-С міліцыі, гор. Беласток, БССР

8. На падставе якіх дакументаў выдан пашпарт — Вайсковы білет № 328. Пашпарт № 1314/30. Даведка з месца працы № 45

Начальнік Р-С міліцыі — [Подпіс]

Начальнік пашпартнага стала — [Подпіс]

Дата выдачы — 15 сакавіка 1940 г.

І-МФ № 536211».

І яшчэ на старонцы пашпарта з грыфам «асобныя адзнакі» з подпісам дырэктара Беластоцкага педінстытута стаіць чырвоны штамп, які сведчыць, што ўладальнік стаў студэнтам названай навучальнай установы І.IX.1940 г. А штамп прапіскі паведамляе: 17.VII.1940 г. С. Крывец прапісаны ў Беластоку па вуліцы Ленінскай, 89.

Што датычыць месца нараджэння С. Крыўца, то, пэўна, трэба ў першую чаргу паверыць запісу ў пашпарце. А яшчэ і таму, што анкету для атрымання такога дакумента запаўняе яго будучы ўладальнік уласнаручна. Гэта, відаць, і зрабіў у свой час С. Крывец. Шкада, няма ў пашпарце дакладнай даты нараджэння. Не далі станоўчага выніку і запыты ў Гродзенскі дзяржаўны абласны архіў і ў архіў абласнога ЗАГСа.

Так, сёлетні год прынёс нам дзевяностагоддзе паэта-воіна, таго, хто ў росквіце аддаў жыццё на полі бою.

І, можа, сімвалічным было б годна ўспомніць пра гэта ў дзень, калі Сяргея Крыўца не стала.

«Бачна, доля такая мне выпала...»



# Тодар КУРБАЦКІ

Тодар (Фёдар Пракопавіч) Курбацкі нарадзіўся ў 1904 г. у мястэчку Карма Гомельскай вобласці.

Вучыўся ў Магілёўскім белпедтэхнікуме, закончыў Мінскі педагагічны інстытут. Па звестках Л. Маракова, у 1936 г. быў рэпрэсаваны. Настаўнічаў, працаваў у Хойніцкай дзесяцігодцы (СШ № 1), вучыў будучага класіка беларускай прозы І. Мележа. У 1938 г. удзельнічаў у рэспубліканскай нарадзе маладых аўтараў. У час вайны апынуўся на фронце, удзельнічаў у баях. Загінуў 15 студзеня 1945 г.

На старонках рэспубліканскай перыёдыкі з вершамі выступіў на пачатку 30-х гг. Шматлікія вершы апублікаваў у акруговай газеце «Бальшавік Палесся», надрукаваў свае паэтычныя творы ў альманаху «Аднагодкі» (1934), часопісах «Беларусь калгасная», «Полымя рэвалюцыі», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Звязда».

# Паэзія

## ЖНІВО

Песня ветлая ды стазвонная
Ўскалыхнула шыр залацістую.
Загайдалася жыта белае,
Жыта белае, каласістае.

І цвіце, гарыць ранне яркае,
Даль туманіцца мглою шэраю.
Спаўна ложыцца пад жняяркамі
Жыта буйнае, жыта спелае.

Маладыя мы, шчокі ружамі
Загарэліся, моц не спыніцца.
З песняй звонкаю, з песняй здужаем:
— Ой, калініца, ой, малініца.
Ну, напорысцей, ну, брыгадамі!
Пераможныя хвілі жаркія.
Жыта ложыцца, жыта падае
Пад шумлівымі пад жняяркамі.
Хай узняты пыл усцілае твар,
Рукі чорныя, рукі мужныя,
Не стрымае пыл, не стрымае жар
Працу творчую, працу дружную.
Ну, напорысцей, ну, брыгадамі
Ну, з прыпеўкамі галасістымі!
Жыта ложыцца, жыта падае
Стройнай постаццю каласістае.

*1931 г.*

## ІДЗІ, МАЯ ПЕСНЯ

Ідзі, мая песня, ідзі і жыві
У думах, у сэрцах, гарачай крыві,
Ўздымайся высока, бы воблачны птах,
Вучыся хадзіць у армейскіх радах.
Стань мужным армейцам ў тугія калоны.
Там лепшыя тоны і рыфм перазвоны.
Я хочу, каб грозна на гадаў стаянкі
У часе паходаў вадзіла ты танкі.
Я хочу, каб песня праз дні і вякі
Па мірных дарогах вяла цягнікі,
Дзе нівы гамоняць, дзе спеюць ўраджаі,
Дзе песня калгасніц пад сонца ўзлятае!
За гэтае неба, сады і палі
Няма шчаслівейшай на свеце зямлі...
Тут светлаю хваляй Сож б’е ў берагі,
Высокімі травамі дышуць лугі.
Далёка за лесам спяваюць гудкі,
На поўдзень багаты грымяць цягнікі,
Бясконца спяшыць за вагонам вагон
У стэпы пшаніцы, на сонечны Дон...
Ў ёй многа жаданняў, свабоды, цяпла.
Шануй сваю маці, з якой ты ўзрасла.
За гэту радзіму плацілі крывёю
Найлепшыя людзі — народа героі.
За гэту радзіму з жыццём маладым —
Порах на варце трымаем сухім!

*1938 г.*
*Хойнікі*

## СЯБРОЎСТВА

Зноў ты вабіш цёплым словам,
З кіпай кніжак, з скруткамі папер,
Добры друг, хлапец вясковы,
А цяпер — данбаскі інжынер.
Выйду ў поле,
Выйду ў далячыні,
Дзе з табой мы марылі заўжды,
Як па нашай маладой краіне
Зацвітуць вясновыя сады.
Зацвітуць людзям зямныя зоры,
Ўпрогшы сілу стромкае ракі.
Праз лясы, праз дальнія прасторы
Прагрымяць удалеч цягнікі.
Дзе багна, дзе нетры і разлогі, —
Узрастуць для шчасця гарады.
Жыць вялікай страснасцю эпохі
Пакляліся мы з табой тады...
Выйду ў поле,
Выйду ў далячыні —
Неба даль... бяскрайнія палі...
Дзесьці там, далёка, на Ўкраіне,
Здабываеш вугаль ты з зямлі.
Дзесяць год, як рознымі шляхамі
Разышліся мы у свет з табой,
Праляцелі птушкамі над намі,
Пеючы аб дружбе дарагой.
Па вясне, калі бушуюць воды,
Прыязджай, і сам убачыш ты,
Як па Сожу трубяць параходы,
Як ідуць па Прыпяці плыты;
Як ад Менска скрозь да Магілева
Наліваюць нівы ды сады,
Прыязджай — і ты пачуеш спевы,
Што спяваюць нашы гарады.

*1938 г.*
*Хойнікі*

## ПРА ЦЁПЛУЮ ВЯСНУ

Вясёлаю зялёнай галавою
Кусты прыпалі к беламу акну,
Ізноў шуршыць папера пад рукою
І тчэцца верш пра цёплую вясну.

Жыццё маё, паэзія і думы,
Як добра йсці па радаснай зямлі,
Адчуць, як лашчаць баравыя шумы
І дышуць сонцам плённыя палі.

Пад яснай сінявой у маім краі
Усюды рэкі чыстыя, бы шкло.
...Мой край!.. Ты сілы к творчасці ўздымаеш,
Каб сэрца шчасцем пела і жыло!..

З азёрамі, з бясконцымі лясамі
У поўнай сіле маладосць зямлі.
Вясна праходзіць мяккімі палямі,
Чародкі хмар з-за мора прыплылі.

От задажджаць, схмурнеюць у адценні,
Тады над полем, гаем і ракой
Вясёлка ўстане ў сонечным ірдзенні
Празрыстай сіняватаю дугой.

*1939 г.*

* * *

Прайшоў я сцежкай ля ракі,
З травы сатканыя разлогі.
Тут ад сяла ва ўсе бакі
Бягуць бясконцыя дарогі.
Мае сябры, мы тут раслі,
Прайшло маленства полем, пашай;
Адсюль падлеткамі пайшлі
Ва ўсе канцы радзімы нашай.
Аб вас бярозкі мне шумяць,
Чаруюць сэрца цёплым сказам.
Душа чакае вас спаткаць

Прайсці па родных нівах разам.
Іду па ранішняй зямлі,
І ўсё паўстала прад вачамі,
Як мы ў грыбы калісь ішлі,
Як коней пасвілі начамі.
Я тут, як вы, ўжо рэдкі госць,
Даўно не быў на гэтых травах...
За працай наша маладосць,
Юнацтва наша на заставах.

*1939 г.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Алесь Бельскі*

## ЗАРАНКАВЫЯ ПЕСНІ

Беларуская зямля багатая на паэтычныя таленты. Каб у гэтым пераканацца, варта адгарнуць старонкі шасцітомнага слоўніка-даведніка «Беларускія пісьменнікі». Аднак у гэтым грунтоўным выданні, як і ў іншых даведніках, на жаль, адсутнічае імя паэта Тодара Курбацкага.

З вершамі ў рэспубліканскай перыёдыцы ён выступіў на пачатку 1930-х гадоў. Шматлікія творы змясціў на старонках акруговай газеты «Бальшавік Палесся», надрукаваў свае вершы ў альманаху «Аднагодкі» (1934), часопісах «Беларусь калгасная», «Полымя рэвалюцыі», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Звязда».

Біяграфічныя звесткі пра Тодара Курбацкага скупыя. Сёе-тое пра яго ўдалося даведацца ад нашых старэйшых пісьменнікаў Паўла Пруднікава і Міколы Аўрамчыка. Дапамаглі ў росшуках звестак пра паэта журналіст з Мінска Мікалай Шчэрбачэня і намеснік старшыні Кармянскага райвыканкама Віктар Мацвеенка.

Тодар (Фёдар Пракопавіч) Курбацкі нарадзіўся ў 1904 годзе ў мястэчку Карма Гомельскай вобласці. Вучыўся ў Магілёўскім белпедтэхнікуме. Тут пасябраваў з Алесем Пруднікавым, які таксама пісаў вершы. Хлопцы давалі адзін аднаму чытаць свае творы, дзяліліся марамі і думкамі. Пазней абодва падаліся на вучобу ў Мінск. У сярэдзіне 1930-х гадоў Т. Курбацкі закончыў Мінскі педагагічны інстытут. Па звестках даследчыка Л. Маракова, у 1936 годзе быў рэпрэсаваны. Настаўнічаў, працаваў у Хойніцкай дзесяцігодцы (СШ № 1), вучыў Івана Мележа, які з удзячнасцю згадваў свайго настаўніка. У 1938 годзе ўдзельнічаў у рэспубліканскай нарадзе маладых аўтараў (разам з Адамам Русаком, Аркадзем Марціновічам, Алесем Салаўём, Міколам Аўрамчыкам, Уладзімірам Шахаўцом і інш.). Па словах пісьменніка М. Мятліцкага, Т. Курбацкі пэўны час жыў у вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. У гады вайны апынуўся на фронце, удзельнічаў у баях. Загінуў 15 студзеня 1945 года.

Паэтычная творчасць Тодара Курбацкага ў многім тыповая для

таго даваеннага часу — аптымістычная, бадзёра-радасная і дэкларацыйная. Ён, як і многія яго аднагодкі, сцвярджаў сябе ў літаратуры ў пачатку — сярэдзіне 30-х гадоў, калі складвалася традыцыя парадна-святочнай паэзіі, існавалі каноны і ўзоры, па якіх маладыя аўтары вывяралі свой голас. Таму і Т. Курбацкі не пазбегнуў у сваіх вершах ідылічнасці, прамаўлення ў духу палітычных установак і запатрабаванняў савецкай ідэалогіі. Скажам, гэты аўтар аддаў даніну прымітыўна-ўслаўляльнаму пафасу, звязанаму з культам асобы Сталіна: «Сваю шчырасць бацьку панясем: // Пад гармонік звонкі, галасісты // Песню мы пра Сталіна спяем» («Ліпнёвы вечар»).

Лірычны герой паэта — юнак-рамантык, сэрца якога поўніцца адчуваннем радасці і велічы жыцця, мэтаімкнёнасцю і вялікай прагай спазнання свету. Ён разам са сваім пакаленнем перажывае незвычайны ўздым ад таго, што выйшаў на шырокія жыццёвыя прасцягі. Герой паэта паўстае як палкі і няўрымслівы энтузіяст, дзейсны і актыўны малады чалавек, які турбуецца пра лёс радзімы, з упэўненасцю глядзіць у будучыню. Аўтар узнёсла апявае яву роднага краю:

Па вясне, калі бушуюць воды,
Прыязджай, і сам убачыш ты,
Як па Сожу трубяць параходы,
Як ідуць па Прыпяці плыты;
Як ад Менска скрозь да Магілева
Наліваюць нівы ды сады,
Прыязджай — і ты пачуеш спевы,
Што спяваюць нашы гарады.

*(«Сяброўства»)*

Сэрца паэта спявала шчыра, песенна-звонка і натхнёна. У лепшых творах Т. Курбацкі дасягаў сапраўднага лірызму, усхваляванай пранікнёнасці і даверлівай цеплыні інтанацый. Прыклад таму — верш «Пра цёплую вясну».

Для паэта было ўласціва арганічнае падключэнне да настрою і адчуванняў народнай душы, чуйная ўвага да сялянскіх клопатаў і працы на зямлі. Верш «Жніво» — традыцыйны ў плане тэматыкі, але ў той жа час у ім выяўляюцца настраёвы імпэт і шырыня пачуцця, суладны жніўнай пары паскорана-парывісты рытм:

Песня ветлая ды стазвонная
Ўскалыхнула шыр залацістую.
Загайдалася жыта белае,
Жыта белае, каласістае.

І цвіце, гарыць ранне яркае,
Даль туманіцца мглою шэраю.
Слаўна ложыцца пад жнияркамі
Жыта буйнае, жыта спелае.

На схіле 1930-х гадоў у лірыцы Т. Курбацкага, як і ва ўсёй тагачаснай паэзіі, загучалі матывы перадваеннай трывогі і пагрозы ваеннага ліха. Пасля савецка-фінскай вайны, бітвы з фашызмам у Іспаніі і захопу германскім рэйхам еўрапейскіх краін узрастала пагроза новага канфлікту. У грамадстве імкліва мілітарызавалася свядомасць, усталёўвалася ідэя антыфашысцкага змагання і патрыятычнай адданасці Радзіме. Ад імя маладога пакалення Т. Курбацкі выказвае гатоўнасць прайсці праз цяжкія выпрабаванні і бараніць межы сваёй краіны. Паэт жадаў, каб яго песня крочыла ў армейскіх шэрагах, была акрыленай і мужнай:

Ідзі, мая песня, ідзі і жыві
У думах, у сэрцах, гарачай крыві,
Ўздымайся высока, бы воблачны птах,
Вучыся хадзіць у армейскіх радах.
Стань мужным армейцам ў тугія калоны.
Там лепшыя тоны і рыфм перазвоны,
Я хочу, каб грозна на гадаў стаянкі
У часе паходаў вадзіла ты танкі.

*(«Ідзі, мая песня»)*

Неўзабаве Другая сусветная вайна неўтаймоўным полымем перакінулася на беларускую зямлю, абрынулася нечуваным горам і вялікімі стратамі. Муза многіх беларускіх паэтаў, вобразна кажучы, апранула салдацкі шынель і стала ў баявы строй. «За гэту радзіму плацілі крывёю» мільёны людзей, і сярод іх палеглі ў суровым змаганні з ворагам беларускія пісьменнікі. З поля бою не вярнуўся паэт і настаўнік Тодар Курбацкі, які недаспяваў свае заранкавыя вясновыя песні, загінуў, калі яму мінула толькі сорак гадоў. Імя гэтага вершатворцы з забытых у нашай літаратуры, але вартае таго, каб вярнулася сёння да нашчадкаў і ўвайшло ў анталогіі ды зборнікі беларускай паэзіі, было навечна занесена ў кнігу народнай памяці.

*2000 г.*



# Давід
# КУРЛЯНД

Давід Курлянд нарадзіўся ў 1906 (?) г. У другой палове 20-х гг. пачаў працаваць у яўрэйскім сектары АН Беларусі, на базе якога ў 1932 г. быў утвораны Інстытут яўрэйскай пралетарскай культуры, а пазней, у 1935 г., Інстытут нацыянальных меншасцей. У 30-я гг. быў рэпрэсаваны. Незадоўга да вайны пераехаў у Кіеў, дзе працаваў у Інстытуце яўрэйскай пралетарскай культуры Украінскай акадэміі навук. З чэрвеня 1941 г. — на фронце, загінуў без вестак.

Літаратуразнаўца, крытык. Даследаваў гісторыю яўрэйскай літаратуры і культуры. Пісаў на ідыш. Асноўныя яго працы надрукаваны ў Мінску. У часопісе «Штэрн» («Зорка») змешчаны артыкулы «Лексікон яўрэйскай савецкай літаратуры» (1934), «Пра народную казку і роднасныя ёй жанры» (1940), «Да пытання пра легендарныя сюжэты ў творах І.-Л. Перэца» (1940). Разам з М. Годэрам напісаў навучальны дапаможнік «Давід Бергельсон у школе» (1933). Аўтар «Бібліяграфічна-крытычнага агляду літаратуры пра П. Маркіша» (зб. «Літарарышэр замблух», 1934). У сааўтарстве склаў хрэстаматыю для 6 класа яўрэйскай школы (1930), падрыхтаваў і выдаў з уласнаю прадмовай зборнік твораў «Першыя яўрэйскія рабочыя паэты М. Вінчэўскі, М. Розенфельд, Д. Эдэльштат, І. Боўшэр» (1931).

# КРЫТЫКА

## ПРА НАРОДНУЮ КАЗКУ І РОДНАСНЫЯ ЁЙ ЖАНРЫ[1]

Жанр народнай казкі — самы, бадай, закінуты ў нашай яўрэйскай фалькларыстыцы. А шкада, бо гэта адзін з найбольш змястоўных і цікавых фальклорных жанраў. Нам здаецца, што калі дарэвалюцыйныя яўрэйскія народныя песні на ідыш па-мастацку адлюстроўваюць побыт і сацыяльна-эканамічныя адносіны ў жыцці народных мас ва ўсіх яго адценнях (песні аб галечы, эксплуатацыі, аб забастоўках і рэвалюцыйнай барацьбе, аб прызыве ў войска і вайне, аб сямейных адносінах, каханні і г. д.), то ў народных казках адбіваюцца, у першую чаргу, вышэйшыя ідэалагічныя матэрыі, філасофскія погляды, этыка і эстэтыка разнастайных грамадскіх слаёў, іхнія вераванні, чаканні і спадзяванні. У народнай казцы мы знаходзім падагульненне жыццёвага досведу народа, яго страсцей, памкненняў і мараў, а таксама яго мудрасці і фантазій (казкі пра дабро і ліха, пра шчасце і няшчасце, пра розум і дурасць, пра шанцаванне, цуды, перашкоды і іх пераадольванне і г. д.). Трэба зазначыць, што народная мараль не пакідае ліха беспакараным, а дабро, мудрасць і прыгажосць мусяць, у рэшце рэшт, быць узнагароджанымі. Мы назіраем сапраўдны «падзел працы» паміж двума фальклорнымі жанрамі, хоць ён зусім не абсалютны. З аднаго боку, народная казка таксама дорыць багацце і каларыт побытавага матэрыялу, паколькі будуецца на канкрэтных вобразах. З другога боку, мы маем значную колькасць народных песень з абстрактнымі элементамі: песні на матывы міфаў, ан-

[1] Да выхаду ў свет першых савецкіх выданняў казак на ідыш: «Народныя казкі» (складальнік І. Дабрушын) і «Антырэлігійныя казкі і прыказкі» (збіральнік і складальнік Шнэер (З. Окунь). Абедзве кніжкі выпушчаны маскоўскім выдавецтвам «Дэр Эмес» у 1939 г.

тырэлігійныя, маралізатарскія прыпеўкі (апошнія, праўда, збольшага ідуць ад бадханаў[2]). Нават у канкрэтна-вобразнай песні нярэдка сустракаецца элемент падагульнення і маралізатарства, калі спявак прапануе вам «самому зрабіць выснову». Адрозненне паміж народнай песняй і казкай палягае, між іншага, у наступным: тое, што ў адным выпадку — толькі элемент (напрыклад, фантазія), у другім — падмурак, ядро, і наадварот.

Так ці іначай, казачны жанр мае вялікую пазнавальную вартасць, не кажучы пра мастацкую. Нездарма М. Горкі ў сваёй творчасці гэтак часта і палка выступаў як тэарэтык, прапагандыст і папулярызатар фальклору наогул і казак у прыватнасці.

Мы яшчэ да сёння не здзейснілі ўсёй працы па збору і папулярызацыі народных казак. Мы не можам пахваліцца таксама і якой-кольвечы значнай працай мінулых часоў. Большасць аўтараў, якім надаралася збіраць фальклор, цікавіліся не так народнай творчасцю, як «творчасцю» малельняў ды ешыботаў. З гэтай прычыны яны навязвалі чытачу, у першую чаргу, «яўрэйскія народныя казкі і легенды» пра Бешта (Баальшэмтоў) і да т. п., якія ў пераважнай большасці былі не казкамі і нават не легендамі, а сухімі пераказамі «цудаў» і «дзівосаў», запісаных у хасідскіх і іншых «святых» кнігах. Многія ж «казкі» былі проста перапісаныя адтуль, і адно гэта сведчыць, наколькі яны былі далёкія ад народных. «Цуды» — гэта і не легенды ў дакладным сэнсе слова. Ад легендаў, што мяжуюць са старажытнымі міфамі, «цуды» адрознівае тое, што ў іх найчасцей адчуваецца штучнасць — у параўнанні з рэалістычнымі задумамі, здаровымі прыдумкамі і крылатымі фантазіямі. «Цуды» — не болей, чым голыя канстатацыі, прычым канстатуюцца не зямныя ўчынкі, факты ці здзяйсненні, выкліканыя «боскай воляй», а капрызы цадыка. Як заўважана, міф заўсёды нясе ў сабе здаровае, зямное зерне. Часта ў яго цэнтры знаходзяцца нават сапраўдныя фігуры альбо выпадкі — прынамсі, імаверныя. Яны па-мастацку размалёўваюцца, ім надаецца сіла гіпербалізацыі, незвычайнасці. Міф крочыць далёка за межы магчымага альбо

[2] Бадхан (ідыш, іўр.) — вясельны маршалак, блазан. Пэўнае ўяўленне пра рамяство бадхана і яго ролю ў мястэчках «рысы аселасці» можна атрымаць, прачытаўшы нарыс І. Харыка «Лейзер Шэйнман — бадхан з Зембіна» (Цайтшрыфт (Менск). № 1. 1926. С. 264; пераклад на рускую мову ў зборніку: Евреи Беларуси. Мінск, 1998. № 3–4. С. 179–180), а таксама паэму І. Харыка «На чужым вяселлі». *Заўв. перакл.*

пашырае гэтыя межы, але гэтак ён стварае новыя магчымасці для будучыні. «Цуды» ж, хутчэй, належаць да тыпу сярэднявечных «міраклей» альбо, што яшчэ больш дакладна, да тыпу «легенды» ў ейным вузкім, гістарычна абмежаваным значэнні — да рэлігійна-дыдактычнай легенды царкоўнага паходжання[3].

І вось перад намі ляжаць два новых зборнікі народных казак, выпушчаныя адным выдавецтвам «Дэр Эмес». Дзве сціплыя кніжачкі — прыкмета таго, што цікавасць да сферы казак узмацняецца. У ідышыцкай савецкай фальклярыстыцы гэтыя кніжачкі — першы, а таму яшчэ дужа сціплы вынік вялікага павароту да народнага мастацтва, да народнай творчасці, якую мы бачым ва ўсіх разгалінаваннях нашай сацыялістычнай культуры.

Першая кніжачка змяшчае ўсяго сем народных казак. З іх прынамсі пяць ужо былі надрукаваныя (І. Каган. Яўрэйскія народныя казкі. № 18, 29, 31, 32, 34). Аднак выбар складальніка — вельмі ўдалы. Казкі распавядаюць нам пра народную мудрасць, досціп, вынаходлівасць і ўменне не губляцца ў самых заблытаных абставінах. Вось перад намі капрызная прынцэса, якая адмаўляецца гаварыць: «...размаўляць з ёй — усё роўна як са сцяной». Аднойчы знаходзіцца, аднак, просты хлопец, які бярэцца прымусіць яе гаварыць. І ён такі дабіваецца свайго ды пераадольвае ейны капрыз. «Драўляная» нявеста мусіць ужо стрымаць слова і пайсці замуж за простага, але кемлівага хлопца…

---

[3] Дзеля яснасці — пара прыкладаў:

А) «Калі адзін чалавек хацеў даведацца, што з ім будзе, ён ішоў да Бешта. Бешт адчыняў святую кнігу «Зоар» («Зіхаценне»), глядзеў у яе і адказваў чалавеку на яго пытанне, і кожны раз здагадваўся правільна».

Б) «Тое ўсе ядуць і п’юць, што Бешт прынёс у сваім святым роце, і нябесны агонь усё гэта да неба прыносіць».

В) «Аднойчы Бешт убачыў анёла смерці, што стаяў ля хворага, і сказаў яму, каб той пайшоў прэч. Анёл смерці ўцёк, а хворы паправіўся».

Гэтыя тры «казкі» ўзятыя з кнігі «Легенды пра Бешта». Трэба думаць, што гэта — таксама фальклор, але асобны від фальклору, той, што знаходзіцца ўжо на мяжы фальклярыстыкі і этнаграфіі. Ён мае дачыненне да жанру прымхаў, загавораў, сурокаў і забабонаў. З мастацкім фальклорам, казкамі і легендамі, як мы іх разумеем, такія аповеды маюць вельмі мала агульнага.

Тут мы маем цікавую варыяцыю дужа распаўсюджанага універсальнага матыву ў народнай казцы: перахітрыць, пераўзысці ў розуме ўсіх, злавіўшы на слове… Амаль паўсюдна ў казцы сустракаюцца два сацыяльна-процілеглыя бакі: цар, прынц, пан, памешчык альбо багацей-гандляр супрацьстаўляюцца бедняку, простаму пастуху, бадзяжніку, слузе альбо нават жабраку. Перамагае заўжды другі бок.

У другой казцы гучыць арфічны матыў, аднак разумны кравец пакарае лясных звяроў не сілай спеваў, а сілай розуму. Вакол яўрэйскага краўца гуляе і пяе не памкненне да моцы (яго жаданне стаць пеўчым у сінагозе) і не інстынкт, а нейкая патаемная страсць, такая, што нават мядзведзю ў лесе карціць стаць музыкам…

Гэткую ж тэму мы назіраем у «Трох гарбунках», але ўжо ў побытавым ракурсе. Дзякуючы «хітрамудраму плану», маладая жонка вызваляецца ад цяжару дарэмных падазрэнняў і заадно ад чацвёртага гарбуна (магчыма, найбольш цяжкага для яе), ад… уласнага мужа, аматара бавіць час у сінагозе. Відавочна, вясёлая народная казка — на баку маладой кемлівай жонкі, а не на баку мужа, раўнівага ўрода, якім бы ён ні быў багатым і вучоным. Тут няма ніякага сантыменту да фізічнага недахопу. Вось жа гэтым сантыментам былі захоплены даўнія яўрэйскія літаратары: колькі доўгіх, нудных слязлівых раманаў яны напісалі на гэтую тэму, і блізка не падыходзячы да вышыняў класічнага твора Мендэле «Фішка Кульгавы»…

У наступных дзвюх казках таксама адчуваецца павага да хітрасці (яўрэй падманвае і саджае ў мех самога Месію), але галоўным матывам тут з'яўляецца антырэлігійны. Асабліва моцна ён выяўляецца ў казачцы «Святоша» — гэта ўвогуле наймацнейшая рэч ва ўсёй кніжцы. Перад нашымі вачыма праходзіць жудасны вобраз богабаязнай крывадушнай разбойніцы. Нават здзіўляе, наколькі скупымі сродкамі дасягаецца гэткі значны мастацкі эфект. Намаляваны не партрэт, у казцы няма доўгага апісання, аднак фігура святошы вырастае як жывая, дзякуючы стрыманаму, скупому, але глыбока характэрнаму дыялогу. Калі заблукалы яўрэй, выпадковая ахвяра, просіць, каб разбойнікі захавалі яму жыццё, пусцілі дадому, набожная маці, якая толькі што адстаяла малітву «Шмонэ-Эсрэ», адказвае: «Ніяк не можна, што за розніца, сто і адзін — усё адно! У майго сына — лёгкая рука і востры нож, ты нічога нават не адчуеш…» Ён працягвае прасіць, яна зноў кажа яму: «Ніяк не можна, хіба ж мы не разбойнікі? Хіба ж не наш занятак — хапаць

людзей на дарогах? Гэта ж не проста так вы да нас прыходзіце, гэта Усявышні вас дасылае. Я ж — святы чалавек, бо той, чыю душу анёл смерці не можа ўзяць, трапляе да мяне на загад Усявышняга. Вы выбераце сабе ложак, які пажадаеце». І зноўку: «У майго сына — лёгкая рука…» і г. д.

Такі спакойны, ціхі тон — тон халоднай забойцы — спалучаецца з ветлівымі набожнымі і побытавымі зваротамі ды адпаведнай інтанацыяй («Ніяк не можна», «што за розніца», «сто і адзін — усё адно!», «лёгкая рука» і г. д.), што стварае дзіўны, але дужа рэалістычны вобраз «святошы», ад якой, падаецца, ужо немагчыма выслізнуць: «Пакінем яго на заўтра?» — «Не, заўтра — ніяк не можна, бо ў шабат мы нікога не рэжам…»

Ці прыгадваеце вы гэткі ж вобраз з апавядання І.-Л. Перэца «Набожная котка»? Гэтая котка «ў беласнежным футэрку, з вачыма, у якіх адлюстроўваліся нябёсы», падобная да «святошы» як дзве кроплі вады. Яна таксама стала «не проста коткай, а набожнай коткай», яна таксама «ела, не спяшаючыся… сціпла, гуляючы… Няхай ахвяра крыху паскача, падрыжыць, няхай раскажа пра свае грахі». У сваёй гульні з птушкай яна клапоціцца, укрывай божа, не пра сябе, а пра «той свет», рыхтык як святоша: «Там бяруць не грошы, а толькі душы, вось і ўсё» (с. 50). Намаляваныя побач зладзейства і набожнасць: гэта ўжо не проста казачка, і нават не проста алегорыя. У рэаліста Д. Бергельсона такое спалучэнне выказана паняццем, адным словам. Гэтак, нават дажджы бываюць «зладзейска-набожныя» (Д. Бергельсон. Ля Дняпра. С. 367).

Казка-лухта — гэта ўжо іншы тып народнай казкі, тып гумарыстычна-фантастычны. Назва падаецца нам удалай, бо гэты тып звычайна змешваецца з тыпам казкі-балбатні. Казка-балбатня, аднак, з'яўляецца іншым адгалінаваннем казачнага дрэва, хоць яна таксама мае гумарыстычны характар. Гумар у ёй базуецца, галоўным чынам, на гульні слоў — на амонімах, каламбурах, сінонімах і да т. п., якія пераплятаюцца міжсобку[4]. Часам гэта таксама проста папуры знаёмых фразеалагічных выразаў альбо цытат — прыкладам могуць быць «пурымскія

---

[4] Напрыклад: «Падбеглі да доктара, каб знайшоў (*trefn*), што баліць. Ён кажа: «Што здарыцца са мной (*vos mir zol trefn*), тое здарыцца і з рэбе… Рэбе якраз патрапіў (*getrofn*) у гэты дом, а калі трапляюць у дом, грукаюць, а калі грукаюць, выходзіць масла. Масла мажуць, а як падмажаш, то і паедзеш. Заехаў я ў балота. Як выеду адтуль — раскажу вам, што было далей…» (Паміж намі, яўрэямі… № 19. С. 109).

блаславенні», што паходзяць з асяродку ешыботнікаў. У казцы-балбатні можа запазычвацца толькі агульная форма, а змест застаецца звязаным з формай. Казка-лухта, наадварот, найбольш універсальная. Як і ўсе «мюнхгаўзеніяды», яна універсальная — як паводле зместу, так і паводле формы, таму ў ёй галоўным з'яўляецца не моўны гумар, а лагічны абсурд, пасродкам якога ствараецца гратэскны вобраз.

Элементы казкі-лухты і казкі-балбатні нярэдка сустракаюцца таксама і ў народных песнях:

Аўрэмеле-шавец
Ёсць кравец харошы
Шые ён печку,
Што ў таліі — літая,
Як памыйніца з вадою, і г. д.

(«Яўрэйскія народныя песні»,
складальнікі М. Берагоўскі і І. Фефер,
Кіеў, 1938, с. 435. Гл. таксама
«Цайтшрыфт», т. 2–3, с. 794, № 15).

Кожны радок верша можа суправаджацца гратэскнай ідыёмай «ёкум-бэмбе», а кожная страфа — парадыйным «хапцы-галайло». Тут робіцца намёк на «цуды і з'явішчы» ў час зыходу яўрэяў з Егіпта…

У песні пра Аўрэмеле сустракаюцца элементы двух вышэйзгаданых тыпаў казак: шавец, які з'яўляецца добрым краўцом і шые печку, што ў таліі — літая, гэта, безумоўна, персанаж казкі-лухты. Форма песні, яе разгортванне, гульня са словам *ojsgegosn* (літая), парадыйнае «хапцы-галайло» — рысы казкі-балбатні. Гэтыя элементы часта ўваходзяць і ў самі казкі. Як мы толькі што бачылі, іх магчыма вылучыць толькі дзякуючы знаёмству з канкрэтнымі якасцямі двух блізкіх падвідаў казачнага жанру.

Напрыканцы — кур'ёз:

У кніжцы нямала памылак друку. Звычайна на гэта крыўдуеш, але ад адной памылкі кніжка толькі выйграла… Так, замест: «З таго часу старыя (*alte*) яўрэйкі не маюць зубоў у роце», наборшчык змайстраваў: «Усе (*ale*) яўрэйкі не маюць зубоў…» Надзіва гуллівы фінал, дастойны казачнага жанру.

У сярэдзіне кніжкі — «Казка пра кемлівага злодзея», тыповая для авантурнага жанру. Гэты злодзей — патаемны прынц, прагнаны сваімі старэйшымі і мацнейшымі братамі. Няма патрэбы казаць, што раз ён не можа дасягнуць мэты шляхам права, ён дабіваецца свайго цераз разнастайныя выкрунтасы і

хітрыкі, кемлівыя ўчынкі. Хоць яго метады не заўжды чэсныя, трыумфуе, у рэшце рэшт, пакрыўджаны… Гэтая казка — найдаўжэйшая ў зборніку. Ускладненая фабула абдымае дастаткова доўгі ланцуг падзей, нечаканых паваротаў ды авантур. Матыў казкі дужа пашыраны ў сусветным фальклоры. Не будзем тут рабіць доўгіх параўнанняў і супрацьстаўленняў, а толькі спашлемся на некаторыя варыяцыі гэтага матыву ў ідышыцкай літаратуры: І. Каган, № 20; зборнік «Паміж намі, яўрэямі...», с. 72–75 (№ 5) і с. 83–85 (№ 11). У параўнанні з астатнімі, аднак, падаецца, што наш варыянт больш цэльны, поўны і паслядоўны. Зрэшты, ён выйшаў у свет адрэдагаваны, ачышчаны ад пабочных дадаткаў, таўталагічных выразаў, дыялектных слоўцаў і г. д.

Заўважым ужо тут, што паняцце «апрацоўка» ўжыта да ўсіх іншых казак кніжкі. Яго легітымнасць паўсюдна пацвярджаецца, калі мы звернем увагу на ранейшыя формы надрукаваных казак, хоць і тады яны, здаецца, прайшлі адпаведную рэдактуру. Ці гэта добра, ці дрэнна — асобная праблема, якую мы тут *прынцыпова* не закранаем. З *практычнага* пункта гледжання большасць стылістычных і рэдакцыйных зменаў, унесеных т. -Дабрушыным, цалкам апраўданыя, паколькі ідзецца аб масавым выданні (род і скланенне перададзены паводле нормаў літаратурнай мовы, у патрэбных месцах зроблены тлумачэнні, і г. д.). Аднак некаторыя дадаткі толькі шкодзяць дынамізму казак. Шэраг выпраўленняў проста недарэчы: «Неўзабаве злодзеі кінуліся да меху (з манетамі)» гучыць лепей, больш экспрэсіўна, чым «падбеглі да меху» (с. 20). Між іншым, яны не мелі патрэбы бегчы, бо «ўсе яны ўжо былі побач з ім» (тамсама)… Лішнім з'яўляецца пэўны лік заўваг, і г. д. Усё гэта, аднак, драбяза ў параўнанні з агульнай чысцінёй стылю і празрыстасцю мовы зборніка.

З адной казкай, а менавіта з «Драўлянай нявестай», што праўда, была праароблена вялікая аперацыя: з яе было цалкам выдалена абрамленне. Аднак гэтая аперацыя падаецца неабходнай і плённай: абрамленне зусім не стасавалася са зместам і формай казкі. У прышпіленых пачатку і канцы гэтай казкі прапаведвалася ідэя аб тым, што адзін розум горкай рэдзькі не варты і што трэба нарадзіцца шчаслівым. Вось жа сама казка гаворыць аб першынстве розуму, і толькі аб гэтым. Таксама выпадала з кантэксту насільна прыцягнутая сентэнцыя: «Гэтак шанцаванне паказала, што яно мацнейшае за мудрасць», якая, не кажучы

пра сваю моцную тэндэнцыйнасць, не была характэрнай для стылю і тону народнай казкі. Вызваленая з-пад «каўпаку», казка набыла бляск і прыгажосць, чаму паспрыялі і іншыя выпраўленні. Аднак навошта было ўводзіць у «Драўляную нявесту» ажно трох новых персанажаў (рэзчык, мастак і шавец) і, асабліва, навошта было ператвараць настаўніка ў меламеда?

Яшчэ няпростае пытанне… Магчыма, т. Дабрушын карыстаўся іншым варыянтам казкі, чым той, які мы маем. Здзіўляе, што ад т. Дабрушына — аднаго з найбольш дасведчаных даследчыкаў фальклору — мы пра гэта не даведаліся, бо ў кніжцы, якую ён склаў, няма ніводнай спасылкі на крыніцы. Таму для чытача застаецца «таямніцай», адкуль ідуць усе гэтыя чароўныя казкі.

Згаданыя недахопы не змяншаюць, аднак, вартасці самога жанру. Агульнавядома, што нашы класікі ў сваёй творчасці шырока выкарыстоўвалі казкі[5]. Але ж і ў сучаснай літаратуры гэты жанр займае пачэснае месца. Не так даўно, напрыклад, мы прачыталі сатырычную казку сучаснага аўтара[6], пабудаваную на пары дэталяў «Казкі пра кемлівага злодзея», але моцна адрозную ад яе. Малады разумны прынц ператвараецца тут у чырвонага камандзіра, а прыдуркаваты селянін — у польскага палкоўніка. Выйшла зусім не благая сатыра на злабадзённую тэму.

У другой кніжачцы ўвесь матэрыял пададзены «з першых вуснаў». Тав. Шнэер (З. Окунь), здаецца, упершыню выступіў у ёй не толькі як складальнік, але і як збіральнік. Ён называе крыніцы запісанага матэрыялу, хоць і не заўжды апісвае іх падрабязна. Кніжка мае і тую перавагу, што ўсё, надрукаванае ў ёй, выходзіць у свет упершыню.

---

[5] Мімалётнай згадкі Мендэле Мойхер-Сфорыма пра Стэмпэню з бутэлечкай «любоўных кропляў» сталася дастатковым для Шолам-Алейхема, каб напісаць знакаміты раман. Перэц праз пасрэдніцтва Дынезона звярнуўся да кіраўніка буйной этнаграфічнай экспедыцыі і папрасіў даслаць яму «ўзоры сабранага матэрыялу, народныя казкі і іншае». Ён хацеў скарыстаць іх вобразы і зрабіць з іх «прыправы» (Мендэле напісаў бы — «прынады». — *Д. К.*) для чытача» (паводле ліста Дынезона, 18 лютага 1914 г.) Гэта было ўжо, такім чынам, пасля таго, як Перэц выдаў «Народныя паданні».

[6] Забара Натан. Дзедаў аповед: Дэр Штэрн. 1940. 15 лют.

Зборнік складзены паводле тэматычнага прынцыпу. Сюды ўвайшлі жарты, прыказкі, прымаўкі, гумарыстычныя загадкі. Казкі прадстаўлены досыць сціпла (з-за недахопу месца, як тлумачыць складальнік). Іншыя малыя жанры — больш «партатыўныя».

Усе пералічаныя катэгорыі яднае тое, што яны адносяцца да гумарыстычна-сатырычнага адгалінавання фальклору, некаторыя наўпрост (жарты, загадкі), а астатнія — фрагментарна (казка, прыказка). Гумар і сатыра ў іх — дапаможныя сродкі антырэлігійнай тэмы. У фальклоры яна заўжды выяўляецца ў суправаджэнні гучнага гумару і елкай сатыры, у якім бы там ні было жанры. Калі згрупаваць, напрыклад, любую колькасць песень ці то паводле тэмаў, ці то паводле жанраў (лірычныя, балады, куплеты і г. д.), высветліцца, што ўсе гумарыстычныя песні — антырэлігійныя, і наадварот, усе антырэлігійныя песні — гумарыстычныя або сатырычныя.

Лічаныя казкі з гэтага зборніку — крыху іншага характару, чым казка-навела. Сюжэт у іх збольшага вырашаны, ён бясконца вар'іруецца, бо акцэнт тут зроблены не на сюжэце, а на нечаканых жартоўных высновах.

«Штука», «фокус» пра якія мы пачалі казаць, выконваюць тут чыста ідэйную функцыю. Яны нараджаюцца ўжо не з патрэбы абараніцца ад пагрозы або знайсці выйсце з нязручнага становішча, а ад моцнага жадання пакпіць, злосна высмеяць праціўніка.

Дасціпная показка распавядаецца тут часта ззаду наперад, таму яна становіцца раптоўна-нечаканай для праціўніка, той нават не ведае, адкуль яна яго джаліць. Гэтак, Шмэрл Сніткавер расказвае натоўпу карлінскіх хасідаў казку пра іхняга рэбе… Ён пачынае ў стылі папярэдняга расказчыка ў заезным доме, але больш цікава і жыва. Пастунова натоўп становіцца напружаным, бо дзе-нідзе Шмэрл кідае «гарэзлівыя», калючыя словы. Натоўп яшчэ болей хвалюецца, аднак усё яшчэ нічога не разумее, бо расказчык вытрымлівае ранейшы тон. І калі аповед падыходзіць да канца, раптам выбухае жарт, нібы шрапнель. Слухачы, спачатку разгубленыя, збянтэжаныя, прыходзяць у сябе, пачынаюць тузацца, пляваць, слаць праклёны…

Гэтая ж схема спрацоўвае ў казцы «Цуд шабату» і, у яшчэ большай ступені, у казцы «Шмэрл каецца ў грахах». Тут ён ляжыць ужо на смяротным ложы. Рабін і гарадскія багацеі прыходзяць і просяць, каб ён хоць перад смерцю паспавядаўся ў сваіх грахах, каб боскі гнеў не праліўся на бязвінных людзей

мястэчка. Іхнія ўшчуванні няшчырыя, яны шукаюць толькі здзеку над хворым «імахшмэйнікам»[7]. Шмэрл робіць выгляд, што слухаецца іх, пачынае распавядаць пра свае грахі: еў у Ём-Кіпур, ды яшчэ змешваў мяса з малаком, гэткі грэшнік!.. Потым ідзе апошні грэх: «Аднойчы стаяла надвор'е, што сабаку з хаты не выганіш. А я такі сапраўды выгнаў сабаку…». Вось якраз у яго, г. зн. у шаноўнага сабаку, ён і хацеў бы папрасіць прабачэння…

Сутнасць гэтай казкі палягае ў жарце, а жарт, як у большасці прыкладаў дадзенага жанру, — у гульні слоў, у каламбуры. Такім чынам, гэты від казкі мяжуе з жартам. З васьмі казак, прыведзеных у серыі «Казкі Шмэрла Сніткавера», уласна казкамі з'яўляюцца толькі першыя дзве. Таксама да жанру казак-навел адносіцца ананімная «Хапайся за маю чвэрць свету». Трэцяя казка «Чаму рэбе гэтак далёка бачыць» належыць ужо хутчэй да жарту. Астатнія пяць — ужо яўна выкшталцоныя бязбожніцкія жарты[8]. Серыя пра Сніткавера — наймацнейшая ва ўсім цікавым зборніку Шнэера. Шмэрл Сніткавер — рэальная асоба, але яшчэ болей — *вобраз*, «каларытная фігура жартуна-бязбожніка, які жыў у першай палове XIX стагоддзя». Дадамо, што Сніткавер — толькі адзін з мужных дзеячаў яўрэйскага асветніцтва — атэістаў свайго пакалення, чыёй зброяй быў смех. Сюды адносяцца Шапіра з Коўна (часткова таксама І. Мапу, яго зямляк і сучаснік), Залман Пойзер з Плінска і многія іншыя. Барацьба супраць забабонаў, хасідызму і рэлігіі наогул стала для іх мэтай жыцця. Сапраўдныя людзі з народу, яны былі бязбожнікамі паводле паклікання. Антырэлігійны жарт і прыказка былі іх асноўным, а часам і адзіным амплуа.

Безумоўна, тав. Шнэер у сваёй кароткай прадмове абгрунтавана спрабуе адрозніць багаборніцтва Сніткавера ад творчасці «пісьменнікаў-асветнікаў», якія карысталіся, паводле Шнэера, «выключна сатырай» — антыклерыкальнага характару, аднак яшчэ не антырэлігійнай. Увогуле, гэта слушна, аднак усё ж такі «пісьменнікі-асветнікі» былі рознымі. Дзякуючы вялікай мастацкай моцы твораў маладых асветнікаў Лінецкага і Мендэле, яны былі выбуховай матэрыяй нават у 1860–1870-я гг., пасля таго як з'явіліся бліскучыя казкі-прыслоўі і жарты «атэістыч-

---

[7] Як патлумачыў Рыгор Рэлес, гэтае ідышыцкае слова паходзіць ад старажытнаяўрэйскага выразу «каб яго імя сцерлася з памяці» і азначае «вялікі нягоднік», «бязбожнік». *Заўв. перакл.*

[8] У зборніку Раўніцкага мы знайшлі і іншыя народныя жарты, прыпісаныя Сніткаверу: № 84, 86, 96.

ных багаборцаў» у 1830–1840-я гг. Тое ж самае можна сказаць пра ўздзеянне шэрага твораў І.-Л. Перэца пазней, у 1890-я гг. («Набожная котка», «Футровая шапка» і да т. п.). Строга кажучы, можна іх супрацьстаўляць, бо наколькі ж змрочнай была атмасфера ў даўнія часы і наколькі гучна вінен быў заклікаць людзей колішні атэіст… Аднак калі мы гаворым пра мастацкія жанры, антырэлігійныя творы ацэньваюцца не так праз гэта, як праз тое, ці звернуты твор супраць самога бога ды рэлігійных пісанняў, альбо толькі супраць носьбітаў рэлігіі, святароў. Эфект твора вымяраецца тым, наколькі вобразна-наглядна, канкрэтна-эмацыйна асветлена дадзеная праблема.

З іншага боку, напэўна, няправільна атаясамліваць жартуноў-бязбожнікаў тыпу Снітковера з «блазнамі-выскалякамі» Мотке Хабадам, Шайке Файферам і інш., як гэта зрабіў адзін рэцэнзент[9]. Апошнія, гістарычныя і выдуманыя фігуры, належаць да зусім іншай катэгорыі. З іх імёнамі народ звязвае пераважна анекдоты і трапныя слоўцы, дзе досціп часта выкарыстоўваецца толькі дзеля досціпу, без выразнай ідэйнай накіраванасці. Справа ў тым, што для большасці гэтых людзей жарты былі не толькі пакліканнем, але і прафесіяй (напрыклад, для бадханаў). Апрача смелых выказванняў яны яшчэ засвойвалі мастацтва «сказаць добрае слова». Нават мястэчковыя багацеі звярталіся да іх так: «Мотке, скажы добрае слова!» Праўда, нярэдка замест усхвалення следавала нейкая шпілька, аднак сам зварот ужо характэрны. Іх не ўспаміналі «з пенай на губах», як Снітковера, «шапірак», «мапак» і іншых «імахшмэйнікаў». Занятак Моткі Хабада добра аплочваўся, так што ён джаліў неглыбока. Мы не зводзім на нішто значэнне гэтых жартуноў у яўрэйскім фальклоры — зусім не. Мы толькі супраць змяшэння розных фігур, вобразаў, характараў і жанраў. Мотке Хабад, Шайке Файфер і асабліва вельмі таленавіты Гершэле Астраполер займаюць пачэснае месца ў яўрэйскім гумарыстычным фальклоры. У іхнім жанры выяўляецца амаль інтэрнацыянальны дух напаўлегендарнага Хаджы Насрэдзіна…

Жанр, пра які ідзе гаворка, мы знаходзім таксама ў кніжцы. Яго ўзоры — кароткая серыя «З жартаў Гершэле Астраполера» (тры жарты) і шэраг ананімных накідаў. Гэта ўжо не навелападобны жарт, а жарт-анекдот, кампазіцыйна пабудаваны на завостранай, моцна прадвызначанай сітуацыі. Цэнтральным пунктам, у адрозненне ад жартоўнай казкі і інш., з'яўляецца ў анек-

---

[9] Дэр Штэрн. 1940. 28 сак.

доце не мастацкая характарыстыка *героя*, але нелагічныя, камічныя ці проста абсурдныя абставіны і/альбо паводзіны *персанажа*. Яны ўжо ад пачатку напружаныя, развязка і тлумачэнне прыходзяць неўзабаве. Гэтаму жанру зусім не ўласцівы пабочныя дадаткі і залішнія ўскладненні. Часта галоўную ролю адыгрывае разумная думка, але рэалізуецца яна не ў працэсе дзеяння, а як «штука», зыходны пункт жарту, што закладзены ўжо ў саму задуму, — і як развязка, канчатковы пункт жарту. «Штука» тут знаходзіцца ў цеснай сувязі з галоўнай задумай і з'яўляецца неад'емнай часткай ідэі.

Колькі маленькіх ілюстрацый:

А) Гершэле Астраполер піша ліст богу. Паведамляе яму, што ён і яго сям'я паміраюць з голаду…

Б) Яўрэйка прыносіць рэбе поўны кош спажывы і плача, што ёй няма чым карміць малых…

В) Хасід, ні жывы ні мёртвы, увальваецца да рэбе:

— Рэбе, ратуй! Мой домік гарыць!

Г) Убягае яшчэ адзін агаломшаны хасід:

— Рэбе, у цябе за дзвярыма вісіць чалавек!

Ва ўсіх выпадках ужо ад пачатку прапануецца завострана нелагічная, камічная альбо трагікамічная сітуацыя. Замест таго каб ісці тушыць пажар, хасід бяжыць да рэбе па дапамогу… Замест таго каб накарміць галодных дзяцей, яўрэйка тэпае з апошнімі ашчаджэннямі да рэбе… Ужо першы радок інтрыгуе. Вы з напружаннем чакаеце, куды трапіць ліст, адрасаваны «к богу», і г. д. Усе сітуацыі вымагаюць матывіроўкі, хуткага тлумачэння і развязкі. У гісторыі з падвешаным чалавекам (праўдзівай ці не — няважна) жарт спалучаецца з ідэяй: Гершэле павесіў сябе (за каўнер, вядома), як… шыльду: «Разумееце, рэбе, калі ў бляхара ля ўвахода вісіць бляшаны імбрычак, у шаўца — пара халяваў, дык трэба, каб на дзвярах у рэбе вісеў хасід». Г. зн. прадмет, які рэбе «апрацоўвае» і купляе…

Жартоўны жанр мае, насамрэч, значныя адрозненні ў параўнанні з жанрам казкі. Аднак аналіз гэтых адрозненняў выйшаў бы за межы артыкула.

Віншуем складальнікаў абодвух цікавых зборнікаў і выдавецтва «Дэр Эмес» з важным пачаткам і зычым, каб ім хапіла сіл на працяг. Дзякуй за атрыманае, мы просім яшчэ.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор РЭЛЕС*

## ЗГАДКА ПРА ДАВІДА КУРЛЯНДА

Да таго, як я пазнаёміўся з ім, мне было вядома, што на Украіне жыве малады яўрэйскі крытык Давід Курлянд, які піша артыкулы не толькі пра яўрэйскіх пісьменнікаў свайго краю, але таксама аналізуе творы яўрэйскіх пісьменнікаў Беларусі і іншых рэспублік. Ведаў: асабліва яго цікавіць паэзія і ён надае шмат увагі творчасці маладых паэтаў. Ды і сам ён зрэдку піша вершы і змяшчае іх у яўрэйскім часопісе «Штэрн», які выходзіў у Мінску, а рэдагавалі яго вядомыя паэты Ізі Харык і Зэлік Аксельрод.

Аднойчы, памятаю, гэта было вясной, маладых яўрэйскіх пісьменнікаў Мінска, у тым ліку і мяне, запрасілі выступіць з чытаннем сваіх твораў па радыё. З уступным словам выступіў чалавек немаладога веку. Ён гаварыў па-яўрэйску з акцэнтам, які даволі характэрны для яўрэяў Украіны. Замест літары *у* часта ўжываў украінскую літару *и.* Усіх яўрэйскіх пісьменнікаў Беларусі я ведаў асабіста. А гэтага бачыў упершыню.

— Хто ён? — шэптам папытаў я ў празаіка Моты Дзегцяра, які сядзеў са мною побач.

— Дык гэта Давід Курлянд, — пачуў я ў адказ.

Пасля, калі нашы выступленні скончыліся і мы выйшлі на вуліцу, я запытаў у Дзегцяра:

— Няўжо ніхто не знайшоўся сярод нашых тутэйшых літаратараў, каб выступіць з разглядам творчасці маладых яўрэйскіх пісьменнікаў, і дзеля гэтага запрасілі чалавека аж з Украіны?

— Спазняешся жыць, — сказаў ён. — Давід Курлянд вось ужо некалькі месяцаў як жыве ў Мінску. Ён працуе ў Акадэміі навук. Гэта не першае яго выступленне, ён часта прыходзіць да нас на літаратурныя вечары. Але ж ты рэдка наведваеш нашы літаратурныя сустрэчы, таму не ведаеш нават, што Давід Курлянд жыве ўжо ў Мінску.

Я на той час вучыўся ў педінстытуце і сапраўды рэдка патрапляў на літаратурныя вечары, хоць і быў ужо членам Саюза пісьменнікаў.

Амаль штовечар я сядзеў у Цэнтральнай бібліятэцы і чытаў творы, якія мы праходзілі па праграме. І вось аднаго разу, калі я выйшаў у калідор выпаліць цыгарку, я заўважыў там Курлянда, які з кімсьці гутарыў. Хутка ён развітаўся з суразмоўцам. Я набраўся адвагі, падышоў да Курлянда, павітаўся і сказаў, хто я.

— Я вас ведаю, — сказаў ён. — Мы ж нядаўна разам выступалі па радыё. З вашымі творамі я знаёмы даўно. Чытаў у «Штэрне». Часам сустракаю вашы вершы ў маладзёжнай газеце «Юнгер арбайтэр» і ў дзіцячай «Юнгер ленінец».

З той пары пачаліся нашы гутаркі. Мы выходзілі ў калідор бібліятэкі і размаўлялі. Памятаю, я не быў у захапленні ад паэзіі вядомага яўрэйскага паэта Іцыка Фефера, і Курлянд імкнуўся мяне пераканаць, што я памыляюся, але яму гэта давалася з цяжкасцю.

Працуючы ў акадэміі, ён там пасябраваў з вучонай Соф'яй Рохкінд, якая ўжо была аўтарам першага аб'ёмнага яўрэйска-рускага (ідыш-рускага) слоўніка.

Праз некаторы час мне стала вядома, што Курлянда напаткаў лёс бязвіннай ахвяры сталінскіх рэпрэсій. Як у віры знік… Аднак яму пашэнціла выбавіцца з турэмнай пасткі. Незадоўга да вайны Рохкінд атрымала ад яго ліст, у якім Курлянд паведамляў ёй, што ён жывы і на волі… І перапіска паміж імі пачалася зноў. У апошнім лісце ён пісаў ёй, што ў сувязі з неспрыяльнай і складанай абстаноўкай жадае пайсці служыць у армію. Болей вестак яна ад яго не атрымоўвала. Нічога не вядома пра яго далейшы лёс. Ён загінуў у полымі вайны, знік назаўсёды. І, па ўсёй верагоднасці, не засталося нікога з яго сваякоў, хто б пацікавіўся пра лёс гэтага пісьменніка і салдата.



# Павел
# ЛЕВАНОВІЧ

Павел Антонавіч Левановіч нарадзіўся 3 лістапада 1914 г. у в. Мазалава Мсціслаўскага павета (цяпер Мсціслаўскі раён Магілёўскай вобласці).

Вучыўся на геаграфічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у паходзе ў Заходнюю Беларусь (1939). Пасля заканчэння універсітэта (1940) працаваў у рэдакцыі часопіса «Іскры Ільіча». З пачатку вайны — на фронце. Трапіў у палон, але ўцёк з Крычаўскага лагера ваеннапалонных. Дапамагаў партызанам, удзельнічаў у Мсціслаўскім падполлі. У кастрычніку 1943 г. зноў апынуўся ў шэрагах Савецкай Арміі. Удзельнічаў у баях, атрымаў цяжкае раненне, ад чаго і памёр 20 снежня 1943 г. Пахаваны ў в. Старынка Горацкага раёна. Адна з вуліц г. Мсціслава носіць імя П. Левановіча.

Пісаў вершы і прозу. Першыя творы апублікаваў у 1934 г. Друкаваўся ў тагачаснай перыёдыцы — газетах «Палеская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена» і некаторых іншых. Найбольш прыкметна сцвердзіў сябе ў літаратуры як дзіцячы пісьменнік. Аўтар зборніка апавяданняў «Дружба» (1938). Асноўныя творы для дзяцей на-

друкаваў у часопісе «Іскры Ільіча» і газеце «Піянер Беларусі». У 1940 г. падрыхтаваў другі зборнік апавяданняў, але рукапіс згарэў у гады вайны. Пісаў таксама нарысы. У 1943 г. змяшчаў матэрыялы ў франтавым друку.

# ПАЭЗІЯ

## ДРУЖБА З ВЯСНОЙ

Сонцу, маладосці
Адчыняю дзверы,
І як скінуць вокам —
Радасць і вясна.
Падрастаюць руні,
Зелянеюць скверы,
Маладосць краіны
Сёння ля стырна.
Наламаў чаромхі
Невялікі жмутак,
І такая свежасць
Працінае скрозь.
Ах, мой дружа любы,
Ты скажы, чаму так
Шпарка па аортах
Мчыцца мая кроў?
Убіраюць ганак
Белыя завеі —
Яблыняў пялёсткі
Сцелюць па зямлі.
Белыя дарожкі,
Навакол алеі
Проста мяне клічуць
Хараством сваім.
У лістах кляновых
Зазвінелі пчолы
Металёвым голасам
Звонкае струны.
А мне сёння радасна,

Я такі вясёлы,
Сустракаю сонца
Маладой вясны.
І таму чаромхі
Кучаравы жмутак
Асвяжае пахам
Маладую кроў...
Дружа ты мой любы,
Раскажы, чаму так
Вочы ў нас іскрацца
Ды з-пад чорных броў?

*13 ліпеня 1934 г.*
*Гомель, лесасплаў*

# ПРОЗА

## НА СОЖЫ
*Апавяданне*

Два разы пракрычала дзікая качка і кароткімі крыллямі празызыкала ў паветры. Аер зашастаў ад подыху ветру, зашуршалі лістамі лозы і захісталіся, як непрытомныя.

На небе хмара засланіла сонца, але пад агнявымі палосамі валавяны яе ўскрай пабялеў і закучаравіўся ў пярыстыя, крышталёва-белыя барашкі. За ёй яшчэ плылі хмары. На небасхіле ўставалі сівыя і важкія кудзелі воблакаў.

— Глядзі, што на дождж збярэцца...

— Чаго добрага, да месца не прыстанем...

— Даплывем. Не гэта бачылі, — сказаў Ільянкоў Максім і, упёршыся аралам, накіраваў плыты на фарватар.

Ён паглядзеў на сваіх людзей: каранасты і нізкарослы Антон кіраваў плытам. Каля яго, у чорнай ватанцы, падпяразаны матузом, стаяў Кірыла. Ён упіраўся рукамі і грудзьмі ў шост, плыты паварачваліся і павольна пасоўваліся ўперад. Максім разгладзіў калючыя вусы і скупа ўсміхнуўся. Яму хацелася пакратаць тугія мускулы, што шавяліліся ў картовым рукаве і паспрабаваць іх сілу, але часу не было. Стромкае бярвенне каравана пакорліва плыло па юркай плыні Сожа. Хвалі шумліва і сярдзіта набягалі адна на адну, ускаквалі на плыты і завівалі там кудзеркі мыльнай пены. Караван складаўся з некалькіх грабёнак: наперадзе плыў сасновы лес, тонкія стойкі для шахт, а адзаду каржакаватыя, аброслыя сіняй зацвіллю стагоднія елкі. Шырокая плынь вольна разышлася ў берагах і гонка везла лес на Украіну.

А хмары зацягнулі неба, завалаклі бурай вадзяністай заслонай, і дзесьці на Сожы, на яго берагах, навіслі на грыўцы лесу.

Максім паглядзеў угару. Неба трэснула і зігзагамі мільганула маланка.

— Э-ге, брат, тут не на жарты, — сказаў брыгадзір Ягор і пайшоў уздоўж плытоў. Ён рослы, загарэлы тварам, з густой курча-

вістай барадой, адзеты ў ватнюю картоўку, у чорных штанах, зашмальцованых смалою, ад якіх, напэўна, пайшла б рыкашэтам куля, а мокрыя брызентавыя бахілы крэпка абліпалі ікры ног.

— Ягор, рыхтуй снасць. Гэй, вы, мальцы, давайце аралам, — даваў каманду Дубавік Максім.

— Дай у затоку прыстанем, чуеш, а?

— Давай аралам, дзядзька Максім, на той бок, — па-гаспадарску гаварыў брыгадзір.

А хмара апусцілася над зямлёю. Здавалася, што наперадзе яна злілася з рэчкай у чорна-свінцовую завесу. Аднекуль з левага берагу нырнуў у рэчку раз’юшаны вецер, успеніў ваду, забаламуціў, закруціў і заганяў хвалі, нібы мыў свае кудры, ад чаго вада зрабілася, як шчолак, мутнай і бялявай. Кусты лазняку парыўчата захісталіся, прыгінаючыся веццем да пясчанай зямлі і глуха зашумелі лістамі. Маланкі з усіх канцоў неба ўспыхвалі магніевай лентай.

Ягор з Максімам заводзілі пярэднія грабёнкі ў затоку, але вецер як бы сумысля не даваў і стрымліваў плыты. Ягор вылаяўся на некага і, націснушы на шост грузам свайго цела, кіраваў да берага.

— Пра-ва... оп... яшчэ-э...

Да яго прыбег Максім, шырокі ў плячах і дужы не па гадах.

— Ра-зам, оп...

Перамагаючы напор хваль, людзі заводзілі караван у завадку. І калі падплылі ўжо да берага, Кірыла саскочыў з доўгім тросам на зямлю. Вецер успеніў хвалі насустрач плыні. Хвалі белымі грэбнямі набягалі на плыты і з шумам адкочваліся назад. Трос раскруцілі, занеслі далёка на бераг, і Ягор сам пайшоў яго ўмацоўваць.

— Нясі сюды, тут корч, — натрапіў ён адразу на стары пень зламанага дуба і стаў дужацца з ім.

— Будзе моцны.

— Добры будзе, не падасца, — упэўніў Кірыла. На плытах пяць чалавек трымалі шастамі грабёнкі. Яны налягалі на яловыя шасты, утыркнуўшы ў ваду аж да самага дна, шасты выгіналіся ад стоек, рыпелі, а плыты варочаліся і гойдаліся, нібы дрыгва. Вось глядзі зломіцца шост, і тады чалавек упадзе старчма ў ваду, а вецер пагоніць караван, узаб’е яго на мель ці перакат. Рэдкі дождж закрапаў па вадзе.

— Эй, вы, мальцы, хутчэй там.

Максім занепакоіўся: яго абдавала вадой, стукалася грабёнка аб грабёнку і кручаная лаза мякка цёрлася аб жорасці, дзябёлыя рукі моцна трымалі шост.

— Га-това... прывалілі, — няслося з берага.

— Мацуй добра, каб не адарвала.

— Не адарве, моцна будзе, — гаварыў Ягор. І з сілай абкручваў вітым тросам дубовы пень. Потым адышоў, узяў трос, упёрся нагамі ў корч і моцна пацягнуў. Трос звінеў як струна, працягнуўшыся да плытоў. Тады Ягор устаў і пайшоў на пярэднюю грабёнку, што была прывязана да астатніх тоўстым пяньковым канатам. Буйны дождж звонка пляскаў па вадзе, па лістах лазы, сек, нібы шротам, Ягора, ад чаго ён уцягнуў галаву ў сажонныя плечы, надзеў ямчэй шапку, каб не цякло за шыю і пабег па плыту. Дзве шэрыя саламяныя будкі самотна стаялі пад дажджом. Ягор пайшоў у бліжэйшую будку.

Кірыла сядзіць разам з Ягорам, скручвае азызлымі пальцамі цыгарку. Кавалак газеты, якую яму далі на прыстані, не слухаўся тоўстых пальцаў. Кірыла сярдуе на цыгарку і думае: «Дома зараз абедаюць, а Валодзька коні, можа, пасе. Ты ж не забудзь, татка, кніжку купіць, казаў ён». Па саломе коціцца кропля вады. Кірыла падставіў далонь і расцёр на пальцах мутна-бліскучую кроплю.

— Холадна... Хоць бы агонь раскласці.

Ён выйшаў з будкі і пайшоў па плыту шукаць дроў. Кірыла нядаўна працуе, усяго тры гады, але ўжо прызвычаіўся да вады і палюбіў яе. Ён паглядзеў на чорную паласу Сожа, згорбіўся і пайшоў да будкі. Свет быў нібы ў тумане, заштрыхованы касым дажджом. Вада змяшалася з небам, хаваючы белую прагаліну за сабою. Ён прысеў на карачкі перад Ягорам.

— А можа, стойку пасячом, а?

Ягор падняў галаву, халодна паглядзеў на Кірылу.

— А ты думаеш, пазнаюць? На адну менш стане, дык хоць косці адагрэем.

— Што... Як ты сказаў? — Ягор нібы не пачуў і перапытаў яшчэ.

— Каб пашчапаць адну сасонку, — і палез за сякерай, што ляжала пад саломай блізка Ягора.

— Не чапай, кажу, вярзіла чортава.

— Гэта не наша, чаго ты крычыш...

— Я цябе пашчапаю. Гэта ўсё наш лес...

Кірыла падаўся з будкі. Дождж сціхаў.

— Дурань, гарачае вады пап’ем.

— Вон кажу. Шчапаць нельга.

Раззлаваны на Кірылу, Ягор вылез з будкі, разагнуў спіну і паглядзеў на неба. Кропля вады сарвалася з саломіны, заскочыла за каўнер целагрэйкі і пужліва пакацілася па целе. Разам з гэтым пачуўся працяжны крык з сярэдняй грабёнкі.

— Я-гор, грабёнку адарвала, Я-гор.

Апошнюю грабёнку каравана адарваў вецер, і буйныя хвалі пагналі яе на сярэдзіну ракі. Максім сядзеў на першай грабёнцы ад берага і першым убачыў, калі яна ўжо калыхалася і адплывала.

— Дуб рыхтуй, чуеш, а? — гаварыў ён.

Ягор кінуўся на край грабёнкі. Выцягнуў рукі, напружыў цела. Паплысці хацеў, але нешта стрымала яго. А сэрца забілася. Стала шкада ўпускаць лес.

— Ты ж, малец, шост вазьмі, — сказаў Ягор і вопрамеццю пабег па плыту. Потым павярнуўся, скаціў яловую калоду на ваду, стаў на яе і паплыў. Хваля закачала калоду, яна завярцелася пад нагамі. Ягор захістаўся, пахінуўся назад і падпіхнуў калоду шастом. Сцюдзёныя пырскі сыпаліся на ногі. А гарачае сэрца забілася мацней, а тугія мускулы набухлі сілай, і Ягор хутка пасоўваўся да грабёнкі.

— Трымайся, Ягор, — крычаў Максім.

Людзі з брыгады заварушыліся, нарыхтавалі канаты, каб потым прывязаць грабёнку, а Кірыла з малайцаватым спрытам адвязаў дуб і паплыў услед. У Кірылы раптам з’явілася думка, а што калі ўцячэ грабёнка, а Ягор патрапіць у бяздонне хваль, мне будзе сорам за яго... Я не дагнаў яго, я не маю сілы... Эх, — ледзь не крыкнуў ён ад злосці на стыхію, і з нейкай новай сілай налёг на вёслы...

Вада забурліла за кармою. Доўгі нос лодкі падымаўся на грэбні хваль, разразаючы іх...

— Хутчэй, Кірыла, — папярэджваў Максім.

Кірыла зараз пакажа свой спрыт... Ён можа дзесяць кіламетраў плысці па такіх хвалях, а лес дагоніць, — і з гэтай думкай прыйшлі новыя сілы, і Кірыла спрытна памчаўся ўперад. А грабёнка качаецца і адплывае далей ад людзей... Тры ўзмахі вёсел раздзяляюць Кірылу ад Ягора. Вось зараз Ягор параўняецца з грабёнкай. У Ягора нават сэрца закалацілася ад злосці на грабёнку:

— Даганю — не ўцячэш.

Грабёнка хістаецца і адплывае далей ад плыта.

— Даганю, не ўцячаш.

«Мазалём гарачым збіраў і крапіў лес, а тут на табе, вецер, чортаў шалахвосцік, пагнаў немаведама куды». Дробны і часты дождж сыпаў па вадзе. У Ягора па твары кацiліся кроплі, а кароткая картоўка набухла дажджом і казытала вадой па целе. Ягор з маленства, як рыбіна, палюбіў ваду. Вось ён даганяе грабёнку, параўняўся, але хвалі штурхнулі яе, калода нырнула, перакруцілася. Ягор выпусціў шост і каўзануўся пад калоду. Вада хлынула ў рот і нос. Палілася за шыварат. Ён узмахнуў рукамі, і

пырскі паляцелі над галавою. Картоўка надулася ад вады, і,здавалася, на нагах павесіў хтосьці пудовік. Тады Ягор мацней забіў рукамі, нібы пліцы парахода, і, як у моладасці, кінуўся на выперадкі хваль. Вось ён схапіў крайнюю калоду і пераваліўся цераз яе. Калода нырнула, загушкалася грабёнка, і Ягор рухава ўзлез на яе. Рыжыя цурочкі кацiліся з картоўкі.

— Лоўка, Ягор, малайчына хлопец, — казалі з плыта.

Ягор паглядзеў на людзей, страсянуў плячыма, і пырскі паляцелі дробнымі іголкамі. Грабёнка патанула глыбей, захадзіла і затрэслася пад нагамі. Вясёлымі вачыма паглядзеў ён на плыты.

Да яго падплывала лодка. Кірыла з усяе сілы налягаў на вёслы. Нос дуба падняўся ўгару, а за кармой расступалася вада шырокай баразной. Сож шумеў і пеніўся.

— Ну і дурань жа ты, Кірыла, ці я адзін не даплыву? — гаварыў радасны Ягор і кіраваў да плыта. Максім глядзеў і смяяўся. Ён даўно працуе дубовікам, але такога хлопца сустракае ўпершыню.

— Так, Ягор. Хвацкі малец ты.

— Добра кажа ж, дзядзька Максім.

— Слаўна, вельмі слаўна...

— А то як жа інакш. Мой дзед, калі быў яшчэ малады, то ў часе разводдзя на адным бервяне пераплыў шырыню Сожа. З гаспадаром канторы заклаўся аб чырвонцы. Кажа, не пераплывеш, а дзед — не твая справа. Грошы рыхтуй. Пераплыву... А калі затону, на жонку перавядзі. Ну і пераплыў, і грошы дзесяць рублёў узяў, — хваліўся Ягор.

Кірыла плыў услед за грабёнкай і кляў сябе:

— Ці я маленькі, не дапамог яму... А яшчэ стойку пасеч хацеў. Ён кідаецца ў ваду з галавою, клапоціцца за ўсю брыгаду, а я... Я баяўся плысці на адным бервяне.... Так, баяўся... — Яму зрабілася прыкра за самога сябе... Ён падняў далонь, каб абцерці кроплі вады з твару і міжвольна адчуў на пальцах буйныя слёзы. Некалькі кропель упала і пакацілася між пальцаў. — Няўжо гэта слёзы?.. — Так, ён неяк выраніў іх ад сораму перад брыгадай... Кірыла хутка выцер іх і паглядзеў на людзей... На яго ніхто не глядзеў... Тады ён прывязаў за апошняю грабёнку дуб і пайшоў на плыты да Ягора. Ён цяпер ніколі не будзе пярэчыць такому чалавеку.

Тым часам дождж супыніўся. Зрабілася надзвычай ціха. Уніз па Сожы, цынкам пакрытае неба апускалася на ваду. Было блізка апоўдні, калі караван крануўся ў дарогу. Абмытыя берагі блішчэлі і весела зелянела маладая, порсткая атава.

# КАЛІНА-ЯГАДА
*Апавяданне*

У маленькае акенца Банадысёвай хаты хтосьці барабаніў. Гаспадар палахліва ўсхапіўся з печы і закрычаў:

— Хто там?

У змроку восеньскага світання ён убачыў у вакне шырокі твар з бліскучымі вачыма. Твар шавяліўся, сілячыся адысці ад шыбы, ды, відаць, нейкая прычына трымала яго.

— Адчыні акно, не бойся, — сказаў твар.

— Зараз ужо, не спяшайся, — ціха гаварыў Банадысь.

Ляснула зашчэпка, і ў хату дыхнуў прадрассветны вецярок. Ён прынёс пах павяўшага лісця і блізкі арамат спелых антонавак. Чалавек пераваліўся праз акно грудзьмі.

— Што пану аканому трэба?

— Што?! — крыкнуў грозна аканом. — Ты не ведаеш? Нядоімку ты заплаціў? А падатак аддаў? Не? Ну дык вось ведай, да раніцы, пакуль сонца ўзыдзе, каб твайго і духу не было.

— Пане даражэнькі, злітуйся. Ну куды ж мне з малымі дзеткамі ісці?

— Вон! Каб нагі тваёй тут не было. Зямля панская, а ты, лайдак, жывеш ды вус пакручваеш, моў, пан Янткоўскі за мяне галавой думае. Э, ведаю я вас.

З печы пачуўся голас гаспадыні:

— Пан аканом, дайце часу, усё будзе.

— Усё? Часу табе даць, вось я зараз як прыйду, дык я табе дам часу, іш ты яе.

Падаконнік, як сцяна клеткі, не пускаў аканома ў хату, і ён за акном пырскаў слюною на Банадыся і трос кулакамі. Ды і сам пан аканом не хацеў уваходзіць у хату.

— Пане, ну што ж я дам? Апошняя кашуля на плячах, ды і тая ў латках. Злітуйся, пашкадуй.

— Заўтра пан Янткоўскі едзе, яму трэба грошы, і ты, лайдак, сёння заплаціш усё. Я з цябе сем шкур злуплю, — пагражаючы, сказаў аканом і адышоў ад акна.

Банадысь высунуўся з акна і крыкнуў услед аканому:

— Пане, змілуйся.

— Хоць бы кашулю якую купіць. На мэтлух разарваў усё. А купіць, дзе ж грошай дастаць? — гледзячы на Банадыся, сказала Ганка.

— Хіба прадаць самавар, — сказаў Банадысь. І тут жа прыкусіў губу. Ганка папраўляла пасмы валос і ўсхліпвала. Раптам яны пачулі голас:

— Банадысь!

— А-а!

— Пан пашкадаваў цябе. У пана будуць госці, вось пан і дарue табе ўсё.

— Каб нашаму пану доўгага жыцця за гэта, — сказала Ганка.

— Чакай, вось што ты павінен за гэта зрабіць. Ідзі ў лес, знайдзі каліну, выкапай і пасадзі яе перад палацам пана. Чуеш? Госці будуць любавацца ягадамі.

— Чую, пане, чую, усё зраблю. Добра. Да снедання ўсё зраблю, — узрадаваны, гаварыў Банадысь.

Калі аканом знік за хатай, Ганка сказала мужу:

— Ідзі ў Баравыя ляскі, там бачыла я каліну. Толькі не капай вялікі куст, не данясеш яго, у цябе і так грудзі баляць.

— Не хвалюйся, Ганка, нам жа падатак дараваў пан. А кашулю ты мне прыгадай. Нясі да купца самавар, усё роўна ён у нас так стаіць. Нясі, прадавай. Толькі таргуйся добра. Таргуйся глядзі. Ну, я пайду. — І ён, накінуўшы на плечы латаную світку, узяў лапату і пайшоў у лес.

У лесе ён доўга блукаў паміж арэхавых кустоў; жыдкія бярозавыя галінкі сцёбалі яго твар; сухое ламачча крывавіла босыя ногі. Банадысь змарыўся. Глуха кашлянуў і прысеў на гнілы пень крыху адпачыць.

Развіднела. Сонейка, прабіўшы праменнямі хмары, разліло млявае і скупое святло. Цяпер толькі Банадысь разгледзеў чорныя ягады крушыны. Яны маленькімі вочкамі глядзелі на яго з усіх бакоў. І ён прыпомніў:

...У галодны год ён збіраў іх і з жалудовымі праснушкамі еў. Яны падымалі ў жываце калючы боль, і Банадысь захварэў. Ганка, тады яшчэ прыгожая маладзіца, завіхалася каля хворага, даглядала яго. Мабыць, і смерць прыйшла б Банадысю, каб не чалавек з чырвоным аколышам на шапцы. Ён прыйшоў у хату, агледзеў Банадыся і пакінуў яму акраец хлеба, тры гарцы мукі, цукру і самавар.

— Паправішся, — весела сказаў чалавек і зірнуў яму глыбока ў твар.

— Жыві з намі, нам будзе лепш, — плачучы, упрашвала Ганка.

Але чалавек пайшоў. З таго часу Банадысь збярог самавар, як самае лепшае шчасце. Ён на малінніку настайваў ваду, і чай быў крыху кісленькі, але вельмі прыемны. Ім нават і гасцей можна было частаваць. «Ах, што за чалавек быў той, і не прыйдзецца

мне яго пабачыць, мяжа праклятая не пускае. Эх, жыццё-быццё, лапкі малінавыя», — і Банадысь прыпадняўся з пня і пайшоў у глыб лесу.

Ён хутка знайшоў каліну. Стаяла яна ў лагчыне, парасонам раскінуўшы чырвоныя ягады. «Глядзі, якая красуня», — зашумела яе лісце. Куст быў высокі; ад кораня роўнымі цыбукамі разрасталася ў сцябло кляновае вецце. Банадысь уткнуў лапату ў мяккую зямлю і акінуў поглядам куст. Яму падабалася каліна. Невялікая, а галоўнае, ягад нібы хтосьці сумысля навязаў.

І пачаў ён абкапваць паўкругам куст. Доўга вазіўся з кустом, нарэшце, выкапаўшы, узваліў на плечы густое вецце і накіраваўся дадому.

«І Ганка ўзрадуецца. Гэта такі куст. Яна, пэўна, і кашулю мне купіла», — думаў ён.

Дрэвы не пускалі Банадыся з кустоў. Чалавек напружваўся, збіраў апошнія сілы, крахтаў і цягнуў каліну. Каб не абсыпаліся ягады, Банадысь павязаў крону бярозавай галінкай, зняў з сябе світку і накінуў яе на каліну.

— Так выгадней будзе, — сказаў ён і зноў упрогся ў шырокі куст. Зямля цярушылася з корня і часам падала на ногі. Чалавек гэтага не заўважаў. Ён не бачыў, як зачапіўся за латку сук і разарваў рукаў. Банадысь спяшаўся. Таму і не адчуваў ні пяціпудовага цяжару на плячах, ні зморанасці ў целе. Ён раз-поразу спыняўся, перакладаў куст з пляча на плячо і волакам цягнуў яго па сцежцы. Адчуў адразу ўсё тады, калі едкая рэзь падступіла пад сэрца.

— Ой-ёй-ёй, што ж гэта такое?!

Да хаты яшчэ заставалася гоняў двое, але сілы не было. Банадысь паставіў куст на дарогу, і сам расцягнуўся на трыпутніку.

— Ці не смертухна прыйшла, бацэнькі, — енчыў ён, варочаючыся з боку на бок.

Сонейка ўзышло і высока стаяла на небе. Яно сагравала сіняе, з бугаркамі ад холаду, цела. Банадысь плакаў без слёз і калаціўся. Ён ужо і ўзняцца не можа. Боль быў такі моцны, што нават ні адзін мускул не мог рухацца.

— Хоць бы кіпятку, кішкі пагрэць бы. Гора ты... — і ён успомніў, што цяпер самавара не будзе. Ганка прамяняла яго на кашулю. «А можа, яна пашкадуе».

— Пашкадуй, Ганначка, пашкадуй, — ён думаў сказаць самавар, але з губ сарвалася другое, — пашкадуй мяне, дзетак... Пашкадуй. Ой, — стагнала пад ім зямля. «А ты прыпадніміся», — сказаў ён, і папрабаваў узняцца. Упёрся локцямі ў зямлю, сагнуў

калені, прыпадняўся. Усё ж сілы знайшлося, каб узняцца з прыдарожжа. Стаў на ногі і зірнуў на лес. Чорная палоска лесу была тут, побач, а прабуй ісці — набярэцца кіламетры два. І Банадысь, як шалёны, ішоў з лесу, несучы куст. І не ўгледзеў ён двух кіламетраў.

— Ка-лі-на, — прашаптаў Банадысь і пахіснуўся. Яго ніхто не трымаў, і ён бразнуўся на дарогу. Боль у жываце ад гэтага зрабіўся больш рэзкі.

— Ой, — сарвалася з губ. І чалавек у знямозе закалаціўся ўсім целам. — Вось калі прыйшла смерць, — ледзь вымавіў ён і больш не шавяліўся. Так Банадысь ляжаў гадзіны дзве. Ніхто не бачыў яго збялелага твару і пасінелых латыкоў цела. Толькі сарока ляцела, дзеўбанула чырвоную ягаду, і, убачыўшы чалавека, з крыкам шмыгнула ў лес. А ён, надарваўшы сябе, пад калінай ціха і нерухома ляжаў.

Той дарогай ішла Ганка. Яна несла квяцістую паркалёвую кашулю і тры злотых у кішэні. Ганка спяшалася. «Хоць бы прыйсці да абеду. Няхай бы Банадысь надзеў новую кашулю, а то пан не пусціць блізка да палаца. Зноў патрэбуе падатак».

Жанчына з тае прычыны і на трыццаць грошаў пратаргавалася. «Ах, ліха на яго галаву. Хто нас толькі ні крыўдзіў»...

Папраўдзе, ёй шкада было самавара. Яна прыпомніла таго добрага чалавека, які пакінуў ім самавар. Ён, здаецца, быў доктарам, усё разумеў пра хворых. Выйшла Ганка з-за павароту дарогі і ўбачыла куст. Яна спачатку не здагадалася. А як падышла бліжэй, узрадавалася. «Вось добра, што адпачывае, цяпер удваіх панясем», — сказала яна і трухам пабегла да Банадыся.

— Навошта табе несці было гэтакі куст?

Чалавек маўчаў. «Пэўна, заснуў, у такую рань будзіць трэба было. Эх, і ліха іх не бярэ, — злосна гаварыла Ганка. — Ну паспі, паспі».

Яна нагнулася над Банадысём, убачыла збялелы твар, збянтэжана ўсклікнула:

— Ой, ратуйце! — прыпала да шчакі і схамянулася. — Родненькі, Банадыська мой, устань...

Банадысёвы шчокі нерухома стылі пад ветрам.

— Памёр, ой, людцы, — і залілася горкімі слязамі. Рвала на сабе валасы, крычала, плакала. Яе ніхто не бачыў, і адтаго адзіноцтва мучыла і ўпівалася ў сэрца. Доўга яна ў знямозе ляжала, росячы твар слязамі і, выплакаўшы боль над гаспадаром, села ля яго. Новая кашуля ляжала пад нагамі. Ганка зарухалася,

адкінула нагой кашулю ў самы пыл і заплакала.

— А хто ж маіх дзетак узгадуе... Забрала ты, зямелька, кармільца майго, бяры і мяне з ім. — Потым падняла яго за адубелыя плечы, палажыла сабе на калені і звесіла на грудзі галаву.

— Банадыська, а мой жа ты даражэнькі. Ну, прачніся, паглядзі на свет, на сонейка...

Восеньскае поле адказала маўчаннем. Далёка дзесьці дрыжэла зямля, а навокал была сонная цішыня. Невядома, колькі Ганка сядзела. Разбудзіў яе голас аканома.

— Дарую табе ўсё. Беражы маёнтак, скарб. Мы пакідаем усё, — ён сядзеў у фаэтоне. Пара стаеннікаў гарцавала па дарозе. За ім яшчэ цягнуліся падводы з панскім дабром. Ганка глядзела і маўчала. Яна нічога не разумела. Толькі праз гадзіну моцны гул, ад якога задрыжэла сэрца, схамянуў яе.

— Забілі ці сам памёр? — спыталіся ў яе невядомыя людзі ў шлемах.

Яна не разумела, чаго хочуць ад яе, але ўсё ж, убачыўшы нейкую вялікую машыну, сказала:

— Памёр... Надарваўся. Ой, што ж мне рабіць?

Незнаёмыя людзі паднялі чалавека. Аднекуль прыехала аўтамашына з чырвоным крыжам. Банадыся ўнеслі ў машыну.

— Ну, сядайце, паедзем.

— Куды ж вы? Яго трэба памыць, ды і кашулю адзець. — Яна падняла кашулю і наважылася яшчэ штосьці сказаць.

— Нічога нам не трэба. У нас усё сваё ёсць. Сядайце, паедзем разам.

— А каліну? — незразумела і баязліва вымавіла Ганка.

— Каліну?

— Ён нёс пану Янткоўскаму, каб у садзе пасадзіць яе... І надарваўся, — і ў сполаху, што прагаварылася, дадала:

— А вы хто?

— Мы — чырвоныя…

Тады яна кінулася да чалавека ў кожанцы і пачала плакаць. Плакала ад радасці.

— А каліну мы пасадзім на магілу, — сказаў хтосьці.

Ганка глядзела на людзей, на вялікую іх машыну і думала: дзе ж той добры чырвоны, што даў ёй самавар? І, прыпомніўшы кашулю, мужа, здрыганулася і спытала:

— Цяпер вы будзеце з намі? Мілыя мае, даражэнькія...

Нарастаючы гул савецкіх танкаў плыў над полем. Ён ішоў роўна і бесперабойна, так, як прыходзіць з усходу сонца.

# Творы ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ВЫПАДАК У ДАРОЗЕ

Аднойчы ўвечары бацька збіраўся адвозіць пошту на станцыю. Упакаваў пісьмы ў брызентавы мяшок і чакаў шафёра. Неўзабаве затрубіў ражок, і да ганка пошты пад'ехаў аўтамабіль.

Я пачаў прасіць бацьку ўзяць мяне з сабою, але ён і слухаць не хацеў. Тады я непрыкметна залез у аўтамабіль. Бацька прыйшоў, адчыніў дзверцы і здзівіўся:

— А ты ўжо тут?.. Ну што ж, паедзем, калі так.

Машына рванула з месца, і мы паехалі. Шасэйная дарога перасякала вялікі лес, а за лесам рэчку. Гэта дарога мне знаёмая: я часта прыходзіў у грыбы сюды. Але далёка ад дарогі, у глыб лесу, я баяўся заходзіць.

Мы ехалі лесам. Святло ад фараў прарэзвала цемру і далёка асвятляла дарогу. Абапал шасэ ноч здавалася чарнейшай. Я выставіў руку і адчуў густы цёплы вецер. Лес спаў. Ніхто не парушаў яго цішыні. Машына спакойна імчалася па новай, пасыпанай гравіем дарозе. Раптам бацька крануў мяне за руку:

— Паўлік, глядзі, вунь заяц...

Я нахінуўся наперад і цераз плячо шофера ўбачыў, як шэры заяц перабягаў дарогу. Электрычнае святло асляпіла яму вочы, і таму ён выправіўся ўздоўж па шасэ. Машына даганяла яго. Мне стала шкада зайчыка.

— Татка, мы ж яго задушым...

— Не задушым, машына ідзе памалу, — адказаў бацька, і я супакоіўся.

Затрубіў ражок: шофер хацеў сагнаць зайца з дарогі. Заяц памкнуўся збочыць, але ў лесе стаяла страшэнная цемра; і яму, мабыць, здалося, што гэта сцены. Таму ён зноў паімчаўся белаю дарожкай.

Хутка мы ўз’ехалі на мост. Заяц быў ад нас на некалькі крокаў. Зноў затрубіў ражок. На гэты раз насустрач ехала падвода. Шофер спыніў машыну. Я захваляваўся ад цікавасці.

— Чакайце, я яго злаўлю, — крыкнуў я.

Вылезлі мы з бацькам і пабеглі за зайцам. Падвода ехала паціху, а спераду яе ішоў чалавек; ён свіснуў і таксама пабег да зайца. Заяц апынуўся паміж людзей на асветленым мосце. Доўга не думаючы, ён скокнуў уніз.

— Бяжым, ён жа ўтопіцца.

— Выплыве, — сказаў бацька, і мы пабеглі на бераг.

У вадзе штосьці варушылася. Наўрад каб гэта быў заяц. Ён, напэўна, разбіўся, падаючы з высокага моста. Мы падышлі і нагнуліся над вадою. Я глядзеў на чорную роўнядзь рэчкі. Зайца не было. Бацька павярнуўся, сабраўся ісці ў аўтамабіль, але пачуў мой крык:

— Вось ён, татка...

Заяц выплыў на бераг, недалёка ад мяне. Я схапіў яго за вушы, але ён ірвануўся, ударыў нагамі, і я паляцеў у ваду. Моцна сціснуўшы звярка за вушы, я не выпускаў яго з рук. Рэчка была неглыбокая каля берага, і я лёгка выбраўся з яе.

— Злавіў усё-такі, хоць і парваў ён мне кашулю, — паказаў я з вялікай радасцю зайца.

Бацька пагладзіў перапалоханага звярка і пахваліў мяне.

Мы селі ў аўтамабіль, абмінулі падводу і паехалі далей.

Наперадзе віднелася ўжо станцыя, а хутка прымчаўся і поезд.

## ШЭРАК

Яшчэ ў маленстве Панасік наламае галінак у садзе, утыркне іх у зямлю, а між імі паставіць бульбяных каровак і ціхенька прыкрыкне:

— Э-э, куды, куды, бурая, — і спрытным рухам рукі прасоўвае іх паміж галінак, уяўляючы сапраўднае стада.

Тады Панасік бегаў пад сталом, і ніхто яго не трывожыў. Бацька часам паглядзіць на бульбяных жывёл, засмяецца і скажа:

— О, табе б, брат, сапраўднае стада пасвіць... Вельмі ж ты любіш каровак.

А як падрос крыху Панасік, сам пайшоў да дзядзькі Міхася ў падпаскі. Па лясной мураве ходзяць калгасныя каровы. У іх

плоскія і шырокія ілбы з тупымі і крывымі рагамі. Толькі бык меў круты і віхрасты лоб, вострыя і прамыя рогі з саламяным адценнем... Ён быў шэры ўвесь, таму і празвалі яго Шэрак. Панасіку падабаўся бык сваёю рахманасцю і паслухмянасцю. Бывала, увечары, як гоніць Панасік кароў праз вёску, Шэрак не бегае па гародах. Ён ціха ідзе ўслед за каровамі і толькі часам падыме на рогі таго ці другога сабаку ды перакіне праз плот. Панасік тады смяецца і праз зубы крыкне на быка:

— Ідзі, ідзі, Шэрак... Ідзі...

Бык паглядаў на пастушка і бокам рухаўся па вуліцы, злосна пазіраючы вакол.

Нешта раз, ходзячы са стадам па лесе, Шэрак адстаў і зблудзіўся. Дзядзька Міхась пагнаў стада дамоў, а быка не было. Тады Панасік пабег у лес шукаць Шэрака. Увайшоў у кусты, аж чуе — нейкі глухі рэў коціцца па лесе. Панасік прыпыніўся. Паглядзеў на дзядзьку Міхася, той быў далёка з каровамі. Нейкая боязнь ахапіла хлопчыка. Сінія змрокі клаліся на зямлю. Доўгімі шапкамі ценяў хісталіся дрэвы навокал.

Зрабілася страшна.

«Можа, ваўкі?»

Гул пачынаў шырыцца, а затым пачуўся нейкі трэск, глухі і працяжны рэў.

Пасмялеў Панасік. Ён пачуў голас свайго любімага быка і зараз жа паімчаўся ў лес.

Яго твар сцёбалі тонкія галінкі арэшніку, а сухое ламачча крывавіла босыя ногі.

Выбег Панасік на паляну і здзівіўся. Крукам схіліўшы шыю, наступаў Шэрак на мышастага быка. А той пружыніў карак і лаўчыўся ўдарыць Шэрака крутымі рагамі ў бок. Быкі спрытна круціліся, сутыкаліся лбамі і падымалі нагамі пыл.

Панасік увесь закалаціўся, бо вельмі ўжо шкадаваў Шэрака.

— Шэрак мой, Шэрачок, — паклікаў ён.

Бык злосна зароў, крута сагнуў галаву, збіраючы гармонікам складкі на шэрай шыі, і забіў капытом па зямлі. Аднекуль падаспеў пастушок з суседняга калгаса, і Панасік з ім разбараніў быкоў, потым падышоў, прылашчыў Шэрачка і ўбачыў здзёрты карак. Шматкі поўсці ляжалі на пабітай галаве.

Шэрак быў дужэйшы і спрытнейшы. Але ўсё ж, пакуль Панасік разганяў сярдзітых жывёл, у Шэрака на шыі застыла кроў.

— Бычок мой... Шэрачок... — гаварыў Панасік і разглядаў рану.

Рана была вузкая і глыбокая. Панасік у душы пашкадаваў быка і моўчкі пагнаў яго дамоў. Шэрак ішоў з упалымі бакамі, сярдзіты і злосны. І толькі праз два тыдні на месцы здзёртай скуры абрасла маладзенькая і тонкая, а неўзабаве пачала вырастаць і шэрсць. У часе хваробы Панасік браў з сабою карболку і ёд. Ён тры разы на дзень змазваў рану. Мусіць, таму і звыкся Шэрак з Панасікам, каб аддзякаваць яго за турботы.

Бывала, лягуць каровы дзе-небудзь каля кустоў, а Панасік з Міхасём пойдуць абедаць пад кучаравы дуб, — і зараз жа ціхім крокам ідзе за імі Шэрак.

Аднойчы каровы хадзілі па іржышчы. Неяк ухадзіліся паабапал дарогі, што вяла ў вёску, і ходзяць спакваля. Панасік глядзіць на каровак, лепш ад усіх падабаецца яму шэры бык, з доўгай і моцнай шыяй. Так і хочацца лашчыць яго. Панасік устаў з абочыны дарогі і намерыўся ісці да Шэрака. Раптам чуе голас Міхася:

— Панасік, уцякай, сабака шалёны...

Зірнуў Панасік на дарогу і бачыць — проста на яго бяжыць чорны вялікі сабака. Худыя рэбры выпіраюцца праз скуру. Хвост валачэцца па іржышчы. Рот раскрыты, а пена камкамі так іваліцца на зямлю. Куды хавацца? Куды ўцякаць?

— А-яй-яй! Ратуйце!! — Панасік ірвануўся, сабраў усю сілу і шпарка-шпарка пабег да бярозы. Мімалётна паказалася, нібы сабака ззаду, і вось чуваць глухі тупат яго ног. Хлопчык закрычаў мацней:

— Ратуйце-е!

Крокаў трыццаць ад Панасіка бег змораны шалёны сабака. Каровы заварушыліся, павярнулі галовы да яго і дзіка зараўлі. Блізка-блізка чуваць голас Міхася:

— Панасік, хутчэй, хутчэй!

Сіла пакінула Панасіка, і ён зваліўся. У гэты момант бык убачыў сабаку і мігам кінуўся на яго. У два прыжкі Шэрак дагнаў сабаку. Ударыў вострымі рагамі ўбок, падняў высока і сярдзіта кінуў вобземлю. Тады яшчэ раз прыпадняў рагамі і адкінуў далёка ад сябе. Дзядзька Міхась бачыў усё гэта. Ён прыбег да Панасіка.

— Панасік, уставай, — Міхась паклаў галаву на рукі, выняў бутэльку вады з торбы і абліў Панасіку твар.

Шэрак падышоў да іх і, мусіць, адчуўшы няшчасце, ласкава глядзеў на Панасіка.

— А сабака дзе? — апрытомнеўшы, спытаў хлопчык.

— Шэрак забіў яго. Вунь глядзі.

Пастухі глядзелі на распораты крывавы жывот сабакі і халодныя адкрытыя вочы. Паджарыя бакі былі акроплены крывёй.

Бык круціў галавой і працяжна мыкаў. Панасік падышоў да Шэрака, выняў кавалак хлеба, што быў на полудзень, і даў быку. Потым абняў мускулістую, моцную шыю і прыхінуў да яе галаву:

— Еш, Шэрачок, еш. Дома я табе канюшыны дам. Ты ж разумееш усё, усё, — размаўляў Панасік з быком.

А крыху пазней, на дарозе, следам сабакі, ехаў калгаснік з дубальтоўкай. Потны і гарачы конь кінуўся ўбок, спалохаўшыся сабакі. Міхась расказаў ездаку пра сабаку. Калгаснік слухаў і дзівіўся.

## ПРА ВАВЁРАЧКУ І КОШКУ

Аднойчы Толеў бацька прынёс з лесу маленькую вавёрачку. Толя, убачыўшы пушыстага звярка, аж заскакаў ад радасці. Ён узяў вавёрачку на рукі і пачаў асцярожна разглядаць яе.

— Паглядзіце, якая яна прыгожая... А роцік які! І вусікі, як у ката...

Не выпускаючы звярка з рук, ён наліў у сподак малака і паставіў на ўслон. Вавёрка чыхнула, абмачыўшы губы, і адскочыла ўбок. Толя зноў злавіў яе і падсунуў сподак з малаком. Але вавёрачка ўпіралася, не хацела есці.

— Не бярэ... што ж рабіць? — задумаўся Толя.

У гэты момант прыйшоў Міколка. Толя расказаў таварышу пра сваю бяду. Той выслухаў і параіў:

— Ведаеш што, у нас ёсць кошка з кацянятамі. Давай занясем вавёрачку да іх.

— А калі кошка задушыць?

— Не задушыць. Мы самі будзем стаяць пры ёй.

Толя згадзіўся. Ён узяў вавёрачку, прытуліў яе да грудзей і моўчкі пайшоў за Міколкам. У хаце Міколка дастаў з-пад ложка старое рэшата з кацянятамі. Толя выняў сляпога рудзенькага кацянёнка і пацёр аб вавёрку. Потым па адным выняў двух другіх і гэтаксама пацёр, і тады ўжо паклаў вавёрку ў лубок. Міколка прынёс кошку. Кошка абнюхала маленькіх дзетак, замяўкала і лягла ў лубок. Да яе саскоў пацягнулася трое кацянят. Пачуўшы пах малака, да кошкі пацягнулася сваёй мордачкаю і вавёрка.

— Глядзі, глядзі, як яна ссе, — цікавіўся Міколка.

— Ціха ты, не палохай, — ласкава гаварыў Толя.

Кошка паглядзела на хлопцаў, а потым павярнула галаву і аблізала вавёрачку.

— Ну, цяпер будзе жыць, — радаваўся Толя.

Праз тыдзень вавёрачка вылучалася сярод кацянят сваёю жвавасцю і непаседлівасцю. Яна выходзіла з лубка, і, калі быў у хаце сабака, дражнілася з ім. Толя часта наведваў сваю вавёрачку і прыносіў ёй малако.

Аднаго разу, калі Толя і Міколка былі на двары, у хаце гасна замяўкала кошка. Хлопцы ўбеглі ў хату. На падлозе сядзела ўстрывожаная кошка і клікала вавёрачку. Трое кацянят тоненька пішчэлі і туліліся адно да аднаго.

— Гэта ж яна вавёрачку кліча, — усклікнулі ў адзін голас хлопцы.

— А куды ж яна падзелася? — занепакоіўся Толя.

Кошка мяўкала, скрэбла кіпцюрамі па падлозе, абнюхвала кожную рэч, але не знаходзіла вавёрачкі. Ёй дапамагалі шукаць і хлопцы.

— Ну куды ж яна падзелася? — ледзь не плакаў Толя.

Нарэшце Міколка ўбачыў на акне кавалак шэрсці.

— Бач, гэта ж яна праз шыбу вылезла! — ускрыкнуў Міколка.

Вавёрачка ніколі не была на двары, і таму трывога ў хлопцаў узрастала. Але ў гэты час кошка кінулася да акна, радасна замяўкаўшы. Праз шыбу лезла назад вавёрка.

— Ах ты, рыжая, напалохала толькі нас, — падбег да яе Толя.

— Дзе ж ты была? — запытаў Міколка і хацеў узяць звярка ў рукі.

Вавёрка скокнула з падаконніка і пабегла да кацянят.

Потым вавёрка ўсё часцей пачала выбягаць на двор, але гэта хлопцаў ужо не трывожыла. Яны прызвычаіліся, што вавёрка заўсёды варочалася назад.

Раз пад вечар, калі вавёрка варочалася з прагулкі, ля хаты яе акружылі сабакі.

Вавёрка ўскочыла на высокі кол і пачала дражніцца з сабакамі. Сабакі бегалі каля плота, але дастаць вавёрачку не маглі. Асмялелы звярок, бачачы, што сабакі не змогуць дастаць яго, выгнуў цела дугою і скокнуў з плота на страху. Струхлелая салома абламалася, і вавёрачка паляцела на зямлю. Злосныя сабакі ўмомант накінуліся на яе. Вавёрачка прарэзліва закрычала...

На вавёрчын крык маланкай выскачыла кошка. Яна расправіла вострыя кіпцюры і ўскочыла на першага трапіўшага ёй

сабаку. Сабака заскуголіў, закруціўся ад болю, а астатнія што-сілы пабеглі прэч. Кошка рвала кіпцюрамі сабаку спіну. На гэты лямант прыбеглі людзі з суседніх двароў і абаранілі сабаку. Вырваўшыся з каціных лап, сабака паімчаўся без аглядкі па вуліцы.

Пра смерць вавёркі Міколка з Толем даведаліся ўвечары. Яны вельмі шкадавалі любімага звярка.

## ВУЛЕЙ

Бацька мой — пчалавод, але ніколі не пускаў мяне на пасеку. Тады я сам рашыў завесці пчол. Адною раніцой цёплага летняга дня ішоў я з лугу і ў прыгаршчах нёс соты. Па дарозе сустрэў Міхасёў Кірылка, паглядзеў на соты і сказаў:

— Толічак, гэта ж чмялі...

— Дык я сам ведаю... Але я хачу, каб яны жылі ў нашым садзе.

Мы крыху параіліся і згадзіліся занесці соты на луг. На лузе скачуць конікі, а па кветках лётаюць чорныя з шэрымі крылламі чмялі і пчолы. Над лугамі стаіць салодкі гуд, нібы там хто глуха іграе...

Адшукалі чмялінае гняздо сярод густой травы. І вось чую — каля вуха чмель лётае. Я яго не спалохаўся, прыгнуў галаву і палажыў у ямачку соты, а Кірылка ўцёк. Дагнаў яго на мяжы і кажу:

— Кірылка, пойдзем у лес вулей рабіць. Толькі ты не кажы пра чмялёў нікому.

Увечары прынеслі берасцяны кругленькі вулей.

Кірылка ціхенька выняў гняздо. Чмялі загудзелі, а большы з іх паставіў крыллі і дзынькаў імі так зычна, што ў мяне ў вушах зазвінела. Шчасце наша, было ўжо цёмна і, мусіць, чмялі спаць сабраліся. Дужа злосныя... Хабаток выставяць і звоняць махнатымі крылламі. Гэтак яны распаўзліся і гудуць. Я хуценька паклаў два кавалкі сот у вулей, і селі мы чакаць, покуль яны ўлезуць у яго. А чмялі сумысля поўзаюць ды спакваля дзынькаюць і шукаюць гнязда.

Адзін — на пушыстых ножках — паўзе паперадзе, а за ім ланцужком і астатніх дзесяць. Панеслі мы сваіх пчол у сад. Паставілі ў пырніку бліжэй да канюшыны і пайшлі дадому.

— Кірылка, ты не трывож іх без мяне. Дні праз два яны нанясяць мёду. А чмяліны мёд такі салодзенькі-салодзенькі...

Так мы разышліся дадому. А ноччу я не мог заснуць. Прад вачыма стаялі махнатыя рыжыя і чорныя чмялі. Яны лёталі і звінелі, быццам іх патрывожыў хто. Здавалася, нібы каля кожнага дрэва стаялі вуллі. Бацька мой з зайздрасцю глядзіць на мяне як на сапраўднага пчаляра. Нават суседзі прыходзяць паглядзець нашых чмялёў. А мы з Кірылкам аж расцем ад радасці. Сад гудзіць чмялямі, а па садзе прайсці нельга.

— Толя, Толічак, — пачуў я праз сон і зараз жа ўстаў. Праз шыбу пралазіла сонца і белым касячком клалася на падлогу. Каля мяне стаяў Кірылка.

— Толічак, чмялёў абярнулі... Хто гэта так?

— Не можа быць... Вулей стаяў у траве. Яго ніхто не бачыў. Можа, і чмялёў няма, — ледзь не плачучы, гаварыў я.

Затым мы выскачылі на двор і пабеглі ў сад. Зялёныя яблыкі буйнымі вузламі сядзелі між лістоў, а грушы-бэры звісалі, як пчаліны рой на галінцы. На траве блішчэў вулей. Я беражліва паставіў яго і прысеў на зямлю. Чмялі адзін за адным вылезлі з акенца і паляцелі на кветкі. Крыху счакаўшы, Кірылка сказаў:

— Пойдзем. Яны за мёдам паляцелі.

Калі мы прыйшлі ў хату, бацька снедаў, а маці паглядзела на мяне здзіўлена і сказала:

— Ну што, сынок, Мірсік наш здохне. Паглядзі, які ён стаў.

У куту, воддаль дзвярэй, ляжаў сабака. Яго доўгая пыска зрабілася вялікай і смешнай. Я падышоў да яго.

— Мірсік, Мірсічак, — але сабака не рухаўся. Ён паджаў хвост і моўчкі высоўваў язык, каб аблізаць пыску.

— Ну што, памрэ, — што будзем рабіць?..

— Мамка, ды гэта ж яго чмель укусіў...

У чорнай пакудлачанай поўсці заблытаўся чмель і бяссільна сядзеў, апусціўшы крыллі.

— Ах ты, Мірсічак, ты мой вулей абярнуў... Чаго ж ты бегаў там?..

Мне стала шкода нашага сабаку. Я пачаў яго лашчыць, а Кірылка і блізка не падыходзіць.

— Цяпер сабака здохне? — запытаўся я.

Тады бацька супакоіў мяне:

— Сабакам патрэбна ядомая трава. Зуб перамарыць. Вось ён і хадзіў па садзе. А ты, сынок, ніколі не чапай чмялёў. Яны не пчолы, і жыць у вуллі не будуць. Калі ты ўжо любіш пчол, хадзем са мной на пасеку. І Кірылка таксама няхай ідзе.

— А Мірсік наш будзе жыць. Яго чмель укусіў, — болей я нічога не мог сказаць.

Добра, што бацька бярэ на пасеку. Мы будзем глядзець, як

носяць пчолы на лапках ружовы воск і салодкі мёд.

А ўвечары, ідучы з пасекі, я забег у сад. Мой вулей блішчэў, нібы белы букет, і ціха стаяў у траве.

Чмялёў не было. Яны разляцеліся невядома куды. Тады я ўзяў вулей, закінуў кудысьці далёка і, звесіўшы галаву, пайшоў дамоў.

## ЦІКАВЫ ЗВЯРОК

Мы знаходзіліся ў бабровым гадавальніку. Тры пушыстыя бабры ціха поўзалі па падлозе. Адзін з іх — вялікі, з шырокім тоўстым хвастом, пакрытым нібы скурай яшчаркі, — павёў доўгай мордачкай у наш бок, быццам выхваляючыся:

— Во які я прыгожы.

І сапраўды, бабёр быў даволі-такі прыгожы. Калі я зірнуў на двух меншых, успомніў адну гісторыю.

Аднойчы я прасачыў бабровую хату і па заданні Акадэміі навук намерыўся злавіць яе гаспадара. Месца, дзе знаходзілася хата бабра, наўкол забалочанае і топкае. Блішчыць дзе-нідзе вада з травой — рагозам, ды па берагах такой забалочанай рэчкі густымі купкамі расце сакавітая зялёная лаза. Я ўзяў невад і пайшоў на балота, але тут жа падумаў: «Не, аднаму мне бабра не злавіць». На шчасце, сустрэўся з двума паляўнічымі; параіліся і рашылі раніцой на другі дзень выйсці на рэчку, дзе былі бабры.

Усю ноч я амаль не спаў. Час цягнуўся вельмі доўга, і перад вачыма стаяў пушысты плоскахвосты бабёр. Раніцой да мяне прыйшлі паляўнічыя, і мы ўтраіх пайшлі на рэчку. Прыйшлі, абкружылі хату і тут жа зацягнулі невад, трымаючы за доўгія крылы. Адзін з нас пайшоў на бераг, каб палохаць з хаты бабра. А хата бабра будуецца надзвычай цікава. На сухі бераг прыносяць гэтыя грызуны розныя ламачыны і складваюць адну да адной, вымазваючы ўсё граззю. Потым унутры робяць мяккую пасцель і некалькі выхадаў у ваду.

Дык вось, стаіць наш паляўнічы на хатцы і стукае палкай.

— Ацю, вылазь, чаго там сядзіш?

Я трымаю крыло невада і думаю: «Можа, ён даўно не жыве ў хатцы, можа, гэта леташняя? Трэба выходзіць з вады».

Пэўна, тое самае думаў і другі паляўнічы, што трымаў невад. А той, што стаяў на хатцы, усё крычаў:

— А ну вылазь, годзе ўжо.

Раптам мой таварыш нешта крыкнуў, а я пачуў моцны рывок

невада і ледзь стрымаўся на нагах. Кінуліся мы на бераг цягнуць невад з вады.

— Дапамажы, — крыкнуў я таварышу і каўзануўся ў ваду. Умомант мне зрабілася сорамна за сябе. Нейкая ламачына падвярнулася пад ногі, і я паваліўся.

«Эх, думаю, прапаў мой бабёр», — і, насцярожыўшыся, устаў па-маладзецку, зірнуў на чорныя вочкі невада. Зірнуў і кумельгам кінуўся на бераг. Там біўся бабёр, заблытаўшыся ў невадзе. З яго пушыстай шэрсці, чорнай і бліскучай, сцякала вада.

— Трымай, — крыкнулі мне над вухам.

Я хапіў рукамі за яго хвост і пацягнуў да сябе. Да мяне падскочылі таварышы, і мы злавілі вадзянога звярка. Узялі за лапы, пасадзілі ў мяшок і накіраваліся ісці дадому. Напалоханы звярок пачаў жаласліва пішчэць. Яго піск нагадвае радаснае скуголенне сабакі.

«Пусці мяне, пусці», — здаецца, гаварыў ён за спіною.

Тым часам паляўнічыя скруцілі мокры невад і дагналі мяне.

— Давайце паглядзім, мабыць, гэта самка. Кажуць, што бабры плачуць, можа, яна плача па дзецях, — сказаў я.

Мы вынялі бабра з майго мяшка і ўбачылі на грудзях, бліжэй да пярэдніх ног, два белыя саскі. Сумнення не было, што там, у хатцы, засталіся дзеці.

Ім цяжка будзе без сваёй маці, але што нам рабіць. Разбураць хату бабра нам не дазволена, а пакідаць малых, якія ссуць матчына малако, азначае пагубіць іх. Мы параіліся і рашылі ўзламаць хату.

Прыйшлі да рэчкі. На беразе шуміць лаза і нізка хіліцца да вады. Адзін з нашых паляўнічых выламаў лазовы сук і пачаў намацваць бабровы выхад. Потым нешта падумаў і кінуўся разграбаць рукамі верхні, правы схіл бугарка, у якім было гняздо.

Мы вельмі ўзрадаваліся, калі ўбачылі ў чорнай разгрэбанай нары маленькіх звяркоў. Старанна і асцярожна выняўшы іх з гнязда, пачалі аглядаць. Малыя былі падобны да шчанят, толькі чорныя, з блішчастай аксамітнай шэрсцю. Мы глядзелі на іх, нібы на якоесьці шчасце. Звяркі былі маленькія і бездапаможныя. Я ўзяў на рукі, прыгарнуў да сэрца дзве кволыя істоты, і мы хутка пайшлі дадому. Сустрэчныя людзі дзіўна пазіралі на нас.

— Што гэта за звяркі? — пыталі яны.

— Бабры, — гаварыў я і, не спыняючыся, ішоў дадому.

Дома пасадзілі маці-бабрыху ў пустую бочку і ціха падпусцілі да яе бабранят. Старая паднялася, села на заднія лапы і выставіла набухшыя малаком саскі. Малыя павярнулі мордачкі і пацягнуліся да саскоў.

— Глядзі, дзеці яе, — сказаў я сваім таварышам.

Так маці сядзела, покуль накарміла малых. Потым мы прынеслі маладых галінак лазы, але старая не прымалася іх грызці.

Так яна прабыла дзень. Мне зрабілася шкода звярка, і я выпусціў яго з бочкі на агарожаны плотам двор. Прыйшлі суседзі паглядзець бабра, і тут адбылося самае галоўнае. Маці зарухалася і зусім непрыкметна падпаўзла да прызбы хаты. Усе прысутныя, затоіўшы дыханне, глядзелі на яе.

«Няўжо яна кінецца ўцякаць?» — падумаў я. Не, старая нават і не думала кратацца з месца. Яна прыслухалася і энергічна стала падтачваць хату. Я хацеў перашкодзіць ёй разгрызаць бервяно. Падышоў і падцягнуў за хвост. Маці раззлавалася, скасавурыўшыся, паглядзела на мяне. У бабра вочы чорныя, нібы невялікія чарнаслівы. Мяне яны нават прыкавалі да сябе. Я бачыў, як у яе шавеліцца вус, і пачаў смяяцца з яе бяссілля. А яна раззлавалася, фыркнула і прама скокнула на мяне. Я адскочыў і ўбачыў пару белых доўгіх зубоў у роце.

— Эге, якая ты злосная!..

Я зноў пасадзіў яе ў бочку і адвёз у няволю. Там яна асвоілася і больш не палохалася людзей.

## КАСА ВЫРАТАВАЛА

У пачатку касавіцы мне трэба было ісці за касой да суседа-лесніка. Выбраўся я з дому досвіткам і пайшоў па дарозе. Мне так добра было ступаць па мяккай лясной мураве, што я не ўгледзеў, як падышоў да лесніка.

— Вось і каса табе, я ўжо загадзя нарыхтаваў яе, — сустрэў мяне сусед.

Сонейка ўжо пачало ўзыходзіць над лесам. Раса навярнулася спелым агрэстам на кустах, і так хочацца мне размахнуцца касой і касіць, касіць. Я ўзяў касу і нацяньсі пайшоў дадому.

Ішоў лясной сцяжынкай, у адной руцэ звонкая каса, а ў другой — альховая палка. Навокал мяне кусты і лес — такі вялікі, старадаўні. Чаго толькі не знойдзеш у нашым лесе! Летам здаецца — ціха, быццам няма нікога. А прыслухаешся, дзесьці да-

лёка спявае салавей ды яшчэ нейкая птушка. Іду сцяжынкай, шырока расстаўляю ногі. Раптам у кусце з правага боку трэснула сухая галінка.

«Хто там?» — падумаў я. Агледзеўся, уважліва прыслухаўся. У траве праскочыла спрытнае мышанё, — яно, мусіць, парушыла спакой.

Мне стала сорамна сваёй асцярожнасці, і я намерыўся ісці далей. Ступіў два крокі па сцяжынцы і ледзь стрымаўся на нагах. З куста прама на мяне выходзіў мядзведзь. Выставіў пярэднія лапы і вось-вось возьме мяне ў абдымкі.

— Ай, — закрычаў я ад страху і выпусціў з рук касу і альховую палку.

Палка кранулася касы, каса зазвінела стогалосым рэхам, і гэта выратавала мяне. Мядзведзь спалохаўся металічнага звону, зароў немым голасам і пабег ад мяне.

— Гэк, гэк, гэк, — крычаў звер.

У голасе чуўся спалох і дзіўны жах. Я рассмяяўся з яго спалоху і, здзіўлены нечаканай перамогай, пайшоў дадому.

## РАГАТЫ ПРЫГАЖУН

Гарачая пара касавіцы. Шуміць трава на лузе, цёплы вецер разносіць мядовы пах кветак. А ў гэтым годзе была густая, вялікая трава. Сама просіцца пад касу. Здалёку чалавека ўбачыць — галоўкамі да нізу клоніцца і шуміць, шуміць. Я махаю касою, і толькі вада свішчыць па тонкім палатне сталі.

Раніцой добра касіць, каса так едка рэжа мякаць травы, што і не адчуваеш зморанасці. Кончыў пракос, павастрыў касу і пачаў новы пракос. Аж чую ззаду тупат. Павярнуўся і бачу — да мяне бяжыць прыгожы лось.

Тры разгаліненні рогаў калышуцца над галавою, якую ён нясе амаль паралельна зямлі і сваёй спіне. Галава ў лося пры быстрай хадзе прыгінаецца да спіны, і шырокія рогі не перашкаджаюць прабірацца ў гушчары.

Я стаў і дзіўлюся на танканогую прыгожую жывёлу цёмнагнедай масці, ад сонца яна зрабілася яшчэ прыгажэйшай.

Адлегласць паміж намі з кожнай секундай памяншаецца. Лось набліжаецца да мяне, і мне робіцца страшна.

«Ці не ашалеў ён?» — падумаў я. Вакол мяне не было нікога. Дзікі, сярдзіты бег пачаў палохаць мяне.

— Чу-чу-чу. Кусі, кусі, — пачаў я крычаць, каб напалохаць прыгажуна.

Але лось не слухаўся. Ён скачкамі ішоў да мяне. У дзесяці кроках ад лося я зазваніў мянташкай па касе. Каса зазвінела так голасна, што яе металічны гук спыніў прыгожую жывёлу.

Лось выцягнуў уперад мордачку, чмыхнуў і зараз жа паімчаўся ў бок ад мяне. Я здагадаўся, што прыгажун мяне не бачыў. Ён, зморaны, імчаўся воддаль мяне, адчуваючы небяспеку. Мяне зацікавіла: што ж гэта здарылася з ім?

З такой думкай я пайшоў далей па сенажаці і адразу даведаўся, у чым справа.

Пераскокваючы траву ў рост чалавека, бег чорны сабака.

— Мірсік, ты куды?

Сабака вінавата глянуў на гаспадара і, зморaны, высунуўшы язык, паваліўся пад ногі. Ён глядзеў на мяне ласкавымі вачыма, а я дакараў яго:

— Ты што ж дом не пільнуеш, а паляваннем заняўся? Ну ідзём. Ну... — сказаў я.

Сабака ўстаў, і мы пайшлі дадому.

Як я потым даведаўся, сабака перагрыз вяроўку і недзе, ідучы маім следам, патрапіў на соннага лася.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Георгій Юрчанка*

## МАЛАДАЯ ДУША

У ліхалецці мінулай вайны неяк згубілася і цяпер амаль нічога не гаворыць нашай грамадскасці імя пісьменніка Паўла Левановіча. <...> А між тым яго жыццё і творчасць заслугоўваюць таго, каб заняць хай сабе сціплае месца ў гісторыі беларускай літаратуры.

<...> Пошукі слядоў П. Левановіча прывялі мяне ў рэдакцыю мсціслаўскай раённай газеты. Работнікі рэдакцыі аказвалі мне ўсялякую дапамогу ў маіх пошуках.

Першая паездка — у вёску Мазалава, на радзіму пісьменніка. За дваццаць — дваццаць пяць гадоў многае забылася, сцерлася з памяці, але ў Мазалаве добра памятаюць пісьменніка.

— У Мінску жыў. Кніжкі пісаў, — успамінаюць землякі. — Часта прыязджаў у вёску да бацькоў. Увесь час вучыўся. Разумны хлопец быў.

Як шкада, што пошукі пачаліся занадта позна. Яшчэ паўтара года назад была жывая стогадовая маці пісьменніка. Захоўваліся ў яе розныя паперы, пісьмы з фронту, пісьмо сяброў пра апошні бой П. Левановіча. Цяпер жа хату знеслі, рэчы і паперы згубіліся.

Землякі паэта назвалі мне адрасы ягоных сваякоў, аднапалчан. Адзін з гэтых адрасоў — вёска Лыкінка, дзе жыве брат пісьменніка Фёдар Антонавіч. Ён працуе загадчыкам жывёлагадоўчай фермы. Я і сустрэў Фёдара Антонавіча там, на ферме. Расказаў ён мне пра брата, пра гады яго вучобы, працы. Некаторыя звесткі пра П. Левановіча дапамаглі сабраць работнікі Мазалаўскага сельсавета. Звесткі гэтыя скупыя, і ў каторы раз даводзіцца пашкадаваць, што пошукі мае вельмі запозненыя...

З успамінаў брата і землякоў, з даваеннага перыядычнага друку пра пісьменніка ўдалося даведацца вось што.

Нарадзіўся Павел Левановіч у 1914 годзе. З 1936 года яго імя рэгулярна з’яўляецца на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку». У газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена»,

«Звязда», у часопісах «Полымя рэвалюцыі», «Іскры Ільіча» змяшчаюцца яго апавяданні і нарысы. Ён уважліва прыглядаецца да жыцця. <...> У апавяданні «На Сожы» (1936) <...> дынамічны сюжэт, шмат трапных назіранняў, жывая, вобразная мова. Цёпла, усхвалявана напісана апавяданне «Каліна-ягада» (1939). <...>

Па-сапраўднаму П. Левановіч знайшоў сябе як пісьменнік у галіне дзіцячай літаратуры. У 1938 годзе ў друку выйшла кніга яго апавяданняў «Дружба». Тагачасная крытыка адразу ж адгукнулася на выхад зборніка, адзначыўшы цеплыню апавяданняў, іх прастату і даходлівасць. Пісьменнік паказаў сябе добрым знаўцам псіхалогіі дзяцей, іх інтарэсаў і запатрабаванняў.

Тое, што паспеў надрукаваць пісьменнік, сведчыць, што ў яго асобе беларуская літаратура мела таленавітага празаіка, які здолеў бы напісаць нямала добрых твораў. Здолеў бы...

Горка пісаць гэтыя словы. <...>

<...> На жаль, пражыў ён толькі 29 год. Змагаючыся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, пісьменнік быў цяжка паранены і ў канцы снежня 1943 года памёр. Пахаваны на тэрыторыі Горацкага раёна.

Першыя творы П. Левановіча з’явіліся ў друку ў 1934 годзе. У апавяданнях, нарысах, замалёўках ён адлюстроўваў будаўніцтва новага жыцця, змены ў вёсцы, паказваў, як перавыхоўваецца чалавек у калектыве пад уздзеяннем грамадскай думкі. Актыўна выступаў як публіцыст. У нарысах расказваў пра жыццё братніх народаў, пра выдатных дзеячаў іх культуры, напрыклад, пра М. Лермантава, К. Хетагурава. Цікавілі маладога пісьменніка праблемы мастацтва. Ён пісаў пра акцёра Г. Грыгоніса, які стварыў шэраг выдатных запамінальных вобразаў, пра дэкадны канцэрт беларускай культуры ў Маскве.

Шмат увагі аддаваў пісьменнік падрастаючаму пакаленню. У 1938 годзе выдаў зборнік апавяданняў для дзяцей «Дружба». Ён вучыў дзяцей з любоўю адносіцца да прыроды, да ўсяго жывога, вучыў кемлівасці, назіральнасці.

Увесь час пісьменнік знаходзіўся ў гушчы жыцця, удзельнічаў у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Уважліва прыглядаўся да тагачаснай заходнебеларускай рэчаіснасці, у карэспандэнцыях расказваў пра людзей, якія сталі гаспадарамі на сваёй зямлі. Настойліва працаваў над «дарослымі» апавяданнямі і меў у гэтым напрамку нядрэнныя поспехі. Рукапіс новага зборніка быў абмеркаваны ў Саюзе пісьменнікаў і здадзены ў выдавецтва, але ў полымі вайны загінуў.

Павел Левановіч пісаў і вершы. Некаторыя з іх у 1934–1935 гадах

друкаваліся ў газеце «Палеская праўда», органе Гомельскага гаркама, гарсавета і гарпрафсавета. З вершаў відаць, што іх аўтар нядрэнна валодаў тэхнікай вершаскладання, глыбока разумеў і адчуваў паэтычнае слова. У творах вядзецца размова пра працоўныя будні, пра звычайныя чалавечыя справы, якія, тым не менш, варты высокага паэтычнага слова. Безумоўна ўдаўся аўтару прыродаапісальны верш «Дружба з вясной».

З чытаннем сваіх твораў аўтар неаднаразова выступаў перад працоўнымі калектывамі Гомельшчыны. Так, у заметцы ад 22 чэрвеня 1935 годзе ён расказаў пра літаратурны вечар у клёнкаўскім Доме адпачынку. Разам з іншымі маладымі паэтамі выступаў перад рабочымі вагонабудаўнічага завода і на іншых прадпрыемствах.



# Гальяш
# ЛЕЎЧЫК

Гальяш Леўчык (Ільля Міхайлавіч Ляўковіч) нарадзіўся 7 жніўня 1880 г. у г. Слоніме (паводле іншых крыніц — в. Шэйпічы) Гродзенскай вобласці.

Скончыў Слонімскае павятовае вучылішча, вучыўся на курсах чарцёжнікаў. Працаваў у Слоніме пісарам у каморніка, у канцылярыі міравога суддзі, судовага следчага. У 1904 г. пераехаў у Варшаву, дзе працаваў чарцёжнікам у магістраце. На пачатку 20-х гг. спрабаваў вярнуцца на жыхарства ў Вільню, але не здолеў уладкавацца на службу і асталяваўся ў Варшаве. У Слонім наязджаў амаль кожнае лета, пабудаваў невялікі домік. Выступаў як культурна-асветны і свецкі пратэстанцкі дзеяч. З 1927 г. выдаваў у Варшаве штомесячнік «Дух і праўда» (дадатак да выдання «Pielgrzym Polski»). Удзельнічаў ад радашковіцкага Таварыства беларускай школы ў акцыі па арганізацыі беларускіх прыватных школ на вёсцы. Прыкладаў намаганні адкрыць у Вільні выдавецтва «Кніжніца», актыўна збіраў матэрыялы для віленскага Беларускага музея. У 30-я гг. жыў у Слоніме. Пасля верасня 1939 г. выехаў у Польшчу. У 1942 г. фашысцкія акупанты расстралялі жонку пісьменніка. У гады вайны дом, у якім жыў Гальяш Леўчык у Вар-

шаве, быў разбураны бомбай. Загінуў, паводле польскіх крыніц, у верасні 1944 г. у трагічныя дні падаўлення гітлераўскімі войскамі Варшаўскага паўстання.

Пісаў вершы і прозу, творы для дзяцей. Першыя вершы надрукаваў у 1908 г. на старонках газеты «Наша ніва». Паэтычныя творы таксама змешчаны ў «Беларускім календары «Нашай нівы» (1911, 1912, 1913, 1914), тагачасных перыядычных выданнях «Саха», «Беларус», «Сялянская доля», «Беларускі звон», «Беларуская крыніца», «Студэнцкая думка», «Маланка», «Беларусь», «Заранка», «Хрысціянская думка» і інш. Выдаў у Вільні зборнік вершаў «Чыжык беларускі» (1912). Падрыхтаваў паэтычную кніжку «Беларускі жаваранак», якую надрукаваць не ўдалося. Асобныя вершы ўключаліся ў «Беларускі дэкламатар» (1924), «Хрэстаматыю беларускае літаратуры» (1927) І. Дварчаніна, «Дэкламатар» (1928), «Анталогію беларускай паэзіі» (1961. Т. 1), зборнікі «Сцягі і паходні» (1965), «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967), «Ростані волі» (1990) і некаторыя іншыя. У 1980 г. пабачыла кніга выбраных твораў «Доля і хлеб».

Вядомы як бібліяфіл. Меў унікальную прыватную бібліятэку, у якой апрача іншага сабраў рэдкія беларускія друкаваныя выданні XIX ст. Збіраў і апрацоўваў беларускі фальклор. На ўласныя тэксты напісаў музыку. Перакладаў з польскай, украінскай, літоўскай і іншых моў.

# ПАЭЗІЯ

## МАЯ ПРАДМОВА

Нічога не хочу... Нічога, нічога —
Ні грошай, ні славы, ні шчасця сляпога...

А толькі ўсё жду я, каб родная мова
Хутчэй дачакала свабоднага слова!

Пакуль не даждуся багацця такога, —
Нічога не хочу... Нічога, нічога!

## ЧЫЖЫК

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— Я на Белай Русі жыў:
Бачыў слёзы, жалю крык,
Як гаруе там мужык...

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў,
Што ты чуў там, што рабіў?
— Сярод вёсак я лятаў,
Песні сумныя збіраў...

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
Што ты бачыў, што ты сніў?
— Ох, шмат гора ёсць там, шмат,
Выглядае беднасць з хат...

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— Па магілках я блудзіў,
Па курганах, ля дарог,
З жалю вытрымаць не мог!..

## ШАРАЙ ГАДЗІНАЙ

Часта мне шарай гадзінай у хаце
Зробіцца сумна, і жаль забярэ,
Слёзы падступяць к вачам, як дзіцяці,
Жыць неахвота, і сэрца замрэ...

Сумна па хаце блукаю вачамі,
Ціхія слёзы па твары цякуць,
Боль, як сава, рве мне грудзі кагцямі,
Думкі маркотныя жалем сякуць...

## ПАДАЕ ЛІСЦЕ
*Nocturno*

Лісце пажоўклае падае,
Убранае кроўю і золатам.
Дыша зямля ужо холадам,
Птушкі ўжо сэрца не радуюць...
        Дрэвы ўсе сумны, прамоклыя.

Бачачы долю гаротную,
Капаюць слёзы прагорклыя,
Жальбамі думкі маркотныя
Душу ўсцілаюць сіротную...
      Падае лісце пажоўклае...

## НІХТО МАІХ НЕ ЗНАЕ СЛЁЗ...

Ніхто маіх не знае слёз,
Што ў сэрцы схованы глыбока,
Проч роднай хаты там — далёка,
Дзе я радзіўся, бегаў, рос,
Дзе йшоў касцоў праз горы, долы
          Зык-звон вясёлы.

Ніхто маіх не знае слёз,
Ніхто маёй не знае долі,
Апроч крыніцы той — у полі,

І вербаў сумных, і бяроз,
Старэнькай грушы у садочку,
Старых кляночкаў.

Ніхто маіх не бачыў слёз,
Ніхто не знаў мяне ў нядолі,
Апроч той пасекі пры полі,
Апроч ракі, плытоў, і лоз,
І той дарожкі, што пры рэчцы
Шнурком пляцецца.

Ніхто не знае... проч магіл,
Што траўкай-мохам зарастаюць,
Што столькі сумных дум хаваюць,
Нязбытых дум, прапаўшых сіл...
Дзе жджэ мяне дзярна ўзгор чысты
На сон вячысты...

## ЗЛАМАЙЦЕ МНЕ ДУДКУ...

Зламайце мне дудку маю вербавую, —
Хай песень сумлівых не грае,
Хай горкага болей я плачу не чую,
Хай слёзаў ніхто больш не знае!..

Зламайце мне дудку маю вербавую, —
Пацехі даўно я не маю...
Я дудку другую сабе прыгатую
І песню вясёльшу зайграю!..

Зламайце мне дудку маю вербавую...
Мяне дудка інша чакае,
І новага быту ўжо песню другую
Вам новая дудка зайграе!

У долі шчасліўшай той песняй жывою
Заглушыцца песня слязная!..
Зламайце ў кусочкі, — бо сумна іграе!
Ўся дудка мая вербавая!..

## СІРАТА

Я не маю шчасця-долі,
Згінуў дзесь надзеі цвет...
Слёзы коцяцца ад болю,
Як гляджу на злыдняў свет!..

А хінуўся я да свету
Ад дзіцячых ранніх лет...
Аж пазнаў, што значыць гэта,
Чым напоўнен цэлы свет.

Злосць людская адалела.
Цяжка мне... Ах, цяжка жыць!..
Сэрца з жалю скамянела,
На душы нуда ляжыць...

Люблю думаць ля магілы,
Паглядаць на сонца ўсход
І жадаць з усяе сілы,
Каб меў долю мой народ!

## ЁЙ

Не чапай ты мяне, не глядзі ты сюды
І не ведай, што я сумны песні пяю...
Ты ў бядзе не жыла, ты не знаеш бяды;
Наракала ж калі ты на долю сваю?!

Не чапай ты мяне, не глядзі ты сюды —
У ваконца маё і у хатку маю!
І не знай: як жыву, што я хворы, худы,
Што нядолю цярплю, што над прорвай стаю…

Не чапай ты мяне, не глядзі ты сюды
І не знай, як я тут сам працую, раблю...
Ты багата жывеш, ты не бачыш жуды,
Мы не роўны сабе, — я цябе не цярплю!..

Не чапай ты мяне, не глядзі ты сюды,
Адыдзіся і лепш не любі ты мяне!
Прападзе твой агонь, і пагінуць труды, —
Я любіць маю што у сваёй старане!

## НА КУПАЛЛЕ

*Санет гэты прысвячаю Янку Купалу*

Як ранак загляне з-пад летняе ночы
Ды сонейка згоне ўсе сумныя хмары,
Пайду я дзівіцца у поле на чары,
Расою абмыю заплаканы вочы...

Пайду я у вёску пад шэрыя хаты,
Ўвайду сабе ціха пад мховыя страхі,
І буду збіраці дзявочыя смехі,
І буду вясёлы, і рад, і багаты!

Тагды — ўсіх дзяўчатак паслухаўшы думак,
Ля збожжа, ля кветак, пакрытых расою,
Пайду я да лесу зялёнай мяжою;

Пад голаў злажыўшы дарожны мой клунак,
На мох пад хваіну я там палажуся
І ціха за край свой тагды памалюся!..

* * *

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых, —
Каб ён свету не знаў!

Мову родную хто
Пазабыў, асмяяў,
Загубіў за нішто, —
Каб ён свету не знаў!

Сваю родну зямлю
Хто чужынцу прадаў,
Скрыўдзіў вёску сваю, —
Каб ён свету не знаў!

Хто з народам не жыў
І карысці не даў,
Хто сваіх не любіў, —
Каб ён свету не знаў!

## ДАЖЫНКІ НА БЕЛАРУСІ Ў 1920 г.

...Вось так жнеі, вось так жніва!
«Збожжа» шэра, чорна, сіва...
Гэта ж людзі ў кроўнай лужы, —
Серп пажаў іх гостры, дужы.
Не ў гумне ім — ў гробе быці,
Чэрві будуць малаціці...
Іх зярнят люд не пазнае,
Ўсе «снапы» пясок зраўняе...

Вось так жніва, вось дажынкі!
Дзе ж сялянскія будынкі?
Гаспадар дзе з гаспадыняй,
Што ўладалі поўнай скрыняй?
Дзе ж валы, вазы і снасці,
Каб снапы ў гумно пакласці?..
— Ніц нямаш — вайна, гарматы
Зжалі ўсё — людзей і хаты...

## СОН НА НЁМАНЕ КАЛЯ ШЧАРЫ

Далёка на захадзе сонца заходзіць,
І выглянуў месяц з усходу.
Плыву я па Нёмне і з чоўна на сподзе
Ўзіраюсь на ціхую воду.

Здаецца мне: сонца зноў бліснула й стухла
І вечар наўкола пачаўся, —
І бачу: як быццам свечкамі бухнула,
Далёка спеў сумны раздаўся.

Зусюль навакола званіць ў званы сталі,
Аж лісці ад дрэў затрасліся,
А над ракою крукі закрычалі —
Высока уверх падняліся.

Я бачу: плывуць вось плыты за плытамі —
І шмат на іх домікаў-будак,

І чую і бачу я, што між агнямі
Шмат плытніцкіх скрыпак і дудак.

На чорных плытох там харугваў дуброва
Пацiху сабе шалясціць,
А бліжай канца дамавінка кедрова, —
І ў ёй Беларусь там ляжыць.

А на абодвух берагах Нёмана
Сыны Беларусі ідуць,
За імі радня іх — без плачу і гоману,
І слёзы з вачэй не плывуць.

Ўсе ціхенька хваляць Нябожчыцы сілу
І славу, што мела даўно, —
Цяпер праваджаюць Яе у магілу:
Ў Балтыйскае мора на дно...

Званы ўжо апошні раз Ёй загудзелі,
Апошні паклон дасца Ёй,
Глыбока паложаць на морскай пасцелі,
І будзе Ёй вечны пакой...

Нідзе не чутно ані плачу, ні енку, —
Халодныя сэрцы, як лёд.
Дзе-недзе ўздыхаюць дзяды памаленьку
Ды дзівіцца іншы народ.

Аж збегліся на бераг зусюль каля Нёмана
Дзяцей беларускіх гурткі,
І з берагаў, крыху дзе рэка заломана,
Ёй кідаюць з кветак вянкі.

І міла так слухаць іх голас дзіцячы,
Што роднай душой аддае:
«Хай Матухна ўстане, нас крышку пабачыць,
Мы ўсе тут жывём для яе!

Мы ўмеем маліцца па-беларуску,
Пяяць, і пісаць, і чытаць,
У вопратцы роднай у школе ўжо нашай
Народныя танцы скакаць.

Дык выйдзі жа, Матухна, ўстань, падзівіся,
Мы хочам пабачыць Цябе.

Паблагаславі нас, пацеш, памаліся —
Ды потым паедзеш сабе!»
Тым часам мой човен аб камень ударыў,
Аж скалыхнуўся ды стаў, —
Вачом сваім доўга, прачнуўшысь, не верыў,
Што плыў я на чоўне і... спаў.

«Дык гэта быў сон толькі? Мілы мой Божа! —
Я, вочы працёршы, пытаў. —
Вось сон часам многа паказываць можа:
Калі што, як прыйдзе наяў!»

## БЕЛАРУСЬ — МОЙ КРАЙ

Мой край з усіх найбольш няшчасны,
Як бы зусім жыцця не мае,
Забыўся, дзе ляжыць скарб ўласны,
І аб самым сабе не знае...

Ў вянку з камення і курганаў,
Даўно адвыкнуўшы смяяцца,
Ён паў пад крыж сярод туманаў,
Каб сілам ворага не дацца.

Мой край крыжоў, дзе слёзы льюцца,
Дзе віхар здзеку не сціхае,
Скуль жаль і боль у свет нясуцца, —
Мой край, што крыж на сэрцы мае...

* * *

Не нам, беларусам, не нам
Паном ці чужынцам служыці!
Нам тутака трэба і там
Для Белае Русі жыці!

Не нам, беларусам, не нам
З сваімі людзьмі калаціцца

І польскім ці іншым панам
У батрацкую службу згадзіцца.

Не нам, беларусам, не нам
Для мэты чужое пот ліці,
Мяняці кажух на лахман —
Нам трэба Русь Белу любіці!

Пара беларусам, пара
Для роднага краю старацца,
Для долі, свабоды, дабра —
За шчасце, народ свой змагацца!

## ГРУГАНЫ

Браткі! Прачнемася ад сну —
Пара ўжо нам хутчэй ўставаць!
Ад груганоў паганых след
Пара нам чыста замятаць!

Дык хто устаў — прылады ладзь
Дый будзь гатоў на кліч, на збор!
Каб ад паганых груганоў
Ачысціць дружна дом і двор!

Пакажма вось тым груганам,
Чым дужы дый жывучы мы!
Якая сіла ёсць у нас,
Калі пайдуць вон груганы!

## ДУШЫЦЕЛЯМ СЛОВА

Душыць магчыма слова, —
Дух слова не ўмірае:
Ён над махлярствам вашым
Арлом увысь лятае.

Здушыць мага вам слова,
А вось магутна сіла

Яго праз вашу голаў
Удалячынь пусціла!

Датуль дух слова будзе
На труд нас заклікаці,
Як матку, што радзіла,
Ўсё кліча крык дзіцяці.

Аж з хат, угору ўзнятых,
І з цёмных нор капання
Устане люд працоўны —
На бой апошні ўстане.

Хаця ў баю з махлярствам
Мо голаў шмат паложаць,
Шмат новых іх заступіць, —
Здушыць нішто не зможа.

Здушыць мага вам слова, —
Яго ж дух ўсё ж свабодны,
На вашую пагібель
Арлом ляціць галодным!

Прыйдзе эпоха нова
На новы пажарышчы, —
І новы будуць словы,
І новыя бажышчы!

І новы час настане:
Як слова ў суме-жалю
Не будзе больш ніколі
Так уміраць памалу.

Ніхто больш праўды смелай
Не назаве праступкам, —
Як прыкрае махлярства,
Здзярэцца маска хутка.

Хоць сёння вы гарою, —
Вам чэсці не хапае,
З вас кожны слова Волі
Балотам абкідае.

Душэце ж, мучце слова,
Дух слова не сканае,

Ён над махлярствам вашым
Увысь арлом лунае!

* * *

Нам так хочацца дзедавай казкі
Для дзяцей, каб пацешыцца ёю.
Нас так змучылі злыдні вайною,
Надаелі варожыя маскі,
Дык нам хочацца дзедавай казкі,
Каб забыць гэту яву ў спакою.

## ДА БЕЛАРУСІ

I

Ў бездну-пропасць кіну гора,
Мысль скупаю ў небе,
Расплывуся хваляй мора,
Каб забыць аб хлебе.

Затаплю я злую долю
Ў нашых слёзаў моры,
Палячу ў прастор на волю,
Каб не знаць аб горы!

Закапаю ў гроб-магілу
Ўсю бяду і ліха,
Каб падняці праўды сілу,
Для яе жыць ціха!

II

Жаваранка песняй чуткай
Разлячусь па ніве
І вярбовай сельскай дудкай
Ўвесялю шчасліве!

Дый, як пчолкай працавітай,
Зазвіню па кветках
І музыкай незабытай
Разнясусь ў палетках.

Цёплым ветрыкам павею
Па араным полі,
Як сейбіт, людзям засею
Зёрны добрай долі!

# ПРОЗА

## ХАРАСТВО
*Паэма прозай*

Хараство — гэта сіла і магутнасць! Гэта суцэльнасць у множстве; суцэльнасць, складаючая адначасна згодную і гарманійную часць Вялікае Цэласці, званае Сусветам.

І таму, назіраючы гэтае Хараство, мы чуем Сусвет, мы чуем Яго велізарнасць і магутнасць. Шчаслівы той, хто гэтак адчувае.

Любячы хараство, мы ідзем да таго, каб нашыя дзеянні былі гарманійнаю часткай Сусвету, мы імкнемся да Дабра, бо Дабро — гэта Хараство ў дзеянні.

Бо перад намі маўклівы, таямнічы Сусвет... Ціхі і велізарны нават для думкі, для мыслі... без пачатку і канчатку...

Углядаючыся ў яго, адчуваем супакойны такт Бясчасу. Здаецца нам, што чуем матыў, мелодыю, якую граюць зоры, мільёны зор і зорак у сваім гарманійным бегу... У гэтай мелодыі няма ні радасці, ні суму, ні болю...

У Сусвеце ёсць нязменны парадак, вечная Суцэльнасць з'явішчаў, дзіўная лучнасць у прывідным хаосе ці беспарадку.

Святло, што мы бачым, якое даходзіць да нашых вачэй з найдалёкшых зораў, калі мы ў пагодную ноч з прыемнай цікавасцю разглядваем неба, — гэта тая самая энергія, якая выражаецца нашым уласным бытам. Гэта тое, што малы чалавек і велізарнае сонейка — частка Аднае Вялікае Цэласці.

## ЧАЛАВЕК
*Паэма прозай*

Быццам сонейка, узыходзіць Чалавек — і ў ясным свеце сонца непаняты, як свет, — паволі ідзе наперад і вышэй!

Што ён? Адкуль узяўся? Ён чуе сябе, варушыцца, датыкаецца, бачыць сябе самога, другіх і ўсё, існуе, факт! і думае... «Мая арганізацыя свабодна, сама парушаецца... і мысліць: вось Вялікая, Прадвечная Тайніца адносна існавання мяне самога! Адкуль я? Што я? Куды іду? Я жывы, самарухлівы, мыслячы Чалавек!..»

Ідзе чалавек наперад і вышэй, прыгожы ў сваёй Вялікай Тайніцы і ў сваім трагізме існуючы і жывучы Чалавек! Ідзе ён наперад і вышэй, чуючы ў сабе праменні магутнай і неўстрашымай Мыслі, той Думкі, што стараецца зразумець гармонію — Адзінасць Усясвету, тую дзіўную сілу, Вялікую Адвечную Тайніцу, каторая стварыла і творыць сабе багоў, а пасля скідвае іх у нішто...

Заблудзіўшы сярод безгранічнай пушчы Бесканчатнага і Беспачатнага Усясвету, ідзе Чалавек наперад і вышэй сам адзін на малой макавінцы — Зямлі, ляцячай з мігавай шпаркасцю кудысьці ў глыбіню нязмернага прастору, сціснуты пытаннем: «Як і нашто існую?» Сунецца Чалавек адважна наперад і вышэй па дарозе змагання да пабеды над усялякімі тайніцамі зямлі і неба...

Вось ідзе Чалавек, крывёю паліваючы сваю аднак сумную, адзінотную, поўную трудоў і каменняў дарогу жыцця на макавінцы-зямлі і стварае з гэтай гарачай сваёй крыві дзіўна прыгожыя краскі паэзіі, а крык сваёй поўнай бунту душы перамяняе ў мілагучную музыку... музыку радасці і болю!.. любасці і суму...

Узброены толькі аружжам магуцтва сваёй Думкі-Мыслі, яркай, як маланка, халоднай, як меч сталёвы, а гарачай, як вулканічная лава, — ідзе вольны, свабодны Чалавек, выпярэджваючы людзёў і іх жыццё, адзінотны, сярод загадак і тайніцаў быту, сам-адзін — сярод мора блудаў і ашуканстваў, што цяжкім бярэмем ляглі на Яго сэрцы і раняць і грызуць мозг, будзячы і выклікаючы сорам і ганьбу і клічучы: «Абнімай нас!..»

І як планеты кружаць вакол сонейка — так і Чалавек з усіх бакоў уласцівасці душаў людскіх: заўсёды галодная і голадам мораная іх Любоў, а за ёю кулявая іх Прыязнь, а перад ім цягнецца іх змучаная Спадзея, а побач гнеўная і сярдзітая — лютая Нянавісць іх, што звініць ланцугамі цярпення і болю іх, а Вера іх

спаглядае ў Яго вочы і на Яго твар сваімі цёмнымі вачыма і хоча абнімаць Яго...

А за ўсім гэтым, за цэлай гэтай хеўрай, цягнуцца акрытыя лахманамі старых дзіравых праўдаў іхніх мізэрныя людзі, варожыя для Чалавека і Яго Думкі-Мыслі, і калоцячыся паміж сабою: хто з іх вялікшы?..

А на самым канцы Чалавека — здалёк, здалёк відаць, як за ім цягнецца таварыш Яго — ціхая, маўклівая і тайнічная Смерць іх, заўсёды гатовая цалаваць Чалавека — яго гарачыя, распаленыя жарам і смагай жыцця вусны...

І бачыць Чалавек, як чорная сіла Нянавісці гоніць перад сабою ўцякаючую Справядлівасць...

Але Чалавек глядзіць увыш — ідзе наперад і вышэй — і бачыць: як у прасторы шыбуюць, быццам вялізарныя шулякі або каршакі, Сум, Жаль і Журба, а Боль і Адчай, быццам чорныя груганы, ляцяць над ім і кракаюць, што Чалавек ёсць мізэрны чарвяк, што яго мозг не створаны так, каб пазнаваць усю Тайніцу Вялікага, Адзінага, Цэлага — Усясвету і нават марных тайніцаў мізэрных людзёў...

Аружжам Чалавека ёсць Светлая, Ясная Думка-Мысль Чалавека і яе пэўнасць, што яна ёсць вольная, свабодная, бяссмертная з бесканчатнай творчай, вечнай крыніцай магутнасці і сілы!..

Мысль-Думка Чалавека верыць, што змагуць не тыя, што грабяць плады пабеды над ярмом, але тыя, што асталіся жывымі і сільнымі яшчэ на полі бою!..

І бачыць Мысль-Думка Чалавека мэту жыцця ў тварэнні Дабра, бо ці ж тварэнне Дабра мае канчатак?

Ідзе сабе Чалавек наперад і вышэй, каб загарэцца, быццам ясным полымем, каб асвяціць цёмнае жыццё людзёў, нязлічаныя загадкі, як зоры на небе, тайніцы — як пяску на дне мора, — і для Чалавека німаш канчатку Яго дарогі — усё вышэй і наперад ідзе!..

# ПЕРАКЛАДЫ

*Ю. Славацкі*

## ГІМН

Сумна мне, Божа! Захаду парою
Ты мне разліў вясёлку прамяністу,
Ў вачох мне тушыш лазурнай вадою
Зорку вагністу...
Хоць ты мне ўсё так залоціш прыгожа,
Сумна мне, Божа!
Як без зярнят той колас падняўся,
Стаю, раскошы й здавольства не трэба,
З чужымі той самы твар мой астаўся —
Сіняга неба.
А прад табой скрыць глыб сэрца не зможа.
Сумна мне, Божа!
Плача дзіцятка ўсё і днём і ноччу,
Што адхілілась маці ад калыскі, —
Кідае сонца, і я плакаць хочу,
Апошнія бліскі.
Хоць заўтра сонца зноў засвеціць гожа,
Сумна мне, Божа!
Сёння над глыбяй вялікага мора,
Сто міль ад берагаў, едучы ўпрочкі,
Бачыў ляцеўшых у цёплы край скора
Буслаў радочкі.
Што ў роднай старонцы бачыў іх, можа,
Сумна мне, Божа!
Што часта думаў на людскіх магілах,
Што я не знаў амаль роднага дому,
Як падарожны пры слабых быў сілах,
З маланак грому,

Што і не знаю, дзе ў гроб паложаць.
Сумна мне, Божа!
Ты будзеш бачыць мае белы косці,
Ніякай стражы не будзе над мною.
Але я чалавек, што хоча штосьці
Быць парахнёю...
Дык, што не ведаю, дзе мне гроб-ложак,
Сумна мне, Божа!
Казалі ў краю малому дзіцяці
Маліцца штодня за мяне, я ж знаю:
Карабель не будзе ў край мой плываці,
Ў свет адплываю...
Дык што й малітва дзетак не паможа,
Сумна мне, Божа!
Вясёлку ясну, быццам высь, падперці,
Тваім анёлам кажаш ўшыр стаўляці,
Бачачы людзі, па маёй ў век смерці,
Будуць ўміраці...
А пакуль ніштожнасць не пераможа,
Сумна мне, Божа!

*М. Канапніцкая*

## НА ЛІРЫ

Ай, чаму ж пара настала
Халодна,
Як сямейка наша стала
Галодна?
Боса, гола ад нядолі
Ў хаце...
Дзе ж мы будзем хлеба, солі
Шукаці?

Ай, каб так пайсці далямі,
Раллёю,
Што палітыя слязамі,
Крывёю.
Страх паглянуць на загоны,

На жніва:
Ўсе снапы, як кроў, чырвоны, —
Вось дзіва!..

*Р. Зямкевіч*

## СКАРБЫ Ў РАЛЛІ

Кажуць, скарбы добрай долі
У зямлі ляжаць.
Вось і трэба нам у полі
Ўсю раллю з’араць!
Ад вякоў мы не чакалі
Скарбаў залатых —
Добрай долі мы шукалі
Ў працы рук сваіх!
Нашы прадзеды зглажылі
Нам свае даўгі,
Каб мы тым за іх сплацілі,
Што знайдуць плугі!
Хай араць Бог памагае
Родную зямлю!
Хто арае, той і мае
Долю і раллю!

## УСХОДНІЯ ТРЫЯЛЕТЫ

### ЯПОНСКІ

Як ты мудрэц — вучы другога:
вось гэта будзе труд галоўны;
і лепш пайдзе жыцця дарога, —
як ты мудрэц — вучы другога.

Папраўдзе роўны ўсе у Бога:
усім людзям свет сонца роўны, —
як ты мудрэц — вучы другога:
вось гэта будзе труд галоўны.

## АРАБСКІ

Перасцярогі не купіш на рынку,
на ярмарцы, быццам цялятка,
ці там ягнятка, ці мо як свінку,
перасцярогі не купіш на рынку.

Ці мудры,
ці часам дурны ты, мой сынку,
хоць робіш мо спрытна і гладка, —
перасцярогі не купіш на рынку,
на ярмарцы, быццам цялятка.

## ПЕРСІДСКІЯ

Мала варты кот такі,
што ў адну глядзіць нару,
не зірне на ўсе бакі,
мала варты кот такі.

Іншы — мышы, пацукі
ловіць з кожных нор ў пару.
Мала варты кот такі,
што ў адну глядзіць нару.

* * *

Хто ваўкоў баіцца,
той ягнят патраціць,
воўк таму прысніцца,
хто ваўкоў баіцца.

Як з ваўком пабіцца —
смеласці не хваціць;
хто ваўкоў баіцца,
той ягнят патраціць.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Зоська Верас*

## ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК

Увосень 1913 года здзейсніліся мае намеры: я прыехала ў Варшаву на курсы садоўніцтва, агародніцтва і пчалярства.

Першыя два-тры тыдні, пакуль наладзілася справа кватэры, пакуль лекцыі прыйшлі ў норму, — час праходзіў хутка і ні аб чым не думалася. Але чым далей, тым больш адчувалася, што вакол мяне аграмадны горад, поўны людзей, поўны руху, толькі для мяне бясконца пусты, бо не было нікога блізкага духоўна. Рада адна: трэба шукаць беларусаў, а значыцца, трэба звярнуцца ў рэдакцыю «Нашай нівы». На доўга не адкладаючы, я напісала і адваротнай поштай атрымала адказ: адрасы Гальяша Леўчыка, М. Бабровіча і студэнта-медыка А. Табэркі. Збіралася напісаць перад усім Г. Леўчыку, ды не паспела гэтага зрабіць, як ён сам з’явіўся ў мяне. Нашаніўцы напісалі яму аба мне і падалі мой адрас.

Першая сустрэча была даволі арыгінальнай і смешнай.

Гальяш Леўчык убег шпарка, не прывітаўся, не зарэкамендаваўся... Яго першыя словы былі:

— Гэта я вас маю «ратаваць»? Ха, ха, ха! Такі маю загад з Вільні. Бег як мага!

Я глядзела здзіўлена. Перада мною быў чалавек невысокі, надзвычайна рухавы, з шапкай чорных кучаравых валасоў, з вясёлымі невялікімі вачыма...

Нарэшце, заўважыўшы маё здзіўленне, ён спаважнеў.

— Выбачайце, — кажа, — я нават не зарэкамендаваўся. Гальяш Леўчык, па прозвішчы Ляўковіч. Толькі што атрымаў ліст з рэдакцыі «Нашай нівы». Так трагічна апісалі ваша самотнае існаванне, што я сапраўды бег, як на ратунак. Але прыйшоўшы, мне мой спех самому здаўся недарэчным, і я засмяяўся. Ды так усё выйшла нясkладна...

— Чаму нясkладна? Крыху арыгінальнае, але затое вясёлае знаёмства. Я вельмі рада. І пачала ўсё я. У «Нашу ніву» жартам напісала

аб сваёй «трагедыі», яны жартам перадалі вам, вы закончылі. Усё як мае быць.

— Як жа вам Варшава падабаецца? Ужо крыху з ёй пазнаёміліся?

— Знаю дарогу з Кручай на Вейскую, дзе нашы курсы, і трамваем за Бельведэрскія рагаткі — на практыку. Вось і ўсё.

— Толькі? Гэта мала, вельмі мала. Чаму ж так?

— Бачыце, у нас курсы кароткія, усяго 10 месяцаў, а праграма вялікая і практыкі шмат, так што працаваць трэба нямала. Астаецца нядзеля. Але ці хочацца адной хадзіць? А на курсах пакуль што ўсе трымаюцца паасобку.

— Цяпер будзе інакш. Пазнаёміцеся з нашымі беларусамі, ёсць мілыя людзі, а то і мы з вамі ўдваіх туды-сюды пойдзем. Добра?

Гэтак і было. Насамперад пазнаёміў мяне Леўчык з групай варшаўскіх беларусаў. Збіраліся яны кожны дзень на абедзе ў сталоўцы, якую называлі беларускай. А часта ў нядзелю ездзілі ў Ажарова пад Варшавай да беларускай сям'і Сталыгваў, якія мелі там свой дом.

Леўчык лічыў сваім абавязкам знаць кожнага беларуса, які прыязджаў у Варшаву, прыцягнуць у сваю групу, каб «не згубіўся» ў людскім моры і не забыўся сваёй мовы, — як ён сам казаў. І ў яго невялічкай гасціннай кватэры (вул. Леапальдыны, 35–32) заўсёды жыў хто-небудзь з новапрыехаўшых. У той час, у 1913 г., жыў вучань Акадэміі мастацтва Пранук Віслаух з Палесся.

Часам запрашаў да сябе на шклянку гарбаты дзве-тры асобы з нашай кампаніі. Яго невялікі вузкі пакой займалі ў большасці шафы і паліца з кнігамі. З якім жа замілаваннем ён іх збіраў! Усе беларускія кніжкі, якія толькі выйшлі з друку, былі, камплекты «Нашай нівы», нумары «Нашай долі», пару нумароў «Мужыцкай праўды», старыя рукапісы, «Люд беларускі» М. Федароўскага, падараваны аўтарам, і шмат-шмат іншых каштоўных друкаў.

Леўчык дакладна выпаўняў свае абяцанне. Былі мы з ім на выстаўцы ў «Захэнце», ездзілі ў Крулікарню.

Даведаўшыся, што мне да зельніка не хапае некалькі беларускіх назваў раслін, запрапанаваў пазнаёміць з М. Федароўскім, што, можа, ён мае якія запісы, не выкарыстаныя ў «Людзе беларускім». Мы пайшлі. М. Федароўскі прыняў нас вельмі ветліва, але, на жаль, таго, што мне трэба было, у яго не знайшлося.

Прыходзіў да мяне Леўчык часта. Вечарамі, калі я ўжо прыгатавала лекцыі і мела час, вялі мы бясконцыя гутаркі. Ён вельмі цікавіўся працай гродзенскага Гуртка беларускай моладзі, зрабіў сабе адбіткі фатаграфіяў гуртка, цікавіўся характарыстыкамі паасобных сяброў.

Адзін раз пабачыў на стале мой альбом да вершаў. «Я яго вазьму, — кажа. — Трэба ж, каб вы мелі памятку з вашага побыту ў

Варшаве. Упішу вам што-небудзь сам, іншыя таксама ўпішуцца». Даволі доўга трымаў альбом, але затое і папрацаваў над ім. Парабіў аздобныя надпісы, рысункі, упісаў пару вершаў. Вось адзін з іх:

Умярці не штука, а што жывем! —
Так розум нам гамоніць.
І так калісь у пяску згніем...
Умярці не штука, а што жывем!
Ад смерці мы не уцячэм.
Яна і так дагоніць...
Умярці не штука, а што жывем! —
Так розум нам гамоніць.

*Гальяш Леўчык (Слонім)*

Хутка мінула дзесяць месяцаў. У пачатку ліпеня 1914 г. я з Варшавы выехала. Праз пару тыдняў пачалася Першая сусветная вайна. Але пакуль фронт не перагарадзіў дарогі ад Варшавы ў Горадзеншчыну, стала карэспандаваць з Г. Леўчыкам. Ужо 1/14 жніўня 1914 г. я атрымала ад яго першую пісульку ў адказ на маю.

А вайна трывала... Немцы ішлі хутка. Надыходзілі якраз на нас. Займаюць Сейны, Сувалкі, Аўгустова, штораз бліжэй...

Дзеда пасылаюць на аперацыю ў Варшаву. Мама едзе з хворым бацькам, я астаюся. А як адрэжуць?.. Дала маме адрас Г. Ляўковіча. Ён чалавек добрай, чуткай душы, мо ў чым паможа? Так і было. Прыходзіў у шпіталь, займаў майго хворага дзеда вясёлымі гутаркамі, каб маці мая магла адысці, дыхнуць свежым паветрам. Нават рабіў мне вымоўкі, што я раней не паведаміла яму, бо прыйшоў бы спаткаць на вакзале і памог наладзіць справу з дактарамі, лячэннем... Спагадлівы быў вельмі...

Лісты ад Леўчыка ішлі да ліпеня 1915 г. У адным з апошніх пісаў: «Там у вас, як чуем, самае пекла. Выязджайце куды-небудзь, не чакайце бяды...» І мы, я і мая маці, сапраўды выехалі.

Тры гады ў Мінску, а пасля 5 гадоў у Сакольшчыне. І гэтак цэлых 8 гадоў кантакт з Г. Леўчыкам быў перарваны. Аж у 1923 г. вясной, якраз на Казюка — 4 сакавіка, — я прыехала ў Вільню, каб агледзецца, дзе шукаць мне кватэру, бо надумалася прыехаць у Вільню на сталае жыццё і шукаць сабе працы. Разумеецца, адразу пайшла ў Беларускую кнігарню, на Завальную, 7, і першай асобай, якую там пабачыла, быў Гальяш Леўчык.

Але ж як ён змяніўся, як пастарэў. Ані следу даўнейшага гумару, вочы прыгаслі, поўна сівых валасоў. Матэрыяльнае становішча вельмі цяжкае. Працы не меў. Прыехаў у Вільню, маючы надзею тут знайсці якую-небудзь працу. Але дарма. Пошукі добрых вынікаў не далі.

Збіраўся ехаць назад у Варшаву. Але нават тады не страціў ахвоты памагаць другім. Дзякуючы яму я наняла адпаведную кватэру на Антокалі, дзе і асела са сваёй сямейкай увосені 1923 г. Больш чым пэўна, што я ўвесь час з Г. Леўчыкам карэспандавала, але захаваўся толькі адзін ліст ад 15 лістапада 1924 г.

Пасля гэтага ліста былі яшчэ лісты і матэрыялы ў «Заранку». Пару дзесяткаў загадак (народных), некаторыя апрацаваныя Г. Леўчыкам у вершаванай форме. Верш «Сёмуха» друкаваўся ў «Заранцы». Лісты і іншыя вершы загінулі разам з архівам «Заранкі». У «Студэнцкай думцы» № 3 (4) 1925 г. надрукаваны верш «Сон на Нёмане каля Шчары». Пасля ён увайшоў у хрэстаматыю І. Дварчаніна разам з іншымі вершамі. У гэтай жа хрэстаматыі надрукаваны вершы з нявыйшаўшага ў свет зборніка Г. Леўчыка «Беларускі жаваранак»: «Я багат, багаты», «Восень», «На Дзяды», «Конь-ратай».

У 1926 г. прыязджаў Г. Леўчык на пару дзён у Вільню. Думаў, што ўдасца што-небудзь выдаць, але, на жаль, Выдавецкае т-ва на гэта не здабылася. Гэта была мая апошняя сустрэча з Гальяшам Леўчыкам. Карэспандэнцыя неяк перарвалася, пасля — вайна, і я нічога аб яго лёсе далейшым не ведала. Спадзявалася, што атрымаю падрабязныя весткі аб Г. Леўчыку (пра яго жыццё ў час вайны аж да смерці) ад гр. Пятра Ластаўкі, ад якога яшчэ ў жніўні [1968 г. — *Я. С.*[1]] атрымала ліст з абяцаннем гэтыя матэрыялы прыгатаваць і выслаць, але, на вялікі жаль, зрабіць гэтага ўжо не змог: 19 верасня гр. Пятра Ластаўкі не стала — памёр.

Аб Г. Леўчыку толькі чуткі, чуткі. Быццам жаніўся з нейкай асобай, якая яму абяцала памагчы выдаць яго творы. Гэта была толькі абяцанка. У час бамбардзіроўкі згарэў дом, дзе была кватэра Леўчыка. Згарэла ўся яго бібліятэка, усё, што так рупна збіраў праз усё жыццё. <...>

*Анатоль Іверс*

## ДАЛЁКІ ЎСПАМІН

Буржуазная Польшча ўяўляла ў даслоўным сэнсе паліцэйскую дзяржаву, дзе кожны рух чалавека кантралявалі яўныя і тайныя паліцаі. Прыйшоў ты ў горад ці ў суседнюю вёску, і цябе затрымлівалі, цягнулі ў цёмны куток, дапытвалі, чаго з’явіўся. Пры гэтым часта білі, зневажалі.

У такіх умовах развівалася літаратура Заходняй Беларусі. Амаль

усе прагрэсіўныя пісьменнікі хаваліся пад псеўданімы, што на некаторы час ратавала ад лішніх арыштаў і катаванняў па паліцэйскіх пастарунках і ў дэфензіве. Мой псеўданім, напрыклад, шпікі не расшыфравалі да канца свайго панавання.

Пасля таго як пілсудчыкі пазбавілі мяне права вучыцца ў Віленскай, Навагрудскай, а потым у Клецкай беларускіх гімназіях, я жыў у роднай вёсцы Чамяры на Слонімшчыне, быццам на прымусовым пасяленні. Працаваў на сельскай гаспадарцы. Адна была радасць — чытаў беларускія, украінскія і польскія прагрэсіўныя перыядычныя выданні, завочна знаёміўся з літаратарамі і сам пісаў і дасылаў вершы ў Вільню.

Вельмі хацелася тады сустрэцца з жывым паэтам, падзяліцца думкамі, паказаць сваё пісанне. Я даведаўся, што ў Слоніме жыве старэйшы беларускі паэт-нашанівец Гальяш Леўчык. Але хто скажа, на якой вуліцы? Не пойдзеш у дэфензіву па даведку.

Неяк паехаў я з бацькам у млын. Малолі там жыта і слонімскія мяшчане. Асцярожна пачаў я дапытвацца, дзе жыве Леўчык, што піша па-беларуску. І, як ні дзіўна, ніхто не ведаў такога чалавека. Толькі адзін пажылы мужчына сказаў, што ведае даволі інтэлігентнага чалавека, але яго прозвішча Ляўковіч. І назваў адрас.

Аднойчы забалеў мне зуб, прыпухла шчака. Быў цудоўны веснавы дзень 1936 года, калі я ішоў у горад да зубнога доктара. І, можа, не так да доктара, як да загадкавага Ляўковіча. Здымак паэта-земляка я бачыў у хрэстаматыі — пазнаю. А калі не ён, то скажу, што шукаю «дэнтыста», пакажу прыпухлую шчаку.

На вуліцы 3 Мая (цяпер Чырвонаармейская) пад № 73 у цэнтры агарода стаяў невялікі домік з адным акном у франтавой сцяне. Гэта і было жыллё Гальяша Леўчыка.

Хоць на дварэ было цёпла, гаспадар запрасіў «у хату». У доміку ўсё было дзіўна, цікава. Пасярэдзіне вузкага прадаўгаватага пакоя стаяла печ, паабапал якой былі перагародкі з дзвярамі. На сцяне вісела некалькі даволі добрых карцін, намаляваных алейнымі фарбамі, а таксама партрэт самога дзядзькі Гальяша, гітара з бантам.

Я сяк-так прадставіўся гаспадару. Ён, убачыўшы, што я гляджу на сцены, зазначыў, што малюнкі — гэта яго работа. А потым зняў з цвіка гітару і зайграў беларускую народную песню «Зялёны дубочак» і некалькі незнаёмых мне мелодый.

Пасядзелі мы так гадзіны дзве. Дзядзька Гальяш некалькі разоў зрываўся шукаць пачастунак, але я сказаў, што не галодны, што лепш раскажу на памяць (сшытка з сабою не браў) свае вершы. Уважліва слухаў ён, потым зрабіў заўвагі. З вялікай увагай выслухаў я парады невысокага, ужо сівога пісьменніка.

Разышліся мы добра знаёмымі.

Некалькі разоў заходзіў я да Гальяша Леўчыка. І кожны раз ён ветліва сустракаў і, як мне здавалася, заўсёды быў задаволены, хоць крыху суровы і сумнаваты. Вершы мае чытаў з задавальненнем, падкрэсліваў алоўкам, даваў парады.

Калі знаёмства зайшло яшчэ бліжэй, ён паказваў зборнікі твораў Францішка Багушэвіча, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Максіма Багдановіча і іншыя кніжкі, у тым ліку выдадзеныя выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца». Было ў яго многа беларускіх газет розных назваў і гадоў выдання, камплекты гумарыстычнага часопіса «Маланка».

Гутарылі мы і на палітычныя тэмы. Ён заўсёды быў на баку прагрэсіўных дзеячаў, Грамады, ТБШ, ніколі не выказваўся супраць камуністаў, Савецкага Саюза. Вельмі не любіў Янку Станкевіча і тых беларускіх дзеячаў, якіх падкормліваў буржуазны ўрад Польшчы.

Аднойчы ў час гутаркі Ілья Міхайлавіч Ляўковіч, схамянуўшыся і некалькі разоў прайшоўшыся па дыяганалі з вугла ў вугал, затрымаўся каля акна з заложанымі за спіну рукамі і сказаў:

— Ці дажыву я, каб пабачыцца з Коласам і Купалам?

— Дажывяце, дзядзька Гальяш.

— Пэўна, не. Нешта сэрца стала западаць, асабліва калі пачну хвалявацца.

А хвалявацца было ад чаго. Біяграфію паэта тады я не ведаў. Але і так было відаць, што жыве бедна. І калі аднойчы прынёс я з вёскі кусок сала, доўга ўпіраўся, не хацеў браць, нешта мармытаў сабе пад нос.

Гальяш Леўчык усё ж такі сустрэўся з Янкам Купалам у 1939 годзе зараз жа пасля вызвалення Заходняй Беларусі, калі народны паэт наведаў Слонім. Нашаму земляку стала лягчэй на душы, што яго не забылі. Але гэта быў ужо падарваны цяжкім жыццём чалавек — іскрыліся вочы, ды не падымаліся крылы. Да таго ж, апошнія падзеі так хутка і нечакана адбыліся, што шасцідзесяцігадовы дзядзька Гальяш не мог адразу выйсці з таго стану прыгнёту, у якім ён знаходзіўся ўсё сваё свядомае жыццё. Неяк Леўчык сказаў, што зайздросціць былым падпольшчыкам, якіх вызваліла з турмы Чырвоная Армія.

З першых дзён пасля вызвалення я паступіў на працу ў рэдакцыю слонімскай раённай газеты «Вольная праца». Сяды-тады забягаў у домік на Чырвонаармейскай вуліцы. Было відаць, што Ілья Міхайлавіч паступова, як пасля цяжкай хваробы, набіраецца сіл, прыходзіць да нармальнага стану. Раз я застаў яго над нейкімі рукапісамі. Прывітаўшыся са мной, паясніў:

— Трэба начыста перапісаць усё, што ў мяне ёсць, і пасланць Янку Купалу, хай перабіраюць і выдаюць, калі варта.

Ах, дзядзька, дзядзька! Сціпласць ніколі не пакідала яго.

Не ведаю, ці Г. Леўчык падрыхтаваў свае рукапісы, ці не. Гітлераўскае нашэсце перакрыжавала ўсё на свеце. У 1944 годзе загінуў наш зямляк у акупіраванай фашыстамі Варшаве. Фашысты расстралялі ў Слоніме яго жонку. Паліцаі расцягнулі небагаты набытак паэта.

Хатка паэта перажыла ваенныя пажары, стаяла на тым самым месцы. Тэрыторыю, дзе яна стаяла, адвялі пад будаўніцтва аўтарамонтнага завода, і бульдозер раструшчыў каштоўны экспанат. Ах, як мы не ўмеем шанаваць нашы помнікі гісторыі і культуры! Хіба кепска было б, каб домік паэта адсунулі ў вугал? Гэта быў бы невялікі музей нашага земляка, Чырвоны куток завода.

*Сяргей Новік-Пяюн*

## ДЗЯДЗЬКА ГАЛЬЯШ

За арганізацыю тайных беларускіх школ, за арганізацыю і кіраўніцтва Лявонавіцкім народным хорам і тэатральным гуртком я быў асуджаны белапольскай уладай на пяць гадоў высылкі з Беларусі ў глыб Польшчы на Памор'е, куды мяне накіравалі 1 верасня 1926 года.

А 18 сакавіка 1927 года ў Вільні Людвіка Войцікава (Зоська Верас) пачала выдаваць часопіс для беларускіх дзяцей пад назваю «Заранка». У гэтым часопісе я супрацоўнічаў праз увесь час існавання «Заранкі», з 1927 да 1931 года, дасылаючы з высылкі лісты да чытачоў, вершы, апавяданні, п'ескі, малюнкі, падпісваючы свае творы псеўданімам Малады Дзядок.

У «Заранцы» пачалі з'яўляцца вершы і Гальяша Леўчыка, якога асабіста я ніколі не бачыў.

Пасля адбыцця пяцігадовае высылкі я вярнуўся ў родныя Лявонавічы, але белапольская паліцыя праз чатыры гадзіны пасля прыезду мяне арыштавала, а Нясвіжскі гродскі суд аддаў пад нагляд паліцыі і выслаў ад граніцы за сто кіламетраў.

Гэтак я апынуўся ў горадзе Слоніме, які знаходзіўся на 105-м кіламетры ад граніцы.

Ліпень 1936 года выдаўся сонечны, цёплы. Я жыў на ўскраіне Слоніма па вуліцы Агароднай (зараз Францішка Багушэвіча). Аднойчы ў сярэдзіне дня на панадворку забрахаў сабака Бой. Я выйшаў з хаты і ўбачыў каля брамы невысокага чалавека ў вышыванай беларускай кашулі з кучаравай сівой чупрынай. Вочы чалавека гарэзліва

пазіралі на мяне.

— Добры дзень, Пяюн! — звярнуўся прыбылы і назваўся: — Я — Гальяш Леўчык!

Ён моцна паціснуў мне руку.

Радасць мая была бязмежнай! Нарэшце я ўбачыў жывога Гальяша Леўчыка! Я запрасіў дарагога госця ў хату.

Паэт, нягледзячы на свае 56 гадоў, аказаўся рухавым чалавекам, цікавым і вясёлым субяседнікам. Шмат цікавага расказаў мне дзядзька Гальяш (гэтак у нас, беларусаў, прынята звяртацца да старэйшых людзей). Сказаў ён, што ад Людвікі Войцікавай даведаўся, што «ў Слоніме жыве супрацоўнік «Заранкі» Малады Дзядок — ён жа паэт Сяргей Новік-Пяюн».

Успамінаў дзядзька Гальяш пра Янку Купалу і Якуба Коласа, з якімі супрацоўнічаў у газеце «Наша ніва».

— А ці ведаеш, Сяргей, — спытаў дзядзька Гальяш, — што ў Слоніме жыве Ядвіся — тая Ядвіся, аб якой піша Якуб Колас «У палескай глушы»? Прозвішча яе Бараноўская, а жыве яна ў доме на ўзгорку насупраць Ражанскага магільніка. У «Нашай ніве» яна друкавала свае вершы, падпісваючы псеўданімам Юстына.

Амаль да самага вечара быў у мяне дзядзька Гальяш і запрасіў да сябе на вуліцу 3 Мая (пазней Чырвонаармейская) дом № 73. Часта наведваў мяне дзядзька Гальяш, часта я наведваў яго. І так на працягу часу ад 1936 да 1939 года.

Жыў дзядзька Гальяш у маленькім дамочку, які нагадваў будку чыгуначніка-стрэлачніка. На сцяне калідорчыка віселі музычныя інструменты: скрыпка, гітара, трыкутнік і дзве італьянскія акарыны. Пакойчык дзядзькі Гальяша нагадваў зал музея. Усе сцены былі пазавешваны ягонымі малюнкамі ў пазалочаных рамачках, фотаздымкамі, сярод якіх быў вялізны алейны партрэт самога Гальяша работы варшаўскага мастака. Шмат было тут розных беларускіх кніжак, рукапісаў, здымкаў. Дзядзька Гальяш быў не толькі паэтам, але і спеваком, і мастаком, і музыкам.

Аднойчы, калі я сабраўся ісці дадому, дзядзька Гальяш спыніў мяне:

— Пачакай, Сяргей, паслухай, як я граю!

Ён зняў са сцяны акарыну і, калі мы выйшлі на панадворак, зайграў, як на флейце, вельмі прыгожа. Я падзякаваў і развітаўся.

Я быў чалавек паднаглядны, і таму мне даводзілася наведвацца ў Слонімскі магістрат на рэгістрацыю. І неяк у тым жа ліпені 1936 года да мяне там падышла высокая стройная кабета ў чорным паліто і капелюшы, з-пад якога спадалі пасмы сівых валасоў. Адчувалася,

што яна была некалі прыгожай.

Кабета з ветлівай усмешкай сказала:

— Добры дзень! Я — Ядвіся!

Я пытальна глядзеў на яе.

— Але, але! Я тая Ядвіся, аб якой напісаў Якуб Колас у сваёй аповесці «У палескай глушы». Мы сябравалі. Якуб Колас і я друкавалі вершы ў «Нашай ніве», я свае падпісвала псеўданімам Юстына. Мне пра вас расказваў Гальяш Леўчык. Маё прозвішча па мужу Бараноўская. — І яна пацiснула маю руку.

Да яе падышла маладая настаўніца.

— Гэта мая дачка, — пазнаёміла мяне Бараноўская.

Месца для гутарак было неадпаведнае. На развітанне яна сказала:

— Калі ласка, заходзьце да нас! Гальяш казаў, што даў вам наш адрас.

Праз некалькі дзён я наведаўся да «Ядвісі». Яна паказала гадавік «Нашай нівы» са сваімі вершамі.

А калі вясною 1961 года мне давялося быць у Слоніме і я прыйшоў у дом Бараноўскай, мне сказалі, што яна з дочкамі ў 1945 годзе выехала ў Польшчу.

8 кастрычніка 1939 года ў Слонім прыехаў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі Міхась Лынькоў. У рэдакцыі слонімскай газеты «Вольная праца» ён сустрэўся з намі, прадстаўнікамі заходнебеларускіх пісьменнікаў. Тут быў і старэйшы паэт Гальяш Леўчык, які горача вітаў старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Ён заўважыў Міхасю Лынькову, што ў творах некаторых аўтараў сустракаюцца паланізмы, напрыклад: замест беларускага слова «бліск» ужываюць польскае «бляск».

Міхась Лынькоў на гэта адказаў:

— Вось цяпер вы нам і дапаможаце выправіць памылкі.

Лынькову ад імя вызваленых заходнебеларускіх пісьменнікаў былі паднесены ручныя кайданкі, у якіх не раз хадзілі за сваю творчасць беларускія паэты ў час панскай улады, каб пабачылі пісьменнікі свабоднага народа, якую «ўзнагароду» атрымлівалі рабоча-сялянскія пісьменнікі Заходняй Беларусі ў жахлівай, жудаснай мінуўшчыне.

У той самы вечар са сцэны народнага дома Гальяш Леўчык вітаў Чырвоную Армію-вызваліцельніцу і чытаў свае вершы.

А 14 лістапада 1939 года ў Слонімскі павятовы аддзел народнай асветы ў мой кабінет зайшоў народны паэт Беларусі Янка Купала,

[1] Пра гэта ў кнізе «Народны паэт Беларусі» (Мінск. Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1962. С. 185–192) надрукаваны мае ўспаміны пад назвай «Незабыўная сустрэча».

з якім я паехаў да Гальяша Леўчыка[1]. Старыя сябры радасна віталіся і ўспаміналі пра часы дарэвалюцыйнае супольнае працы ў «Нашай ніве».

Гэта была мая апошняя сустрэча з Гальяшам Леўчыкам. Ён паехаў у Варшаву, дзе аставалася яго багатая бібліятэка.

Я ведаў, што жонка Гальяша Леўчыка Зося Ляўковіч зусім не дбае аб захаванні архіва паэта, і на пачатку 1940 года запрапанаваў ёй прадаць архіў Слонімскаму музею. Зося Ляўковіч згадзілася і прадала мне: партрэт Гальяша Леўчыка, два ягоныя алейныя малюнкі «Макі» і «Вёска Шайпякі» і ўвесь слонімскі архіў паэта, сярод якога быў ліст Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка на бланку Беларускага выдавецкага таварыства ад 7 лютага 1914 года[2].

Быў у архіве яшчэ адзін цікавы дакумент — заява Гальяша Леўчыка да слонімскага павятовага старасты аб тым, што ён выступае з рымска-каталіцкага касцёла і просіць выкрасліць яго са спіскаў парафіянаў гэтага касцёла. Подпіс Гальяша Леўчыка зацверджаны польскай гербавай пячаццю.

Усё гэта я перадаў у Слонімскі краязнаўчы музей у 1940 годзе.

Мінула 39 гадоў ад таго дня, калі я апошні раз бачыўся з дзядзькам Гальяшам, а ў памяці ён жыве, як некалі: добразычлівы, шчыры і сардэчны.

---

[2] Паколькі я лічыў, што месца лісту ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, напісаў пра гэта ў Міністэрства культуры БССР. Хавальніца фондаў музея, пляменніца Я. Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская паведаміла мне, што пісьмо зараз захоўваецца ў музеі Янкі Купалы.



# Сямён
# ЛЯЛЬЧУК

Сямён Абрамавіч Ляльчук нарадзіўся 25 верасня 1918 г. у м. Калінкавічы Мазырскага павета (цяпер горад Гомельскай вобласці).

Пасля заканчэння школы ў Калінкавічах паступіў у Мінскі педінстытут, у якім вучыўся з 1935 па 1939 г. Увосень 1939 г. прызваны ў армію. Вайсковую службу праходзіў у Прыбалтыйскай ваеннай акрузе (Рыга). У час вайны быў на фронце, прапаў без вестак у ліпені 1941 г.

Першыя творы апублікаваў на старонках газеты «Юнгер ленінец» («Юны ленінец»). З 1938 г. друкаваўся ў часопісе «Штэрн» («Зорка»). Пісаў на ідыш. У 1940 г. у сааўтарстве з паэтамі І. Баруховічам, Х. Гурэвічам, П. Плоткіным выдаў на ідыш калектыўны «Зборнік вершаў». Асноўныя творы апублікаваў у часопісе «Штэрн». Папка з рукапісамі, якую пісьменнік перадаў сястры, згубілася пры эвакуацыі. Захаваўся рукапіс гумарыстычнай паэмы «Успаміны. К гадавіне нашай разлукі». Вершы С. Ляльчука ўключаны ў зборнік «Лира» (М., 1985). У перакладзе на беларускую мову вершы змешчаны ў кнізе «Мы іх не забудзем» (1949).

# Паэзія

## ЖАЎРУК

Ён павіс на нітцы залатой
Паміж небам сінім і зямлёй.

Пачарнелі снежныя шляхі,
Пад страхой сасулькі, як штыхі.

На двары спыніўся чалавек:
Дзесьці песня раскаваных рэк.

Упадзі на шлях і слухай спеў, —
Гэта ён, нябачны, зазвінеў.

Над зямлёй, над шатамі лясоў —
Песня серабрыстая без слоў.

## ПЕСНЯ ПРА СОЖ
*Урывак*

Ён не ганарыцца шырынёй і глыбінёй,
хоць мае месцы,
дзе купацца забаронена.
Спляліся густа над спакойнаю вадой
цары-дубы
і вербалозы кронамі.
Палюбіў здавён яго палескі чалавек,
а мы ў маленстве тут
усе віры аблазілі.
Ён можа зелені пазычыць
сотням рэк,

што млява коцяцца
у стэпе Азіі.
Над ім бары
шумлівай тоўпяцца сям’ёй,
жывіцы пах плыве вакол
над узбярэжжамі.
Ягоны дужы стан
асветлены зарой
і золатам пясчынак
абмярэжаны.
Шчаслівы, поіць ён калгасы, гарады,
калыша на грудзях ён чоўны вузкія,
ліецца хвалямі празрыстае вады
цераз абшары беларускія.

## МАЎКЛІВЫЯ СОСНЫ

Сосны! Не маўчыце.
Працягніце
Рукі да мяне
                і адкажыце,
Што вам у світальнай цішы сніцца?
І ў адказ пачуў:
                — Не лезьце, людзі,
З ботамі ў чужыя таямніцы!

## З ТАПОЛЯЙ

Таполя ў маленстве мяне падражняла
Лістотай сваёй, што не ведала ліку:
— Маёй паспрабуй дасягнуць вершаліны,
Ты ж хвалішся,
                быццам бы вырас вялікі!

Таполя ў юнацтве мяне падражняла
Сваёю пяшчотай
                і зграбнасцю стану:

— Дзівіся, хлапчына, з мяне!
Параўноўвай
Маю прыгажосць з прыгажосцю каханай!..

І зараз таполя мяне падражняе,
З зямлёю і з небам не тоячы змовы:
—Табе неўзабаве ўжо ў войска збірацца.
Ці будзеш ты дужы, як я, і здаровы?!.

Пад старасць таполя,
не страціўшы моцы,
Ізноў падражняць мяне будзе, бясспрэчна:
— Куды ты?
Стань побач са мною,
старэча,
І маладым заставайся навечна!

## НЕ ПАЗНАЎ

Стаў цягнік.
Пытаюся нясмела:
— Што за горад?
Тут жа гусяй белай
Станцыя мая сядзець павінна...
Ці то ночы, ці мая правіна —
Анічога не пазнаў з вагона...
— Калі ласка! —
мне крычаць з перона.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор Рэлес*

## ПАЭТ СЯМЁН ЛЯЛЬЧУК

На яўрэйскім аддзяленні Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага ў сярэдзіне 30-х гадоў вучылася група маладых яўрэйскіх пісьменнікаў, у асноўным паэтаў: Рува Рэйзін, Генадзь Шведзік, Захар Барсук, Піня Плоткін, Ірма Злотнік і я, а таксама празаік Мота Дзягцяр. Праўда, я вучыўся там нядоўга. Месяцы з два — не болей. Мяне выключылі за тое, што я схаваў сваё сацыяльнае паходжанне. Мой бацька некаторы час працаваў меламедам, аднак ён не меў хедэр (групы вучняў, якія вывучалі яўрэйскія малітвы і законы), таму што ўсякія рэлігійныя арганізацыі былі тады строга забаронены. Ён займаўся з некалькімі вучнямі паасобку. Хтосьці з маіх так званых «сяброў» з Чашнікаў, якія рабілі кар'еру на даносах, паведаміў пра гэта. Калі старшыня секцыі яўрэйскіх пісьменнікаў Беларусі знакаміты паэт Ізі Харык даведаўся пра ўсё гэта ад мяне, ён параіў паступіць вучыцца на вячэрняе аддзяленне літаратурнага факультэта двухгадовага Мінскага настаўніцкага інстытута, які пачаў працаваць. Я так і зрабіў. Але са студэнтамі яўрэйскага аддзялення літфака, дзе я раней займаўся, стасункі не перапыніў, пасля заняткаў я з імі часта сустракаўся. Памятаю, на пачатку другога навучальнага года ў студэнцкай сталоўцы да мяне падышоў малады паэт Піня Плоткін, які толькі паступіў вучыцца ў педінстытут. Падышоў з маладым рослым і плячыстым хлопцам, з выгляду бойкага, але які яўна хаваў гэта да пэўнага часу, як мне падалося. Плоткін запытаў:

— Табе даводзілася чытаць творы пачынаючага паэта Шымона Лялчука?

— Канешне, чытаў, — адказаў я. І дадаў: — Ён нават зрэдку друкаваўся ў часопісе «Штэрн».

Я тут жа працягнуў Лялчуку руку. Ён так моцна яе пацiснуў, што ад болю цяжка было пальцы разняць.

Піня, бачна, адчуў, што не зусім тактоўна паводзіць Лялчук — так балюча сціснуў мне руку, і таму, быццам саромеючыся за яго ўчынак, патлумачыў мне:

— Ён з Палесся.

Гэты беларускі край лічыўся на той час глухаманню, дзе па начах можна было сустрэць дзікіх звяроў.

Ляльчук, відаць, зразумеў, чаму Піня тут жа згадаў пра радзіму Ляльчука, і незадаволена зірнуў на Піню, аднак нічога не сказаў. І мы моўчкі ўсе трое сталі ў чаргу па талоны на абед. Мы елі таксама моўчкі, і калі справа дайшла да другога, адразу кінулася, што паляшук, да якога ў самым пачатку прыліпла гэтая жартоўная мянушка, няўмела карыстаецца відэльцам. Пасля гэтага я рэдка з ім сустракаўся, пры нагодзе здароўкаліся кіўком галавы і не завязвалі размовы. Але вось ужо вясною, калі пераўвасобілася прырода, зацвіў бэз і іншыя кветкі, нібы стаў зусім іншы малады паэт Сямён Ляльчук, ці Шымон Ляльчук, як падпісваў ён свае вершы. Яго ўжо можна было ўбачыць у сінім элегантным касцюме, у прыгожай кашулі і модным гальштуку. І ўсюды, куды б ні ішоў, ён вёў пад руку маладую дзяўчыну — прыгожанькую, вельмі прывабную. Пры сустрэчы не я яго, а ён мяне запыняў і цікавіўся, але не дзеля прыліку, а пасяброўску шчыра, над чым працую, якія маю планы на будучыню і гэтак далей. Дзяўчына ўважліва слухала нашу гутарку і часам ўмешвалася, і было што пачуць ад яе.

У 1937 годзе, калі арыштавалі і кінулі ў турму Ізі Харыка, Майсея Кульбака, а ўрэшце дабраліся і да Аксельрода, усе думалі, што ў лідэры вылучыцца Сямён Ляльчук. Усё ішло да гэтага. Аднак не тут тое было. Ён сам ухіляўся ад лідэрства. А чаму, пра тое нікому не гаварыў. Зрэшты, усё было зразумела без слоў. Але папулярнасць яго паэзіі ўзрастала. І ён на самай справе стаў папулярным яўрэйскім паэтам, асабліва сярод моладзі. Калі ён закончыў інстытут, яўрэйскія школы ў Савецкім Саюзе ўжо не існавалі: іх зачынілі па загаду «геніяльнага правадыра сусветнага пралетарыяту» Сталіна. Выпускнікоў педінстытута Сямёна Ляльчука, Руву Рэйзіна, Моту Дзегцяра, Мацвея Грубіана і іншых хацелі накіраваць працаваць выкладчыкамі рускай мовы ў сярэднія школы Беларусі. Але яны адмовіліся. І добраахвотна пайшлі служыць у армію.

— Там мы цяпер патрэбны, — казалі яны.

З арміі сваякі і таварышы атрымоўвалі ад іх лісты. Яны прымалі ўдзел у вызваленні заходніх раёнаў Беларусі і ў вайне з Фінляндыяй. І, натуральна, з пачаткам ваеннага 1941 года ўдзельнічалі ў цяжкіх баях. І толькі Мацвей Грубіан цудам ацалеў і вярнуўся з вайны. Астатнія ўсе загінулі ў розны час на франтах Айчыннай, і да сённяшняй пары невядома, пры якіх абставінах гэта здарылася.

Сямён Ляльчук, малады яўрэйскі паэт, нарадзіўся ў Калінкавічах. Адтуль пасля заканчэння школы падаўся вучыцца ў Мінск.

У 1935 годзе ён стаў студэнтам. Яшчэ займаўся яго жыццёвы золак, як ён паў у змаганні з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Таленавіты паэт С. Ляльчук пакінуў пасля сябе невялікую літаратурную спадчыну. Не ўсё ацалела падчас вайны, і гэта вельмі засмучае, балюча раніць сэрца. Перад вайной разам з маладымі паэтамі І. Баруховічам, Х. Гурэвічам, П. Платкіным выдаў на яўрэйскай мове «Зборнік вершаў», на які ў 1941 годзе паспелі з'явіцца рэцэнзіі ў перыядычных выданнях. Найчасцей яго творы друкаваў часопіс «Штэрн». Адзін з іх — верш «Песня пра Сож», у якім узнёсла паэтызуецца хараство роднай беларускай ракі:

Ягоны дужы стан
асветлены зарой
і золатам пясчынак
абмярэжаны.

*(Пер. А. Вялюгіна)*

Пасля вайны выйшаў у Мінску зборнік «Мы іх не забудзем» (1949), прысвечаны памяці загінуўшых пісьменнікаў Беларусі на франтах Айчыннай вайны 1941–1945 гг. У ім прадстаўлены таксама імёны і творы яўрэйскіх пісьменнікаў, якія склалі свае галовы ў баях за Радзіму. Праз пэўны час, у 60-я гады, гэты зборнік твораў быў перавыдадзены па падказцы паэта Ніла Гілевіча. Усе згаданыя вышэй загінуўшыя яўрэйскія пісьменнікі-франтавікі былі як быццам забытыя, іх не ўключылі ў кнігу, нават нідзе не згадалі ніводным радком. І ніхто не панёс адказнасць за гэтую подласць, цынічны і агідны ўчынак.



# Алесь
# МІЛЮЦЬ

Алесь (Аляксандр Макаравіч) Мілюць нарадзіўся 6 кастрычніка 1908 г. у в. Скорычы Навагрудскага павета Мінскай губерні (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці).

Скончыў два класы пачатковай школы, далей паглыбляў веды шляхам самаадукацыі. Займаўся сельскагаспадарчай працай. Пасля 1939 г. пэўны час працаваў у рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газеты. У гады вайны жыў у партызанскай зоне. Пасля вызвалення родных мясцін (1944) быў мабілізаваны на фронт. Загінуў ад снайперскай кулі 26 кастрычніка 1944 г. ва Усходняй Прусіі. Пахаваны ў брацкай магіле ў пас. Ватуціна Несцераўскага раёна Калінінградскай вобласці.

Выступіў з вершамі ў заходнебеларускім друку ў 1928 г. Паэтычныя творы змяшчаліся ў часопісах «Шлях моладзі», «Пралескі», «Хрысціянская думка» і некаторых іншых выданнях. Асобныя творы змешчаны ў анталогіях і калектыўных зборніках паэзіі «Мы іх не забудзем» (1949), «Сцягі і паходні» (1965), «Крывёю сэрца» (1967), «Ростані волі» (1990), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), «Першацвет адраджэння» (1995). У 2003 г. выйшаў зборнік А. Мілюца «Паэзія баразны».

# Паэзія

* * *

Няхай даюць мне горы залатыя
І рэкі він, што льюцца цераз край...
Хай абяцаюць роскашы зямныя,
Багацця моц... Няхай нябесны рай...
Я родных слоў, народу, краю й волі
Не здраджу, не прадам нідзе й ніколі!..

*15 лютага 1929 г.*

## БЯРОЗЫ

— Чаго вы плачаце, бярозы,
Над шляхам векавым?
Што вас прымусіла ліць слёзы
Ў жалю такім нямым?

Чаму так сумна і гаротна
На свет вы гледзіцё?
Чаго так шэпчацца маркотна
Паміж сабой лісцё?

— Таго мы плачам, — адказалі
Бярозы ў адзін тон, —
Што край наш родны закавалі
Зноў у бяду-палон.

*1930 г.*

## БРАТУ

Ты будзь, брат, верны да канца
Сваёй зямлі, свайму народу,
Што стогне з гора год ад году.
Ты будзь, брат, верны да канца.

Хоць мо спаткаем шмат нягодаў, —
Май дух адважнага байца!
Ты будзь, брат, верны да канца
Сваёй зямлі, свайму народу!

*1930 г.*

## З РОДНЫХ ПЕСЕНЬ

Беларусам я радзіўся,
Беларусам буду жыць,
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць.

Бо радзімая старонка
Над усё мне прыгажэй,
Беларуская гаворка
Над усё мне даражэй.

Славу родную і волю
Я нікому не прадам,
За народ свой беларускі
Я жыццё сваё аддам.

Хай загіне наша гора,
Здзек, пагарда і прымус,
Хай жыве для славы вечнай
Край наш родны — Беларусь!

*1930 г.*

## ЯНЫ

Папыталіся ў іх, хто такія яны
І чаму тут марнуюць жыццё без пары?
«Мы — саломенных стрэх, бедных вёсак сыны,
Мы — байцы за народ, мы — жыцця змагары!»

Папыталіся ў іх, за што з роднай зямлі
Іх сагналі сюды на нямала гадоў?
«Мы за волю, за праўду святую ішлі,
Мы стаялі за долю гаротных братоў!»

Папыталіся ў іх, што ім трэба было?
Што хацелі яны, што імкнуліся ўзяць?
«Мы хацелі, каб ў свеце загінула зло,
Каб самім нам над скарбам сваім панаваць!»

Папыталіся ў іх, што ім будзе пасля?
Які лёс іх спаткае у прышласці дзён?
«Хай пагінем усе... нас прытуліць зямля,
Кінуць людзі за кроў нашу катам праклён.
Будуць помніць і помсціць за нас!» —
Такі быў іх на гэта адказ.

*1930 г.*

## МОЙ ІДЭАЛ

Багаццяў, славы мне не трэба,
Я не шкадую іх нідзе;
Я жыць хачу вадой і хлебам
Ў нядолі, горы і бядзе.

Хачу я ведаць, як жывецца
Маім пакрыўджаным братам,
Чаму іх пот дарма ліецца,
А капітал расце панам?

Чаму на слёзах, на нядолі
Красуе роскаш багачоў?
Чаму наш край не мае волі?
Чаму ў ім многа палачоў?

Дык хай душа хутчэй адчуе
Святы народны ідэал —
Душа мая, што ўсцяж гаруе,
Бо смокча кроў з яе Ваал.

*1930 г.*

## ЯШЧЭ ЎЗЫДЗЕ СОНЦА

Яшчэ ўзыдзе сонца,
Ночкі змрок развее...
Яшчэ прыйдзе доля
З лепшаю надзеяй...

Песня салаўіна
Вольна разліецца,
Сэрца беларуса
Радасна заб’ецца...

Яшчэ ўзыдзе сонца —
Злая моц загіне...
Яшчэ край наш родны
Сваё гора скіне!

*1930 г.*

## Я ХАЦЕЎ БЫ...

Я хацеў бы пяяць, як пяе
Майскім раннем ў бары салавей;
Я хацеў бы, каб песні мае
Грэлі праўдаю сэрцы людзей...

Я хацеў бы звінець, як звініць
Той царкоўны натрэснуты звон;
Я хацеў бы народ свой ўзбудзіць,
Каб ён скінуў адвечны свой сон...

Я хацеў бы гудзець, як гудзе
Ў полі вецер асенні з дажджом;

Я хацеў бы у братняй бядзе
Згінуць смелым і гордым байцом...

Я хацеў бы шумець, як шуміць
Перад бурай пагудзісты гай;
Я хацеў бы моц злую разбіць,
Што руйнуе радзімы мой край!..

*24 кастрычніка 1931 г.*
*Скорычы*

## З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА

Яму кажуць, як найлепей заслужыці неба,
А ён, бедны, клапаціцца, як здабыць кус хлеба.
Яму кажуць, карысней як зберагчы астаткі,
А ён, бедны, голаў ломіць, як аддаць падаткі.
Яму кажуць, якім шляхам шчасце мець у жыцці,
А ён, бедны, розум сушыць, як з крызісу выйсці.
Яму кажуць: у хваробе трэ ісці лячыцца,
А ён, бедны, вось шукае, як бы дзе ўтапіцца.

*31 жніўня 1932 г.*
*Скорычы*

## ТРЫЯЛЕТ

Хіба ж хто не знае з нас,
Што цяпер злы ў свеце час;
Хіба ж хто не знае з нас…
Хоць працуем шмат падчас —
А жывём за голы квас...
Хіба ж хто не знае з нас,
Што цяпер злы ў свеце час…
Што ўсяго ёсць падзапас...

*10 лютага 1933 г.*

## «БЕЛАРУСКАЙ КРЫНІЦЫ»

*З нагоды 19 года яе выдання*

Ты, «Беларуская крыніца»,
Адна з праўдзівейшых газет!
Ад шчырых слоў душы крывіцкай
Прымі пяснярскі мой прывет!

Ты — найстарэйшая газета!
Бо дзевятнаццаты ўжо год
Праз цемру зла да праўды свету
Вядзеш працоўны наш народ.

Ты — светач-зорка новай эры,
Народнай волі зорны шлях...
Ты — сымбаль ходання і веры,
У лепшу будучыню гмах.

Ты, ўсцяж йдучы да светлай мэты,
Смяротным ворагам на страх,
Трымаеш горда перад светам
Наш бел-чырвона-белы сцяг.

Ты — дух народнага імкнення,
Што магутнее з года ў год.
Да волі, шчасця й адраджэння
Заспаны будзіш ты народ.

Дык з гора, з крыўдаў і цярпенняў
Пакутны край наш вызваляй,
Для славы прышлых пакаленняў
Свой Новы год распачынай.

*10 студзеня 1935 г.*
*Скорычы*

## БРАТУ БЕЛАРУСУ

Ці ж будзем мы, братка, ад жалю і слёз
Усё жыцце гібеці душою?
Знай! — як ні пакутны у свеце наш лёс,
Не змыем мы гора слязою...

Хоць цемра між намі... Хоць цяжкі ўжо гнёт
Гняце нас сягоння да болю...
Вер! — прыйдзе часіна — ачнецца народ
Каваць сваю долю і волю...
І новым шчаслівым свабодным жыццём
Прабудзяцца родныя гоні...
Эх, братка, свабодна і мы зажывём
Пад сцягам Крывіцкай Пагоні!

*7 сакавіка 1935 г.*
*Скорычы*

## ПОКЛІЧ

Мы ідзём па шчасце,
Мы па долю йдзём...
Усіх, хто шчэ ў няшчасці,
За сабой вядзём.

Хоць ўстаюць прад намі
Хмары з злым віхром,
Уласнымі рукамі
Мы іх моц сатром...

І пакажам свету,
Што і мы народ...
Гэй, хутчэй да мэты,
Гэй, браты, ўпярод!

*1935 г.*

* * *

Няхай злуецца Маркс, хай гневаецца Ленін,
Што мне навукаў іх не даў мой добры геній,
Што не ўспрыняў я іх методу гэту:
Каб гвалтам будаваць парадак новы свету.

Сваё жыццё дабра і праўды радзі,
Так, як Буда, Хрыстос, Талстой ці Гандзі,
Я ўсё аддам служэнню ідэалу,
Але не ў дар крываваму Ваалу...

І поўны я нязломнай цвёрдай веры,
Што блізкі час жаданай новай эры.
Калі зямля крывёй не будзе зліта,
Але любоўю братняю сагрэта...
Дык хай тэрор... хай сёння мучаць болі... —
Я верны сын адной працоўнай долі...
І з века ў век, хоць шмат цярплю пакусаў, —
Я быў, я ёсць і буду беларусам...

*30 жніўня 1935 г.*
*Скорычы*

## МОЛАДЗІ

*Прысвячаю гурткам Бел. ін. гас. і к.*

Мы — маладое пакаленне,
Патомкі слаўных крывічоў.
Нясём народу адраджэнне,
Што спаў, прыгнечаны з вякоў...

Мы — авангард працоўнай раці,
Жыцця мы зорка новых днёў...
Ідзём мы ў свет, каб будаваці
Гмах славы прошлае дзядоў.

Мы — дзеці вольнага народа,
Што хоча жыць сваім жыццём...
Хоць шмат цярпім яшчэ нягодаў, —
Мы долю лепшую куём...

Дык што нам сёння цемры сілы!
Мы — сонца — й сонцам мы жывём!
Штандар свой бел-чырвона-белы
Прад светам горда мы ўзнясём...

Мы — маладое пакаленне,
Патомкі слаўных крывічоў,
Вядзём народ да вызвалення
З адвечнай цемры кайданоў!

*14 верасня 1935 г.*
*Скорычы*

## ВЯСНОЮ

Бачу, вунь, ратай арэ, —
Ледзь ступае сіўка,
І мне хочацца скарэй
Прывітацца з ніўкай.

Вось і родны мой загон, —
Ён ляжыць дзірванам!
Я прынёс табе паклон,
Брат мой занядбаны.

Я прынёс табе прывет
Ад людскіх мазоляў
І жадаю новы свет
Ўбачыць з лепшай доляй.

Каб зло ўсё ў цябе лягло
Прыараным гноем,
Каб жыццё навек цвіло
Шчасцем і спакоем!

*1936 г.*

## НА ПАМЯТКУ...

Не плюй у ваду — бо трэба будзе напіцца...
І не тапчы нагой — бо прыйдзецца падняць.
Не кпі з кагось — бо трэ будзе здружыцца
І помач, і любоў сабе яго прыняць...
Так ведай, брат, — у гэтым праўды сіла:
Не чынь таго другім, самому што няміла.

*26 кастрычніка 1936 г.*
*Скорычы*

## ПЯТРУ Х-ЛЮ

Прымі, мой добры слаўны дружа,
Радзімы сцяг.
Каб мог ты з ім на раздарожжы
Знайсці свой шлях...
Каб між чужых блукацца кінуў —
Сваіх спазнаў...
І за народны здзек і кпіны
Каб пастаяў.
Каб роднай мовай не пагардзіў,
Каб шанаваў...
Братам лапцюжным каб не здрадзіў,
Каб не прадаў...
Каб даў адпор усёй пакусе,
Каб гартаваў...
І каб за волю Беларусі
Жыццё аддаў...

*20 снежня 1936 г.*
*Скорычы*

## МАЯ АСВЕТА

Я без гімназіі, без універсітэта
Здабыў сабе патрэбную асвету...
О не! Не там... а за касой і плугам
Здабыў яе пры працы саматугам...
Дык хай пустым гардзіцца хто дыпломам...
Я ж не гарджусь — бо мала йшчэ вядомы.
Бо шмат ў жыцці дазнаў бяды і мукаў,
Дык мушу вось... застацца самавукам...

*22 лютага 1937 г.*
*Скорычы*

## БЕЛАРУС

Кім ты звешся?
Беларусам.
Як жывеш ты?
..................................
Што цярпіш ты?
Гнёт нядолі.
Чаго хочаш?
Жыцця-волі…
Чым ты здатны?
Працай ўдалай.
Чым ты горды?
Прошлай славай.
Чым ты весел?
Сваім горам.
Чым багаты?
Хлебам-мёдам…
Чым ты крэпак?
Словам жывым.
Чым адметны?
Сэрцам шчырым.
Што кахаеш?
Край свой мілы.
І ў што верыш?
Ў свае сілы!..

* * *

Можа, гэта перлы,
Мо крышталь нябёс,
Лёгкаю пушынкай
Ветрык нам прынёс?

Можа, гэта срэбра,
Мо іскрынкі зор
Сыплюцца цудоўна
На палёў прастор?

Можа, гэта краскі,
Мо лябеджа бель

Высцілае ўвокал
Мяккую пасцель?

Можа, гэта зоркі,
Мо мух белы рой
З вышыні таёмна
Сее хтось рукой.

Ўсё знаёма гэта…
Ўжо згадалі мы:
Роднае старонкі
Гэта скарб зімы!

## Актава

Зіма… На шыбах кладуцца вузоры,
Спіць усё пад халоднай пасцеляй снягоў…
Эх, колькі дзіваў у вольным пrasторы!
Колькі ўсюды разліта д’ментаў-агнёў!..
Край мой! Хоць сёння ты ў смутку і горы
Бачыш крыўду і здзек сваіх верных сыноў, —
Усё ж надыдзе той час — ажыве ўсё кругом
І ты новым шчаслівым паўстанеш жыццём.

## Хрыстос Ускрос!

Прайшла зіма… І чар вясны
Зышоў, як дар з нябёс…
Ў паветры радасна званы
Гудуць: «Хрыстос ускрос!»

К жыццю ўваскрослая зямля
П’е ласкі сонца кос…
Жывой прыроды чую я
Гімн-спеў: «Хрыстос ускрос!»

Красой любуецца пагляд
Радзімых ніў-палос…

Плыве з-пад стрэх сялянскіх хат
Прывет: «Хрыстос ускрос!»

І нeяк хочацца душой
Забыцца гора й слёз, —
Бо ўсё таёмнаю струной
Пяе: «Хрыстос ускрос!»

Браты, пакіньма марны страх,
Збудуем лепшы лёс.
Смялей, смялей на новы шлях, —
Бо й нам — Хрыстос ускрос!

*20 сакавіка 1937 г.*

## КАЛІСЬ І ЦЯПЕР

Калісь людзей вучыў Хрыстос,
як трэба бліжняга кахаць
і крыўду ўсяку даравацъ.
Калісь людзей вучыў Хрыстос…
Цяпер жа — вучаць забіваць,
ляжыць гарматаў, бомбаў стос, —
хаця калісь вучыў Хрыстос,
што трэба ўсіх і ўсё кахаць!..

*1937 г.*

## Санет

Ізноў пяе душа… Ізноў струна гавора…
Ізноў куецца верш… Зноў рытмы лье пяро…
Зноў маладая кроў узыгралася, бы мора, —
А ў думках у маіх пайшло ўсё хадыром…

Усміхайся ж, муза, мне — жыцця майго Аўрора…
Няхай твой творчы дух выльe маё пяро!
Тады, хоць мо ўсяго ў жыцці не зможаш гора, —
Усё ж, мэт дасягнуўшы, са славай мы памром…

Дык грай жа, грай жа мне, мая святая ліра;
Няхай твой слёзны зык абудзіць сонны свет…

Хай сэрца чулае сагрэе праўдай шчырай…
О ты струна мая! — калі ж мой ўстыне след,
Звіні ты ўсцяж аб тым з бязмежных ўлонь эфіру,
Што жыў калісь і згас тут мучанік паэт…

* * *

А ўсё ж спаткаемся з табой,
Мая нязнаная дзяўчына,
І станем цвёрдаю стапой
На новых жыцця каляінах!

Адгонім сум і гора прэч,
Паднімем светач яснай веры
І пойдзем шчасцю насустрэч
Праз вір жыцця нязнаны, шэры.

Забудзем хутка лёс благі —
Нам шчасце буйна зарунее, —
І зажывём мы без тугі,
Адной сагрэтыя ідэяй.

Усё ж спаткаю я цябе,
Мая нязнаная дзяўчына!
З табой у шчасці і бядзе
Адною пойдзем каляінай.

*1938 г.*

## ДЗВЕ ДАРОЖКІ

Дзве дарожкі, дзве сцяжынкі,
Як істужкі,
Да каханае дзяўчынкі
Ўюцца дужкай.
Адна лесам-хмызнякамі
Між балотаў
Вядзе позна вечарамі
Да варотаў...
А другая полем-нівай
На світанні
Вядзе з радасці шчаслівай

Ад кахання.
Ой, пайду я пагадаю
Да варожкаў,
Што мяне ўжо там спаткае
З тых дарожкаў:
Ці шчаслівае каханне,
Поўна чараў,
Ці адны расчараванні,
Чарней хмараў.
Лепей стану, пачакаю
На расстанні,
Ці не выйдзе, што кахаю,
На спатканне.

## НАПРАДВЕСНІ

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Прабудзіць нашы нівы, дубровы.

Нехта дужы, і смелы, і горды
Расчасаў па загонах чупрыны,
І запелі шчаслівым акордам
Стрэхі хат і дарог каляіны.

Нехта глянуў у цьмяныя шыбы
Залатою вяснянай касуляй,
Так ласкава глядзіць толькі хіба
На дзяцей дарагая матуля.

Нехта бразнуў сталёваю песняй,
Звонка сыпнуўшы іскрамі словы,
Каб з ружовай зарою прадвесня
Кожны з нас быў да працы гатовы.

*1939 г.*

* * *

Сагнутая, згорблена постаць, —
Бы цяжар нязмерны хто нёс...

Вочы — бяздонная протань
Горычы, поту і слёз.

Твар яе — выраз пакуты,
Грудзі — жаль з гневам нямым,
Рукі — пакінутых путаў,
Ранаў крывавых шрамы.

І нейкаю сілай узняты,
Я вобраз той выпіў да дна.
— Сын мой, мяне ці пазнаў ты? —
Мне ў душу шапнула яна.

Я, поўны любві і аддання,
Душой загарэўся ярчэй,
Ды ў момант той гэтае зданне
Мне раптам дзесь знікла з вачэй.

Дзе вецер чупрыніць калоссе,
Дзе мора жывое бяжыць,
Адзін раз у жыцці прыйшлося
Спаткаць мне Яе на мяжы.

*1939 г.*

## ЯНКУ БРЫЛЮ

Ад родных далёкіх «крэсаў»,
Ад шэрых хат й сялянскіх бед,
Ад Вушы хваляў, шэпту лесу —
Прымі ты шчыры мой прывет!
Ад тусклай восені лазуры,
Ад жоўтых дзён, дзе сухацвет,
Ад туманоў сівых і хмурых —
Прымі гарачы мой прывет!

Ад ідэалу вернай службы —
Святыні прошлых нашых лет...
Ад нашай братняй, шчырай дружбы
Прымі паклон мой і прывет!

*20 жніўня 1939 г.*
*Скорычы*

## НОЧ

Змяркання шэраю дзяругай
пакрыты сонныя палі,
і толькі вёска чорнай смугай
як бы маячыцца ўдалі…

Панура й сумна, бы ў пустыні, —
кругом пануе ціхі змрок…
Як пад заклятаю святыняй,
павіс над краем злы урок…

І толькі зоркі з зімнай ласкай
шапочуць нештачкі раллі…
О ноч! Калі ж ты кончыш казку
людской нядолі на зямлі?

* * *

Не ў гучнай бяседзе пры піве і мёдзе
Спаткаеш ты друга сабе,
А ў горкай нядолі, ў пакуце і болі,
Хто з помаччу прыйдзе к табе…

Бо ў гучным настроі,
пры хмельным напоі,
Знай — кожны глядзіць за сябе…
У горы ж заклятым
і другам і братам
Усякі ўжо будзе табе.

* * *

*Прысвячаецца М. А.*

Скажы, чаму твой мілы зрок
Маю душу навек урок,
Чаму пагляд тваіх вачэй
Ў жыцці за ўсё мне даражэй?

Скажы, чаму мне голас твой
Звініць чароўнаю струной,
Чаму на яве і ўва сне
Ён зачароўвае мяне?

Скажы, чаму душа мая
Гарыць к табе ярчэй агня
І кожын міг, як ты са мной,
Мне ззяе зоркай залатой?..

*3 чэрвеня 1941 г.*
*Прылукі*

## РОДНАЯ ВЁСКА

О Скорычы, родная ціхая вёска!
Ты — радасць, пацеха мая...
Твае саламяныя стрэхі, бярозкі
Бязмежна люблю ужо я!

Твае сенажаці, палі і дубровы,
Разлогі пяскоў і балот
Мне кожнай часінай на шляху жыццёвым,
О, колькі дарылі пяшчот!

І ты, серабрана-крыштальная Вуша,
Твае аксаміт-берагі.
Як часта яны мне адводзілі душу
Ў мінуты жальбы і тугі...

Бо тут красавала жыцця майго ранне,
Цвіла мая моладасць-цвет...
Тут зведаў я першыя ласкі кахання
І першыя горычы бед...

Тут рос я, на духу і сіл набіраўся,
За праўду каб мог пастаяць.
Ў суровым змаганні я крэп, гартаваўся,
Каб гора-нядолю зламаць...

І дзе я ні буду свой век каратаці,
Дзе лёс ні закіне мяне,

Ты, родная вёска, як шчырая маці
Мне будзеш ў чужой старане.

*15 студзеня 1940 г.*
*Скорычы*

## У НАШЫ ДНІ

Дрыжыць ўвесь свет. Пажар палае…
Еўропа гульбішча спраўляе...
І гул, і звон, і крык, і стогн
Чуваць ужо са ўсіх старон...
Ад тэй музыкі ные сэрца.
А кроў? Яна ракой ліецца.

*8 мая 1942 г.*
*Скорычы*

## СЫНОМ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Хто чуе доўг і абавязак сына
Перад табой, радзімая краіна,
На твой алтар ва ўсёй яго красе
Няхай свае ён сілы прынясе...

Каб мог у кожным часе й намаганні
Служыць табе з любоўю і адданнем,
А будзе трэба, за цябе ізноў
Аддаць усё жыццё сваё і кроў...

І веру я, што з нашых шэрых хатаў
Не будзе больш прадажных рэнегатаў.
А знойдзецца дзе ўжо які прыблуда,
Яму ў цябе не будзе месца ўсюды...

*13 мая 1942 г.*
*Скорычы*

* * *

Далі, бязмежныя далі
Родных палёў і лугоў,
Вы ў маім сэрцы паклалі
Новыя сілы — любоў!

Вы паказалі, як трэба
Вас шанаваць і цаніць,
Чорнаю лустаю хлеба
Як у жыцці даражыць...

Вы навучылі з адданнем
Краю ў патрэбе служыць,
Ў жорсткім няроўным змаганні
Правы свае бараніць...

Далі, радзімыя далі
Вольных палёў і лугоў,
Вы маю душу скавалі
Чарам мацней ланцугоў!

*13 жніўня 1942 г.*
*Скорычы*

* * *

Міне зіма... Снягі растануць,
Свабодна рэкі пацякуць...
Ізноў дні цёплыя настануць,
І лес і поле ажывуць.

І хоць гудзе яшчэ віхура
І за вакном мароз трашчыць, —
Ўжо хутка з яснае лазуры
Нам сонца гожа заблішчыць...

Усё прабудзіцца, ачнецца,
Далоў адкіне люты сон...
Зноў жыццё творчае пальецца...
О час! Хутчэй прыйшоў бы ён!

*16 лютага 1943 г.*
*Скорычы*

# ЛІСТЫ

*6 жніўня 1944 г.*

Паважаная і дарагая сястрыца!

Пішу табе першае пісьмо, прыехаўшы ўжо на месца ў вайсковы лагер, дзе нас будуць навучаць ваеннай справе. Мяне пакуль што залічылі ў мінамётную часць. Са мною разам усе нашы хлопцы, якія прыходзілі апошні раз дадому, таму што мы адсталі ад сваіх і нас далучылі да іншага эшалона. У нашым узводзе ўсе нашы скорыцкія і Сасім Косця.

Мы ехалі ад панядзелка да суботы, ехалі вельмі павольна, бо вельмі вялікі рух на дарозе. Я бачыў гэтую мясцовасць за Оршаю, дзе быў фронт і адкуль выбілі немцаў. Божа! Гэта нешта жудаснае. На працягу вёрст 15–20 цягнецца гэтая мёртвая, паўпустынная паласа, парэзаная на кожным метры ямамі ад бомб і снарадаў, так што, гледзячы на гэтую карціну, добра ўяўляеш сабе ўсю жорсткасць сучасных баёў. І мне здаецца, што пры такіх баях не застанецца ніводнай жывой душы... Але я асабіста спадзяюся жыць, і гэтую надзею я ўскладаю на шчасце; зрэшты, як будзе — я сябе не шкадую. Я шчаслівы, што і так пражыў ледзь не 36 гадоў. Самае галоўнае — не думаць пра смерць, не баяцца паміраць. Ты ж, дарагая сястрыца, не плач і не шкадуй, а глядзі толькі сябе. Галоўнае, не прастуджвайся. Апранайся і абувайся як мага цяплей, таму што цяпер цябе няма каму абараніць. Як атрымаеш пісьмо, напішы мне пра ўсе свае справы, а таксама пра Ваню. І прышлі яго адрас. Захоўвай мае рэчы і рукапісы як каштоўнасць. Затым кланяйся ўсім родным і перадавай ім маё гарачае прывітанне.

*А. М.*

*P. S.* Пішы пісьмы без марак.

*29 жніўня 1944 г.*

Дарагая сястрыца!

Другое пісьмо пішу табе ўжо цалкам свядомым байцом Чырвонай Арміі, хоць прайшло толькі тры тыдні майго чырвонаармейскага жыцця. Жывецца мне нядрэнна, я зусім здаровы і ва

ўсім маю дастатак. Яду мы атрымліваем гатовую ў сталоўцы, ходзім у лазню, але адзенне яшчэ носім сваё, таму што ходзім на заняткі, дзе даводзіцца часта поўзаць па зямлі, абутак мы атрымалі новы, я свае чаравікі здаў. Атрымліваем мыла і табак. У нас весела. У нашай казарме ёсць радыё. Ёсць у нас кнігі і газеты. Я крыху чытаю. У нядзелю 27 я выпадкова сустрэўся ў доме аднаго нашага камандзіра з адной жыхаркай Масквы. Яна мне абяцала купіць кнігі па сельскай гаспадарцы і прынесці ў наступную нядзелю. Як гэта будзе — паглядзім. Ад нас дзесяць чалавек пайшлі на работу ў лес, а мы спадзяемся пайсці на работу ў калгас. Я бачыў калгасныя палі. Яны мне спадабаліся. Ураджаі таксама такія, як у нас, капуста яшчэ лепшая, каровы такія, як нашы — сярэднія, адным словам, людзі жыць могуць. Дарагая сястрыца! Не шкадуй і не сумуй па мне. Я асабіста нават задаволены, што, будучы такім, якім ты мяне ведаеш, я ўсё-такі нароўні з іншымі выконваю свой абавязак. Так што гэта так трэба, і калі нават прыйдзецца памерці на полі бою або здарыцца так якое-небудзь няшчасце, я ніяк не пашкадую. Што да цябе, то я яшчэ раз прашу ад усяго сэрца: глядзі як мага лепей сябе, апранайся і абувайся як мага цяплей, нічога не шкадуй. Адным словам, абараняй сябе ва ўсім як можаш. Гаспадарку даглядай, наколькі гэта будзе ў тваіх сілах, толькі вельмі не ганіся, з цябе ўсяго хопіць, а вернемся мы — тады будзем зноў глядзець разам.

Я маю надзею вярнуцца. Мяркуючы па падзеях апошняга часу на франтах, мы хутка будзем святкаваць перамогу — вораг дабіваецца. Дарагая сястрыца! Калі атрымаеш гэтае пісьмо, пастарайся даць адказ. Калі табе не будзе часу адпісаць, папрасі Веру, каб яна табе ў чым-небудзь дапамагла. Гэта патрэбна, таму што пісьмо доўга ў дарозе. Напішы пра ўсе гаспадарчыя справы, як убрала з поля, як са скацінай і г. д. Напішы, як адносіцца Іван Сузік і Тамашкевічавы, як здароўе нашай цёткі, як расце Маніна дзяўчынка. Як здароўе Аляксандра і ўвогуле як яго сям’я. Як думаеш малаціць і г. д. Увогуле я хачу ведаць усе падрабязнасці, але я разумею, што апісаць усё цяжка і амаль немагчыма, дык ты старайся пісаць самае галоўнае. Я ад цябе яшчэ пакуль нічога не атрымаў, але думаю на днях атрымаць, ужо нашы некаторыя атрымалі. У нас пагаворваюць, што ўсіх, хто застаўся пасля нас, вярнулі дамоў — каму звыш 35 гадоў. Напішы таксама пра Ваню, дзе ён і ці прыслаў ён табе што-небудзь. А цяпер будзь жыва і здарова! Прывітанне ўсім родным. Хацелася б мне атрымаць пісьмо ад іх. Мой адрас на канверце.

*А. Мілюць.*

*2 верасня 1944 г.*

Дарагая сястрыца!

Пісьмо тваё ад 19.8.44 г. я атрымаў 2/9, за якое вялікі, вялікі дзякуй. Тым больш я ўдзячны табе, што ты, наколькі хапае ў цябе сіл і энергіі, стараешся і працуеш за нас, у прыватнасці, за мяне... Я ніколі не забуду тваёй працы, і, калі Бог мяне зберажэ, я ніколі цябе не пакіну ў крыўдзе. Але пра гэта не цяпер... Цяпер мы на нейкі час разлучыліся, і Бог ведае, калі мы ўбачымся зноў, бо цяпер вайна з усімі яе жахамі і неспадзяванасцямі. У кожным выпадку я спадзяюся вярнуцца зноў дадому і пажыць яшчэ ціхім сямейным жыццём. А цяпер я павінен сваёй працаю і крывёю заваёўваць умовы для такога жыцця. Я вельмі рады, што маю звесткі пра Ваню і наогул пра ўсе справы і навіны. Гэта проста перанесла мяне ў маю далёкую, дарагую і любімую Радзіму, да маіх родных і маёй сям'і. Мне здаецца, я быў нейкі час у Скорычах, бачыў і размаўляў з табою, сястрыца, пра нашы клопаты... Але вярнуся да рэчаіснасці. Я гэтымі днямі сёння-заўтра ад'язджаю ў невядомы шлях, пра які мне як байцу Чырвонай Арміі нельга пісаць, а значыць, павінен памяняцца мой адрас. Ты ж ніяк гэтым не засмучайся — у кожнага свой лёс. Я сваім становішчам цалкам задаволены і ніяк не шкадую, што я не дома, хоць мне іншы раз і вельмі цяжка даводзіцца. Але я цярплівы... І таму я рашыўся ісці лепш у армію, чым заставацца на службе. Служба ж нікуды не ўцячэ — гэта па-першае, а па-другое, такая служба і з такімі людзьмі, як ты ведаеш, у многа разоў горш за армейскую службу; ва ўсякім разе, калі я ўцалею і буду жывы, я буду меці вольныя рукі і атрымаю магчымасць уладкаваць сваё жыццё, як і мне, і ўсім нам будзе найлепш, каб ніхто не пакутаваў і не быў пакрыўджаны, а служба мяне звязала б па руках і нагах і, акрамя дрэннага, нічога б не прынесла. Праўда, тут ёсць вялікая рызыка за жыццё, але я з гэтым не лічуся, для мяне і для сям'і лепш рызыкаваць, чым свядома ўлазіць у балота... Ва ўсякім выпадку, яшчэ раз малю цябе, дарагая сястрыца, кінь усякую думку аб тым, што выйшла так, а не інакш, і не лічы гэта памылкаю... Нават калі я і не вярнуся, то і тады я нічога не губляю і шкадаваць мяне таксама няма чаго і няма асабліва каму. Так што самае галоўнае, што я магу табе сказаць, гэта — супакойся, не тужы, не нудзіся, а маліся і заўсёды мяне памятай, і гэта будзе лепей за ўсё і для цябе, і для мяне. Што да майго чырвонаармейскага жыцця, дык я табе нічога не магу сказаць, таму што не маю права. Калі ўбачымся — раскажу шмат. Я таксама задаволены, што Ваня ў нестраявой — гэта больш гарантыі яму вярнуцца дадому. Ён таксама не кепскі для

цябе брат, а ў нечым намнога лепшы за мяне, — і ты заўсёды з ім прыйдзеш да згоды. Толькі б Бог паслаў яму здаровым перанесці гэту цяжкую ношу і вярнуцца дадому, а са мною як будзе, — ты толькі беражы ўсё, што па мне засталося. Бажку Шуры я напішу сёння. Рады яму і ўдзячны за пісьмо. Калі будзеш пісаць мне, напішы пра Рыжкоўскага Колю і Ганнінага Косцю, ці ёсць пра іх чуткі. Напішы таксама пра сад, пра ўраджай агарода, пра проса і сою — гэта мае любімыя сябры. Напішы, што ты зрабіла з адзеннем і збожжам, што было закапана, а таксама ці спакойна можаш спаць, ці ёсць там якія варожыя банды. Калі там спакойна, дык адзенне збяры і беражы, а таксама і ўсе іншыя рэчы.

Ты пішаш, што чытала маё пісьмо са слязьмі на вачах — я таксама пісаў са слязьмі... але чаму, я і сам не скажу. Ды і не трэба гаварыць, лепш адчуць. А цяпер — прывітанне ўсім маім родным. Чакай маё наступнае пісьмо — я табе вышлю, як толькі... атрымаю новы адрас. 1 верасня я паслаў пісьмо А. Свірыду. Да пабачэння — твой брат *Аляксандр*.

*Нядзеля, 17 верасня 1944 г.*

Дарагая сястрыца!

Пішу табе гэтае пісьмо, ужо маючы свой пастаянны адрас. Не крыўдуй, што не пісаў, — не мая ў гэтым віна, але як толькі ёсць у мяне магчымасць, я ўсё ж пішу. Я пакуль жывы і здаровы, але кожную хвіліну можа быць са мною ўсялякае. Мне вельмі патрэбны фізічныя сілы і моцнае здароўе, але, як ты ведаеш, яны ў мяне слабыя, а таму мне крыху цяжкавата, ды буду мацавацца. У нас цяпер прымаразкі, так што кожную раніцу ляжыць белы іней. Як там у вас? Я думаю — таксама холадна і суха. Я табе 10 верасня выслаў пісьмо з Коўна, ты атрымала? Чакаю з нецярпеннем твайго пісьма. Калі атрымаеш, пастарайся як мага хутчэй адпісаць мне і паведаміць мне пра ўсе гаспадарчыя і іншыя клопаты. Асабліва мяне цікавіць Ваня, што і як з ім сталася. Ці піша ён табе, і як яму жывецца. Я думаю, яму павінна быць добра. Мяне таксама цікавіць твая фінансавая гаспадарка, ці маеш ты грошы і ці хопіць табе іх, каб разлічыцца з дзяржавай і на дамашнія патрэбы. Нашых скарыцкіх хлопцаў размеркавалі ў розныя роты, так што я застаўся адзін, але магу бачыць Гжэсевага Валодзю, Ваню Мацюшынавага і Мішу Анцуха. Прабач, што так мала пішу і дрэнна, — павер, што на перадавой больш і лепш не напішаш, ды, прызнацца, няма чаго і пісаць. Усё маё цяперашняе жыццё вельмі простае і яснае. Ты толькі не гаруй па мне, а калі трэба

будзе забыць — дык пастарайся забыць хутка. Дрэнна, што не вывучыў добра швейную машыну, — былі выпадкі застацца на пасадзе краўца. А цяпер будзь жыва і здарова. Кланяйся родным. Пішы, што там у цябе ёсць, і старайся як найхутчэй даць адказ.

Твой брат *Аляксандр.*

Мой адрас: дзеючая армія, п/п 36591 В, Мілюць Аляксандр М.

*Франтавое, 26 верасня 1944 г.*

Дарагая сястрыца!

Пішу табе столькі, колькі дазваляюць мне абставіны майго жыцця, хоць душою я б хацеў гаварыць з табою дзень і ноч. Але што зробіш! Гэты час ужо мінуў і, як мне здаецца, мінуў беззваротна. Цяпер, пакуль я яшчэ жывы, падзялюся з табою хоць некалькімі думкамі, якія выплываюць з глыбіні маёй душы. Перш за ўсё я хачу табе перадаць свой душэўны стан — ён у вышэйшай ступені спакойны, і я ўжо свядома рашыўся на ўсё. Я стаў цяпер надзіва смелым — як і трэба байцу-чырвонаармейцу, так што ты не паверыш, як я тут нічога не баюся, ніякіх бітваў і баявых страхаў. Чаму? Я і сам не скажу, можа, ужо прывык, а можа, у мяне зарадзілася баявая адвага, нешта ў гэтым родзе. Потым я нічога не шкадую — ні мінулага жыцця, ні іншага чаго: усё ўжо ў мяне скончана, я ўжо ад жыцця сваё атрымаў. Шкада толькі цябе як лепшай маёй роднай сястры, але нічога не зробіш — такая ўжо доля. Я толькі хачу, каб ты па мне не тужыла, не ўбівалася і не плакала. Гэта табе пашкодзіць, а мне нічога не дапаможа. Ты цяпер засталася круглаю сіратою, у сэнсе сямейным, але малю Бога за Ваню, можа, ён вернецца, і аб тваім шчасці. Ва ўсякім выпадку, уладжвайся сама як мага лепей. Па гаспадарцы табе адной будзе цяжка, але займайся рукадзеллем, і ты будзеш жыць добра. Са сваімі сёстрамі і наогул са сваімі роднымі старайся жыць як можна лепш, гэта табе не пашкодзіць. Усе гаспадарчыя рэчы і прылады зберагай на ўсякі выпадак, а потым дзявай куды хочаш. Калі маеш магчымасць, сышчы колы ў Бубноўскага, схадзі з Барысавым Уладзікам, дай барыша, але колы вярні хоць і не акутыя. Садзік таксама беражы, як і мяне, — гэта маё лепшае дзецішча, беражы таксама і сеянцы — грушкі і вінаград, яны спатрэбяцца мне, калі я вярнуся. Што да ўсіх дробных рэчаў, то захоўвай іх да нашага вяртання, а калі трэба будзе, дык ты з імі знойдзеш, што рабіць. Калі ў цябе не будзе каровы, трымай болей птушак і трусоў, яны цябе забяспечаць тлушчам. Сеяць жыта сей, колькі зможаш, з нас хопіць хлеба. Бульбу выкапай і пакладзі ў капцы. Захавай гародніну і насенне

ў агародзіку — спатрэбяцца.

Яшчэ дазволь даць табе некалькі ўказанняў адносна гаспадаркі. У першую чаргу — каб усё было на сваім месцы, каб нічога не псавалася на дажджы, збяры агароднае насенне і насенне соі. Як будуць замаразкі, папрасі каго-небудзь, калі самой будзе не пад сілу, і абвяжы сад, прыкрый вінаград і ружу белую з шалфеем. Адным словам, рабі так, як і мы рабілі ўсе разам. Захавай таксама трусоў, а шкурачкі аддай каму-небудзь на выраб, пашыеш сабе целагрэйку. Гэта я бачыў у свайго афіцэра — вельмі цёплая і лёгкая. Трусіную шэрсць пастарайся абавязкова спрасці і пусці яе ў ход. Купі абавязкова насценны каляндар, каб, калі мы вернемся, мелі яго ў сябе.

Я яшчэ нічога не ведаю пра Ваню, але я чакаю з дня на дзень ад цябе пісьма і тады буду ведаць што-небудзь і пра яго. А цяпер перадавай прывітанне і самыя лепшыя пажаданні нашым сваякам — Тамашкевічавым, Сузікавым і Зарэцкім, папрасі ў іх прабачэння, што я ім не пішу. Няхай яны ведаюць, што мне гэта немагчыма, што я рэдка маю шчаслівую хвіліну, калі магу ўзяць аловак і паперу, няхай яны гэта зразумеюць і тады мне прабачаць. Перадавай прывітанне нашым суседзям. Я думаў табе выслаць 60 рублёў, але, параіўшыся са сваім камандзірам, рашыў пакінуць іх пры сабе. Так што да пабачэння.

Твой брат *Аляксандр.*

П/п № 36591 В, Мілюць Аляксандр Макаравіч.

*11 кастрычніка 1944 г.*

Добры дзень, дарагая сястрыца!

Я слава богу жывы і здаровы і шчасліва нясу сваю чырвонаармейскую службу, так што ты зусім не трывожся пакуль што за мяне. Я ўсім задаволены і забяспечаны, ні ў чым не маю патрэбы, і, спадзяюся, так будзе і да канца, толькі адно сумую, што не атрымаў ад цябе адказу на свае апошнія пісьмы, якія, можа, да цябе не дайшлі. Аднак я ўсё ж маю надзею, што ты мне што-небудзь напішаш і я атрымаю. Мне вельмі хочацца ведаць пра родны дом, пра родных і пра ўсе нашы сямейныя і гаспадарчыя справы. Мне хочацца ведаць, як ты там управілася з палявой працай, як накапала бульбу і як яе захавала на зіму, хто дапамагаў, як ты малаціла і як сеяла. Я ведаю, што ты адна і табе вельмі цяжка ва ўсім, але я ведаю таксама тваю энергію і тваю гаспадарлівасць, ведаю, што будзеш старацца з усіх сіл, каб усё было ў парадку. Вось якраз пра гэта ўсё я хацеў бы ведаць як мага хутчэй.

Дарагая сястрыца! У сваіх мінулых пісьмах я напамінаў табе пра некаторыя неабходныя справы, якія ты павінна ўпарадкаваць, у гэтым пісьме я табе нічога не скажу. Рабі што хочаш і як хочаш, але так, каб было ва ўсім добра, галоўнае, усё захавай, пакуль яшчэ ваенны час, а пасля вайны хто будзе жывы, той будзе глядзець. Яшчэ раз напамінаю табе, каб ты сыскала ад Бубноўскага колы і восі, папрасі Барысавага Уладзіка, ён табе ў гэтым дапаможа.

Вось, дарагая сястрыца, усё тое, што я хачу табе сказаць і параіць, астатняе, я спадзяюся, ты зразумееш сама, і я буду вельмі шчаслівы, калі гэтае мае пісьмо дойдзе да цябе. Я яго пішу ўжо пятае, па маім падліку, пішу пад варожымі снарадамі, у непагадзь, беражы яго, калі атрымаеш, як дакумент нашай роднасці і нашай шчырай братняй любві. На мяне ты не сярдуй, але ўсё мне прабач і даруй. Я таксама табе даўно ўсё дараваў, нам трэба, каб мы засталіся з чыстымі сэрцамі і сумленнем. З нецярпеннем чакаю ад цябе пісьма, хачу яшчэ даведацца пра Ваню і пра ўсе гаспадарчыя навіны і справы. Перадай Лідзе Мацюшынай, і Веры Анцук, і Анюце Мацюшынай — няхай яны пішуць на адрас гэтай самай пошты — п/п 36591 В, іхнія ў адным са мной батальёне, і мы часта бачымся. Я думаю, сястрыца, цябе гэтае пісьмо засмуціць і ўсхвалюе, таму што ў ім ёсць развітальныя матывы, не пранікайся гэтым, улічы, што кожную хвіліну я магу быць забіты або паранены, а таму я пішу табе так, як гэта ўжо апошні раз, такое ўжо ваеннае становішча, але я глыбока веру, што Бог дасць мне магчымасць вярнуцца дадому. Вайна ўжо набліжаецца да канца. Вораг дабіваецца, і недалёкі той дзень, калі я з перамогаю вярнуся дадому, і мы тады разам зажывём новым ціхамірным шчаслівым жыццём, яшчэ мацней любячы і памагаючы адно аднаму, а цяпер нейкі час трэба пацярпець. Калі будзеш пісаць мне, пішы многа, пісьмо ўсё роўна дойдзе. Пішы ўсялякую дробязь. Гэта мяне вельмі парадуе. Але як можна хутчэй пішы. А цяпер — бывай!

Твой любімы брат *Аляксандр.*

*P. S.* Паклон усім нашым родным — Тамашкевічавым, Сузікавым і Свірыдавым.

Напішы пра дзяцей... [канцоўка нечытэльная].

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Янка Брыль*

## УСПАМІН

Я моцна спаў у цяпле, так моцна, як можа спаць здаровы сялянскі дзяцюк, які ўвесь дзень працаваў на марозе і толькі што заснуў. Старэйшаму брату, які раскатурхаў мяне, відаць, дасталося б, прынамсі, нямала крыку было б, але ён пабудзіў мяне так асцярожна і, здаецца, нават радасна, што настрой яго перадаўся мне, і ўстаў я адразу і ціха.

Аказваецца, брат прывёў да нас зусім незвычайнага госця.

Наогул ён, мой Міхась, любіў і ўмеў сыходзіцца з цікавымі людзьмі, умеў іх знаходзіць. Трэба сказаць, што і памыляўся ён даволі часта, але ж ніколі не пакідаў і ў сталасці па-юначы захапляцца прыгожым у людзях, не мог яго не шукаць.

Госць, які апоўначы, нібыта нейкім цудам, апынуўся за нашым сталом, гэта быў першы для нас, закаханых у кнігу, жывы, сапраўдны паэт. Не з кнігі, а з трэцяй вёскі, за нейкіх пяць кіламетраў. Ён ужо друкаваўся, мы чулі пра яго, сёння ён прыйшоў да сваякоў, у хаце якіх былі якраз вячоркі, там чытаў свае вершы, і там Міхась не прапусціў нагоды пазнаёміцца. Нават і начаваць забраў да нас — ад родзічаў.

Гэта для мяне стала зразумелым пазней. Адразу я быў проста ўражаны. І таму, калі наш незвычайны госць, павітаўшыся са мною, тонам загаду і крыху заікаючыся, прапанаваў мне пайсці памыцца, я адразу пайшоў, шурпатасць сваю затаіўшы глыбока ў душы. Што ж, мне толькі шаснаццаць, а госцю ажно дваццаць пяць. Што ж, ён ужо друкуецца, а я толькі пішу, у мяне пакуль што адзін і чытач, і крытык, і выдавец, на тры гады старэйшы брат, які не толькі часамі перапісвае мае творы сваім прыгожым почыркам, але, пад ахвоту, нават і ілюструе іх акварэллю. Я думаў гэта, нехаця ідучы ў кухню-баковачку, нехаця мыючыся над цэбрам. Было ў маіх думках і іншае. Што ёсць — тое ўжо ёсць, а што яшчэ будзе калісьці — тое ведаю я адзін... Ну, і гэтак далей, у падобным сэнсе, што вядома, памятна кожнаму, хто рана ўзяўся за пяро. І наіўнасць, і самалюбства, смешныя на сталае вока, але ж таксама і штосьці добрае, натуральнае, без чаго не было

б ні пошукаў, ні веры ў самога сябе, ні... проста маладосці.

Таксама як памыцца («Вельмі мне трэба гэта апоўначы!»), мне было проста загадана чытаць свае вершы. На гэта я пайшоў ахватней, маўклівае бурчанне нездаволенасці саступіла ў душы маёй месца хваляванню, не менш затоенаму, але да напалу ў шчоках і вушах адчувальнаму.

Вершы мае былі, разумеецца, недаацэнены. Так здалося б, відаць, і кожнаму на маім месцы. Госць больш хваліў жаданне пісаць, раіў мне тое ды сёе, і я прыняў гэта праз ветлівасць спакойна, нібыта нават удзячна...

Навошта, суме мой, такі вялікі ўступ? Нам куды лепш было б сёння зноў сустрэцца ўтрох за сталом, успомніць тую вясковую поўнач і пасмяяцца — здалёк, праз восеньскую паэтычную смугу так многа перажытага. Не ўспомнім. Бо не сустрэнемся. Іх абодвух ужо даўно няма. Асабліва даўно — таго нашага госця.

На ўрачысты вечар у нашым пісьменніцкім клубе, прысвечаны гадавіне перамогі над фашызмам, былі запрошаны студэнты тэатральнага інстытута. Яны чыталі са сцэны вершы паэтаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскіх атрадах. Юнакі, не вельмі старэйшыя за таго мяне, што соладка пакутаваў над сшыткамі першых літаратурных пошукаў, і асабліва мілыя дзяўчаты, што хваляваліся, як мне здавалася, і больш і прыгажэй за хлопцаў.

Адна з іх чытала вершы таго начнога госця — Алеся Мілюця.

У кнізе «Мы іх не забудзем», першым пасляваенным зборніку паэзіі нашых загінуўшых сяброў, да вершаў Алеся, якія ўпершыню тады з’явіліся ў савецкім друку, ёсць мая невялічкая прадмова. Яна напісана рукой таварыша, і сёння я не думаю, што быў у той час несправядлівы ў акрэсленнях. Аднак, прызнаюся, што за апошнія гады я некалькі разоў міжволі вяртаўся думкай да тае прадмовы — зноў узважваў на правільнасць наступны абзац:

«Алесь Мілюць з’яўляецца адной са шматлікіх ахвяр панскага гнёту, адным з тых, у каго не хапіла сіл самому прабіцца скрозь гушчу рэакцыі да вяршынь майстэрства, хто не здолеў на працягу доўгіх год саматужнай працы вырвацца з межаў бясконцага пачынання».

Ці не залішне сурова, катэгарычна? Ці да канца аб’ектыўна?..

Калі я слухаў вершы ў выкананні студэнтаў, асабліва верш майго сябра з голасу маладзенькай, усхваляванай дзяўчыны, — вобраз Алеся — дабрадушнага, шчырага беларускага хлопца, сціплага і вясёлага, захопленага ўсім прыгожым і чыстым, — вобраз гэты ўстаў перада мною з небывалай выразнасцю. З ім прыйшоў да мяне водар белае грэчкі і вялых пракосаў, залацістая шчотка — сцяна аўсяных гузыроў

над прахалодным, старанна падмеценым токам, ціхае і вільготнае вуркатанне жывое скібы за плугам, пах адліжнага снегу і свежых бярозавых трэсак, — усё, з чаго складаўся той свет, адкуль ішла і яго, Алесева, апантанасць, адкуль ішла паэзія, якая і жывіла і натхняла нас: Колас, Купала, Багдановіч, Танк. Апошні — сваім голасам, сваім рэальным, блізкім, заходніцкім існаваннем — хваляваў тады, бадай, найбольш, неяк па-асабліваму.

Я не ведаю, як ён, Алесь, памёр — адразу, падбіты куляй або разарваны снарадам, або не адразу — ад ран. Пад гукі ягонага верша мне ўявілася, да слёз зразумела і востра, як ён бяжыць па асенняй нямецкай раллі, недзе ў сцюдзёнай замглёнасці Усходняй Прусіі, як ён — і тут, як заўсёды, з людзьмі — крычыць задыхана баявое «ўра!». Мой сардэчны, заўсёды не надта здаровы, хутчэй не салдат, а ціхі, любімы вясковы настаўнік. Як ён падае — я не бачу: гэты бег па раллі і гэты задыханы крык — апошняе, што мне ўяўляецца з яго апошніх момантаў.

Днямі яму споўнілася б шэсцьдзесят гадоў. Дваццаць чатыры з шасцідзесяці забралі ў яго фашысты — заўчасная смерць. Што ён мог бы зрабіць за гэтыя дваццаць чатыры, каб жыў? Кім ён быў бы: ці ўзяў бы сваё як літаратар, ці, можа, стаў бы, як мне ўявілася, добрым, любімым дзецьмі настаўнікам, выкладчыкам літаратуры? А можа, застаўся б, як быў да вайны, пасля Верасня, сціплым сельпоўскім рахункаводам? Адно я ведаю цвёрда — у нашым свеце было б яшчэ на аднаго харошага чалавека больш. Як ён любіў бы родную справу, роднае паэтычнае слова!..

На тым святочным майскім вечары некалькі слоў пра Алеся мне перашкодзіў сказаць, да канца па-мужчынску, пушкінскі верш. Нават не ўвесь той верш, а паасобныя, вельмі адпаведныя майму настрою радкі, што самі, міжволі, як гукі амаль нячутнага рэквіема, усплылі ў балюча абвостранай памяці:

> Грустен и весел вхожу, ваятель, в твою мастерскую...
> Грустен гуляю: со мной доброго Дельвига нет...
> Как бы он обнял тебя! Как бы гордился тобой!

Алесь, вядома, не Дэльвіг, а я, тым больш вядома, не Пушкін. Справа толькі ў адным. Калі б і ён, адзін з найбліжэйшых сяброў мае маладосці, не загінуў за тых, што жывуць, сёння мне вельмі добра было б разам з ім радавацца прыходу новага ў нашу літаратуру. Ён умеў так радавацца. Я ведаю гэта. Я памятаю тую зімовую поўнач. Праз ціхае, няшчодрае, а вельмі ж свойскае, утульнае святло зноў запаленай у нашай хаце лямпы, праз маладую свежасць халоднай вады, якую вочы мае прынялі хоць і не вельмі адразу, але ж ахвотна,

праз далячынь трох з палавінай дзесяцігоддзяў я не проста прыгадваю, а выразна бачу яго разумную, заўсёды прыязную ўсмешку, чую ягоныя словы, якія толькі тады, толькі адзін раз у жыцці здаліся мне суровымі. Дый то ненадоўга.

Ты мяне, суме мой, так ужо, мусіць, і не пакінеш?..

*1968 г.*

*Мікола Бусько*

## ЧАЛАВЕК АД ПЛУГА І КАСЫ

Ліпнёвы золак выдаўся надта спрыяльным для маёй задумы. На шырокім прынёманскім прасторы прачнуўся світальны ветрык. Спакваля, амаль незаўважна для вока, развінаючы свае нябачныя крылы, уздымае ён над Нёманам бялёсую коўдру туману. Быццам белы дух продкаў, плывуць клубкі вільготы па-над рэчкай і кустоўем, слізгаюць па квяцістай, абцяжаранай вогненнай расой нізіне.

Ад Пагарэлкі да таямнічай шэра-сіняй паласы Налібоцкай пушчы распасцерлася адзіная непарушная цішыня. На яшчэ дрымотную зямлю аднекуль з вышыні сыпле свой крыштальны звон — ніў спявак — жаўрук! І зноў цішыня.

Нарэшце першыя прамяні сонца высвятляюць ладны статак кароў. Туман і сырадой. Хоць розныя па значэнні словы, а колькі ў іх агульнага, непаўторнага, жыццядайнага! У вёсцы пачаўся новы дзень.

Гэтая раніца ахутана адчуваннем вагомасці часу, прадчуваннем сустрэчы з родным братам беларускага паэта Алеся Мілюця Іванам Макаравічам — адзіным яшчэ жывым сведкам таго часу.

Асядлаўшы старэнькага, яшчэ школьнага «коніка», я пакаціў у вёску Скорычы. Напярэдадні наведаўся ў Ярэміцкую бібліятэку, каб хоць штосьці прачытаць пра свайго земляка ці пачуць ад саміх культработнікаў нешта новае. Але, на вялікі жаль, нічога цікавага знайсці не ўдалося, апрача скупых радкоў літаратурнай энцыклапедыі: нарадзіўся, загінуў, заклікаў.

Прыехаўшы ў вёску, звяртаюся да сярэдніх гадоў мужчыны, што паволі корпаецца на агародзе, дзе можна знайсці хату Івана Мілюця.

— А, гэты стары халасцяк? — разагнуўся чалавек. — Вунь там, у канцы вёскі, направа.

Вось яна, сядзіба паэта! Але зайсці на падворак было справай нялёгкай: высокая, з казырком, там-сям заімшэлая брама была з сярэдзіны надзейна зачынена. Хаціна, ашаляваная вагонкай, на якой крыху яшчэ трымалася жоўтая фарба, углядалася ў ранак малымі падслепаватымі вокнамі. Разбудзіць дзеда ўзяўся сусед, які паціху

пастукаў галінкай па шыбіне. Нарэшце веснікі адчыніліся, і дзед, даведаўшыся аб намеры госця, пусціў мяне на падворак.

Іван Макаравіч цікава і доўга расказваў пра свайго брата. Алесь (Аляксандр — так называлі яго вяскоўцы) нарадзіўся 23 верасня* 1908 года ў вёсцы Скорычы, што на Гродзеншчыне, у Карэліцкім раёне. У збудаванай з магутных бёрнаў хаце мясцілася восем душ сям'і.

Бацька паэта Макар і маці Ганна (Анэтка) былі клапатлівымі і працавітымі рупліўцамі. Сям'я была даволі дружнай і гаспадарлівай: мела надзел зямлі, тры каровы, жарабка, воз, прыгожую збрую і некаторую дробную хатнюю жывёлу.

Яшчэ ў Ярэмічах мне параілі звярнуцца да былой настаўніцы Людмілы Мілюць — тадышняй суседкі паэта. Пранікнёна і з нейкім асаблівым гонарам апавядала яна пра Алеся Мілюца і яго адмысловых родзічаў. Ды і сама Людміла Уладзіміраўна пражыла багатае на падзеі жыццё. Вучылася ў беларускай гімназіі ў Вільні, дзе крыху раней вучыўся Максім Танк.

— Вёў спевы тады ў нас, — расказвае настаўніца, — сам Рыгор Шырма, а матэматыку выкладаў Барыс Кіт.

Аляксандр любіў спяваць беларускія песні, і не толькі ніколі не курыў і не ўжываў гарэлкі, але настойліва выступаў супраць іх.

Паэта часта агортвала замілаванне да непаўторных краявідаў роднай прыроды, падступала прадчуванне кахання.

Паводле сведчання брата Івана, Алесь складаў свае творы аручы, за плугам, і ніколі іх нікому не паказваў. Толькі пасля вайны знайшлі яго агульны сшытак, і стала зразумелым: у адной асобе аб'ядналіся — паэт, змагар, аратай!

Усё злабадзённае, усхваляванае, перажытае пералівалася ў верш:

Кім завешся?
    Беларусам!
Як жывецца?
    Пад прымусам!
Чым багаты?
    Хлебам. Мёдам.
Чым дабыты?
    Працай шчырай...

Лірычныя творы песняра — гэта не простая паэтызацыя ці, скажам, мімалётнае захапленне спаконвечным хараством родных рэчак Нёмана і Ушы, а шчырае, адкрытае прызнанне ў святым, жыццядай-

* Дата нараджэння пададзена па старому стылю.

ным пачуцці кахання — кахання да невядомай нам «ненаглядкі», з якой Аляксандр пазнаёміўся ў суседняй вёсцы.

Сціпла-загадкавы на першы погляд блакітны васілёк — не простая зёлка ў жыце, а часцінка хараства зямлі паэта, той бацькаўшчыны, за якую Алесь Мілюць аддаў жыццё. Зрэшты, гэта часцінка душы.

Далей паэт-аратай як быццам бярэ нас у сведкі крыху гарэзлівай размовы з каханай: «Не карай сябе за гэта... // Бо такі ўжо лёс кабеты. // Не скарыся злу ніколі, // Бо не будзеш мець патолі».

Здольнасць Алеся Мілюцproperly ўспрымаць хараство роднай прыроды не абмяжоўваецца яе прыгажосцю. Паступова ад лірычна-замілаваных твораў паэт падымаецца з адной прыступкі жыцця на другую, спасцігаючы найвышэйшыя яго каштоўнасці, верыць у шчасную прышласць сваёй радзімы:

Адчыніце вакно, адчыніце!..
Дайце глянуць свабодна на свет!
Ці цвіце мая краска, скажыце?
Ці асыпаўся любы мой цвет?

А мне бачна з вакна: у садочку
Вунь расліна пакуты расце...
Замест ружы ў бацькоўскім куточку
Крапіва жычкавая цвіце.

Як актуальна гучаць гэтыя даўнія радкі паэта, які прайшоў тысячы баразнаў!

Трывога за сваю зямлю, за сваю спадчыну споўнена вераю ў хуткае збавенне ад пакут. Надзею на хуткае вызваленне і абнаўленне зямлі.

Пасля ўз’яднання Беларусі Алесь Мілюць выступае з вершамі і артыкуламі ў стаўбцоўскай раённай газеце. Некаторы час ён працаваў бухгалтарам сельпо ў вёсцы Прылукі. Пасля ўладкаваўся ў банк у Міры. Наступны яго крок — стварэнне кааператыўнай суполкі. У кожным паселішчы быў кааператыў і меў сваю назву.

І яшчэ адзін цікавы штрых: яшчэ юнаком Аляксандр навучыўся ткаць і прасці на калаўроце. Гэта і згадалася ім пры наладжванні працы свайго калектыву. Мілюць піша ліст у Польшчу з просьбай выслаць для патрэб кааператыва неабходную колькасць сыравіны. Хутка было атрымана 100 кілаграмаў розных колераў фарбы і «Каталог каляровых нітак і тканіны», які так ашчадна захоўвае Іван Макаравіч.

«Рукапісы і вершы незваротна пазычылі пісьменнікі — ды з кан-

цамі. А гэта адзіная рэч, што звязвае мяне з братам», — паказваючы на «Каталог...», з сумам у вачах зазначае брат паэта.

Як шкада, што Алесь Мілюць не змог ажыццявіць свой кааператыўны ідэал.

Вось ужо зусім блізка, недзе за кардонам уздымаецца ўсёзнішчальнае полымя Другой сусветнай, у якой згараць усе яго задумы і спадзяванні.

— Мы з Аляксандрам на сенакосе былі, — успамінае брат паэта. — Раптоўна недзе з-за макушак дрэў вынырнулі тры самалёты і давай бамбіць. Мы хуценька запрэглі кабылу і лёцьма ў лес. А нам насустрач высунулася крыжастая калона танкаў... У вёсцы Сіняўская Слабада жыў сябрук Алеся — Арсень Балабановіч. У перастрэлцы з немцамі Арсеня смяртэльна паранілі. Брат мой адразу ж напісаў верш, які і прачытаў на пахаванні:

Хай табе заўсягды будзе сніцца
Вольны, радасны, мужны наш люд!
Абаронім святую зямліцу
Ад навалы, крыві і пакут!

«Чалавек ад касы і плуга», як прызнаецца сам паэт, «жыццёвыя універсітэты канчаў саматугам», быў адмысловым працавіком, з добрай і шчырай душой.

— Аляксандр умеў чытаць, пісаць і добра шпрэхаў па-нямецку, — працягвае гутарку Іван Макаравіч. — Але, каб не трапіць на кручок да немцаў, ён проста купляе калаўрот, прадзе і тчэ. І ўсё ж трапляе ў спісы для знішчэння. Але час распарадзіўся іначай. Калі наступіў ліпень 1944 года, Алеся прызвалі на фронт, у мінамётную часць, якая дыслакавалася пад Оршай. Дасылаў Алесь свае франтавыя лісты старэйшай сястры Марыі. Загінуў у баі ва Усходняй Прусіі. Пахаваны ў вёсцы Несцерава Калінінградскай вобласці.

Творы Алеся Мілюця друкаваліся ў шматлікіх заходнебеларускіх выданнях. У калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем», «Сцягі і паходні», «Крывёю сэрца», якія выдаваліся ў пасляваенны час.

...Мы сядзім на ўтравелым падворку. Іван Макаравіч паступова выцягвае з памяці стужку мінулых гадоў, звязаную з жыццём свайго таленавітага брата. Задумёна, адсланяючы вочы ад сонечнага промня, гаворыць:

— У кожнага добрага чалавека ёсць і добрыя сябры. — Крыху памаўчаўшы, дадае: — Так і ў Аляксандра быў надзейны сябра са Скорыч Пятро Хваль. Ён часта наведваўся ў вёску, шмат расказваў пра студэнцкае жыццё ў Вільні. Аляксандр паважаў яго, прысвяціў

верш:

Прымі, мой добры слаўны дружа,
Радзімы сцяг.
Каб мог ты з ім на раздарожжы
Знайсці свой шлях...
Каб між чужых блукацца кінуў —
Сваіх спазнаў...
І за народны здзек і кпіны
Каб пастаяў.
Каб роднай мовай не пагардзіў,
Каб шанаваў...
Братам лапцюжным каб не здрадзіў,
І не прадаў.
Каб даў адпор ліхой спакусе,
Моц гартаваў,
І каб за волю Беларусі
Жыццё аддаў.

— Вы ўсе творы брата ведаеце на памяць? — устаўляю я.

— Не ўсе, але многія. Гэтыя, што ты запісваеш, запомніў назаўсёды.

— Скажыце, у вас у вёсцы жывуць два пляменнікі, а ў Вобрыне — пляменніца. А ці наведваюць яны вас?

— Але, — махае ён рукою. — Ніхто і ніколі да мяне не заходзіць.

— Ну, а з нарыхтоўкай паліва?

— Крыху ёсць дроў, а там Бог-бацька. Рабіў я ў Міры ахоўнікам касы, пасля кладаўшчыком. На Воўчым балоце адпускаў торф. Тады быў усім патрэбны. Мае тры сястры — Анюта, Фаня, Марыя — памерлі, братоў — Алеся і Філарэта — забілі на вайне, застаўся адзін я, — апусціўшы галаву, слёзна вымавіў дзед.

Недалёка школа, дзе ёсць урокі працы і выхавання, і — ёсць мястачковая ўлада.

Балюча і крыўдна. Балюча таму, што самотныя старыя, на долю якіх выпала неймаверная ноша выпрабаванняў, сталі нікому непатрэбнымі. Горш таго, аддадзены яны звярынаму закону: выжывае мацнейшы.

Крыўдна за тое, што мы, сучасныя людзі, пазбаўлены элементарна-біблейскай гатоўнасці: дапамажы бліжняму.

Крыўдна за тое, што сталі такімі раўнадушнымі да чужога гора і болю.

Хто выкраў з нашых анёлавых сэрцаў якасці: дабрыню, спагаду, свядомасць, чысціню, што завуцца па-людску — чалавечае

сумленне? Што замінае нам, усім смяротным, людзьмі звацца? Дзе тое чалавечае ў чалавеку? Пытанні, пытанні... А як складана пракласці дарогу да прыгажосці чалавечага сэрца!

На твары Івана Макаравіча можна было прачытаць радасць ад сустрэчы, унутраную адкрытасць.

Дзед павёў мяне ў агародчык, паказаў вялікі разлапісты грэцкі арэх.

— Гэтыя арэхі зусім не простыя, а на чатыры каморкі, увосень прыязджай, пачастую, — запрашаў гаспадар.

На развітанне вынес мне ў падарунак паштоўку:

— Гэта калісьці Аляксандр купіў, бачыш, беларускі бела-чырвона-белы сцяг з выявай «Пагоні». А гэта — візітоўка Алеся.

Я з хваляваннем трымаю ў руках крыху пажоўклы ад часу квадрацік глянцавай паперы, на якім акадэмічным шрыфтам набрана: Алесь Мілюць.

На развітанне гаспадар прасіў мяне даведацца наконт мемарыяльнай дошкі.

Па дарозе дамоў я спыніўся ў Ярэмічах каля прыстойнай сядзібы з абшарпанай шыльдай: вуліца Алеся Мілюця. Я не адважыўся заходзіць на двор, стаяў на вуліцы супроць дома. Доўга чакаць не давялося. Бразнуўшы веснікамі, выйшаў мужчына.

— Прабачце, вы жывяце ў гэтым доме? — пацікавіўся я.

— Так, а што?

— Ваша вуліца носіць назву Алеся Мілюця, а што вы пра яго ведаеце?

— Нічога, — здзіўлена адказаў чалавек.

З такім пытаннем я звярнуўся яшчэ да некалькіх чалавек з гэтай вуліцы. І аніхто з трох не папытаўся, хто ж усё-такі ён — Алесь Мілюць.

Выснова напрошваецца сама сабой: паўсюль пануе абыякавасць да нашай мінуўшчыны, да нашай гістарычнай спадчыны, да сваіх каранёў.

Але будзем разам сцвярджаць самае лепшае ў нашых бязмерна-грэшных душах, вучыцца ў Бога пазнаваць самае каштоўнае — чалавечае жыццё, як жыццё таленавітага сейбіта і паэта — Алеся Мілюця.

*P. S.* Тры гады таму, яшчэ пры жыцці дзеда Івана, на доме паэта з'явілася мемарыяльная дошка. А вось «Каталог каляровых нітак і тканін», які так ашчадна аберагаў шэсць дзесяткаў гадоў брат Алеся Мілюця, недзе згублены. А мне надта ж шкада гэтай унікальнай кніжкі. Шкада, што тады, у размове з дзедам Іванам, не змог выпрасіць яе. Ой, шкада.



# Рыгор МУРАШКА

Рыгор Данілавіч Мурашка нарадзіўся 16 лютага 1902 г. у в. Бязверхавічы Слуцкага раёна на Міншчыне.

Вучыўся ў народнай (пачатковай) школе, затым скончыў двухкласную валасную школу (1916). У 1917 г. паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але навучанне не закончыў з прычыны замежнай інтэрвенцыі. Удзельнічаў у барацьбе супраць польскіх акупантаў на Случчыне (1919–1920 гг.). Закончыўшы інструктарскія курсы пры Наркамаце ўнутраных спраў Беларусі (1920), працаваў інструктарам Слуцкага павятовага ваенрэўкома. У 1920 г. быў прызваны ў Чырвоную Армію і трапіў на фронт. Пасля дэмабілізацыі (1921) працаваў у савецкіх і партыйных органах. Уваходзіў у літаб'яднанне «Маладняк», пазней — у БелАПП. У 1924–1926 гг. зноў служыў у арміі. З 1926 па 1929 г. працаваў адказным сакратаром часопіса «Бальшавік Беларусі», а ў 1930–1933 гг. загадваў аддзелам мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У 1934 г. цяжкая хвароба прымусіла пакінуць службу, доўгі час лячыўся. У гады вайны (з 1943 г.) вёў падпольную антыфашысцкую дзейнасць у Мінску, удзельнічаў у партызанскай барацьбе з ворагам на Лагойшчыне. Загінуў пад-

час прарыву блакады ў кастрычніку 1944 г. (па адных звестках — на Лагойшчыне, па іншых — у раёне возера Палік).

У друку з першым апавяданнем выступіў у 1924 г. (газета «Савецкая Беларусь»). Выдаў зборнікі апавяданняў «Стрэл начны ў лесе» (1926), «Прыгранічны манастыр» (1930), «Званкі» (1931), «Рузікі» (1932), «Мюдаўская ноч» (1934). Аўтар аповесці «У іхнім доме» (1929), раманаў «Сын» (1929; 3-е выд. — 1957), «Салаўі святога Палікара» (1940; асобным выданнем выйшаў у 1967). Разам з Н. Гарнічам выдаў кнігу «Бацька Бажэнка: Запіскі Трашчанца» (1935). У час вайны напісаў раманы «Таварышы» (Полымя. 1993. № 6, 7) і «Насуперак лёсу» (неапублікаваны, рукапіс з 2002 г. захоўваецца ў БДАМЛіМ), апавяданне «Смерць маткі» (лагойская падпольная газета «За Савецкую Беларусь», 1944), антыгітлераўскі фельетон. Выступаў і як крытык. Артыкулы і рэцэнзіі Р. Мурашкі друкаваліся ў часопісах «Маладняк», «Полымя рэвалюцыі», газеце «Літаратура і мастацтва».

# ПРОЗА

## БРОСНЯ ВЯСНОВАЯ

### I

Ветрык-дзяўчур кахаўся з маладзенькімі ліпкамі, што наўкола раслі, калі Алясюк выйшаў на двор. Уваччу мітуссю замільгацелася прыемная здаволенасць.

— А-а-ах, — пацягнуўся ён усім сваім дужым целам, зайздросна ўдыхаючы разкаваты, як той свежы бярозавы квас, халадок вясновае раніцы. — Такога хараства я не бачыў нідзе нават і на малюнках... Пышнасць, пышнасць...

Сонца, як немаведама што пекнае, велічнае, уздымала свой твар і палівала ўсё больш і больш залацістаю чырванню невялічкія рэдкія кусцікі й сенажаць за ракою. А яна, абставіўшы сябе імі, бы матка маленькімі дзеткамі, яшчэ спала ў мяккіх зялёных берагох.

Ветрык дыхнуў мацней і пачаў жартаваць з пачырванелай ужо вадзяной раўнінёй. Вось яна пачала моршчыцца, трапятацца, пацягвацца, плюшчыць вочы ад чырвоных праменняў, але, бы трохі асвойтаўшыся, заклапацілася грабянцамі жвавенькіх хваль.

— Захвалявала, галубанька. Усё роўна, што вадзяным плугам барозны хто парабіў па ёй. А сенажаць!..

А сенажаць то заўзята кудлацілася зялёнымі касмачамі асакі, то зноў расчэсвалася на адзін міг, а потым зноў, зноў, і так бясконца, бы гэта давала ёй з свавольным ёмкім ветрыкам салодкую ўцеху.

А той, прымігаючыся, зняважна ўкалупнуў кожнага кусціка і раптам пераскочыў на грэбельку да гарбаценькіх вербаў. Дастатным пеўнем наляцеў на іх і пачаў скубці сівавата-зялёныя іх валасы. Зарыпелі жаласліва, зашамалі бяззубымі ратамі і хваравіта застагналі старэнькія вербы, атрасаючыся ад беспрычынных нападаў маладзенькага ветрыка-дуроніка. Але, мусіць, на-

дакучыла яму гэта, бо, досыць пастроіўшы кпінаў, шырокімі пераскокамі памчаўся туды, дзе на зялёных курганкох пасся статак корчыкаў пад наглядам старэнькага дуба. Загуў, засвістаў у карчох і радасна загаманіў са старым асілкам-дубам, як унучак, апавядаючы дзеду аб усіх сваіх сённяшніх сваволях.

Жаўранак каменем упаў з вышыні і прытуліўся да гнязда. І сонца, бы засаромеўшыся ўсяго, што нарабіў за сёння вецер, схавала свой твар за палавою посцілкаю, распостраную ад усходу на поўдзень зграяю воблакаў-хмарак. Кволыя ліпкі, узняўшы спушчаныя было ў зямлю вочы і зірнуўшы ўздагон, зашапацелі ўслед свайму каханаму п'яным шумам маладога сэрца і, у абхапіўшых іх салодкіх марах, хіснуліся ў той бок і так нібы закамянелі на месцы.

«Якія прыгожыя ліпкі! Вёска, вёска, як многа ў табе хараства, чыстага, непадмалёванага! Ты «сівенькая»,«старэнькая», і ўсё ж ткі ты вечна новая, вечна свежая. А чалавек... ну, вось хоць бы я... маю пад трыццатак гадоў, а колькі засталося пажыць? Добра, калі яшчэ дзесяць, ну, пятнаццаць гадоў. Цяперашні век такоўскі. Рэвалюцыя шмат забрала... Сваё асабістае адыходзіла ўзад, гарачы пал барацьбы, змаганне ў хаўрусе з цвёрдасцю халоднага разважлівага розуму пераважвалі над усімі іншымі пачуццямі, гналі іх далёка прэч. Але агністымі казачнымі самалётамі прамігнуліся ў жыцці людзей гэтыя гады. Шмат перайначыла чаго. Новыя ўмовы жыцця; таксама бурная, але ўжо мірная творчая праца. І сэрца загаманіла аб сабе, запатрабавала свайго, з чым маўчала такі доўгі час».

— Ну, а паснедаць, таварыш Алясюк, ты думаеш сёння ці не, бо зараз, здаецца, і праца чакае ў выканкоме, — смешкам праказаў сам да сябе і вярнуўся ў кватэру.

II

І каго толькі не ўгледзіш у гэтым райвыканкоме, і якое толькі гутаркі не пачуеш там. Вунь дэмабілізаваны чырвонаармеец «рэжацца» з падатковым начальствам аб несправядлівым аблажэнні падаткам. Перад загадчыкам аддзела местачковы нэпман распяразваецца ўваўсю, «выкладае душу на ладонь».

— Ой, каб вы зналі, таварыш, як няма з чаго плаціць. Каб вы ведалі, што трэцюю скуру ўжо дзераце з беднага бакалейшчыка Іцкі, дык, заклікаю ў сведкі Бога, вы сказалі б: «Ну і дурны ж ты, Іцка, далібог; ну і нашто так многа плаціць?» Вы пашкадавалі б яго.

— Які ты смешны, Рохлін. Супроць закону мы не можам

пайсці. Кінь гандляваць, і плаціць нічога не будзеш.

Там міліцыянер павёў самагоншчыка. А той божыцца і клянецца, што зроду не бачыў у вочы «апарата».

— Таварыш міліцыянер, каб я з гэтай хаты не выйшаў, калі гэта мой апарат.

А вочы п'яўкамі ўпіваюцца ў твар міліцыянера, і спрытная рука наладжваецца на хабар.

Кабінет старшыні. Сын набіў бацьку, які пасля некуды прапаў.

— Што ж ты, братка, думаеш сабе? Думаеш, калі набіў ды прагнаў бацьку, дык яно так і застанецца? А ці ведаеш ты, што савецкія законы за гэта цяжка караюць? Ды і бацька ж больш працы свае заклаў на гаспадарку, чым ты, і больш права мае на яе.

— Таварыш старшыня, ну, ці ж я яго біў? Калі ён мяне не чапае, дык я яго і подаўна не крану.

— Ну, добра. Глядзі, Аляксей, калі ты не знойдзеш бацькі і не змірышся з ім, не будзеш жыць з ім у згодзе і калі я яшчэ раз дачуюся аб гэтым, дык табе не пашанцуе.

— А, таварыш Алясюк. Добры дзень! Што скажаце?

— У мяне ёсць весткі аб скрыцці зямлі кулакамі ў трох насельных пунктах, дык я вось і хацеў пагутарыць наконт гэтага.

— Папаліся, галубчыкі. Вось што, таварыш Алясюк, заўтра ці пазаўтра мы з вамі паедзем туды, бо даручаць абы-каму гэту справу нельга.

— Я таксама думаў.

Зірнуў у акно. Чаму, навошта? Ён не мог бы сказаць гэтага. Проста так, зірнуў, і ўсё. За акном брудны, настоены прыезджымі коньмі райвыканкомаўскі двор. Некалькі фурманак прытуліліся да спарахнелага плоту. Тоўстажыватыя коні слюнілі калматую канюшыну. Перавёў зірк на вуліцу. А тамака, як заўсёды, ехалі фурманкі, ішлі людзі.

Асобна ад усіх ішла, пазіраючы на вокны, маладая дзяўчына. Залюбаваўся тварам, постаццю, убраннем яе. Першым, з чым стрэўся яго зірк, былі вочы, чорныя вочы, што нібы абсмалілі яго сэрца, працялі наскрозь і ўзнялі агністую буру. Пачуццё прачнулася, загаманіла гарачым клёкатам у грудзёх.

А чарнавокая віноўніца паволі паварочвала ў двор. Мабыць, прытамілася, бо ногі ў запыленых чаравіках пераступалі неяк марудна, ціхаю змораю павявала ад усяе яе, такой кволай, прыгожай.

— Эге, што ты там такое ўгледзеў? Мусіць, надта цікавае,

калі не толькі вачыма, а й ротам узіраешся.

І з гэтымі словамі старшыня падышоў да акна.

Алясюк жа нічога не адказаў і поўным любаты поглядам праводзіў яе, пакуль не схавалася.

— А бадай цябе цяміла, бадай цябе. Ну хіба ж можна так узірацца, каб нават нічога не чуць каля сябе?

Скалануўся Алясюк ад нечаканасці, бо словы яму проста ў вуха былі праказаны. Лёгка пачырванеўшы, ён павярнуўся назад.

— А хочаш, я цябе пазнаёмлю з ёю, бо, як відаць, цябе добра цікавасць узяла.

— Праўда... пазнаёміш?

— Чаму не, пазнаёмлю, — толькі з умоваю: не захапліваацца. Не забудзься... Не за-хоп-лі-ва-ц-ца.

— Добра, там пабачым.

А ўсярэдзіне, недзе далёка, так і гаманіла: «Якое нікчэмнае слова — не захапліваацца. Ці ж можна не захапіцца, калі сэрца млее ад першае стрэчы, ад першага зірку».

— Дык ты сядай. Яна павінна зайсціся сюды.

Не сядзелася Алесюку, бы лаўка, на якой ён сядзеў, была ўся ўтыкана голкамі. У гутарцы з старшынёю ўвесь час коўзаўся па ёй, як прас па вымытай бялізне. Не ў галаве была гутарка, калі так блізка тут ад яго тая, з якою ён гэтак жадае стрэчы і з якою зараз стрэнецца. Гуллівасць панавала на твары, іскрылася ўваччу, але і ўзбурэнне давала сябе адчуваць.

— І чаго б гэта? — запытаўся сам сябе і пачаў капашыцца ў думках, перабіраць адна за аднэй і адкідаць, як нягодныя.

Мабыць, таму, што не меў ужо колькі год ніякае асабовае гутаркі з дзяўчынай. Не даводзілася ўзірацца так, як гэта было надоечы, ні разу да гэтага зірк не тануў у чорным палюткім бяздонні вачэй дзяўчыны, свежае, чыстае, маладое, як тыя маладзенькія ліпкі, што растуць на дварэ. Не... не... не таму.

Нешта цёплае, прыемна-прыемна казычучы ўсярэдзіне, разлілося ад сэрца, а яно загрукала, закалацілася, быццам злоўленая птушка ў руках птушачніка, бы хочучы вылузацца і ўзляцець у празрыстую сінь чыстага вольнага паветра, што так вабіць да сябе праз акно, лашчыць густалістыя, высокія кляны і вязы на вуліцы.

Неўзабаве прыйшла. Неспакой Алесюка павялічыўся, пашырыўся: то яму хацелася хутчэй гэтага знаёмства, то яно неяк пужала яго, ён хацеў бы тут жа наскрозь зямлі прайсці або збегчы на гэты час куды-небудзь.

— Добры дзень!

Срэбны званочак, здавалася яму, празвінеў па пакоі, праплыў у прапахлым канцылярыяй паветры і растаў дзесь пад столлю ў кутох.

Не мог узняць вачэй і зірнуць на яе.

А голас старшыні, спакойны і звычайна жартлівы, правякаў над вухам:

— Здаецца, яшчэ незнаёмы. Новы наш працаўнік райвыканкома... і кветка тутэйшай мясцовасці Тося Мікалаеўна.

Моцна сціснуў тоненькую, бялявую ручку і ўзняў угару свае вочы. І зноў, як і той раз, пацягло да сябе, заўладала ўсім ім бяздонне чорных вачэй. Але нібыта прачнулася ранейшая непадданасць, і зірк яго пачаў чапляцца за вейкі, за твар, за ўбранне, і ўрэшце нейк зноў палягчэла, ён выбраўся з тае пекнае, але невядомае таемнае глыбіні.

Ледзь прыкметная ўсмешка прамільганулася па вуснах яе, ледзь паказаўшы бялей снегу роўныя зубкі, і зноў яна спакойная, не кажа, а пяе аб сваёй патрэбе.

— Я хацела ўзяць пашпарт.

— Пашпарт? Навошта вам пашпарт, хіба вам не можна жыць без яго?

«Зладзюга», — не то па дружбе, не то з крыхою злосці падумаў пра старшыню Алясюк.

Чаму ён бесцырымонна гутарыць з ёю?

— А вы зірнулі б на мае чаравікі ды падумалі б трохі. Бачыце ж, я ж сёння з горада ды, не заходзячы ў хату, проста да вас.

— Што ж вы гэта так?

— Ды вось, думаю, месца настаўніцы дадуць дзе-небудзь. Сядзець няма чаго, працаваць трэба і жыць як-небудзь, бо з бацькамі век не будзеш, дый цяпер ужо нязгода ў нас.

— Міхась, загатуй, брат, пашпарт Тосі Мікалаеўне.

А Алясюк, моўчкі слухаючы, шчыра жадаў ёй пасобіць з пасадай настаўніцы, але, з другога боку, пракрадаўся жаль: а што, калі назначаць ды ў другі раён?

Ён быў паміж двух агнёў, але ўрэшце першае рашэнне пераважыла: ён зробіць для яе ўсё, чаго яна толькі захоча.

І калі Тося, зірнуўшы на яго, папытала так люба, так хораша ў старшыні:

— А можа, і вы папрасілі б за мяне, закінулі б слаўцо?

Нібы правалілася што ўсярэдзіне Алесюка, і нейкім не сваім голасам ён хуценька праказаў:

— Таварыш Гарэйка, мы... Райвыканкомам... можам папрасіць... Праўда?

Змоўк, нібы спужаўся свайго голасу, сціснуўся, уцяг галаву

ў плечы, прыціснуўся да лаўкі.

Яна аберучма ўхапілася за яго словы.

— Зробіце? Абяцаеце? Добра. Я буду чакаць.

— Падавайце заяву, разгледзім.

Уцягся трохі ў гутарку і Алясюк, калі Тося, напісаўшы кароценькую заяву і забраўшы свой пашпарт, памкнулася йсці ўжо дадому.

На развітанні, так гэта люба схіліўшы галоўку, запрасіла абодвух гуляць.

— Дзякуем, дзякуем. Але і вы да нас прыходзьце калі-нікалі.

Пайшла, а райвыканкомаўскія вокны яе праводзілі, пакуль не зайшла за рог вуліцы. Бы ў ружовым тумане хадзіў канец дня Алясюк, у ім канчаў сваю працу на сёння і ў ім жа клаўся і спаць, успамінаючы па некалькі разоў усе асобныя моманты сённяшняга дня.

## III

Хутка асвойтаўся Алясюк з працай у райвыканкоме ды не менш хутка і з Тосяй. За апошні тыдзень стрэчы іх былі частыя, але ўсё «нечаканыя».

Бывае, яна йдзе па «справе» куды, а ён «таксама», і завязваецца кароценькая гутарка. Заходзіла разы два і ў райвыканком, нібы мімаходам паглядзець, што робіцца.

У Алесюка перад ёю згінуў увесь неспакой, што атручваў настрой яго ў першыя стрэчы. Няма ранейшага сораму, бо яна нават сказала, каб ён зваў яе не так, як старшыня, а проста Тосяй. Гутарыць з ім усё роўна як знаёма ўжо некалькі гадоў, заве яго Міхасём.

«Як яна хутка прывыкла», — думае Алясюк, седзячы над кучамі папер за сталом.

«А можа, і я спадабаўся ёй, мо і яе сэрца пачынае гаманіць у тахту з маім. О, каб гэта была праўда, што я даў бы тады за гэта! Бо поўным, як кубак, наліты віном, было б жыццё, крыніцай забурліла б яно.

Як нудна, як не хочацца працаваць. Ехаў у вёску з марамі аб працы жывой, што кіпіць, як вада ў чыгуне. Аж тут, на табе... Як абрыдла перабіраць гэтыя паперы... Колькі я гэта ўжо не бачыў яе? Учора не, сёння, другі дзень».

Пачуўся грук у калідоры.

«Нехта ідзе. Мо яна?»

Але замест прыгожанькае галоўкі ў прачыненыя дзверы

прасунуліся рыжыя ангельскія вусы сакратара ячэйкі.

— Таварыш Алясюк, на нядзелю ваш даклад аб сесіі ЦВК.

— Добра.

А сам падумаў: «Чортведама што такое, дыхнуць не дадуць ніколі. Кожны надазаляе: таму гэта, таму тое».

Сонейка ўжо пачынала заходзіць, пырснуўшы чырвонаю меддзю на стол з паперамі.

«Ну, час ужо ісці. Цэлы дзень прасядзеў».

Прыйшоў да кватэры. Падпалуднаваў трохі, хоць і ежа не йшла. Азірнуў увесь пакой і ўзбудзіў гэтым толькі нуду. Чагось не ставала яму. Імкнуўся кудысь, бо абрыдзеў адзінокі пакой. Паспрабаваў думаць, а ў галаве нібы пацяруха якая, думкі разбягаюцца, як авечкі ўвясну, першы раз выгнаныя ў палетак. Нуда павялічваецца і павялічваецца, шэрым туманом асядаючы на сэрца, выклікаючы сумны расплыўчаты боль.

Душна стала ў пакоі, і ён, марудна перасоўваючы нагамі, падышоў да акна і расчыніў яго. Поўнагалосы вечар вясёлай вясны ўскочыў у пакой, ажывіў яго сваім гоманам.

Месячык-поўнік празрыстую фарбу ліў срэбрам бліщчастым наўкола. Дыхацца лёгка так, вольна стала. З галавы, як павевамі ветру, пачала знікаць нядаўняя пацяруха. Праўда, думкі яшчэ мітусіліся недзе, але больш ужо прымалі, хоць яшчэ няясныя, вобразы.

Духата адляцела, бы спужаўшыся гэтага свежага вечара. Салавей затылінкаў, забуркатаў у лісці, па садзе разліў свае спевы. Тады, не зачыняючы акна, выйшаў на вуліцу. Маленькая лаўка пад мятлою галля прытуліла спагадліва яго.

Прыхіліўся плячыма да плоту і заўзіраўся на зоркі, зноў заслухаўшыся салаўя, калі шум крокаў адарваўся ад лева. Стракатая пляма паволі сунулася па вуліцы. Праз якіх тры хвіліны ў яго вушы ўпіліся словы:

— Міхась, гэта ты?

— Я... добры вечар, Тося.

Згінула любаванне зоркамі, месяцам, забыўся на салаўя, што пеў несупынную песню.

— Вечар прыгожы які. Ты часта сядзіш на гэтай лаўцы?

— Як прыйдзецца. Сёння вось выйшаў таму, што ў пакоі неяк душна, адзінота ж паміж чатырох сцен наганяе нуду.

— Мне таксама часта нудна бывае. Які ты нядобры...

— Тося, нашто так казаць. Чаму я нядобры? Вось сёння працаваў да вечара, а ўпацёмку ісці нязручна, хоць...

— Што хоць?

— Я ўвесь час думаў...

— Аб чым ты думаў?

— Я думаў... Чакаў... Не, не чакаў, бо не спадзяваўся, а думаў, толькі думаў... пра цябе.

— Ты думаў пра мяне?

— Так, я думаў пра цябе... Тося... Мне рабілася лягчэй у думках, але калі я азіраўся наўкол, — выпаўзала нуда, да болю абсмоктвала сэрца.

— Ну, годзе аб гэтым, кінем казаць ужо аб думках і нудзе. Вось што, Міхась...

Агонь ад сярэдзіны шыбануў яму ў твар, разліўся па целе.

— Ты яшчэ спаць не збіраешся? Не?? Ну, дык правядзі мяне да хаты. Добра?

— Хоць цяпер.

— Хадзем.

Салавей, які на хвіліну быў сціх, зноў заліўся прыгожымі трэлямі па-над галовамі ў іх. Чулася ў трэлі здаволенасць жыццём, голас кахання, пекная казка аб першай прыгожай у сэрцы вясне.

— Можна?

Узяўшы пад руку, прыціснуў яе да сябе.

Пайшлі.

Не хацелася гаманіць. Здаволенасць салаўя станавілася яго здаволенасцю, стукацела так радасна сэрца, жаданне быць з ёю і ёю ўладаць прыемна расло ў грудзёх.

— Ты ні разу не быў тут, Міхась?

— Не.

— Я цябе пазнаёмлю з тутэйшым месцам. Глядзі, вунь рака.

Кроплямі буйнай расы перад імі блішчэў паплавец. Ледзь адчувальны ветрык твары іх пацалаваў. А шырокая, як воку сцянуць, красуня-рака трапяталася палка ўсім сваім целам насустрач яснавокаму месяцу.

Усхліпнула дзіцём нешта збоку ў кустох. Цясней прытулілася яна да яго.

— Што такое?

— Сава мо.

— А я спужалася.

— Тося...

Зірнула яму ў вочы.

— Я многа, так многа хацеў бы сказаць табе.

Па голасе пачула, аб чым, і схіліла яму на плячо галаву.

— Тося, як трудна выказаць... Мне добра з табою так быць...

Вечна б, здаецца, я гэтак на гэтым паплаўцы... Тося, я так, так люблю цябе. А ты мяне любіш?

Гібкім хмелем вакол яго шыі спляліся гарачыя рукі. У парыўчатым дыханні хіснулася назад галава.

Тады, моцна ўхапіўшы, палюча пачаў цалаваць, бы гэтым п'ючы яе ўсю, трапятаўшую ў палкіх руках.

Багрыстае забыццё паміж іх разлілося, завалодала ўсім іх сучасным, і пачуццю першабытнага аддаліся яны...

Нібы заснула вакол усё начное жыццё на той час, ды месяц-збрадун недалужны твар свой блудліваю хмаркай накрыў, усё роўна што сорам яму пашкодзіў быць няпрошаным сведкам.

IV

Сход ячэйкі. Звычайны, шумлівы. Даклад Алесюка. Робіць хутка. Усё роўна што думкі яго выграбае хто і выкладае на стол. Не сцёк яшчэ рэгламент, як апошнія словы ўпіліся ў ячэйку, і Алясюк з млявым відам сеў на лаўку.

Па дакладзе спрэчкі, а ўваччу Алесюка скрозь бела-дымчатыя далі пярэсціцца ў зелені хутар.

— Усё, усё для яе, — прамігаецца ў змораных думках.

Перайшлі да другога пытання. Партэтыка. А перад ім выплывае карціна ў прыватнай піўной. Асобны пакой. «Цётка, дзве пляшачкі белай!» П'янства з прыяцелямі. За дзвюма яшчэ дзве і так далей, і так далей — згубіў нават лік. Да ўсяго пад хмяльком — дарагія падарункі.

Усё для яе.

Грошай колькі ўцякло з кішэняў! Каб сваіх — дык нічога, а то... Судовыя пошліны здаў усе... для яе. Яе просьба здаволена. А ён — камуністы.

Цяжар руплівы гаркаваю парай гусцеў і гусцеў. Кішэня, у якой рэзультат яго гульбы ў піўной, нібы ўся гарыць у агні.

«Духата якая», — падумалася з гэтым. Лоб параснеў.

Хутчэй бы выйсці.

Сход зачыняецца.

— Пачакай крыху, Міхась.

Сакратар садзіцца зноў за стол.

Застаецца і старшыня выканкома Гарэйка.

— Вось што, брат Міхась. У апошні час мы пачалі прыкмячаць, што ты, як партыец, усё больш і больш адыходзіш ад працы. Мы па-таварыску хацелі пагутарыць аб гэтым, каб знішчыць вось тыя прычыны і папярэдзіць можа яшчэ большае зло.

— Мы хочам агульнымі сіламі знішчыць вось гэтае непара-

зуменне, — дадаў Гарэйка, дапытліва зірнуўшы ў твар яму.

— Я за сабою нічога такога не прыкмячаю. А што я трохі, павашаму, адыходжу ад працы, дык у гэтым мо сказваецца рэакцыя пасля горада. Не ведаю.

— Не, брат, не гэта. Вось мае сказаць трохі таварыш Гарэйка.

— Я бачу тут іншае нешта. Успомні, як казаў я табе: «не захопліваецца». Мне больш, чым здаецца, я нават упэўнен... Таварыш Алясюк, з кім ты пазнаўся? Яна какетка з ног да галавы, па-першае; па-другое, яна дачка быўшага ўрадніка. Погляд яе не мае нічога супольнага з новым жыццём. Эх ты, братка, маеш вопыт боек з ворагамі ў полі, калі са зброяй валіць ён на цябе, а вось тут з патайным — ты без моцы.

— Да жыцця трэба лепш прыглядацца, вывучаць яго добра, мераць заўжды на марксісцкі аршын.

— Як шкада, што не ведаў раней я таго, што ведаю сёння. Праўда, сумненне было яшчэ ў першыя дні. Я папярэджваў, але хто без фактаў мог бы паверыць? Ніхто. Хоць, можа, і мае ёсць віны частка. Няхай бы я выклаў усе тыя сумненні, якія былі ўжо са мной. А доказаў ёсць трохі.

— Доўга, таварышы, слухаў я вас, а цяпер папрашу паслухаць мяне. Не думайце, што жыцця я не ведаю, а галоўнае, што мераць яго не магу на марксісцкі аршын. Гэта адно, а другое — што яна не вельмі такая, якою яе маляваў тут таварыш Гарэйка. Магчыма, што яна не знаёма з нашымі ідэямі, не ведае, што такое камунізм. І, напрыклад, калі я жанюся на ёй, дык і гэты недахват будзе спраўлены, а жаніцца хіба не можна на дачцэ ўрадніка?

«І завошта яны гэтак ганяць яе? Няўжо яна і сапраўды такая? Не верыцца».

Запхнуў руку ў кішэню і шпарка выцяг назад. Нібы апякло яго пальцы. Успамянуў словы Гарэйкі: «А доказаў ёсць трохі». Толькі супроць каго: мяне ці яе?

— Мы вельмі хацелі б перасцерагчы цябе, лепш кінуць, пакуль яшчэ не позна. Бо вельмі дрэнна будзе тады, калі справа дойдзе да сходу.

— Няўжо вы не верыце мне, і няўжо я так здолен памыляцца?

З сумненнем зірнулі адзін на аднаго.

— Добра, каб гэта ўсё было толькі памылкаю, шчыра жадаем.

V

«Няўжо так ёсць, як казалі яны?! Ох, жыццё, жыццё...»

Паволі душылі, сціскалі сумненні. Чорная горкасць недзе пляміла ў сэрцы.

Спадылба пазірала ўжо сонца, раскідаючы ўсюды нязграбныя цені. Ішло на змярканне.

«Хутчэй бы ўбачыць, хутчэй разагнаць тыя думкі сумнення. І чаго гэтак загадзя мучыцца, фактычна ж падставы ніякай няма».

Трохі запэўніў сябе і шырэй сігануў.

Хвілінак праз пяць вылез з-за ўзгорка пад кучаю зелені хутар. Супярэчныя думкі ізноў завалодалі ім.

«Ураднік... Дачка ўрадніка. А што, калі дачка ўрадніка? Таксама чалавек. Можна яе кахаць, і яна можа». І ўспамянуў тут палка-гарачыя рукі, у думках адчуў іх на шыі.

«Але чаго гэта думкі навярзаліся сёння? Кіну думаць. Ну іх...»

Наўкола будынка кучаравы садок. Двор. Залямантавалі з-пад павецця сабакі. Кінуўшы вокам вакол, убачыў, што ў звычайнага селяніна такога двара ён нідзе не страчаў. Малатарня стаяла пад маленькаю шопкаю, а ўпоруч з ёю старэнькая арфа.

На лямант сабак адчыніліся дзверы.

Выйшаў бацька.

— Добры дзень!

— Добрага здароўечка! Заходзьце, калі ласка, заходзьце ў хату.

Ліслівенькія запрашэнні прымусілі Алесюка зірнуць на гаспадара, хоць ён яго бачыў не першы раз. «Ну, і ражка. Куды ж даць такому права голасу! Недзе добра лупіў па мардасах калісь. Дрэннавата, што Тося дачка яго».

— А Тося дома?

— Не, пайшла да таварышкі. Здаецца, казала, выходзячы, што пойдзе да Гэлі. Сядзьце, адпачніце крыху, вось тут на крэсла.

Нудна праходзіла гутарка з ім. За кожным словам хавалася падлізванне.

«Прыстасоўванне да жыцця», — нязлосна прабегла ў галаве Алесюка.

Пачало змяркацца. Чорная гушча ўсё больш і больш прыліпала назолай да вакон.

— Яна, мусіць, не хутка яшчэ прыйдзе?

— Невядома, але вы пачакайце, пагуляйце крыху, вы ж гэтак рэдка бываеце.

«Зноў ліслівасць», — падумаў.

— Не, больш няма часу гуляць мне. Пайду, а вы аддайце ёй гэтую паперку і... бывайце здаровы.

Вочы на тлустым твары памаладзелі ад радаснай усмешкі.

— Пасведчанне дадзена гр-ну... у тым, што ён вядзе культурна сваю гаспадарку... хе-хе-хе... Дадзена для змяншэння падатку і звальнення ад абрэзу зямлі.

— Вось цяпер уздыхнуць можна трохі вальней. А то надта былі ўжо прыціснулі.

— Другое.

— Хутар Заполле. Тосі Вайценя. Акруговы аддзел нарасветы паведамляе, што вам даецца месца настаўніцы ў аднэй з школ вашага раёна.

— А Тоська яшчэ не ведае. Вось будзе рада!

Разліла па зямлі сваю цемру балотную чорнаю смугою ноч. На ражна можна ўзбіцца — нічога не відаць.

Ледзь не вылаяўся Алясюк, што гэтак цёмна, калі шолах і ціхая гутарка з саду прыцяглі да сябе яго ўвагу. Словы лаянкі засталіся там, дзе былі. Паволі, без шуму, як злодзей, асцярожна пралез ён у сад. Бліжэй ды бліжэй падыходзіў на гукі гаворкі. І раптам цікавасць, як мяч угару, падскочыла і там засталася.

— Алесік! Любы Алесік мой, як я кахаю цябе!

Пал маладосці гарэў у тых словах, запальваў не толькі таго, хто казаў, а хто і чуў іх.

«Голас... Няўжо гэта голас... яе? Мо я памыляюся?.. Але ж сад... як... хто зайсці мог чужы? Хоць усё магчыма».

— Даражэнькая Тоська, не менш, як ты мяне, а можа, яшчэ нават болей, люблю я цябе.

— Ах, Тоська, дык ты...

Праз шчыльныя зубы прашыпеў толькі ў горы, злосці вялікай, ледзь стрымаўшы сябе, каб не крыкнуць так на ўвесь сад і не скочыць туды.

«Дык вось дзе павінен канец быць сумненням... вось ён які. Хутчэй жа назад... дахаты, а то яшчэ ўбачаць, брыдка як будзе... абраза... не... не перад ёю, а перад тым. Уцякаць, уцякаць чым хутчэй, без аглядку».

Асцярожней, чым першы раз, выйшаў у двор. Абмацаў вароты і памчаў па дарозе. Як бура, спяшаўся з бурай у сэрцы, пакрыўджаным, поўным гнявоў.

VI

— Добры Міхаська! Добры які ты ў мяне. Чаго ты пахмурны такі? Што з табою?

Сухі пацалунак уліп у шчаку і прабудзіў засынаўшае ў сэрцы каханне, не тое, якое было, — іншае. Яна выслізае, не будзе ягонай.

«А можа, я памыліўся як-небудзь?»

Вакол так прыгожа цвіло-расцвітала жыццё. Сонца яскравым святлом разганяла патроху сумненні. Як учора ўначы яны былі такімі вачавідкімі, дык гэтак сёння заплывалі нібы чым, недарэчным далёкім здаваліся сном.

«Можа, мне ўсё так здалося? Не дачакаўся яе. Нервы, цяжкі ўплыў цемры». Але ўглыбіні недзе варушылася думка, працінала сваім джалам той спакой, што памалу прыходзіў і даваў яму прыемны настрой, атручвала яго. Нібы гаварыла яна: «Ты хочаш ашукаць сам сябе, хочаш забыцца на тое, што чуў сваімі вушмі; дарэмна — усё гэта было, і канец блізка ўсяму».

— Не, нічога са мной. Галава неяк баліць, слабасць. Вось пройдзем туды, у лясок, пагуляць, тады гэта пройдзе ўсё.

Прытулілася да яго, нібы шкадуючы. Узяла пад руку.

«Не можа быць, каб яна так умела ашукваць, яна вось такая — з душой на далоні, ніякае штучнасці. Проста непаразуменне было».

— Ты ў нядзелю заходзіў да нас. Чаму ты не пачакаў мяне?

— Заходзіў і доўга чакаў, алё ты, мусіць, позна прыйшла.

— Не, не позна. Нашы казалі, што ты нядаўна пайшоў.

Не пакінулі ў злосці быць думкі і, нібы пугаю, гналі кудысь усе словы.

Лес. Стоячы ўпоруч, асілкі-дубы бы нешта казалі адзін аднаму, нібы нейкі рабілі рахунак, шапочучы лісцем, убраннем сваім.

— Хадзем туды далей.

— Тут сядзем. Добра як тутака ў лесе, Міхась.

І як не хацелася яму, але ўчарашняя ноч выплывала перад ім і штурхала на выспрабоўванне.

— Добра? Няўжо лепша, чымсь у садзе?

— Чаму ты пытаеш так, і пры чым тут сад?

— Не хочаш сказаць? Ну, а любіш мяне, вядома, а? Любіш ці не?

— Ну, чаго ты так раптам? У цябе галава баліць, не ўзбурайся.

Здзіўлена ў твар зазірнула яму. Нешта не быў ён ніколі такім.

Ён упарта ўзіраўся ў твар ёй і ледзь прыкметна ўтароплены цень заўважыў на ім. Тады спроба ўзмацнілася, далей пайшла, хоць адчувалася нязручнасць.

— Ты думаеш так? Ашуканка!.. Ты любіш спадманваць. Што ўчора было?.. Там, у садзе? Хто ён? Кажы.

— Нічога... нідзе. Чаго ты?

— Ах, чаго я? «Любы, Алесік, як я кахаю цябе», — а? Кахаеш?

Маланкай прабегла ў галаве яе думка: «Ён падслухаў учора». Што ж, выхад адзін.

— Так, любы Алесік. Я кахаю яго.

— Кахаеш... А мяне, мяне ты вадзіла за нос, як маленькага хлопчыка!

— Так, вадзіла. Я цябе не кахала і не буду кахаць. Ты быў мне патрэбен так, да часу. Ты выканаў маю просьбу, а больш мне нічога не трэба было.

— Тося, няўжо табе сэрца нічога не кажа цяпер?

— Кажа, — толькі не да цябе. Я дачка ўрадніка, які церпіць кпіны на кожным кроку ад такіх, як ты. Хіба магу я пакахаць цябе? Я з табой толькі знаёма, і больш нічога няма паміж намі.

— Толькі знаёма... Не любіш... Алесік... Дык што ж на лузе было тады ўночы?! Скажы, што?

— Не пытайся аб гэтым. Я нічога не скажу больш табе.

— Учора мо так было, мо проста які ўплыў. Тое, на лузе мацней!

— Ха-ха-ха-ха-ха! Мацней... Проста... Не, не мацней, і ўчора не проста! Так трэба, павінна быць так.

Пагардай прагучэў яе смех, а словы ўспырхнулі ўгару, лісцяным адгукнуліся шолахам.

Сэрца болем скруцілася, як тое вужанятка, пачуўшы ворага. Занудзіла ў грудзёх. Маленькім такім, нікчэмненькім стаў, з вушмі ў сваё гора ўплыў увесь.

Здалёку аднекуль пачулася «бывай здароў». Зірнуў туды і на працягу якіх крокаў трыццаці ўбачыў яе, нерупліва ішоўшую з лесу з высока ўзнятай галавой.

На хвіліну заплюшчыў вочы. Змора навісла неяк раптам над ім, прыціснула, пралезла нахабай ва ўсе каморкі цела.

— Канец незваротны...

А яснае сонейка дубу ўсміхалася, ды лес шапацеў нешта ціхенька-ціхенька.

*1925 г.*

## ЗАКОПАНЫ ПУП

У розных народаў, на розных ступенях культурнага развіцця жыў і яшчэ часам жыве такі звычай: пры нараджэнні дзіцяці старэнькая бабка іржавым нажом, які знарок хаваецца для гэтае мэты, адрэзвае яму пупавіну. Адрэзаную пупавіну сцерагуць як сваё вока.

Такі звычай існаваў і існуе ў шмат якіх славянскіх народаў, у яўрэяў і існуе цяпер у некаторых пляменняў сярэдняе Афрыкі.

Нешта аднаго разу мне давялося пачуць, як у вясковай глушы дзецям пры нараджэнні адрэзвалі пупавіну, варылі яе ў вадзе і гэтую ваду давалі піць парадзіхам.

Беларускія сяляне адрэзвалі пупавіны і закопвалі іх, схаваўшы ў які стары гаршчок ці гляк, дзе-небудзь пад клеццю, у каморцы ці пад хлявом.

Трэці варыянт, думаем, не адрозніваецца нічым асабліва ад першых двух. Справа ад гэтага ніяк не перайначваецца, дый справа па сутнасці не ў тым... Цікавяць нас не пупы, а пуп — і пуп нядаўнага мінулага, не далёкага па адлегласці, не чужога па племеннасці, — возьмем наш родны беларускі белы (гэтае слова звычайна гаворыцца, каб адрозніць, што белы — цывілізацыя, чорны — барбарства) пуп, пуп Рыжага Савося.

Вы ведаеце Слуцак? Слуцак — мой родны горад, але гэта не перашкодзіла таму, што адбылося шэсць вёрст ад яго ў невялічкім сяле роўна трыццаць год таму назад.

На канцы гэтага сяла ў прыслепаватай хатцы маладое ўдавы бабылькі Рыпіны пачуўся нацямочку жалобны дзіцячы піск. Гэта старая, сляпая і бяззубая бабка ўсяго сяла Пятрэся з тонкім веданнем свае справы любоўна адрэзвала над кніжкаю пуп нашаму Рыжаму Савосю.

І адрэзаўшы ўжо, унімала немы крык малога сваім старэчым вяшчунскім прыказам:

— От жа, мой унучак, каб быў ты багаты і слаўны, як пан, і каб волас у цябе рассыпаўся па галаве гэтакі тонкі, як гэты твой галасок, ды каб быў ты разумны, як пішацца ў гэтай кніжцы...

— Ох, бабка... — прастагнала парадзіха. — Каб быў ён хаця такі, як сусед Каўпель. (Рыпіна не раз той штогоду за хлеб ды

сала адпрацоўвала Каўпялю.)

— Каб ведалі, што, — не адказваючы парадзісе, вяла старая, — што ты сын Рыпінін... І дзе б ты ні быў, унучак, куды б ты ні з'язджаў ды ні сыходзіў, каб ведаў ты, што пуп твой закапаны тут. Вось...

Малы засквярэў яшчэ мацней, але старая ўжо звыкла да гэтага. Прывычна ўвіхаючыся, яна скончыла сваю работу, узяла падарунак і, як службу адслужыўшы, пацяглася дахаты.

А празвалі яго Рыжым за яго валасы, што, як капу пажоўклага сена, вецер растрыбушыў на галаве, за яго аблуплены сонцам і сіверам нос, за твар, усыпаны дробным макам упорчывых у сваім жыцці рабушак. Хто першы пусціў гэтую мянушку і калі, Рыжы Савось не памятае, але ж з першых дзіцячых год у ім зарадзілася злосць на ўсіх, хто казаў яе. Гэтая злосць яго да сталасці год вылівалася ў бойкі з хлапчукамі за адно напамінанне пра колер рыжы, а пасля ў прышчэпванні такіх самых мянушак каму трэба, а каму і не.

І ў школе ўзімку таксама. Хто слупам ля дошкі стаіць — Савось, хто на каленцах у кутку — Савось.

Рос ён буяным ды сварлівым. Не раз бывала маці кажа:

— Каб ты нечага лепш не радзіўся.

— Трэ было не радзіць, — адбрыкнецца ён, і рыжая капа валасоў здрыганецца на віхраватай галаве.

— А яшчэ ж бабка вяшчуніла... А каб ты нечага лопнуў, гад печаны, — не трэ было радзіць... Можа, і не радзіла б, каб ведала поскудзь такую.

Часта грызуцца так, без усялякае, часам, навочнае прычэпкі. А прычэпка была, і прычына яе, заўсёдышнае, хавалася глыбока ў Рыпініным сэрцы: чаму ён не такі, як людскія дзеці.

— Ні ў бацьку-нябожчыка, ні ў мацеру, ліха ведае ў каго ўдаўся.

— Сам у сябе.

— Відаць што. Каб смачна з'есці, хараша схадзіць ды не рабіць нічога. Каб ёй не ляжалася там, гэтай старой, як яна ўракла, — крыўдзілася на нябожчыцу-бабку Рыпіна.

А Савось Рыжы рос, ды, здаецца, і ў вуха не браў матчынае гаворкі. Маці ўпраўлялася рабіць свой агародзік, садзіць і прыбіраць, хадзіць у заработкі па суседзях, у панскія двары ды ў горад. Карміць трэ' было ўжо не адну сябе. А гады праміналі, і ўсё цяжэй ды цяжэй рабіўся зароблены хлеб.

Аднаго разу прыйшоўшы з гарадскіх агародаў, вельмі зморанаая, галодная, яна не знайшла ў кубёлачку кавалка сала, што купіла ўчора за тры дні заработку.

«Не мог жа ён уперці ўсяго кавалка», — падумала Рыпіна, і крыўда вялікая, балючая апанавала ёю.

Зняможаная, увайшла яна ў хату, села пры покуці — і вялікая крыўда памяшалася з слязьмі.

На вуліцы пачуліся крыклівыя галасы, сварка, мітусяніна, але Рыпіна пачула ўсё гэта тады, калі пушчаны з вуліцы камень разбіў акно і звон шыбы рассыпаўся па хаце. Рыпіна ўсхапілася глянуць у акно, але заўважыла толькі, як паўз вокны мільгануўся нехта недарэчна, пачула, як забраскалі сенцамі, і потым у хату ўвайшоў — не ўвайшоў, а ўпоўз Савось. Быў ён п'яны, пабіты і лаяўся вулічнымі словамі.

На адну хвіліну перарвалася вялікая крыўда ў Рыпіны і з самага сэрца вырвалася:

— Божачка мой... Што гэта з табою? Дзе ты гэта так… з кім?

— Адчапіся... Не лезь! — пачула яна, — і зноў была крыўда і матчыная любасць патанула-захліпнулася ў ёй.

— Божа мой, Божа мой, — шаптала яна і не шаптала, а мысленна крычала, не чуючы ніякай палёгкі ад гэтага крыку.

— Я ім пакажу, як біцца... Будуць памятаць... Будуць ведаць мяне... — гразіў некаму Савось, а пасля зноў лаяўся вулічнымі словамі.

Сяк-так запхнуўшы анучамі акно, сцішылася на палку Рыпіна, спала — не спала цэлую ноч.

Савось яшчэ не прачынаўся, калі яна раненька пайшла ў заработкі. Спаў апрануты, абуты, з сінякамі на твары, брудны.

А прыйшоўшы пад вечар дадому, не застала Савося.

«Ізноў недзе», — агорклівa падумалася.

Сцямнела ўжо, а яго таксама не было. Запаліла лямпу. Тады прыйшлі да Рыпіны дзве бабы і стары дзед; Яўгеніха ды Курыліха з пападтыканымі спадніцамі, абураныя, злосныя, і стары Аўсей — вечна з тэю люлькаю ў зубах, з засліненаю барадою.

— Выгадавала, от выгадавала... Злодзея... Арыштанта…

— Думаеш, падаруецца...

— Каб то сярод белага дня ды пры сведках...

— Не падаруем...

Рызындавалі па хаце бабы, тыкаючы куксамі кулакоў, сапраўды, відаць, абураныя нечым. Стары за кожным словам «не падаруем» выпускаў з дымам:

— Не! Не! Не!

— Кабеткі мае, ды чаго вы на мяне? — спыталася Рыпіна, уварваўшы хвіліну, калі крык трохі перапыніўся.

— Чаго? Добра чаго… Ідзі паглядзі.

Бабы сілаю, як пад каравулам, пацяглі Рыпіну да сваіх хат і паказалі на вокны, у якіх былі перамалочаны ўсе чыста шыбы.

— Гэта не злодзей!.. Гэта не арыштант!..

Тады Рыпіна зразумела: Савось.

— Сястрыцы мае, ну што ж я вінавата, — апраўдвалася яна, — вінаватая хіба толькі ў тым, што нарадзіла Савося, — што ж я зраблю.

— Каб гэта такім смаркачом ды ўжо гарэлку піць, ды, панапіваўшыся, біць вокны. От свет настаў, — азваўся стары Аўсей, выпусціўшы цыбук з рота.

І стары расказаў, што чуў ужо, мабыць, ад дзесятага, як учора хеўра падшыванцаў купіла гарэлкі ў карчме і як, панапіваўшыся, пабіліся.

— Дык і мне ж акно разбілі... Нават і камень той ляжыць пад прыпечкам, — уставіла Рыпіна.

— Каб іх паўбівала!

— Каб ім не ўзрасці!

Клялі бабы. А стары даказваў:

— А сёння на похмельку пайшлі. Панакрадвалі збожжа на гарэлку ды ізноў. От біць няма каму... І спаганялі за ўчарашняе. А сёння вось... Каб такія смаркачы ды ўжо вокны біць.

«Хіба ён не дажджэ, — падумала Рыпіна. — Я з яго скуру злуплю».

Зло аднекуль з'явілася на сына. І хоць у злосці, а паабяцаць заплаціць за пабітыя шыбы мусіла.

Вось захацелася цяпер улавіць, загаліць кашулю і паўразамі зрэзаць на горкае яблыка. От хацелася.

Але Савося не было ў хаце.

«Хіба ты не прыйдзеш, гад!» — падумала Рыпіна і лягла спаць.

А Савось і не прыходзіў. І ўдзень не было, і нанач не прыйшоў.

Ужо і злосць у Рыпіны прайшла і быццам трывога прабудзілася на самым дне сэрца: «Дзе ён засіліўся»?

Савось нідзе не засіліўся. З'явіўся назаўтра з усходам сонца.

Цяглося жыццё Рыпіны, як тая старэчая пуга, пакуль не наспелі вялікія, значныя ў сваёй велічы, страшныя людзям падзеі. Самае страшнае — вайна.

Нямецкая вайна ў плач і нэндзу укінула сяло, павуціннем

смутку апляла твары бацькоў, дзяцей. Ішлі на вайну з плачам, ішлі і з песнямі, але праводзілі іх заўсёды слёзы тых, хто заставаўся. Шмат хто і не паварочаліся, і іх вясёласць ці туга перад адыходам пазабываліся, шмат папрыходзілі калекамі-старцамі; шмат якія не далічылі ў сваіх сем'ях блізкіх-дарагіх; шмат хто знайшлі новых, сваіх-чужых. Такі закон вайны. Толькі над усім гэтым стала новая падзея, і гора ды непрыемнасці падпалі яе ўладзе: рэвалюцыя. Страшнае, нечуванае рабілася ў жыцці, страшнае і нечуванае па сваіх канцох: вайна з фронту перайшла ў тыл — у гарады, вёскі, у хаты, у сем'і.

Савось стаў рослым хлапцом, але ўсё таксама на галаве рыжэла растрыбушаная капа валасоў, але ўсё таксама дробны мак рабушак абсыпаў твар, алё ўсё таксама гнездзіліся яны на чырвоным аблупленым з сіверу і сонца носе. І таму здаваўся непрыгожым дзяўчатам, і таму не хацелі яны гуляць з Рыжым Савосем. Рыжы зрабілася яго прозвішчам, Рыжы след у след ішло за ім, куды б ні пайшоў, дзе б ні быў, што б ні рабіў. А рабіў ён шмат і з большага кепства людзям, і ўсе казалі ўжо, што ён самы апошні хлопец у сяле, што з ім боязна сварыцца, нічога няможна казаць пры ім, і ўжо баяліся яго як самага першага злодзея.

Толькі мінула гэта першая завіруха, адышлі немцы, за імі, як тыя падсуседзі, паўцякалі польскія легіёны. Пачаў устанаўляцца парадак, непадобны да ранейшага. І ў адну з мабілізацый пайшоў Савось на вайну, служыць у бальшавіцкай арміі.

«Ідзі, — без усялякага жалю падумала Рыпіна. — Можа, цябе жыццё навучыць, калі маці не выўчыла... Можа, вайна выб'е на чалавека».

Адгрымелі апошнія стрэлы грамадзянскае вайны, у якой Рыжы Савось невядома ўдзельнічаў ці не. Хадзілі чуткі (дзе іх не бывае), што і дэзерцірам пабыў ён, і зялёным, а можа, і белым. А калі ўсё ж такі бальшавікі перамаглі, даслужваў у Чырвонай Арміі не то абознікам ці кашаварам, не то перапісчыкам нейкім у канцылярыі.

Смуткавала часамі Рыпіна: ні таго слова добрага, ні прывітання ад сына. Яна не пакідала яшчэ думкі, з якою выпраўляла некалі яго — можа, вайна выб'е на чалавека. Можа, і выбіла, але ж хоць бы слова, як людскія сыны, напісаў. Няма.

Як матцы чырвонаармейца, давалі ёй дровы, дапамагалі збожжам. Каб толькі сын стаў людзьмі, дык ужо і добра было б жыць.

Але, не маючы лістоў ад сына, патроху пачала прывыкаць. Пасціраліся ў памяці Савосевы выхадкі хлапецтва, а цяперашня-

га яна не магла сабе ўявіць, вось і пачалося неяк забывацца пра сына. І забылася б, можа, каб аднаго пагодлівага вясновага дня не прыйшоў ён у паношаным, з ангельскага зялёнага сукна, шынялі, у запыленых чаравіках з абмоткамі і ў будзёнаўцы.

Нібы і рада была Рыпіна яму. Абняліся, пацалаваліся, як пасля доўгае разлукі двое родных, блізкіх. Але на другі ж дзень на сходзе, на якія хадзіла яна акуратна і на які прыйшоў сын, слабая радасць яе, быццам той туман лёгкім ветрыкам, развеялася. Савось выступіў супроць вывазкі сялом бярвення на новую школу.

— А як жа будзе? — падаў ззаду нехта голас.

— От чалавек... А гэтак будзе трудгужналог адбываем?

— Адбываем.

— Дык і адбывайма, а бярвення няхай вывезе сама воласць. Дзве скуры злупіць хочуць. Бачыце, якія хітрыя.

— Праўду кажаш, нябож, — стукнуў кулаком па стале, працiснуўшыся наперад, Рыпінін сусед Каўпель.

За ім другія, цэлая капэля галасоў злілася ў крыкі, гоман. І вывазка бярвення на школу была сарвана.

Дома Рыпіна ўзяла яго на цыгундар.

— Што табе прыбыло з таго, што ты народ узбаламуціў? Ну няхай сабе не вывезуць гэтага бярвення... А хіба ж школа не патрэбна? А хіба ж тваім дзецям не патрэбна будзе?

— Не патрэбна.

— Як гэта не патрэбна? — зірнула на яго скоса Рыпіна, — можа, ажэнішся калі.

— Не буду, — адрэзаў Савось і павярнуўся, пайшоў гуляць на сяло.

Як малога некалі, дык так цяпер карміла яго з свайго заработку Рыпіна; у заработкі Савось нікуды не хацеў ісці.

— Табе каб гуляючы хлеб есці, — з крыўдаю азвалася раз маці.

— А на каго мне вельмі рабіць? Сам сабою і без работы пражыву.

Але Рыпіна пачала дапікаць, і Савось сышоў. Тыдні два не прыходзіў. Такі ж нідзе не дзеўся. Прыйшоў раз у новай міліцэйскай форме і з насмешкаю кінуў матцы:

— Вось і хлеб будзе... Брахацьму мільтонам на людзей, а за гэта мне хлеба па кавалку кідацьмуць.

Маці нічога не адказала: не зрабіла вайна чалавекам сына. Не вывучыла матка на чалавека, няхай яшчэ людзі добрыя паву-

чаць. Няпраўда, мо вымуштруюць.

Не паслужыў, можа, і года ў міліцыі Савось, кінуў.

— Хачу быць чалавекам... Мільтоны не людзі.

Зазлавала Рыпіна.

— Дык чаго ж ты сюды ўсё парогі абіваць валачэшся? Ідзі куды. У заработкі ж не пойдзеш са мною. А карміць я цябе не ў змозе, як сабе хоч.

— Ай-ей, падверадзілася вельмі кормячы! І пайду, што ж там такое.

Накінуўшы напашкі свой ангельскі шынель, не сказаўшы ні слова ласкі матцы за яе догляд, сышоў з воч.

Год не было ніякае чуткі, паўтара не было. К двум прыехаў. Голы, як старац, абшарпаны, але з форсам.

Хвілёвая жаласлівасць падкралася к матчынаму сэрцу, папытала Рыпіна:

— Дзе ж ты быў, сынок?

— Белы свет вялікі, і такім, як мне, хапае месца.

А хлопцам на сяле хваліўся, прынаднымі прыгодамі збіваў з простае і такое зразумелае ім пуцявіны свайго, сельскага жыцця.

— Пачуў, што патрабуюць рабочых на Каўказ. Вось — паехаў туды. Дык хіба можна дзе прыпыніцца... Увесь Каўказ абехаў, што ні ступіш, дык з начальствам нос к носу, ды яшчэ з арменаў, грузінаў ды розных — такі паскудны народ. Куды ні плюнеш — у начальства пападзеш, — вось начальства і гоніць.

— Ну, гэта ты глупства вярзеш... Цяпер усе роўныя, не тое, што раней.

— Роўныя... зраўнаўся мужык з камісарам. Вось бачыш, як я прыехаў. Так, як камісар, можа?.. Грошай — прыдушы — не было, з самога Каўказа зайцам ехаў.

— Дзе ж ты іх падзеў? Зарабляў жа мо.

— Гэтакія бо заработкі. Што і было, дык праеў, а рэшту на курорце злупілі. Эх, і курортаў там гэтых, курортаў!.. На беразе мора, на гарачанькім гэта пясочку... бабы прыгожыя... голыя...

— І ты там быў з імі?

— Ды ўжо ж не ты... быў. Усюды буду, калі захачу. Эх, і бабы... І ўсё больш з сталіцы... з Масквы ды з Ленінграда...

— Але пабачыў свету, — зайздросцілі хлопцы.

— Ты от не пабачыш, не асмелішся зайцам на Каўказ заехаць.

— Пэўна ж не... А лепей з свайго сяла нікуды.

— От жа. Вяндліся тут. А я за Каспійскае мора паеду, на

параходзе ўжо. Там рабочых быццам наймаюць, чыгунку думаюць пракладваць.

І зноў паехаў Рыжы Савось, куды — яму аднаму вядома.

Маці ўжо і за сына пакінула лічыць. Бо які ж гэта сын: прыйдзе напрэцца, як свіння, ні дзякуй тэй мацеры, ні трасцы, ні рубля грошай для абману воч — такі ж корміць яго з свайго мазаля. А пад'еў — і з хаты. Вось калі не замінае ў хаце, дык і не ў галаве ён Рыпіне. Што ж ты з ім зробіш.

Не сказаў і гэтага разу матцы, куды паедзе ці пойдзе, белы свет вялікі, як казаў Савось.

На сяле стаяла трывога, мітусяніна, сварка, не распазнаць што: збіраўся апошні сход (прыехалі з раёна) — пра калектыў у сяле. Вырашаўся лёс жыцця, вякамі складзенага, трымаліся за якое, кіпцюрамі ўшпіліўшыся, прадзеды, дзяды, бацькі. А сыном вось гэтак цяжка выпала — за ўсіх зрабіць за іх. Як зрабіць? Памяняцца ці застацца прысвойцу? Ці сапраўды палепшае ці загінецца на ўсё жыццё?

Надоечы прыехаў Савось. З зачэсаным рыжым чубам, як у казака, у новай гарадской тужурцы, у штанох на выпуск клёшам, і курыць навучыўся.

«Ані не перайначаў», — пры першых словах гутаркі кінулася ў вочы Рыпіне. Без злосці, без крыўды падумалася як пра зусім чужога чалавека, з якім вось сустрэлася сёння, а заўтра разыдзецца і больш не сустрэнуцца ніколі, да самае смерці: «Цяпер бы толькі і жыць. Людзям вось шанцуе з дзецьмі... Усе дзеці як дзеці... Ці ж цяпер не жыць? Толькі б і жыць».

Дадумала да канца сваю думку Рыпіна і пачула, як лягчэй неяк зрабілася, быццам гэтая думка мучыла яе праз цэлыя гады і толькі цяпер вось набралася яна смеласці выказаць самой сабе.

Першага ж дня, як прыехаў, Савось знайшоў сабе хеўру і пайшоў выпіваць. Здаецца, гэтак не любілі яго ў сяле, гэтак знявідзелі, а хеўра на выпіўку знайшлася.

Савось ішоў з хлопцамі па вуліцы, а насустрач сусед Каўпель з душком з рота, з такімі, як сам.

— Прыехаў, нябож — суседзе!.. Такі цягне на радзіму.

— Ды не вельмі. А толькі што прыпыніцца ёсць дзе.

— Ну, ну, не скажы... Цягне. Ды як жа не цягнуцьме, — можна сказаць, дзе ж пуп закопаны. А ў нас глядзі, што дзеецца, суседзе. У людзей, можна сказаць, адбіраюць гэтую радзіму, — ціха ўжо п'яным і не п'яным голасам даказаў Каўпель, — кулакоў шукаюць, на людзей палююць... Каб у ссылку ссылаць.

Слова за слова загаманіліся хлопцы Савосевы з старымі. Нарэшце Каўпель адарваўся ад Савося і да хлапцоў:

— Што ж гэта вы, маладзеж, ядры вашу палку!.. Можна сказаць, госць прыехаў з-за свету дый не пачаставаліся. Гады ў рады бывае. А цяпер, можна сказаць, самы час папіць ды згуляць, усё адно ў калякцію ісці...

— Па нас усё можна.

— Там не дадуць ужо, ого не дадуць. Гэта не тое, што калі захацелася, дык узяў дый зрабіў, бо сам сабою... Калякцію на тое ён і калякцію, каб не даваць самаволі людзям. У шкоду ўжо не выладзішся — пад пугаю ў чарадзе будзеш.

— А мы, ведаеш, дзядзька, пайшлі выпілі б, ды няма дзе. Гарэлка тая горш за крамніну, на расхоп у каперацыі.

«Ведаем вас — на расхоп», — падміргнуў адным вокам Каўпель. І сказаў:

— А мы вось, старыя, маем... Таму што свята святкуем. Калякцію той, што будзе, святкуем, — строгасць прабегла па жартах, і Каўпель засмяяўся. — Эх вы!.. Ды пойдзем ужо, калі прымуць мае старыя. А мо вам са старымі не вельмі?..

— Абы выпіць, дзядзька Каўпель... З кім хоч, хоць з чортам.

— Я вам пакажу — з чортам... Ну, то пайшлі, маладзіцца будзем ад вас, — засмяяўся Каўпель, ухапіў за рукавы хлапцоў, пацяг за сабою. Правёў гэтак колькі крокаў, пусціў, і ўжо ўсе кучаю — старыя і маладыя — пайшлі да Каўпяля.

Цэлы гэты дзень піў Савось, прыцягся дахаты пад поўнач.

На другі дзень пахмяляўся. На трэці, калі збіралі сход пра калектыў, пайшоў з самага ранку зноў.

Перад самым сходам Савось зайшоў у хату. Ад яго моцна несла гарэлкаю.

Рыпіна, як у свята, завязвала новую белую хустку і, завязаўшы, папытала:

— На сход пойдзеш?

— А як жа.

— Савоська, сынок мой! — загаманіла неспадзявана для сябе просьбаю Рыпіна. — Пакінь валацужыць... Хачу я хоць трохі захапіць лепшага жыцця... Запішамся ў каляктыў.

— Паглядзімо на сходзе.

Рыпіна не сказала больш ні слова, затуліла пачуцці маўчанкаю, пайшла на сход.

Сход ужо пачаўся. Гаварыў прыезджы з раёна.

— ...Білі-білі буржуазію, але не ўсю пабілі. А потым новая падрасла: нэпман у горадзе, кулак у вёсцы, — яны перашка-

джаюць усімі сродкамі пераможнаму будаўніцтву сацыялізму. А каб паспяхова будаваць яго, трэба біць, дабіваць, таварышы, рэшткі гэтае буржуазіі. Вось калгас, скажам, — не па душы ён кулаку. А кулака шмат напладзілася. Вось чаму мы, скажам, дасюль не арганізавалі калгас, — кулацтва мяшала. І ўсюды гэтак, хоць бы ў тых самых Кляпчанах, дзе мы сягоння ўжо арганізавалі калгас. Усюды кулакі працівяцца. А дзеля таго каб правесці суцэльную калектывізацыю, як гаворыць наша партыя, трэба знішчыць кулацтва...

— Як знішчыць! — закрычалі ззаду галасы, і Рыпіна пазнала галасы Савося і Каўпяля.

— Знішчыць як клясу, — казаў раённы, абціраючы хусцінкаю ўпацелы лоб. — Бо без гэтага не правядзем суцэльнае калектывізацыі вёскі. А кулаку дапамагае нэпман з горада. Дасюль давалі ім спакойна жыць, але досыць!.. Трэба раскулачыць кулака ў вёсцы і яго саюзнікаў у горадзе. І чым хутчэй арганізуем калгасы, тым лепей... Тады можам сказаць: мы пабудавалі сацыялізм.

— Хто хоча выказацца — за ці супроць калякціву? — падаў голас старшыня.

Адказам маўчанка, — каб муха праляцела, дык чутно было б.

— Галасую. Хто за калякціў у сяле?

Паднялося адна за аднэй некалькі рук.

— Хто супроць? Ніводнага. Будзем лічыць калякціў з беднякоў і сераднякоў нашага сяла арганізаваным.

Тады зашыхавала маўклівая дасюль грамада людзей і ціхі гоман прайшоў поверху.

— Цяпер прачытаем спіс індывідуальнікаў, якія падлягаюць раскулачванню і высылцы з раёна, —зацверджаны РЫКам.

Над грамадою зноў цішыня, насцярожная, утоеная.

Старшыня пачаў чытаць, але з першымі ж прозвішчамі прарвалася цішыня крыкамі болю, крыўды, азлаблення.

— Які я кулак!.. Хто гэта ўпісваў? Чаму нас не папыталі! За што паўпісвалі!..

Прыезджы з раёна падняў руку, каб сцішыць буру галасоў і сказаць, мабыць, нешта. Яго не ўзяў ніхто на ўвагу. А старшыня, ведаючы, што калі даць цяпер перапыніць сябе, дык сарвецца ўсё, узяў высокі крыклівы тон голасу і адбарабаніў увесь спіс.

— Без віны пастрадаем, мужчыны! Калі я стаў кулаком? Хто мяне зрабіў ім!

Грамада ўжо рухалася, крычала, вар'яцела. Да старшыні прылезла некалькі чалавек, і сярод іх Рыпіна ўбачыла Каўпяля з Савосем. Каўпель падняў угару шапку і крычаў — прасіў слова. Старшыня застукацеў па стале і кіўнуў галавою, што можна. Не дайшоўшы да самага стала, Каўпель закрычаў дзікім голасам, якім, здавалася, ніколі не крычаў. Касмыляватая барада яго калацілася ад напружання.

— Кажуць разумныя людзі, што ёсць гэта, у Свяшчэнным Пісанні напісана... Калі народ пачне забываць Бога, з'явіцца антыхрыст з пяцірогім змеем. Доўга будзе знішчаць ён народ, пакуль Гаспод Бог не пакіне цярпець і не спусціць на зямлю страшны суд. Глядзеце...

Савось сунуў яму пачак сернікаў. Блізшыя папрыціхалі. Хто слухаў уважна, а хто схіліўся над сталом, на якім Каўпель раскладваў у вядомым яму парадку сернікі.

— Хто пісьменныя — чытайце, што гэта!

— Ле-ни-н... Ленін! Ленін! — крыкнулі галасы ад стала.

— Вось якое імя, людзі! А глядзеце далей. Вось вам тыя самыя пятнаццаць сернікаў, і складваем гэтак... Што выходзіць?

— Звязда з рагамі...

— Пяцірогі змей выходзіць. Што імя, а што пяцірогі змей — гэта адно. Настае згуба народу, людзі!

— Арыштаваць яго! — зароў прыезджы з раёна. — Гэта контррэвалюцыя!..

А грамада паразбівалася ўжо на кучкі, і чуваць быў Савосеў крык:

— Няма ў нас кулакоў! Выдумалі кулака!.. Або ўсім у калякцію, або нікому!..

Старшыня пацяг за рукаў прыезджага і сказаў:

— Хадзем у сельсавет... Паседзімо гадзіну якую, пакурым, пакуль супакояцца, а тады прыйдзем канчаць.

Пад вечар пры дапамозе і кіраванні адзінага ў сяле камуністага, крамніка з кааператыва, сабраўся сход беднаты. Сход быў не ціхі, але нядоўгі, паспешны. Усе выказалі сваё абурэнне спісам індывідуальнікаў, у якім палова стаялі серадн‍які і адзін бядняк, тымчасам як сапраўдныя кулакі засталіся на баку.

— Хоць бы той самы Каўпель... Рабочых наймае. Падатак большы за ўсіх плаціць. Малатарня... Арфа... Сячкарня... Зямлі колькі... Коні... Каровы.

— А яго не ўпісалі.

— Бо ён з сельсаветам за панібрата.

Рыпіна ж расказала пра ўсё сваё гора, што выцерпела на сваім жыцці.

— Хутчэй бы той калякціў. Хоць бы я свет убачыла і людзей... І людзі мяне.

— Таварышы, — сказаў каапэратар, — напішам у райком партыі, што сход быў сарваны кулакамі, што ён не быў падрыхтаваны, што група беднаты гэтых пытанняў не абмяркоўвала, а таварыш з раёна выступаў няправільна.

— Праўда!.. Пішы!.. Вось гэта правільна... Ды Савося не забудзь упісаць у спіс... Падкулачніка гэтага... Разам з Каўпялём. Вось каго павысельваць трэба. Пішы.

У гэты момант у хату ўвайшоў Савось. Каапэратар паглядзеў на ўсіх і сказаў да яго:

— Тут сход з беднаты, просім выйсці з хаты.

— А я што — з буржуазіі?

Яму ў адказ крыкнула Рыпіна:

— Ідзі, арыштант! Чаго валачэшся сюды? Можа, што пуп закапаны каля гэтае няшчаснае мацеры... Дык адкапай сабе яго і едзь, каб цябе мае вочы не бачылі і вушы не чулі! Годзе пакутаваць за цябе.

— Пайшоў, падкулачнік!

Савось стукнуў за сабою дзвярыма.

Пад канец ужо сходу грукнула акно, зазвінеўшы разбітаю шыбаю, і ў хату ўляцеў з кулак велічынёю камень.

Раней існаваў і яшчэ часамі існуе звычай закопваць, па-народнаму кажучы, пупы.

Але з таго часу, як адкапаўся пуп Савося, мусіць устанавіцца звычай адкопваць, таксама па-народнаму кажучы, пупы.

*1930 г.*

# У ІХНІМ ДОМЕ
*Раздзел з аповесці*

## Журфікс

Наступны дзень быў чацвер і журфікс Натачкі Зазоравай. Супроць звычаю не давялося пасібарытнічаць на пасцелі да дзесятае гадзіны. Што ж тычылася Вольгі Аляксееўны, дык яна таксама, аддаўшыся прыемнаму адчуванню, не ўстала б так рана, па-вясковаму, каб не гаспадыня.

Яна з задавальненнем валялася на пасцелі, калі ўвайшла Натачка, і, бачачы, што Вольга Аляксееўна не спіць, кінулася к ёй і стала казытаць.

— Вулінька!.. Які ты маладзец, аднак, што прыехала. І ўжо прачнулася. Ты прывыкла рана ўставаць на вёсцы... Тут толькі сёння трэба рана, а заўтра можам спаць хоць да дванаццаці. У нас гэтак.

Яна весела шчабятала і лезла з рукамі пад лёгкую коўдру, шчыкала Вольгу Аляксееўну за ногі, казытала пад пахамі. Вольга Аляксееўна здаволена і радасна рагатала, хавалася пад коўдру.

— Ты зусім дзіцём засталася, Натачка! Такая ж маленькая і свавольная.

— А ты думала якая? Якая?.. Якая?.. — дурачліва пыталася Натачка, не пакідаючы казытаць таварышку і цалаваць гучна, узасос яе твар, шыю, грудзі.

— Натачка, будзе!.. Будзе!.. — крычала Вольга Аляксееўна, задыхаючыся ў рогаце і сілкуючы выслабаніцца з любых абдымкаў маленькае жанчыны.

— Няхай будзе, няхай будзе, калі хочаш.

— Трэба ж пакінуць трохі мо і яшчэ для каго, — гарэзліва зарагатала Вольга Аляксееўна.

— Якая ты міленькая, Вулінька. Ад цябе шалець будуць мужчыны. Я пакідаю.

— А я ўстаю, Натачка.

— Разумна зробіш. Ну, не буду перашкаджаць табе.

Натачка выйшла. Вольга Аляксееўна пруткa саскочыла на мяккую мядзведжую шкуру і, не спяшаючыся, стала надзявацца.

За акном гудзеў шум вялікага горада. Раўлі вісклява сірэны аўтамабіляў, грукацелі калёсы; шум крокаў і голасу ўліваўся ў агульны хор гукаў. Трохі заглушаныя адлегласцю, але гучна і

працяжна, разрывалі напал аднастайнае мяккае гудзенне фабрычныя гудкі.

Вольга Аляксееўна скончыла туалет і зайшла ў пакой Натачкі. Тая сустрэла яе напаўсур’ёзна, напаўфамільярна.

— Сягоння, дарагая Вулінька, ад цябе будзе залежаць тваё будучае. У мяне перабудуць за дзень выдатнейшыя прадстаўнікі нашага кола. Як ты пакажаш сябе і як падыдзеш да кожнага ў асобку, гэта твая справа. Але, паўтараю, з сённяшняга дня пачынаецца тваё жыццё. І праз які час... Хто ведае... Адным словам, дарагая, ты павінна мець сваю арыентацыю.

— Ты гэтак сур’ёзна гаворыш, Натачка, што я пачынаю палохацца.

— Вось бачыш... Нічога. На першы раз можна прабачыць; а там — я буду цябе... вучыць, а потым... за непаслухмянасць б’юць, ха-ха-ха-ха-ха! — зарагатала жартліва Натачка.

— Тады я буду лепш паслухмянаю, — у тон ёй адказала Вольга Аляксееўна і, у сваю чаргу, зарагатала таксама, як і Натачка.

— Дык не забудзься, што я казала, гэта я сур’ёзна.

— Дарагія словы настаўніцы ніколі не забываюцца, — напалову жартам, напалову сур’ёзна азвалася Вольга Аляксееўна.

У гэты момант на калідоры пачуліся крокі. Нехта спыніўся перад пакоем.

— Увага, — прашаптала Натачка і адчыніла дзверы.

Прыйшоў начальнік Натачкі па службе, інжынер аднаго буйнога трэста. Натачка пазнаёміла яго з Вольгай Аляксееўнай пад прозвішчам Балясава. Пачціва расшаркнуўся ён перад новаю знаёмаю і далікатна, але ў той жа час дзелавіта папрасіў чаю. Вольга Аляксееўна заўважыла, што ён з Натачкаю надта фамільярна на «ты» і што Натачка напаўафіцыйна проста з ім і ніколі не мяшаецца ў яго прысутнасці.

— Вы не дзівецеся, паважаная Вольга Аляксееўна, што мы з гаспадыняй кватэры гэтак па-хатняму? І не дзівецеся, — пачуўшы яе адказ, сказаў Балясаў. — Мы з ёю даўнія добрыя сябры.

— І доўга-доўга будзем імі, — пацвердзіла жвавая Натачка.

Інжынер паснедаў у хеўры дзвюх жанчын і потым заспяшаўся на службу ў свой трэст.

— Я не кажу бывайце, бо сёння яшчэ спадзяюся быць у вас, гасцепрымальныя.

— Час! Час, у які чакаць загадаеш? — запыталася Натачка.

— Пасля службы, як заўсёды. А можа, пад вечар, — падумаўшы, сказаў інжынер.

— Ты не дагадваешся, не? — свавольна залапатала Натачка

Вользе Аляксееўне, калі ён выйшаў. — Гэта ўладар маіх думак і сэрца... Пакуль што, вядома.

Пасля інжынера даведаліся гаспадыні два крутлявых шалаплуды «з маладых ды ранніх». Натачка паспела шапнуць Вользе Аляксееўне, што гэта яшчэ без пэўнае мэты ў жыцці маладыя нэпманаўскія сынкі.

Абодва блішчэлі сваёй развязнасцю, упэўненасцю багатых (грошы — усё!) і сваёй няўседлівасцю. Абодва былі падобны адзін да аднаго і надворным выглядам, і складам думак, і нават прозвішчамі. Аднаго клікалі Русабай, а другога — Бацубаеў.

Наказаўшы кучу недарэчнасцей і памахваючы кізілавымі кіёчкамі з сярэбранымі булдавешкамі, яны таксама шумна выйшлі, як і прыйшлі.

— Ты заўважыла? — спыталася Натачка ў Вольгі Аляксееўны, — яны гэтак падобны адзін да аднаго. Часта аднаго лічаць за другога, і наадварот. На гэтай глебе бывае шмат здарэнняў, а ў горадзе пра іх гуляе нямала недвухзначных анекдотаў. Але сябрам гэта як з гуся вада, не прыкмячаюць: заўсёды вясёлыя і пачцівыя, як ангельскія джэнтльмены. Каля іх можна пажывіцца пры нястачы грошай... Чаго ты зморшчылася?

— Вельмі ты адкрыта ўжо характарызуеш і шчыра прызнаешся ў некаторых маленькіх драбніцах.

— А ты думала што? Калі будзеш ціхоняю, дык далёка не заедзеш. Чым пабольш бляску і мілай нахабнасці. Тады будзеш жыць.

К полудню напрыходзіла больш знаёмых. Тут ужо і ў Вольгі Аляксееўны, па настойных парадах Натачкі, разбегліся вочы. Бачачы перад сабою асоб дзелавых і занадта нахільных да жанчын, яна пусціла ў ход сваё абвараажэнне; тонкія жаноцкія прыёмы яе знайшлі сваё прызначэнне.

З прыйшоўшых вызначаліся асабліва, так здалося Вользе Аляксееўне, уласнік тытунёвай фабрыкі Адогаў і паэт Непакоеў. Першы быў паўнаваты, з невялічкім чараўцом, сярэдняга росту, з свецкімі манерамі, але апрануты сціпла, без усякіх закідаў на мільённае багацце. Паэт Непакоеў (гэта было яго літаратурнае прозвішча, але ўсе настолькі прызвычаіліся да яго, што сапраўднага ніхто не ўспамінаў) быў рэзкай процілегласцю першаму. Апрануты з шыкам, але бруднавата, ён цёнгля самабытнічаў. Яго даўгія чорныя валасы былі, калі ні ўбачыш, у самым лірычным непарадку, пазвешваўшы на вушы, на лоб і на крухмальны каўнерык. Гаварыў ён выразна, з багатай мімікай, крыху непрыемным замагільным голасам. Вользе Аляксееўне

чамусьці прыйшло да галавы параўнаць яго з прарокам.

«Бунтарская душа, — падумала яна. — Яму вельмі падышлі б учарашнія словы Леаніда Рыгоравіча пра горад».

Але недахопу ў словах не было і ў самога паэта. Нярэдка і досыць метка часам устаўляў ён свае паэтычныя рэплікі. І цёнгля яго рэплікі прымалі і ці рагаталі, уважаючы з зместу іх, ці пахмура згаджаліся. Ён шмат каму падабаўся. Сам сябе называў свабодным мастаком, аргументуючы гэта тым, што нідзе не працуе, апроч свайго рабочага кабінета, ні ў адной установе, і жывіцца літаральна сваімі паэзамі.

Употайку з яго падсмейваліся, але адкрыта ніхто не асмельваўся сказаць, што думае. Не зважаючы на тое, што вядомасць яго азначалася толькі параю невялічкіх зборнічкаў, выдадзеных — адзін прыватным выдавецтвам, а другі гуртком аматараў прыгожага пісьменства, — яго нярэдка прасілі ўпісаць на ўспамін у альбом які вершык, эпіграму на каго ці якое выслоўе. У сваім ужытку ён меў на падмацаванне цэлую кучу класікаў паэзіі, вядомых і невядомых слухачам.

На полудні Вольга Аляксееўна сядзела паміж фабрыкантам і паэтам. Свае зіркі яна раўнаважна, без крыўды і таму і таму, размяркоўвала паміж абодвух. Калі бурчэў упэўнены ў сабе ласкавы барытон фабрыканта, яна схіляла галаву ў правы бок і быццам неўзаметку гасцявала яго шматабяцальным жаноцкім поглядам. Калі ж гаварыў паэт, яна дахітралася слухаць і яго і гутарыць адначасна і з тым, і з тым.

З ёю, як з прыехаўшаю толькі што, усе былі надзвычайна папярэдлівымі. Яе стараліся займаць гутаркай, сваімі асобамі, апавяданнямі і пераказваннем нявінных навінак з абкружаючага жыцця. А яна ўважна прыглядалася да ўсіх і паспявала тымчасам падтрымліваць агульную гутарку ў застоллі і адказваць гулліва ці сур’ёзна Адогаву і Непакоеву.

Аднэю з тэм у застоллі служылі ранішнія госці Русабай і Бацубаеў. Артыст на меладраматычныя ролі, нехта Гласніцкі, цяжкавата, але не без густу расказаў пра здарэнне з Бацубаевым у тэатры. Ён закахаўся адной артысткай і пасля спектакля накіраваўся за кулісы з мэтай убачыцца і прызнацца ў каханні.

— Суфлёр, якога ён сустрэў, — казаў артыст, — накіраваў закаханага ў прыбіральню артысткі, а сам пабег паведаміць рэжысёру трупы і артыстам. Трэба вам сказаць, што рэжысёр у нас наконт гэтага, у-у-у... — артыст выказаў мімікаю твару злосць рэжысёра. — Ён страшна не любіць, калі гледачы забаўляюцца з артыстамі, хоць бы і пасля спектакля. Дык вось ён

заходзіць у прыбіральню артысткі і бачыць карціну: артыстка спакойна канчае свой туалет, і ніякага ценю на прысутнасць Бацубаева няма. Злосны на гэты раз таму, што яго ашукаў нейкі там суфлёр, ён выскаквае і накідваецца на таго. Суфлёр клянецца, што да артысткі заходзілі і нават упэўнены, што і не выходзілі. Рэжысёр заходзіць другім навaратам, і карціна, але ўжо зусім іншая, з'яўляецца перад ім... Артыстка пудрыцца перад люстэркам, але з-пад канапы, на якой яна сядзіць, паблісквае булдавешка кіёчка. І вось тут пачатак канца. Рэжысёр насеў на артыстку... Тая не замяшалася і, схіліўшыся к канапе, ласкава гаворыць: «Я вам сказала, паважаны малады чалавек (артыстка стараватая і вопытная), што магу пагаманіць з вамі аб чым хочаце, толькі калі я напудруюся і абавязкова ў прысутнасці нашага рэжысёра. Зараз я слухаю вас, толькі трэба раней вылезці з-пад канапы, а то вам нязручна гэтак». Вынік: артысты ў ахвоту нарагаталіся дармова.

— А Бацубаеў? — спыталася Вольга Аляксееўна.

— Як і раней... Жыў-быў, нешта здарылася і прайшло.

— Вас цікавяць такія рэчы? — запытаўся ў яе паэт Непакоеў.

— Як вам сказаць... паміж іншым.

— Тлен. Усё гэта тлен. А Бацубаеў маленькі, неразумны чарвячок, — далажыў ён пахмурна.

— А вы хіба не любіце гэтага? Не можаце закахацца і падлезці пад канапу? — паблісквaючы вачыма, запыталася інтымна Вольга Аляксееўна.

— Людзі бачаць у жанчыне толькі бруд, толькі тое, што прыводзіць да руху іх захаваныя неглыбока фізічныя пачуцці. А ці пакахаў хоць адзін ідэал яе, — высокі і недасяжны, якому культурныя людзі пакланяюцца ў вобразе багіні Венеры. Тлен, усё тлен.

У гэты момант загаманіў Адогаў. Вольга Аляксееўна пакінула паэта і павярнула галаву ў другі бок. Адогаў пытаўся ў яе:

— Вы доўга жылі на вёсцы?

— О не... Зусім мала.

— Я, ведаеце, аматар вёскі. У мяне некалі да рэвалюцыі быў свой маёнтак у адным з паветаў Маскоўскае губерні... Я зараз не маю магчымасці бываць на вёсцы. А цікава ведаць, што там робіцца.

— Паверце, нічога цікавага. Я памірала са смутку і нуды ў глушы.

— Вы мала сказалі. Я прашу вас расказаць што з характэрнага. Я паслухаю з задавальненнем, як, думаю, паслухаюць і

ўсе прысутныя.

— Паважаныя! — звярнуўся ён да ўсяго застолля. — Вольга Аляксееўна хоча расказаць аб сваім жыцці ў вёсцы да прыезду к вам.

— Просім!.. Просім!..

Вольга Аляксееўна замяшалася і крыху як бы пачырванела, але, падняўшы галаву, убачыла, як рашуча кіўнула галавою Натачка, і гэта паслужыла за сігнал не віхляцца.

— Вы ўсе, наколькі я бачу, аматары мастацтва. Я вам раскажу, як я была артысткай на вёсцы...

Шмат прыхлусіўшы для смаку, яна анекдатычна расказала пра сваю ролю работніцы-камсамолкі ў спектаклі, пра хор і канцэрты. Не абмінула, а знарок падчыркнула закаханасць Сяргея на глебе спектакля. І толькі. Больш аб ім ні слова.

— Вы сапраўды артыстка, — сказаў пасля меладраматычны артыст, — і я жадаў бы ўбачыць вас на сцэне.

— Вось бачыце, у вас шмат цікавага ёсць, але вы чамусьці не хочаце нас забавіць ім, — ціха і з наяўнай прыхільнасцю да яе сказаў Адогаў.

— Мне так надакучыла гэтая глуш, што цяпер усё ў ёй гэтак нецікава для мяне.

— Вы праўду кажаце... Але калі міне ўспамін аб вашым пераездзе, калі па першых ураженнях ад горада пройдуць незлічона другія і працягнецца значны час, тады будзе цікава ўспамянуць усё, што абкружала вас у вёсцы.

— Я з вамі згодна. Што да сучаснага, дык я ўсёй істотай аддаюся новым перажываннем. Як лёгка адчуваць сябе ў горадзе, у блізкім коле добрых знаёмых, напрыклад, сёння...

— Вёска прыгожа і цікава толькі сваімі паэтычнымі пейзажамі ды лірыкаю вясновых красак, — кідаў мудрыя словы Непакоеў.

На другім канцы стала Натачка займала другіх гасцей. Часамі абрыўкі гутаркі даляталі да Вольгі Аляксееўны. У іх успаміналася яе імя. Яна не сумнявалася, што Натачка расказвае пра яе ў яе ж інтарэсах, як добрая таварышка.

Полудзень хутка падыходзіў к канцу. Пакаёўка падала яшчэ пару бутэлек партвейну, ягадны крэм і снежкі.

Вольга Аляксееўна адчула лёгкае ап'яненне, але ад яго было яшчэ лягчэй. Сталовая засцілалася ружовым і ледзь-ледзь пагойдвалася ўваччу, як пагойдваліся і сядзеўшыя насупроць палуднаваўшыя.

Сталі вылазіць з-за стала. Адогаў з відам сталага чалавека, у той жа час зацікаўленага ў ёй, прапанаваў Вользе Аляксееўне руку. Невядома з чаго на шчокі яе выступіў румянец, і яна адышла з фабрыкантам к акну.

Нарэшце госці сталі збірацца ісці. Падышоў развітацца паэт Непакоеў. Высокі, сухарлявы і дужы, ён падабаўся Вользе Аляксееўне. За ім развітаўся і Адогаў. Выбраўшы ўдалую хвіліну, калі не было нікога паблізу, ён мякка прапанаваў ёй свае паслугі для азнаямлення з горадам.

— Вы можаце спадзявацца на мяне... А заўтра, калі вы свабодны і будзеце мець жаданне, я з прыемнасцю прапаную вам ложу ў оперы.

Усе разышліся. Адогаў выйшаў апошнім. Натачка падбегла к Вользе Аляксееўне і іскрыста засыпала яе словамі.

— Вось бачыш! Я гаварыла... Усе, поўнасцю ўсе ў захапленні ад цябе.

— Ты перабаршчыла, Натачка, у сваіх вывадах.

— Не, Вулінька, ты не гуляй у сціпласць, хоць гэта часам і да твару табе. Думаеш, я не бачыла, якім вокам пазіраў на цябе Адогаў... А Непакоеў!.. А артысты... І ўсе іншыя, «імена жа іх ты, госпадзі, весі».

Агулам клікала Зазорава ўсіх астатніх, якія не мелі пры душы нічога асабліва выдатнага, што можна было б падвесці пад рубрыку «грошы». Вольга Аляксееўна палічыла патрэбным для тону не здацца.

— Мною цікавіліся як новаю знаёмаю, у дадатак прыезджаю з вёскі, ды яшчэ немаведама адкуль. А твае знаёмыя — мілыя людзі; вядома, не ўсе.

— Я разумею цябе. А я гэтак замарылася... Вечна пасля сваіх журфіксаў я як не на гэтым свеце.

Пад вечар наведаліся інжынер Балясаў і Леанід Рыгоравіч. Калі Натачка сказала ім, што страшна натомлена з Вольгай Аляксееўнай сённяшнім журфіксам і абедзве хацелі б адпачыць, дык і Балясаў і Леанід Рыгоравіч зусім не пярэчылі і толькі папрасілі выпіць і закусіць.

Зазорава дала распараджэнне пакаёўцы паслугаваць мужчынам, а сама ўхапіла за руку Вольгу Аляксееўну і, кіўнуўшы галавой сябрам, знікла ў спальні.

# СЫН

*Урывак з рамана*

## Частка першая. Пахі зямлі

### Матка з сынам

— Чаго ты плачаш, мамка? — пытаўся ў Агапы сын Ігнась.

— Не, сынку, я не плачу... Гэта самі слёзы ідуць, з ветру ўвайшоўшы.

Але дапытлівы погляд хлапчуковых воч не зусім згодзен быў з тым, што сказала маці, і трывога ў іх здрыганулася, калі ён убачыў, што маці адвярнулася к прыпечку, а плечы скалануліся раптам і яна заплакала. Ціха ўстаў з лавы Ігнась, таксама ціха падышоў да маткі і, абняўшы квола, ласкава і сур'ёзна загаманіў:

— Вось бачыш, мамка, плачаш, а казала, што слёзы з ветру ідуць.

Агапа не магла больш сутрываць. Ашчаперыўшы моцна рыжаватую сынаву галаву, яна моцна заплакала на ўсю хату. Слёзы раўчукамі пацяклі з воч, бо не было моцы трымаць у сабе, цяплом расплыліся на падстрыжанай пад лучыну галаве.

— Мамка!.. Дарагая! Чаго ты плачаш? Ну, скажы... Я ж люблю цябе, моцна люблю!

І з усяе шчырасці, колькі быць яе можа ў сына да маткі, цалаваць пачаў яе худыя, сухія рукі.

— Ведаю, сынку, ведаю, што любіш.

Свае пяшчоты матчыны яна магла выказаць найлепш толькі ў пацалунках, якія несупынна пасыпаліся на рыжаватую Ігнасёву галаву. У пяшчотах да сына патроху прыходзіў спакой.

— Мамка, скажы, чаго ты плачаш?

— У нас... хлеба няма, хлопчык мой. Хадзіла заработак сыскваць, дык усе адказваюць: ці няма малочанага, ці сабе трэба, ці гаспадароў няма дома. Сыскаць цяжка загарованае сваім мазалём, слязьмі заплаканае.

Ад сваіх апошніх горных слоў зноў горна стала Агапе. Але сын бачыў, што нельга матку пакінуць так сам-насам з яе горам, бо яна зноў будзе моцна плакаць.

— На той год, мамка, увесну, я наймуся каровы пасвіць. За лета мы поўна-поўна заробім — і хлеба, і сала, і каўбас.

— Ты яшчэ малы, сынок мой, я не пушчу цябе.

— А я сам пайду...

Яны стаялі ўсё яшчэ ля прыпечка. Шкадавала маці Ігнася, ой, як шкадавала, — выказаць нельга. І ён шкадаваў матку, а розум, па прыродзе не хлапечы, падказваў, што трэба зрабіць нешта такое, каб маці не плакала. Трэба будзе пайсці ў заработкі, няйначай трэба будзе.

Так парашыў Ігнаська, цвёрда парашыў, бо лічыў сябе ўжо дарослым, — гора дапамагае ўзросту і ранняму пазнаванню жыцця горкага, як рэдзька, як палын. І праз усё жыццё тады застаецца ў гадах гэтая палыновая горкасць, атрутаю выпальвае добрае і радаснае, што можа толькі даць маладосць. Тады жыццё бывае яшчэ больш горкім, больш цяжкім — да самае смерці не знікае вострасць адчування прапашчых ні за былінку маладых год. Вось нейкае здаволенне бывае часамі — корпаешся, корпаешся ў мінулым сваім, успамінаеш сябе маленькім пухнырыкам — і якая магутная прыгажосць асвятляе пастарэўшыя ў шуканнях вочы, калі з мінулага хоць адна невялічкая дзіцячая радасць прамільгне перад табою; а не знойдзеш, дык і сённяшні дзень апаўецца чарнатой і боязкасцю за далейшае, за будучае.

У мінулым у Ігнася не было ніякай радасці, не ўспаміналася нічога прыгожага, як не было яго і ў мацеры, у гаротнай бабылькі Агапы.

— А ты схадзіла б, мамка, к Андрэю Рубцовых... у яго ж поўна ўсяго: і хлеба, і да хлеба, — пазычыла б з паўпуда мукі.

— Маўчы, Ігнаська! — жаласліва крыкнула Агапа. — Маўчы, не кажы больш нічога пра Андрэя.

І матчына рука закрыла яму рот, быццам баялася Агапа, што не паслухае сын і вось зараз зноў будзе гаварыць пра Андрэя.

### На палетку за каровамі

Зіма перайшла марозамі, снегам, адлегамі. Растаў снег. Пазбягала з палеткаў вада каламутная. Сонца замілавалася зямлёю, сваёю спрадвечнаю падарожніцай у лёгкім паветраным жыцці; а тая, каб не разгледзелася сонца, каб не пакінула замілоўвацца і лашчыць, паспешна ўбірацца ўзялася ў самыя лепшыя ўборы свае; і зацвілі сады-зелянцы белым і ружовым, і напаілася паветра прыемным вясновым дурманом. Паадскаквала на папары зялёная травіца.

Весела зарыкалі каровы на вуліцы. Пастушкова труба звонам тонкім з падскокамі прывітанне паслала вясне.

Спраўдзіў Ігнась. Ён не забыўся слёз матчыных тады, у восень дажджавую. І хоць не пушчала, але ён спрытным маладым розумам дайшоў, як гэта зрабіць, і ўладзіў: на сельскім сходзе Ігнася згадзілі ў пастухі.

Штораніцы выпраўляла з слязьмі радасці і жалю свайго «гаспадарыка» Агапа. Адцвітала вясна.

Ігнась ужо ведаў кожную карову ў чарадзе, як гукаць і чыя яна. Часамі нуднавата было. Пастушкі-самапасцы не надта чамусьці таварышавалі з ім. Яны раслі пры бацьках, часам не зусім бедна, і хаўрус вялі з такімі ж, як і самі. З Ігнася любілі пакпіць, але ён не ўсе іхнія кпіны разумеў.

Сёння не нудна было Ігнасю. Назбіраўшы кругленькіх гладкіх каменьчыкаў, ён разаслаў свой халацік і пачаў гуляць у бурду сам з сабою, вельмі здаволены, калі падкінутыя ўсе пяць каменьчыкаў, як адзін, падалі на руку. Захапіўшыся гульнёю, не прыкмеціў ён, як нейчы цень уссунуўся на халацік. Потым нешта штурхнула моцна, аж каменьчыкі пасыпаліся ва ўсе бакі. Ігнась ускочыў; крокаў за дваццаць бег, задраўшы хвост, малады бычок.

«А каб на цябе немач ліхая ўскочыла», — падумаў.

Але раптам радасна-вясёлы рогат пачуўся за плячыма і яго акружыла куча хлапчукоў і дзяўчатак. Ігнась дагадаўся, што гэта яны ўзагналі бычка, вельмі змыснага па прыродзе, які, мабыць, стаяў і глядзеў, што робіць Ігнась, — вядома, яны.

— Ігнась-магнась! Іг-г-г...нусь! Чырвонагаловік. Падасінавік!

Кожны з сваім і па-рознаму стараўся навыперадкі зрабіць Ігнасю балюча. Але самы старэйшы ў гурце, Паўлюк, навёў трохі цішыню і парадак, а сам сеў на край Ігнасёвага халаціка. Сціпла і ціха смяяліся ўсе. Ігнась цярпліва чакаў чарговай кпіны і ўжо сабраў каменьчыкі, каб пакласці ў кішэню, як Паўлюк узяў яго за руку і высыпаў іх перад сабою.

— Слухай, ты не хавай... Вось давай згуляем з табой у бурду, і калі ты абыграеш мяне, дык наш гурт будзе ўвесь тыдзень пасвіцца з тваёй чарадою, а мы адварочвацьмам табе каровы. А калі прайграеш, дык ты нам.

— Не хочу я.

— Што табе цяжка? Не хочу... Давай!

Добра ўмеў гуляць Ігнась, але адмовіўся б з вялікай ахвотай. Не хацеў ён нікому адварочваць кароў, не хацеў, каб і яму хто адварочваў. І гэтак жа ён добра ведаў, што калі адмовіцца, дык не мінуць абразы, высмешак і здзеку.

— Давай!

— Га-га-га... Хі-хі-хі... Го-го-го... — зарагаталі, захіхікалі і загагокалі гусакамі сябры Паўлюковы.

— Ну, ціха! — спыніў ён рогат.

Пачалі гуляць.

Добра гуляў і Паўлюк. Сябры яго пакінулі смяяцца — яны захапіліся ўжо, гледзячы на гульню. Чорныя, белыя, русыя галовы з ускалмычанымі касмылямі папрыціскаліся адна к адной, — сачылі.

Сонца павялічыла цень чалавечы на цэлую галаву, калі Паўлюк злосна кінуў каменьчыкі: ён нагуляў толькі дзве з паловаю «бурды» і прайграў. Было ўмоўлена на тры — верх астаўся Ігнасёў.

Усе з цікавасцю пазіралі на абодвух. Раптам Паўлюк да Ігнася:

— І ты, пажар, думаў, што мы напраўду гэта чараду табе пасвіць будзем?

Не паспеў той ніякага адказу даць, як моцныя Паўлюковы пальцы падмацавалі словы.

Бедныя рыжыя валасы! Як часта былі яны прычынаю гаротных слёз. Якіх толькі здзекаў і глуму праз іх не даводзілася цярпець Ігнасю!

Балюча скубянуў Паўлюк за валасы, аж іскры, здаецца, пасыпаліся з воч. Мабыць, гэтага чакалі і Паўлюковы хлопцы, бо ўраз жа вэрхал узняўся каля Ігнася.

— Рады быў, што Паўлюк каровы адварочваць будзе, — гі-гі-гі-гі-гі.

— Пажар! Пажар!

— Ціха, ён паскардзіцца бацьку, тады будзе вам.

— Бацьку... О-го-го-го! — лопаліся з рогату жываты.

— Бацьку... Той недзе сабакам сена косіць! Няхай паспрабуе знойдзе.

— У-у-у, — чорт рыжы!

І з падскокамі, высмешкамі і здаволеным рогатам уся зграя пабегла к гурту, радая, што пацешылася. І заўсёды вось гэтак: прыбягуць, напацвельваюцца, наглумяцца, наскубуць за валасы — і пабеглі.

Хацелася плакаць Ігнасю. Шчымелі валасы. Не, ён не злосны быў на іх, не на хлапцоў, а на валасы. Хоць яны, рыжыя, і часта крыўдзілі яго, але не, ён не злосны на іх, бо мама іх гэтак любіць і ўвечары, як Ігнась прыганяе каровы, абдымае яго, плача і смяецца, зноў плача і горача-горача цалуе ў чырвона-рыжую галаву.

— У мяне галава такая ж рыжая, як у дзядзькі Андрэя барада, мама, — пажартаваў ён раз.

Маці тады закрыла яму рот рукою, і радасць перапынілася плачам з моцнымі любымі пацалункамі...

Усё ж такі яму крыўдна, ой, як крыўдна было, як плакаць хацелася. Але замест плачу ён пачаў думаць...

«Бацька»... Якое далёкае слова. Далёкае, але, успамянуўшы яго, лягчэй рабілася, і слёзы высыхалі на вачах і ў іх ласкавей зазірала сонца. І яму здавалася, што гэта яно, сонца, толькі яго так песціць, бо ён пакрыўджаны, бо слова «бацька»... Радасны смутак агарнуў разам з медзянымі косамі сонца.

Задумаўся-забыўся глыбока.

Ці думаюць так у такія гады? Думаюць, мабыць. Аб чым і як? Ну, гэта ўжо іх справа. Ігнась жа і думаў, і не.

Бываюць такія часіны, калі на ўражанні багатая натура — хоць і пакрыўджаная — ды захопіцца чым-небудзь. Тады і смутак, і журба з радасцю памяшаюцца, а і настрой нейкі, шмат якім людзям нязнаны, наплывае. Сядзіш, глядзіш, а ўваччу красуюць карункамі мары.

Ой, мары-мары! Чым быў бы без вас свет, чым былі б людзі, чым жыццё было б? Бывае, пасля іх радасць прыходзіць, бывае, гора, — на час ці назаўсёды.

Ігнась сядзеў, калі ў ягоны настрой бестурботны яна ўвайшла.

— Ігнась!

Ён азірнуўся і ўбачыў яе. Пасля таго настрою абуджэнне павінна было б даць будзённае і непрыемнае ўражанне. Але не: яна сама была падобна да прыгожай думкі-мары. Як кветка палявая, з чорнымі кучарамі, босая, з блакітам у вачах, яна аздобіла, прадоўжыла настрой яго.

— Сядзь, Люба.

— Ты зусім забыўся пра каровы, Ігнась. Ужо з паўчарады было ў шкодзе, добра, што я наверапілася ды адвярнула.

І гэта будзённасці настрою не надало, бо голас Любін — ціхі і чысты, задуменны, як шэпт вясновага лесу — перавіўся з мяккай зелянінай палёў. Уяўлялася нават, як каровы на поўны рот хапаюць зялёны авёс і як Люба, расчырванеўшыся, бяжыць, а валасы раскідаюцца свавольна і паўз вушы свішча вецер.

— Ды ты плакаў?

— Я?.. Не, гэта так.

Яна стаяла перад ім на каленцах і зазірала ў вочы, а загарэлая рука адкідала валасы з ілба і гладзіла з маладою шчырасцю іх агністую чырвань.

Кожнага разу, калі Ігнасю было неяк ніякавата, кожнага разу, калі абражалі яго, кожнага разу, калі давалі зразумець, што ён не такі, як усе, што бацька яго недзе сабакам сена косіць, з’яўлялася Люба, прэч гнала смутак і журбу, прыносіла радасць, часіны светлыя давала.

Люба

Дзіўным было гэтае таварышаванне дзяўчыны з хлапчуком. Дзіўным таму, што Люба была старэй гады на тры за Ігнася, а можа, і таму, што не пасвіла чужых кароў, як той.

Мусіць, не ў тым справа.

Каб, можа, Любін бацька жыў, як Агапа, дык і яго б дачка штораніцы гнала праз усё сяло каровы. Патрэбы ў гэтым якраз не было.

Люба — адна дачка і адно дзіця ў свайго бацькі; і бацька яе не абы-хто, а сельскі стараста. Гады тры пабыў нават і за валаснога старшыню. Пасля, як змясцілі яго са старшынёўства, плётка вужакай папаўзла па сяле:

— Дароша Аксюту, ці чулі, выперлі з воласці, — кажуць, хабароў залішне набраўся.

А зрэшты казалі, што мана гэта ўсё.

Мана маною, а што да праўды, дык і сам Дарош не хаваў ад людзей, усе бачылі, як жыве. Жонка не тое, што чужыя бабы ў парваных андараках, а заўсёды ў крамненькім, у прыгожым. Пра дачку і казаць няма што, як паненку ўбіралі. Ды ці ж дзіва, — абрабляць зямлю пасаблялі за дармоўшчынку швагры ды швагеркі, а грошы прыбывалі (акрамя Дароша, жонка толькі ведала, колькі новенькіх чырвончыкаў схована ў скураной калітцы). Стаўшы за старшыню, з першага ж года скінуў Дарош сваю даматканую жакетку, а пашыў пінжак з крамнага сукна, — казалі, каб ярчэй кідаўся ў вочы мужыку старшынёўскі медаль. Э, ці мала чаго наказаць могуць людзі.

Пасля воласці зноў жа не вельмі ўзяўся Дарош за гаспадарку, дарэмна бабы плёткі плялі. Змянілі на сяле старасту, і на яго месца стаў той самы Дарош, — хоць з паніжэннем, але ўсё ж начальства, дый пад бокам. І жыве добра. Не адно зайздросліва вока ацэньвала Дарошаву будоўлю, гладкія коні, каровы, а што ў скрынях ды кублах жончыных, — толькі дагадвацца хіба трэба было. І як на зло ўсяму сялу — не сам робіць Дарош на зямлі, а расце на ёй лепш, чымся ў людзей.

І заўжды, калі гутарка дзе ўсчнецца пра Дароша, дык і гавораць, уздыхаючы:

— Ды яно ж, на яго страх... Багатаму і чорт у кашу дбае.

Люба жыла ў бацькоў, як фарфоравая лялька ў панскіх дзяцей. Чаго толькі хоч — і з'есці, і знасіць, і схадзіць. А больш шту патрэбна мужыцкаму дзіцяці, хоць і стараставаму ці старшынёваму?

Не гэтак даўно адкрылася ў сяле народная школка. Тады Люба пакінула хадзіць вучыцца па хатах, і першую яе прыняла настаўніца. За ёю следам пайшлі і больш. Але ж яна была пярэдняю.

— Вучыся вось, дык сама, можа, будзеш у настаўніцах, — гаварыў ёй бацька, здаволена гледзячы на жонку.

— Распісацца як след хай навучыцца.

— Я буду за настаўніцу, мама, — ціха казала Люба.

І лёгкія ды плыўкія, бы тыя пёрцы птушыныя, думкі пераносілі павольна ў будучыню, і бачыла яна сябе настаўніцай, не жорсткай, не злоснай, а добраю дзецям, што шкадуюць яе, як роднае маткі. Жаласлівасць расла ў ёй з самага малку, жаласлівасць і спогадзь да ўсіх слабых, гаротных і нянавісць разам да ўсіх чорствых людзей. Так, яна будзе вучыць некалі ўсіх гэтых малых гаротнікаў, будзе пушчаць у свет, паказваць ім дарогу ў жыццё.

За характар свой, толькі дзякуючы яму, пасябравала і з Ігнасём. Часта, ідучы ў школу ці дадому, бачыла яго Люба, сухога, галоднага, апранутага ў грубое зрэб'е, у пазбіватых вязовых лапціках з кастравымі аборкамі. І пацягло Любу к Ігнасю. Бо бачыла, як суседнія хлапчукі шкілююць з яго і як нясмела, баючыся ступіць лішняга кроку, не адыходзіць ён ад сваіх разбураных варотцаў у дварэ. Ведала Люба добра і Агапу і, не зважаючы на свой малы ўзрост, рада была б пасобіць чым, бо тым самым пасобіла б і Ігнасю, якога крыўдзяць чужыя дзеці.

Аднае зімы ў школе была ёлка. Настаўніца панакупляла ўсякіх падарункаў. Ёлку прыгожа ўвабралі.

Думка распукнулася раптам у галаве Любы і зацвіла пышнай кветкай рашэння: Ігнася трэба павесці на ёлку. Перш чымся зрабіць, яна запыталася ў настаўніцы, а тая дык яшчэ пахваліла. Добрая была ў іх настаўніца. За нейкі дзень вывучыла Люба з Ігнасём на памяць вершык. Вось з тым і пайшлі яны на ёлку. Люба была тады ўжо ў трэцім аддзяленні.

Які ж рады быў Ігнась пасля ёлкі. Сарамліва, але добра пераказаў ён вывучаны верш, і за гэта настаўніца надавала яму падарункаў ды сказала, каб на другую зіму маці прысылала ў школу вучыцца.

Вось гэтак і пасябравалі Ігнась з Любай.

На другую зіму не ўдалося. Ігнасю пайсці ў школу не было ў чым і з чым. Ён дык пайшоў бы, але маці не пусціла:

— Як жа ты, сыночку мой, пойдзеш. Ты ж не выседзіш галодны. Усе дзеці палуднаваць будуць... Ведаеш жа, Ігнасёк, што ў нас няма чаго ўзяць.

— Мамка, я хлеба з соллю з’ем, і добра будзе. Абы вучыцца толькі, мама.

— Не трэба, не трэба гэтак, мой сынку, мой любы Ігнась. Няхай некалі на той год. Я зараблю грошай, непрыменна зараблю, ды спраўлю табе чаботкі.

— Ну, добра, мама, я пачакаю.

Так і не пайшоў тае зімы вучыцца Ігнась. А Любу тым часам бацька аддаў у гімназію ў горад. Любіна маці ўсім выхвалялася, што дачка іх вучыцца разам з панскімі дзецьмі і што прынялі яе, уважаючы на бацькаву службу — гарадское начальства дапамагло.

Але і ў горадзе Люба не забывалася пра свайго Ігнася. Прыязджаючы на святы дадому, заходзіла пагуляць.

Падабалася і яна Агапе, і рада была бабылька добраму сяброўству сына.

Асабліва ўлетку дабрыня была ім. Любу не прыганялі дома рабіць, толькі вучыся, чытай. І дзень пры дні ішла яна ды ішла, як вада, на поплаў, у палетак, на рэчку. Заўсёды апранутая чыста, у новую сукенку гімназісткі, як яна падабалася такая Ігнасю!

За малым не штодня бачыліся. Вось і гэтага разу таксама гуляла Люба ў палетку, трапіла на чараду і павыганяла са шкоды кароў.

«Мілая, прыгожая Люба», — думаў, сарамяжа гледзячы на яе, Ігнась і адчуваў, што прывыкаў да яе, як брат да сястры.

І неўзаметку, як сястры, расказаў маладой дзяўчыне пра ўсе дні без яе, пра гора і радасць маладога хлапечага жыцця.

Аднаму — апавядаючы, а другой — шкадуючы яго, было гэтак добра-добра разам.

«Дарагая, харошая Люба», — думаў Ігнась і сёння, чуючы лёгкі ласкавы дотык Любіных рук.

Вялікае хараство ў сардэчнай блізкасці аднаго з адным, і ў кволай адданасці ёй прыгожая радасць.

## У школу

Пакасілі. Паплавы выбрыліся гладка, як хлопцы ў свята перад пагулянкамі. Пааджыналіся з жытамі, аўсамі. Надышла жоўтая восень. Стала пахмурна і непрыветна ў палетку, — чужым нейкім, здаецца, не сваім. Дажджы пайшлі, спагнаць стараюцца за лета, па самае нельга напаіць старую, ссохшую бабулю-зямлю.

Дзяды прыспелі, і Ігнась пакінуў пасвіць. Сабраўся заработак. Зіму можна пражыць.

Ігнась зноў, як і летась, выказаў мацеры сваю патаемную думку: ён пойдзе ў школу. Яго аднагодкі ўжо канчалі ў гэтым годзе, некаторым асталося па году, а ён яшчэ толькі паступае. Гэтае зімы абавязкова трэба, бо недзе на той год, можа, і самому не захочацца.

Хіба ж магла быць матка супроць гэтага? — ніколі. Яна даўно ўжо думку песціла, што Ігнась яе выйдзе ў людзі. Яна паклапоціцца, каб гэта спраўдзілася.

Ігнась пайшоў у школу, у лапціках у новенькіх пайшоў, бо маці не справіла «чаботак», як казала, не зарабіла на іх. Цяжка жыць!

Настаўніца прыняла (ласкава-добрая настаўніца!), выдала кніжку і сшытак. Акуратна, дзень пры дні хадзіў вучыцца. Дома ўвесь вольны час аддаваў лемантару.

Колькі радасці было ў закурэлай са шчылінамі-акенцамі хаце ў Агапы, калі нешта пад Каляды Ігнась ужо прачытаў разборна першае апавяданнейка. Свет новы адчыніўся перад Ігнасём ва ўсёй прывабнай і бліскучай прынаднасці. Быццам ён толькі і жыць пачаў. Такой любай, такой дарагой стала яму кніга. А горад, пра які ён вычытаў, закрануў цікавасць і нязведаным яшчэ захапленнем прыцяг сэрца. Але не было часу марыць.

— Мама! Як весела мне і як я люблю цябе!

Дзверы, як на зло, перарвалі, — што адвечнае і неўмірушчае ў людзях, што выклікае жаласлівасць і пачуццё абароны да меншага, да слабейшага, кіруецца чым у прыродзе свет, што сэрца саграе, імкненні светлыя ўзбуджае.

Адарваліся адно ад аднаго. Нібы засаромеліся свае хвілёвае радасці.

А ў хату ўвайшла Люба. Колькі разоў ужо — ці слёзы, ці гора — яна з'яўлялася. Ігнась прывык яе бачыць, — часта была патрэбна яна са сваім смелым задушэўным голасам, з адкрытым бязмежжам сваіх воч. Цяпер прыспела нібы знячэўку на першы баль вясёласці, мо, на першыя просветкі будучага. Пера-

ступіла парог, стала. Зразумела, што быў лішні яе прыход, і, смелая, збочылася нясмела ў мыцельніку.

— Дык што ж ты гэта, Любка?.. Хадзі, хадзі сюды, — нарэшце вымавіла Агапа.

Нешта сціскала ёй горла, не давала выйсця патрэбным словам. Гэтае нешта — Агапа дагадалася — было прыемнымі слязьмі радасці. Не заўважылі іх толькі Ігнась з Любай, бо нечаканая сустрэча накрыху адсунула гэтую радасць, а можа, і зусім перамяшалася з ёю і стала большай і прыгажэйшай.

— А я прыехала на Каляды, — казала Люба. — Не ведала, што ты ўмееш чытаць, а то прывезла б кніжак. Няхай, некалі на Вялікдзень.

### Навальніца

Ішоў год за годам.

Ігнась вучыўся і пасвіў, пасвіў і вучыўся.

Як і даўней, хлопцы цураліся яго і не любілі. Ігнась таксама не надта ліп да іх, больш адзін быў. Адзінота прымушае чалавека назіраць і паглыбляцца ў самога сябе. Гэтак і Ігнась паглыбляўся ў думкі, і з аднаго паступова рабілася два: адзін — быў надворна сур’ёзны, маўклівы, заўсёды ціхі ў людзях, уцякаў ад шумлівых гутарак і жвавых гульняў, а другі — замыкаўся ў сабе сам-насам і ўсё думаў пра нешта спаважна.

Якраз нядзелька была. Раніца. Сонейка ўсплыло і схавалася. У цьмянасць увабралася іржышча, трава. Аднекуль дзьмухнула пахмурнасцю. Рэдкія хмары спаўзліся, згуслі над палеткам. Замоўклі птушкі. Ціха зрабілася ў палях.

Ігнась звярнуў чараду на палетак і сеў ад ветру на пакамлычанай зялёным быльнёгам шырокай мяжы.

Раптам блiснула на небасхіле. А потым бліжэй, часцей — і пачала палыскацца яснатою высокая чорная далеч над самым палеткам. Проста над галавою трэснула-грукнула і з лёскатам-гудам разышлося вакол. Як бы шум нейкі пачуўся з ветрам. Каровы стаўкліся ў кучу. Адале бляскам агністым засляпіла вочы, нібы паветра разадралася і расшчапілася напал зямля...

Калі Ігнась трохі апрытомнеў, дык дрыжэнне водгуку далёкага памёрла, шум прыляцеў і апратаў палетак сваім гудзеннем. За першымі гарошынамі-кроплямі нібы хмары да зямлі спусціліся і косымі перахватамі граду пачалі касіць палетак.

Ігнась падкурчыў ногі і схаваўся пад халацік.

Роўна барабаніў дождж, напярэймы лапацеў па Ігнасю, а ён сядзеў і мімаволі прыслухоўваўся. Галава ніжэй ды ніжэй хілілася

на грудзі, роўным рабілася дыханне. Але рэзкая вільгаць пралезла пад халацік, пачало ўздрыгваць пад пахамі. Не злазячы з сухога, ён лепш падгібаў пад сябе крыскі, захутаўся шчыльна і задрамаў.

Парыўчаты подых ветру змысна расхлябесціў халацік. Нехаця ўскочыў Ігнась, здрыгануўся. Нечаканы пераскок з цяпла да холаду ўраз папрасіў залескацець зубамі. Ігнась глянуў назад, дзе трэба, каб была чарада, і дрыжуча нацёг на плечы апранаху.

Град перасціх. Але каровы, не чуючы голасу Ігнася, адна за адной паднялі хвасты і выладзіліся на дарогу — у цёплым хляве, вядома, куды лепш. Дожджык-імга цярушыць ледзь-ледзь, нібы на частае сітка прасейваючы буйныя кроплі.

Ігнась змікіціў, што яшчэ рана, ён быў задрамаў толькі, і дождж ужо меншае. Калі пусціць дадому каровы, дык не ацярэбішся ад нараканняў, упічышчаў і праклёнаў. Падкасаўшы нагавіцы, ён сцёбнуў пераймаць. Але і каровы зразумелі быццам, і задняя дробным ляным трухам пагнала пярэднюю, а тая трэцюю, і ўся чарада пацялёпкалася к сялу.

Забыліся, мусіць, каровы, што ў Ігнася пуга доўгая і што моцна ён бегае. Не паспела пярэдняя дабегчы да канца сяла, як Ігнась збіў яе на бок, а за ёю і ўсю чараду, і загнаў зноў на палетак.

Пацішэла нібы ды пацямнела зноў. Такім чужым і непрыветным зрабіўся палетак. Светлыя фарбы палёў пачарнелі, забрудлі. Сама сабою запаўзла далёка ў сэрца бяскрыўдная журба, ахутвала няпрошаная. А пад нагамі мяккая ліпучая слізіна-гнілоцце. Таму і нуда быць на палетку ў такі час, таму і дрыжык дробненькімі гургункамі бегае па целе.

Мабыць, нуду такую самую адчувалі і каровы, бо глыбакадумна галовы паспушчалі; рэшта нюхаюць траву, нехаця выбіраючы па каліву, нібы хочучы сказаць: «Дзе ж там відана, каб у такое надвор’е...»

...Зялёнае каліва аставалася за тоўстаю губою, і морда каровы рабілася не то сур’ёзна-важнаю, не то дурнаватаю.

Цемрач апаноўвала палеткам. Хмара, большая за першую, заняўшы з паўнеба, паволі, але рашуча насоўвалася, і нешта страшнаватае было ў яе чорнай рашучасці. Быццам яна гэта на нябачных ніцінках спушчае на зямлю нуду, каб павыганяць усё жывое, каб адной астацца ўладарыць беспадзельна на палетку. І ўсё жывое нібы падначальвалася і, не аскірзаючыся, лезла ў свае норы, гнёзды, пад межы і лісткі.

Глыбокай чуласцю разумеў Ігнась прыроду. Яму самому заманулася дахаты. Але — як бы доказ рэзкай супярэчнасці ва

ўсім — мёртвую сціш прарвалі жаласліва-дзіцячая піскклівасць ды нечы гартанны клёкат.

Вухам пазнаў Ігнась, адкуль плылі гукі. Загоны за два, а мо, і тры, на сінявата-чорным фоне хмары ён убачыў...

Вялізны коршак узляцеў ад зямлі, злоснікам агідным малюючыся на цёмным палатне неба. Мяркуючы быццам, што зрабіць, ён зноў сплыў да зямлі. Дзіцячы піскклівы плач сустрэў яго. Лёгкія крылы коршака без літасці хвасталі па зямлі, і час за часам узлятаў ён угору, а потым спушчаўся ўніз зноў і зноў, падрапежніцку старанна робячы сваю работу.

Ігнась захапіўся, гледзячы, забыўся на каровы: нерухома стаяў з утаропленым туды зіркам аж датуль, пакуль асаблівая жаласлівасць не зрухнула з месца. Сляпая просьба аб дапамозе ўжо не так свабодна і лёгка ляцела насустрач яму.

Моўчкі, але значна на палетку плыла пахмурная ўрачыстасць. Ігнась толькі, захапіўшыся бачанаю супярэчнасцю, не падпадаў пад велічны ўплыў яе магутнай сілы.

Недалёка ўперадзе ён бачыў ужо мэту свае бягі, дзе з нечым жаўтаватым сашчапіўся прагавіта крылаты драпежнік. Прызвычаіўшыся за кароўмі, ляснуў Ігнась пугаю па вільготным іржышчы. У гэтым бязлітасным ляску коршак пачуў небяспеку і з нездаволеным піцьканнем шпарка ўзняўся да роднае стыхіі.

Перад Ігнасём ляжала пашчыканае і пашкумачанае на кроў шчанё. Зусім нядаўна яшчэ прарэзаліся вочкі — бедны! Слабенькі шчанючок, страціўшы сваю невялічкую моц у барацьбе са злым ворагам, імаверна ўспоўз на босыя ступакі свайго збаўцы, паклаўшы чырвона-крывавыя плямы і тут жа злізаўшы іх разам з брудам.

— Як ты папаў сюды, мой дурненькі? — запытаўся, нібы і сапраўды чакаць можна было адказу, Ігнась.

Крысаю старога халаціка, пашытага з мацерынае камізэлькі, ён абацёр па шэрсці сваю знахадку. Кволенькае цельца ўздрыгвала цяпер дробнымі дрыжыкамі, як толькі што звярнуўшыся ад смерці і адразу папаўшы ў колкі холад.

Над галовамі ўгары шуганула буйно. Ігнась успамянуў пра коршака і сунуў шчанючка пад халацік бліжэй да цела. Тады глянуў угору. Так, гэта ён, іхні вораг, толькі што нязграбна праляцеў, падхоплены ў колькі разоў больш дужым, магутным віхорам, не аддаючыся ўсё ж такі без барацьбы.

«Будзе вялікая навальніца», — падумаў Ігнась, пачуўшы здалёку пагрозны шум.

Ён не памыліўся. Толькі гэта намерыўся быў крануцца да чарады, што незвычайна, нібы нежывая, стаяла ўнурыўшыся, як буйныя кроплі дажджу захлёпалі часта і цяжка, рытмуючыся з недалёкім ужо шумам у страшную і прыгожую музыку навальніцы.

Непрыемна хавацца ад дажджу ў мокрым ды яшчэ і на мокрым. Трымценне напала на Ігнася, і зрабілася холадна. Ён прыціснуў бліжэй да цела сваю знаходку. Шчанючок таксама трымцеў, і трымценне казытала Ігнася. Ён крануўся ісці, але, зрушыўшы з месца, быццам адразу страціў увесь запас цеплыні. Вось бы раптам пераступіць парог — і ў хаце. Не, старэнькая матчына хата далекавата.

Дождж паліў раўчукамі. Каралі кропель яго знайшлі сабе дарожку і пад Ігнасёў халацік. А на палетку па мокрым змроку дня рассыпаліся ў грымотах бліскавіцы, і што далей, тым больш і тым часцей. Шчанючок задрыжэў дробна, сунучы сваю мордачку Ігнасю пад паху. Ігнась перасадзіў яго да голага цела, каб цяплей было. Але не паспеў яшчэ зашпіліць халаціка, як вочы зашчурыліся ад яснага колкага святла, а вушы аглушыла рознагалосым звонам, і адчуў Ігнась, як яму зрабілася лёгка і добра, як быццам у ясным павуцінным палетку ён задрамаў салодка з ружовым тамленнем у грудзях і быццам нехта прамяністы, прыгожы на варце яго дрымотаў стаў.

Дзве чарады

Гуляла навальніца, жудасцю сваёю рызыкавала. Успалґшылася ўсё сяло — не было чарады. На двор жа страшна было вылезці: само неба, здаецца, лілося на зямлю і раз-поразу зіхацелі агністыя маланкі, сатрасаючы звонкім трупценнем шыбы вокан.

Але, калі боязнасць за каровы пераважыла над спалохам перад раз'юшанаю стыхіяй за сваю ўласную асобу, ледзь не ўсё сяло высыпала ў поле — кожны з посцілкаю на галаве — шукаць. Думка ў кожнага баязліва свідравала мазгі: «Можа, ляжыць дзе чарада, упавал пабітая». Разбіты, пашчэпаны на стрэмачкі магутны векавы вяз за канцом сяла сведчыць, што непажаданыя думкі лезуць у галаву не без падставы.

Уперадзе ўсіх ветрыкам лёгкім ляцела Люба. Адной з пярэдніх выбегла ў палетак і Агапа. Не палохалася яна за каровы; думаючы пра горшае, яна быццам прасіла каго, маліла, што лепш няхай пабіта будзе ўся чарада, абы толькі застаўся жывы яе Ігнась. Вялікім, неабдымным, нязмерным можа быць каханне мацеры!

А тым часам чарады не відаць было. Не ведалі, куды кінуцца, дзе шукаць яе на вялізным палетку. Толькі калі Люба ўзбегла на недалёкі ўзгорак і махнула рукою на сябе, усе грэйма навыперадкі сыпанулі туды.

Нібы спагадваючы з людскога імкнення, навальніца пачала патроху сунімацца. Дождж з раўчукоў павалі пераходзіў на кроплі, а маланкі адбліскваалі ўжо далёка і нясмела.

З узгорка людзі ўбачылі ў лагчыне чараду. У цеснай кучы, пагарбеўшы, стаялі каровы. Адлягло ад сэрца ў напалоханага натоўпу — каровы былі, здаецца, усе. У гэты момант, акрамя гаротнае маткі, ды, мо, яшчэ Любы, ніхто не думаў пра пастуха.

Хмары разышліся. Выплішчыўся баязлівы праменьчык і прылашчыў мокрую зямлю. Зноў стаў у палетку дзень, ясны, сонечны, зноў палетак пачаў убіраць у сябе прыгажосць фарбаў. Заціўкалі, засвісталі і застрачылі на ўсе галасы крылатыя жылачы палёў. Пад уплывам цяпла разбрыліся каровы. І тут толькі заўважыла чалавечая грамада, што няма пастуха.

Захлупіла ў грудзях Агапіных ад шпаркага бегу. Падбегшы к чарадзе, яна стала. Але ў агульным парадку і супакоі адчула, як балюча сціснулася сэрца, а сіроцкасць становішча захапіла ўсю; казала, здаецца, нешта, што з сынам нядобра. І яна пайшла ад другой чарады, ад людской, у якой дрыжэлі рукі і балела сэрца нядаўна за сваю маёмасць, што была цяпер у поўным парадку, цэлая, не зважаючы на тое, што няма пастушка, не каровы ж, а чалавека.

Хто-ніхто пачалі вылучваць свае каровы і гнаць — хто ў хлеў, а хто на пашу. Ніхто не зрухнуўся з месца, стоячы ў грамадзе, ніхто не пакінуў сваіх кароў, не паварухнуў пальцам, каб пасобіць гаротнай кабеціне знайсці сына. Наадварот, у паасобных кучках чутны былі зусім неласкавыя выгукі:

— Ці ж гэта пастух?

— Галапупанку хлеб далі, а ён!..

— Плата за дабрату сельскую...

— Дох бы нечага з голаду з мацераю са сваёю!

— Пагнаць к чорту гэтага байструка!

Толькі адзін з усяго натоўпу, той самы Андрэй, сусед Агапін, у якога Ігнась некалі раіў мацеры пазычыць хлеба, толькі ён адзін не меў, мабыць, аднолькавых думак з усімі. Яго каровы адны з усяе чарады хадзілі на месцы, а сам ён азіраўся вакол, бы назіраў каго. А далей, відаць, засаромеўся нечага, бо, схапіўшы дубец, і ён пагнаў сваіх кароў за другімі. Прагнаўшы з паўзагона, — яшчэ супыніўся і зноў паглядзеў узад, як бы забыўшыся чаго.

Але ў той жа самы час вынырнула з-за ўзгорка Агапа. Убачыўшы яе, рыжы Андрэй хуценька заспяшаўся ў сяло.

Агапа ледзь перасоўвала з адчаю ногі. Не зморанасць, не, адабрала ў яе заўсёдышнюю трываласць — адчуванне небяспекі страціць сына, астацца адной без свайго Ігнаські дрыжучым спалохам напоўніла ўсю істоту. Колькі разоў клікала любоўна «Ігнась!» — палетак прыносіў назад яе голас без адказу. Ад невыказнага жалю падгіналіся ногі, тонкімі іголкамі калола пад сэрца, забівала дух.

Удзвюх з Любаю засталася Агапа. Той таксама было шкода Ігнася, як не шкода было больш нікому, апрача маткі. Адна яна асталася з няшчаснаю кабецінаю ў полі. Але жаль такі, як у Агапы, не апанаваў Любаю, — яна была ўпэўнена, што Ігнась знойдзецца, — жывы, здаровы.

Бегучы ўперадзе, Люба заўважыла ў разоры нешта цьмянае. Больш прадчуванне, чымся зрок, не спадманула шчырую дзяўчыну. Яна падбегла і пацягнула апранаху. Ігнась, яе добры, любы Ігнась тут, у лужыне вады. Ён знойдзены, але вочы яго моцна заплюшчаны і рукі не ўздымаюцца. А можа, ён спіць моцна? Не!.. І яна звонка гукнула:

— Цётка!

Зняможаная Агапа пачула воклік (слова «цётка» ні да кога не магло тычыцца, акрамя яе). Улева ад сябе яна ўбачыла ў Любіных руках халацік. Слёзы туман разаслалі перад вачыма: Ігнась там... ён не чуў голасу, кволага матчынага голасу, якога так слухаў заўсёды. І, спяшаючыся, спрабавала адгадаць, што магло здарыцца з Ігнасём. Ці жывы хоць? Страшны малюнак уставаў перад вачыма, што Ігнась нежывы і з ёю не будзе больш яе сыночка. Бегчы не магла, але ішла хутка. Крылаў жадала б яна на гэты час, каб пераляцець раптам к сыну, але крылы былі не патрэбны: пяць крокаў — і Ігнась увесь мокры ў разоры ляжыць перад ёю.

Мука тугі нязмернае паказалася на твары ў Агапы, мука невыказнага гора, калі стала яна на калені перад Ігнасём. Слёзы нагарнуліся ў Любы. А маці сілы не мела падняць непрытомнае цела свайго ўлюбёнца, дрыжучымі паслабеўшымі рукамі толькі выцягла яго з разоры.

Ці ёй здалося, ці гэта праўда. Ігнась паварухнуўся.

— Любачка, бачыла?

Люба бачыла, але не тое, што Агапа, і, засунуўшы руку ў запазуху непрытомнага Ігнася, дастала звонка заскавытаўшага шчанючка. Які час мінуў, пакуль Агапа дагадалася абмацаць

галаву, рукі і ўсё цела ў Ігнася. Потым паслухала сэрца. Невялічкаму кволаму маятніку чалавечага арганізма яшчэ не канцы былі.

— Любка! Сэрца ж б'ецца... Што з ім рабіць? Ігнаська!

Паклікала яна над самым вухам і пачала тармасаваць, падымаць галаву, варушыць рукі. Хвіліна, дзве… Роспач зноў заступіла месца кволай надзеі ў абедзвюх. Яны ўжо больш не ведалі, што і рабіць, калі Ігнась раскрыў вочы. Потым уздыхнуў ціха, як уздыхаюць зняможаныя ў цяжкай барацьбе з хваробай. Надзея вярнулася са слязьмі радасці на заплаканыя вочы мацеры.

— Сынок! Ігнаська! Ці бачыш ты?

Ён бачыў іх і мацаваўся нешта праказаць, але слабасць перасільвала, і слоў не чуваць было. Радасць, што Ігнась жывы, вярнула сілу мацеры, і яна падняла сына. Цяпер ён трохі лягчэйшы быў, можа, таму, што сіла жыццёвая варочалася назад у цела і брала яго ў свае рукі. Як малое дзіцянё, узяла сына на рукі Агапа і панесла. Смутная і радасная з халацікам і шчанём у руках Люба пайшла пазадзе.

## Хвароба

Доўга хварэў Ігнась. Тыдні заступалі і адыходзілі, а хвароба трымала ў агідных кіпцюрах маладое жыццё.

Ігнась тады на полі быў толькі прыглушаны маланкаю, і каб знайшлі яго на хуткім часе, дык тыдні хваробы, мо, укараціліся б. Прыглушаны, праляжаў ён на халодным дажджы ў вадзе і прастыў. Хвароба перайшла ў запаленне.

Астатнія лахманы прадала Агапа — лячыла сына. Колькі начэй без сну выседзела яна каля рыжае дарагое галоўкі. Гледзячы на мукі сынавы, чарнела, недаядала, сохла. Ніхто не спагадваў з яе гора, ніхто нарокам нават не пашкадаваў. Прасіла раз у суседзяў каня — завезці хворага ў бальніцу. Ёй проста не адказалі, але так пэўна далі зразумець, што яна больш ні ў кога не прасіла. Была ў яе калясачка, у якой вазіла калісь маленькага Ігнася. Цяпер павезла ў ёй хворага за некалькі вёрст у бальніцу.

Трэ было плакаць, ды слёзы не ішлі — ужо выплакаліся ўсе; толькі і думаць высталася, чаму гэтак свет створаны, што людзі ў ім колюцца, ніжуцца адзін з адным без адхланку. «Дзе гэта праўда? Дзе гэта шчасце?» Часта пытаецца сама ў сябе і не знаходзіць іх.

І сэрца чарсцвела, рабілася каменным, толькі адно кволае пачуццё і засталося ў ім — матчынае каханне да сына, — усе

іншыя радасці жыцця незваротна загінулі для яе.

Раз, пасля шмат тыдняў ад навальніцы, наведалася Люба. Ігнась спаў. Яна запыталася ў Агапы, ці лепш яму.

— Здаецца, лепш, дзеткі. Але трэба вось сёння яшчэ павезці ў бальніцу.

— Я вам пасоблю, цётка.

— Дзякую, Любка, можа, не трэба. Бацькі даведаюцца, а потым будуць маракаваць.

— Не, цётухна, і не гаварэце. Яны ведаюць, нічога не будуць казаць.

Супроць такое ўпартасці не знайшлося ў Агапы слоў, і яна стала збірацца ў дарогу. Калі ўжо выйшла на двор слаць пасцель у калясцы, Ігнась прачнуўся і ўбачыў Любу. Светлая радасць паказалася ў вачах, упрыгожыла бляды, сухі твар.

— Люба, — прашаптаў, і ў адным толькі слове вылілася з яго сэрца ўсё, што хацеў сказаць.

— Ты мо хочаш чаго, Ігнась?

— Не. А дзе мама?

— На дварэ, цябе выбіраецца везці ў бальніцу.

Увайшла Агапа.

— Паедам, Ігнаська.

Замест адказу ён глядзеў на Любу, як бы чаго пытаўся моўчкі.

— І Люба, сынок, хоча з намі.

Ён пажывеў і ўстаў. Маці хутка падбегла і падтрымала. З дзіўнай руплівасцю сцерагла яна сілы хворага, і дзякуючы таму здароўе хутчэй варочалася да Ігнася. Кладучыся ў каляску, ён варочаў галавою, быццам упэўніваўся, ці ўсе тут.

— Ах, я і забылася, сынок… З радасці, дзеткі… Кіяш! Кіяш! — паклікала. — Не можа без яго ехаць.

З маленькага слабенькага некалі шчанючка вырас дужы сабака, з тонкім пруткім хвастом, і імя яму даў сам Ігнась. Рос ён непамерна, як і ўсякая жывая істота, на якую зусім ці мала аддаюць увагі, а калі заўважаюць, дык дужа дзівяцца, калі гэта магло яго так выгнаць.

Калі толькі Ігнась прачынаўся ад сну-забыцця, дык прасіў матку паклікаць у хату Кіяша. За якою важнаю работаю ні быў бы той, заўсёды з вясёлым віхлястым відам бег чвалам дадому. Гэта ўвайшло ў звычай у сяброў: калі Ігнась хацеў бачыць Кіяша, дык ведаў, што яго няма ў хаце, а той, пачуўшы Агапін голас, садзіў проста ў хату, бо ведаў, што патрэбен Ігнасю і што ў яго можна сарваць часам смачнае перапечкі ці рэдкага, але пахучага крупніку.

З кожнаю яздою ў бальніцу Ігнась браў з сабою ў горад сабаку. Сёння ён правіла свайго не захацеў змяняць, і Любе выпала магчымасць наглядзецца досыць на сяброўства хлапчука і сабакі.

Ігнась быў здаволен. І ад гэтага парыванне нейкае, жвавае і бадзёрае, поўніла грудзі, а вочы радасна праменіліся бліщчастым святлом.

— Табе добра сёння, сынок? — пыталася, і без таго пераканаўшыся, Агапа.

— Добра, мама.

Погляд яго ласкава пераскаквае з мацеры на Любу, на Кіяша і жмурыцца непрывыкла ад яснага сонца.

Дымком тамлення пераліваецца на сінім небасхіле празрысты дзень. Весела і ў той жа самы час неяк мякка-цяжкавата песцяць вока гэтыя малюнкі. Павекі самі па сабе паволі плюшчацца, а мяккі звон-шум у паветры плавае, калыша. Цягне на сон.

У бальніцы доўга чакалі чаргі, і, калі выклікалі, доктар з прыемнасцю заўважыў на добры выгляд у Ігнася. Выстукаўшы і паслухаўшы, ён параіў патроху гуляць на паветры, есці здароўшую страву, — і праз два-тры тыдні хлапец будзе здаровым як належыць.

— Лякарства не патрэбна ўжо, — дадаў ён.

— Праз тыдзень, калі не будзе горш, абавязкова наведайцеся. А вы самі здаровы? — спытаўся раптам доктар у Агапы.

— Дзякуй, паночку! Здарова, здаецца, — якое цяпер у ліха здароўе.

Доктар правёў яе кароткім поглядам і паківаў галавою.

На калідоры рэзка пахла лекамі, масляністаю афарбоўкаю сцен, потам і гніллю чалавечага цела.

Пачуўшы прыемныя словы ад доктара, цяпер агідна было тут на калідоры, дзе сядзелі, стаялі і ляжалі з паперавязанымі рукамі і нагамі, з чырвона-слязучымі вачмі, — сухотныя, васпяныя, тыфусныя, з бяссільным адхаркваннем, уздыхамі і енчаннем. Першы раз заўважыла Агапа, як тут няма чым дыхаць, і боязнасць, што можна схапіць якую пошасць, выпхнула за дзверы.

Ігнась дыбаў паволі сам. Слабасць дык яшчэ моцная адчувалася, але запэўніванні доктаравы выклікалі жаданне рухацца самому, без чужое дапамогі. Надакучыла ўжо хвароба, хацелася зноў стаць дужаму, як раней.

Люба сядзела і пазірала на дзверы бальніцы. Чакаючы Агапу з Ігнасём, яна не заўважыла, як Кіяш выскачыў на вуліцу і знік. Любе ўспамянулася ранішняя гутарка з Агапаю і падумалася, якая добрая ў Ігнася маці. А жыве вось кепска, горш за ўсіх у сяле. На двор выйшлі Ігнась з Агапаю.

— Доктар сказаў, Любка, што не патрэбны ўжо лякарствы! Колькі выстрадаў, сынок мой...

Яе сухі і жоўты твар на хвіліну ўтраціў сваю радасць, і па пары буйных слёз выкацілася на шчокі па зморшчках.

— Цяпер будзе здаровы, — узбадзёрыла Люба. — А дзе ж гэта Кіяш? — запыталася наўмысля, каб накіраваць на другое думкі Агапіны, бо слёзы яе і гаротнасць шчыпалі балюча за сэрца.

На вуліцы пачуўся сабачы лямант, і ў браму ўскочыў Кіяш з кавалкам мяса ў зубах. Віляючы хвастом, сабака падбег да каляскі.

— Дзе ты ўзяў, гад? — дабрадушна запыталася Агапа.

Кіяш віляў хвастом і лез у каляску.

Радасць гарапашніцкая

Ачуняў Ігнась. Зноў пацягнуліся доўгаю чарадою дні нішчання. У пашы адмовіла сяло. Часіны перападалі, дык дзень пры дні хадзіў з маткаю ў заработкі. Дзе іх не ведалі: і суседзі, і засуседзі, і пан з-за ракі, і ў горадзе.

Зноў мінула лета. Штораніцы па слоце, пад восеньскай імгою хадзіў Ігнась у сады абіраць яблыкі. Праз цэлы дзень у заработках аб скібцы чарствога хлеба з кавалкам селядца. Дадому прыносіў саракоўкі ці пяцьдзесяткі і са здаволеным пачуццём кахання аддаваў да грошыка матцы. Агапа зарабляла тыя самыя саракоўкі на гарадскіх агародах. Дзе там было Ігнасю падавацца далей вучыцца, хто яго прыняў бы гэткага, хоць ён і скончыў першым народную школу.

Пажоўклым лісцем адсыпалася восень. А з восенню разам міналіся і заработкі, бо ўзімку хіба дзён колькі трапіцца пайсці, і то за шчасцем. Ігнась асеў дома.

Нудныя дні насталі для яго. Сумота. Люба вось ужо каторую зіму вучыцца ў гімназіі. З яе адсутнасцю нікога з блізкіх не засталося ў Ігнася. Не было ў яго ні хаўрусу, ці калегавання ні з кім больш са сваіх аднагодкаў ці малодшых; не хацеў падпадаць пад высмешкі, дый толку мала — хадзіць, скажам, на вячоркі. Праседжваў дні дома, раніцою пасабляючы матцы па гаспадарцы, а ўвечары забаўляючыся з Кіяшом.

Разумны сабака стаў Кіяш. Ігнась навучыў яго заносіць і прыносіць розныя рэчы. Кіяш паслухмяна рабіў, што загадваў

гаспадар, і быў відавочна здаволены, калі ўгадваў думку. Ігнась тады лашчыў сабаку, даваў яму розныя прыгожыя імёны і частаваў кавалкам хлеба ці бульбінаю. Бывала, што Кіяш памыляўся, — Ігнась весела рагатаў з сабачае незразумеласці. Сабака сарамяжа павільваў хвастом, быццам сказаць хацеў:

— Бывае ж такі выпадак, што як ні ўнікаеш, а ўсё ж спатыкнешся.

Ігнась дабрадушна гладзіў сабачую морду. Гэтак праходзілі першыя зімовыя дні і вечары. Кіяш з поспехам усвойваў Ігнасёву навуку, але гэта не магло задаволіць самога Ігнася.

І раз пад вечар, абуўшыся ў новыя лапці з белымі анучкамі, пайшоў ён да настаўніцы. Тая была дома. Адказаўшы на прывітанне, ласкава запыталася:

— Што скажаш, Ігнась?

— Я хацеў прасіць у вас кніжак пачытаць.

— Бяда з кніжкамі... З школьнай бібліятэкі не магу даць, бо на выпадак чаго — наедзе начальства... Ды ты ж, здаецца, і перачытаў яе ўсю.

Сцяўшы сэрца, слухаў Ігнась і раней, чымся настаўніца магла адмовіць у просьбе, загаманіў:

— Каб вы ведалі толькі, як кепска жыць... Такая нудота. Цэлыя вечары няма чаго рабіць, ні вылезці куды. Лепш бы зусім ужо непісьменным быць, каб не ведаць ні аб чым. Цяпер мяне цягне кніга, і з кніжкаю я не адзінокі. Ды вы ўсё гэта ведаеце, і дарма я вам кажу.

Спаважна выслухала настаўніца шчырыя словы. Прасачыўшы за яго думкаю, яна падумала, што хлопец стане чалавекам, не схіліцца перад жыццём, і ад шчырага добрага сэрца захацелася памагчы яму.

Ігнась любіў марыць аб будучым жыцці, асабліва пасля таго, як узяўся чытаць. Гадзінамі сядзіць, бывае, у куточку дзе і ўсё думае. Не па-хлапечаму і разважаць пачаў.

— Я дам табе, Ігнась, пару кніжак, толькі з умоваю, што, прачытаўшы, ты перакажаш мне змест. Праз дзесяць дзён прыходзь — яшчэ дам, у мяне ёсць цікавыя кніжкі — свае ўласныя.

Настаўніца падышла да шафы з шклянымі дзверцамі, выбрала дзве кніжкі і дала Ігнасю.

— «Юры Міласлаўскі» і «Капітанская дачка».

Адчуўшы ў руках жаданыя кнігі, Ігнась прамармытаў нейкую падзяку і выйшаў. Вясёлы з’явіўся дадому.

— Чаго ты рады такі, Ігнась? — запыталася маці.

— Хадзіў да настаўніцы... дала чытаць кніжак. Са школьных, казала, няможна, а са сваіх дала.

— Ты ж падзякаваў хаця, сынок? — боязна запыталася маці.

Здаецца... Ну, вядома, падзякаваў, хіба ж ён мог не падзякаваць за такую ласку?

— Увечары, калі ты будзеш прасці ці шыць, я чытацьму ўголас, каб і ты ведала, што напісана ў гэтых кніжках! А пасля, як прачытаю, раскажу настаўніцы і за цябе.

Пры агульнай радасці быў заўсёды і Кіяш; і тут сам ён круціўся пад нагамі, лез да рук.

Больш спакойныя дні пацяклі для маткі з сынам. Дзень праходзіў у рабоце — колькі таго дня, а наступаў вечар — і Ігнась разгортваў кніжку. Пад роўнае сынава чытанне бзыкала звонка ў руках у Агапы лёгкае верацяно. На гэты час сціхаў пад сталом і Кіяш.

Паступова абое ўцягваліся ў чытанне кніг: аднаму хацелася чытаць усё больш і больш, а другой — слухаць. І так ужо сталася, што і маці, і сын нецярпліва чакалі на вечар. Толькі і асвятляліся смутныя вочы радасцю, што кніжкаю: разам з героямі апавяданняў жылі яны іхнім жыццём, іхнімі радасцямі, іх горам у той момант.

Толькі як скончыў Ігнась чытаць абедзве кніжкі, Агапа сказала:

— Ты папытай, сынок, у настаўніцы, можа, у яе ёсць кніжкі пра наша мужыцкае жыццё.

— Добра, мама, я папытаю.

Яна жадала паслухаць пра жыццё такіх, як сама, і ў кніжках, можа, знайсці адказ на некаторыя цьмяныя пытанні. Да таго ж хацелася таксама — ці ведаюць тыя людзі, што пішуць кніжкі, пра такіх Агап ды Ігнасёў.

З чытаннем лягчэй жылося, здаецца, спакайней, бо на час чытання забывалася пра гора і бядоты. У Ігнася часам прачыналася ранейшая нуда, але гэта таму, што не было Любы. Але, нудзячыся, і супакойваў сам сябе:

— Чаго ж шкадаваць, што няма Любы. Яна ж не дзе-небудзь, не прападзе. Вывучыцца вось і стане чалавекам. Не шкадаваць трэба, а радавацца.

Але, не ўважаючы на самазапэўніванні, довады і доказы, нуднавата было без добрай Любы. Ігнась жадаў моўчкі, каб хутчэй гэта яна прыязджала. А потым думаў, што няможна кінуць вучэнне, і рашыў, што і лепш будзе, калі разлука сцягнецца абоім, бо ў сустрэчы затое радасней будзе. Вось толькі пераказаць бы свае думкі, сваю нуду без яе, каб ведала яна.

І Ігнась браў сшытак і запісваў у яго ўсё, што перажываў адзін тут без Любы.

Калі траплялася, дык Ігнась ішоў з цэпам у заработкі. Усё трохі пасабляў мацеры. Агапа радавалася, гледзячы на сына. Яна бачыла, што дажыве смерці пры сыне, што з голаду не давядзецца хадзіць прасіць у людзей на старасць.

Ігнась як бы сачыў за матчынымі думкамі і з кожным днём выказваў ёй больш спагады. Каб больш прыемна было ёй, турбаваўся з работаю, а толькі выстанецца вольная часінка — зараз жа за кніжку.

Ужо другі раз памяняў Ігнась у настаўніцы кніжкі і ўзяў тых, якіх хацела маці. Уважна слухала Агапа чытанне, і слёзы часта рабілі мокрым яе твар. І ў кніжках знаходзіла яна гаротных, і з кніжак чула пра несправядлівасць людскую. Толькі заціралася яно ў кніжках, казалася, што спрадвеку цягнецца гэтак, дык, значыць, і канца яму няма.

І нешта аднаго разу ў Агапы вынікла думка: трэба аддаць Ігнася ў горад вучыцца на якога слесара, бо без работы ўсё адно як без рук. А не маючы зямлі, з адной хаткаю, з голаду хіба памерці.

Тым часам Ігнась працаваў, рос, вучыўся, чытаючы кніжкі.

### У гімназіі

Люба ў гімназіі сярод незнаёмых і знаёмых таварышак па вучэнні таксама з нецярплівасцю чакала на святы. Часта думала яна, як пражывае Ігнась, як маецца добрая, гаротная Агапа, ці здаровы.

Раз на тыдні прыязджаў бацька, прывозіў харчы. Заўсёды, калі бачыла Люба яго, дык памыкалася запытацца пра Ігнася. І кожнага разу, не сказаўшы ні слова, адварочвалася — чырвоны сорам замыкаў вусны. А потым узнадзейвала сябе, што зробіць гэта другім разам.

У чаканні вельмі марудна цягнуўся тыдзень, а школьныя турботы праз цэлыя дні павялічвалі тэрмін. Бывала часамі, такімі прыкрымі рабіліся ёй розныя задачнікі ды граматыкі. І гатовая ўжо, здаецца, кінуць урокі, яна крута перадумвала і садзілася за кніжкі.

Адной нядзелькі зранку яшчэ ўвабралася па-святковаму, думаючы сустрэць бацьку. Гаспадыня кватэры — старая чыноўніца-п’яніца — заскаліла хітра вока і смяшком праказала:

— Гуляць — хі-хі-хі-хі. Ідзі пагуляй, Любка, — Юркевіч чакае ўжо на мосце. Алеська пабегла туды, быстрэйшая яна за цябе.

— А я вось не пайду на мост, а сустракацьму бацьку.

Не чакаючы далейшае размовы, яна хутка выйшла.

«Сцерва! — нечакана ў злосці падумала на гаспадыню. — Па сабе мяркуе... Калі сама штовечара прымае розных знаёмых, дык думае, што і я пабягу к Юркевічу».

Юркевіч быў павятовец (вучыўся ў павятовым гарадскім вучылішчы) і, паводле чутак, вучыўся вельмі дрэнна. Не ўважаючы на беднасць бацькоў — дробных шляхцічаў, — заўсёды меў на гулянне грошы, а гулянне ў яго было першым клопатам. Вось і на кватэру да Любы з таварышкаю ходзіць па два, па тры разы на тыдні.

На кватэры разам з Любаю жыла таварышка па класу Алеська, бойкая, вясёлая дзяўчынка. Адна бяда ў яе толькі: як і Юркевіч, гуляць любіць. І ўрокі быццам паспявае вучыць, і ўбірацца, а гуляць — дык конча. Можа, гэта і звяло іх з Юркевічам.

Любе цяжэй было з урокамі. Больш за Алеську і чытала, і пісала, і завучвала. Але затое і адказвала лепш на ўроках ды на экзаменах.

«Гэта ж цікава, як яны вучацца. Юркевіч, нічога не ведаючы, як баран, а пераходзіць з класа ў клас».

У глыбіні душы непрыемнае пачуццё варушылася ў яе да Юркевіча: «Чаму не вучыцца як след? Бацькі ж трацяцца, сабе ў лішнім адмаўляюць, а ён, глядзі... Пагулянкамі толькі і цікавіцца».

Доўга гуляла на вуліцы Люба. Шмат з сяла прыехала ў горад, а бацькі не відаць. Гуляць больш не хацелася, і яна павярнулася ісці да кватэры.

Абрыдла ўжо ў гэтым горадзе за колькі год, што яна вучыцца тут. Няхай бы хоць на святы хутчэй пушчалі. Не раней як праз паўтара тыдня яшчэ.

— Люба Дарошаўна, — аклікнуў знаёмы голас.

Цераз вуліцу перайшоў і прывітаўся Юркевіч.

— Гуляеце?

— Не, дадому іду! — варожа адрэзала яна.

— Паслухайце, Люба... Ды што гэта з вамі сёння такое? Алеська злосная — адна ўцякла на раку, а вы таксама — вунь якая.

Ён гаварыў у тоне старэйшага, старанна выпучваючы грудзі пад чорнымі гузікамі павятоўскай формы.

— Мне ўсё гэта зусім не цікава...

— Чаму?

— Таму, што не люблю я гэтага і, па-другое, зараз прыедзе

бацька і я іду на кватэру.

— Дык я правяду вас.

— Няма чаго. І сама патраплю, — і Люба шпарка пайшла ад Юркевіча.

Бацька не прыехаў таго дня, толькі пераслаў суседам паўтара рубля грошай.

— Перакажыце тату, каб у тую сераду прыехаў па мяне.

А больш нічога не запыталася — у суседа тым больш няёмка было б, бо ніхто не спагадаў Ігнасю. І, успамянуўшы пра канікулы, прыемна ўяўляць Любе, як захутаецца ў кажушок на санках і будзе слухаць у дарозе марозныя рыпы. І гэтак прыемна будзе на марозе падстаўляць твар халоднаму колкаму ветру перад сустрэчаю дома!

Юркевіч таго дня гуляць не прыйшоў. Алеська, загневаўшыся на яго, скрыва пазірала і на Любу, быццам тая вінавата была ў яе гневе.

Увесь тыдзень сядзела Люба за кніжкамі, нікуды не вылазячы. У суботу дырэктар нечакана паведаміў, што канікулы пачнуцца не з серады, а з гэтай нядзелі. Як узрадавалася Люба!

— Субота!.. Сёння канец заняткам!

Лёгка-лёгка забілася сэрца, і з радасці падхапіла Люба пад руку Алеську і бегма пацягла на вуліцу.

— Люба, ты звар’яцела?! Пусці!

Насупіліся бровы ў Любы — дагадалася, чаго Алеся злуе, — за Юркевіча. Вось дзівачка!

— Ты злосная на мяне, Алеся?

— Ды не, нашто ты валачэш мяне...

— Ну, дык бывай, Алеська, праз два тыдні ўбачымся. Я сёння дадому.

Алеська зірнула падазрона. Люба ўся палала з радасці. Растаў гнеў у Алеські — шчыра развіталася з таварышкаю.

Зімовыя краскі

Натомленая, але радасная ўвайшла ў хату Люба. Дома не чакалі. Першыя хвіліны — аглядванне родных куткоў — ці не змянілася што? а потым: усё — даўно знаёмае.

Папалуднаваўшы, Люба апранулася ў кажушок і сабралася ісці.

— Куды ты, Люба? — пытаецца маці.

— На вуліцу.

— Не ідзі нідзе далёка, вячэраць будзем.

На вуліцы весела перад нядзелькаю. Па ледзяных горках коўзаюцца дзеці. Бегаюць адна да адной дзяўчаты, умаўляюцца — куды збірацца гуляць. І адна адной уздагон гукаюць:

— Глядзі ж прыходзь! Музыкі будуць!

Бачыла агульную вясёласць Люба, і самой захацелася з ёю зліцца. Будуць музыкі, будуць хлопцы з дзяўчатамі скакаць. Не, усё гэта не тое, не яе.

Павольна пайшла яна вуліцаю. А куды ідзе — не думала.

«Ехаць цягло, а тут гэтак нудна».

З думак выйшла тады, калі разгледзелася, што звярнула ў школьны двор (па старой прывычцы). Чаго ж ёй ісці сюды? Але якраз ляпнулі дзверы, і Люба мусіла ўжо ісці да настаўніцы. Раптам — якое вялікае здзіўленне і разам радасць!

— Ігнась! Як ведала, што ты тут.

А Ігнась з неспадзеўку не мог і адказаць нічога. Толькі гэта і хвіліны мо не цяглося. Няёмкасць, як чужая тут паміж іх, зусім непатрэбная, адляцела і не звярнулася. Ігнась з Любаю выйшлі з двара і павольна пайшлі вуліцаю.

На іх дралі вочы бабы, злосненька ўсміхаліся суседзі і ўсе, каму не лянота, узіраліся і праводзілі вачыма, каб пагрэць пасля языкі, прыхлусіўшы ў сто разоў.

А яны, вінавайцы, мо, па сваёй маладосці, не чулі, не бачылі нічога. Ды хіба маглі бачыць! Столькі часу прайшло, як разлучылі іх розныя жыццёвыя сцежкі. Сустрэча ж пасля доўгіх тыдняў не павінна замыкацца ў назіранне таго, што дзеецца вакол.

Успаміналі сваё — цяпер ужо далёкае — мінулае: палетак, школу, сумесныя гульні. І такім блізкім з далёкага пахла, такім любым і светлым, што яны поўнасцю былі ў тым далёкім. Не было месца сучаснаму, а тым больш будучаму, невядомаму. Ігнась адчуваў, якім дарагім звязала яго Люба ў мінулым, а Люба бачыла пакрыўджанага ўсімі Ігнася, і кволае ды крохкае пачуццё ў ёй расло і мацнела, і хацелася быць доўга-доўга гэтак, як

цяпер.

Самі сабой выплывалі малюнкі вясны-маладзіцы, прыгожае свята палетка. Якое вясёлае жыццё вакол — журботна-вясёлае... Сягонняшні мароз схаваўся, знік, зіма прапала; а перад вачыма цвітуць у кветках паплавы, палеткі, зелянеюць радасна дрэвы, рунь, наліваецца жыццём усё, шырыцца, поўніцца, расце.

Заўсёды вось так перад вачыма дарослага ў гэткіх ружова-ясных, прыгожых малюнках-успамінах праходзіць яго мінулае, яго дзяцінныя часы. Колькі ружовых фарбаў, колькі светлых часін, колькі вясёласці, вытканай з дзіцячай бестурботнасці, з якім прыемным смуткам успамінаецца ўсё пасля... Зялёная з імху страха, разбураны, забруджаны свіннямі ганак, тут жа насупроць збуцвелы плот, а каля яго шумлівы ў вецер вяз, на вязе шпакоўня з шчабетнікамі-вераб'ямі; а над усім гэтым плоймы ластавак у сінім бяскраі вышыні, пад сонцам. З усім звязаны тыя ці іншыя выдатныя часіны жыцця, што клінам вечным увайшлі ў памяць і пакінулі ў ёй след кволасці, след хараства, які ніколі не згладзіцца.

Гутарылася весела абоім, быццам на пагулянцы, ды не ўзімку, а ў моры сонца, не на вуліцы паміж гор снегу, а на неабдымнай для вока прасторы зялянін. Проста выпала з галавы як непатрэбнае, што гэта ж ненадоўга, на два толькі тыдні, і потым зноў пойдуць дні работы, дробныя клопаты імгліваенькае, шэрае будзёншчыны.

Як прыйшлі ў хату, Агапы не было дома. З сабачай адданасцю Кіяш кінуўся к гаспадару і ветла абнюхаў і аблізаў Любіны рукі.

— Пазнаў? Пазнаў, Кіяш? — церабіў яго за вушы і гладзіў рады Ігнась.

А задаволены Кіяш стаў круціцца каля Любы, скакаць на грудзі.

— Люба! Глядзі, Люба, нават Кіяш не забыў цябе! А цяпер хадзі сюды, Люба, угадай, што я пакажу табе. Ну, угадай...

Люба ведала, што Ігнась не маленькі ўжо, не блазнюк, значыць, не мог паказаць цацкі якой, але ж ён не настолькі і багаты, каб прыдбаць рэч дарагую і цікавую.

— Можа, сіллё ці птушку?

— Ай, не, я гэтым не займаюся.

— Дык, можа, кніжку?

— Не.

— Дык ты маніш толькі, жартуеш.

— Ой, не, не. Ты толькі не ўгадала. І не ўгадаеш, мусіць.

Кніжкі я чытаю, дык яны відны, вунь ляжаць, і сёння вось хадзіў да настаўніцы, але яна сказала, што больш няма, а заўтра паедзе ў горад ды прывязе. А ты думала, чаго я быў там?

— Не ведаю, гуляць мо хадзіў.

— Я поўна, поўна чытаю цяпер кніг. Уголас чытаю, дык слухае і мама. Кніжкі пасталі маімі лепшымі прыяцелямі.

— Лепшымі за мяне! Ігнась?

— Не, Люба, не! За цябе не лепшыя...

— Добра, Ігнась, чытай.

— Але ж мы загаманіліся, і я зноў забыў паказаць табе, што хацеў. Угадай хутчэй, Люба.

— А ты сам вазьмі ды ўгадай, паказаўшы, — гэта лепей будзе.

Калі Ігнась дастаў з палічкі жоўценькі сшытак, Люба запыталася:

— Мабыць, малюнкі?

Яна вельмі любіла малюнкі.

— Ды не, я не ўмею маляваць, — сарамяжа азваўся Ігнась і падаў Любе сшытак. — Я гэтак нудзіўся. Гуляць нідзе не гуляў. А як часам не было ні работы, ні кніжак, думаў і ўсё гэта запісваў. Мне здавалася, што, перапісваючы на паперу, я перakазваю свае думкі таму, хто павінен іх ведаць. Папера і пяро сталі такімі ж сябрамі мне, як і кніжка.

Люба чытала сшытак, а Ігнась апраўдваўся.

— Я часта ўспамінаў цябе, даўнейшае, і як гулялі разам. Усё запісваў...

Сорам пафарбаваў у чырвонае Любіны шчокі, і ад таго яшчэ больш нязграбны зрабіўся Ігнась. Але Люба не пакідала ўзірацца ў роўныя няцвёрдыя літаркі, і Ігнась пачаў супакойвацца: «Ну нашто б ён пісаў, каб Люба цяпер не прачытала?»

Люба ўжо дачытвала апошнюю старонку, калі прыйшла Агапа.

— А-а-а, я і не ведала, што ў нас госця! Дзе ж ты цяпер, Любка?

Люба пакінула чытаць, але сшытка не пушчала з рук — перагортвала.

— Вучуся яшчэ, цётка.

— Добра, дзеткі, вось гэта добра. Я свайго Ігнася ўсё думала вывучыць, аж не давялося.

— Ігнась мне пахваліўся, што не пакідае кніжкі. З кніг і самому можна навучыцца.

— Дык жа ж, Любка... Як толькі вольная часінка, дык грэйма за кніжку, і ежа не ў галаве. Мо на святы пусцілі? — запыта-

лася яна, любоўна гледзячы на дзяўчыну.

— На два тыдні, цётухна.

Агапа выйшла ў сенцы нечага. А Люба перагортвала ўсё сшытак. Ігнась украдкі пазіраў на яе і маўчаў.

«Што яна думае?.. Што яна скажа?» — у віхары думак пралятала запытанні.

Любе хацелася нешта сказаць, усёй істотай імкнулася яна перарваць маўчанку, але быццам не ставала рашучасці. І маўчалі гэтак абое, адно аднаго саромеючыся. Адале яна сказала:

— Табе не патрэбен гэты сшытак, Ігнась?

Ён не знайшоў, што адказаць.

— Я вазьму сабе.

— Навошта ён табе? — запытаўся нарэшце Ігнась.

— Трэба.

— Нашто трэба?

Гінуў след нядаўняй няёмкасці. Кароценькія жарты хутка разагналі саромлівую напружанасць. Зноў пасталі яны Ігнасём і Любаю.

— Тут жа пра мяне шмат напісана.

— Але гэта я пісаў для сябе.

— Пісаў для сябе, а напісанае будзе мне.

Апошнія словы пачула Агапа, увайшоўшы знадворку.

— Не, не дам, — жартуючы, ухапіў Ігнась сшытак.

— Не, дасі! — вырвала Люба.

— Дай, Ігнаська, у цябе ж яшчэ ёсць? — як на дзяцей з цацкамі, азвалася Агапа.

— І яшчэ ёсць? — запыталася Люба.

— Няма. Гэта мама думае пра чыстыя, няспісаныя.

— А ты сабе напішаш, сынок, — падтрымала Любу і Агапа.

— Напраўду, Ігнась, ты сабе напішаш, а гэта я вазьму.

— Бяры, што ўжо з табою зробіш. Але як напішу, дык ты ўвесну зноў адбярэш у мяне, хітрая? Калі не напішу, дык забяру назад.

— Напішаш, сынок, напішаш... А што ж ты будзеш рабіць? — супакоіла Агапа.

— І вясною некалі зноў дасі пачытаць, — сказала Люба.

— Не, больш не дам.

Лёгка стала гутарыцца, без усякага сораму глядзелі яны адно аднаму ў вочы. Было хораша, лёгка.

Ігнась апавядаў — колькі і што прачытаў без Любы. З захапленнем пераказваў выдатныя з'явы з апавяданняў і раманаў.

Дзень змяніўся на вечар. Заіскрыўся на вокнах месяц, асвятліўшы рысачкі, лісцікі і цудоўныя малюнкі, што малады марозік за кароткі вечаровы час намаляваў на шыбах.

Люба ўспамянула, што ёй час дахаты, — казалі ж, каб не бавілася.

— І праўда, ідзі, каб не казалі нічога хаця, — згадзіўся Ігнась.

У яго голасе Люба пачула шкадаванне.

— Мы ж часта будзем бачыцца.

Да сябе яна не запрашала Ігнася. Ведала, як скрыва паглядзелі б бацькі і які гвалт узняўся б пасля ў хаце.

— Заўтра прыйдзі, Люба. Заўтра ж нядзеля.

— Але, прыйдзі, Любка, пагуляй, — папрасіла і Агапа.

Люба схавала сшытак, наставіла каўнер у кажушку і развіталася.

На дварэ пераміргваліся нерухомыя зоркі. Відната, хоць чытай. Мароз мацнеў. Пачалі патрэскваць гулка калы ў платах. Пераліўным звонам плыў па сяле сабачы брэх.

А сяло стаяла задуменнае, нібы белаю хлёркаю, палітае ўсё сонным ззяннем месяца.

### Пра вуліцу

Часта сустракаліся Ігнась з Любаю. Як вясновая думка-мара, прамігнуліся неўзаметку святы. Прайшло два тыдні. Заўсёды гэтак бывае, калі поўніцца радасцю сэрца, калі вясёласць буяніць цераз верх.

Ігнась сядзеў каля акна і пазіраў на вуліцу. Пад сонцам адталі вокны і пацёкі пацяклі на лаву.

Яшчэ ўчора бачыў Ігнась Любу, гаманіў з ёю, гуляў весела. Яшчэ толькі ўчора сказала яна, што сёння бацька завязе яе зноў у горад. І ён сеў за сталом, усадзіў у акно галаву і чакаў, калі будзе ехаць Люба.

Маці колькі разоў ужо казала, каб уцякаў ад акна — вокны растаюць і ідзе пара — учадзець можна. Ігнась не чуў і пазіраў у той канец, адкуль мелася ехаць Люба.

Сонца не па-зімоваму прыгрэла вуліцу. Перапырхваючы з месца на месца, спакойна атрэпваліся пакудлычаныя вераб’і. Яны шукалі ежы, грэбліся з піскам і шчэбетам у брудных камлыгах снегу. Ігнась бачыў, як яны рады сонцу і якая згода і прыяцельства пануе ў іхніх шэрых сямейках.

Але вось раптам спалохана ўспырхнулі яны і паселі на плот. Адале Ігнась убачыў канёву галаву, усяго яго. А ў санках, заху-

таўшыся ў свой кажушок, пазірае бокам на Ігнасёвы вокны Люба.

Ігнась схіліўся і махнуў рукою. Люба адказала. Мабыць, заўважыў бацька, бо, нешта буркнуўшы дачцы, сцебануў па хвасце каня, і санкі схаваліся за вялікай гарой снегу.

Ігнась правёў Любу. Зноў пацягнуліся дні будзёншчыны, шэрай, нуднай. Зноў узяўся за сваю ранейшую работу: за чытанне і пісанне. Паступова яго думкі набывалі разважлівасць, а разважанні гублялі рэштку сваёй дзіцячай афарбоўкі. Сур'ёзнасць, маладая сталасць голасна набывалі правы, патрабавалі сабе належнага месца.

Колькі дзён прайшло, як паехала Люба, і па сяле, а вельмі на тым канцы, дзе жылі Ігнась і Люба, бабы пайшлі малоць языкамі, што «Агапін байструк любошчы завёў з Аксютаваю Любай». А ўжо калі пачалі балбатаць, дык, вядома, каб увесці ў вушы каму след.

Хутка дачуўся пра гэта Любін бацька. Першай жа нядзелі, паехаўшы ў горад, ён буйна пагаварыў з дачкой. А на канцы размовы, прыцiскаючы на кожным слове, кінуў у твар дачцы:

— Калі толькі праўду мелюць, дык глядзі, каб я больш пра гэта не чуў і табе не казаў. Не на тое я цябе вучу, каб з якім галапупкам звязвалася.

— Тата!.. — перапыніла яго Люба, але больш не сказала ні слова.

— Ну, што тата? Чаго добрага яшчэ...

Ён не дагаварыў і строга паглядзеў на маўклівую Любу.

Ігнась таксама чуў пра ўсе плёткі. Што далей, дык тым больш мудравалі хто як мог.

Шпарчэйшыя і дасціпнейшыя на язык дык нават жанілі Ігнася з Любаю.

— Вось глядзі балазе... Байструкі ўсе, на іх страх, надта змысныя. А гэты і казаць няма чаго. Перацягне Аксютаву гаспадарку.

— Дзе гэта відана, каб вучаная па-гарадскому, праз колькі год, ды каб выйшла замуж за старца. Не будзе таго!

І прыемна, і непрыемна было чуць Ігнасю, бо гаварылі часткай і праўду — ён закахаўся ў Любу, а часткай — і большай — хлуснёю, што каму толькі на язык успадзе — не думаў перацягваць ён Аксютавай гаспадаркі. Мабыць, чула і Агапа пра плёткі, але сыну не казала. А ўсё сяло, як з прывязі спушчанае, гаркала, брахала на адзінокую гаротную кабеціну з сынам. Дарэмна брахала.

У маўклівай згодзе абое стараліся менш паказвацца ў людзі, хіба толькі па канечнай патрэбе. Па кніжкі да настаўніцы Ігнась хадзіў увечары, як толькі цямнела на дварэ, каб не бачыў ніхто. Зусім не давалі ніякіх прычын для размаітых зводаў, але што — людскіх языкоў на прывязь не пабярэш.

І мусіць, таму, што ўсё сяло асабліва варожа настроілася да Агапы з Ігнасём, ён пачаў часцей задумвацца пра сваё будучае. Аднаго разу, прыйшоўшы знадворку, Ігнась сказаў мацеры:

— Увесну, мама, пайду я вучыцца за слесара.

— Дзе ж ты грошай возьмеш, сынок, плаціць за вучэнне?

— Мне здаецца, што калі ўмовіцца добра з гаспадаром, дык можна і нічога не плаціць.

— Як ты ўмовішся, сынок?

Матка не была супроць намераў сына.

— А можна згадзіцца рабіць больш, і нават хатнюю работу.

Магчыма, што сын яе думаў і добра — каб толькі гэтая думка спраўдзілася, каб стаў ён чалавекам. Колькі начэй не спала, усё думала пра гэта, а ён і сам вось думае — загаманіў:

— А праз колькі месяцаў, мама, спадзяюся, што гаспадар пачне мне плаціць. Хоць на харчы, можа, заробіцца.

— Добра б, сынок, — проста сказала Агапа.

— Вось толькі табе пакуль што цяжка будзе харчаваць абоіх, — задуменна праказаў Ігнась.

Ён бачыў усю цяжкасць становішча і палохаўся — не за сябе, а за мацеру, але іначай нельга зрабіць: каб жыць, трэба рашыцца і пайсці ў гэта.

— Што ж парадзіць, Ігнаська, мой любы, дарагі сынок, калі больш няма ў якія дзверы стукнуцца. Падкармлю вось парсючкоў, мо сточым канцы з канцамі на год, а там — бог бацька.

— Некалі станем на ногі, няпраўда, лепш стане жыць, — паддаў сабе бадзёрасці Ігнась, і як быццам узнадзеіліся трохі абое.

Дый трэ было ўзнадзейвацца, бо больш нічога светлага не яснела ўперадзе. Вострымі калючкамі нялюдскага гора ўсланы іхні шлях да жыцця, усе сцежкі спавіты туманамі са слёз.

...Зіма падходзіла к свайму канцу.

# САЛАЎІ СВЯТОГА ПАЛІКАРА
*Урыўкі з рамана*

Голая лысіна зямлі, абкружаная з усіх бакоў цьмяна-сіваватай палосай лесу ды хмызнякоў, гэтак нагадвала танзуру каталіцкага манаха, а цьмяная палоса лесу з хмызнякамі, пасіваўленая ранішнім туманам, — сівую шчэць валасоў навакол танзуры.

Лысіна голая, як бубен.

Але вось туман радзее, і густыя пацёкі яго плывуць па схілах узгорка ў лясістыя, хмызняковыя лагчыны, у сасновы параснік, і здаецца, — дымам абкурыў хто яго, гэты ўзгоркаваты кавалак зямлі. І тады адкрываецца на ўзгорку: вялізная муха села ці раптоўна ўсхапіўся прышчанак або ў момант вырасла барадаўка на лысіне.

Вось бліснула раптам на самым вяршку нясмелым агеньчыкам, загарэлася і зайграла перламутравым бляскам. Цэлыя прыгаршчы першых праменняў сыпанула шчодра на ўзгорак барвянае сонца. Прамені сустрэліся з люстранай гладзінёй шыбы і загарэліся, як у фокусе. І тады зрабілася відавочным, што ніякая муха не сядзела на гэтай лысіне, не расла на ёй барадаўка і не ўскакваў прышчанак, — на прасторнай узгоркаватай лысіне зямлі ўсяго толькі стаяў хутарэц.

Астатнія пацёкі туману сплываюць у сасновы параснік. Косая сцежка вырываецца з парасніку і лена ўзбягае на ўзгорак пад самы хутарэц.

А шыба ў акне гарыць розных колераў агнямі.

Прыгрэты хутарэц ажывае.

Прачыняюцца ў сенцах дзверы, і на двор выходзіць у зрэбнай сарочцы і дзяружных штанах барадаты чалавек. Шырознаю далоняю закрываецца ён ад барвяных пырскаў сонца і ўзіраецца на сцежку.

З парасніку вытыркаецца фурманка і, нібы сонная, павольна карабкаецца на ўзгорак.

Хеўра птушак, спалоханая рыпам нямазаных калёс, уздымаецца з рэштак туману і з гоманам ляціць над хутарцом.

Гэта і ўсяго ажыўлення наўкола. Толькі ахрыплым голасам рыпаціць фурманка. Ды сонца іграе ўсімі колерамі агнёў у шыбах акон.

Барадаты, як з-пад казырка, пазірае з-пад далоні туды, дзе павінна паказацца фурманка, і на твары яго змагаецца цень звычайнае цікавасці з чаканнем.

Нарэшце над узгоркам, у тым баку, адкуль чутны рыпы, паказваюцца вушы, галава каня, і робіцца відна добра ўся фурманка. У перадку, падкурчыўшы ногі, пацмоквае на каня малады хлапчук, а ў задку дрэмлюць двое ў брудных брызентавых накідках.

— Ці далёка да Палікараўкі? — пытаецца ў барадатага, пад'ехаўшы пад хутарэц, хлапчук.

— Не з раёна часам? — таксама пытаецца той.

І калі хлопчык адмоўна ківае галавою, абыякавым голасам дадае:

— А за тым вунь лесам.

І валасатаю рукою невыразна махае ад сябе.

Мерныя рыпы праходзяць далей, і барадатаму чамусьці фурманка нагадвае сваімі рыпамі кульгавага чалавека, які чыкіляе павольна ў гэтай ціхай, спакойнай раніцы.

— Можа, і з раёна, ды не прызнаюцца, — у задуменні гаворыць ён сам сабе і кастраваю рукою скрабе пад сарочкаю.

Стрэлачкі хітраватых зморшчынак растаюць пад вачыма, і гарачыя іскрачкі надзеі тухнуць у журботным ценю густых веек.

Уздыхае барадаты, а потым ідзе назад, у сенцы, цяжка ступаючы бруднымі патрэсканымі нагамі па гладкай, як ток, зямлі.

Цішыня астаўбоўваецца наўкол зноў.

Голая ўзгоркаватая лысіна зямлі грэецца пад шчодрым праменнем сонца.

Рэшткі туману хаваюцца па ўтульных кутках хмызняковай лагчыны.

Не відаць спалоханае хеўры птушак.

У ранішняй далечыні расталі рыпы нямазаных калёс.

## Лясныя летуценні

З берага з разгону ўрэзваецца ў раку пескавая каса. Чвыр белы, сыпкі. Серабрыстым перламутрам паблісквають на сонцы ракавушкі, стыхійнаю воляю веснавой паводкі выкінутыя на бераг, каб там паламацца, пакрышыцца і змяшацца з бялюткім чвырам.

Вада ў рацэ чыстая, чыстая, відзён кожны каменьчык на дне, кожная рыбка. Дно з такога самага чвыру, як і каса, што ўрэзваецца з разгону ў раку, чыстага, з абточанымі вадою каменьчыкамі, з ракавушкамі.

З роўных, як панацягватыя струны, берагоў глядзяцца ў чыстае вадзяное люстэрка ракі рослыя стройныя алешыны. На сярэдзіне ракі яны сплятаюцца зялёным галлём, і пад імі над

вадою спакойны, ціхі халадок. Час ад часу ўпадзе на ваду пажоўклы лісцік з алешыны і плыве і плыве з вадою доўга, доўга. Далёка ўперадзе, дзе ўжо быццам прырода сахвоцілася тварыць, з замілаваннем скончыўшы прыгожы малюнак, з аднаго берага на другі лягла высокая алешына. Крохкі бераг, на якім расла яна, не сутрымаў цяжару, падаўся, і яна стройна лягла на сваё моцнае галлё верхавінаю, як галавою на падушку, прылёгшы на другі бераг.

Такая ціхая, спакойная прыгажосць.

А там, адкуль пачынаецца гэты прыгожы куток, на сярэдзіне ракі, рупліва абстаўленая з абодвух берагоў старымі спусцістымі вербамі ды высознымі алешынамі, выспачка. Невялічкая, не больш за тры метры на даўжыню і два метры ўшыркі, густа зарасла яна высокаю травою і праскамі. На адным канцы спускае сваё серабрыстае зялёнае голле да самай вады маладая крохкая вярба — камель выходзіць проста з вады, а на другім спіць маладая алешынка.

На выспачцы — крыху відзён з травы і красак — сядзіць чалавек. Побач яго ляжыць шапка і тоўсты кій. А пад берагам выспачкі прытуліўся невялічкі чоўнічак.

Вочы чалавека ўтароплены ў аднаму яму вядомую кропку, і ён не бачыць яе. Цудоўныя вобразы лунаюць перад ім. Спачатку яны ўяўляюць сабою нешта сонечнае, прыгожае, такое бліскучае, што аж слепіць вочы, але не акрэсленае, не відно формы, не адчуваюцца абрысы, а так мітусіцца перад вачыма нейкая прыгожая мрыя. Але вось патроху погляд яго ацерпваецца на сонечным рэзкім бляску і пачынае адрозніваць нейкую надзвычайна любую постаць. І паволі постаць тая набывае ўсе абрысы маладой прывабнай жанчыны.

За ўсё сваё жыццё ён ведаў толькі адну жанчыну, гэта тую, якую ён хацеў бы сустрэць на сваім шляху. Ах, колькі радасці яна прыносіла і колькі смутку! Радасці, бо яна была толькі ягонай, яна не магла быць нічыёю больш. І смутку, бо яна аставалася ля яго нядоўга і ўмомант раставала ў паветры, калі чуўся гук чыйго голасу. Яна любіла адзіноту і цішыню. Яе прывычкі добра ведаў чалавек і засцерагаўся парушаць іх. Калі яна з’яўлялася перад чакальным поглядам чалавека, ён забываў, што ён магутная істота, што ён чалавек, ён забываў, што ён здольны думаць і гаманіць, — больш не было думак, больш ён не бачыў нічога, яго сэрца адчынялася, як на сонцы ўвесну пупанак краскі, і яна пасялялася там. І ён сядзеў так доўга, доўга, калі заплюшніўшы вочы, а калі шырока гледзячы перад сабою.

Ён не бачыў больш нікога і нічога, акром яе. Яна была адзінаю ўладаркаю яго сэрца, і ён — яе жаданым нявольнікам. Яна з'яўлялася не заўсёды ў адным заўсёдышнім выглядзе, яна мяняла і свае ўборы, і ён быў толькі ўдзячны ёй за гэта, бо разумеў: яна глыбока ў сэрцы баялася, што аднойчы не ўпадобае яму і тады знікне каханне. Уборы яе часта нагадвалі яму да дробязі знаёмыя ўборы некаторых жанчын і дзяўчат, якія чамусьці ўразілі яго калі-небудзь. Але збольшага з'яўлялася яна ў сваім улюбёным найлепшым уборы, і тады сэрца востра шчымела ў чалавека ад салодкага болю — такая яна была прыгожая, такая цудоўная і нікому больш невядомая. У такім уборы прыйшла яна і сёння. Струменістая тонкая тканіна мяккай паліскаючай сукенкі збягала плынна долу, як ззяннем аблівала пруткія маладыя ногі і як птушка трапятала радасна цудоўнымі крыламі. Здавалася, што не ідзе яна, а як птушка, махаючы павольна трапяткімі крыламі, ляціць насустрач сонцу і ветру, насустрач сінюватай далечыні. Тугія грудзі яе з асалодай адчувалі парыўчаты вецер. Вецер прагна цалаваў адкрыты твар, сінія валошкі воч, забаўляўся густымі русымі валасамі. Густыя валасы купаліся ў моры іскрастага прамення, адблісквалі золатам сонца, дыхалі пахучай цеплынёй.

Ён ведаў нават, як яе клікаць, але праказаць імя яе не мог. Яно было такое жаданае, музычнае, у ім было гэтулькі густой сонечнай цеплыні. Яно выклікала да жыцця невядомыя чалавеку душныя паўдзённыя краіны, блакітнае мора і на ім цёмна-сінія выспы з пальмавымі і кіпарысавымі гаямі. Яму чутно было, як ціха лашчыцца блакітнае на ўзбярэжным чвыры мора, як лена шапацеў пад хваляю белы чвыр. Усё гэта было яе імя. Ён яго бачыў, ён яго адчуваў, сэрца не змяшчала больш яго ў сабе, але праказаць не мог, мова чалавека была вельмі шэрай, сухой і будзённай, каб стварыць такое слова, якое абазначала б яе імя.

Сёння ясна свяціла сонца, а лес стаяў ціхі, незварушны і маўклівы. Толькі дзе-нідзе азываліся ў спакойным шчэбету птушкі. Не шамацела лісце. Маўчала рэха. Ціха сядзеў і чалавек, гэтак ціха, што матыль з перламутравымі крыльцамі сеў яму на галаву і спакойна, як на вялізнай красцы, адпачываў на капе ільняных валасоў. Бліскучы жучок бзыкнуў, стукнуўшыся аб лоб чалавека, і, зачапіўшыся лапкамі, хуценька пабег з ілба на твар. Але чалавек сядзеў, і вочы ў яго былі расплюшчаны насустрач прыгожай мрыі. Не зварухне вярба, купаючы спусцістае галлё ў чыстай вадзе. Маўчыць яе маладая сястрычка — алешына. Стаяць, дорачы пах свой чалавеку, гордыя краскі.

Але чалавек не цураецца ляснога гоману і ветру. Любіў чалавек бясконца, як зашугае па лесе магутны вецер. Любіў ён лясную музыку. І вось, калі заходзіцца вецер, зашумяць тады на берагах вербы і алешнік, у густым галлі сваім шалпочучы дзівосную казку выспачцы на рацэ. Маладзенькая вярба з алешынай спакойна дрэмлюць тады пад ціхія шэпты дзівоснай казкі. І калі ўжо зусім заснуць, тады старыя вербы і алешыны на абодвух берагах сціхаюць, каб не прабудзіць, і рупліва вартуюць сон маладой вярбы і яе сястры — алешыны на невялічкай, зарослай высокаю густою травою і краскамі выспачцы.

Колькі гэтак сядзеў чалавек, ён не памятае, а можа, яго і зусім тут не было, можа, гэта толькі цень яго астаўся адзін, радуючыся адзіноце і спакою.

Але вось у птушыны шчэбет уварваўся не лясны гук, — падрабляючыся пад спевы птушак, гэта высвістваў чалавек, і вуха чалавека на выспачцы адразу адрозніла яго паміж лясных галасоў. Потым пачуўся звонкі дзявочы рогат, потым голас мужчыны, потым бестурботная гутарка, і прыгожая мрыя растала перад вачыма ў чалавека. Толькі ледзь прыкметная празрыстая аблачынка плавала яшчэ перад вачыма. Але зараз жа і яна знікла, і на фоне блакітнага чыстага неба, густа ўсцілаючы яго, ледзь прыкметна трапятала зялёнае лісце дрэў.

Адной рукою чалавек насунуў на галаве шапку. У поглядзе яго, як і ў паспешнай рухавасці, з’явілася насцярожанасць. Ён ухапіў кій і, узапёршыся абедзвюма рукамі, перакінуўся ў невялічкі чоўнічак, які стаяў схаваны пад берагам выспачкі. Ад сілы штуршка чоўнік шпарка перасек водную гладзіню ракі, і чалавек такім самым паспешным рухам, успіраючыся на кій, выскачыў на бераг і схаваў чоўнік у густой зараслі, што звісала з берага ў ваду.

Момант стаіць ён нерухома на адной назе на беразе, і востры бледны твар яго павернуты туды, адкуль чутны галасы і рогат. Адзін момант — і ў твары яго гэтулькі напружання, быццам гэта паляўнічы пачуў дзічыну і ўстыў на момант перад тым, як узняць да пляча стрэльбу. Потым увесь скалануўся, як ад восеньскага холаду, сагнуўся і, успіраючыся на свой тоўсты кій, шпарка кінуўся на галасы. Яго гнуткае цела згіналася і разгіналася, як сталёвая спружына, і за кожным разам тоўсты кій адмерваў свой шырозны крок.<...>

## На зажынкі

<...> Над захадам сонца Гарбач вяртаўся з Дубнякоў, дзе пакінуў Зою Харошку. Там жылі дзве дзяўчыны — студэнткі. Адна з іх — камсамолка — тыдзень таму прыехала з Віцебска, дзе вучылася ў ветэрынарным інстытуце. Сёння раніцою Гарбач з Харошкай меркавалі пра камсамольскія справы. Вырашылі, што Харошка сама пазнаёміцца з жыццём камсамольцаў і гэта дапаможа ім разгарнуць работу ячэйкі. Харошка добра бачыла, як фізічна цяжка Гарбачу працаваць у тых умовах абыякавасці і халоднасці, што ўвайшлі ў жыццё людзей і кіраўніцтва ў сельсавеце. Яна бачыла, што Гарбач намагае з усяе сілы не паказваць людзям гэтага. Відаць, ён хацеў стварыць у людзей уражанне, што ён нічым ад іх не адрозніваецца, хоць сабе ён і калека. Можа, таму ён і не любіў спачувальнасці і быў такім крыху грубаватым у абыходжанні з людзьмі. Харошка была ўпэўнена, што не грубаватасць з'яўляецца характэрнай рысай Гарбача, што душа ў яго чыстая, як вада ў крыніцы, і што палкае сэрца яго хавае вялікае і глыбокае пачуццё. А можа, ён саромеўся свайго кволага пачуцця, і гэта з'явілася прычынаю для яго грубаватасці. Дый сама грубаватасць яго была дабрадушная, бяскрыўдная. Харошка намагала астацца Гарбачу дома, толькі прасіла расказаць ёй дарогу. Але той упарта і грубавата заявіў, што гэта не яе справа — ісці яму ці не. Зоі прыемна было з ім, і яна больш не намагалася адгаварваць. Гарбач завёў яе ў Дубнякі — самы глухі лесавы куток у сельсавеце — і пакінуў, наказаўшы строга і грубавата дзяўчыне-студэнтцы глядзець Харошкі, як роднае сястры. Ён нават прапанаваў заплаціць за яе гасцяванне, але камсамолка з Дубнякоў вельмі абурылася на яго за тое і прыгразіла, што не захоча з ім нават бачыцца, калі ён такі. Тады ён пайшоў назад, пакінуўшы Зою ў Дубняках.

Доўга ішоў ён тыя кіламетраў пяць ці шэсць ад Дубнякоў да Манькоўкі. Колькі разоў садзіўся пасядзець, сышоўшы з дарогі ў лясны халадок. І доўга не хацелася ўставаць тады. Ныла і балела ўсё цела, ныла і балела нага.

«Мабыць, дождж будзе», — думаў ён, ідучы зноў.

Доўгія цені слаліся ад дрэваў, ад хмызнякоў, як угледзеў ён Манькоўку. Сонца было цьмянае, невясёлае, і неба імкнулася схавацца за малачавы далёкі туман. Наўкол было ціха, ці так здавалася яму, і рэдкія галасы птушак ішлі гэтак здалёк. Аставалася з паўкіламетра да Манькоўкі.

Гарбач хацеў зноў сесці пасядзець, калі пачуў, што нехта даганяе яго, і азірнуўся.

Ішла Яніна, прутка ставячы нагу і падстаўляючы свае чарнюткія бліскучыя валасы пад халаднеючыя пацалункі заходняга сонца. Белая хустачка ляжала на плячах.

— Добры вечар, настаўнік! — гаворыць Яніна цёплым грудным голасам.

— Добры, ды не зусім... Замарыўся, Яніна, — скідае Гарбач шапку і выцірае ўпацелы лоб.

— Адкуль жа вы ідзяце?

— Гуляць хадзіў.

— Ого! Далёка ж вы некуды гуляць ходзіце.

— Адсюль не відно.

— Я ведаю, што не. А то я глянула б на тую галубку, што буркавала з вамі.

— Яна не буркуе... Ты мыляешся, Яніна, я хадзіў па справе да сваіх камсамольцаў.

— Не, мабыць, да камсамолак. У Дубнякох былі?

— Адкуль ты ведаеш?

— Я ж ведаю, што ў Дубнякі прыехала нядаўна камсамолка, што вучыцца ў Віцебску.

— Ты ўгадала, толькі не зусім.

— А, мабыць, з гэтаю, што прыехала пазаўчора... З беленькаю... Як я зайздрошчу ім! — вырвалася ў яе.

— Чаму ты зайздрасціш, Яніна? — добра так пытаецца ў яе Гарбач.

Яніна падабаецца яму за сваё здароўе, за дужасць, за ўсё. І ён шкадуе яе: нярадаснае жыццё яе з Антосем Салаўём. Якая гэта пара, калі ў яе жылах кроў гарыць, як агонь, а ў яго лёд на душы і на сэрцы. Якое гэта жыццё? Шкада яму Яніны, хоць і дачка яна кулака Мысліцкага. Такой бы жанчыне жыць ды красавацца. А яна звяне ў халоднай адзіноце ў Салаўіным гэтым Казіным Бродзе, можа, і не пазнаўшы радасці жыцця. І Гарбач ускідае на яе вокам.

— Так, — ухіляецца ад простага адказу, ціхім голасам кажа Яніна і апускае долу погляд.

Гарбач адчувае яе хваляванне. Яму хочацца разважыць яе чым. Чым яе разважыш?

Яніна ўздымае галаву і глядзіць перад сабою. Гарбач бачыць яе вочы: яны мокрыя ад слёз.

— Як я замарыўся, — стогне раптам Гарбач.

— Пасядзіце трохі, — проста гэтак адказвае Яніна.

— І ты пасядзі са мною.

— Добра.

І яны сядаюць на зялёную густую траву на ўзбочыне дарогі.

— Хацела б ты бачыць мора? — пытаецца нечакана Гарбач.

— Мора? — Яніна глядзіць на яго: чаму ён пытаецца.

— Ага, мора... Зялёнае такое, сіняе, фіялетавае, блакітнае або белае, аж срабрыстае. І куды ні зірні, як вокам сцяць, усюды мора, мора і мора... А над галавамі неба, такое глыбокае, глыбокае, сіняе. А?

— Ці мала што чалавек хацеў бы...

— А ось ты бачыла мора, толькі не прызнаешся.

Яніна глядзіць на Гарбача. Чаго ён смяецца з яе?

Але Гарбач сур'ёзны.

— Што я бачыла?

— Я табе кажу, бачыла.

Гарбачу прыемна гаварыць так, забаўляючыся з недаўмення гэтае жанчыны-дзіцяці.

— Бачыла. Даўно-даўно, што нават і памятаць не можаш, ты была вось тачкою во пылінкаю і лётала па волі ветру пад блакітным небам. Вецер прынёс цябе на шырозны ліст самай высокай стройнай пальмы. Гэтак прыемна табе там здалося, гэтак добра і спакойна, што ты нічога не мела супроць таго, каб астацца там надоўга, а мо і назаўсёды. Але ось ты бачыш, як удалечыні блакітнае неба падае на зямлю і як шпарка імчыць яно па зямлі. Сонца высока над галавамі, і яно слепіць табе вочы, як узіраешся ты перад сабою. Што гэта такое магло быць? І ось бачыш ты, як густы ўперадзе лес павольна знікае. Знікае ён і з бакоў і пазаду. Адна твая пальма яшчэ толькі гордым вяршком відна над сіняй паверхняй. То было грознае мора, грознае, але і прыгожае. Праз нізкія лагчыны паміж высокіх гор уварвалася яно здалёк і пахавала пад сабою прыгожыя мірты і лаўры, дубы і пальмы. А ты сузірала гэтае хараство і не ведала — радавацца табе ці баяцца. Бо мора хоць і прыгожае было, але страшнае: грозныя хвалі яго раўлі і бушавалі. Яны ўздымаліся вышэй вунь за тыя дрэвы, і неўзабаве твая пальма знікла ў грозных хвалях, а з ёю знікла і ты. Але гэта было даўно-даўно, так даўно, што ты нават і памятаць не можаш калі, мясціны тае не можаш успамянуць, дзе стаяла тая пальма, хаця гэта было ось тут, дзе седзімо цяпер мы з табою.

— Якая страшная казка, — гаворыць Яніна, апінаючыся хустачкаю, быццам ёй холадна раптам зрабілася.

— Гэта не казка, Яніна, гэта праўда. Дзе мы седзімо, тут было некалі вялізнае мора. І калі пракапаць трохі зямлі, дык сляды яго можна знайсці, асабліва на балотах.

— Як дзіўна вы кажаце!

— Усё гэта праўда, Яніна. Свет такі вялікі і прыгожы, Яніна, а мы пра яго гэтак мала ведаем. А колькі і якія людзі жылі на зямлі, а якія і як жывуць і якія будуць пасля нас яшчэ жыць...

Яніна ўздыхае.

— Чаго ты ўздыхаеш? — пытае Гарбач.

— Каб гэта ўсё паглядзець.

— Што ўсё паглядзець?

— Ну ўсё... Што было і ёсць, і будзе, і пагутарыць з усімі тымі людзьмі, дакрануцца да іх рукою.

— Што было і што ёсць — усё гэта можна ўгледзець.

— Дзе?

— У музеях. Ёсць такія вялікія дамы, дзе сабрана ўсё, што маглі сабраць людзі пра мінулае зямлі, вось усё тое можна ўбачыць, пагутарыць з ім. Яно поўна чаго раскажа.

— Я нічога таго не ўбачу, — журботна гаворыць яна. — Лепш памерці вось тут на гэтым месцы, як жыць так.

— Ну-у-у, — гаворыць Гарбач. — Ну-у-у, не трэба. Убачыш нават і ўсё тое, што будзе. Некалі далёка, далёка ад цяперашняга часу... Мо сотні тысяч год пройдзе, ты зноў зробішся пылінкаю...

— Пылінкаю другі раз? — жахліва праказвае яна.

— Не хочаш пылінкаю? Не, ты не будзеш пылінкаю... Хвоі і асіны, бярозы і алешыны некалі знікнуць, і на іх месцы пад гарачым сонцам вырастуць зноў пальмы, лаўры і новыя невядомыя цяперашнім людзям дрэвы. У гэтых раскошных пахучых гаях, дзе спяваць будуць дзень і ноч галасныя птушкі, людзі пабудуюць сабе палацы з золата і каштоўных розных каменняў. Адзін з такіх палацаў будзе недалёка тут. Вакол яго нарасце пахучых красак гэтулькі, што ступіць нельга будзе. Але сярод усіх будзе вылучацца адна, Яніна, краска. Яна будзе вышэйшая за ўсе, стройнейшая і прыгажэйшая.

— Якая ж гэта будзе краска?

— Гэтаю краскаю будзеш ты, Яніна, паглядзіш ты. І расці ты будзеш на тым самым месцы, дзе сядзіш вось цяпер.

— А кім вы будзеце?

— Я?.. Я зраблюся птушкаю і буду перапырхваць з кветкі на кветку і радавацца жыццю.

— Прыляціце тады да мяне?

— Прылячу! А цяпер ось так я табе скажу: як хочаш, так і жыві. Воля чалавеку дадзена такая: куды хоч, туды і ідзі, і ўсюды

ўсё табе, і ўсяму ты гаспадар. Рабі карысць людзям і цешся з тае работы.

Вочы ў Яніны загараюцца вільготным бляскам.

У гэты момант з жыта, якое шырокім залатым морам разлілося перад імі, успырхвае песня.

— Зажынкі! Сёння ж зажынкі! — ускаквае Яніна, дапамагаючы ўстаць Гарбачу. — Чуеце? Спяваюць як! Бывайце, настаўнік! — крычыць яна і бяжыць у той бок, адкуль чутна песня.

Падабаецца яна Гарбачу за сваю нязломную гордасць, за тое, што не паддаецца гэтаму цвілому жыццю ў Салаўя, за тое, што магла паставіць сябе як чалавек, за свой характар, за дапытлівае сэрца, за пачуццё, за сваё цяжкае жыццё.

Але спяваюць жанкі жніўную песню. Любіць Гарбач песні, як і казкі і апавяданні народа. У іх ён бачыць душу народа. Ён не адчувае ўжо зморанасці, яго сэрца адчынена шырока гукам песні. Ён не кранаецца з месца, а стаіць і не дышучы слухае, баючыся прапусціць хоць адно слова з тае песні.

Павень, ветру, да павень,
Да задай халадосці
Да маёй маладосці,
Каб я ў полі не пацела,
Да дадому не хацела,
Ў мяне дома не свой бацька,
Ў мяне дома люты свёкар.
Стрэне мяне ў вароцейках
З цясовенькім вядзёрачкам,
З шаўковымі восілкамі...

«Усё адно, як тую песню спявалі Яніне, — думаў Гарбач, — гэтак падобным было жыццё яе да жыцця невядомае нявехны». Ён стаяў, не саступіўшы з месца, пакуль не даспявалі да канца. А песня спявалася доўга, журботна-цягутка, і нават Яніна прыбегла да паловы спявання і памагла сваім мяккім грудным галасам. Кожны радок спявалі па два разы, і далёка-далёка ішлі галасныя спевы вечаровым лесам, звінючы ў высокіх, роўных, як струны, хвоях. Потым спевы пачалі набліжацца. Гарбач ішоў у Манькоўку, і галасы ішлі туды. І ў канцы яны сышліся. Сцежкаю з жыта выйшла куча баб. Адна з іх несла невялікі снапок новага жыта. Ад боку ўсіх ішлі тры таварышкі: Яніна, Анэлька, Алімпа. Яны прычапіліся да Гарбача, каб той пайшоў з імі на лаўку. Ад іх несла гарэлкаю, і Гарбач не захацеў.

— Я ведаю, вы толькі Яніну любіце, а нас не! — крычала дуракаватая Анэлька. — І казкі ёй за гэта ўсякія кажаце!

— Я б і табе сказаў... Але ты сёння п'яная, — сказаў няветла Гарбач, — і не будзеш слухаць.

— Ха-ха-ха-ха! — рагатала п'яная Алімпа.

Яніна штырхала Анэльку і загадвала ёй маўчаць. Тая не сунімалася:

— А як я буду не п'яная, раскажаце?

— Тады раскажу, — згадзіўся Гарбач, абы адчапіцца, і пайшоў.

Пазаду галасы прыціхлі. Гаманілі пра яго, Гарбача, і яму чутно было што:

— Гэтая прыезджая дзеўка сёння начавала ў яго.

«Дурная, ды яшчэ й п'яная, — думаў ён. — Чэрці яго ўзнеслі на іх якраз».

Насупраць хаты Мысліцкага яго гукнуў сам Мысліцкі. Ішоў ён нечага да прыгрэбіцы і ўбачыў Гарбача.

— Пачакайце, калі ласка, настаўнік... Чаго я папрашу вас...

Гарбач прыпыніўся.

У хаце Мысліцкага была вялікая гамана, усё адно як поўна народу сабралася ў кучу і ўсе разам гамоняць, не слухаючы адзін аднаго.

— Што гэта ў вас? Сход? — пытае Гарбач.

— Сход, пане-таварышу... Сход... — падыходзіць і бярэ яго пад руку Мысліцкі. — Прашу зайсці на наш сход.

Ад Мысліцкага моцна несла гарэлкаю, і Гарбач дагадаўся.

— Не, не хачу, — адказвае ён і дадае: — Няма часу.

— Дарэмна... Дарэмна, пане-таварышу... У мяне і настаўнік Верасневіч... і фельчар... і старшыня калгаса... і Пунктовіч... і зяць мой Антось... А вы не хочаце. Пра вас і ўспаміналі, пане-таварышу...

— Няхай сабе, — перапыняе яго груба Гарбач. — А я не хачу.

— Грэбуеце калгаснымі зажынкамі, пане-таварышу, — гаворыць з націскам Мысліцкі.

Гарбач больш не слухае яго і не адказвае, ён ідзе далей.

Цямнеецца.

У Палікараўцы Гарбач заскаквае да Позняка і просіць яго, калі можна, купіць яму чаго ядобнага ў Манькоўцы.

— У Палікараўцы я нават за грошы не магу купіць хлеба.

— Вазьмі, настаўнік, — падае яму Позняк са стала акраец хлеба. — Бяры, ну чаго стаіш.

Гарбач бярэ. Раніцаю ён паснедаў з Харошкаю яе гарадскім пайком. Цяпер яшчэ пражыла смага ад тарана. Ён з радасцю выпіў бы малака і кінуўся б на ложак.

— Дзякуй, — гаворыць ён.

— Няма за што... Не дагадаўся ты, настаўнік... Каб зайшоў да Мысліцкага, ён бы напэўна прадаў табе свежае парасяціны.

— Якое парасяціны?

— А што сёння ўпаляваў сваім кіёчкам. Калгаснае парася дакалоў. Кажуць, акт складалі, нібыта захварэла ды вымушаны былі дакалоць.

— Ага... — раздумна кажа Гарбач. — Нават акт.

— Але. А можа, ім сёння мала аднаго. Шкада, што ты не зайшоў, настаўнік. Можа, акт падпісаў бы.

— Запрашалі...

— Запрашалі?! І не пайшоў?! Што ты нарабіў... З’ядуць яны цябе, настаўнік, з усімі тваімі вантробамі. Пайшоў бы выпіў чарку, закусіў калгаснаю парасяцінаю, пахваліў бы, падзякаваў, дый на седала.

— Ось дзякуй табе за хлеб, Позняк.

— Ты ўжо падзякаваў раз.

— Ну яшчэ раз.

— Гэты акрайчык не варт гэтулькі дзякуяў.

— Варты. Спакойнае табе ночы, Позняк! Ды не забудзься распытаць заўтра чаго ў баб купіць. Прашу цябе вельмі.

### Горкая рэдзька — ды ядуць,<br>блага замужам — ды ідуць

Эх, і наскакалася ж Яніна ў нядзелю ў Манькоўцы! Ну, і дала дыхту нагам, што дала дык дала. А кавалеры доўга памятаць будуць яе гарачыя грудзі, яе бліскучыя вочы і кучаравыя валасы. Не было маладзіцы, не было дзеўкі над Яніну той вечар у Манькоўцы. Нямала крыві перагарэла дарэмна ў хлапцоў. А яна, палымнеючы ўся, знарок выхваляючыся сваёю прынаднасцю, толькі мудрэй яшчэ выкручвалася, толькі больш дражніла іх сваёю блізкасцю. Нават стары Позняк, і той гатоў быў ускочыць з лаўкі і закруціцца ў шалёным скоку з Янінаю, моцна абхапіўшы падатны стан яе. Ну і весялуха ж! Але ў тэрмін успамянуў, што гады не тыя, што ў грудзях выбухнуў не агонь, як бывала гледзячы на такую маладзіцу, а толькі іскра на момант сагрэла сэрца. Ды варта было таму моманту спазніцца крыху, і не вытрываў бы стары Позняк, эх, не вытрываў бы. А тады што было б, дык было

б, а паказаў бы ён яшчэ гэтым дзецюкам, як скачуць мужчыны. І ледзь сутрываў. Нямала хлопцаў і жанатых мужчын скрыгала зубы на Яніну таго вечара. Нават не адзін намеркаваў сабе план, як лепш падысці да яе, як правесці і дзе астацца ўдваіх. Ды нікога не захацела Яніна. Жартамі, рогатам і насмешкамі паадганяла яна кавалераў і пайшла адна ў свой Казіны Брод, папрасіўшы толькі сваіх таварышак Алімпу з Анэлькаю правесці яе за вёску. І толькі рогат яе чулі хлопцы, адзін перад адным стараючыся ўхапіць тады лепшую з дзяўчат і зусім не адчуваючы таго, што адчувалі яны пры Яніне. Эх, і дала яна дыхту! І сахвоцілася ж.

Яніна і яшчэ асталася б падурыць галаву хлопцам ды павадзіць іх за нос. Яна ўсю ноч прагуляла б без сну, ды заўтра выходзілі жаць у Казіным Бродзе, а ёй не хацелася аставацца ад усіх. І любіла ж працу Яніна, любіла ўлетку на полі, а ўвесну на сенажаці да ап'янення напівацца пахаў травы і красак. Не, яна не толькі не хацела аставацца, яна хацела быць наперадзе ўсіх, хай глядзяць і зайздросцяць людзі яе дужасці, яе зграбнасці.

«Эх, Яніна, — думалі хлопцы, — згарэла б ты нечага з сваімі прынадамі. Навыскалялася ўсім, а сама хвастом вільнула, ды як і не было яе».

«Як і бура, баба», — думалі, ды ніводнаму сёння не давялося пачуць на сваім твары гарачага дыхання гэтае буры. Запаліла ўзяла агонь у крыві ў людзей, а сама ўзяла дый пайшла адна. Гэтаму чорту касавокаму панесла шчасце.

Яніна развіталася з таварышкамі і ішла ўжо далей адна. Ішла, а ў грудзях трапяталася радасная птушка, трапяталася, спявала. І бачыць яна не ноч вакол сябе, а ясную раніцу. Чаму ёй было не гуляць усю ноч? І як толькі разлілося б на ўсходзе белае малако світання і закаташыліся і зашчабяталі б раннія птушкі, тады б яна з грудзьмі, поўнымі пругкасці, па роснай траве ідучы, асвяжала б босыя ногі, як лепшае пітво піла б крыху сіняваты лёгкі туман раніцы і бегла навыперадкі з першымі праменнямі сонца. Ніколі яшчэ, здаецца ёй, не адчувала яна такога нечага новага, не адчуванага ні разу. У яе вачах не ноч, а сонца. Яна раптам бяжыць, як маладая жаробка, радуючыся сваёй сіле, сваёй зграбнасці, сонцу і ветру, траве і небу. Начныя птушкі ўспырхваюць паабапал дарогі. Чутна з Манькоўкі песня. Недзе далёка брэша галасны сабака, і звон брэху доўга гучыць у лесе.

Моўчкі ляжыць шырокая доўгая вуліца ў Казіным Бродзе, як прыходзіць Яніна. Усе спяць і ўсё спіць. Мыркне толькі дзе праз сон сабака з-пад сцяны, ды зноў цішыня. Павольна ідзе па зямлі,

распусціўшы чорныя косы, ноч, і іскрачкі-зоры зіхацяць у густых яе валасах. Доўгаю сукняю сваёю замятае яна малюпасенькія напамінкі святла. Нямеюць усе галасы. І пазаду астаюцца толькі цемрадзь і сціш. І нават Яніна, здаецца, ступае цішэй, каб не парушыць гэтага спакою. Няма нікога, толькі на лаўцы ля калгаснае канцылярыі сядзіць нерухома чалавек. У руцэ ён трымае браскотку. Гэты чалавек — вартаўнік. І калі прыслухацца добра, дык пачуеш, як ціхенька грае ён сабе ў нос, як у дудку. Абмінула б яго Яніна, — такі лагодны начны спакой, — ды чаго бо прынесла гэтага гультая спаць сюды? Яна павольна вымае з рукі ў яго браскотку, каб не пачуў, і як забраскаціць пад вуха соннаму. Той устае, праводзячы рукою па твары.

— А-а-ах! — мармыча ён.

— А-а-ах... Не выспаўся. Пшаніцу прадаў, ці што? Вартаваць трэба, калі паставілі!

Яніна браскаціць моцна браскоткаю.

— Ай, навошта? — млява працягвае той руку.

Яніна аддае браскотку.

— Я ж не спаў.

— Н’але не, толькі сніў, што пры бабе на пасцелі ляжаў, — рагоча Яніна і ідзе дадому.

Доўга стукае яна ў дзверы, пакуль не выходзіць свякроў ды, прыказваючы ўсяк, не здымае завалы. Свякроў бурчыць нудна, што вось цягаецца недзе поначы, будучы замужам, маладзіца, маючы чалавека і дом. Ды ўсе людзі ўпікаюць ёю... Ды ўсе мнуць ды камечаць, як анучу, добрае імя яе сына... Іншая за гонар мела б быць жонкаю такому чалавеку.

Дзеля спакою свае душы не хацела б аскірзацца Яніна, але не можа вытрываць. Нарадзіла нейкага чорта касавокага, чарапаха старая, ды яшчэ выгаварвае.

— Каму гонар, а каму цьфу! — плюе яна.

Зноў бурчыць свякроў, што нявестку яе ніхто іначай не заве, як усіхняю жонкаю, што не думала прычакаць яна такое няславы перад смерцю. Іншая мо сорам мела б, калі не перад свёкрам з свякроўю, дык хоць перад родным бацькам пачырванела б за сваё распуснае круцельства.

— А не трэба мне вашае славы!.. От лепш з няславаю хачу жыць!

Аднастайнае старэчае бурчанне не перасціхае і ў хаце. Старая тупае цёмначы па хаце і нудна скуголіць, мудрэй свайго сына нічога не бачачы на ўсім свеце. Ды хто ж бы ведаў Яніну, каб не яе сын, от так бы век гніла б дзе ў цёмным кутку. Якое адкуль начальства едзе, дык усе да яе сына, і жонцы ўвага за яго ды

пашана.

— Нашто мне гэтая чарната!.. Гэтая калатня штоpазу!

Нявестку яна лічыла за сваю ўласнасць і трываць не магла, калі тая хадзіла без яе ведама, без папытання.

У цемры варушыцца і крэкча стары.

Яніна ідзе ў другі пакой, дзе стаіць ложак, на якім яна спіць з Антосем. Яе сцепае ад агіды. А мо яго і няма, ён часта не начуе дома, раз'язджаючы па сельсавеце. От добра было б, каб яго не было. З надзеяй праводзіць яна рукою па пасцелі і натыкаецца на худое кастлявае цела. Як ад агню, прымае яна шпарка руку. От ён ляжаў тут і ўсё чуў, як яна казала на кухні. А мо спаў? Але цела варушыцца, і Яніна чуе адно слова:

— З'явілася...

Гэта не запытванне і не здзіўленне. У голасе няма ні радасці, ні суму, ні крыўды. Адзінае слова, праказанае ім, гаворыць толькі пра факт, што яна прыйшла.

— Прыйшла, — у тон яму кажа і Яніна і думае: «Ён не спаў і чуў усё». Але хай сабе, хай чуе, яна і хацела, каб чуў. Як ён збрыдзеў ёй, як згадзеў! Няхай чуе, што яна думае, што носіць у сваім сэрцы.

Яніна раздзяецца марудна. Як нежывыя, варушацца пальцы, расшпільваючы блузку, спадніцу. І, скінуўшы, стаіць яна ў адной сарочцы пры ложку і не можа разважыць сябе.

«Божа, якая чарната!»

Доўгія гладкія змеі раскручаных кос падаюць на плечы.

«Каму яна сваю маладосць аддала... Сваю сілу і хараство?»

У той хаце бубніць свякроў. Чутно, як крэкча стары.

На вуліцы браскае ў браскотку вартаўнік.

А кастлявае цела ляжыць моўчкі і нерухома.

Яніна апускае млява рукі. Бурлівымі патокамі збягаюць па голых плячах косы і рассыпаюцца на безліч струменяў. Плячам добра ад іх пяшчоты. Яны гладзяць і казычуць пругкае падатнае цела.

Трымціць начная цемрадзь. Шуміць і звоніць на тонкіх струнах ноч. Нябачныя постаці-здані нячутна ступаюць па хаце.

Яніна кладзецца з самага краёчка ложка, пры біле, каб не зачапіць бокам худога, кастлявага цела Антося. І ляжыць голая, не зварухнуўшы, быццам украдкі прытулілася, каб ніхто не бачыў і не чуў, сцішылася і слухае моўчкі, як калоціцца ў грудзях сэрца. Яно так выразна чутно, што Яніна можа палічыць нават гукі. Антось, напэўна, ляжыць і твар яго павернуты да яе. І вочы глядзяць — адно сюды, другое туды. Хочацца ёй сагнуць у калені

ногі, павярнуцца на бок і ціха заснуць. Заўтра жаць... сэрца трапеча: хочацца прасторы, паветра... Хочацца нарабіцца да поту, далоняю абцерці росны твар і напіцца з біклагі рэзкага квасу... А тады зноў за серп. Рука Антося датыкаецца да яе грудзей. Яніна адкідае ад сябе руку і заварочваецца плячыма, падагнуўшы ногі. Мінае нейкая часіна, рука чапае зноў. Яна ўгневаная шэпча:

— Не лезь!

Рука знікае пад коўдраю, але зараз жа вяртаецца.

— Не чапай, кажу! Чуеш? Адчапіся!

Сухая рука неахвотна слабчае ў пальцах.

— Зусім прымі.

— Здаволілася, — ненавісна шэпча ён.

— Здаволілася!.. У цябе не пыталася і пытацца не буду!

— Дзе прападала?

— Дзе хацела.

Цішыня.

Праз хвіліну:

— Яніна...

Яна скрыжоўвае на грудзях рукі і правую моцна прыціскае да сэрца.

— Яніна...

Яна сціскае зубы, яна глухая і нямая.

— Я меў намер выказаць табе свае меркаванні.

У адказ цішыня, быццам ёй заняло мову.

— Працяглы час я прымушаў сябе стрымлівацца. Я не сачыў за тваімі паводзінамі, і вынікам з'явілася, што па ўсіх насельных пунктах сельсавета абгаварваюць маё незаплямленае прозвішча. Усе свае сілы без астатку я аддаваў службовай працы, але за апошні час узровень мае працаздольнасці пачынае зніжацца. Гэта бясспрэчна адлюструецца на маёй партыйнасці. Можна зараней сказаць, аба мне паставяць пытанне на ячэйцы. Я буду прымушаны прызнаць сваю памылку. Але гэтым справа можа і не абмежавацца. Наскочаць з РайКК ці з райкома, і мяне могуць прынесці ў ахвяру...

— А чорт цябе бяры!

— Што будзе рэагаваць твой бацька, які мне давяраў і для якога я стараўся працаваць па меры магчымасці і сіл максімальна? Што скажа Храпавіцкі і ўсё фактычнае кіраўніцтва, ажыццяўляемае імі?

У начной цішыні назольна звініць камар. Яніна стараецца не слухаць, стараецца не глядзець у цемру. Але камарыны звон не

перасціхае — Антось бубніць і бубніць бясконца. І тады Яніна не можа вытрываць.

— Пляваць я хацела на гэта на ўсё і на вас на ўсіх! Я жыць хачу!

— Жыць можна толькі пры наяўнасці мае працы ў сельсавеце. Гэта выключна неабходна. Ты не можаш зразумець, як гэта неабходна. Маё прозвішча павінна быць чыстым і незаплямленым, як папера. Ты павінна трымаць сябе моцна ў руках, бо ты не хто іншая, як мая жонка.

— Не хачу я жыць так! — злосна гаворыць Яніна.— Не хачу я быць табе за жонку! Не хачу!

— На адно імгненне вока павярніся, прашу надзвычайна, — звініць камар.

Антосевы рукі — тонкія, худыя — ашчапераюць яе моцна, і халоднае цела прыліпае да яе, як смоўж.

— Адчапіся!

Але рукі не пускаюць яе... «Як ён смее, зараза такая!»

Гнеў закіпае ў яе сэрцы, — гэтак бура нахопваецца ўночы, калі раз-пораз здалёку адсвечвае бляск маланкі, нахопваецца раптам, нечаканая, і тады жаласліва плачуць, узрыдваючы, дрэвы ў садзе і ў лесе, прыгінаючыся з енкам і стогнам да самага долу. І калі рукі не пускаюць, раз'юшаная паварочваецца яна і хапае яго за шыю.

— Задушу, як кацяня! — шэпча задыхаючыся Яніна. — От толькі не пусці, дык канцы табе будуць! Ты не бачыш, што ты мне згадзеў?.. Ты мне згадзеў!

Тонкія, худыя рукі адрываюцца і сашчэпліваюцца з яе рукамі.

Яніна адпіхае яго, як куль саломы.

— Каб гэта астатні раз было!.. Ад сённяшняе ночы я табе больш не жонка!

— А каму? — азываецца Антось. — Каму, дазволь цябе запытацца, ты жонка? Мо Гарбачу аднаногаму? Думаеш, я не ведаю нічога, што было пад вечар у жыце каля Манькоўкі?.. Знайшла сабе задавальненне з аднаногім калекам...

— Маўчы! Маўчы, зараза! Ён — чалавек, а не такая поскудзь, як ты. Гэты чалавек мае душу і сэрца.

— Нездарма дурной Анэльцы дзіця прыдбаў.

Яніна нямее на момант. Што ён кажа?

— Сёння пад вечар фельчар Хамовіч бачыў, як выбегла са школы заплаканая Анэлька і аднаногі Гарбач клікаў яе праз акно. Хамовіч разважаў з ёю і ўстанавіў, што яна пацярпела вялікае

патрасенне нерваў і што сукенка яе пакамечана, а хустачку яна завязвала, уцякаючы ўжо ад гвалтаўніка. Такім чынам відаць, што яна прымушана была сілаю, бо з разважання яе чуваць было фельчару, што Анэлька прасіла гвалтаўніка зрабіць ёй ласку не чапаць яе, а ён не паслухаў, і яна ўцякла потым.

— Не можа быць, — у здзіўленні шэпча Яніна. — Анэлька... Гарбач...

Яна не хоча паверыць у тое.

— Немагчымае стала магчымым. Вось сапраўдны твар настаўніка і загадчыка, ды яшчэ і камсамольскага сакратара... Твайго Гарбача.

— Сціхні! Задушу, калі не сціхнеш! — раз'юшана шэпча яна. — Няпраўда гэта. Чуеш? Няпраўда! Я сёння бачылася з Анэлькаю на музыках. Яна была весялейшая, як калі, і скакала ўвесь вечар. Яна сказала б мне, каб што было.

— Не скажа... Аб гэтым ніколі і нікому, хоць і дурная, не паведаміць... нізавошта.

— Яна не знала яшчэ блізка ніводнага мужчыны.

— Аб тым можа давесці толькі такі медыцынскі спецыяліст, як Хамовіч, — знала яна ці не знала, калі ў выпадку патрэбы зробіць медыцынскі аналіз. А што яна не прызнаецца, дык не прызнаецца, бо хоць і дурная, а сорам ведае.

— Не веру я таму. Усё гэта вашыя штучкі, вашае муцельства. Абрыдла мне глядзець, як вы светам круціце. Вас выбіралі і ставілі дабро і справядлівасць народу рабіць, а вы яму зло толькі адно думаеце. Каб я была народ, я вас на вярсту б да кіраўніцтва не падпусціла.

— Мы працуем па савецкіх законах, паводле адпаведных дырэктыў партыі і ўрада.

— Працуеце... Ведаю я, на каго вы працуеце.

— Янінка...

Чый гэта голас шэпча, шукаючы дарогі да яе кволага жаночага сэрца?

— Янінка...

Сэрца яе калоціцца. Яснае сонца над роснай сенажаццю ўспамінаецца. Даўнія сустрэчы, калі ў прагным агні гарэла яе цела. Такое моцнае жаданне, такое вялікае імкненне да чагось нязнанага, але прыгожага, радаснага. Сэрца яе калоціцца.

— Яніна...

Млявасць цячэ па целе. Слабеюць рукі і ногі. І паветра не стае, і дыхаць гэтак лёгка, лёгка. Нешта халоднае датыкаецца пляча. Яна ўскаквае з ложка.

— Гэта астатні раз... Я не буду больш спаць на адной пасцелі. Мне агідна чуць твой голас!

Яна забірае спадніцу з блузкаю, бярэ дзяругу, падушку, сцелецца на лаўцы і кладзецца. Чуючы адным бокам спінку лаўкі, а другім стол, яна ўздыхае з вялікай палёгкай: адна.

Як прачынаецца рана, Яніна не адразу асвойтваецца — дзе яна, што. У вокны скупа цэдзіць святло раніцы. У хаце ціха, быццам пакінулі яе ўсе. Яніна адчувае, што нешта перайначылася ў яе жыцці, а на душы ніякавата, быццам зрабіла яна ўчора несумленны ўчынак. Што ж гэта такое яна ўчора зрабіла? Поглядам абводзіць яна павольна хату, ложак... На ложку няма яго. Пасцеля непрыбрана. Антось пайшоў ужо. Не, яна нічога благога не лічыць за сабою, яна зрабіла так, як падказала ёй сэрца. А хіба гэта злачынства слухаць голасу свайго сэрца? У душы Яніны прачынаецца нясмела ціхая, ясная радасць, быццам прайшла яна залатым восеньскім днём вялікую ўтомную дарогу і села адпачыць. І добра гэтак сядзець і адпачываць ёй, такая ўтульнасць і спакой наўкола. Але чаму гэта з дна душы ўстае нешта трывожнае? Што яе можа трывожыць, калі і целу і душы гэтакая дабрыня! Усё адно, таму што не ведае і не можа прыпамянуць, з дна душы ўстае трывога. Нешта забыла. Яна азіраецца назад на пройдзеную дарогу. Дарога хаваецца ў далёкім тумане. Не, яна нічога не забыла. Усё яе з сабою. І ўсё-такі нешта забыта. Яна ўстае і прыбірае пасцелю. Ногі яе ступаюць так, усё адно як упершыню ў гэтай хаце. Мо ад скокаў учарашніх? Не. Усе рэчы ў хаце прымігаліся за некалькі год, бо гэта яе рэчы, Антосевы рэчы, і аднак здаецца ёй, што бачыць іх яна ўпершыню. І нават рукамі дакранаючыся, чуе — чужое. На шосце вісіць яе клёшная сацінавая спадніца. Быццам яе і не яе. Спадніца не новая, але пры рабоце лёгка ў ёй і добра. Яніна надзяе клёшную спадніцу, а на тое месца вешае новую, у якой учора была на музыках у Манькоўцы. Вунь і тая блузка разадраная. Яна перш памкнулася ўзяць ды зашыць, адале махнула рукою.

Потым выходзіць на кухню ўмывацца. На кухні няма нікога. Нехта браскаецца ў сенцах. Умыўшыся, пасвяжэлая ідзе ў клець. У сенцах стары корпаецца з дзежкамі — гуркі саліць трэба. Стары нічога не кажа, і яна праходзіць у клець. У клеці кубёлак з салам. Яна адрэзвае ладны дроб сала. Дастае з каша каўбасы і ідзе ў хату. Але есці не хочацца. Яна бярэ акраец хлеба, загортвае ўсё ў чыстую старэнькую хустачку. Тады чуе, гукаюць з вуліцы.

— Яніна!

Яна выбягае на ганак.

— Гоў!

— Ці зараз ты?

Гэта жанкі з сярпамі. Жыта жаць.

— Зараз бягу!

З-пад страхі знадворку бярэ серп. Серп востры, аж кусаецца, як спрабуе яго пішчыкам пальца Яніна, толькі насела ржы. Але гэта клопат сабе — за дзень так блішчэць будзе, што хоць глядзіся ў яго, як у люстэрка. Яніна апінаецца хустачкаю, хапае сваю ежу і з сярпом на плячы спяшаецца на вуліцу.

Вуліца шырокая, сухая і далёка імкне з-пад густога галля клёнаў, ліп ды вязаў, што растуць паабапал.

Жанкі ідуць, гамоняць, рагочуць, вітаюцца з усімі — адна Яніна, такая на язык лёгкая заўжды, маўчыць. От ім усім весела, от ёсць пра што гаманіць, маюць яны свае клопаты, свой рупесак пра дзеці, пра сем'і, пра нейкае там хатняе багацце, адна яна ідзе так, быццам усё, што ёй блізка і дарага, усё, што яна мае, пры ёй. Ці думае яна што, ці не — невядома. Погляд воч яе далёка адгэтуль. Шырока расплюшненыя, глядзяць яны перад сабою, і чыстая глыбіня іх крыху засмучана. Няма ў твары тае рэзкасці, якую прывыклі бачыць людзі. Дзе дзеўся той гонар, які высока ўздымаў ёй галаву? Яна паспакайнела, зрабілася прасцейшай, з крыху пасмутнелым тварам, быццам журыцца яна па нечым утрачаным. Але з постаці Яніна такая самая зграбная, стройная, увішная, і ногі спружыняць па сухой вуліцы.

«Зараз бы тое жыта... — думае яна. — Забыць... забыць...»

Што забыць — яна сама не ведае: ці мінулае, ці сучаснае, ці тое, што было ўчора.

«Пайду ў поле шукаць долі», — успамінае яна словы з бывалешняе народнае песні. Яна з радасцю абмінула б поле гэтае, пакінула б за сабою і лясы, і балоты, і гэтыя хаты, і свае невялічкія радасці і гора, і пайшла б вось як стаіць, адна са сваёю тугою, у белы свет.

«Каб сказаў, чаго не ставала ёй... Еш што хоч, на кожнае свята па ўбору... Колькі спадніц ды хустак... Чаравікі, лодачкі... Паліто гарадское на зіму... Чаго яна больш хацела...»

Так гаварылі б усе, каб яе мара здзейснілася. Яна ўсміхаецца думкаю, але на твары ўсмешкі няма, толькі цясней стульваюцца вусны, ды збоку іх ледзь прыкметная абазначаецца рысачка. Ну і папагаварылі ж бы, папапляскалі б языкамі...

Жанкі заўважаюць яе маўклівасць і пачынаюць пазіраць то тая, то тая. Яніна чуе, як гамонка цішэе. Зараз пачнуць пытацца рознымі данімананамі. Яніна сама хоча загаманіць і не можа, ну от не можа сказаць ні слова, усё адно як замкнула ёй вусны. Дый

няма чаго ёй гаварыць, ну што яна скажа. Яна адчувае, што калі абзавецца, дык тыя нават па голасе пачуюць, што нешта не ладзіцца ў яе, і тады пачнуць выпытваць. Не, няма чаго ў яе казаць. Але вось адна самая маладзейшая, брыгадзірава жонка, спрытная вельмі на язык, пачынае:

— Яніна недаспала сёння...

Яніну сцепае ад гэтых слоў, і яна думае, што сказаць нешта трэба, бо жанкі ўжо рагочуць.

— З музыкаў позна прыйшла.

— З музыкаў?.. Дзе ж тыя музыкі былі?

— У Манькоўцы.

— Ну та, мабыць, дала дыхту?

— Дала, — адказвае яна.

Усе рагочуць.

«От парагочаце сабе тады, як палічым снапы ўвечары, — думае яна. — Я там папаскаквала, а вы тут папаскачаце за мною».

— Там дала, і тут дам. Усюды, дзе захачу, дам.

Усе рагочуць.

— А сёння паглядзім, як вы дасцё. От пагляджу, як ты, языкастая брыгадзерша, дасі.

— З кім жа ты давала? — рагоча тая.

— З кім хацела.

Жаночыя жарты раздурбалі Яніну. Яна не злавала на жанок, яна нават удзячна была, што тыя разварушылі яе.

— Ты языком здольная, — кажа Яніна брыгадзіравай. — От давай у сярпе паглядзім, хто здольны.

— Ну, ну, — закрычалі жанкі. — Навыперадкі! Навыперадкі! Паглядзім! Паглядзім! Хто каго!

Брыгадзіравай не было як адступацца, хоць і не хацела б яна мерацца сілаю і ўвішнасцю з Янінаю. «Такая дужая, як кабыла». А брыгадзірава была нізенькая, сухенькая, і языком сцябала, дык сцябала, усё адно як мянташкаю.

— Ну, давай, што я — баюся? — задзірыста кажа яна. — Давай паглядзім...

— Будзьце за сведкі, жанкі, — кажа Яніна.

— Брыгадзера не прыйдзецца зваць на дапамогу? — жартуюць яны, звяртаючыся цяпер ужо да брыгадзіравае.

— Адна здужаю, — кажа яна.

— Глядзі.

— Паглядзім, — гаворыць Яніна, і смутку няма ўжо ўваччу. Яна ганарыцца сваёю зграбнасцю, сваёю здольнасцю, сваёю дужасцю. Прыемна адчуваць ёй самой сваю дужасць: і лёгка

адначасна і цяжкая сіла паводзіць плячыма. Грудзі, быццам тыя два спелыя вялізныя яблыкі, схаваныя пад блузку ад пільнага вока садоўніка, ды не схаваць іх. Цесна звакол усю абліпае яе блузка: скругленыя плечы, і грудзі, і выгінасты стан — усё на воку. Эх, запыніць цябе, Яніна, садоўнік — не крадзь наліўных яблык з яго саду! Ды не слухае Яніна, ідзе сабе так, быццам ніякага садоўніка і няма ў садзе, і на гукі крокаў яе адказвае толькі зямля.

Тым часам яны ўжо за вёскаю. Вось шырокім залацістым возерам паміж лесу ледзь-ледзь хвалюе жыта. Як воку толькі агледзець, павольна, павольна нахіляецца яно спелымі каласамі то ў адзін бок, то ў другі. А берагі лесу стаяць ціхія, сінявата-зялёныя.

— Адкуль зачном? — пытае нехта.

— Давайце з гэтага рога.

— З гэтага рога не трэба, — аўтарытэтна заяўляе брыгадзірава. — Тут будзе жняярка. Ад лесу хадзем.

— Хадзем сабе ад лесу, — згаджаюцца жанкі.

— Калі брыгадзерша кажа, дык трэба слухаць, — смешкам кажа Яніна. Вельмі ж тая ўжо нос задзірае.

— Хадзем вунь з таго рога, што ад грэблі, — камандуе брыгадзірава. — Там жыта рэдкае паўз лес і жняярка яго не возьме. Жняярцы там нядобра жаць, каранёў з зямлі тырчыць поўна, карчоў.

— А от ведаеце, што кажуць, успамянулі пра грэблю, не пры нас казана... Нячыстая ходзіць там поначы.

— От выдумала... За бальшавікамі ўсе нячыстыя пасталі чыстымі, — смяецца другая.

— Праўду кажу.

— Ага, — азываецца яшчэ адна. — І я чула.

— А хто яе бачыў? — пытае Яніна.

— Кажуць, пастух з Гнілога. Прапала гэта ў яго на пашы цялушка — пасціўся ён сярод лесу. Агледзеўся ён ужо, жанучы ўвечары каровы дадому. Пайшлі калгаснікі на ўсю ноч шукаць таго цяляці. І той пастух з імі. Паразыходзіліся па лесе, шукаюць, шукаюць — няма. Узбіўся той пастух на гэтую грэблю дый тупае сабе, прыслухоўваючыся. А ў лесе такая сціш, ну мэрам вымерла ўсё. Падыходзіць той пастух пад пільню з млынам. Аж раптам як зашугае ў лесе, як завохкае, заенчыць каля таго млына. Як наляціць возьме віхура на таго пастуха, ды шапку як змахне з галавы. І галасы страшныя як завыюць яму ў вушы. А агеньчыкі то сюд, то там у лесе з усіх бакоў паблісківаюць, мігцяць. Як

падхопіцца той пастух, ды дай бог ногі. А ззаду як хвосне возьме яго ламінаю, як зарагоча на ўвесь лес, як затрашчаць дрэвы, падаючы, як падпіленыя, дык таму пастуху ўжо ні да цяляці, ні да шапкі. Колькі ён бег і як дабег дадому, не памятае, толькі, кажа, галава саўсім сівая зрабілася за тую ноч.

— Ён і быў сівы... Стары ўжо, падла.

— Ды не, не скажы, я сама бачыла. То дзе-нідзе пракідаліся сівыя валасы, а то як пабялілі яму ўзялі галаву. Як голуб, сівы зрабіўся.

— Віхура нахапілася на лес, а яму здалося чорт ведама што.

— Не, любка... Віхура нахапілася б дый прайшла. А то ён бег і колькі часу бег, дык і чуў усё гэты страшны лямант.

— Не верыш, та ось сходзі ж вазьмі апоўначы туды, паслухай, што там робіцца, — адказвае брыгадзірава.

— А ты хадзіла?

— Не хадзіла ды ведаю... Людзі былі.

Тады адна шэпча страшна:

— Ці ведаеце, што, любачкі, кажуць людзі? Ніякае нячыстае там няма.

— А мо і ёсць! — пярэчыць тая, што казала пра пастуха.

— Няма! Чаму твой пастух не сказаў, што ён бачыў.

— Не ведаю.

— Ага, не ведаеш, та і не кажы.

— Ну, што ж там можа быць.

— Кажуць, — шэпча зноў страшна тая, што пярэчыла супроць нячыстае, — што недзе ля млына пахаваны забітыя.

— І я чула, — кажа другая.

— І ўночы гэта нявінныя душы забітых стогнуць ды плачуць там.

Цяпер і Яніна нешта такое ўспамінае. Доўга ўжо, гадоў дзесяць таму назад, неяк раз пачула яна пра гэта і прыйшла казаць бацьку, дык той рукамі спалохана замахаў ды зашыкаў, каб маўчала.

— А хто ж там пахаваны? — пытае яна.

— Пабітыя людзі.

— Якое страхоцце! Дзе ж яны пахаваны?

— От то-та ж і яно, што ніхто не ведае...

— Я чула, — абзываецца другая, — што забілі іх тады, як замірыліся скора з палякамі.

— Н'але, кажуць. Гіблых Андрэй, што памёр пазалетась, кажуць, бачыў тады кроў на грэблі.

— Каго ж там забілі?

— Ніхто не ведае, любачкі.

— Адны кажуць, што чырвонаармейцы везлі казну сваю ды заблудзілі ў лясох і не патрапілі за часцю...

— Не, мэрам падатковыя нейкія начальнікі ехалі, а з імі ды было поўна грошай...

— І не падатковыя... А кажуць, везлі крэдыт нейкі людзі...

— Ніхто не ведае, любачкі.

— А што баюць, то баюць, праўда.

Жанкі ідуць берагам лесу і гамоняць пра страшнае здарэнне і жахлівыя з'явы ў лесе ўночы. Яны так захапіліся, што нічога не заўважаюць. А пазаду іх ідзе чалавек у саламяным старым капелюшы і слухае ўсё тое. І раптам чуюць жанкі, усё адно як птушка ўспявае так гэта хараша:

— Іл-ліп-чып-чып! Іл-ліп-чып-чып!

Але яны ні разу не чулі такое птушкі. А чалавек ідзе і ўспявае, як птушка. Тады адна азіраецца ды як закрычыць:

— Ай!!!

Здалося ёй немаведама што.

— Чаго ты? Чаго ты? — кінуліся да яе.

А яна не можа нічога і адказаць і толькі паказвае рукою за плечы.

А там як зарагоча нехта моцна.

Усе аж скалануліся.

А як азірнуліся, пазаду не было нікога. Толькі шамацелі воддаль кусты ды патрэсквала пад нагамі ў некага сухое ламачча.

— Вось табе, — праказвае адна.

Перапалоханая сплюнула тры разы.

Трэцяя пытала:

— Хто гэта быў?

— Так я вельмі ведаю.

— Ну, які ж, на каго ён падобен?

— На чорта з балота... Чую я, успявае нехта ззаду. Азіраюся, і хто б вы думалі? Нейкае пудзіла ў ботах, у старым нейкім сурдуце і на галаве саламяны капялюш, — як некалі паны хадзілі. Але капялюш той у яго надзеты ну мэрам на патырчаку на якую, а не на галаву. З вушэй і з ноздраў асака расце, густая, доўгая... А з рота... страшна глядзець... А з рота іклы павылазілі дый пазагіналіся ўгору. Любачкі мае, я траха не ўмлела.

— Гэта табе здалося.

— Няўжо ж не здалося! — абураецца тая.

— Наказалі ўсякага страхоцця, дык ён табе ўваччу ўжо стаяў такі кавалер.

Усе зацекаюцца з рогату.

— От прысягці магу, што бачыла, — упінаецца тая.

Але ўсе ўжо рагочуць, і тое, што яна бачыла, звялі на жарт, не вераць. Гледзячы, як усе рагочуць, яна і сама пачынае сумнявацца, бачыла яна таго пана ці ёй сапраўды здалося.

— А рагатаў хто? — прыпамінае тады нехта.

І тады пачынаюць усе пытацца: хто рагатаў?

— Ты не рагатала?

— Не.

— І я не рагатала.

— І я.

— І я таксама.

Ніхто не рагатаў.

Але ж рогат усе чулі добра.

— Тады сапраўды, жанкі, хто ж рагатаў?

Тая, што бачыла, зноў верыць, што і асака тырчала з ноздраў і вушэй, і іклы з рота загіналіся ўгору, і капялюш хаваў пад сабою няйначай як рогі.

— Глядзеце вы, якая фацэція.

— Ніхто не бачыў, а як рагатала нешта, дык чулі ўсе.

— І як успявала, усё адно як птушка, гэтак хораша...

— Дык я ж бачыла, — кажа тая, што сапраўды бачыла.

— Н'але, яна ж бачыла.

— Бачылі вы, якое здарэнне.

— Але ж веры даць няможна, дый годзе.

— От цяпер і пайдзі адной у ягады ці ў грыбы.

— Згарыць яно няхай.

— Спустуюць яны няхай там тыя грыбы ды ягады.

— Ай-яй, якія смелыя, — кажа Яніна. — Можа, і быў які чалавек, дык так гэта пужацца.

— Спрахнуць такому чалавеку, што падкрадваецца, як злодзей, а тады знікае, як птушка. Ты вельмі смелая.

— Дый не пудлівая.

Спрэчка і яшчэ не канчаецца, калі прыходзяць жанкі ў рог, адкуль хочуць пачынаць жаць.

Жыта дробнае і спелае. Саломка яго тоненькая, а каласкі кароценькія — неўмалотнае. Жняяркаю яму тут нічога рады не даў бы, толькі папрыгінаў бы дадолу ды парасцягаў па полі.

Жанкі паразбіраліся з месцам, дзе хто будзе жаць. Брыгадзірава ўлезла ў гусцейшае жыта. А Яніне прыйшлося з самага краю ад лесу. Яніна загледзела гэтую хітрасць брыгадзіравай і гукнула:

— Не хавайся, не хавайся ў густое, хадзі сюды! Ці мо нячыстае спужалася? Ідзі сюды, каб я сама бачыла, як ты будзеш выпярэджваць мяне.

Брыгадзірава мусіла згадзіцца і вылезла з гусцейшага жыта, хаця яна цяпер згодна была б пакінуць гэтае спаборніцтва, — нячысты з ёю хай ідзе навыперадкі. Ведала брыгадзірава, што прыйдзецца ўвечары перажыць ёй непрыемную часіну, калі Яніна будзе выхваляцца сваёю перамогаю, а жанкі — падсмейвацца. Ведала, але і ў яе потым у гарачку зайшло сэрца: «Хай сабе яна і дужая, як кабыла, але паглядзім». І ўзяліся.

Заспявалі сярпы. Зашасталі жытнія жмені, кладучыся на ржышча. Загарэлася ў кожнае сэрца. І нават жанкі, якія не ўгавараваліся змагацца за выдатнасць, і тыя думалі: «Хоць мы не ідзём з вамі навыперадкі, але паглядзім».

І пайшлі, і пайшлі...

Было не душна. Сонца адапялася ад зямлі белым лёгкім туманам аблачынак, і вецер не варушыў яго. Была сціш і спакой. Толькі спявалі сярпы ды з лесу чутно было: кукавала зязюля.

Яніна з брыгадзіраваю спрытна лавілі ў жменю па каліву параскіданыя сцёблы і неўзабаве пакінулі пазаду сваіх жанок. Брыгадзірава намагала спрытнасцю, рукі яе мігацелі ў жыце як згледзець. Яна нават выперадзіла Яніну ўпачатку, але тая не баялася. «Ляці, ляці, — думала яна, — макам зараз сядзеш». Яніна жала спорна і роўна, яна не станавілася потым. Яна згіналася і разгіналася, як машына. «Ну і дужая, — думала брыгадзірава, — ні разу яшчэ не пастаяла». Па паўдні брыгадзірава пачала аставацца ўжо ад Яніны і гукнула да жанок, што час палуднаваць. Яніна не пярэчыла, яна таксама захацела есці, але самой не выпадала казаць пра перапынак, — скажуць, прыстала. «От паглядзім, — думала яна пра брыгадзіраву, — дакуль ты цягнуць будзеш». І была рада, што тая нарэшце папрасілася. У яе яшчэ больш прыбавілася гонару — от хоць і нашча, а перамагла.

Жанкі каторыя пайшлі на полудзень, а каторыя, узяўшы з сабою есці, пааставаліся да вечара. Брыгадзірава пайшла дадому, а Яніна асталася на полі. Яна ўзяла сваю хустачку, развязала яе і стала есці хлеб з салам. Праз нейкую часіну ад хлеба і сала з каўбасою на прыполе ў Яніны пааставаліся дробныя крошкі. Тады яна прытулілася да дрэва плячыма і абхапіла рукамі калені. Гэтак добра было сядзець тут адной і бачыць толькі лес ды жыта, ды неба. На душы было гэтак ясна і ціха. Толькі думка, прыляцеўшы здалёк, думка, што ўвечары зноў прыйдзецца ісці ў Казіны Брод, ускаламуціла чыстую паверхню яе спакою. Зноў

пад нос бубніць будзе свякроў, ставячы свайго сына нароўні з багамі, зноў з апошніх слоў будзе лаяць нявестку, што ходзіць абы-дзе, што людзі кажуць абы-што. Адна гэтая думка атручвае ёй радасць працы, яе спакой. А пад дрэвам такая невыказная дабрыня. Пахла смалою. Жоўтая хвойка ўсцілала дол. Тонкая луска хваёвае кары ляжала наўкруг. Зморанаму чалавеку гатова ўтульная пасцель. Кінуцца б і заснуць. Чуе Яніна, як сон падкрадваецца пад яе, — нядобра спала ноч, ды зараз прыйдзе брыгадзірава. Трэба змагацца. «Навошта змагацца? Дзеля чаго змагацца? Хіба няможна проста працаваць?» — трапеча думка. От каб працаваць не хапаючы, не лапаючы, спакойна, роўна. Не. Яна выразна чуе, што нешта гаворыць «не». Чый гэта голас? Але, працуй спакойна, а такая вось скочачка, як брыгадзірава, возьме дый выперадзіць цябе. Ганьбы колькі! Сораму не абрацца! Дзе тады вочы дзець? І гаворыць, і гаворыць нешта бясконца гэты голас, калі раптам Яніна чуе:

— Годзе, годзе ўжо... Уставай... Калені голыя павыстаўляла, мух напрыманьвала толькі. І не сорам табе, і нячыстага не баішся ты.

Яніна глядзіць, яна сапраўды была задрамала. На прыполе пааставаліся крошкі хлеба, каўбасы, і на іх зляцеліся немаведама адкуль мухі.

— Уставай, змарылася вельмі...

Перад ёю стаяла малюпасенькая брыгадзірава. Яна паспела папалуднаваць. Глядзі ты, як моцна задрамала.

Яна ўскаквае і страсае з прыполу крошкі. А тады пацягваецца, задраўшы высока рукі, выгінаецца, як без касці яна, і, павольна ступаючы зграбнымі босымі нагамі, каб не пакалоць, ідзе да пастаці.

— От скора будзеш ведаць, хто змарыўся, — кажа яна і бярэцца за серп.

Жыта пайшло трохі гусцейшае,раслейшае. Пявуча рэжуць сярпы, і жменя за жменяю астаюцца на прасту.

Яніне хочацца піць, але яна не брала вады, а пытаць у жанок не хочацца. Счакаўшы, яна прыпамінае, як нехта казаў, што піць поўна пры рабоце нядобра. Чалавек слабее тады. І неўзабаве яна ўжо не так адчувае смагу.

Сонца ідзе да захаду. Хаця не відаць яго сёння за хмарамі, але чутно, як халадок робіцца адчувальным. Жытнія сцябёлцы ледзь прыкметна мякчэюць. Гусцейшы цень кладзецца на лес. Яшчэ праз часіну цішэюць і галасы птушак, не далётваюць здалёк да вуха жней. У Казіным Бродзе зарыкалі адна за адной каровы — відаць, прыгналі нанач з пашы.

Брыгадзірава зусім асталася ад Яніны. Хаця і постаць яе вузейшая за Яніміну, а не паспела за той. Але, як кажуць, не наеўся, то і не наліжашся — за ўвесь дзень не магла зжацца з Янінаю, дык цяпер і падаўна не дагоніш. І брыгадзірава запрапанавала збірацца дадому.

Пачалі збірацца жанкі, лічыць снапы, — колькі каторая нажала.

Брыгадзірава нажала капу і пяць на рэдкім жыце, гэта было нямала. Жанкі на густым жыце панажыналі па пяцьдзесят снапоў. А калі палічылі прыйшлі ў Яніны, дык толькі паглядзелі з жалем на брыгадзіраву. Яніна нажала капу і дваццаць. І пра снапы яе нічога не скажаш, наўрад ці клаў хто такія цяжкія снапы, як яна. Але з брыгадзіравай ніхто не жартаваў, не смяяўся, бо смяяўся б сам з сябе: гэта ж Яніна нажала гэтулькі на самым рэдкім, на самым маленькім жыце.

— Ты ў нас, Яніна, першая ўдарніца, — кажуць жанкі з пашанаю. Каторая пры гэтым думае і добра Яніне і рада, а каторая і не зусім, а толькі зайздрослівым вокам абводзіць яе з галавы да ног.

А яна думае...

Вось усе і зайздросцяць ёй, і дзівяцца з яе, і лічаць, што як ёй добра жыць, дык нікому гэтак нідзе, а ніхто з іх не ведае, што робіцца ў яе на сэрцы. Ніхто не ведае, што чакае яе дома сёння. Ніхто не ведае, як ёй страшна ісці туды. А каб пачулі, што адбылося ў яе з Антосем... Яніна добра ўпэўнена, што ніхто не пашкадаваў бы яе, а кожны яшчэ стараўся б плюнуць на яе ды папхнуць ногцем, як карослівага сабаку.

І таму, калі ўсе нібыта рады яе перамозе, сама Яніна не адчувае гэтае радасці. Усё адно трэба ісці ў гэтую чарнату. Ізноў будзе свякроў пераядаць сэрца, ізноў прыйдзе Антось... Ці можна так жыць чалавеку? Вялікая мяжа лягла паміж яе і Салаўёў, і яна чужая ў гэтым доме ад сённяшняга дня. Ну але ж яна жонка свайго мужа, гэтага касавокага заразы з лісінаю мордаю. Яна праклінае бацьку, як самага благога свайго ворага, за тое, што ўпёр яе ў гэтую сям'ю. Ці дзеля таго хавала яна ад усіх ззамаладу свае маленькія мары і надзеі дзявоцтва? Ці дзеля Салаўя берагла жар свайго сэрца Яніна, ці яму несла яна ціхія парыванні свае душы? Усё бацька, усё бацька, думае яна, каб ён радасці не ведаў на гэтым свеце, каб яму паляжання не было пасля смерці. Не, годзе пакутаваць, годзе вянуць у гэтым страшным цёмным закутку. Сілы ў яе стане. Ці стане? — баязліва пахапляецца яна. Што яна зробіць адна? Дзе яна што ведае —

якія хады і выхады? Адзін чалавек, які мог дапамагчы ёй, Гарбач. А супроць Гарбача плятуць павуціну чорныя рукі. Бо нізашто не паверыць Яніна, каб тая плётка пра яго з Анэлькаю была праўдаю. Ці захоча дапамагчы ён, ці здолее? Як муха ў павуцінні, трапечацца яе неспакойная думка.

Праз усю дарогу дадому не абзываецца яна ні слова.

Цёмныя хмары, здаецца, ціснуць да зямлі, гэтак нізка яны. І змрок ужо балюе наўкола — і лес, і жыта, і вёска сатруцца зараз з аблічча зямлі, і воку відна будзе толькі адна магутная цемра. Прыглушана ціліўкаюць птушкі, уладжваючыся на нач. Іх жалобныя галасы гучаць збянтэжана. Будзе дождж.

Цяжка на сэрцы ў Яніны, калі прыходзіць яна дадому. Цёмныя хмары смутку і тугі навіслі над ім. Што будзе сёння? Што чакае яе гэтае ночы? Як сустрэне яе заўтрашняе ранне?

### Смага

Дзён праз тры пасля таго, як быў у Позняка, Гарбач увечары надумаў схадзіць заўтра рана праведаць Анішчыка. Гэтыя дні людзям шанцуе з надвор'ем. Ля гумен парастаўлены снапы. Дасушваецца астатняе жыта. Жнуць і звозяць ячмень, авёс, грэчку. Людзі стараюцца ў малатарні. Надвор'е паддае ахвоты. Кожнаму хочацца мець на стале новы хлеб.

Гарбач надоечы абыходзіць палеткі. На лагчыне, туды пад лес, пры сенажаці невялічкі палетак з вікаю. Баяліся, што віка перастаіць, і неяк раз сама дажджамі тымі пайшлі і скасілі. Гарбач глядзіць. Віка скідана ў копкі. З зялёнае яна зрабілася жоўтаю і чорнаю. Ён падышоў пад крайнюю копку і разварушыў яе. У копцы ляжаў адзін гной. Ён хацеў аглядзець усе копы, але ўграз, ледзь выкараскаўся і пайшоў дадому.

Надвячоркам ён зняў і ўнёс у школу газету. Цяпер газета вісела толькі ўдзень, а на нач Гарбач прыносіў дадому. Час ад часу дый пацікавіцца хто ўсё-такі, а што ж там напісана ў той газеце. І здаецца Гарбачу, што нават людзі нібыта рухавейшыя пасталі. І з работаю нібыта ўпраўляюцца. І галасы нібыта зычнейшыя зрабіліся. Гарбач наіўна ўпэўнены, што таму паспрыяла газета.

Пасля пажару ён трохі акрыяў. Целу жадалася ўжо хады, варушэння, прасторы. Успамянулася пра Анішчыка. Ці зрабіў ён што? Што з ім? За гэтыя тры дні Гарбач не раз намагаўся дазваніцца ў раён. І ніводнага разу гэта яму не ўдалося.

Раніца сустракае восеньскім туманам, імглою. Гатоў пайсці дождж. На двары пануе адна нудная шэрая фарба. Няма золата, знік аквамарын. А што зрабілася з цёпла-зялёным смарагдам?

Глыбокая таемнасць яго душы пасмутнела, і нудная восеньская імгла высушыла яе. Фарбы аддалі ўсю сваю сакаўносць, аддалі сваё сэрца. Яны не гамоняць, не спяваюць, не блішчаць, не захапляюцца таямнічасцю свае музыкі. Усё гэткае ціхае, простае, зусім зразумелае, абыякавае.

Гэткае самае ранне і на душы ў Гарбача... А на сэрцы балючы сум, і рукі не вернуцца нічога рабіць. Ён апранаецца ў пінжак і пакідае школу, замкнуўшы дзверы.

Дарога падсліжана, мабыць, уночы прайшоў дождж. Гарбачу цесна ў яго звычайным пінжаку. Яму нязручна апірацца на новы кій. Гэта ўжо, мабыць, пяты пасля таго, як зламаўся той на пажары: то ён яму закароткі, то ён — задоўгі, то — затоўсты, то — затонкі. Рука адчувае нязвычную шурпатасць, муляе кант, які, здаецца, Гарбач так згладзіў шклом, што булавенька кія зрабілася сама, як шкло, гладкая. Ніяк не дабраць такога, як быў. І собіла ж яму падважваць, на яго ліха, той прабой. Гарбач не ідзе, а пакутуе. Але адчувае, што ісці трэба, конча трэба. Сёння ён нават сніў Анішчыка, і як сніў, каб і прыдумаць так хацеў, дык не прыдумаеш... усходам сонца выходзіць са сваіх сянец на двор Анішчык. Ён у падранай зрэбнай сарочцы і лапленых дзяружных штанах. Лёгкі туман хаваецца па хмызняках. І ўсё адно, як гамонячы з кім, Анішчык кажа: «Ці зараз тое сонца гляне сюды на гэтую зямлю?» І ўсё адно, як на адказ яму, першае праменне загараецца ў сіняватай шыбе акна. І дзівіцца Гарбач: сонца яшчэ не відно, а праменне гарыць у шыбе. Але не патрапіў ён яшчэ падумаць, што б гэта такое абазначала, як следам паказваецца і само вялікае чырвонае стомленае сонца. Тады Анішчык узіраецца з-пад далоні некуды. І зноў яго ніхто не пытае, а ён усё адно як гамоніць з кім: «Гэта я шукаю калодзежа. Мне вельмі хочацца піць». — «Нашто табе калодзеж? — хоча быццам крыкнуць Гарбач. — У цябе ж крыніца!.. Ты ж бярэш ваду з крыніцы...» — І не канчае думы Гарбач, як бачыць: ідзе Анішчык у канец двара. А ў канцы двара, дзе ў Анішчыка ніколі не было яго, — калодзеж стаіць. «От, — думае сабе Гарбач, — адкуль той у яго калодзеж?! Ён жа ніколі і не капаў яго...» Бачыць, падыходзіць Анішчык пад той калодзеж, перагнуўся і глядзіць уніз. «Чаго ты так навіс? — хоча сказаць, як малому, Гарбач. — От пакаўзнецца нага і ўпадзеш туды, утопішся...» І толькі, здаецца, падумаў гэта сказаць Гарбач, глядзіць: няма Анішчыка. «Дзе ты, Анішчык?» — «Я тут», — як з-пад зямлі чуцён голас. Бачыць Гарбач, няма Анішчыка, а толькі ногі яго босыя відны. Зачапіўся ён ступакамі ног за верхнія дошкі, што прыбіты да

слупоў, і вісіць так уніз галавою. «А што я казаў...» — хоча сказаць Гарбач і подбежкам падскаквае пад калодзеж. «Бярыся рукамі за вянцы ў скрыні, а я буду цягнуць цябе за ногі. А то ўтопішся...» — крычыць Гарбач, перагнуўшыся галавой над калодзежам. «Не ўтаплюся... — чуцён глухі голас. — Тут няма зусім вады... Каб то раптам гэтак высахці гэтаму калодзежу...» — Углядаецца Гарбач у калодзежную цемрадзь і сапраўды не бачыць, каб блішчала вада. «Дык што ж ты там робіш?» — зноў хоча крыкнуць Гарбач у гэтую цемру, з якое не відаць ні рук, ні галавы Анішчыка. І яшчэ не крыкнуў, а Анішчык адказвае: «Я разграбу трохі кіпцямі чвыр... Пагляджу, ці не пакажацца вада...» — І голас яго такі глухі, смутны. І бачыць Гарбач, што слабеюць Анішчыкавы ногі, што трымцяць пальцы, якімі зачапіўся ён за дошкі, што і тыя дошкі ўгінаюцца пад цяжарам вялікага цела. «Ён зараз упадзе», — баіцца Гарбач, не хочучы падумаць, што таму ж няма куды падаць, што ён жа разгрэбае пальцамі чвыр дна, каб угледзець вады. І потым што такое зрабілася, не можа зразумець Гарбач. Знікла сонца, і калодзеж, і Анішчык, і хутар Палявое... Гарбач доўга ўглядаецца ў скаламучаны ранак і дагадваецца: ён сніў. І от ідзе Гарбач цяпер, і сон гэты не дае яму быту. Чорт ведама што можа прысніцца чалавеку.

«Пайду нацяронькі лесам, — думае Гарбач. — Мо натраплю на добры кій», — зварачвае ў лес. А дарога, беручыся ўбок вялікім кругам, хаваецца ў цёмна-шэрым лясным змроку.

Пахне ў лесе і ціха і спакойна. Тут, бадай, і суха. Гарбач задзірае галаву і поглядам шукае між галля дрэў прасвету. На кончык носа яму капае кропля. Дождж? Не, неба праясняецца. Гэта астатнія кроплі начное вільгаці рупліва дорыць зямлі лісце. Моцна пахне ў лесе. Так пахне толькі пасля дажджу або ўночы перад ясным надвор'ем. Нават сям-там відны ўжо ў каламутнай шэрані хмарыска глыбокія сінія азёры. Гарбачу прыпамінаецца паваленая на рацэ алешына. З яе кораня можна выразаць сабе добры кій. Ён ідзе ў той бок. Неўзабаве відна і рака. Але патрэбнага кораня ў алешыны Гарбач не бачыць. Ён махае рукою: чорт яго бяры, з тым кіем. Гарбачу хочацца пасядзець трохі, ён прытаміўся. Прыгажосць гэтага ціхагаляснога кутка заўсёды абуджала ў яго сэрцы нейкія далёкія цёплыя ўспаміны, нейкія мілагучныя мелодыі. Яго сэрцу было лёгка тут і добра. Гарбач знаходзіць свой чоўнік, скакае ў яго і пераязджае на выспачку, месца гэтулькіх мараў. А мо толькі аднае... Бо яна была і мілагучнай мелодыяй, і далёкім цёплым успамінам, і ціхім смехам ракі, і гоманам лесу. Яна выклікае нязнаную любасць, яна прыносіла з

сабою таямніцы прыгажосці, яна была — усе яго мары разам. Дзе яна цяпер?

Дзе яна цяпер? — звініць рака.

Дзе яна цяпер? — шэпча маладая алешынка вярбе.

Дзе яна цяпер? — сумуюць на выспачцы гордыя краскі.

Дзе яна цяпер? — апошнім дыханнем шалпоча пажоўклы лісцік, аддаючы ўсяго сябе звонкай плыні ракі. — Я яе больш не ўбачу.

Мы яе больш не ўбачым, — сумуюць краскі.

Шэпча маладая алешынка з вярбою.

Нясе ў свой цудоўны палац бедны пажоўклы лісцік звонкая плынь ракі.

Дзе яна? Дзе яна?

Выбліснула сонца. Загарэўся нязнанаю радасцю лес.

Засінеўся высока над лесам кволы шоўк неба.

А яе не было. Сёння яна не хацела прыйсці.

Гарбач сядзіць, абняўшы рукамі калена. Сядзіць і глядзіць і не бачыць нічога. Востры твар чула падстаўлены сонцу і погляд застыў дзесьці там — невядома дзе. Ён сядзіць, як сляпы, глядзіць і нічога не бачыць, слухае і нічога не чуе.

Прачніся, Гарбач! Ты задрамаў... А мо зачаравала цябе злая мара? Прачніся! Твой чоўнік пад звонкую музыку плыні ўкрадуць рачныя красуні, каб ты астаўся тут назаўсёды на здзекі ім... Прачніся!

Гарбач не спіць і не дрэмле. Ён глядзіць. Ён слухае чула.

Сёння яе няма. Няма... Чаму яе сёння няма?

Яму хочацца піць. У яго сасмагла ў роце.

Чаго яму так хочацца піць? Ён зусім не еў сёння нічога. Чаго б яму так хацелася піць?

Ён нагінаецца з берага выспачкі, зачэрпвае поўную жменю вады. Вада чыстая, як люстэрка. Гарбач прыпадае сасмаглымі вуснамі да вады і сцепаецца. Ён махае рукою, і празрыстыя пырскі рассейваюцца на чыстай люстраной гладзіні ракі. На рацэ адзін за адным дробныя кругі нараджаюцца і паміраюць.

Якая горкая, нясмачная вада. А хочацца бо гэтак піць! Адкуль гэтая смага? Каб то гэтак хацець піць і не магчы напіцца. Пасярод вады седзячы і не магчы прагнаць смагі.

На момант аціхае Гарбач і сядзіць тады не зварухнуўшыся, усё адно як яго тут няма. Але вось праводзіць ён мокраю рукою па лбе. Як павуціна нейкая замінала яму бачыць дасюль: цяпер ён чуе і бачыць. Чуе галасы птушак. Бачыць, як нараджаецца дзеля радасці людское яснае сонца на сінім небе, праганяючы

нудныя шэрыя хмары. Ён глядзіць на руку. Чаго ў яго мокрая рука? Ён прыпамінае нейкі цьмяны сон, быццам яго пражыла неймаверна смага. Быццам язык высах у роце і не можа павярнуцца. Быццам па ўсім целе разліваецца гэты сухі агонь, і адчувае ён, як высыхае ў целе кроў, як высыхаюць рукі, як перасціхае калаціцца сэрца. Адкуль такая смага была? І быццам праз сон пачуў, як падносяць яму да вуснаў вады... І тады ён прачнуўся.

Спаў ён ці не? Гарбач не ведае. Гэта ўсё сон той пра Анішчыка недарэчны вінаваты. Ён ускаквае раптам. У целе няма больш ні кроплі стомленасці. Ён гатоў ісці немаведама куды.

Ці чакае яго Анішчык?.. Ці чакае ён наогул каго? Ці здаровы ён? Вось ён — Гарбач — прыйдзе возьме, а Анішчык і не чакаў яго і будзе рады.

Гарбач пераязджае на бераг і, схаваўшы човен, ідзе пад дарогу.

Лес гаманіў ужо, шчабятаў, спяваў. Густыя цёплыя пахі разліваліся, як мора. Між густога лісця на смарагды травы лілося яснае золата. І пачыналі дыхаць смарагды, і ціха заспявала таямнічая музыка іх душы. З попелу хмарыска і імглы нарадзіўся малады чысты аквамарын. Ён быў такі чысты і нявінны, як чыстыя і нявінныя — сінія вялікія вочы ў дзіцяці. І калі глядзець з-пад лісця ўгору, дык бачыш: высока-высока цвітуць прыгожыя валошкі. Заварушылася, зашамацела ўсё жывое. І пачалося прыгожае ў сваёй патаемнасці жыццё.

А Гарбачу цяжка на сэрцы. Быццам уся гэтая радасць жыцця з'явілася на зямлю, каб асвятліць яго балючы сум, каб зрабіць яго яшчэ больш балючым. Яму, які гэтак любіць жыццё, цяпер цяжка бачыць яго. Ён такі адзінокі, быццам нікога на свеце няма больш.

Вунь і дарога. Гарбачу неяк прыемна пачуць пад нагою цвёрды грунт. Вунь і тая мясціна, дзе развітаўся ён тады з Зояй. Ён прыпыняецца і глядзіць на дарогу. Дарога даўно схавала яе сляды.

«У, ненажэрная!.. — размахваецца на яе кіем Гарбач. — Пакажы мне хоць палец яе следу...»

Дарога прагна маўчыць.

«Шукай, калі хоч», — быццам кпіць яна з яго.

Паспрабуй знайдзі...

Дарога абчахае. Душна. Гарбач распранаецца, накідае пінжак наапашкі.

Радуецца і весяліцца, спявае і грае вакол яго жыццё.

Гарбач ідзе дарогаю.
Вунь і тая паваротка, за якою знікла тады Зоя...
Што гэта такое?!
Гарбач не дае веры сваім вачам.
Няўжо гэта яна?!
Хто там такі ідзе вельмі падобны?
Гэта яна!
Увесь свет раптам расквітнеў, як вялізны ўвесну сад.
Гэта яна!
— Гэта... ты? — пытае ён.
— Гэта я... — адказвае яна.
Іх рукі сыходзяцца ў маўклівым поціску і разыходзяцца зноў.
— Гэта ты...
Ён не чуе ні лесу, ні птушак, не бачыць ні сонца, ні неба.
— Я...
— Зноў?..
— Не... — ківае яна галавою.
— А што? — пытае ён моўчкі.
Сэрца шчыміць з радасці і болю. Яна стаіць перад ім, як пышны свежы рамонак. Ён чуе нават пах рамонка.
— Чаго ты нюхаеш?
— Мне запах рамонак.
— Дзе ён? — аглядаецца яна. — Уй, ашуканец які...
— Ён мне пахне...
І глядзіць ёй проста ў вочы.
Яна адводзіць погляд.
«Гэта яна — рамонак?! Чудны які...»
— Ты пешкам?
Ён баіцца ўголас папытаць: як яна трапіла зноў сюды, чаго. І таму ўсяк унікае гэтага пытання, хаця яно гарыць у яго ваччу.
Зоя разумее. Яна ўсё бачыць, хітрыца гэтая. І таксама нічога не гаворыць. Яна адказвае толькі на пытанне.
— Да Жызнева я ехала ў машыне... З начальнікам палітаддзела. А адтуль ішла праз Казіны Брод...
Цень праходзіць па яго твары.
— ...Ты ведаеш, што ён мой родны дзядзька?! Я потым раскажу. Мая матка была яго сястра...
— Чаго ён прыехаў?
Ён упарта не пытае, чаго яна прыехала.
— Па справах МТС... А з Жызнева ён прыедзе сюды... У машыне мой чамадан.

Чаго ў яго зашчымела так сэрца? Аднак ён баіцца, як агню, гэтага запытання.

— Чаго ён прыедзе?

— Ён прыедзе канчаткова даследаваць справу з Анішчыкам.

— А я ішоў да Анішчыка якраз.

«Не трэба... — гаворыць яна вачыма. — Пойдзем назад».

— Табе нічога не баліць? — пытае яна сарамяжа. — Ты такі худы...

Яна бярэ рукаў яго пінжака і надзяе яго сабе на руку.

Ён квітнее, як букет, апырсканы свежай вадой.

— Хто — я хворы?! Выдумала...

Пальцы яе рукі бягуць рукавом угору і, даткнуўшыся да яго пляча, астаюцца так.

Шырокаю ракою ўліваецца ў яго цела жыццё.

— Ты ведаеш, што Яніна ўцякла ў горад? — пытае яна.

— Ведаю... Як яна там?

— Цябе гэта вельмі цікавіць?

— Н-не зусім... Яна — харошая жанчына, Зоя.

— Харошая... А ў яе ёсць таварышка адна тут... Анэлька... Яна таксама харошая?

Сэрца ў Гарбача падае глыбока: гэта паскудная плётка дайшла да яе вушэй. Што рабіць? Што казаць?..

— Не... Яна зусім прыдуркаватая...

Ён не можа больш глядзець ёй у вочы. Яе погляд такі дапытлівы.

А пальцы яе рукі ляжаць на яго плячы, быццам яна забыла іх там.

Ён баіцца зварухнуцца, каб не спудзіць іх часам. Хай паляжаць яшчэ хоць трошкі. І не глядзіць у вочы.

«Што яна думае цяпер пра яго?»

Другая рука яе працягваецца да яго шыі і папраўляе прыкамечаны каўнер кашулі.

— Я прыехала працаваць сюды. У машыне я вязу яшчэ пасудак у яслі.

Ён глядзіць на яе.

Яна глянула на яго і ўсміхнулася.

Блакітная ўсмешка яе воч нагадала яму вясновы вецер у спусцістым галлі вербаў на шырокай сухой грэблі і далёкі кволы дымок над ракою і поплавам.

*1933–1939 гг.*

# ТАВАРЫШЫ
*Урывак з рамана*

## I

Вось ён і выйшаў з больніцы.

Перад ім ляжалі шырокія прасцягі вуліц, воля, увесь свет. Але сэрца сціснулася ад болю: прасцягі вуліц зрабіліся незнаёмыя, людзі — чужыя, а свет — страшны. І хоць вясновае сонца свяціла весела, душа ў яго была зачынена адна ў цёмнай каморцы без вокан і дзвярэй.

Што здарылася?

Ён прыпыніўся, трымаючы пад пахай невялічкі сувэртак з дробнымі рэчамі, якіх назбіралася за пяць месяцаў ягонай хваробы ў больніцы, і няўпэўнена поглядам абвёў вакол.

Галаве пад шапкай адчулася нязвычна — ён упершыню за пяць месяцаў надзеў яе. Рука міжволі прыўзнялася да галавы, каб паправіць шапку, ды, знясіленая, упала. На руцэ не ставала пальцаў, і толькі дзве куксачкі вялікага й паказальнага на правай ды вялікага на левай сведчылі, што на гэтых руках былі некалі пальцы.

На шырокай вуліцы, якою ці спяшаліся ці павольна йшлі радасна-вясёлыя або маркотна-заклапочаныя людзі, было гэтулькі жвавасці. Туды й назад ляцелі правароткія, лёгкія машыны, ззаду і спераду пазвоньвалі трамвайныя вагоны, чуцён быў рогат і жарты. На трамвайныя падножкі占 паначэпвалася моладзі — гэта ехалі з лекцыяў студэнты дахаты або палуднаваць; ехалі рабочыя з працы або на працу; спяшаліся служачыя ў сваіх службовых справах; ішлі ды ехалі жыхары ўскраін у сярэдзіну горада — хто купляць што, а хто пагуляць, пахадзіць па крамах, па рэстаранах, а іншыя вярталіся дахаты з рынкаў, з крам, з пагулянак. Мора фарбаў залівала вуліцы, павадка гукаў стаяла ўсцяж, а над усім — веснавое яснае паветра ды ў чыстым празрыстым паветры — вясёлае, радаснае сонца.

Кажны меў свой інтарэс у жыцці, кажнаму была якая-кольвек мэта, у кажнага свая радасць або гора. Нават ці была ў галаве думка пра што-небудзь, ён не мог бы сказаць. На маладым, але неяк адразу пастарэлым твары ў яго ценявала адзнака нядаўнага невыказнага болю, адкуль звычайна пачынаецца ў чалавека мяжа абыякавасці, а далей — мяжа роспачы. Каб у яго папыталі, куды ён ідзе, ён, бадай, ці адказаў бы, а каб і адказаў «Дадому», дык не цяміў бы, што гэта такое «дом» і што яму там

трэба. Малады дваццацігадовы хлопец, ён ішоў механічна, пераста ўляючы ногі і ўпёршы сляпым поглядам проста перад сабою, без жаднае думкі ў галаве, без жаднага пачуцця ці жадання. Адзіным адчуваннем ягоным было дагэтуль пакутаваць, адзіным пачуццём — несутрымны боль, ад якога нідзе не мог ён схавацца, бо там, дзе ён дагэтуль прабываў, у больніцы, яго аступаў з усіх бакоў гэты боль, гэтыя чалавечыя пакуты. А вакол ж яго цяпер смяяліся, спявала вясна, чуцён быў часты рогат маладых дзяўчат ды хлопцаў, варушылася жыццё. Аднаму яму было няміла нічога. Як перабалелае цела прызвычайваецца да болю й пакідае рэагаваць на яго, гэтак і ягонае сэрца й душа патанулі ў нядаўным невыказным болю, і цяпер адчуванні не рэагавалі больш на тое, што рабілася вакол. Шырокае мора абыякавасці заліло яго адчуванні, яго жаданні й думкі.

Ён ішоў гэтак доўга, павольна перастаўляючы ногі, а йшоў бы бясконца, каб інстынкт не падказаў звярнуць на бакавую вуліцу, пасля чаго яшчэ не раз даводзілася паварочваць з вуліц на завулкі, а з завулкаў на вуліцы, домікі пры якіх рабіліся ўсё меншымі, усё мізарнейшымі паміж садоў ды гародаў, пакуль не спыніўся на ўскраіне горада перад старэнькім, але чысценькім домікам з агародчыкам, дзе разрасліся густа краскі.

Прыемны выгляд доміка з пафарбаванымі аканіцамі, з ашалёўкай, дагледжаны добра агародчык не абудзіў, аднак, у яго ў сэрцы жаданага пачуцця радасці, а толькі выклікаў рэзкі боль і вочы яму заслала туманам. Ён прыпыніўся на момант перад дзвярцамі, ён упершыню праходзіць у іх пасля таго, упершыню адчыняе дзвюма куксачкамі вялікага й паказальнага пальцаў. А да таго ў яго былі ўсе пальцы на абедзвюх руках, як і ў людзей. Туман не разыходзіўся перад вачыма, а яшчэ пагусцеў, і густая зеляніна ў агародчыку зрабілася шэрай, невыразнай, нібыта засыпаў яе ўзяў хто мяккім густым пылам.

Цэлы век прамінуў з таго часу, як выйшаў ён з больніцы і дайшоў да дзвярэй гэтага прыемнага доміка, і праз увесь гэты век даганяла яго, смяялася яму надакучліва, нахабна ў вочы радаснае жыццё.

Ён яшчэ не ўзяўся за клямку дзвярэй, як нехта выйшаў з хаты ў сенцы й паспешна адчыніў дзверы. Адзіным голасам з усіх, што чуў ён на працягу цэлага веку йшоўшы сюды, які дайшоў да ягонага сэрца й выклікаў на вочы чорныя слёзы, быў матчын голас:

— А Васілька ж ты мой... А мой жа ты сыночак, а мой жа ты галубок, — прыказвала маці, абдымаючы яго. — А бацька ж

прыйдзе з работы толькі пад вечар. Як бы ён рады быў, каб угледзеў цябе, мой сыночак.

Гэтыя словы ўпершыню за ўвесь час, што не бачыў ён бацькоў, абудзілі ў яго ў сэрцы пачуццё крыўды й нейкае злабы. «Рады быў бы, што сын прыйшоў бадай без рук. Вось якая радасць».

Але падумаўшы гэта, глянуў на матку, нібыта хочучы знайсці на твары ў яе пацвердзіны свайму адчуванню, і ўгледзеў у вачох матчыных такую любасць да сына, што ў яго неяк разам памякчэла на сэрцы і з воч выплылі на шчокі слёзы.

Загледзеўшы ў яго слёзы, заплакала й маці, не пакідаючы ўсё прыказваць: «А мой ты сынок, а мой ты гаротны галубок».

— Дай мне, сынок, — што гэта ў цябе... Дай я ўнясу ў хату. Ідзі, я пазачыняю, мой сыночак.

У хаце было гэтаксама чыста й акуратна, як і даўней. Кажная рэч мела сваё месца. Пафарбаваная падлога блішчэла. Белыя вокны з чыстымі фіранкамі стваралі пачуццё ўтульнасці, а шматлікія малюнкі на сценах выклікалі даўно забытае адчуванне магутнае радасці творчае працы. Гэтыя малюнкі ён маляваў некалі сам, як, яшчэ поўны спадзяванняў, збіраўся паступаць у Акадэмію мастацтваў. Знаныя мастакі фарбы хвалілі ягоныя малюнкі й заахвочвалі да працы. Гэта было тады. А цяпер... На руках у яго засталося толькі некалькі куксачак замест пальцаў, праз якія ён адчуваў некалі неабдымную радасць творчасці.

Незвычайным рухам скінуў ён шапку, павесіў на вешалку й павёў поглядам вакол. Усё было як і тады. Толькі ён сам не такі, як тады. І ён стаяў, як чужы чалавек, не саступаючы з месца, гледзячы некуды далёкімі вачыма.

— Сядзь, сынок, чаго ты стаіш, — праз слёзы праказала маці.

Ён паслухаў і моўчкі сеў на краечку крэсла.

«Чужы... Усё чужое, і ён сам тут чужы».

Маці заўважыла чулым матчыным сэрцам, што робіцца з сынам. Ёй хацелася выказаць як найбольш турботы й пяшчотаў да сына — яму цяпер гэтак патрэбны яны.

— Перасядзь, Васілька, на канапу, там мякчэй. Ты замарыўся, мой сынок, ідучы ці блізкі свет.

Ён зноў паслухаў. На канапе было мякка ды ўтульна, і перад вачыма быў увесь пакой. Але таму, што было тут гэтак утульна, гэтак акуратна й чыста, гэтак на месцы ўсё, яшчэ больш апанавала яго самота. Нашто яму гэта ўсё і нашто гэтаму ўсяму ён?

У хаце панавала сціш. Маці ціханька выйшла за дзверы й павольна выцерла маршчаватаю далоняю мокрыя шчокі.

— Мой гаротны сынок, — без гуку шапталі вусны. — Трэ-

ба ж конча цябе было стрэць такому няшчасцю.

Яна ўздыхнула моцна. Уздых дайшоў да вушэй сына. Ён паправіўся на канапе й правёў далоняю па стрыжанай галаве, па твары, быццам зрываючы павучынне, якое густа апляло яму галаву, закрыла вочы й вушы, не дае глянуць на свет ды пачуць гукі жыцця.

— Ідзі памыйся трохі, сынок, я табе дам есці, — пачуў ён матчын голас.

А ён яшчэ ні слова не азваўся да маткі. Але, не цямячы нават гэтага, сам-насам са сваёю вялікаю самотай, ён устаў і пайшоў на кухню да мыцельніка.

Даўней ён заўсёды перад умываннем скідаў кашулю й мыўся ўвесь да паясніцы, упіваючыся асалоды ад свежасці халоднае вады, адчуваючы, як радасна бяжыць па жылах кроў, як робіцца бадзёра, а ўсё цела наліваецца сталёваю сілаю. Цяпер ён памыў толькі твар і рукі, размыліўшы ў далонях бяспалых рук мыла й павёўшы намыленымі далонямі па твары. Халодная вада не дала супакою. Не ўліла бадзёрасці ў дужае, але такое змяклае цела. Самота й абыякавасць моцна трымалі яго ў сваіх руках.

Пакуль ён уціраўся, маці рупілася ля стала, устаўляючы яго наедкам, як для самага дарагога госця. А хіба ж не быў ён самым дарагім госцем?

Хіба не дзеля яго — адзінага дзіцяці — зжывала яна свой век?

З гарода прынесла яна свежае радыскі з салатай, паставіла шклянку смятаны, накроіла каўбасы, вяндліны.

— Зараз, Васілька, я згатую чаю, а пакуль што бяры кусай што.

Маці ў страху чакала, як сын пачне есці, як ён возьме нож, відэлку, як трымаць будзе шклянку. «Гаротны сынок мой, — думала яна, — яму ж трэба будзе абедзвюма рукамі браць шклянку». І сэрца ў яе сціскалася з жалю. Яна гэтак рада была, як ён прыйшоў, — усё ж такі ён прыйшоў, яе сын, яе адзінае дзіця, — і гэткі боль нараджаўся ды большаў у яе ў сэрцы за яго: як ён жыць будзе?

— Ты ж любіў некалі, Васілька, піць сырыя яйкі — куры знеслі ўчора, — я табе прынясу.

— Цяпер не люблю, — адказаў ён, сядаючы нязграбна ў застолле.

Ён сказаў праўду: цяпер ён не любіў не толькі ўсяго таго, што любіў даўней, цяпер ён еў сілаю, — гэтак прывучылі яго ў больніцы. Есці трэба, і ён еў, еў механічна, не чуючы ніякага

смаку, еў таму, што трэба было есці, таму што гэтак трэба. А чаму гэтак трэба, ён не думаў, таму што наогул ён не думаў, бо ўсю ягоную істоту паглынула мора абыякавасці, мора самоты.

«Божа мой, — падумала маці, пачуўшы сынаў голас. — Божа мой, ці ж гэтак змяніўся ягоны голас, ці гэта я ўжо адвыкла ад свайго сына».

Маці не памылялася, нават голас сынаў змяніўся, змяніўся так, што каб яна не ведала, што гэта яе сын, дык мо й не пазнала б яго. Матчына сэрца сціснулася трывогаю.

— Та я, можа, спяку яечню, — сказала яна.

— Спячы, — абыякава адказаў ён.

Яна барджэй распаліла прымус, раскроіла на патэльню сала й спякла яечню.

Сын еў, безуважным поглядам гледзячы некуды, а яна стаяла пры печы і ўзіралася на яго. Божа мой, трэба ж гэтак змяніцца яе сыну!

Але ў руках у яе быў сродак, якім яна мела на ўвазе хоць трохі перайначыць яго й вярнуць з тае дарогі, на якую паставіла яго вялікае няшчасце. Яна чакала, калі сын пакіне есці. А тым часам рупліва глядзела, як нязручна бярэ ён у дзве куксачкі відэлку й праколвае ёю кружочак каўбасы ці лісцік вяндліны і бярэ ў рот, як кладзе відэлку, каб узяць скібачку хлеба адкусіць, і як нехаць павольна жуе, з сілаю праглынаючы ежу, быццам у яго ў горле перасела й не дае праглынуць.

«Еш, мой сынок любы, еш, — думала яна, — ты ж гэтак схуднеў».

Еў ён нядоўга й мала, а даўней любіў пад’есці добра, — у дужага рабочага хлопца-слесара некалі быў добры апетыт.

— Можа б, ты, Васілёк, выпіў салодкага малака? — папытала маці.

Ён нічога не адказаў.

— А можа, кіслага?

— Не, — адказаў ён пахмура і падышоў да мыцельніка й абацёр уціральнікам рот.

«Адзіная прывычка даўнейшая. Трэба ж гэтак змяніцца яе сыну», — з жалем падумала маці.

Калі ж ён пайшоў у другі пакой і сеў на канапе, на тым самым месцы, дзе сядзеў перад снеданнем, маці прынесла са спальні й падала яму ліст.

— Гэта табе, сынок, учора прынеслі з пошты.

Ён узяў у дзве куксачкі ліст і зубамі разарваў канверт з ражка. Ліст і канверт моцна адносіў дактарскімі пахамі, і гэта абу-

дзіла ў душы ў яго непрыемнае пачуццё. Але пачуццё гэтае адно бліснула й стухла.

Ён чытаў ліст, і ў галаве не нараджаліся ўяўленні, не абуджаліся ўспаміны, не выклікалася пачуцця. Быццам здалёку, за тысячы кіламетраў бачыў ён гэтыя літары, напісаныя ўяўна жаноцкай рукою. Ён нават не чытаў, ён бегаў вачыма па паперы, без сэнсу та ўзад, та ўперад, не спыняючыся нідзе, не цямячы ніводнага слова.

Маці безупынку глядзела на сына. Яна спадзявалася, што ліст абудзіць яго ад таго замарачнага сну, што паглынуў яго, што ў сына вынікнуць пытанні, што з’явіцца нейкая цікавасць і ён патроху вернецца да жыцця. Яна ведала, што ліст прыслала сынава добрая таварышка Раіса Ланеўская, якая скончыла летась медычны інстытут, а цяпер працуе ў глухім раёне доктарам у больніцы. Яна ведала, што прыяцельскасць у яе сына з гэтаю дзяўчынаю магла прывесці да цяснейшае блізкасці, й рада была таму. Што ж будзе цяпер? Яна чакала, моўчкі гледзячы на сына, шукаючы на твары ў яго, у поглядзе іскрачкі жыцця, якое пакінула яго тады, як натрапіла гэтае няшчасце. Няўжо яна дарэмна чакае?

Сын усё яшчэ глядзеў у ліст, не чытаючы яго і не адсоўваючы, як прыйшоў бацька. Ён прынёс у ціхую хату гаманы й жвавасці. Рухлівасць запоўніла пакой. З ягоным прыходам, здаецца, усе рэчы пасыходзілі са свайго месца й пайшлі гуляць па пакоі. Увесь чорны, з куродыму, з пылу, нават не скідаючы шапкі, стары каваль размашліваю хадою падышоў да сына.

— Ну, здароў, сынок, — і абняў яго моцным абдымкам і моцна пацалаваў.

Тады скінуў шапку, аддаў матцы, каб павесіла, а сам, быццам бы апраўдваючыся перад сынам, сказаў:

— А я гэта на перапынку пайшоў у заўком пазваніць у больніцу, дык мне адказваюць, што Савановіч ужо выпісаўся й пайшоў дахаты. Ну, я папрасіўся, і начальнік цэха пусціў мяне. З такой бо прычыны...

Сын маўчаў. Ці то слухаў бацьку, ці то глядзеў на ліст, што ляжаў перад ім на стале, ці то думаў нешта. Бацька быццам не заўважаў гэтага, ён гаманіў ды гаманіў без канца, пакуль маці не напамянула, што яму трэба ўмыцца ды пераапрануцца.

Стары каваль выняў з кішэні й паставіў на стол пляшку гарэлкі, а тады, не пакідаючы гаманіць і пераказваць навіны з завода, пайшоў прыводзіць сябе да ладу.

«Вось такі й сын быў, як бацька, рухавы, гаманкі ды вясёлы й дужы», — думала маці, зусім не слухаючы ўсяго, што казаў

чалавек. Усімі сваймі думкамі й адчуваннямі, усёю сваёю істотаю была яна з сынам, чулым матчыным сэрцам ловячы дых яго жыцця.

— Ну, маці, падавай што-небудзь на стол. Па чарцы вып’ем з сынам, — сказаў бацька, памыўшыся й пераапрануўшыся.

«Можа, ён і павесялее троху, выпіўшы чарку», — падумала маці.

Але й за чаркаю сын быў гэткі самы й на пытанні або не адказваў, або адказваў адным словам «так» ці «не».

Першую чарку ён выпіў нехаць, але другую ўжо ахватней, а трэцюю й чацвертую нібыта нават з прыемнасцю, усё адно як намагаўся ён забыць сваё гора. Але калі бацька сказаў, бачучы цяжкі сынаў настрой: «Не бядуй, сынку, будзем неяк жыць», — ён раптам заплакаў ціха, не хаваючы слёз. Гледзячы на яго, заплакала й маці, і нават бацька выцер рукою вочы. Пачастунак выйшаў сумны, а гутарка ніяк не склеілася, і задаўга яшчэ да вечара ў хаце астоялася сціш.

Гэтак і дзень прамінуў. У хату зайшоў вечар, і настала ноч. Паляглі спаць.

Ён доўга корпаўся, раздзяючыся ды разуваючыся. Маці колькі разоў памыкалася пасобіць яму, але сутрымалася, баючыся, што яшчэ больш растравіць душэўную сынаву рану.

Доўга не йшоў сон. Не спалі, прыслухоўваючыся, ці спіць сын. Не спаў і ён.

Як толькі апынуўся ён на сваёй хатняй утульнай пасцелі, крыўда нейкая вялікая падступалася пад горла. Цяпер ён не стрымліваў слёз, дый навошта гэта было. Вакол яго была цёмная ноч, і ні ў хаце, ні на дварэ не абуджаўся ніякі гук. Цяпер ён цалкам мог быць самім сабою й ніхто не мог замінаць яму. Даючы волю слязам, ён моцна заплакаў.

Напэўна, слёзы чулі бацькі, але што да таго? Хіба мог зразумець хто ягонае гора?

Успаміны з усіх бакоў пачалі аступаць яго. Вось ён адзіны сын бацькоў, скончыўшы сямігодку, набыў кваліфікацыю слесара. Яго ўцяглі ў камсамол. Завод зрабіўся яму другім домам... Сяння атрымаў ён ліст. Раіса Ланеўская, лепшая ягоная прыяцелька, якая летась скончыла медычны інстытут, з якою разам наведваў ён тэатры, кіно, музеі й паркі, нічога не ведае пра тое, што здарылася з ім і якія пакуты абкружаюць яго сяння. А тады ён быў вясёлы й дужы хлопец. Адзіным жаданнем ягоным было калісьці стаць вартым свае прыяцелькі. Радасць жыцця вакол

выклікала яго да актыўнае чыннасці, яму хацелася ўвекапомніць тое, што гэтак радавала й захапляла, як здавалася яму, людзей. Мастацкія абразы штырхнулі яго да актыўнага дзеяння. І ён стаў маляваць нясмела свае першыя абразкі жыццярадаснае прыроды, адначасна шукаючы сустрэчаў з мастакамі, з крытыкамі, з людзьмі, што маглі дапамагчы яму ў ягонай радаснай працы... Цяпер гэтыя пейзажы вісяць на сценах усяе кватэры, нават тут, дзе ён павінен астацца сам-насам з цёмнаю ноччу. А яна й не ведае, што здарылася з ім, не ведае, які шлях чакае яго, калеку…

Слёзы сцякалі на падушку, й пад шчакою рабілася мокра. Вакол панавала магутная начная сціш.

...А цяпер яна нічога, нічога не ведае пра яго. Што там пішацца ў лісце? Ён паспрабаваў хоць што-небудзь прыгадаць з прачытанага й не мог. Што ж яму ўсё-такі пісала Раіса Ланеўская?

Ён устаў, запаліў святло, узяў ліст і пачаў чытаць. Раіса... Раіса... Балюча крычаў усярэдзіне ў яго нейкі голас, і словы скакалі на паперы. Але вялікім намаганнем волі прымусіў ён сябе ўдумацца ў тое, што чытаў. Раіса Ланеўская пісала вось што.

«Дарагі мой мастак.

Вось дзе табе было б натуры для тваіх малюнкаў.

Уяві сабе колькі дзесяткаў дагорбленых, пачарнелых драўляных хатак на балацянай лагчыне, якая зарасла асінавым парасьнікам. Па дарогах можна ездзіць толькі ўлетку ды ўзімку. І таму да нас у больніцу едуць лячыцца не тады, калі захварэюць, а тады, як можна прыехаць.

Тут няма ні пошты, ні кааператыва, ні сельсавета нават. Усё гэта параскідвана ў розных мясцінах, на некалькі кіламетраў адсюль. Больніца наша на 15 ложкаў. Акром больніцы тут ёсць яшчэ школа — чатырохгодка, пажарнае «дэпо», праўленне льнаводчага калгаса. Вось і ўсе тутэйшыя ўстановы.

Даўней я ніколі не жыла на вёсцы. Я ўпершыню ўбачыла тут, як расце лён... Упачатку мне здалося ўсё, што я ўбачыла тут, вельмі дзікім. Як пачынала змяркаць, напрыклад, я йшла пад дзверы шукаць выключальнік. Не, тут не было электрычнасці. Санітарка ўносіла ясна гарэўшую лямпу, ад якое смярдзела газай ці куродымам. Ціха тут, спакойна ўвечары, жахліва ціха...

Больніцу я застала вельмі дрэнную. Пятнаццаць год, з таго часу, як адчынілі, яе не рамантавалі. Бруд, клапы, прусакі, падраная бялізна й звычайныя драўляныя лежакі замест ложкаў.

Заржавелы інструмант валяўся на вокнах. Нават звычайнае чыстае анучкі для перавязкі ранаў я не знайшла нідзе. Не было самае звычайнае шафы... Папярэдніка майго райздраў звольніў за п'янства, а фельчар ды акушэрка маюць практычны стаж мо толькі крыху большы, як я сама.

Як назло, трапіла я сюды ў разгар дызентэрыі. Дарогі тым часам яшчэ былі дадзіва добрыя, і на прыём прыходзіла па 60–70 чалавек на дзень. Вось калі я ўведала, што такое цяжкасці.

Дызентэрыйную пошасць мы зліквідавалі, і я ўзялася прыводзіць да ладу больніцу.

Я склала каштарыс на абсталяванне ды рамонт і дамаглася ад райздрава сродкаў. Мы набылі інструмант, падладзілі печы, пліты, пафарбавалі, пабялілі пакоі. Цяпер нашая больніца выглядае як больніца. На вокнах і століках стаяць вазоны, краскі, на вокнах белыя фіранкі, а самае галоўнае — усюды чысціня. І ў чакальню амбулаторыі хворыя не заходзяць больш у верхняй вопратцы, прывучаем карыстацца вешалкаю.

Потым, калі справа дайшла да абсталявання больніцы, я ўбачыла вялікі недахоп у сваёй медыцынскай падрыхтоўцы. Бо там некалі, у гарадской клініцы, дзе адбывала я практыку, у перавязачнай нам усё падавалі ў рукі гатовым. А вось дзе ляжыць марля з ватаю, дзе захоўваецца ігла, як стэрылізуюць шоўк для швоў, усе гэтыя шкляначкі й бутэлечкі — усё гэта мне зусім няведамае было. Мы ж ні разу практычна не кіравалі перавязачнай.

Прывезлі апараты для прадзьмухвання вушэй, пульверызатары апырскваць скулячкі. Фельчар іх ніколі ў вочы не бачыў, акушэрка таксама. І вось давялося мне хавацца ад іх і самой вучыцца валодаць усім гэтым інструментам. Перш нічога не выходзіла, не так складвала апараты, як трэба, злавалася сама на сябе, на інстытут. Я вельмі ўдзячна, вядома, інстытуту за тое, што падрыхтаваў мяне тэарэтычна, але ж я не ведала, як абыходзіцца з пульверызатарам, хаця апырскванне я зрабіла класічна. Адным словам, тут высветлілася, што я не ведаю шмат якіх дробязяў, якіх не ведаць няможна.

Выклікаюць мяне аднойчы ў суседняе сяло — там у дзіцячым доме з'явілася трахома. Трэба хутка агледзець дзяцей і хворых адправіць у гарадскую больніцу. Дзяцей 150 чалавек. Я прыгадваю сімптомы трахомы. Усё прыпамянула, як у кніжцы, а тады раптам думаю: «Што ж мне рабіць? Я ж павекаў не ўмею закасваць».

Прыехалі, пачала глядзець. Нічога не выходзіць, уцякаюць у

мяне з рук павекі. Дзяцей шкада, ім жа баліць. Выбрала перш 40 падазроных на трахому, але надалей, калі трохі прывучылася, з гэтых 40 у мяне засталося толькі 28. І што ж ты думаеш, з горада мне 17 дзяцей вярнулі назад, як зусім здаровых. Навошта я іх прымушала пакутаваць? Усё гэта ад таго, што ў інстытуце на практыцы мы ніколі не прымалі хворых.

Сістэма выкладання ў інстытуце намагае на выключныя захворванні, на асаблівыя, але дробныя сімптомы, гіпотэзы ды тэорыі. Усё гэта збольшага ніякага ўжытку на практыцы не знаходзіць. Я сказала б, што ў студэнтаў выхоўваецца павага да выключных выпадкаў і грэблівасць да звычайных, шырака распаўсюджаных хваробаў. Часам нават самі кіраўнікі, прафесары, седзячы на алімпійскіх узгор'ях навукі, не бачаць, што робіцца на зямлі, самі трацяць кваліфікацыю ў пытаннях гэтак званае малое хірургіі, а яна вось больш за ўсё патрэбна маладому доктару, асабліва на вёсцы».

«Навошта яна мне ўсё гэта піша? — хваравіта думае ён, чытаючы Раісіны разважанні. — Ці даўно я з больніцы, ці не дасталі яны там з мяне і не пакінулі сабе мае душы? — Аднак ён не пакінуў чытаць. І сэнс даходзіў да ягонае свядомасці такім, якім яго імкнулася пераказаць Раіса Ланеўская. Але й чытаючы, ён не пакідаў думаць: — Усё адно як яна ведае, што са мною здарылася, і ўсімі разважаннямі хоча падкрэсліць, што дарога да жыцця, якую мне магла яшчэ даць медыцына, зачынена назаўсёды».

«Раскажу табе, як я непакоілася, упершыню робячы хірургічную аперацыю, — пісала далей Ланеўская. — Ты гэтак пасмяяўся б з мяне. Але мне было не да смеху. Ведаеш, распачала я аперацыю, а тымчасам у амбулаторыі чакае прыёму шмат хворых. Яны таксама ведаюць пра аперацыю і, напэўна, дагадваюцца, што гэта мая першая аперацыя. Яны гэтаксама чакаюць выніку. Але мяне цікавіць вынік больш, як каго, і я баюся яго. Развязваецца лёс не толькі хворае, але ў пэўнай меры і доктараў. Праз 40 хвілін я скончыла аперацыю добра. Не магу апісаць табе мае радасці. Мне гэтак хацелася дзякаваць хворай, і я праз усю ноч хадзіла да яе, праведвала, хаця яна й пачувалася нядрэнна.

Цяпер я засталася ў больніцы адна за ўсіх: за фельчара, які паехаў вучыцца на курсы зубных дактароў, за акушэрку, якая ў адпачынку па цяжарнасці. А ў радзільнай палаце мяне чакае парадзіха, і выроджвае яна ўпершыню, я ўпершыню буду пры-

маць дзіця. Аніяк не магу заснуць, ходзікі мае спыніліся, я не ведаю, якая гадзіна. Я адна ў вялікім парожным доме. І калі хочаш ведаць, цяпер трохі нудна. Такім вечарам мне хацелася б быць з табою калі не ў тэатры, дык у парку, і гаварыць, поўна гаварыць і смяяцца, смяяцца бясконца. Цяпер пра гэта прыходзіцца толькі марыць. Калі ж яно будзе йзноў? А можа, не будзе ніколі?

Гэтае восені ты, напэўна, будзеш ужо ў акадэміі, а маленькі вясковы доктар з глухога раёна не мае ніякага шанцу апынуцца ў сталіцы. Ці стрэнемся мы калі?»

— Ці стрэнемся? — праказаў шэптам ён, і радасны вечаровы пейзаж схавала ад яго воч аблачына. — Каб яна ведала, што дарога ў акадэмію мне перагароджана назаўсёды і што я быў бы шчаслівым без акадэміі, але з пальцамі на руках дзе-небудзь у такім глухім кутку, як яна.

Ён выцер рукою вочы. Аблачына на мамент пасвятлела. І стаў чытаць далей.

«Дзеля нашага сяброўства, Васіль, я спадзяюся, што ты будзеш пісаць мне, а часам і радаваць мяне сваімі малюнкамі, якімі, — памятаеш? — я гэтак захаплялася.

Тымчасам я чамусьці ўсё чакала ад цябе ліста, зусім забываючы, дзівачка, што ты ж яшчэ не ведаеш майго адраса. Пішы пра ўсё, пра ўсё: і як працуеш на заводзе, і куды ходзіш маляваць, з кім і дзе гуляеш. Ты ведаеш, што мне ўсё гэта зусім не абыякава, што гэта не звычайная цікавасць выпадковае дзяўчыны. Дык спадзяюся.

Прывітанне тваім старым.

У вашым агародчыку, напэўна, пышуць краскі, цвіце бэз. Які прыгожы быў бы нацюрморт у стылі фламандскіх майстроў. Якое ўтульнасці ўнёс бы ён у такі, як мой, парожны, нудны пакой.

Прабач, што я гэтак шмат напісала пра свае медыцынскія справы, мне яно здаецца вельмі важным, а я хачу, каб ты лепш ведаў, як я жыву й што раблю.

Твая *Раіса*».

Ён сціснуў далоньмі галаву і, узапёршыся локцямі на стол, доўга сядзеў гэтак не зварухнуўшыся. Нейкія няпэўныя думкі блукалі ў галаве. Нейкія даўно забытыя вобразы паўставалі перад ягоным далёкім поглядам. Нясмелыя пачуцці нараджаліся глыбака ў сэрцы й пачыналі ўзрушаць яго моцна, па-вясноваму. Няведамая дасюль дужасць расла ўва ўсім целе. Здавалася яму,

што ў пакоі падзьмула лёгкім ветрыкам, і быццам ён нават пачуў, як заварушыліся фіранкі на вокнах. Ясны прамень святла, як гостры меч, прарэзаў цёмныя нетры далечы, і бляск яго адсвятліўся на твары ў маладое жанчыны. Жанчына стаяла, сашчапіўшы рукі на патыліцы, паміж зялёных маладых бярэзінак, а вецер моцна дыхаў у твар ёй і слаў у паветры доўгія валасы. Якога калеру былі валасы ў яе, погляд не мог адразу сказаць. Мо яны былі русавыя, мо зеленаватыя, а мо блакітныя ці сінія. А чаму б ім не быць чорнымі, як ноч, і ды гарэць дзівоснымі іскрамі? Жанчына — уся імклівасць, уся парыванне, але яна стаіць, а мо толькі павольна ідзе, і вецер моцна дыша ёй у твар. На ёй зялёная ў вялікія кветкі сукенка, і вецер гуляе ёю ў нагах, як хоча. Не, пэўна, жанчына ідзе. Куды ж яна ідзе, сашчапіўшы на патыліцы рукі, а грудзі і твар падставіўшы моцнаму ветру? Ага. Хай цалуе вецер, хай абдымае цесна... І маладыя бярэзінкі, здаецца, ідуць з ёю ўпоравень, а галлё іх, як валасы ў жанчыны, сцелецца на ветры.

— Раіса... Раіса... — шэпча ён і хапае куксамі пальцаў аловак.

На чыстым адваротным баку ліста пачынае вырысоўвацца з-пад алоўка твар і постаць маладое жанчыны, з валасамі, разасланымі на ветры, з рукамі, сашчэпленымі на патыліцы. Куды ідзе яна?

Ад незвычайнага напружання баліць рука. Ён хапае паперу й піша адказ на ліст. Хутчэй... Хутчэй... Напісаць, пакуль аловак сяк-так трымаецца ў самлелай руцэ. І на паперы кладуцца няроўныя рады пакарэжаных словаў. Хутчэй... Расказаць ёй пра ўсё гора, у якім апынуўся ён, пра той безнадзейны настрой, які моцна ўзяў яго ў свае рукі, пра тое, як жахліва пакалечаны ён жыццём і якую чалавечую драму перажывае. А тады... Хай яна лічыць сябе вольнаю ад абавязку, ускладзенага на яе пачуццём, хай развяжа сабе рукі, каб ступіць на шырокі жыццёвы шлях не з калекам, як ён, а з такім чалавекам, як сама. І пажадаць ёй шчасця назаўсёды, — дашчэнту караў ён сябе. Ён адчуваў вялікую асалоду ад гэтае самакары і зласлівую радасць на самога сябе. Ага... Я нашлю на цябе ўсе кары свету, я знішчу цябе ўшчэнт за ўсе твае эгаістычныя парыванкі й жаданні. «Ты» — гэта быў ён сам, ён караў самога сябе. Колькі разоў прыпыняўся ён, даючы спачын самлелай руцэ. Але яго цягло чым хутчэй выказаць тое, што ён хацеў.

Нарэшце астатняе слова дапісана й аловак упаў на стол. З тонкім звонам — знясіленая рука больш не магла яго трымаць.

Ён узяў і прачытаў напісанае:

«Дарагая Раіса.

Пяць месяцаў таму са мною здарылася няшчасце, пра якое каб ты ведала, дык не напісала б свайго ліста мне. Я быў адным з лепшых слесараў кавальскага цэха, але здарылася гэта якраз са мною, а не з кім з горшых, выбачай, я хачу сказаць, з менш вопытных рабочых. Ніхто не можа растлумачыць, як гэта здарылася, а сам я, надзіва, тым больш. Факт толькі той, што я застаўся без пальцаў на абедзвюх руках. Хто вінаваціць у гэтым мяне асабіста (мне ніхто гэтага не сказаў, але я адчуваю), і маюць рацыю. Адзін з лепшых слесараў, камсамолец, перадавік, у якога камсамольская арганізацыя, ведучы сваю прапаганду, раіла вучыцца «менш вопытным», а з гадоў старэйшым рабочым, сунуў у машыну рукі, каб яму патрушчыла іх, паадломвала пальцы. Маюць рацыю, калі так кажуць. Іншыя ж кажуць (але, напэўна, не ўголас, баючыся адміністрацыі), што вінна ў гэтым заводская загараджальная тэхніка, пры наяўнасці якое не можа быць няшчасных выпадкаў, асабліва на слесарскіх варштатах. Ну што ж... Яны, можа, таксама маюць рацыю. Але карацей, ты бачыш, якіх намаганняў высільваю я, каб напісаць гэты кароценькі ліст. Мне лягчэй было б трымаць аловак у дзвёх далонях, але ліст паперы на стале не прымацаваны, і я трымаю аловак у тым, што засталося ў мяне на правай руцэ ад пяцёх пальцаў — у дзвех невялічкіх куксачках вялікага й паказальнага пальцаў, абрэзаных мне дактарамі, паказальны — па другі сустаў, а вялікі — па першы. Сёння я выйшаў з больніцы. Дома нават не чакалі. А не памятаю, як ішоў, як прыйшоў дадому. Маці адчыніла дзверы. Памятаю, што я нават плакаў. Як заўважыў абыякава, плакала й маці. Цяпер для мяне скончылася ўсё: праца на заводзе, агульныя інтарэсы з маімі былымі таварышамі, мары-надзеі пра паступленне ў акадэмію й наша сяброўства, Раіса (дазволь мне яшчэ да канца ліста называць цябе гэтак).

Я маю поўную рацыю, калі пішу так, бо я няздатны больш ні на што. Чаму звычайна кажуць пра чалавечую беспараднасць «як без рук» пры адсутнасці ў чалавека якое-небудзь звычайнае, але вельмі патрэбнае рэчы? Дык гэта без рэчы як без рук, а як жа без самых рук? І таму я не хачу быць цяжарам нікому, а тым больш табе. І я зусім не крыўдую, калі з маіх таварышоў па цэху, па заводу, па камсамолу ніхто за ўсе пяць месяцаў, што ляжаў я ў больніцы, не наведаў мяне. Бо які я ім цяпер таварыш? Не крыўдую (хаця часам хацелася б крыўдаваць на навуку) на дактароў, якія рэзалі, кроілі й секлі мае рукі. Пэўна, лепш яны не

маглі зрабіць, як зрабілі. А што карысці быць беспадстаўным эгаістам і маляваць сабе нерэальныя перспектывы? Выходзіць, наканована было ахвяраваць усім мне, а не каму іншаму. Мне наканована было патупаць у жыццёвым моры, а не каму іншаму. Гэтак наканована, гэтак яно павінна быць і гэтак астанецца. Было б смешна гаварыць пра будучае жыццё пры маім стане. Дый наагул пра маё жыццё я не хачу гаварыць. Сёння я ставіўся, як і праз увесь апошні час, да гэтага пытання зусім абыякава. Я ні правошта не думаў, ні навошта не зважаў, — я хадзіў, еў, клаўся спаць, ўставаў і рабіў іншыя зусім звычайныя элементарныя чалавечыя штодзённыя справы як аўтамат. Я нават чытаў твой ліст аўтаматычна, й адно лёгшы спаць навярзлося мне жаданне прыпамятаць хоць што з твайго ліста, і ведама, што не мог. І я заплакаў і ўстаў з ложка, запаліў электрычнасць ды перачытаў зноў яго.

На слёзы мае ты не зважай, напэўна, я плакаў таксама аўтаматычна. Я нават аўтаматычна сёння піў гарэлку. Выпіў чарку, выпіў другую, а далей — па інерцыі.

І вось калі я толькі чытаў твой ліст, цямячы ўвесь сэнс яго ад пачатку й да канца, перад маім поглядам асвятлілася раптам узяла далеч, і я ўхапіў рэшткамі сваіх двух пальцаў аловак і накідаў прыгаданы мною твой вобраз. Але гэта, відаць, апошняе, што я намаляваў і што я пішу.

Вольнае жыццё для мяне скончанае. Я прасядзеў большую палову ночы. На гэтым канчаю ды іду спаць. Гэта таксама аўтаматычна.

Бывайце здаровы, Раіса Ланеўская. Жадаю Вам у Вашым жыцці поўнага шчасця.

*Васіль Савановіч*».

Перачытаўшы, ён паклаў ліст і йзноў сціснуў рукамі галаву. Далеч была цёмная, беспрасветная. Мінулае засталося ў мінулым.

«Навошта я пісаў усё гэта? — падумаў ён. — Каму патрэбна яно? Ці не імкнуся, як старац, выклікаць я пачуццё жаласлівасці й спагады? Не? Дык навошта было пісаць? Нікому ніякае справы да цябе няма й быць не можа. І гэты твой мізэрны сродак нічога не пасобіць вярнуцца ў даўнейшае жыццё. Дарога табе зачынена туды назаўсёды. Перад табой толькі будучыня, твая будучыня».

Скамячыўшы абодва лісты, ён кінуў іх і выключыў электрычнасць. Ноч была ўсё такая самая ціхая, усё такая самая цёмная. Ён кінуўся на ложак і адчуў ува ўсім целе млявасць.

— Спаць, — прагучэў нейкі голас. — Спаць.

Ён прыслухаўся. Ноч была сляпая, глухая й бязмоўная.

— Скончана ўсё, — прагучэў зноў голас. — Усё.

Ён закрыў далонямі вушы: голасу не чуваць было. Гэтак ляжаў ён колькі часу, не зварухнуўшыся. Голас маўчаў.

«Досыць мне й таго, што я сам разумею, што скончана ўсё. Дык навошта мне пра гэта напамінаць», — распачаў ён бясслаўную гутарку з голасам.

Але голас нічога не адказаў. Ён быў бязмоўны, як і ноч.

Тады ён адкрыў вушы й выцягнуў зручней рукі.

Навакол было ціха. Толькі недзе задзяўкаў сабака, й сціх. Усё было ціхім і спакойным, як ноч. Усё спала.

І ўсё-такі ён памыляўся. Не ўсё было ціхім і спакойным, не ўсё спала. Праз усю ноч не спалі бацькі, прыслухоўваючыся да кажнага сынавага варушэння. Чулі яны, як клаўся спаць, раздзеючыся доўга. Чулі праз некаторы час, як заплакаў, даючы волю слязам. Чулі, як устаў і доўга сядзеў за сталом. Чулі шолах ад кінутае далоў скамечанае паперы. Чулі, як ён устаў і выключыў электрычнасць. Чулі, як лёг зноў і доўга варочаўся, пакуль не заснуў. Чулі, як у сне цяжка дыхаў, быццам душыў хто яго, як узрыдваў. Чулі ўсё.

II

Маці ціха адчыніла акно ў ягоным пакоі.

— Спі, мой сынок любы, спі, мой гаротнік, — прашаптала яна, пакідаючы пакой.

Маладая прыгожая раніца ў залатой сукенцы і з срэбраным вянком на русых валасох нячутна ўвайшла знадворку праз акно й прабудзіла яго. Сэрца прыпынілася на момант ад гэтага пацалунку — гэткая была яна прыгожая, — і рукі працягнуліся абняць яе. «Уставай, ідзі за мною», — шапнула яна на вуха й растала, як маладая аблачынка.

Ён шырока расплюшчыў вочы.

За акном варушыліся мошкі, звінелі пчолы, гаманілі краскі, спявалі птушкі і, гледзячы на іх на ўсіх, ціха ды радасна ўсміхалася сонца. Бязлітасная рэчаіснасць сурова глядзела яму ў вочы.

Ён сяк-так адзеўся, памыўся, паснедаў, ні слова не азваўшыся да маткі. Магутны цяжар ціснуў яго сяння ў гэтых чатырох сценах, на якіх віселі ягоныя празрыста-сонечныя пейзажы, нагадваючы далёкае мінулае.

Ён выйшаў на двор, і яго аглушылі крыкі й гамана людзей. Але гэта яму здалося: ніхто нідзе не крычаў і на дварэ было бадай гэтаксама спакойна, як і ў хаце. Але нельга было атрап-

нуцца ад першага ўяўлення.

Сям-там вуліцаю ішлі людзі, а яму здавалася, што яны ідуць натоўпам, і цяжкі тупат ног гэтага натоўпу балюча адгукаўся ў яго ў сэрцы.

О, каб мог ён узяцца зноў за сваю жаданую працу! Без гэтага ён не можа жыць тут, дзе ўсюды, на кажным кроку ўрачыста смяецца яму ў вочы сумятлівае жыццё. Ісці... Ісці адгэтуль... Ісці туды, дзе ціхай роспачы яго знойдзецца бестурботны прытулак.

Ён вярнуўся ў хату, надзеў шапку, павесіў цераз плячо скрыначку з фарбамі, звязаў вяровачкаю складны мальберт з тоўстаю папкаю, у якой ляжалі палотны, алаўкі ды пэнзлі, і пайшоў з дому.

Тупат ног людскага натоўпу не пакідаў стагнаць пазаду, й ад гэтага стогну дрогала ў яго ўсярэдзіне, а пад нагамі гайдалася зямля. Адно гэтае ўяўленне заняло ўсю ягоную істоту, й больш не было месца ніякім адчуваннем, ніякім уяўленням.

За горадам лёгкі ветрык патыхнуў яму спагодна насустрач і пагладзіў сваімі тонкімі пальцамі па твары. «Ідзі туды, адкуль прыйшоў я, там будзеш мець спачын спакутаванай душы», — быццам сказаў і памкнуўся ў сваё вандраванне.

Хвалі смарагдавага мора беглі ўздагон ветру, а паміж хваляў ды на хвалях за свой лёс змагаліся крохкія аквамарынавыя, залатыя, срэбраныя краскі. Колькі крохкае сілы жыло ў іхнім сэрцы, колькі стройнага, прыгожага імкнення. А далёка на тым беразе смарагдавага мора сіні туман сцяною ўздымаўся да самага неба. Маленечкія аблачынкі з бялюткае шаўковае ваты хаваліся за сінюю сцяну ды быццам гукалі: «Сюды йдзі, сюды ідзі за намі». А хвалі смарагдавага мора вялі сваю патаемную размову. Пра што гаманілі яны? Ці не спачувалі яны, чулыя ягонаму калецтву?

Ён сышоў з дарогі й пайшоў, як па зямлі, па хвалістым смарагдавым моры туды, дзе ўздымалася сцяна з сіняга туману. Аквамарынавыя, срэбраныя, залатыя краскі ўздымалі да яго свае кволыя галоўкі. Спачувалі яны яму? Прасілі ў яго дапамогі свайму змаганню? Ён не думаў пра гэта. Яму трэ было хутчэй пакінуць за сабою гэты свет, гэтых людзей, гэтае жыццё.

Сіні туман неўзабаве аступіў яго, і вушэй крануўся ледзь чутны шэпт лесу. Нейкі моцны пах частым дажджом лінуў на яго згары. Адкуль узяўся гэты моцны пах ладану? З таямнічага далёкага гушчару да слыху дайшоў павольна-ціхі, урачыста-жалобны спеў. Гэта настаў вечар, і з фіялетавага змроку пад дрэвы сумотнаю

хадою выйшлі жалобныя жанчыны. Можа, гэта сляпыя, а можа, яны пахавалі сваё сэрца на далёкай чужыне. А не — можа, іхнаму зроку сніцца далёкае мінулае. Ці, можа, шукаюць яны дарагое, што й не могуць знайсці. Мо ўтрачана яно навек, і яны выплакалі свае вочы, гэтак доўга й дарэмна шукаючы. Што згубілі яны, шукаючы тужліва ў празрыстым фіялетавым змроку? І ці не хаўтурны спеў гэта ліецца ды ліецца на яго ў частым дажджы фіялетавага ладану?

Ён уздыхнуў цяжка й шпарка кінуўся развязваць мальберт з папкаю. На мальберт паставіў палатно. Адчыніў скрыначку, узяў пэнзлі і адышоўся, каб глянуць, якое асвятленне на палатне.

Жалобны цень зняможана раскінуў свае крылы на палатне, а сонца залатымі кроплямі падала цяжка сям-там вакол мальберта.

Ён лёгка скалануў галавою, й подых спакою прайшоў па ягоным твары. Гэта было тое, чаго ён хацеў: самотныя здані ў фіялетавым змроку пад дрэвамі й жалобны, хаўтурны спеў у ціхім паветры...

З шалёнаю паспешнасцю пачаў ён накладваць мазок за мазком на палатно. Магутныя дрэвы гублялі ў цьмянай вышыні сваё верхавінне, а паміж гладкіх чорных камлёў іхніх у ліловай празрыстасці змроку з'яўляліся адна па аднэй сумныя белыя здані. Каб адно хто ведаў, якім жалобным спевам гучыць у іх сэрца. Ён сам хацеў ведаць гэта і баяўся таго. Але інакш зрабіць ён не мог, не, зрабіць гэта трэба. Хай глядзяць яны ў вочы яму, і ён будзе глядзець ім у вочы. Зноў клаўся мазок з мазком, і белыя пакрывалы-хусцінкі прымалі свой цень з пакутлівага твару і ў вачох жанчын-зданяў застывалі азёрныя тугі. Слёзы блішчэлі, як жывыя, слёзы гаманілі, як людзі, а мо гэта яны й спявалі ў ліловым змроку свой самотны спеў.

Рукі трымцелі ў яго ад напружання, але ён як вар'ят хапаў на пэнзаль фарбы, то адыходзячы ды кладучы мазок здалёк, на выцягнутай руцэ, то падыходзячы зусім блізка й нахіляючыся да палатна, усё адно як слёзы засцілалі яму туманам вочы. Вялікая пакута кіравала ягонаю рукою, й фарбы на пэнзлях здаваліся кроплямі крыві, што капае павольна з ягонага сэрца.

Якая гэта была пакута, які боль! Але што магло быць больш прыемным яму, як пакута, як гэты салодкі боль фізічнага адчування народжаных вобразаў? Яму хацелася прыпасці да іхніх каленаў і цалаваць іхнія белыя вопраткі, яму хацелася ўзяць пагладзіць пяшчотна па руцэ іх, яму хацелася выпіць у іх усе слёзы. І ён з нечалавечаю стараннасцю датыкаўся пэнзлем то да фарбы, то да палатна, пакуль з ягоных здранцвелых рук не

пападалі пэнзлі і ён, узрыднуўшы, не ўпаў перад мальбертам галавою ў мяккі пахучы мох.

Якую часіну ляжаў гэтак, ён не памятаў, быццам бы на ягоныя адчуванні цяжкаю кашчаваю пятою наступіла сама смерць, а дых вылецеў у сіняе паветра і згарэў на сонцы. Цела патало раптам у глыбокі сон, і зямля моцна прыціснула яго да сваіх грудзей. Напэўна, ён спаў, і спаў доўга.

Прабудзіў яго моцны выбух. У лесе зрабілася цёмна. Грымеў гром, бліскалі бліскавіцы, ішоў дождж. Вопратка на ім была мокрая.

Ён устаў і глянуў на мальберт. Яму здалося, што ён сніў нейкі дзіўны і цудоўны сон, жудасны й прыгожы, дзе вялікая пакута зрабіла людзей жывымі істотамі. Глянуў — і слёзы пырснулі з воч: паміж камлёў магутных дрэў блукалі ў празрыстай фіялетавай змрочнасці лёгкія паветраныя здані з выплаканымі вачыма. Дзе ж азёры застыглае тугі ў іхніх вачох, і ці не паветра адно хаваецца пад іхнымі белымі даўгімі вопраткамі? Хіба гэта тое, што відно было ў далёкім вечаровым гушчары лесу?

Дух раз’юшанасці ўвайшоў яму ў цела, й ён раптам ды імкліва пачаў таптаць пэнзлі, фарбы, палотны. Ад штуршка паваліўся мальберт, і белыя здані ўпалі тварам на мокры мох. Тады ён завярнуўся й шпаркаю хадою, не аглядваючыся, не адчуваючы, што на ім усё мокрае з дажджу, пайшоў з лесу. Быццам бы нёс яго на сваіх моцных крылах імклівы дух раз’юшанасці.

Прыйшоў дадому мокры, брудны, але з іскраю рашучасці ўваччу і ў рухах, і маці, згледзеўшы яго, і спужалася адначасна, і зарадавалася, што ён такі. Усё адно як прамень здалёку асвятліў перад ёю даўнейшы вобраз сынаў, і сэрца ў яе закалацілася з радасці.

Няшчасная маці, каб ведала яна, што зарадавалася яшчэ большаму сыноваму гору. Каб ведала, што ўпотаі свайго нутра яшчэ трымаў ён астатнюю надзею й сяння гэтую надзею разбіў у першай сутычцы няўпрошаны лёс. Каб ведала яна...

З радасці яна нават не заўважала, што сын нічога не прынёс з таго, што браў, ідучы з дому. Яна толькі бачыла яго такім, якім ён быў некалі, й бачыла, што ён мокры, ды баючыся, каб не прастудзіўся (от бо гэтае матчына сэрца), сказала:

— От бы, сынок... Няхай бы ж ты перастаяў дзе гэты дождж. Трэба ж гэтак змокнуць. Пераадзенься, сынок, у сухое.

І пачуцці ўраз абвялі ў ім, і бура, разлютаваўшы была ў ягоным сэрцы, узяла аціхла. Як маленькае дзіця, ён паслухаў маткі. І гэтак скончыўся другі дзень ягонага новага жыцця, ягонае

пакуты.

Наступнага дня ён нікуды не выходзіў з хаты. Ён або сядзеў у кутку, намагаючыся нічога не думаць, або стаяў перад акном, невядома куды ўтаропіўшы погляд, або хадзіў з кута ў кут. Яго цягло глядзець на сонечныя пейзажы, развешаныя на сценах, але вялікім намаганнем праганяў ён ад сябе гэтае жаданне і, ідучы на іншае месца, стараўся не глядзець у той бок, дзе погляд ягоны мог сустрэцца з імі.

Праз дзень ён не вытрываў, і з самага ранку, не снедаўшы, як не было ў хаце маткі, пайшоў у лес. Як злачынцу на месца злачынства, гэтак цягло яго туды, дзе мінулага разу стрэла яго суровая няўдача. Яму хацелася яшчэ раз зірнуць на рэшткі першае й няўдалае свае спробы — першае й, пэўна, апошняе. Магчыма, апошняе, і трэба ў гэтым яшчэ раз, і, магчыма, апошні, пераканацца. А тады... Ну, што ж...

Дарога здалася доўгаю, хаця ён нідзе не зблудзіў і адразу натрапіў на тую мясціну ў лесе, дзе быў таго разу.

Пад грубою хваінаю ляжаў бокам ягоны мальберт. Крыху паводдаль — скрыначка ад фарбаў. Паблізу ад мальберта паламаныя пэнзлі, парастоптваныя фарбы. Пры скрынцы размоклая папка з палотнамі й папсаванаю папераю, параскідваныя алоўкі. Дзе ж ягоны «Вечаровы змрок»? Пры мальберце абраза не было. Не было яго й пры папцы, як не было і паміж палотнаў. Ён зірнуў за хваіну, абышоў вакол усю мясціну. Абраз знік. Калі б не павалены мальберт, не парастоптваныя фарбы ды патрушчаныя пэнзлі й параскідваныя алоўкі, ён схіліўся б да думкі, што абраз не існаваў і што вечаровы фіялетавы змрок прысніўся яму, або гэта было зманам ягонага хворага выабражэння. І ўжо шкадуючы, што абраза няма, сабраў ён усё, што можна было сабраць, і пайшоў дадому.

З таго дня ён пачаў хадзіць у лес, шукаючы адзіноты й спакою. І лес ішоў насустрач яму, адкрываючы прыхільна самыя патаемныя куткі, і там праседжваў ён доўгія часіны, не зварухнуўшыся. І тады вобразы аступалі яго з усіх бакоў. Што даў бы ён за свае пальцы, каб яны зноў былі ў яго, каб хто даў яму іх? Але гэта немагчыма.

Прабыўшы цэлы дзень у лесе, ён падвечар вяртаўся дахаты, галодны, фізічна змораны, але ўнутры дадзіва спакойны, абыякавы да ўсяго.

«Трэба мець мужнасць прызнацца сабе ў гэтым», — казаў яму нейкі голас.

«Прызнацца», — усміхнуўся ён горка. А навошта яму тая

мужнасць, навошта яму прызнаванне, калі самымі фактамі падкрэслена гэтая беспардоннасць?

Але аднойчы прачнуўся ён хмурное восеньскае раніцы, хаця яшчэ было самае лета. Здалёк гэтак ішлі сабачыя галасы. Такі непрыглушаны чуцён быў бразгат колаў на вуліцы. Нехта стукацеў па бляшаным даху. Далёка недзе, відаць, на пашы, зарыкала карова. Усе гэтыя гукі зрабіліся такія блізкія яму й выклікалі ў яго такое парыванне пачуцця й нейкіх нязнаных, але дарагіх калішніх успамінаў, ён доўга ляжаў не ўстаючы й з трапятаннем сардэчным прыслухоўваючыся. Яшчэ недзе далёка засакатала курыца, агукнуўся певень ды зноў забрахалі сабакі. А вось звонка зарагатаў конь, і доўга гук ліўся ў паветры, сцелючыся далёка па полі.

«Восень настала», — падумаў ён, і бадзёрасць, яшчэ нязнаная дасюль, наведала яго ды ўзняла з ложка. Вось гэтак некалі, як яшчэ быў малы, прачынаўся ён рэзкае восеньскае раніцы й, хуценька памыўшыся, бег у туман на гарод, дзе ўжо ссекалі капусту. Ён вырываў бручку, насіў у кошыках у сенцы капусту, дзе неўзабаве вырастала гара вялізных цвёрдых качаноў. Пахла туманам і ціхай радасцю. Ён грыз бручку й бегма зноў бег на гарод, з радасцю ляскаючы басымі нагамі па вільготнай крыху, гладка ўбітай сцежцы паўзмежку... Слёзы радаснага ўзрушэння выступалі на ваччу, хацелася спяваць і бегчы на гэтыя заклікальныя восеньскія гукі.

Ён адзеўся ў свой лепшы, у новы гарнітур, спехам паснедаў, надзеў на скалечаныя рукі пальчаткі й выйшаў на двор.

На вуліцы слаўся дым з комінаў. Пахла гародам і вільготным дрэвам. Ён з асалодаю дыхаў гэтым пахам і, быццам бы надумаўшыся нешта, павольна пайшоў вуліцаю да горада, над якім мякка слаўся ранішні шараваты дым.

Чаго ішоў і куды, ён не сказаў бы гэтага, — ішоў проста так сабе. «Ці проста ж так сабе?» — запытаўся сам у сябе. Але прагнаў ад сябе гэты дакучлівы голас. Яму не хацелася ні правошта думаць, не хацелася ні з кім гутарыць, хацелася адно йсці, глядзець і адчуваць гэтую восеньскую сярод лета раніцу. Павольна йдучы гэтак, ён хутка ўвабраўся ў сярэдзіну горада. Упершыню за колькі месяцаў ступаюць ягоныя ногі па гэтых вуліцах, упершыню за гэты час бачаць вочы з цікавасцяй гэтыя камяніцы, крамы з вітрынамі, сады, машыны. Трамвайныя рэйкі паблісквалі вільготна, ногі ў людзей шархацелі па цьмянаватым асфальце выразна й блізка. Яму здавалася, што й галасы людскія зрабіліся празрысцейшымі, і быў зразумелым людскі рух і

клопаты.

Перш ён не заўважаў ні твару людзей, ні іхніх воч, але хутка пачаў адчуваць на сабе чужыя погляды. Неўзаметку для самога сябе ён лавіў гэтыя погляды й заўважаў, добра ці дрэнна зачэсаныя жаноцкія валасы, смяхотныя й абяцальныя ці суровыя й заклапочаныя вочы. А раз ён нечакана азірнуўся, й на яго паглядзела ў гэты момант, азірнуўшыся, дзяўчына. У яго зрабілася горача на сэрцы, ён раптам наступіў некаму на нагу, павярнуўшыся, папрасіў спехам прабачэння, адчуў, як яго агледзелі з галавы да ног загневаным поглядам і сказалі: «Франт які ў пальчатках. Улетку... На ногі людзям лезе». Ён інстынктыўна пахаваў у кішэні рукі, й на вуліцы, здалося, спахмурнела раптам, пацямнела. Ён ішоў, старанна абмінаючы людзей, не чуючы больш на сабе поглядаў, не заўважаючы нічога. Гэтак сцянуў ён з канца ў канец усю сярэдзіну горада й завярнуўся йсці назад. На вочы яму трапіла шыльда крамы культурных тавараў. Тут ён звычайна купляў заўсёды фарбы, пэнзлі, алоўкі, паперу, рамкі на абразы. Гэтае крамы абмінуць ён не мог, надта моцная сувязь у мінулым прыцягвала яшчэ й цяпер. З выглядам чалавека, які выйшаў на праходку й дзеля цікавасці глядзіць, што ёсць на паліцах, зайшоў ён у краму.

Маладая прадавальніца, у якое ён заўсёды купляў, што яму было трэба, каб маляваць, і з якою заўсёды быў далікатны й ветлы, сустрэла гадзе радасным воклічам, як блізкага чалавека:

— Вось і вы, нарэшце. Як жа вас даўно не было!

— Пяць месяцаў, — адказаў ён самотна, хаця думаў, што патрапіць у тон ёй.

Яна заўважыла, што з ім адбылася нейкая змена, і сказала:

— Вы, мабыць, выязджалі куды?

— Так, мяне не было тут пяць месяцаў, — адказаў ён.

— У нас вы, як і заўсёды, выбераце сабе ўсё, што вам трэба для малявання.

— Так, у вас заўсёды быў багаты выбар, — адказаў ён.

— Вы, мабыць, незнаёмы, — звярнулася яна тымчасам да высокага, чарнявага, яшчэ маладога, але тоўстага чалавека ў новым шэрым гарнітуры. Ад яго моцна адносіла гарэлкаю, але з выгляду не відаць было, што ён наведваў сяння Бахуса. — Пазнаёмцеся.

Яны пазнаёміліся, й Васіль Савановіч, прыціснуўшы левай далоняй пальчыкі правае пальчаткі, ледзь садраў яе і падаў чалавеку з прозвішчам маладога яшчэ, але ўжо вельмі вядомага мастака руку без пальцаў.

— Ах, божа мой. Што гэта з вамі такое зрабілася? — гледзячы на ягоныя рукі, зжахнулася маладая дзяўчына-прадавальніца.

— Адзін не зусім прыемны выпадак у жыцці, якога мне стане на ўспаміны да самае смерці.

— Як гэта шкада, — сказала яна, сапраўды шкадуючы гэтага маладога прыгожага мастака, якога яна заўсёды рада была бачыць, як ён прыходзіць купляць фарбы, алоўкі ці палатно, або паперу. — Я такая ўважлівая сёння, што... Але я была гэтак рада вас бачыць, — даказала яна, відаць, не ведаючы, што сказаць, каб не зрабіць балюча яму, гэтаму няшчаснаму маладому чалавеку.

— Мне гэтаксама прыемна было вас бачыць, — адказаў ён. — З гэтаю крамаю і ад сустрэчаў з вамі, у прыватнасці, у мяне звязана шмат прыемных успамінаў.

— А я думала, што вы зайшлі купіць чаго.

— Так, я й зайшоў, каб купіць... Мне патрэбны фарбы, пэнзлі й папера, — з болем у сэрцы адказаў ён. — А рэшта ўсё ў мяне ёсць.

— Ведаеце што... — сказаў грубавата вядомы мастак, з якім толькі што пазнаёміўся Савановіч. — Каб вам хоць пару пальцаў, — паглядзеў ён на Савановічаву руку, — дык вы, як чалавек, які перажыў багата й фізічна й маральна, асабліва фізічна, маглі б, калі вы мастак сапраўды з прыроды, — маглі б пісаць зусім своеасаблівыя абразы. Скажэце, а як у вас з леваю рукою?

— З леваю трошкі горш, — выціснуўшы з сябе горкую ўсмешку, адказаў Савановіч.

— Гэта сапраўды ўжо горш, — сказаў мастак. — Меўшы хоць бы сабе на левай руцэ пару гэтак патрэбных пальцаў, вы маглі б забыць, што ў вас былі калі-небудзь пальцы на правай руцэ. Гісторыя мастацтва, у прыватнасці жывапісу, ведае такія факты, калі мастакамі людзі былі й без рук. Ну, але нагою пісаць абраз — гэта надзвычай цяжка фізічна, а потым патрабуе найвышэйшага маральнага намагання й сапраўды фанатычнае аддана сці мастацтву.

— Вы слушна кажаце, — згадзіўся Савановіч.

— Але гэта між іншага. Я пачаў з таго, што вы маглі б пісаць прачулыя абразы. Чорт яго ведае, але сапраўды гэта так. Каб пісаць добра й прачула, чалавеку трэба быць самому чулым, а каб быць чулым, трэба шмат перажыць. З адным, ведаеце, тлушчавым цяжарам спакойнага чалавека — абываталя на карку, які

заўсёды гаворыць усім і кажнаму: «Не чапайце мяне, а я вас і падаўна», — з такімі магчымасцямі не стварыць рэчаў, якія будуць захапляць сучаснікаў, апроч тых толькі, якія зайздрасцяць, — бо яны менш таленавітыя ці наагул бяздарнасці, — і ўзрушаюць наступныя пакаленні, што яшчэ, можа, важней за першае. Вас не абражае тон маіх словаў? — запытаўся ён і адказаў: — Добра, калі не. Значыцца, вы ёсць сапраўдны чалавек. Ну, але гэтага яшчэ мастаку замала. Вось каб у вас была хоць пара дужых пальцаў, бо трымаць, скажам сабе, у двух пальцах пэнзаль на працягу доўгага часу надта цяжка. Але затое вы маглі б, можа быць, у мастацтве паказаць новыя цікавыя магчымасці, як адкрыў іх, скажам, ну хоць бы Барысаў-Мусатаў. Вы чулі пра такога мастака? Ён быў гарбель, маленькі няшчасны гарбель, але ў мастацтве ён праклаў сваю дарогу, і ніхто яе не затопча. Вам не нудна слухаць мяне? Я сяння трохі выпіў...

— Ды не, калі ласка, калі ласка, — папрасіла маладая дзяўчынка. Яна рада была б, каб хоць трохі ягоныя словы ўлілі бадзёрасці ў сэрца гэтага маладога, пакарэжанага жыццём чалавека з пальчаткамі на пакалечаных руках, якога яна заўсёды была рада бачыць.

— Надоечы я пайшоў гуляць у лес. Чорт яго ведае, чаго я пайшоў, выпіўшы, мабыць, ці што. І натрапіў я, ведаеце, на такую гісторыю: пад дрэвам ляжыць перакулены мальберт, патоптаныя фарбы і іншае. Ну, можна б сказаць, п’яныя мастакі былі тут, і ўсё. Але самае галоўнае потым... Бачыце, там ляжаў тварам да зямлі абраз, цікавы абраз. П’яны мастак, няхай ён сабе й таленавіты, не напіша такога. Фіялетавы змрок, ведаеце, якіх сучасныя мастакі з пэўных меркаванняў ці не могуць ці не здольны маляваць, — тэматыка, ведаеце, не падыходзіць... Але мяне зацікавіў прыём, манера невядомага мастака, ягоны стыль. Гэта прыём чалавека, які хоча адкрыць сэрца людзям для сапраўднага пачуцця, зрабіць з людзей-жывёлаў сапраўдных людзей. Можа, я памыляюся, але мяне гэты абраз уразіў, і я забраў яго й прынёс дахаты. Выбачайце, але мне трэба спяшацца. Калі вы здолееце намаляваць што, — звярнуўся ён да Савановіча, у якога замірала сэрца ад пачутых слоў, — прыходзьце да мяне заўсёды, калі вам будзе час і калі я буду дома. А тымчасам бывайце.

І мастак пайшоў, сказаўшы Савановічу свой адрас.

— Дык вы малюеце? — запытала ў Савановіча дзяўчына.

— Не ведаю, не маляваў яшчэ.

— Як намалюеце, прынясеце мне паказаць, — папрасіла

яна. — Абяцаеце?

— Добра.

Ён накупіў фарбаў, паперы, пэнзляў, яшчэ нечага, што яму было зусім непатрэбна, і, як у сне, ішоў дадому, не заўважаючы нікога й нічога.

## СМЕРЦЬ МАТКІ
*Навела*

Душныя жнівеньскія дні млелі ў моры спякоты, гары, сонца. Млелі людзі. Млеў пакалечаны, знясілены горад. Руіны, пажарышчы пахавалі пад сабою былую яго радасць і, быццам жалоба, над горадам навісла тумановая імгла. Пыл і попел напаіў паветра. Гара душыла, сціскала ў горле. Балючыя слёзы не капалі на шчокі, а сухім вострым полымем гарэлі ў поглядзе, які безнадзейна імкнуўся некуды высока, некуды далёка.

Пасярод пажарышчаў нейкім дзівам засталася адна маленькая драўляная хатка. Пры хатцы — хлевушок, невялікі гарод.

З хаты выходзіць і часта стаіць пры пахіленых варотцах маці. Яна засталася адна пасля таго, як два сыны яе пайшлі змагацца з ордамі фашысцкага чынгісхана, якія нечакана ўварваліся і запаланілі яе краіну. Фашысцкія полчышчы пракаціліся з захаду на ўсход, як саранча, і, як пасля саранчы, ад багатых ды прыгожых яшчэ гэтак нядаўна гарадоў засталіся адны руіны, застаўся адзін жах. І гэты жах і безнадзейнасць цяпер уваччу ў маці.

Яе хатка пры галоўнай вуліцы горада. Гэтаю вуліцаю час ад часу праходзяць калоны палонных. З аўтаматычнымі пісталетамі на плячы вакол кожнае калоны палонных канваіры. Канваіры з брытымі патыліцамі, з парашпільванаю грудзінаю і пазакасванымі па локаць рукавамі зялёных нямецкіх мундзіраў. Яны расчырванеліся і падобны да разнікоў. Яны і ёсць нішто іншае, як разнікі. Толькі замест сякеры ў правай руцэ ў кожнага вялізная тоўстая палка, і пры кожным выпадку, калі ім здаецца, што які-небудзь палонны парушае нечым правілы паходнага руху, цяжкая палка бязлітасна б'е па галаве, па плячах, па руках няшчаснага, б'е датуль, пакуль той не падае непрытомны на сухую дарогу. Тады разнік з пазакасванымі рукавамі падыходзіць пад яго, спакойна штырхае яго наском бота, спакойна здымае з пляча аўтаматычны пісталет. Гучыць нервова кароткая частая строчка

Мурашку. — Бязверхавіцкія камсамольцы — наш надзейны атрад. Рыхтуйце зброю, вызваленне Слуцка надыходзіць...

Праз некаторы час непагодлівай ноччу хлопцы прабраліся на станцыю Слуцк, дзе Рыгор Мурашка і Янка Сіманоўскі атрымалі ад свайго чалавека некалькі вёдзер газы і мазуту. Працавалі цёмнымі начамі. Даводзілася, рызыкуючы жыццём, прабірацца праз пільную і жорсткую легіянерскую ахову. Гаручы матэрыял быў надзейна схаваны ў густым альшэўніку на балоце. Напружана хлопцы чакалі рашучага моманту. А як толькі першыя легіянерскія абозы рушылі па шашы, мост быў падпалены. Партызаны сустрэлі няпрошаных гасцей стралянінай.

Аб гэтым мне расказваў Рыгор Мурашка, калі я ўпершыню сустрэўся з ім на зборы Слуцкага чонаўскага атрада. Была зіма 1921 года. У прамёрзлым памяшканні нейкай закінутай майстэрні ў Слуцку гуляў сцюжлівы вецер. Мы грэліся каля пячуркі, у якой млява, з трывожным папіскваннем дыміліся асінавыя галавешкі. На паламанай драўлянай скрынцы ад патронаў сядзеў Мурашка, шчупленькі юнак у кароценькім паўкажушку. Стары чырвонаармейскі шлем расхрыстана прыкрываў сваімі шырокімі крыллямі вузкія плечы, а з-пад суконнага зашмальцаванага казырка быў бачны змораны твар з густым рабаціннем. Нейкая заклапочанасць ці, можа, глыбокая задуменнасць вылучалі гэтага хлапца сярод шумлівай і вясёлай камсамольскай братвы.

Вось так заўсёды бывае: глянеш чалавеку ў вочы, і захочацца разгадаць яго душу. Можа, без гэтай магутнай сілы прыцягнення ніколі б не існавала сапраўднай дружбы?

Праз некалькі дзён я даведаўся, што Мурашка ў мінулым годзе прыняты ў члены партыі. Паступова знаёмства пачало перарастаць у сапраўдную дружбу. Мы разам маршыравалі ў вайсковым страі, наведвалі палітасветныя заняткі. На вайсковых вучэннях і ў клубе камсамольцы спявалі свае рэвалюцыйныя песні, яны любілі жарты, юнацкія забавы. Але нейкая суровая заклапочанасць стрымлівала майго сябра Мурашку. Ён быў кнігалюбам і заўсёды знаходзіў ціхі куток, каб пачытаць і паразважаць сам-насам. Праз гэтую празмерную сур’ёзнасць ён здаваўся нам ганарыстым, выклікаючы пачуццё нейкай насцярожанасці. Але гэта было не зусім так. Таго, хто добра ведаў Рыгора Мурашку, ён захапляў сваёй таварыскасцю, сваім чулым сэрцам. Ён быў для многіх нас прыкладам самадысцыпліны і настойлівасці ў авалоданні ведамі, у імкненні кожнае заданне выканаць на «выдатна». І не дзіва, што вакол яго групаваўся заўсёды актыў. А праз некаторы час Рыгор Мурашка быў прызначаны групаводам на палітзанятках і здзіўляў многіх глыбокім

веданнем палітграматы, якая для нас у той час з’яўлялася найвышэйшай навукай.

Памятаецца, неяк мы атрымалі дазвол на адны суткі наведаць Бязверхавічы, дзе жылі бацькі Рыгора Мурашкі. Нейкія сем вёрст па шашы мы прайшлі неўзаметку. Вось з пагорка паказаліся пульхныя падушкі заснежаных стрэх вясковых гумен. Дарога пабегла направа, і мы ўжо крочым па вясковай вуліцы, трымаючы на рамні трохлінейныя вінтоўкі з прымкнутымі трохграннымі штыхамі.

З’яўленне ўзброеных людзей на вясковай вуліцы прыцягнула пільную цікавасць жыхароў. Вось і хата Рыгора Мурашкі. Знаёмы аўчынна-хлебны пах сянец, і нас ветліва сустракае маці Рыгора. Яна ад расчуленасці раз-пораз выцірае хусцінкай няпрошаную слязу. А пасля збіраецца поўная хата равеснікаў Рыгора, суседзяў і сваякоў, якім хочацца пачуць навіны аб зямлі, якую каморнікі старанна намяраюць на кожную хату на палях былога маёнтка Івань, пра мурожныя пакосы на прырэчнай пойме, скрозь застаўленай высокімі стагамі.

Гутарка зацягваецца да позняй ночы. Рыгор Мурашка добра ведае жаданні і мары сваіх аднасяльчан. Ён расказвае ім, што такое нэп, пра ленінскі дэкрэт аб міры і пра савецкае будаўніцтва. З ім гутараць сябры, былыя падпольшчыкі, і работнікі саўгаса Івань. І мне было прыемна, што ў мяне ёсць такі талковы і шчыры сябра.

У 1924 годзе пачынае выходзіць у Слуцку акруговая газета «Вясновы будаўнік», на старонках якой шмат месца адводзіцца творам пачынаючых пісьменнікаў. У газеце з’явіліся імёны Янкі Відука (Скрыгана), Сукалы і многіх іншых маладых пісьменнікаў. А ў пачатку 1924 года па ініцыятыве газеты адбыўся першы з’езд рабселькораў Случчыны, дзе мы зноў сустрэліся з Рыгорам Мурашкам як даўнішнія сябры. Ён расказаў мне, што працуе членам Цараўскага валаснога зямельнага аддзела і сакратаром партыйнай ячэйкі, з’яўляецца актыўным рабселькорам газеты «Вясковы будаўнік», а таксама мае сувязь з літаратурным аб’яднаннем «Маладняк», нават паслаў у Мінск сваё першае апавяданне і спадзяецца, што яно хутка павінна з’явіцца ў друку.

На другі ж дзень пасля сканчэння з’езда рабселькораў я быў выкліканы Слуцкім угаркомам камсамола і накіраваны на рэспубліканскія палітасветныя курсы ў Мінск.

Позняй восенню 1924 года, скончыўшы гэтыя курсы, я зноў прыехаў з камсамольскай пуцёўкай на Случчыну, дзе быў прызначаны загадчыкам хаты-чытальні і сакратаром валаснай Цараўскай камсамольскай ячэйкі. Вельмі шкада было, калі я даведаўся, што змяняю на гэтай пасадзе Рыгора Мурашку, які акруговым камітэтам партыі

накіроўваецца ў распараджэнне палітаддзела Другой беларускай дывізіі. Рыгор Данілавіч здае мне службовыя справы. Наперадзе чакае яго вайсковае жыццё, новыя цікавыя сустрэчы, знаёмствы.

— Ну, а як твае літаратурныя справы? Ты ж некалі хваліўся мне, што пасылаў свае творы ў Мінск, у «Маладняк»? — спытаўся я.

— Пасылаў то пасылаў, але адказ атрымаў не вельмі вясёлы. Кажуць, што апавяданні хоць і цікавыя па змесце, але маюць шмат стылістычных хібаў, упікаюць за правінцыялізмы ў мове. А я ж пісаў на той мове, на якой размаўляюць нашы случакі, а падзеі, аб якіх ідзе гутарка ў апавяданнях, таксама жыццёвыя, праўдзівыя.

Трохі счакаўшы, Рыгор Данілавіч расказаў мне сумную гісторыю:

— Памятаеш, я табе расказваў, здаецца, пра майго брата Міколу, які служыў у пагранатрадзе; яго ў 1922 годзе забілі контррэвалюцыянеры. Толькі нядаўна яго труна перавезена са Старобіна ў Слуцк і пахавана на брацкім могільніку. Я так любіў яго. Ён жа са мною быў у падпольнай групе ў час акупацыі. Не магу забыць яго…

Прыглушаны горкай крыўдай, голас яго зрываецца. Малюсенькія калючыя вочкі часта заморгалі і яшчэ больш загарэліся помслівым агеньчыкам.

— Вось зойдзем да мяне. Я ж тут у Цароўцах ажаніўся. Пазнаёмлю цябе са сваёй жонкай. Паглядзіш, як мы жывём, вось там і пагутарым аб усім...

Мы ідзём усцяж па гразкай доўгай вуліцы. Даводзіцца ісці напрасцяк праз глыбокія лужыны. Яны былі настолькі шырокія, што абысці іх было немагчыма. Абапал стаялі старыя хаты, крытыя зялёнымі імшанымі стрэхамі.

— Тут без ботаў не пройдзеш, і давядзецца табе змяніць свае армейскія чаравікі на боты. Будзеш жа атрымліваць два з паловай чырвонцы на месяц. А гэта, брат, цяпер не малыя грошы, — спрабуе паджартоўваць мой сябра.

Мы заходзім у хату. Нас ветліва сустракае жонка Рыгора. Пасля заходзяць хлопцы — той актыў, на які давядзецца абапірацца мне ў сваёй працы. У гутарцы я даведаўся, што па той бок рэчкі Случ яшчэ не вельмі спакойна. Там багатыя фальваркі Лісіцкіх, Яцкевічаў. Адтуль яшчэ не забываюць наведвацца людзі з абрэзамі.

Мы ўспамінаем перажытыя цяжкія гады грамадзянскай вайны, і ў гэтых успамінах шмат чаго яшчэ і па сённяшні дзень дарагога і блізкага. Рыгор Данілавіч дастаў з шуфляды стала тоўсты каленкоравы сшытак і пачаў чытаць сваё апавяданне. Усё тое, што ён чытаў, было мне да дробязі знаёма. Апавяданне было напісана пад уражаннем перажытага, звязанага з гісторыяй аб забойстве брата

Мікалая. Рыгор Данілавіч хваляваўся, часта закурваў, і ў гэты момант мы дзяліліся ўражаннямі аб прачытаным. Супярэчнасцей вялікіх не магло быць. Я сам тады быў невялікі грамацей, літаратурнага вопыту не адчувалася і ў майго сябра.

Пасля таго памятнага вечара мінула два гады. За гэты час я перабраўся на сталае жыццё ў Мінск і вучыўся на рабфаку, працуючы ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». І вось аднойчы на пасяджэнні літаратурнай групы «Чырвонай змены» я зноў сустрэўся з Рыгорам Данілавічам. Ён расказаў, што служыць у горадзе Барысаве, друкуецца ў газетах як карэспандэнт, спрабуе свае сілы і ў літаратуры. Ён выглядаў больш узмужалым, асабліва да твару яму прыйшлося вайсковае адзенне. Толькі ўсё тыя ж малюсенькія вочкі загадкава праціналі нейкай дапытлівай вастрынёй.

— Чытаў твае вершы ў газеце, — суха прамовіў ён, — трэба брацца за больш шырокія тэмы. У цябе жыццёвая практыка ёсць. Пра нашы Цараўцы можна пісаць. У прозе неяк смялей і шырэй можна выявіць сябе...

Ён выняў з кішэні газету і трохі сарамліва прапанаваў мне. Я разгарнуў і на другой старонцы ўбачыў падвалам надрукаванае апавяданне Рыгора Мурашкі. Я быў узрадаваны і адразу хуценька прачытаў першыя абзацы:

— Дык гэта ж тое самае апавяданне, якое ты яшчэ чытаў мне гады два назад у Цараўцах. Гэта аб забойстве твайго брата, праўда ці не?

— Праўда, мабыць, трохі праўда, — ціха, з ледзь прыкметнай ухмылкай адказвае ён, — але ад таго апавядання засталіся «рожкі ды ножкі». Яно папала спачатку ў рукі Міхася Зарэцкага, але ён такі «жывадзёр», што ад таго апавядання пакінуў адзін шкілет...

— То, мабыць, ты застаўся ў крыўдзе, — асцярожна запытаўся я, — бывае так, — спачувальна, каб улагодзіць сябра, заўважыў я.

— Наадварот, — кажа Рыгор Данілавіч. — Я вельмі ўдзячны яму. Такі майстар прозы, як Міхась Зарэцкі, хіба можа сапсаваць? Ён прасвятліў сюжэт, выраўняў стыль, павыкідаў усе падсобныя сказы. Ён мастак, а гэта, брат, усё.

У той час Рыгор Данілавіч захапляўся творчасцю Міхася Зарэцкага за яго ўзнёслую апавядальнасць і юнацкую рамантыку. З’явы новага жыцця ў творах Зарэцкага ўражалі Мурашку сваёй нечаканасцю. Мэтаімкнёнасць людзей, светлае захапленне моладзі новым жыццём — вось характэрныя рысы тагачаснай творчасці пісьменніка. Барацьба з мяшчанствам і рэлігійнымі забабонамі на вёсцы — асноўныя тэмы, якія пісьменнік вырашаў па-свойму востра.

У канцы 1926 года Рыгор Данілавіч дэмабілізуецца з арміі і пераходзіць на сталую працу ў ЦК КПБ(б) у якасці адказнага сакратара часопіса «Бальшавік Беларусі». У гэты час ён ужо друкуецца ва ўсіх часопісах і газетах. Выходзіць з друку яго першы зборнік апавяданняў «Стрэл начны ў лесе». Нашы сустрэчы робяцца больш частымі. А калі адбылася рэарганізацыя «Маладняка» ў 1926 годзе, Рыгор Данілавіч разам з Платонам Галавачом прымае актыўны ўдзел у збіранні маладых літаратурных сіл, уваходзіць у рэдкалегію маладнякоўскага часопіса, дапамагае арганізаваць надзвычайны з'езд «Маладняка».

У 1929 годзе я ўжо разам з Мурашкам працую ў апараце ЦК КПБ(б) — ён сакратаром часопіса «Бальшавік Беларусі», а я — сакратаром часопіса «Партыйны работнік». Мне часта даводзілася бываць у гэты час на кватэры, у якой жыла сям'я Мурашкі. Гэта была прыватная хаціна на Людаманце, з агародам і кветнікам перад акном. Жылі Мурашкі ў той час надзвычай сціпла, амаль што пасялянску. Яшчэ не хадзілі трамваі, на ўскраінах горада нават не было тратуараў і водаправода. Рыгор Данілавіч працаваў над аповесцю «У іхнім доме». У агульным пакоі стаялі паліцы з кнігамі. Бібліятэка яго была вельмі багатая, яна займала ўсе прасценкі пакоя. І сам пакой быў падобны на бібліятэку.

Аповесць «У іхнім доме» пісалася павольна. Службовыя справы займалі шмат часу. Пісьменнік імкнуўся паказаць у гэтым творы, як мяшчанства ўспрыняло нэп, як яно імкнулася падлабуніцца да рабочага асяроддзя і вярнуць сабе ранейшае вальготнае жыццё. Вобраз Вольгі Маліноўскай у аповесці з'яўляецца цэнтральным. Вакол яе групуюцца нэпманы і прайдзісветы, для якіх адзіная мэта жыцця — грошы і багацце. Савецкія людзі ў сваім няспынным поступе да сацыялізму выкрываюць гэты варожы зброд.

Трыццатыя гады для пісьменніка былі самымі плённымі ў творчых адносінах. Нягледзячы на тое, што Рыгор Данілавіч вядзе вялікую грамадскую працу, ён у гэтыя гады выдае адзін за другім зборнікі апавяданняў: «Прыгранічны манастыр» (1930), «Званкі» (1931), «Рузікі» (1932), «Мюдаўская ноч» (1934). Але самым буйным і папулярным творам Рыгора Мурашкі з'яўляецца раман «Сын», які выйшаў у 1929 годзе. Пісьменнік працаваў над гэтым раманам больш трох год і прысвяціў яго, як сказана ў эпіграфе, «авангарду змагання за будучыню рабочага класа і ўсяго паднявольнага чалавецтва — сталёвай бальшавіцкай гвардыі». У рамане вельмі праўдзіва і шырока адлюстравана жыццё і побыт беларускага народа напярэдадні рэвалюцыі 1905 года. Твор гэты прасякнуты рамантыкай

рэвалюцыйнай барацьбы і захапляе чытача праўдзівасцю падзей і выразнасцю паводзін герояў. І ў наш час раман «Сын» не страціў сваёй мастацкай сілы. Мурашка быў не асабліва гаваркі чалавек. Ён часцей слухаў і ўсё з нейкай хітрынкай усміхаўся, быццам насцярожана правяраючы самыя звычайныя размовы сяброў. Але гэта не было недаверлівасцю. Ён любіў сяброўства, умеў цаніць дружбу і ніколі не пакідаў свайго таварыша ў бядзе.

У пачатку трыццатых гадоў — гадоў росквіту яго творчасці, Мурашка пасябраваў з Петрусём Броўкам, Міколам Аляхновічам, Сымонам Хурсікам, Аркадзем Моркаўкай. Асабліва ён цаніў дружбу з Петрусём Усцінавічам. У частых гутарках са мною ён выказваў вялікія надзеі на росквіт яго таленту. Мне ён часта казаў:

— Пятрусь мае празорлівы, імклівы талент. Ён пасябраваў з новым векам. У паэзіі нашых дзён найбольш выразна адчуваецца яго голас, яго песенны імклівы рытм. Сіла яго таленту ў непасрэднасці і хвалюючым адлюстраванні сучаснасці, у палкім захапленні падзеямі сённяшняга дня.

Паважаючы Броўку як паэта, ён любіў яго як сябра. Нездарма пры сустрэчы праясняўся яго суровы позірк, вяснушчаты твар ружавеў, вочы загараліся прыемным і прыхільным святлом.

— Можа, — прыйдзеш да мяне, — звяртаўся ён з цёплым словам да сябра. — Напэўна, забыўся, дзе я жыву? Зусім адбіўся ад рук...

У пачатку трыццатых гадоў Мурашка пераходзіць на працу загадчыка аддзела мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У гэты перыяд нямала зроблена ім для росквіту беларускай літаратуры. Пры яго непасрэдным рэдактарскім удзеле выдадзены юбілейныя творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, творы Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Змітрака Бядулі. Ён умеў быць непасрэдным і шчырым у сваёй гутарцы з аўтарамі, заўсёды дапамагаў ім добрай парадай, шчырым таварыскім словам. Я ўспамінаю, як у тыя часы заўсёды ў яго кабінеце было шмат людзей, як кожны выходзіў адтуль, абнадзеены яго сяброўскай размовай.

Мурашка прымае ўдзел у арганізацыі Першага тыдня беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве. Ён сам рыхтуецца да паступлення на вучобу ў Інстытут літаратуры Камакадэміі СССР. Але неўзаметку падкрадаецца цяжкая хвароба — косныя сухоты. Яна ўсё часцей і часцей прымушае яго лажыцца ў пасцель.

Праўленне БелАППа прымае ўсе намаганні, каб Мурашка паправіўся. Яму прапануецца працяглае лячэнне ў Крыму. Але ў пісьменніка, як заўсёды, штосьці яшчэ не дакончана, не дапісана, не прасветлена. А планы задуманых твораў прымушаюць падоўгу сядзець за

рабочым сталом. Не закончыўшы курса лячэння, Мурашка зноў вяртаецца ў Мінск і распачынае працу над новым раманам «Салаўі святога Палікара». Мінскі гарсавет выдзяляе яму кватэру па Савецкай вуліцы ў адным з лепшых даваенных дамоў Мінска. Але яго зноў падпільноўвае вялікае гора. Трагічна гіне яго сын Генрых. Гэтая падзея канчаткова выбівае Мурашку з жыццёвай каляіны. Рыгор Данілавіч надоўга моцна захварэў і ўжо аж да 1939 года не вяртаўся да актыўнай творчай і грамадскай дзейнасці. Мы часта наведвалі яго кватэру ў гэты цяжкі перыяд жыцця. Рыгор Данілавіч пахудзеў, вочы глыбока ўваліліся, на твары праступалі жоўтыя плямы. Але ніколі не прыкмячалася разгубленасці і страты жыццёвага аптымізму. Ніякаму няшчасцю не пад сілу было зламаць яго круты характар. Абрадавана ён сустракаў нас і ўсё распытваў аб літаратурных навінах і жыцці сяброў:

— Чуў я, што Мікола Аляхновіч будзе абараняць навуковую дысертацыю. Дык давайце, хлопцы, пойдзем паслухаем. Трэба ж будзе неяк і адзначыць гэтую падзею, — казаў ён, прыпадымаючыся з пасцелі. — Я думаю, што мне будзе лепш. Вось толькі кашаль, а ў астатнім — дробязь, на якую не варта звяртаць увагі.

І сапраўды, праз некаторы час я сустрэў яго на Ленінскай вуліцы. Ён ішоў, абапіраючыся на палку і моцна накульгваючы. Дзень быў асенні і хліпкі. Стаяў халодны месяц кастрычнік. Густая імжа завалакла ўсё неба, марасіў драбнюткі льдзісты дожджык.

— З інстытута іду, — паведаміў ён. — Сёння ж мелася быць пасяджэнне з разглядам дысертацыі Міколы Аляхновіча. Вы дык і не прыйшлі? А я, бачыце, не ўтрымаўся. Вось кульгаю назад, дабіраюся памалу дахаты...

Мы ідзём разам па вуліцы, і Рыгор Данілавіч расказвае аб сваёй працы над задуманай аповесцю аб калектывізацыі. Ён збіраецца перамагчы хваробу і наведаць калгасы Случчыны. Яму хочацца паглядзець, як жывуць па-новаму яго землякі ў Цараўцах і Бязверхавічах. У сваім творы «Салаўі святога Палікара» Мурашка паказаў, як кулакі хацелі пралезці ў калгас, каб там рабіць свае агідныя справы. Ён стварае вобразы заядлых ворагаў савецкай улады Мысліцкага і Храпавіцкага, якія, прытаіўшыся, чакаюць звароту старога ладу і ў сваёй непрымірымасці імкнуцца помсціць усім, хто старанна і шчыра працуе на карысць калгаса, вярбуюць на свой бок людзей, якія не задаволены мерапрыемствамі партыі і ўрада. Ім удаецца мець уплыў толькі на здрадлівых і нікчэмных людзей, як, напрыклад, Салавей. Такія кулацкія падпявалы-салаўі ім патрэбны для ўсялякіх брудных махінацый. Непасрэдна і ярка ў гэтым творы пададзены вобразы актыўных змагароў за калгасны лад. Начальнік палітаддзела

Грушэўскі, інструктар райкома камсамола Зоя Харошка, загадчык школы Гарбач — людзі з чыстым сумленнем. Яны хочуць працаваць там, дзе іх праца прынясе найбольш карысці, іх не палохаюць часовыя цяжкасці, бо гэтыя людзі бачаць светлую і прывабную перспектыву жыцця ў калгасе. У новым творы пісьменніка адчуваецца ўдасканаленне майстэрства. Знікае тая агульшчына, якая часам праглядала ў яго ранейшых творах. Мова рамана сакавітая, больш індывідуалізаваная, чым у папярэдніх творах.

Гэты раман быў закончаны пісьменнікам у 1938 годзе і надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў 1939 годзе. Чытач вельмі цёпла адгукнуўся на гэты твор. Мурашка, падбадзёраны творчым поспехам, трохі акрыяў і, устаўшы з пасцелі, выказаў згоду працаваць загадчыкам кабінета маладога аўтара Саюза пісьменнікаў БССР. Памятаюць яго ўважлівую і таварыскую дапамогу многія пісьменнікі, якія ў той час кансультаваліся ў кабінеце. Рыгор Данілавіч не шкадаваў ні сілы, ні часу, каб толькі творы таленавітых маладых пісьменнікаў былі надрукаваны. Ён радаваўся з'яўленню новага імя ў друку, стараўся абараніць ад несправядлівай крытыкі.

У 1941 годзе Мурашка зноў злёг у пасцель. Хвароба неадступна падточвала сілы. Саюз пісьменнікаў пасылае яго лячыцца ў санаторый для сухотнікаў «Новая Ельня». З вялікімі цяжкасцямі родныя і блізкія ўгаварылі яго пакінуць Мінск.

А чорныя хмары ўсё згушчаліся і згушчаліся на даляглядзе. Грымнула Вялікая Айчынная вайна. Нямецкія сцярвятнікі ўшчэнт разбурылі родны горад, калі з вялікімі цяжкасцямі Мурашка дабраўся дамоў. На вуліцах Мінска стаялі фашысцкія патрулі. Эвакуіравацца ўжо не было ніякай магчымасці, і давялося часова пражываць у акупацыі. Рыгор Данілавіч пачаў асцярожна шукаць людзей, якія засталіся вернымі патрыётамі сваёй Радзімы і чакалі зручнага моманту, каб пайсці ў лес да партызанаў. Любая неасцярожнасць пагражала смерцю.

Рыгор Данілавіч пераходзіць да выканання аператыўных баявых заданняў падпольнай арганізацыі. Перад намі вялікая колькасць дакументаў, якія да сённяшняга дня захавала жонка пісьменніка. Яны сведчаць аб тым, што Мурашка, яшчэ жывучы ў Мінску, выконваў аператыўныя даручэнні падпольнай групы савецкіх патрыётаў.

Апынуўшыся разам з жонкай за межамі горада Мінска, Мурашка актыўна ўключаецца ва ўзброеную барацьбу з фашысцкімі захопнікамі. Ён дапамагае ў распрацоўцы плана знішчэння верхавода фашысцкіх карнікаў, натхняе на гэту справу сваіх знаёмых. З вялікай асцярогай ён збірае весткі, да дробязей распрацоўвае план двара і

памяшкання, дзе пражывае фашыст. Устанаўліваецца сувязь з прыслугай, вывучаецца распарадак дня. Пажаўцела папера ад доўгага часу, але дробны выразны почырк Мурашкі не сцерлі нават дзесяцігоддзі. Вось яны, баявыя лісткі:

«План двара: — Ход з боку Чырвонаармейскай.

Ці ёсць ахова ў двары, якая, ці можна пранікнуць туды на $^{1}/_{2}$ гадзіны і з якога боку?

Ці ходзіць N праз калітку свайго дома, ці жыве ў Г. К.?

Ці ёсць людзі не нямецкага паходжання, на якіх можна спадзявацца (з прыслугі)? і г. д.».

Па заданню камандавання спецатрада Рыгор Мурашка вядзе прапагандысцкую работу сярод беларускай інтэлігенцыі, сярод тых, хто мог прыняць актыўны ўдзел у барацьбе з нямецкімі захопнікамі і іх памагатымі — беларускімі нацыяналістамі. Яму даручаецца ў пісьмовай форме звярнуцца да савецкіх людзей, растлумачыць кожнаму пра яго абавязкі перад Радзімай.

Нягледзячы на дрэнны стан здароўя, Рыгор Данілавіч выконвае самыя складаныя баявыя заданні. Перад намі старонкі загадаў і інструкцый камандзіра атрада маёра Казанцава. Вось кароткія запісы з гэтых баявых дакументаў:

«Паважаны тав. Мурашка! Прадумайце вось такое пытанне: ці зможаце Вы кіраваць невялікай групай у складзе пяці чалавек, арганізаваць самастойную групу, аналагічную групе Грышы і паралельна з ім.

Месца дыслакацыі, я мяркую, можна будзе выбраць каля Грышы. Працаваць праз Астрашыцкі Гарадок і прылягаючыя вёскі, а таксама ў напрамку — Лускава, Маславічы, Нялідавічы, Гарадок-Сёмкаў, Цна, Зацень і інш. Гэту задачу ўжо маюць Алесь з Анатолем...

Вам у групу я мяркую даць двух оперработнікаў: Вашкевіча Пятра, Пруднікава Сцяпана і пару байцоў: Сілонава і Матусевіча Геню, вельмі смелага хлопца, які вельмі добра ведае мясцовасць і людзей у гэтых раёнах.

Калі вы згодны, афармім гэту справу арганізацыйна адразу ж, як толькі вернуцца людзі з-пад Мінска... На жаль, я не магу пакуль што даць вам у групу большую колькасць людзей: іх няма, але вам ніхто не забараняе папаўняцца...

Шлю вам прывітанне. Маёр *Казанцаў*».

З вялікай радасцю і энтузіязмам прыняў Рыгор Данілавіч гэтае баявое заданне. Ён толькі і чакаў той хвіліны, калі яму давераць баявую аперацыю, дзе ён зможа выявіць сябе як вопытны падпольшчык. Вось яго адказ:

«Паважаны тав. маёр Барыс!

Вашу прапанову я прымаю з ахвотай. Гэта і прынцыповая згода і асабістае задавальненне, бо работу я люблю, ды і спадзяюся сёе-тое зрабіць...»

Далей у гэтым адказе ідзе размова аб канкрэтных баявых задачах групы, аб узбраенні і людзях. А вось ужо канкрэтнае баявое данясенне Мурашкі камандзіру спецатрада маёру Казанцаву:

«Гэтым даношу, што група ў складзе ст. лейтэнанта Анатолія, лейтэнантаў Алеся Матусевіча і Пятра Вашкевіча, старшага опергрупы Арк. Ступіна і байцоў Пруднікава і Сілонава пад агульным кіраўніцтвам старшага лейтэнанта Анатолія ў 2 гадз. дня накіравалася ў раён аператыўных дзеянняў групы да гор. Мінска, прычым байцы Сілонаў і Пруднікаў накіраваны ў распараджэнне тав. Грышы...»

Далей данясенне інфармуе аб канкрэтызацыі баявых дзеянняў, аб выкананні аператыўных заданняў.

Немагчыма пералічыць усе дакументы, іх у архіве засталося шмат. Акрамя баявых аператыўных дзеянняў, Рыгор Мурашка выконвае заданні па растлумачэнні насельніцтву праўды аб прадажных вылюдках — нацыяналістах, якія на каленях поўзалі перад нямецкімі гаўляйтарамі, абы выпрасіць у іх «крывавую літасцівую падачку». У сваім лісце да Рыгора Мурашкі маёр Казанцаў піша:

«Я папрасіў бы Вас апісаць коратка падзеі, якія характарызавалі б прыбыццё ў Мінск нацыяналістаў, іх імкненне атрымаць цёплыя пасады, іх халуйскія замашкі, іх дзейнасць...»

Вось як успамінае пра гэтыя цяжкія часы сувязная партызанскага спецатрада, былая настаўніца з вёскі Малінаўка Лагойскага раёна, Вера Мікалаеўна Румянцава.

— Пад восень 1943 года я атрымала ад камандавання партызанскага спецатрада заданне — дапамагчы пісьменніку Рыгору Мурашку перабрацца ў Лагойскі партызанскі раён, бо над ім навісла пагроза расправы.

Я ў той час жыла ў вёсцы Малінаўка, што ў дзесяці кіламетрах ад Мінска. Прайсці ў горад і выйсці з яго было не так проста: патрэбны былі спецыяльныя прапускі — аўсвайсы. Яны, вядома, у мяне былі — і для мяне і для Мурашкі, але мала што магло здарыцца. Аднак усё абышлося вельмі добра. У горад я прыйшла без прыгод, і ў дзесяць гадзін раніцы на вуліцы Рэспубліканскай сустрэлася з Рыгорам Мурашкам. Наган, які быў у пісьменніка, я схавала ў сумку з харчамі. Для адводу вачэй пагутарылі хвілінку і спакваля рушылі ў дарогу. Без перашкод прайшлі амаль увесь горад, мінулі балотную станцыю і выйшлі на знаёмую лясную сцяжынку. Тут я ўздыхнула з палёгкай —

самае страшнае і небяспечнае засталося ззаду, кожная сасёнка і ялінка тут могуць прыйсці на дапамогу, калі што-небудзь здарыцца...

Румянцава расказала, як у вёсцы іх нечакана напаткалі немцы і паліцаі, як мужна трымаў сябе Рыгор Мурашка, як удалося ім выкруціцца з бяды. Яна прадставіла Мурашку паліцаям як інспектара школ і запрасіла на заняткі. А ноччу, калі навакол панаваў спакой, Рыгор Мурашка трапіў у партызанскі штаб.

Ходзячы на спецзаданне, Мурашка ніколі не мінаў Малінаўку. Ён быў «небяспечным», але добрым госцем у доме Румянцавай. Аднойчы ў гутарцы Румянцава заўважыла:

— Блукаеце вось так дзень і ноч. А калі ж пісаць будзеце?

Ён усміхнуўся:

— Я ж цяпер аператыўны работнік спецатрада. Але вам прызнаюся: у Сярпішчыне, на базе, сёе-тое занатоўваю. Пасля вайны напішу, абавязкова напішу раман пра наш знявечаны, але няскораны Мінск.

— Дык, мусіць жа, цяжкавата вам? Ды ці ўгнацца вам за маладымі? Хіба лёгка быць тыднямі на нагах?

— Вытрымаем, Вера Мікалаеўна... Цяпер жа вайна. Скардзіцца няма калі... Нічога, нічога, Вера Мікалаеўна, дажывём і да лепшага...

Ён гаварыў гэта з такой упэўненасцю, што не верыць яму нельга было.

Будучы вельмі хворым і выконваючы складаныя баявыя заданні, Рыгор Данілавіч знаходзіў хвіліны для сваёй творчай працы. <...> Ён апублікаваў у лагойскай падпольнай раённай газеце <...> навелу «Смерць маткі», напісаў для гэтай жа газеты цікавае сатырычнае апавяданне «Чаму спыніўся шматвяковы род Швайнбергаў». Збіраючы матэрыял для новай аповесці, Мурашка зрабіў цікавыя замалёўкі аб дзейнасці беларускіх нацыянал-фашыстаў у горадзе Мінску.

На адвароце шматлікіх копій баявых данясенняў драбнюткім почыркам зроблены накіды для новых твораў, якія нараджаліся ў суровых умовах партызанскага жыцця і якім не суджана было ўбачыць свет. Вось кароткія замалёўкі на адвароце пісьма да Кузьмы Чорнага, якое Мурашка падрыхтаваў для перасылкі праз лінію фронту:

«Без утомы махае павольна шырокімі крыламі вялізная светлая птушка, і альбо цені, альбо срабрыстыя аблікі імчаць удалячынь па бліскуча аснежаным полі.

Вецер імкліва рве і гоніць хмары, і хмары знясілена бягуць з паўночнага захаду, дзе прасвячаюцца глыбокія, чыстыя, светлыя смарагды...

На ўзгорак на кругавідзе выйшаў чалавек, выйшаў і стаў. Дарога

яго ішла з поўдня, а ішоў ён здалёку. Ён змарыўся і ўспёрся абедзвюма рукамі на тоўсты кій, глянуў шырока перад сабой.

Насустрач беглі цені, і ясна блішчала срэбра гладкага, як шкло, сцвярдзелага снегу. Направа шумеў лес, і чалавеку здавалася, што ён чуе гул далёкага марскога прыбою. Далёка ўнізе ляжала сонная вёска. Была ноч. І вёску, і цьмяны хваёвы лес час ад часу залівала ясным святлом месяца. Чалавек паправіў шапку і ўздыхнуў...»

Не прэтэндуючы на ўсебаковы паказ жыццёвага шляху Рыгора Мурашкі, але азнаёміўшыся з дакументамі, якія сведчаць аб яго дзейнасці і жыцці, хачу сказаць, што мы іншы раз няўважліва адносімся да памяці нашых сяброў. Мурашка як пісьменнік, як патрыёт нашай Радзімы заслугоўвае таго, каб яго творчасць была шырока папулярызавана сярод чытача. У яго не было іншых інтарэсаў, як інтарэсы беларускага працоўнага народа. Гэта ён даказаў сваёю дзейнасцю як пісьменнік і як змагар, пра што могуць расказаць яго былыя баявыя сябры.

Праўда, шмат з матэрыялаў, якія сведчаць аб дзейнасці Рыгора Данілавіча Мурашкі, загінулі ў час вялікай карнай экспедыцыі гітлераўцаў у маі–чэрвені 1944 года, калі камандаванне фашысцкіх войскаў кінула на поўнач ад Мінска дзесяткі тысяч франтавікоў, каб ачысціць паўночныя раёны ад партызанаў і падрыхтаваць сабе шлях для адступлення. У час гэтай блакады у адной з вёсак Лагойшчыны і загінуў Рыгор Мурашка.

Да нас дайшлі чуткі, што Рыгор Мурашка, акружаны з усіх бакоў гітлераўцамі, вымушаны быў вырвацца з густога яловага лесу і перабрацца па той бок шашы ў раёне Лагойска. А там неўзаметку выйсці да хутароў, у якіх можна было схавацца і перачакаць блакаду. Ён дабег да бліжэйшага хутара і папрасіў у гаспадыні напіцца. Жанчына спачувальна аднеслася да просьбы нечаканага госця. Яна прынесла са склепа і паставіла на стале гладышак халоднага малака. Але за вокнамі пачуўся гоман і стрэлы. Хутар акружылі фашысты. Рыгор Данілавіч выскачыў праз акно і кінуўся наўцёкі праз зялёныя руні далей, у густую пасеку. Не ўдалося выратавацца на гэты раз мужнаму партызану. Услед яму агнявая чарга з аўтамата разанула па нагах і спыніла разгон...

Перад намі вялікі шлях пісьменніка, мужнага барацьбіта, адданага савецкага патрыёта. Усё яго жыццё ахвяравана вялікай справе барацьбы за светлае заўтра працоўнага народа. Здаецца, ён жыве сярод нас, сціплы да крайнасці, па натуры сухаваты і калючы, але прынцыповы і сумленны ва ўсім. Яго характар не кранулі суровыя гады і жорсткія падзеі часу.

Ёсць фарбы, якія не цьмянеюць, не выцвітаюць. Мурашка быў цэльны ва ўсім тым, што робіць чалавека прыгожым.

*Галина Кнатько,*
*Сергей Крапивин*

## ПОД ПСЕВДОНИМОМ МИКИТА

*Открыты новые материалы Минского подполья: рукописные донесения писателя и разведчика Рыгора Мурашки*

В январе 1943 года Центральный штаб партизанского движения сформировал группу специального назначения для заброски в окрестности Минска. В нее вошли (приводим далее документ):

«Капитан Казанцев С. И. — начальник группы, лейтенант Смолин И. Ф., лейтенант Соколов А. В., лейтенант Гук В. С., лейтенант Сомонов Ф. И., радист Руднев С. И.

Группа снабжена рацией РС-88, оружием — автоматами, приборами «Брамит», пистолетами, боеприпасами, гранатами, минами с различными сроками замедления, взрывчаткой. Экипировка состоит из комплектов военного и гражданского обмундирования. На каждого участника группы отделением Спецтехники ЦШПД изготовлены документы, имеющие действие в оккупированном Минске.

Командир группы для специальных целей получил: немецких марок 40 000, десять предметов бытового золота, фотоаппарат «Лейка» с набором принадлежностей. В мае 1943 г. самолетом т. Казанцеву направлены спецсредства борьбы».

Группа была десантирована под Минском в марте 1943 г. и одной из задач имела ликвидацию гауляйтера Кубе. Сразу укажем, что этот объект параллельно разрабатывали несколько диверсионных структур, и в случае с Кубе успеха добились другие. А у спецгруппы капитана (позже майора) Степана Казанцева были иные громкие операции. В их числе взрыв генераторов Минской ТЭЦ-1, взрыв в офицерской столовой, взрыв кинозала бывшего Дома Красной Армии (ныне Центральный Дом офицеров).

Но, кроме диверсий, Москва требовала и глубокой разведки. В - апреле 1943 года принимается специальное постановление ЦК КП(б)Б «Об усилении разведывательной и контрразведывательной работы в партизанских отрядах Белоруссии». В отрядах и бригадах вводится должность заместителя командира по разведке. БШПД получает задание: подготовить в течение мая — июня не менее 80 разведчиков, действующих на территории крупных немецких

гарнизонов.

Вот только откуда их взять, если выход партизанской разведки в города осложнен отсутствием надежного прикрытия?..

В довоенном Минске в литературно-издательской, культурной среде хорошо знали писателя Рыгора Мурашку. Заведовал он кабинетом молодого автора при Доме писателей, а вообще пользовался (и пользуется ныне) репутацией весьма крепкого прозаика. Его романы «Сын», «Соловьи святого Поликара», «Наперекор судьбе», «Товарищи» пережили свою эпоху и были напечатаны в наши дни.

Мурашка не принадлежал к творческой номенклатуре, которую организованно эвакуировали из столицы в первые дни войны. Оккупацию встретил вместе с двумястами тысячами минчан. Отчего профессиональным его пристанищем стал рупор коллаборационистов «Беларуская газэта»?.. Наверное, по той же причине нанялся он сюда, по которой тысячи горожан вновь были вынуждены работать по профессии: хлебный паек. Пятки фашистам не лизал, а отбывал номер на должности ночного корректора.

О себе, о своей среде в те дни писал так:

«Интеллигенцию Минска охватило настроение подавленности и разочарования, принесенное первыми днями военных событий. Многие не могли бежать из города до прихода немцев не по своей вине. <...> Немало горьких слов было сказано по адресу руководителей некоторых культурных советских учреждений. Часто эти высказывания приобретали форму резкой критики. В большинстве же это была критика людей, болевших душой при виде разрушений, свидетелями которых им пришлось быть...»

Известна точная дата вербовки Рыгора Мурашки спецгруппой Казанцева: 5 августа 1943 года. Оперативный псевдоним ему дали «Микита». В военной разведке практикуются донесения различных типов. Есть оперативная информация, когда агент, укрывшись плащ-палаткой в канаве, отслеживает движение железнодорожных составов. И есть аналитические доклады, которые служат целям общей стратегии.

Наш герой не работал с рацией в качестве наводчика фронтовой авиации. Ценность его как разведчика заключалась в другом: обширнейшие «горизонтальные» связи, знание в оккупированном Минске всех и вся, возможность по роду своей профессии широко перемещаться и контактировать с различными должностными лицами.

В начале 1944 года Ставка начала глубокое планирование летней наступательной операции в Белоруссии, и от начальника Централь-

ного штаба партизанского движения П. К. Пономаренко потребовали системных сведений об оккупационном режиме. Мы читали аналитические доклады майора Казанцева, которые в Москве ложились на стол генерал-лейтенанту Пономаренко, и обращали внимание на адресное обозначение в конце: «Тыл врага. Руднянский лес. Минская область».

Но совершенно очевидно, что резидент из Руднянской пущи не мог присутствовать, скажем, на обеде у руководства Белорусской народной самопомощи и выслушивать откровения коллаборационистов. Наше сравнение текстов аналитических обзоров, написанных мелким карандашным почерком Мурашки, и последующих докладов Казанцева в Центр убеждает, что писатель был весьма ценным агентом.

Создавались разведывательные донесения, но, поскольку автором их был человек, профессионально владеющий пером, то десятки страниц этих обзоров фактически становились добротными историко-документальными очерками.

И еще одну особенность мы заметили: фактор цензуры — прежде всего традиционной самоцензуры советского литератора — был у Мурашки исключен. Похоже, впервые в жизни он работал в документальном жанре так безоглядно-объективистски — писал не о том, как должно быть, а как есть.

Попробовал бы «источник Микита» втирать очки товарищу Пономаренко!..

Вот, например, читаем мы доклад о разрушениях минских зданий. Начало ведется с первых дней войны, когда применялись «зажигательные бомбы и специальные зажигательные пакеты с самолетов, жидкий фосфор в руках диверсантов на земле», и продолжается наблюдениями из последующих двух с половиной лет оккупации.

Мурашка, которому в предвоенном Минске был знаком каждый камень мостовой, необыкновенно детально — квартал за кварталом, дом за домом — ревизует состояние городских строений. Автор предельно объективен: если какое-то здание было разрушено в результате советских авианалетов, то об этом так и написано:

«На нечетной стороне Советской улицы уцелела часть некоторых улиц и отдельные здания, а именно: ...6) Комсомольская улица от здания НКВД и клуба им. Сталина до Немиги; 7) На площади Свободы: здание б. Горсовета, б. ВСНХ, Дом труда, здание у гостиницы «Европа» и здание музыкальной школы, а также костел; 8) На Коммунистической улице: здание комендатуры Главмилиции; <...> 13) На улице Володарского: пединститут, тюрьма и контора тюрьмы; 14) На улице Урицкого: поликлиника НКВД и внутренняя тюрьма-амери-

канка во дворе НКВД.

На улице К. Маркса уцелели: здание АТС, здание Горсовета, здание Наркомлеса, Картинная галерея, Дом парткурсов (уничтожен бомбами с наших самолетов в 1943 г.), жилой дом напротив и частично Дом Советов на углу К. Маркса и Ленинской...»

Много писал Мурашка о том, что ему было ближе всего, — о культурных ценностях Минска:

«Дом печати немцы заняли первоначально под казарму. Из многочисленных комнат Белгосиздата выброшены на двор как мусор и уничтожены: большое собрание рукописей белорусских писателей, находившихся в процессе подготовки к печати, библиотека и архив издательства. <...>

В подвалах библиотеки им. В. И. Ленина фашисты устроили себе склад и холодильник. С этой целью... выбросили книги на двор (позади библиотеки) и жгли их регулярно огромными кучами. <...>

...Здание Художественной галереи занято под постой для немецких офицеров. В результате этого через неделю-две со стен галереи исчезли почти все картины. Картины, входившие в офицерские чемоданы с рамами, исчезали со стен с рамами, если же размер рам не позволял этого сделать — бритвой или ножом картины вырезались.

...Наилучшим украшением галереи служила коллекция слуцких поясов — единственная полная в мире. Коллекция в золотой валюте стоила до 10 миллионов рублей. <...> Художниками А. Тычиной, В. - Тихоновичем и др. она была заботливо упрятана в ящики в подвале и замаскирована конторскими книгами и разным хламом, офицерам же сказали, что в ящиках — хозяйственные и канцелярские вещи. Но переводчица ехидно посмотрела на художников и разъяснила немцам, что их обманывают. Через несколько дней коллекция слуцких поясов была погружена в немецкие военные грузовые машины и отправлена в неизвестном направлении, а по слухам — в Кенигсберг.

...Сгорел Дом писателей со своей прекрасной и большой библиотекой. На месте пожара остался несгораемый ящик, в котором хранились приведенные в полный порядок рукописи умершего писателя-орденоносца Э. Самуйленка. Некто Плеханов — бывший корреспондент «Архитектурной газеты» с разрешения немецких властей взломал этот ящик и обгоревшие по краям рукописи выбросил и разбросал на пожарище. Так они и погибли. К слову, это Плеханов нарисовал первый в Минске портрет Гитлера и впоследствии завалил этим своим «искусством» все учреждения, почему быстро и вошел в большое доверие к немцам и завел большой круг знакомств среди немецкого офицерства и генералов, с которыми очень часто появлялся в немецких легковых машинах на

улицах города»[1].

Масса деталей содержится в обзорах промышленности, торговли и городского хозяйства:

«...С городских скверов на Советской и площади Свободы снята железная решетка и чугунные перила.

...Дом Красной Армии превращен в заезжий дом и в казино.

...Конфискованы все радиоприемники и частично патефоны.

...Приказы и распоряжения фашистских властей пестрят обещаниями премий в виде махорки и водки.

...Всеми городскими земельными участками завладело некое товарищество с ограниченной ответственностью во главе с каким-то Янсоном.

...Фирма «Бауэр и К°» захватила подряд по ремонту покрытия городских улиц.

...Фирма «Троль и К°» завладела обозной промышленностью и взяла подряд на поставку военному командованию обозного имущества.

...Фирма «Раулино и К°» взяла в Остланде монополию на табак. Каждый житель, посадивший на своей грядке больше 35 штук табака, остальное сверх 35 штук под страхом сурового наказания обязан сдать на одну из табачных фабрик.

...Прибыльное т. н. «Белорусское прессовое издательство» взято под свою руку предприимчивым шефом прессы при генеральном комиссариате Гансом Шретером из Берлина. Шретер мечтал когда-то сделаться видным журналистом. Журналиста из него не вышло, даже плохого, зато получился фашист — и не из последних. И он доказал это в деле с издательством. Не вложив в предприятие ни одной копейки, он объявил в газетах, что прессовое белорусское издательство принадлежит товариществу с ограниченной ответственностью, которое представляет он самолично. <...>

На Революционной улице разместились две немецких торговых фирмы: одна из них торгует запасами советской рулонной и киповой газетной бумаги и обоями, другая — запасами разных советских красок, щетками и галантереей. Последняя открыла на Комсомольской ул. в бывшем помещении магазина скобяных и арматурных товаров свой магазин, пустив в оборот все товары, которых порядком имелось в самом магазине, не пострадавшем от войны».

События, настроения граждан, быт и нравы в оккупированном городе описываются беспощадным пером документалиста:

«Зимой 1941–1942 гг. военными властями и полицией приказано населению сдать все имеющиеся на руках лыжи; за сокрытие или же

несдачу угрожалось расстрелом. ...Введенные ночные пропуска для рабочих и служащих оказались фикцией и никого и ни к чему не обязывают. В 10 часов вечера у городской управы с ночным пропуском в кармане застрелен преподаватель Белорусской консерватории известный баянист Савицкий, возвращавшийся с концерта из немецкой воинской части.

...По приказу немецко-фашистских властей расстреляны все больные из психлечебницы.

...Базары наводнены агентами СД и полиции. Постоянные посетители Суражского базара следующие агенты: (следует перечень имен и кличек с описанием личностей. — *Ред.*). Близко стоит ко всем этим агентам владелец закусочной у Бетонного моста Костя по прозванию Костыль (хромоног и ходит с костылем). Вообще, закусочные и пивные, как правило, содержатся агентами СД. Владельцем, например, ресторана «Бар» на Комсомольской ул. является весьма опасный агент СД Жилко. Ресторан последнего посещала в 1943 г. молодая стройная женщина — брюнетка по имени Ира, одетая в костюм из немецкого сукна серо-стального цвета. Она обедала там ежедневно в отдельном кабинете в обществе немецкого офицера.

...Продукты отнимаются полицейскими у крестьян безо всякой оплаты за городом на дорогах. Не обходится в этом деле без курьезов: не однажды случалось, что у женщин, несших молоко на молочный завод, молоко отнималось полицейскими. Бывали дни, когда молока на завод поставлялось до полутонны и больше, но бывало, что ежедневные поставки не превышали 30 литров. В последнем случае шефы молочной промышленности в Белоруссии, состоявшие при торговом товариществе «Ост», обращались за помощью в полицию, и в результате этого на всех подъездных к Минску дорогах появлялись полицейские посты с машинами и бидонами молочного завода, и каждая обнаруженная бутылка молока выливалась в бидоны».

Присутствует в обзорах у Мурашки и практически никем позже не исследованная тема уголовной среды:

«Полиция первая нарушает свои же правила и постановления. За взятку дают полную свободу уголовным, в результате чего преступные элементы никогда еще не чувствовали такой свободы. Для отвода глаз полицией повешено двое осужденных немецким судом за убийство: одного — своей жены, а другого — своей соседки. А в то же время по всему городу растут притоны спекулянтов, грабителей-убийц и разных темных преступных элементов, о которых полиции прекрасно известно. Но притоны процветают и размножаются, ибо это выгодно немецким шефам полиции, собирающим с них

регулярную дань. Так, на 2-м Григорьевском переулке у Товарной станции держала притон, посещаемый разными темными элементами и публичными женщинами в том числе, а также приезжими поляками, латышами, литовцами, полицейскими и агентами СД, жена шофера молочного завода Григоленуса. Однажды в конце марта там заспорили о чем-то поляки с литовцами и латышами, началась перестрелка, в которую вмешалась полиция 4-го отделения, под боком у которого происходило всё это, и в результате был смертельно ранен немец — шеф полиции этого отделения. Тогда полиция и СД окружили весь квартал, подожгли дом, в котором находился притон, вместе со всеми обитателями. Но этим дело не окончилось. Всех направлявшихся в этот квартал гестаповцы и полицейские хватали и либо стреляли здесь же, либо живыми кидали в подвал горящего дома. Таким образом в этом пожаре погибло около 30 человек, в том числе двое взрослых детей шофера Григоленуса...»

За неимением газетной площади упомянем лишь названия некоторых аналитических обзоров Г. Д. Мурашки: «О зарождении и деятельности нацдемовского движения», «О прибытии в Минск белорусской эмиграции и ее деятельности», «Обзор учреждений немецко-белорусской администрации города Минска».

Нам, сегодняшним, это своеобразное творческое наследие Рыгора Мурашки интересно вот почему.

Сразу после освобождения Минска на весь массив данных о том, что и как тут было в годы оккупации, наложило лапу всесильное ведомство «белорусского Лаврентия» — министра госбезопасности Цанавы. В рекордные сроки вышел за его подписью двухтомник об истории партизанского движения, за который «автору» присудили Сталинскую премию. А в последующие десятилетия... Думается нам, что какими бы объективными и компетентными ни были исследователи вчера, сегодня и завтра, но всё равно они пишут «как было». А у Мурашки написано «как есть», и в нередактируемости этой документальной прозы заключается ее ценность.

Какой мы бы хотели видеть судьбу рукописей писателя-разведчика, хранящихся ныне в Национальном архиве? Подобные собрания материалов необходимо вводить в исследовательский оборот, издавать малыми тиражами в сериях документальных памятников. Расшифровка, набор и минимальный комментарий — чем не тема для *практической* дипломной работы выпускника исторического факультета?

*Анцінея Мурашка*

# ЗАХОЎВАЮ ПАМЯЦЬ

Працуючы на філалагічным факультэце нашага універсітэта амаль тры дзесяткі гадоў[1], я нярэдка даю такую тэму сачынення — «Чалавек, варты быць прыкладам». У гэтым выпадку мяне, мабыць, больш цікавіць змест, чым, як мовазнаўцу, колькасць памылак у працы. Мяне, як чалавека, здзіўляе, што вельмі рэдка ў студэнцкіх працах гаворыцца пра блізкіх. Часцей за ўсё гэта альбо гістарычныя, альбо літаратурныя вобразы.

Здаецца, калі б мне давялося пісаць на гэтую тэму, то я пісала б пра сваіх бацькоў. І не таму, што мяне не хваляваў лёс войнічаўскага Авадня ці пакутлівая, мужная і велічная смерць генерала Карбышава. Падобныя прыклады можна прыводзіць і прыводзіць бясконца.

Але калі побач з табою людзі, хараством якіх ты захапляешся з дзяцінства і ўсё жыццё, памяць аб якіх захоўваеш, як святыню, то ў першую чаргу хочацца гаварыць пра іх.

Маці мая, простая жанчына, медыцынская сястра, не мела нейкіх выбітных талентаў, акрамя аднаго, які, на жаль, не заўсёды даецца людзям — гэта бясконцая Дабрыня, Дабрыня з вялікай літары, Дабрыня чалавека, маці, жонкі, сябра, таварыша.

Можа, таму невыпадкова стала не толькі жонкаю і таварышам для майго бацькі — чалавека духоўна бясконца багатага. Сям’я наша была на рэдкасць дружная, прыгожая, прасякнутая любоўю і да блізкіх, і да людзей наогул.

Як я сябе памятаю, бацькі заўсёды дапамагалі то аднаму, то другому, то трэцяму. Дапамагалі ў вучобе, дапамагалі, як кажуць, выйсці ў людзі. І гэтая дапамога была не выпадковая, а рэгулярная, штомесячная і, галоўнае, шчырая.

Ключы ад нашае кватэры былі нямала ў каго з радні (якая не жыла ў Мінску), і нярэдка, прачнуўшыся раніцай, у суседнім пакоі мы знаходзілі каго-небудзь з нечаканых гасцей.

Наогул дом наш заўсёды быў поўны людзей. Успамінаю, як нярэдка маці з бацькам называлі яго «Домам селяніна». Дзядзькі і цёткі са Случчыны (маю на ўвазе не сваякоў) добра ведалі дарогу ў наш дом, і часта нашы пакоі выглядалі досыць маляўніча, калі, каб прайсці, трэба было пераступаць цераз людзей, якія спалі ўпокат.

Любоў да чалавека займала адно з першых месцаў у нашай сям’і. Можа, гэтая цудоўная, святая рыса маіх бацькоў ашчаслівіла іх сапраўдным сяброўствам з вельмі цікавымі людзьмі.

Я добра памятаю, як у нас на Лодаманцкай вуліцы, дзе бацькі наймалі два пакоікі ў прыватным доме, бывалі Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Платон Галавач, Мікола Аляхновіч, Валерый Маракоў і многія іншыя. Вельмі любілі мы з братам прыходы дзядзькі Міхася (Чарота). Прыйшоўшы ў хату, ён сцягваў свой чорны доўгі кажух, кідаў яго у кут: «Вось тут яму самае добрае месца», жартаваў з намі, малымі.

Памятаю і нашы сямейныя паходы да Галавача, Аляхновіча.

І хоць бацькавы сябры былі нярэдкімі гасцямі ў нашым доме, нас заўсёды не пакідала пачуццё святочнасці, калі прыходзілі гэтыя людзі. Доўгае застолле, не без чаркі, але і без лішніх «возлияний». І бясконцыя, часта далёка за поўнач, а то і да раніцы, размовы, чытанне літаратурных твораў і ўрыўкаў, абмеркаванні, спрэчкі. І песні, беларускія народныя песні, якіх я шмат памятаю з тых далёкіх ужо часоў.

Дабрыня, прынцыповасць, бескампраміснасць, рэдкая прыстойнасць і духоўнае харасство — вось тыя рысы, якія прыцягвалі да бацькі добрых людзей.

Урэзалася ў памяць, як прыходзіў да нас (мы ўжо жылі ў сваёй кватэры на Савецкай вуліцы) Кузьма Чорны са стрыечнаю сястрою, якая прыехала са Случчыны і даводзілася нам нейкай сваячкаю. Гэта было пасля таго, як Мікалай Карлавіч вярнуўся пасля досыць працяглай адсутнасці ў адзін з цяжкіх 30-х гадоў.

На спачувальныя словы маці: «Братка Кузьма, як змяніўся», — у адказ: «Не з курорта прыехаў». І працяглая разважлівая размова з бацькам, здзіўленне, нейкая разгубленасць, збянтэжанасць.

Вельмі цяжка пераносіў бацька страту сяброў у тыя страшныя гады. Сам ён, цяжка хворы на сухоты (хвароба падкасіла яго пасля раптоўнай трагічнай смерці васьмігадовага сына), быў прыкаваны да ложка. Адзін за другім знікалі людзі, якіх бацька шчыра любіў: Чарот, Зарэцкі, Галавач, Маракоў, Хведаровіч і іншыя. І вось апошні прыход Міколы Аляхновіча. На ўспамін пакінуў бацьку свой гадзіннік. Развітаўся. Пайшоў са словамі: «Мабыць, і мая чарга надышла». Памятаю бяссільныя бацькавы слёзы і бясконцае: «За што? За што? Тут нейкая страшная памылка. Усё павінна высветліцца».

Усё гэта ўзмацніла і хваробу фізічную: да туберкулёзу лёгкіх далучыўся і туберкулёз касцей (у месцы старога ранення нагі шабляй). Нагу загіпсавалі. Паддуванне лёгкіх (пнеўматоракс) знясільвала яго. І фізічна, і маральна, і матэрыяльна цяжкія былі гады. Цяжка было яму і працаваць. Але бацька трымаўся мужна. Шмат чытаў, займаўся вывучэннем замежных моў, гісторыяй, мастацтвам — захапляўся жывапісам, музыкай. Падтрымліваў сувязь з роднымі і блізкімі, з

землякамі, цікавіўся іх жыццём, жыццём калгаснае вёскі. І патроху пісаў. Закончана была аповесць «Пад трыма шкурамі», а потым і раман «Салаўі святога Палікара», пісаліся артыкулы, у тым ліку і па культуры мовы.

Вялікім захапленнем бацькі былі кнігі. Гэта нельга абазначыць некалькі легкаважным модным зараз словам «хобби». Гэта была, кажучы словамі паэта, — «Одна, но пламенная страсть». Кожная камандзіроўка — гэта новыя кнігі. І ён ведаў букіністаў у розных гарадах краіны, і яны ведалі яго, дасылалі рэдкія і цікавыя кніжкі. Бібліятэка была вялікая і каштоўная. Сярод кніг многа было па гісторыі і мастацтве. Памятаю такі выпадак. У доме здарыўся пажар. Бацьку паведамілі пра гэта ў Дом пісьменнікаў (жылі мы непадалёку). Ішоў няспешнаю хадою. «Калі, крый божа, што здарылася з бібліятэкай, то і спяшацца няма чаго», — былі яго словы.

І мяне бацька прыахвоціў да кніг, навучыў любіць і цаніць іх, накіраваў маё чытанне. Гэта была пэўная сістэма, а не выпадковае знаёмства з той або іншай кніжкай.

І яшчэ мне вельмі падабалася і захавалася ў памяці такая цудоўная рыса характару бацькі — яго надзіва прыгожыя адносіны да маці. Адкуль бы ні ехаў — заўсёды прывозіў маці, жанчыне прыгожай, але вельмі сціплай, неперабoрлівай, розныя экстравагантныя, але зробленыя з вялікім густам рэчы. І на папрок маці — у адказ заўсёды адно і тое ж: «Прыгожую рэч хачу бачыць на табе, а не на іншай жанчыне». Нас, дзяцей, любіў, але не распешчваў. «Усяму свой час», — бывала, казаў ён. Шчыра рэагаваў на нашы радасці, перажыванні, не заставаўся ў баку ад іх.

На пачатку чэрвеня 1941 года я апынулася ў санаторным дзіцячым лагеры ў Ратамцы. Захварэўшы і трапіўшы ў ізалятар, збегла адтуль дадому ў Мінск. Бацька збіраўся ў туберкулёзны санаторый у Навальні. Абрадаваўся майму нечаканаму прыезду. У доме вялікая радасць — прыняты да друку новы бацькаў твор «Салаўі святога Палікара» (які быў выдадзены ўжо без яго пасля вайны). «І яшчэ для цябе сюрпрыз — я ўзяў білеты на дзве мхатаўскія пастаноўкі «На дне» і «Школа злословия». Вось і сходзіце з маці, а я буду рыхтавацца да ад'езду». А ехаць яму вельмі не хацелася — страшэнна трывожным, небяспечным было становішча. Аднак здароўе вымушала паслухацца дактароў.

Гэта было маё апошняе спатканне з бацькам. Я ж вярнулася ў лагер 21 чэрвеня, а 25-га праз палаючы родны горад нас вывозілі на Усход, на Волгу.

З дзіцячага дома з Хвалынска пісала ў Саюз пісьменнікаў у Маскву — была нейкая надзея, што бацькі змаглі выехаць. Адказалі мне Лынькоў і Чорны. Адказалі, што пра бацьку нічога не вядома, што

з Беларусі ён не выехаў. Я лічыла, што бацькі загінулі. І толькі на трэцім годзе вайны, прыехаўшы з чыстапальцамі (сем'ямі маскоўскіх пісьменнікаў, якія былі эвакуіраваны ў г. Чыстапаль Татарскай рэспублікі і куды клопатамі нашых беларускіх пісьменнікаў была выклікана і я), я спаткалася са сваімі роднымі беларусамі ў «Якары». Спачатку мяне прыгрэла цёця Уладзя (жонка Купалы, з якім бацька сябраваў і якога бясконца паважаў), а пазней я «перакачавала» на Сходню, дзе пачаў працаваць наш універсітэт.

У Маскве даведалася ад Кузьмы Чорнага, што бацькі мае партызаняць. Колькі было гонару, але і бясконцай трывогі за іх.

На Сходні ў той час вучыўся і працаваў Іван Мележ. Вельмі цёпла ўспамінаў бацьку, яго каштоўныя парады, калі бацька працаваў, узначальваў кабінет маладога аўтара.

Аднойчы мне паведамілі на Сходню, што Кузьма Чорны атрымаў ліст ад бацькі. Лячу да яго. Не магу паверыць вачам сваім. Чытаю.

«Дарагі, паважаны сябра Кузьма!

Ты ўжо, напэўна, не спадзяваўся пачуць што-небудзь пра мяне калі. Але надзіва я яшчэ жывы, — чорт яго ведае гэтыя рыпучыя дрэвы...

Чуў, братка, што ты быў вельмі хворы, але ад душы рады, што выкараскаўся. Не час яшчэ, браце, збірацца туды, не час, — трэба рыпець...

Краіна наша здратована, прытоптана і забруджана звярамі ў выглядзе людзей. Народ наш перажывае немаведама якія пакуты — я гэта бачу на свае вочы штодня, штохвіліны. А таму трэба рыпець, братка. Бо народ наш павінен убачыць волю сваю і славу сваю.

Шосты месяц ужо я з партызанамі. За гэтыя часы я ўбачыў шмат чаго. Фашысцкімі нелюдзямі знішчана праз падпалы з зямлі і праз бомбы з самалётаў палова беларускіх вёсак. А колькі забіта, пастрэлена, папалена, павешана жанчын, старых, дзяцей, — імёны іх не палічыць. І калі ты апынішся тут, на роднайМіншчыне і Случчыне, дык не пазнаеш ні нашых гарадоў, ні нашых вёсак, а шмат якіх і зусім не знойдзеш. «Завошта пакутуеш ты, Беларусь, за якія грахі?» — пытаюся я і чую шматгалосы адказ мёртвых: «За славу сваю!» Чую шматгалосы адказ жывых: «За славу сваю!» Гамоняць шматлікія беларускія лясы і звініць вакол грозная зброя, і з гэтага гоману выразна чуваць мне: «За славу сваю!» Колькі можна было б расказаць, але хіба не давядзецца ўбачыцца.

Учора ўночы з пяцьма таварышамі, з якіх аднаго ты вельмі добра ведаеш (памятаеш Алеся Матусевіча? — ён цяпер лейтэнант і ардэнаносец і яму знаёмыя ўсе сцежкі Міншчыны), мы вярталіся з-пад горада. Калі памятаеш, пад Гарадком быў санаторый. У гэтым сана-

торыі фашысцкія прыслужнікі Астроўскія марылі голадам 270 дзяцей, а гэтымі днямі збіраліся вывезці, каб яны загінулі і зусім. Бо Астроўскім, па загадзе фашысцкіх нелюдзяў, трэба было ў санаторыі паставіць гарнізоны з гвалтоўна мабілізаваных беларусаў (супраць партызанаў). І вось я бачыў гэтых дзяцей: яны былі хто без верхняе вопраткі, хто (большасць) без абутку, зусім босыя — адна партызанская рота вывозіла іх у партызанскую зону. Быў ладны мароз і сухі паўночны вецер. Дзяўчаты з абслугоўваючага персаналу ў сялянскай хаце, асветленай лучынаю, раздзіралі на палосы прасціны і ўкручвалі дзецям ногі. У мяне запытаўся васьмігадовы хлопчык: «Вам не холадна было?» Я кажу: «Не. А табе?» «Мне, — адказвае ён, — было цёпла. У мяне няма пальто, але я ўкруціўся ў коўдру і гэтак ехаў». Дзеці худыя, зняможаныя галадоўляю. Яны добра гавораць па-беларуску і не ведаюць, дзе іх бацькі, дзе свае, а шмат не памятаюць нават сваіх бацькоў. Шмат з іх хворыя, паабмарожваныя ў дзіцячым доме. Дарма, у партызанскай зоне паправяцца, падужэюць, расці, расці на славу нашага народа. І калі мы пераязджалі гравійку, на якой партызаны ўстанаўлялі кулямёты, каб забяспечыць ад нападу фашыстаў перавоз дзяцей, мы ўбачылі вялікае зарыва: гарэў санаторый. Значыцца, дзеці вывезены ўжо ўсе — літаральна з-пад носу ў немцаў — і ў санаторыі не паставяць ужо фашысцкага гарнізона.

Будучы з партызанамі, я пішу патроху, як пісаў быўшы і ў горадзе. Я нават вывез усе свае рукапісы ваеннага часу (даваенныя, як і бібліятэка, пагарэлі), якія некаторым асобам могуць паслужыць, магчыма, матэрыялам для абвінавачвання, але ў асноўным, на маю думку, павінны паслужыць матэрыялам для апраўдання. Але благі лёс падштурхнуў благіх людзей, і мае рукапісы аднойчы былі ўкрадзены з тае вёскі, дзе я хаваў іх. Я трохі прасачыў след — можа, яны трапяць за фронт. Калі яны трапяць у Саюз савецкіх пісьменнікаў або ў партызанскі штаб або яшчэ куды, — прашу цябе ўжыць усе заходы, каб яны захаваліся.

Чытаў твае творы ў кніжачцы і ў газетах. Ці працуеш над чым вялікім?

Як жывуць хлопцы? Ці чуваць што пра З. Бядулю? Пра Хв. Шынклера? Я чуў, што Змітрок загінуў у барысаўскім гета, калі праўда...

Калі ўдасца выканаць адну маю просьбу, дык буду вельмі прасіць цябе аб гэтым разам з жонкаю. Яшчэ ўвосень я пасылаў у Цэнтральнае эвакуацыйнае бюро роспыт пра дачку, якая выехала на пачатку вайны з ратамскім піянерскім лагерам і, па чутках, была недзе пад Куйбышавам. Ці жыва яна? Дзе і як жыве? Ці ведае пра нас? Гэтага

мы нічога не ведаем. І калі ты зробіш мне гэтую сяброўскую паслугу, буду немаведама як удзячны табе. Зваць дачку Анцінея, калі памятаеш. Вынікі роспыту я прасіў тады паведаміць на адрас Петруся Глебкі, бо чуў, што ты вельмі хворы. А мне цяпер напішы сюды.

Сяброўскае прывітанне табе ад Алеся Матусевіча. Між іншым, ці чуў ты, што Макара Паслядовіча вывезлі з жонкаю ў Германію на «работу»? Пад страхам расстрэлу за брата, які ўцёк у партызаны, яго прымусілі даць падпіску, што ён добраахвотна едзе на працу ў Германію. Было гэта год таму.

Пераказвай прывітанне ад мяне ўсім хлопцам.

Прывітанне табе і тваёй сям'і ад мяне з жонкаю.

З прывітаннем і пашанаю твой сябра

*28 сакавіка 1944 г.* *Р. Мурашка.*

Я дасылаў трохі сваіх матэрыялаў у рэдакцыю «Савецкая Беларусь», не ведаю, ці выкарысталі там што.

Мой адрас для адказу:

«Сакратару Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б Мачульскаму для маёра Казанцава». З такім адрасам ліст твой трапіць да мяне».

Прачытала ліст. Але трывога чамусьці расце. І не дзіва. Ліст доўга (амаль тры месяцы) дабіраўся да Масквы, і калі трапіў да мяне, то бацькі ўжо не было. Здарылася гэта ў час блакады незадоўга да вызвалення Мінска. А калі вызвалілі Мінск, прыйшоў ліст і ад маці з гэтай цяжкай весткай.

Праз месяц пасля вызвалення Мінска з першым універсітэцкім эшалонам вяртаюся дадому, у наш зруйнаваны, скалечаны, але не скораны горад. Ледзь пазнала маці — так змяніла яе гора і ўсё перажытае. Бясконцыя размовы, расказы пра іх і маё жыццё. Часта да нас з маці заходзілі сябры бацькоў па партызанскім атрадзе. Вельмі хораша ўспаміналі бацьку. І гэтым дапамагалі нам у нашым бясконцым горы.

Ні разу ў мяне не з'явілася думка, як такі вельмі хворы чалавек, якім быў бацька, выбраў у час цяжкіх выпрабаванняў менавіта такі шлях. Інакш і быць не магло. Я не буду звяртацца да біяграфічных звестак, добра вядомых, аб якіх вельмі падрабязна і хораша расказаў у сваіх «Памятных сустрэчах» Мікола Хведаровіч, добры сябра бацькі, знаёмы з ім па партыйнай рабоце на Случчыне аж з пачатку 20-х гадоў.

Радзіма, лёс і жыццё яе, родная, бясконца любімая Беларусь — вось той боль і думы, якім бацька аддаваў свае сілы, сваю працу, як аддаў і жыццё.

І па ім, як і па іншых сваіх сынах, на зямлі беларускай у самоце схіляе галаву адна з чатырох бярозак.

Нізка кланяюся табе, зямля наша, што нарадзіла ты і выхавала такіх людзей, як мае бацькі, у якіх было і ёсць чаму вучыцца.

Гэта вялікае шчасце, калі побач з табою сапраўдныя людзі.

Зараз, рыхтуючы гэты матэрыял, каторы раз перачытваю апошні



# Мікола
# НІКАНОВІЧ

Мікола (Мікалай Уладзіміравіч) Нікановіч нарадзіўся 15 красавіка 1902 г. у в. Кляннік Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Смалявіцкі раён Мінскай вобласці).

Вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы, пасля ў гімназіі ў Ігумені (цяпер Чэрвень). Прымаў удзел у барацьбе супраць польскіх акупантаў. Пазней настаўнічаў, з 1921 па 1927 г. быў загадчыкам Кляннiцкай школы. У 1928 г. пачаў працаваць стылістам у газеце «Чырвоная змена», затым — у рэдакцыі «Звязды». Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», пасля — у БелАПП. У сакавіку 1933 г. быў рэпрэсаваны і высланы на Урал (рэабілітаваны 24 жніўня 1956 г. Вярхоўным судом БССР). Працаваў у газетах «Уральский рабочий» і «Советский Дон». У 1942 г. мабілізаваны ў армію. Трапіў у 16-ю запасную стралковую брыгаду, потым удзельнічаў у баях. Загінуў у кастрычніку 1944 г. на тэрыторыі Чэхіі.

Першае апавяданне апублікаваў у 1923 г. у газеце «Савецкая Беларусь». У 20–30-я гг. друкаваў свае творы на старонках тагачасных газет і часопісаў: «Звязды», «Маладняка», «Чырвонай змены», «Маладога аратага», «Полымя»,

«Аршанскага маладняка», «Чырвонай Беларусі», «Беларусі калгаснай», «Беларускага піянера» і інш. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Золак» (1926), «Радасць» (1926), «Крык працы» (1928), «Вясновы прамень» (1929). Выдаў асобнымі кнігамі аповесці «Мяцеліца» (1930), «У паўстанцаў» (1931). У 1929 г. у друку з'явіліся ўрыўкі з раманаў «Вяснянка» і «У дні барацьбы» (газеты «Савецкая Беларусь» і «Чырвоная змена»), а ў 1932 г. на старонках перыёдыкі надрукаваны ўрывак з аповесці «Скарабея» і фрагмент з дзённіка «Залатая восень». Пасля смерці пісьменніка выйшлі кнігі выбраных твораў «Летнім днём» (1960) і «Светлая даль» (1985).

Перакладаў з рускай і ўкраінскай моў. Пабачылі свет у яго перакладзе аповесці А. Няверава «Ташкент — горад хлебны» (1930), А. Дончанкі «Ударны атрад» (1933), кніга Е. Бурчэ «Прыгоды ў паветры» (1932). Спрабаваў пісаць вершы, у беларускіх газетах і часопісах друкаваў нарысы.

# ПРОЗА

## ЗАЛАТЫЯ ЗВАНОЧКІ
*Апавяданне*

Туманамі кураць верхаводкаю залітыя паплавы, плыве востра-шырокі і здаровы пах ад тлуста-прэлай зямлі, глыбока ўліваецца ў грудзі свежае вясновае паветра, узбуджае яно і адначасна заспакойвае...

Як кінуць вокам на вялікі разлог, аж да лесу сіня-смутнага, толькі дзе-нідзе кавалкамі-лапінкамі блішчыць цёмны снег ды дарога, высока падняўшыся над загонамі, шэра-бруднай істужкай-аборынай круціцца кудысьці па-за сівы туман... Пад нагамі гразка-клейкая чорная зямля...

Дарога месцамі ачысцілася ад снегу і ўжо троху прасохла, і я стараюся ісці па цвёрдай зямлі, з вострымі ўспамінамі аб вясне ў кветках, з ружовымі вечарамі, з раніцамі мядовымі...

Яшчэ зусім рана, вось толькі нядаўна што патухлі зоркі і месяц абамлеў, за ноч трохі падмерзла, але вязнуць ногі ў чорным глеі, а мне хочацца, каб так і было, і я іду па сцежках палявых, п’ючы прыемны гнойны пах зямлі...

— Эх, родная, дарагая ты, зямля!..

Здаецца, маўчыць усё навокала, а прыслухаешся — гамоніць усё і спявае свае вялікія песні радасці.

...Малінавым сокам разлілося сонца на блакітнай хустцы свежа-сакавітага неба... Пырснула, разлілося, шырока разбеглася на вялікім абшары, замітусілася, заскакала і пацягнулася к вачам маім доўгімі залатымі стрэламі...

Жмурацца і адначасна смяюцца вочы.

А насустрач гэтаму раскрываюць свае абыймы поле, паплавы, дарога, лес і з вясёлай песняй жыцця прыціскаюць к сабе гэтую любую красуню-сонца...

Хочацца слухаць гамонку прыроды...

І поўняць паветра цецерукі-балбатуны, што заспрачаліся на палянцы за гаем, які за поплавам кудрамі сваімі прыпаў к мяккай вадзяной падушцы. І ўяўляецца мне: каля хвоі на пагорку, яшчэ ў змрочным тумане, дратуючы пажоўкла-мокрую леташнюю траву, напыжыўшыся, надзьмуўшыся, шаруюць крыламі сваімі каля цяцёркі самцы... І б'юцца пасля заўзята, доўга, з крыкам, з форсам... Проста невымоўна, якая вялікая і дарагая гэта мінута для паляўнічага.

Гэты малюнак бярэ для сябе ад стральца і пачуцці, і душу, і думкі, і розум, астаўляючы за ім, праўда, толькі адно вострае жаданне:

— Не спужаць хаця б... Заўчасна на мушку ўзяць...

І ў маёй душы варушыцца недзе гэтае неміласэрнае жаданне, і ўжо хочацца быць там, каля «такуючых» цецерукоў, сядзець у будцы, трымаць напрыгатове стрэльбу...

І яшчэ вушы ловяць зыкі: розныя яны бываюць, і шмат іх. Гэта зыкі прабуджэння, і затым вялікія яны ды дарагія...

Сярод іх спачатку ледзь чутна, неразборліва, нясмела, абрыўкамі (проста не верыцца) нясуцца з глыбіні неба бязмерна любыя, сэрца хвалюючыя, мілыя — залатыя званочкі!.. Першыя вестуны вясны, яны ўжо граюць гімн маладой чырвонай вясне, выліваюць сваю чула-мяккую душу ад доўгага маўчання ў прыгожыя палявыя мелодыі, поўныя кіпучай радасці і вяселля да новага жыцця; і тады хочацца мне, разам з гэтымі жаваранкамі, крыкнуць ад непамернай буры ў душы ў сінь-вясноўскія прасторы:

— Эх, радасць ты глыбока-бязмежная з шырынёю веснавых напеваў!.. Эх, жыццё ты маё дарагое!..

Усю тую ноч мне сніліся шырокія, неабдымныя прасторы свабоднай ад ледзяных сковаў зямлі, ружова-светлыя далі, віхрастыя бярозы і песні... званочкі, званочкі і песні...

Гэтымі песнямі, здаецца, быў запоўнен увесь абшар, і таму так глыбока яны ўрываліся ў мае пачуцці...

Як прачнуўся, дык зразу і кінуўся к акну...

А за акном траслася ў нейкай дзіка-кіпучай злосці па-асенняму прыбраная раніца. Халодны сіверны вецер шкаматаў і трос голыя за акном кусты, і яны, шаруючы сваім голлем-драцінкамі аб шкло, жаласна, без слёз, енчылі-плакалі; мо ад гэтых зыкаў нараджалася ў маіх пачуццях уяўленне залатых званочкаў!.. Чорна-гразнымі ахапкамі нізка беглі за ветрам дажджлівыя хмары і,ападаючы на небасхіле адна на адну, рабілі там злавесна-чорны фон, вось такі, як бывае калі ад наплыву вялікіх хмар летам у

навальніцу. Плакала раніца. Толькі зірнуўшы на зямлю, мне здалося, што яна святкавала сваю перамогу і што тое, што робіцца над ёю, — гэта ўсё часовае, няпэўнае, пераходнае, а яна застанецца і назаўсёды непарушнай, пастаяннай, вось такой вясёлай, як выглядае цяпер пад апошнімі слязьмі зімы...

Гэта падкрэслівала і чарада гракоў, якія ўвесь час круціліся над раллёю, весела і гучна крычалі, садзіліся на загоны, нешта шукалі, зноў з радасным крыкам узляталі і, шпарка махаючы мокрымі, сырымі крыламі, ляцелі адна за другою к гаю.

Сярод іх былі і вароны, і мне падумалася: «Гэта ж і вароны ўмяшаліся ў сям'ю гракоў, каб паўней і глыбей адчуць радасць свежа-новых веснавых часоў жыцця... Цэлую зіму халодную жылі яны тут без уцехі, і адным ім гэты прыход вясны будзе будным, а вось з новымі жыхарамі — глыбей вяселле!..»

Пачаў свістаць вецер, яшчэ горш і цямней пачало хмурыцца і насуплівацца цёмна-вадзянымі хмарамі неба, зарумзалі, закачаліся кусты, і сама сабою неўзаметку пачала ўлівацца ў маё сэрца нуда, пачало ўяўляцца асенняе, адміраючае.

І вось сярод усіх зыкаў гэтых вуха ўлавіла далікатныя, слаба чутныя — залатыя званочкі!..

І, змахнуўшы з сэрца свайго нуду, нездаволенасць, маланкай асвяціла думка: «Жыццё новае нараджаецца!.. Не зломіць яго ні бура-сівер, ні чорныя хмары, ні адміраючая бяссільна-злосная зіма. Першыя іскры ўжо паляцелі...»

Эх, вяселле ты шырокае, шчасце жыцця майго!..

І я патануў у прасцягах светлага, радаснага, бурна-захліпаючага ўсю маю душу, вясёлага.

А званочкі залатыя дробна-раскацiста звоняць, звоняць і звоняць!..

## НОЧЧУ КУПАЛЬСКАЮ
*Апавяданне*

### I

Васількoвы вечар сівую бараду растрос над балотам, нацягнуў на сябе чорна-шэрую коўдру ў залатых дзірках і шчыльна прыпаў шырокаю маўчанкаю да сырых здаровых грудзей зямлі: поля і калматых сенажацяў...

Калаціўся далёка за лесам слабы і нежны адсвет вячэрняе

зары, мякка дрыжалі зоры, і густа пахла багуном з балаціны, спелым жытам ды яшчэ неабдымным размахам поля і дагэтуль нязмеранай сілаю лесу... Неўзабаве месяц рогам сваім чырвоным прабіў коўдру неба і абліў нясмелым, бледным светам хутар, што прытуліўся блізка да краю старога лесу гнілой хатай і трыма хлеўчукамі, а садам густым зліўся з цёмным пахмурным лесам — і абышоў з усіх бакоў гэтае старое гняздо...

І ад гэтага слабага свету глыбока ўвайшла ў зямлю хатка з саламяна-чорнай страхой, змоўкла, анямела пасля ціхенькага шушукання і, лыпнуўшы ў сад з сваіх крывавых вокан чырвона-агнёвым светам, змоўкла і заснула, скруціўшыся чорным сабакам...

Ад гэтай цемнаты і маўчанкі здалося, што ўжо зусім памёр хутар, але зараз грукнула ў сенцах закрутка, хваравіта рыпнулі дзверы і на ганак ціха выплыла постаць у кажушку з перакінутым на правую руку шэрым бурносам. Гэтая постаць хлапца патупала трохі каля ганка і пасунулася да прыклетніка, напяваючы пад нос нейкую песню, а там яшчэ некаторы час шарыла на цёмнай паліцы і слаба грукала жалезам ды сухімі драўлянымі ручкамі нейкага начыння, як здалёк здавалася: шыла, малаткоў, швайкі; потым зноў падсунулася пад акно хаты і мякка-прыемным, грубавата мужчынскім голасам пазвала:

— Мамка?!. А мамка?!.

— Хто... Антон?.. — з хаты выплыў стары, слабы, шамкаючы голас.

— Гэта я... Вот, каб на яго агні, пута жалезнага ніяк не знайсці; здаецца, клаў я яго на прыклетніку, а цяпер як памацаў, дык і няма... От думаў, сабе вазьму...

— Не, не бачыла!.. — перабіла з хаты яго маці і нешта яшчэ гаварыла, але яе слабы з-за трухлявых сцен голас разам з востра-салодкім пахам хваёвай смалы і роснай травы, якія прынёс з-за хутара кволы вецер, — змёў і затапіў цэлы хор маладых, поўных нявычарпанага палу, галасоў, якія самі сабой ад цесназты сваіх граніц прыляцелі на хутар з-за пералеску, — адтуль, дзе дзяўчаты з хлапцамі сёння вогнішча наклалі каля лесу на беразе рэчкі, куды Антон, спутаўшы каня, на пароме перабярэцца з другімі хлопцамі-начлежнікамі, а не — дык будзе ляжаць на гэтым баку рэчкі і цэлую ноч глядзець усё на той бок яе, дзе каля вогнішча будуць мітусіцца цудоўныя постаці моладзі: будзе, сілячыся і напружваючы зрок, пазнаваць постаць сваёй любай Волькі і ўсё думаць аб ёй... І думкі тады водзяцца ў яго салодкія, ружовыя, міла-любыя, зусім такія, як яна сама: чорненькая,

белатварая, з глыбока разумнымі шэрымі вачыма...

Адсунуўся Антось ад акна і замёр на адным месцы, слухаючы гэтыя галасы. Яму здалося, што песню гэту ён недзе чуў, а ад каго — вот аніяк не мог здагадацца. І ён напружана думаў, варочаў успамінамі і злаваў адначасна, што вот-вот уз'едзе на памяць, мігне перад вачыма постаць і голас той пявунні, а потым зноў адляціць немаведама як далёка, і ад гэтага, заглушаючы ўсё, рабілася вельмі ж бурна на душы... Забыўся і пра пута Антон, адагнаў ад сябе далёкія і няясныя, як воблакі ноччу, успаміны, падышоў да каня, адвязаў ад плоту, перакінуў цераз яго галаву і ўмасціў добра на спіне бурнос... Рыпнулі вароты, і ў мутнай цямноце спачатку расплылася, а потым і згубілася нястройная, рагатая постаць каня і Антона на ім...

Расступалася ўперадзе вязкая цемната, ціха плылі насустрач платы з кустамі, ды сухі вецер, напоены вячэрняю расою, коўзаўся па твары, і мякка лопаў капытамі конь па сыраватай дарозе ды ў такт павольна гушкаў седака... Тады і запоўніла, затапіла душу Антона не то радасцю бязмежнай, не то тугой ціхай або пачуццём, якое бывае ў ружова-сіні вечар, калі разам з вольнасцю начных пraстораў плыве ціхая, поўная жальбы песня жніўная, ці ад шырокага і глыбокага кахання да дзяўчыны...

Нешта думаць прабаваў Антон, але зноў у пахнучай цемнаце растапілася салодкая мелодыя і закалыхала яго ў пачуццях...

У нас сягоння вайна была,
а ў нас сягоння
вайна была...
Усё поле зваявалі...

Люба было Антону слухаць гэтую дажынкавую песню, поўную шырокага раздолля і любові, і мо ад гэтага ўспаміны кранулі яго пачуцці, і тады ўявілася яму:

...У сэрца ўелася яшчэ летась, як яна, Волька, жала сваё жыта, а ён, зарабляючы грошы, касіў у канцы загонаў, на паплавах яе бацькі... Тады яшчэ яна, сустрэўшыся вечарам у сенцах і схапіўшы яго за локаць, з усмешкай кінула, хаваючы ў вейках вочы свае шэрыя:

— Прыходзь калі да нас, Антон!.. Весялей будзе...

Скалануўся тады ад гэтага Антон, як бы ад марозу, і памуцілася ўсё ў памяці, нешта і ёй сказаў, але так ціха, што і не пачула яна, дый цяпер сам не ведае што... А яна ўсё стаяла перад ім у вячэрнім змроку і маўчала і, мусіць, гэтак жа сама, як і ён, не ведала, з чаго тут пачаць гамонку, і наогул, ці гаманіць, ці кінуць

ды пайсці за сваім дзелам.

— Глядзі ж, брат Антон, пастарайся заўтра рана прыйсці: сівец будзем касіць, дык няйначай як з расою яго патрэбна браць!.. — перабіў думкі абаіх бацька Вольчын — Паўла, ідучы з хаты ў сенцы...

А цераз дзень ужо Антон не пайшоў дамоў, а застаўся начаваць у пуні Паўлавай. Успамінаецца і цяпер, як цэлую ноч тады ён не мог заснуць ад думак розных, і нават уяўлялася тады, што вот яна ідзе да яго ўсё ж такая ціхая, пакорная і, трымаючы яго за руку, глядзіць у вочы і маўчыць... А тады і сапраўды, калі Антон ад духаты выйшаў з пуні ноччу на двор, — убачыў, як і яна выйшла з сянец у белай кужэльнай сарочцы, вышытай вузенькім паясочкам на грудзях, і, убачыўшы Антона, стала каля сцяны, пад страхою, і як бы замерла. Што было далей — не помніць Антон, толькі ведае, што абое яны прыхінуліся да сцяны і тады, ледзь сутрымліваючы яе трапяткое цела, цалаваў мяккапульхны гарачы дзявочы твар, доўга, салодка, аж мляўка зрабілася... Не працівілася Волька — толькі пры новым пацалунку ямчэй прыхіналася да яго ўсім сваім маладым, поўнагарачым целам, парыўчата абнімала сваімі крэпкімі рукамі і так замірала ў пацалунках...

Маўчала Волька, цяжка і скора сапла ды яшчэ вочы свае адводзіла ўбок, каб нават у цямноце не сустрэцца з Антонавымі... І толькі тады, як Антон, у салодка-прыкрым палу нічога не памятаючы, моцна прыпёр яе да сцяны і сціснуў сваімі дзябёлымі рукамі яе постаць, яна закінула назад галаву, прышчурыла вочы і, млеючы, ледзь чутна выціснула:

— Любачка мой, Антоначка!.. А ці ж возьмеш мяне?!.

Мітусілася ў галаве Антона снегавой мяцеліцай, гэтак жа сама і ў вачах: і зноў нават і цяпер не помніць ён, як гэта выйшла, што замест іх дваіх аказалася трое... Захліпнулася сэрца ў Антона, рукі закалаціліся, трымаючы Вольку, але ўсё ж ткі прыгледзеўся... Амаль што не ў самыя вочы тыцнула шэрая барада, кальнулі вочы, і дыхнула на твар Антона вострым клёкам з люлькі...

Далей не хочацца нават і думаць Антону... Было тое, што заўсёды бывае ў такія разы з другімі...

Толькі нешта зімою пасля таго яшчэ раз сышліся яны на вечарынцы, пасядзелі разам у кутку цёмным і так разышліся, не сказаўшы адно аднаму і сотай долі таго, што было на душы ў кожнага і хацелася сказаць. Як ішоў Антон на вечарынку, думаў яе ўбачыць і сказаць ужо шмат чаго: што і любіць яе вельмі,

аж ноччу не хочацца яму спаць ад наплыву вастрамляўскіх думак, і што тады, ноччу ў жніва, ён нават і не вінават быў, шмат чаго думаў сказаць, а як убачыў яе цяпер, дык і прапала ўсё, толькі як выйшаў на вуліцу дамоў ісці, дык зноў пацягнула сіла нейкая назад, да яе, але ўжо было позна. Вось так, хаваючы ў сваёй душы гэтае набалелае, моцна-любоўнае, пакутаваў Антон і хацеў зноў, калі ўбачыць яе, і ўжо ўсё расказаць, а калі будзе яна згодна — нават і ажаніўся б з ёй, дармо, што яна «багатая», а ён толькі што жыве з духам...

Але так і не прыйшлося яму сустрэць яе, і вось толькі сягоння, пачуўшы песні і ўздумаўшы ўсё, што было ў яго з ёй калісьці, успомніў, што гэта ж яе цяпер голас ён чуў тут ад вогнішча і яе песню, бо чуў ён гэту песню ад яе тады яшчэ, летась, як касіў у яе бацькі; і ад гэтага трохі весела стала Антону, і ён ткнуў лапцямі пад бакі каня, тармазнуў к сабе павадамі і, гікнуўшы, прапаў за кустамі вербалоззя над рэчкай...

Калі трохі спусціўся ён з канём на паплавы, конь зачвокаў капытамі ў лагчыне, і Антон павярнуў направа к берагу рэчкі і зараз жа на яго і ўз’ехаў...

Расступіліся кусты, і скрозь іх Антон убачыў, як шырока і мякка пераліваліся хвалі цёмнай ракі, а за ёй, у бок ад лазняку, зусім пры рацэ, на сенажаці роўна гарэла вогнішча і адсвячала фантастычныя рухі фігур і маўклівы лес...

А з другога боку, куды Антон ехаў з канём начаваць, там, прыпёршыся да беразняку, гарэў слабы агонь начлежнікаў... Здзівіўся Антон, калі ўбачыў, што пры агні сядзелі хлопцы: яны ўмаўляліся перабрацца вечарам к моладзі, якая праўляла Купалле... І, адвёўшы вочы зноў к чарадзе, на той бок ракі, доўга любаваўся ён гэтым дзівосным хараством малюнка, залатым светам ад полымя, расцярушаным густою чарнатою ночы, і тады ж моцна захацелася яму, хоць што б там ні было, перабрацца туды...

Трымкнула скрыпка, і ціха з плачам паплылі слёзы струн. Пачакаўшы трохі, зноў завіхрыў дзявоцкі высокі голас, і Антон зноў пазнаў у ім нешта знаёмае ды яшчэ міла-дарагое...

А як пад’язджаў да вогнішча начлежнікаў, дык тады ў галаве Антона сфармавалася думка пайсці на той бок ракі абавязкова, хаця б і з-за таго, што тут з гэтымі хлопцамі і мужчынамі, якія вялі сталыя гутаркі пра зямлю, вельмі ж будзе нудна. Як плюнуць спутаў Антон каня за бярэзнікам, сцягнуў аброць і падышоў да агню... Мужчыны вялі свае гутаркі, і нават ніхто не паглядзеў у яго бок, толькі адзін мужчына, нізкі, тоўсты, з кудлатай сівай

барадою на чырвоным ад агню твары, выняў з зубоў люльку і адвярнуў галаву, каб плюнуць, заўважыў Антона.

— Вот і яшчэ адзін прывёў!.. Здароў!.. — нехаця сказаў Сымон, цвыркнуў скрозь зубы і зноў адвярнуўся да агню.

Непрытульна здалося тут Антону, і ён падсеў да белабрысага вясёлага хлопца Івана. Глянуў яму ў вочы і ціха, так, каб не пачулі мужчыны, запытаў:

— Слухай, братка... Чаму ты не там? — і махнуў Антон у бок зборышча.

— Парома не даюць, — сказаў Іван і ўхмыльнуўся.

— А каб пераплыць?! — падаў думку Антон і тады паправіў яе: — Вады не вельмі ж яно шмат, дый нешырокая гэтая рэчка, а мо можна будзе выбраць і вузейшае дзе месца?..

— Вузейшага тут нідзе не знойдзеш!.. — перабіў яго Іван і выпрастаўся, падставіўшы к агню босыя, з мокрай гразёю на іх ногі. — Усюды, брат, шырока... І віры ў гэтым месцы!.. Не пераплывеш!..

— Можна будзе!.. Дзівак?!.

— Не пераплывеш!.. І ўсё тут!..

— А каб паспрабаваць, га?.. — і ў Антона яшчэ горш заныла ўсярэдзіне, нуда засмактала і заліла ўсе іншыя пачуцці і думкі, і толькі яшчэ ўглыбіні недзе капашылася надзея, што а мо і згодзіцца Іван разам з ім пайсці на той бераг, а то аднаму неяк зусім не выпадае і сорамна.

— Эт!.. Не канешне гэта і трэба!.. — сказаў Іван і, садраўшы з сваёй галавы зімовую шапку, пачаў даставаць адтуль пачак махоркі і паперу. Відаць было, што Іван і думаць нават кінуў перабрацца на той бок рэчкі, так што далей гаварыць аб гэтым і не прыходзілася.

Пуста і ўжо злосна Антону, і яго апанавала такое пачуццё, як бы ён адзін застаўся не сярод начлежнікаў, а ў глухім і незнаёмым лесе... І мо ад гэтага пачуцця ўвабраўся ён у густы каўнер свайго кажушка, адсунуўся трохі ад Івана назад да бярозы і, разаслаўшы там свой бурнос, лёг на яго, палажыў галаву на далонь сагнутай на локаць рукі і ўтаропіўся з нейкай ужо любоўю ў сэрцы, з радасна-тужлівым пачуццём у вачах на купальскае вогнішча... Не хацелася ажно яму глядзець туды і слухаць песні вельмі ж любыя... А тут над вухам у яго цягнулася нудная, старая, запляснелая размова, нецікавая для яго і пустая.

— ...Быў гэта я надоечы ў Ігумені, дык там, паверыш, і сотага таго няма, як было даўней...

— Аж праціўна, ведаеш, глядзець на ўсё гэтае!.. — не ведаючы нават, пра што будзе гаварыць сусед, ужо перабіў яго Сымон і зноў плюнуў у дрыжачую за сабою цемень.

— Бадай што!.. Голымі ўжо пачынаюць хадзіць, сукіны сыны...

— Ну?!.

— Вот і ну!.. Яй-права!.. Без кашулёнак, а штаны там дык гы-гы-гы!.. Зусім на чатыры пальцы, каб у добрага малайца, дык ведаеш і... гы-гы-гы-гы-а!.. — заліўся сусед Сымона, Дзям'ян, дробным смехам.

— Як чэрці!.. — кінуў з-за агню чорны, даўгі, у чорнай світцы, чорнабароды і худы селянін і глянуў на Дзям'яна цераз агонь, падняўшыся на локаць.

— Але гэтым чарцям на здароўе ўсё ідзе!.. — нехаця кінуў Іван і бесклапотна ўхмыльнуўся ды пакаціўся дагары, зацягнуўшыся цыгаркаю... Усхліпнула тая патухаючай зоркай і хваравіта пачала гаснуць.

У гэту хвіліну цэлы хор галасоў пакаціўся з-за рэчкі, і, мяшаючыся з пацярухаю цемнаты, плылі песні на паплавы за бярэзнік. Сціхлі мужчыны, спакойна пачаў прыслухоўвацца да гэтых песняў Іван, закоўзаўся нервова Антон і пусціў нейкі няясны гук...

— Што? Узяло?.. — скрозь смех прасіпеў Іван і пачаў разпоразу зацягвацца канчаком цыгаркі.

Болем адазвалася ў Антона гэтая насмешка Івана, хлынулі цэлай плоймай у яго думкі, нешта хацеў сказаць ён Івану важнае такое, ад чаго ён змоўкне і не скора знойдзе слоў адказаць, але і не знайшоў сам такіх слоў... Падняўся, падлажыў пад свой бурнос вобраць і ўстаў.

— Трэба коней паглядзець... — сярдзіта буркнуў і пакіраваўся к бярэзніку, за якім спутаў свайго варанога.

— Хоць і кабыл!.. — зарагатаў яму ўслед Іван.

## II

Не пайшоў Антон да каня, а, росячыся і прабіраючыся цераз кусты хмызняку, ціха падыходзіў ён да рэчкі, усю дарогу азіраючыся, як злодзей што ўкраўшы. Туман захінаў яго ад начлежнікаў, а ўперадзе звала-маніла да сябе шырыня паплавоў, полымя, вясёлы смех, музыка, песні і... галоўнае — гэта: шэрыя дзявочыя вочы, белая, як пшонная, Волечка...

Не думалася нічога яму ад уласнага хацення ці жадання на тое, але думкі самі сабою раджаліся і неадступна капашыліся:

«Дабяруся як да яе... І здзівяцца ж тады ўсе, а я абагрэюся трохі і тады вазьму Вольку і, седзячы дзе воддаль вогнішча, раскажу ёй усё, што на душы маю!.. І што яна скажа?.. — і, падумаўшы трохі, — ды, пэўна, і яна мяне любіць, бо каб не любіла, дык не было б гэтага летась... Эх-г!..»

Муццю заслалася ўваччу, і тады ж адбілася срабрыста-вогненнымі змаршчакамі цемнаватае палатно шырокай ракі, а як узышоў на бераг, адразу спазнаў немагчымасць выканаць сваё жаданне — перабрацца на той бок, да моладзі. Хлюпала ў берагах вада, буйна качалася, і ледзь чутна было, скрозь смех з таго берага, як недзе пасярэдзіне круцілі і заварачвалі віры, хутчэй убачыў гэта пад агонь Антон, чымся пачуў... І як ні напружваў ён свой зрок на дзяўчат, але ўлавіць постаць Волькі яму ніяк не ўдавалася, хоць ужо і выразна чуў яе голас і чысты смех. З горыччу ў сэрцы адышоўся Антон ад кустоў і пайшоў да начлежнікаў.

Каля ракі ў кустах дзёрся драч, у бярэзніку цвіркала раз-поразу нейкая птушка, за рэчкай не ўнімалася вясёлая моладзь... Калі Антон лёг зноў на свой бурнос, — ніхто ўжо на яго не звярнуў увагі, — і ён ад няма чаго рабіць пачаў плюшчыць вочы на агонь і ўсё думаць аб ночы, аб страхоцці, якія ходзяць па лесе ў гэтую ноч, аб кветцы папараці, якая дае ўсялякае шчасце, багацце (як казала яму гэта баба-нябожчыца), аб тым, каб ён дастаў як гэтую папараць-кветку, дык Волечка была б яго, і нарэшце рашыў: «Толькі на адну хвіліну задрамлю, а тады, як усе заснуць, — пайду за рэчку, а там і ў лес шукаць гэтую цудоўную кветку...» Храплі начлежнікі, Сымон калупаў галавешкаю вогнішча і ўсё нешта бурчаў пад нос, хмура насупіўшы бровы...

Эх, і заспаў жа я!.. — ледзь не крыкнуў Антон, прахапіўшыся і аглядаючы начлежнікаў, якія ўжо спалі ўсе ўпавалку, а як паглядзеў на зоры, дык палічыў не больш як адзінаццаць гадзін ночы... Спала ўсё, толькі яшчэ на тым беразе шугала нейкае ўжо не чырвонае, а як бы сінявата-ружовае вогнішча, і галасы былі цішэйшыя, але затое яркія, разборчывыя, вось усё роўна што над вухам гавораць.

— Хлопцы, хто смелы — ідзём у бор, ужо пара!.. — пачуўся нейчы голас.

— Валяйма ў розныя бакі шукаць папараці-кветкі, мо каму і ўдасца ўхапіць шчасце вялікае, неспадзяванае!..

— Дык а мне чаго ж стаяць тут?.. — само сабою пранеслася ў мазгах Антона, і ён ужо без аніякай асцярогі пабег да берага

рэчкі, дзе на тым баку і вогнішча шугала і бор страшкі пачынаўся... А бор той страшкі быў казачным страхаццём, мядзведзямі, рознай дзічынай, але ў той жа час і прывабны, бо не раз ужо ўсе старыя казалі здаўных, што ўсе тут бачылі: якраз на Купалле расцвітае папараць-кветка з яе цудоўным харастовом і дзівам...

Перабраўся Антон цераз рэчку, хоць і круцілі яго віры, вылез на бераг, і ад радасці гэткай аж захацелася яму скакаць і кінуцца бягом да вогнішча, адшукаць там сярод чарады дзяўчат Волечку, абхапіць і цалаваць яе горача, шчыра і мляўка... Крадучыся за кустамі, папоўз Антон да вогнішча, каб знянацку з’явіцца і здзівіць гэтым усіх. Вот ужо і апошні куст, водблеск агню гуляе ў яго па твары, але што гэта?.. Заскакалі з дзікім крыкам хлопцы з дзяўчатамі вакол вогнішча, заспявалі нешта новае, ніколі ім не чутае... Вярцеліся пары, і як ні ўглядаўся ў іх Антон, ніяк не мог знайсці сярод іх Волькі, і толькі як адвёў ён вочы на той бок вогнішча, да кустоў, убачыў яе нуднай, ціхай, засмучанай... Яна была адна; і ад нястрымнага пачуцця любасці да яе ды да гэтых дзікіх скокаў кінуўся Антон да Волькі, абхапіў у свае здаровыя абнімы, прыціснуў да сваіх грудзей яе, як тады летам, трапечучую, мякка-крамяную, бязмерна-любую, дарагую, і міжвольна заскакаў разам з другімі каля вогнішча... Разгарэлася ад гэтага яго кроў, агнём па жылах заструменіла...

— Волечка!.. — лагодна да яе прыхінуўшыся, ціха шэпча Антон. — Шчасце маё... радасць мая!.. Ажэнімся мы з табою... Пойдзеш ты за мяне?.. Мы ж яшчэ летась, помніш?!.

Соладка яна глянула яму ў вочы і апякла вусны кароткім пацалункам...

— Буду я твая, мой любы, толькі адно табе сягоння трэба зрабіць — кветку-папараць знайсці... Бо ты ж ведаеш, што бацька мой кажа?!.

— Я гатоў на ўсё, хоць і на смерць, абы ты была мая!.. — і зноў пачалі асыпаць адно аднаго пацалункамі, захінаючыся абое за кусты.

— Ну дык ідзі за мною!.. — і, памаўчаўшы ды азірнуўшыся на балюючых, яна скоранька кінула: — І пойдзем скарэй, каб нам першым сарваць гэту краску яшчэ да іх, а калі сарвеш — будзеш мець незлічонае багацце і я твая буду, нават з гэтай ночы... — У шэрай сукенцы, як птушка, Волечка нырнула ў лісце, а за ёю і Антон.

Як увайшлі ў лес — зрабілася так цёмна, што постаць Волькі на два крокі ад Антона ўжо рабілася чорна-шэрай плямай, а яшчэ трохі далей — зусім прападала з вачэй Антона. Тады лавіў Антон

рукамі постаць яе, калі ж замест як натыкаўся толькі на тоўстыя ствалы дрэў — падаваў слабы голас, і яна, пачакаўшы яго, зноў ішла далей...

Маўчаў дзікі, непрытульна-пахмурны, цёмны лес, прабаваў нават не пускаць незнаёмцаў у свае патаемныя нетры і драў, чапляючыся за іх моцнымі лапамі-суччам...

Нешта хацеў думаць Антон, але ні адна думка не бегла яму ў галаву, толькі чагосьці калацілася сэрца ды трымцела астуджанае цела.

Не мог сказаць Антон, куды яны ішлі і які час, толькі раптам грымнула моцна-адрыўчата над лесам і густое рэха закалаціла нетры; потым яшчэ і яшчэ грымнула нешта, асвяціўшы ўвесь лес празрыста-яскравым, трохі крывавым, аж вочы зарэзала Антону, светам.

Волькі каля яго ўжо не было — ён убачыў яе воддаль ад сябе — пагардную, высокую, нерухомую. Яна моўчкі паманіла яго да сябе рукою, і, як толькі ён крануўся да яе, яна павярнулася і пайшла ад яго.

Антон адчуў, як у яго пад нагамі кісялём калацілася дрыгва, як лезлі па калені ногі ў мяккую, як падушка, мокрую і пахнучую багуном траву і мох; але ўсё ішоў і глядзеў пад гэты яскравы свет за постаццю Волькі... Што дальш — ісці рабілася ўсё цяжэй, і нарэшце ён уваліўся ў нейкае крынічышча па пахі... Яго ахапіў смяртэльны страх, і ён ужо гнеўна бліснуў на Вольку, якая не спыняючыся ішла ў гушчарняк, толькі мігала маленькімі плямамі яе шэрая сукенка. Антон сабраў усе сілы і крыкнуў:

— Волька!.. Я далей не пайду!.. Згарыць яно няхай!.. Яна абярнулася і, чамусьці не гразнучы, падышла да яго і ўсміхнулася.

— Ідзі, любы, каяцца не будзеш!.. Ужо мы і прыйшлі... Я ж сягоння ўжо буду і твая...

З сілаю вылез Антон, мокры, як ануча, і зноў пацягнуўся за Волькаю... Раптам зноў сцямнела і зрабілася такая ціш і глухата, што Антон аж падаўся назад і прыхінуўся да хвоі... І вось тады гэтак жа ціха і нячутна падляцела да яго нейкае страшыдла і ўпілося вялізнымі валовымі вачамі аж у самае нутро яго; ён апусціў вочы ў зямлю, а пад нагамі капашыўся тоўсты, як бервяно, чырвона-аксамітны гад... Нырнула ў Антона душа ў пяткі, вылецелі ўсе думкі і словы з галавы, і валасы пачалі паднімаць шапку...

Чуе — нешта шчыкоча яго ззаду лапамі павука, потым пачало цягнуць назад, і ад гэтага ці чаго іншага рвануўся Антон

уперад на невялікую цёмную палянку і зараз жа ўблытаўся ў нейкую высокую купчастую траву; калі ж ён стаў расхінаць яе — пазнаў, што гэта папараць.

А пасярэдзіне трох хвоек стаяла Волька, і ён толькі гэта неяк адчуваў, бо відаць яе аніяк не было, — здаецца, нехта суконнай коўдрай ахінуў гэты пракляты лес...

Пастаяў трохі ён на адным месцы, абцёр з ілба халодны і буйны пот, прыслухаўся да нямой цішы і рушыў у той бок, дзе стаяла і чакала яго Волька. І ўжо абуяны нездаволеным палам і нейкім пачуццём ад гэтай сляпой, востра пахучай ночы, — ён мацаў абедзвюма рукамі маладыя хвойкі, шукаючы яе, як нечакана нешта зашумела, ірвануў дзікі віхор і сціхла.

Тады яскрава ўбачыў Антон, як нешта перад ім слаба трэснула і заззяла на тоненькай ножцы аграмадным, вогненна-крывавым, з дзівотна-цудоўным пералівам свежае чалавечае крыві ці марознага снегу пад праменнем месяца цветам, ды з такім моцным пахам, што ў Антона пачало аж дзёрці ў носе і роце і хацелася чыхнуць, ды ўсё не было як...

— Антонка, ірві!.. І я твая!.. — ціха, настойна не то загадала, не то папрасіла яго Волька, і ён, яшчэ раз глянуўшы на яе, працягнуў дрыжачую руку; і каб не памыліцца — схапіў жменяю за краску...

Д'ябальскім смехам пракацілася па лесе, грымнуў гром, ды так моцна, што аж затраслася зямля пад нагамі, зноў моцна, едка ад гэтага паху заказытала ў носе і балюча несутрымна запякла краска ў руцэ...

Усміхнуўся Антон і з бязмерным шчасцем глянуў на Вольку, а на яе месцы ўжо была не Волька-красуня, а старая, гарбатая баба і ціха смяялася старым, да вушэй шырокім ротам... Яна працягнула сваю кастлявую руку, каб выхапіць у Антона папараць-кветку, але ў гэты час Антон з усёй сілы сціснуў яе ўжо ў прыгаршчах і ад дзікага, нечалавечага болю... прахапіўся.

Аж за жываты ўзяўшыся, рагаталі начлежнікі, нават і Сымон стары калаціўся ўсім сваім целам ад дробнага смеху, а Антон, нейкім парадкам падсунуўшыся к агню, — трымаў абедзвюма рукамі за жар дымную галавешку...

Ужо днелася. Тухла вогнішча па той бок ракі, на хутары галасілі пеўні, хтосьці сіпла зваў некага ў паплавах.

## КАЦЯРЫНА
*Апавяданне*

З самага паўдня ішоў дробны дождж з сырым і сіверным ветрам.

Зусім нізка над цёмна-шэрай вёскай нанізваліся адна на адну рэдкія сцюдзёныя хмары. Часамі апускаліся яны за далёкімі гумнамі, потым як бы зачэпліваліся за іхнія чорныя і мокрыя стрэхі і тады ж плакалі дробнымі і халоднымі слязьмі.

У той час маўчала вёска, глыбока захаваўшы ў сабе вялікія чалавечыя радасці, мізарнела перад усім вялікім, што ёсць у прыродзе, і рабілася ненармальна сціплай, песенна-журботнай.

У той дзень густа пахла свежым бульбянікам, недаспелымі аўсамі, а за старымі гумнамі — мокрымі палыном і лапухамі.

А к вечару густы сіверны вецер адагнаў хмары к сінеючай за алешнікам далі, абсушыўшы трохі сырыя, абросшыя трыпутнікам і дзятлікам дарогі, і выгнаў на яскрава-сінеючае неба паміраючае сонца.

Яно, слаба ўсміхнуўшыся гэтаму ліпеньскаму дню, тысячаю дыяментных зор адбілася ў расе на мокрых кустах адцвітаючых руж і залацістай фіранкай павісла на доўгіх косах заплаканых на мяжы бяроз.

Тады смяяліся бярозы, і слёзы іхнія былі слязьмі ціхай радасці і маладых уцех.

Мо яшчэ затым смяялася сонца і віхрастыя красуні-бярозы, што вёска з дальняга свайго канца песняй дзівоснай захліпнулася, скаланула празрыста-самлелыя далі на сырых сялянскіх загонах, перасыпала іх слаўнымі пачуццямі сённяшняга пражытага і з светлымі надзеямі панесла ў ружовае заўтра.

Мо яно таму так ціха-любоўна схілілася над сінеючым аксамітам старога бору, каб разагнаць сённяшні сум, глыбокую журбу і стварыць новыя песні з новымі радаснымі словамі...

Трубіў пастух.

У сырым, наскрозь прапахлым далёкімі палямі паветры чулася прыгожая мелодыя скрыпкі.

З паплавоў іржаў конь.

На бліжэйшым палетку дзед з унукам абганялі бульбу, і свежая зямля пахла востра і нагадвала яшчэ нейкі асаблівы пах, які бывае ад ворыва ўвосень на аўсянні.

Далёка за вёскаю залацілася ржышча.

Яшчэ далей — мокрым вароннім крылом чарнеў узараны папар.

Цвілі позція ружы.

А каля пахілага гумна, далёка за плячыма хаты, на агародзе,

які зарос густой і высокай лебядой, пырнікам і едкімі палынамі, палолі дзве жанчыны.

Яны палолі моўчкі, ціха, як бы засердаваўшы адна на адну, нават не падымалі галоў, нават ні разу не адпачылі.

Гледзячы на іх, думалася, што вось яны надзвычайна рады, што дарваліся да любай ім работы, і кожная стараецца як найбольш зрабіць за гэты кароткі вечар, кожная не хоча парушыць маўчанкі, каб не абрываць пярэста-ружовай істужкі думак...

Худымі рукамі калупаліся ў градах жанчыны. Пеў жаваранак. У канцы агарода, пад сланечнікам, перабірала нейкія цацкі дзіцё...

Я сяджу пад бабкай жыта і неўзаметку наглядаю за іх работай.

Я тут сеў выпадкова, каб прачытаць у цішы некалькі старонак кніжкі, і толькі потым, калі пачала глуха і захліпаючыся ды беручыся аберучкі за свае сухія грудзі, пакутна кашляць старэйшая жанчына, — я здагадаўся, што ў суседнім ад мяне агародзе полюць грады.

Па сіпавата-сухотнай гутарцы, па нячутным для вуха смеху і кашлю я спазнаў сваю знаёмую.

Гэта яшчэ маладая, гадоў дваццаці пяці жанчына, — жонка шаўца, прыйшла (ці мо, хутчэй за ўсё, уцякла ад п’янага свайго мужа) да маладой незамужняй дзяўчыны — сіраты Марысі — дапамагаць у поліве.

Перабіраючы абрыўкі думак, я ўспамінаю гэтую Кацярыну, жонку шаўца, калі яна была яшчэ зусім маладой, прыгожай, з вялікімі карымі вачыма і з слаўным грудным альтам...

Кожным вечарам у шаўцовую хату сыходзілася ўся моладзь з вёскі паслухаць песні прыгожай Кацярыны.

Здаволена ўсміхаючыся ў даўно нябрытую шчаціну сваёй барады, весела і ганарыста цягаў дратву яе мужык Кандрат, слухаў і адчуваў, як яго прыгожая, стройная жонка чаруе ўсіх сваімі надзвычайна мілымі спевамі...

Здавалася, што і Кацярына ведае цану не толькі сіле свайго голасу, але яшчэ і свайму хараству, бо не ў аднаго з хлапцоў блішчалі вочы, і нават не тады, калі яна спявае, але калі і маўчыць.

Зайздросціла ўся вёска. Але нядоўга.

Піць пачаў Кандрат.

А потым і біць сваю красуню Кацярыну. Не пашанаваў ні красы дзявочай, ні тых слаўных песень, ад якіх заўсёды на яго

вуснах грала ўсмешка пагарды.

Прабавала яна кідаць свайго мужыка-п'яніцу, думала разводзіцца, а потым чамусьці прымірылася і засталася так жыць і надалей...

Толькі ўжо не стала той ранейшай Кацярыны-песенніцы.

Прапаў голас, асекся.

Мо таму, што ад частых боек, ад голаду, ад частых дзяцей і цэлых начэй, увосень праспаных у сырых пунях, каб схавацца ад раз'юшанага свайго мужыка, — можа, і ад гэтага так востра-глыбока кашаль убіўся ў грудзі, ссушыў іх і пераеў прыемна-высокі даўнейшы альт.

Вочы глыбока ўпалі, зрабіліся яшчэ большымі, ды толькі згубілі сваю ранейшую жыццярадаснасць, смех і чыстату пачуццяў...

Замест усяго гэтага ў іх цяпер адзін востра-хваравіты і гарачы бляск ды навокала разбегліся дробныя дарожкі змаршчакоў.

Няма і тых даўнейшых вуснаў-вішань. Замест іх — хваравіта сашчэпленыя, пасінелыя...

Ад гаркаты пражытых дзён твар яе памяўся, збялеў, ды яшчэ распаўзлася па ім нейкая тонкая жаўцізна.

Усё ж ткі калі не застаўся той ранейшы моцны чаруючы голас, дык засталася нейкая мяккасць у ім з мінорнымі нотамі, ціхая журба і глыбокая туга пакрыўджанай беларускай кабеты.

Мне здаецца, што Марыся пазвала Кацярыну для таго, каб потым, слухаючы яе, успомніць сваё нярадаснае жыццё, пераплеценае з смерцю яе бацькоў, заўсягдашняй службай у найміткax, пабоі і ўсё дзявоцтва без мацярынскай ласкі, пяшчот і парад.

А калі падрасла ды стала сімпатычнай, паўнагрудай, з мяккімі блакітнымі вачыма-саракоўкамі дзяўчынай — дык адразу ж пакахала гэтаксама маладога шаўца, які ўжо адведаў за свой кароткі век усе якасці распуснага жыцця.

Пакахалі Язэпа не розум з глыбокімі разрахункамі на жыццё (да гэтага Марыся ніколі не даходзіла) — пакахалі яго глыбокія Марысіны пачуцці, сэрца, душа...

І зусім невінавата ў гэтым Марыся, што кожным вечарам чакала яго, заўсёды трохі п'янаватага, на сваім ганку і ў доўгім чаканні, гледзячы бліскучымі вачыма на зоры, — пела нескончоныя песні аб каханні, аб разбітым сэрцы, аб супольным шчаслівым жыцці.

Невінавата яна і ў тым, што так міла, пакідаючы на ружовых шчочках ямачкі ад усмешкі, прыветна ўсміхаўся яе твар з яго

прыходам. Невінавата яна, што так парыўчата рвалася яе маладое сэрца да гарачых абнімаў, а поўныя сакавітыя вусны да засмаглых пацалункаў!..

Можа, невінавата Марыся і ў тым, што неўзабаве кінуў яе п'яніца-шавец, бо знайшоў сабе багацейшую. Пакінуў Марысі толькі гаркату начных слёз ды нейкае прыемна-балючае адчуванне пад сэрцам...

Невінавата ў гэтым Марыся так, як невінавата і ў тым, што прыгожая яе маці пакінула дачцэ пасля сваёй смерці цудоўныя вочы, сонечны твар, усмешку і такія глыбокія пачуцці!..

Былі бяссонныя ночы, былі слёзы, былі шаптухі, і... нарэшце, бальніца...

Цераз некалькі дзён выйшла адтуль Марыся схудзелая, з пагаслым агнём уваччу, маўклівая...

З тых часоў ніхто ніколі не бачыў яе ні на вечарынцы, ні на аніякіх зборышчах.

Замкнулася, глыбока ўвайшла ў сваё адчуванне і перажытае і, аналізуючы мінулае, зусім крытычна пачала адносіцца к сучаснаму; здавалася ёй, што кожны чалавек нясе з сабой для яе няпраўду, здзек і пасмешышча...

Хто яго ведае, можа, кожны дзень, абдумваючы і перабіраючы ў памяці мінулае, Марысі хочацца чым-небудзь загаіць свае свежыя раны душы, — таму так заўсёды і слухае яна ціхія, поўныя горычы Кацярыніны песні.

Пад сланечнікам заплакала дзіця, накалоўшы палец на агрэставы куст.

— Ідзі, Віначка, дамоў, ідзі, маё дзіцятка!.. — устаючы ды атрасаючы ад пяску сваю спадніцу і на хаду сарваўшы пару красак-адналетак, кінула дзіцяці Кацярына.

Дзіця глядзела на свой пакалечаны палец і не ўнімалася.

Не ўнімалася і тады, калі маці, даючы цацкі, цалавала яго і, адарваўшы ад свайго падолу кавалак істужкі, беражліва перавязала яму хворы палец.

— Ды згарэце вы ад мае галавы!.. Пропасці на вас няма, — загарэўшыся сухотнымі плямамі, крыкнула Кацярына, выпхнула дзіця з агарода за весніцы і сама пайшла на сваё месца.

Некаторы час паралолі моўчкі.

— Чаму ты, Кацярына, так кажаш на сваіх дзяцей?! — парушыла маўчанку Марыся.

Тая адказала не адразу.

— Дый ты сама была б не лепшая!.. Ты думаеш, што мне ніколькі не шкода сваіх дзяцей, калі я на іх гэтак кажу? Ты думаеш, я не маці ім?.. Але ты не ведаеш, што робіцца ў мяне на

душы, калі я гляджу на іх!.. Няхай бы яны лепш на свет не раджаліся, каб потым гараваць за такім п'яніцам-бацькам!..

— Ён жа, кажуць, не піў раней?..

— Хто, Кандрат?..

— Ну, але!..

— Не піў, а потым пачаў піць, хай ён смалы нап'ецца!.. — і, памаўчаўшы, дадала: — Ведаеш, усе шаўцы п'юць!..

— Праўду ты кажаш, сястрыца!.. — не падымаючы ад поліва свайго твару, ціха сказала Марыся. — Дык што ж табе за жыццё з ім, з п'яніцам такім, разбойнікам... Кінула б яго... Развялася!.. — доўга над гэтым думаючы, падала Марыся.

Кацярына засмяялася сухім нездаровым смехам і закашлялася.

У гэтым смеху адчувалася іронія, смех над Марысінымі словамі і думкамі, бо Марыся яшчэ мала пражыла і добра не ведае ўсіх законаў жыцця...

Яна кінула палоць, адсунула асцярожна двума пальцамі левай рукі хустку, якая наехала ёй на вочы, цяжка ўздыхнула і, хваравіта паблісквваючы вачыма, сказала:

— Усе вы ўмееце толькі гаварыць: развядзіся, развядзіся!.. А ці падумаў хто, як жыць і дзе жыць развёўшыся? Вас каторую дык хоць бацька за служанку прыме за хлеб, а мяне хто, калі бежанка я і бацькі мае, можа, даўно ўжо змёрлі, а калі і не — дык ці дабярэшся цяпер да іх, к палякам?! А што з дзецьмі буду рабіць?.. Старцоў цяпер няма, ды ніхто і не дасць ні кавалка хлеба... Дык пасля гэтага ведаеш куды мне дарога?.. Га?..

— Ведаю!.. — яшчэ цішэй сказала Марыся, ніжэй нахінулася над полівам і, не гледзячы на яе, кінула: — Зрабіцца вулічнай!..

— Ну вось!.. — як бы з радасцю кінула Кацярына, паднялася з баразны на граду і загаварыла скора, са злосцю, з перахватамі кашлю, які душыў яе ўжо даўно: — Вось ты сама гаворыш!.. А падумай толькі, як добра гэта «выйсці на вуліцу»?! Як лёгка згубіць сумленне і сваю чыстату?! Ох, сястрыца мая родная, не гавары!.. Не гавары, бо мяне нешта душыць у грудзях, цісне за сэрца!..

І зноў, не дасказаўшы сваёй думкі, яна схапілася за свае плоскія грудзі, прылягла імі кградзе і зайшлася сіпатым кашлем...

Я маўчаў і не мог займацца тым, для чаго прыйшоў сюды яшчэ раней.

Я міжвольна слухаў іхнюю гутарку, заходзіў, няпрошаны і непатрэбны, у іхнюю складаную і чулую душу, адбіраў там усё,

што ёсць толькі лепшае, і гэтае ўзятае ўзважваў з іхнім перажытым і думаў.

Думаў шмат над доляй жаночай, над горам іхнім, над іхнімі пачуццямі. І ў працэсе думак перада мною як бы адчынялася новая кніга, цікавая, гістарычная, ніколі мною яшчэ не бачаная, і, упіваючыся ёю, я чытаў толькі адзін першы радок:

— Трэба шанаваць жанчыну як чалавека, які перанёс у сваім мінулым вялікія здзекі і гора, зробленыя тым жа чалавекам, дужэйшым за яе...

Раптам абарвалася нітка маіх думак і ўяўленняў дзівоснай мелодыяй песні.

Нібы я прачнуўся.

Пела Кацярына.

Пела так, як пяе кожная беларуская жанчына, агорнутая вялікімі вострымі думамі перажытага, як пяе чалавек, які ў песні знаходзіць усю душэўную асалоду.

Акрамя гэтага ў Кацярыны была яшчэ адна неўлавімая асаблівасць, якая адрознівала яе песню ад песні другіх спявачак.

Асаблівасць гэта ў тым, што Кацярына, здаецца, не пяе, а плача ўсімі фібрамі сваёй душы, усім стомленым сэрцам...

Яна пела нежным, залаціста-ціхім, як гэты летні вечар, дагэтуль мною не чутным матывам.

У голасе было шмат слёз, горычы і, між іншым, няверы ў праўду.

Словы яе ціха гаварылі аб любым-ненаглядным, аб начах, праведзеных разам, аб шчасці, якое засталося ў дзяўчыны пасля таго, як той пабраўся з ёю...

Я падняўся з свайго месца і глянуў на жанчын.

Кацярына не адрываючыся палола, а Марыся моўчкі і нерухома, спусціўшы нізка галаву, сядзела на градзе, сашчаміўшы на каленях свае чорныя ад пяску і худыя рукі.

Навокала было ціха-ціха.

Дзівоснай музыкай разлівалася песня.

Раптам Марыся падняла галаву і глянула на зусім заходзячае сонца, і ў вялікіх васільковых вачах яе дарагімі самацветамі гарэлі пацеркі-слёзы.

Гэтыя слёзы ціха спаўзалі па ўпалых шчаках на вышываную на грудзях сарочку...

Здавалася, што Марыся, якая бачыла ў сваім жыцці столькі няпраўды, маны і зняваг, цяпер толькі, у песнях, жыве там, чым трэба было ёй жыць у рэчаіснасці, і, ведаючы, што гэта толькі песня, далёкая ад сапраўднасці, яна цераз свае ўспаміны ачыш-

чае пачуцці, каб даць пасля месца сапраўднай жыццёвай радасці...

І таму ў яе з дна душы капалі слёзы...

## У ПАЛЯВЫХ ДАРОГАХ

*Апавяданне*

### I

Жорсткая зіма.

У аграмадных серабрыста-сіняватых сувеях затанула вёска. У вёсцы пуста і глуха. Хіба толькі праклякоча прамёрзлая студня, рыпнуць у гумне цяжкія дзверы на старых бярозавых увітках ды часамі з канца вуліцы забрэша сабака азяблым голасам.

Зацягнулася нізкае неба халоднымі тонка-палевымі хмарамі. З усходу разліліся дымчата-шэрыя і недалужныя досвіткі.

Ад гэтага толькі ледзь-ледзь праяснілася нізенькая, закіданая ўся глыбокім снегам вуліца. Прачысцілася трохі і на дварах, а за хлявамі і за гумнамі яшчэ цэпка поўзаюць цяжкія і золкія змрокі.

І, можа, ад гэтага бязмежна-роўнае поле за вёскаю здаецца цёмна-шэрым, бясконцым у сваёй далечыні, слізкім. Даль пагасла ў астачы густой ночы. Я зусім гатовы к ад'езду і ад няма чаго рабіць стаю перад замёрзлым акном і гляджу цераз запацелыя верхнія шыбы на вуліцу.

За маёй спіною, недзе ў цёмным і душным кутку на палатках, спяць дзеці гаспадара.

Самога гаспадара зараз няма дома: ён яшчэ ноччу выехаў з большым сваім сынам у лес, у караўкі.

Тады ж усталі і бабы: гаспадыня з дзвюма дочкамі.

На дварэ яшчэ зусім цёмна. Ледзь відаць толькі шэрань снегу ды па ім цёмная ад слядоў і вузенькая сцежачка ад хаты і да даражня.

У печы падкладаюць вельмі ж рана, газа не паліцца, бо шмат яе ў гаспадарцы ідзе і дорага каштуе, і ўсе тры жанчыны сядзяць каля смаляка і прадуць.

Як у млыне, гудуць чорныя рагатыя калаўроты, ад кудзелі сыплецца дробненькая, як пыл, і вельмі ж едкая кастрыца. Частка яе паўзе ў комінак, а большая частка садзіцца на вопратку, лезе ў нос, у вочы.

Яны прадуць моўчкі.

Я цішком гляджу ў твар гэтым жанкам, і мне робіцца ясна,

што ў кожнай з іх шмат глыбокіх і толькі для яе дарагіх думак. Думкі адна з другой дзівосна сплятаюцца, сходзяцца, як баравыя сцежкі, потым раптам далёка разыходзяцца, паволі паўзуць, абрываюцца, зноў вяжуцца і зноў ткуцца рознымі прыгожымі дэсанямі.

У дачок думкі гарэзныя. Яны ўсміхаюцца, нават прабуюць нешта заспяваць, а маці гэтым часам хмура, можа, ад недасыпання, маўчыць і моршчыць рэдкія ад старасці бровы.

Яна густа слініць цёмную сураву нітку, нізка схіляецца над барадой кудзелі і слепіць свае старыя вочы. Потым глядзіць цераз комінак на палаткі, кідае зрок у мой бок і, суняўшы рукою калясо калаўрота, мякка кажа:

— Ды вы б мо прыляглі яшчэ?! Вельмі ж яно рана... Ды пакуль запрагуць каня, дык хі-і-і-га-а!.. — і, не дачакаўшы адказу, пазяхнула і зноў прыпала да кудзелі.

Я гляджу ў акно, і мне відаць, як у суседняй хаце ярка на комінку гараць сухія карчы і чырвона-дрыготны водблеск весела скача па маленькім, напалову ў кастрыцы і густа распісаным марозам, акне.

Пробуюць адтаваць шыбы. І тады скрозь іх відаць і сухія, сагнутыя працай плечы, і намётка бабулі ды яшчэ поўны, жыццярадасны, прыгожы профіль дзяўчыны над калаўротам. Яна нешта гаворыць старой, рупна аглядае тоўстую шпулю, рупна перасаджвае нітку на другі зуб вілачак, зухавата круціць калаўрот і зацягвае грудным, але глухаватым голасам песню...

Стары кінуў віць вяроўку. Верціць цыгарку, у задумёнасці глядзіць на зыркі агонь на комінку і слухае.

З суседніх комінаў баязліва выкачваецца густы дым. Ён паўзе па мёрзлых стрэхах і потым мякка сцелецца па агародных сувеях.

Па вуліцы плыве з пустымі вёдрамі захутаная ў дзіравую посцілку баба. Яна хапаецца за абмёрзлыя і сівыя ад шэрані праслы і топіцца па калені ў сыпкім снезе. Ззаду яе абнюхвае сляды і асцярожна перабіраецца сабака. І больш — ні душы!

Мне несцярпіма хочацца хутчэй адгэтуль выехаць на прамёрзлае і здаровае паветра, захапіць яго ў поўныя грудзі і гэтым самым адагнаць надакучлівую санлівасць.

Каб дзе прысесці, я асцярожна сціраю з чорна-шчарбатай пракаветачнай лавы ліпкія кавалкі бульбы, учора рассыпанай меншым хлопцам гаспадара. Гэта заўважыла гаспадыня. Хуценька паставіла к калаўроту прасніцу і падбегла да лавы.

— Гэта ж вот, каб на іх... каб на іх!.. — запнулася яна. І, не знайшоўшы слова для кляцьбы свайго дзіцяці, яна нервова сціра-

ла лаву сваім чорным і пыльным фартухом. Потым ухапіла на стале абрус і нешта зашаптала невыразна, вінавата.

Мне здаецца, што яна гаворыць аб распусце свайго дзіцяці, аб тым, што вельмі ж ужо вялікую патолю даў ім бацька, але і ціха хоча апраўдаць гэта, бо за работай сваёй — свету не бачыць. І вось цяпер ёй неяк няёмка і сорамна. У маіх пачуццях падымаецца бура. Я шкадую гэтую спрацаваную, не па гадах старую і добрую жанчыну, шкадую таму, што добра сам ведаю яе цяжкі жыццёвы шлях, поўны зняваг, бядноты, слёз.

З самага маленства перагіналася яе спіна, носячы на яшчэ слабых і тонкіх, як верацёны, руках рахітыка-брата. І колькі ж разоў яна была біта за тое, што на хвілінку адхінулася ад яго паглядзець, як на суседнім двары вяселле гуляюць, як хлапцы вечарынку ладзяць, як на канцы вёскі моладзь уздумала «ката пячы»!..

А ледзь трошкі паднялася — за скацінай пайшла. Ад дажджоў і спякоты твар лупіўся, вочкі глыбока запалі, паморшчыліся пальцы, як у старой, каля вуснаў ляглі на ўвесь яе век зморшчакі... Гібела ў восеньскія сцюжы на голым і мокрым полі. Скора ж і жаць узялася. Па людзях хадзіла, зарабляла. Бацька забіраў яе крывавыя, мазалістыя грыўні і цэлымі начамі піў у карчме. Раніцай прыходзіў дадому і, азвярэлы з пахмелля, адбіваў у галаве яе дзявочы розум і яшчэ сонную і галодную гнаў на падзёншчыну.

За ўвесь час свайго дзявоцтва нават спадніцы паркалёвай не знасіла. Так, бедная, у сваёй даматканай і замуж выйшла.

І кахання не ведала, без яго прайшла маладосць. З тумакамі ў плечы і мацяршчынай выдаў яе бацька за каго сам хацеў.

Былі палыновыя слёзы, але была і ціхая, светларанішняя, першая радасць ад пяшчот яе мужыка... Тады зусім забылася на мінулае, жыла сучасным. І пробавала нават ціхазорнымі пахучымі вечарамі ўспомніць дзявочыя песні.

Не пела яна, бо не ведала слоў, толькі ўрачыста пела яе душа незразумела-дарагія словы без стала вызначаных матываў. Калінебудзь пад асобны настрой траплялiся і матывы. Яны ж былі ружовыя і тонкія, як прадранішні адсвет вясновага ўсходу...

Ды нядоўга гэта было. Пайшлі частыя дзеці. Цяжкая праца. Зноў счарнела даль жыцця, і толькі была недзе ў пачуццях захаваная ад чужога вока вялікая і дарагая надзея: дзеці пабольшаюць, рукі ў старасці падменяць, прыгледзяць...

Без пары пастарылі яе горкія дні ў цяжкай нечалавечай працы. Без пары гэтыя ж дні нізка прыгнулі яе да зямлі, так, нібы

жаць яна нарыхтавалася. Вочы ўцягнулі, высушылі. Толькі яшчэ не высушылі ў яе сэрцы вострых пачуццяў і шчаслівых думак.

Такі шлях амаль кожнай з нашых вясковых кабет, шлях мацеры-пакутніцы, вялікай беларускай сялянкі!..

Я гляджу на яе, і міжвольна ўспамінаецца мне мая старэнькая бабулька-маці. Недзе ў гэткай жа закіданай снегам вёсцы і, не маючы сабе на старасці гадоў падмены, — топчацца, бедная, хворымі нагамі ў сыпкім снезе па ваду... Агортвае нейкі жаль. Я не хачу думаць аб цяжкай яшчэ долі нашай жанчыны і шукаю поглядам свайго фурмана.

На дварэ шарэе.

Ігнат, мой вазніца, ужо хвілін дваццаць як звесіў з лавы тоўстыя, абросшыя чорнай бруддзю і закасаныя на левай назе да калена ногі, смачна і гучна скрабе за пазухаю, моцна цмокае і, нібы чаго шукаючы, водзіць на бакі лахматай, як у льва, галавой, стараецца прадраць свае маленькія, заплыўшыя вочкі, чмыша ў шырокі і мяккі нос і... спіць. Ён нешта пробуе сказаць, хочучы гэтым паказаць, што прачынаецца, моцна і злавесна скрабе заскарузлымі пальцамі за паясніцаю, потым пускае нейкі няясны і кароткі гук і, як сноп, зноў кідаецца на лаву.

— Трэ будзіць яго!.. Калі ж бо вы даедзеце так?! — ціханька мне кажа гаспадыня і сама будзіць Ігната.

Ігнат нездаволена зноў пускае нейкія незвычайныя гукі і ўжо адчыняе свае смешныя вочкі. Як толькі ён іх прадраў і сустрэўся з маім поглядам — так раптам яны прапалі, мякка закрыліся густымі вейкамі.

— Ну і спаў, братцы вы мае!.. Ну і спаў!.. Як забіты! Зараз едзем, зараз!.. А-а-а-а, ды ўжо і не рана?! — Ён спрасоння ўткнуў галаву ў мёрзлыя шыбы і сіпла, але здорава выкідаючы на хаду словы, скочыў да прыпека, забраў бярэма ануч і сеў на падлозе абувацца. І доўга яшчэ ён іх мяў, як кажамяка аўчыны, вытрапаў, меркаваў...

Тады ж прачнулася і мая спадарожніца — студэнтка Белдзяржуніверсітэта. Мы разам з ёй ехалі ў адну вёску.

Гаспадыня студэнтцы, як жанчыне, уступіла свой ложак, і цяпер яна адхінула полаг ды жмурыць свае карыя глыбакалюбячыя вочы, адкідае з белага чыстага лба надаедлівыя каслаўкі каштанавых валасоў і міла ўсміхаецца.

Мне здаецца, што яна ганарыцца сваім надзвычайным харастом, прыгожымі валасамі і белымі, што снег, здаровымі і роўнымі зубамі.

Мне робіцца лёгка, нібы я скінуў з плеч неабходны абавязак

ад асазнання таго, што прачнулася Марыля, што гаспадыня пойдзе за сваёй работай і не будзе больш аддаваць мне столькі ўвагі, колькі аддавала да гэтага часу.

Ад такога пачуцця мне і радасна, і здаецца, што трохі павесялелі змрокі раніцы.

Марыля хутка апранаецца.

На палатках варушацца дзеці. Недалужна ўсхліпвае на комінку смольны карчок, і крывавы водблеск пробуе яшчэ весці барацьбу з досвіткамі. Ад гэтага мяняецца фон акна, то робіцца чорным, як вугаль, то бледна-сінім, як край неба на захадзе.

Ігнат бярэжліва захінае сваю асобу ў два кажухі і ёмка падпяразваецца пастронкам.

Пазяхнулі скрыпучыя ад марозу дзверы і пусцілі клубкі густой марознай пары...

А цераз паўгадзіны, наглядаючы крывава-марозны ўсход, мы далёка пакінулі за плячыма мёрзлую вёску. Захутаўшыся ў цёплы кажух, маўчала ўсю дарогу Марыля, як бы і не было ў нас тэмы для гутаркі. Ды і не хацелася гаварыць — так прыемна было сядзець і глядзець на роўнае, у глыбокім снезе поле, на пахілыя пад шэранню срабрыстыя кусты алешніку пры далёкай ад дарогі рацэ ды несканчона думаць аб дарозе, аб нашым начлезе, аб Ігнаце.

Дарога вялікая. Ад неспакойнай ночы, праведзенай пад атакай клапоў, думкі паволі зацягваліся густой сеткай надакучлівай дрэмы, і адначасна зліпаліся вочы.

Цераз нейкі час рэдкае марознае сонца зусім расплылося ў шэра-шызым і туманным ранні. Згубіліся далягляды. І толькі адна сыпка-жоўтая дарога сярод аграмаднага аснежанага поля вузенькай сцежачкай бегла і круцілася ў муць прамёрзлага малачаю.

Трохі спадаў мароз.

А ў гэты час з захаду пачаў падымацца густы вецер і перавäламі прыганяў цёмныя пасцілкі хмар. Хмары чорнымі брывамі навісалі над абшарамі і абсыпалі нас ліпкімі і мокрымі камякамі.

Зрабілася змрочна.

Змоўк Ігнат. Часцей тузае ён лейцы і з апаскаю азіраецца назад.

— Ну, Ігнат, ці заедзем мы да вечара на месца?.. — цікавіць мяне.

Паволі кратаецца ў перадку сувей Ігнат, нахінаецца да мяне і, заглушаючы выццё ветру, крычыць:

— Заехалі б... Каб не мяцеліца... Але не дай бог... Следу не

відаць... Каб жа не збіцца... Эх-х...

У гэтых словах чуваць пакорнасць і некаторыя ноткі бязволля. Мне хочацца што-небудзь сказаць, падбадзёрыць Ігната і Марылю.

— Да цямна яшчэ далёка!.. — заспакайваючы, крычу я на вуха Ігнату. — Заедзем!..

Ігнат падумаў і зноў абярнуўся, падстаўляючы пад жорсткі вецер свой чырвоны твар.

— Зараз павінен будзе лет...

Скавытаў вецер. Зрываў вярхі намеценых ім яшчэ ўчора сувеяў, падымаў угару, круціў, падмешваў тым, што сыпалася зверху, і біў нам у плечы, засыпаў санкі, сляпіў каню вочы.

Не больш як цераз гадзіну пачало цямнець. Дарога ўжо прапала зусім. І спацелы, змораны конь ледзь перастаўляў абледзянелыя тоўстыя ногі. Ігнат пусціў лейцы і здаўся на волю каня.

Некалькі разоў ён злазіў з санак аглядаць дарогу, але з гэтага нічога не выходзіла.

Зусім сцямнела.

Раўла завіруха.

Вострымі голкамі прабіраўся пад кажух мароз.

Енчылі палазы. Усе маўчалі, і, мусіць, кожны з нас адчуваў за сабою вялікую віну ці, наадварот, стараўся ў думках абвінаваціць каго другога, каб хоць трохі лягчэй зрабілася ў глыбіні душы.

Ад подыхаў раставаў снег і тонкімі цурочкамі прабягаў за каўнер, пад сарочку на цёплае цела. Ад гэтага несцярпіма рэзаў намокшы каўнер і па спіне пачалі прабягаць мурашкі.

Хроп конь. Станавіўся. Зноў некуды ішоў без напрамку і дарог, і здавалася, што мы едзем назад, адкуль і прыехалі, ці зусім стаім на месцы.

Раптам у рукаў майго кажуха прасунулася нечая маленькая цеплаватая рука.

Ад нечаканасці я ўздрыгануўся.

Да мяне зусім блізка нахінуўся твар Марылі. У мітульзе цемнаты я толькі бачыў яе адны вочы... Хутчэй усяго не бачыў, але іх адчуваў: настолькі яны былі глыбокія, чыстыя, поўныя ўсім тым, што перажывала яе душа ў бягучы момант.

— ...Гэта я... — ціха, як мне здалося, сказала Марыля. У голасе яе я пачуў мяккія ноткі глыбокага хвалявання ці то слёз.

Мне адразу зрабілася горача на сэрцы, потым з’явіліся нейкая шкода і дзіўна-чыстае да яе каханне.

— ...Мілы мой... я адчуваю нешта нядобрае... мне боязна... Чаму ты маўчыш?.. Не хочаш загаварыць са мною?.. Можа, за што сярдуеш?..

З перахватамі ў голасе гаварыла яна, а вецер рваў яе словы, далёка адносіў ад майго слыху і губляў у мокрых далях завірухі.

Я, наколькі мог, пачаў яе супакойваць. Яна ціснула і пяшчотна гладзіла маю руку.

— Ты паслухай... Я хачу табе зараз нешта сказаць...

І яна змоўкла.

Я слепа адчуваў, што Марыля хоча нешта сказаць, і сказаць для яе нешта важнае, вялікае, што, можа, цэлыя месяцы яна песціла і скрытна ад усіх насіла ў тайніках душы, сказаць тое, чаго б яна ніколі не сказала ў звычайных абставінах жыцця, сказаць і адчыніць, ачысціць гэтым сэрца, каб не балела яно так, як балела дагэтуль.

Я ўспомніў, што маракі перад надыходзячай смерцю не толькі апранаюць сваё лепшае ўбранне, а выказваюць адзін другому тое, што ў іншыя моманты было б навек захавана ад людской цікавасці.

— ...Ты слухаеш мяне, Мікола?

— Слухаю, дарагая, слухаю!

— ...Ведаеш што, можа, мы скора... не далей як назаўтрае, будзем... пад снегам... Усё можа быць... Захліпнуўшыся ў кругабезе жыцця, мы толькі адчувалі, кахалі ў душы, а пагаварыць, выказаць тое, што трэба было выказаць, — для гэтага не знаходзілі часу... Па горла былі завалены работай.

Можа, таму так і быў для мяне халодны... не хацеў гаварыць са мною...

...А між іншым, твая амаль штодзённая для мяне дапамога была мне пакутная і адначасна салодкая ад асазнання таго, што ты першы выцягнуў мяне з немагчыма беднага матэрыяльнага становішча, адрываючы для мяне грошы ад бедных сваіх ганарараў і даючы мне магчымасць вучыцца...

А конь ужо ледзь пераступаў.

— ...што ты першы чалавек... ад якога я ўбачыла першыя чалавечыя ласкі...

...Ты сустрэў мяне ў Мінску зусім выпадкова... Я не гаварыла табе і не хацела гаварыць аб сваім дзяцінстве... бо думала, што табе гэта зусім не цікава... Мы з табой... ты ж ведаеш... не жылі так, як муж і жонка... аднак скажу табе, што ты для мяне

быў даражэй мужа, даражэй брата...

...А ў мяне зараз з родных нікога няма... нікога... з белапалякамі змагаўся мой бацька... Камандзірам быў... А з ім была і ўся наша сям'я: маці мая ды я... Пад Вільняю, калі чырвоныя наступалі на Варшаву, бацьку забілі. Тады ж захварэла маці... Зусім злягла... па шпіталях валялася... Я даглядала яе як толькі магла... Потым адступалі... І вось у гэтай завірусе я згубіла сваю маці... І згубіла... згубіла назаўсёды...

Сярдзіты вецер разрываў яе словы, частка з іх да слыху майго не далятала, але па інтанацыі можна было сабе ўявіць, што Марыля хвалявалася, перажывала ў другі раз сваё чорнае мінулае:

— ...Сіратою тулялася па чужых кутках... Спачатку і за пастуха не хацелі браць... Гналі з хат... Білі... Потым прымайстравалася на вёсцы... парабчанкай была... Так увесь час... і вучылася...

Яна моцна цісне маю руку. Пальцы яе дрыжаць:

— ...Любы мой!.. Ці ведаеш ты, як гэта крыўдна жыць без маці... ні ласкі... ні слова спагады... Ні тых рук, што прытулілі б цябе і баранілі ў няшчасці... Колькі было слёз... Людскія дзеці на матчыных каленях... песцяцца, а я цэлымі днямі з золкай раніцы дубею ў восеньскую сцюжу за каровамі...

А білі ж... білі ж колькі!..

І Марыля раптам абарвала.

Мне здалося, што яна заплакала наўзрыд і сціхла. Ці то мне так здалося! А разабраць было трудна — галасіў і вецер.

— ...І вось я была выпхнута чужымі людзьмі ў чужыя людзі... І цяпер, паверыш, якое было для мяне шчасце... сустрэць цябе!.. Міколка, калі паміраць, дык будзем разам, калі жыць — таксама разам... Я з табою зусім не баюся смерці!..

Яна сваёй цеплаватай рукою гладзіла па майму абледзянеламу твару, адкідала камякі прыліпшага снегу, папраўляла каўнер кажуха, каб не засякаў так снег...

А ў гэты час у душы маёй падымаліся буры.

II

Раз’юшаным полымем палыхала мяцеліца.

Зусім пачаў прыставаць конь.

Мы напружвалі зрок і слых, і нічога, акрамя сляпой белізны і разнастайных гукаў ад дзікіх скокаў мяцеліцы, чуваць не было.

Сярод плоймы гукаў, бывае, даносіўся да нас адчотлівы сабачы брэх ці нават голас чалавека. Тады астанаўліваў Ігнат каня, і ўсе разам мы прыслухоўваліся. Паўтараліся гэтыя зыкі ўжо ў другім баку, а то і зусім пад санямі, і, плюнуўшы ды тузануўшы лейцы, Ігнат пускаў за мяцеліцай самую адборную кляцьбу.

— Мікола, глянь!

Устрапянулася Марыля і сілком павярнула маю галаву і паказала рукою трохі ў бок ад узятага намі напрамку.

Я глянуў туды. Там нешта чарнела, але і здалёк было відаць, што гэта не будынак і не чалавек.

Мы пад’ехалі. То было засыпанае снегам і абледзянелае дрэва.

Ва ўсіх нас ад гэтага зрабілася ў пачуццях пустэча, бяздонная прорва. Было блізка да адчаю.

Праехаўшы некалькі крокаў, Ігнат астанавіўся, радасна абярнуўся к нам і крыкам разарваў густы вецер:

— Таварышы-ы-ы!.. Братцы-ы-ы!.. Здаецца, дымам пахне... Самым настаяшчым з печы дымам!!!

Усе пачуццёвыя свае здольнасці мы перанеслі на нюх і цераз некаторы час прыйшлі да аднае згоды, што і сапраўды аднекуль цягне дымам.

Недзе зусім блізка калі не цэлая вёска, дык, напэўна, хутар.

Але выявіць пэўны напрамак да той вёскі ці хутара было зусім не пад сілу таму, што вецер рваў з усіх бакоў, віхрыў, вірам заварачваў вакол нас снег і ледзь адчуваемы аднекуль дымок...

Устрапянулася Марыля і павесялела. Адкуль і радасць узялася!..

Раптам конь стаў.

Ігнат першы ўгледзеў, што нешта ўперадзе чарнеецца, і зараз жа моўчкі злез, каб першаму ўгледзець і абвясціць знаходку. Трохі пакапаўшыся ў сувеях, ён з крэктам нешта вырваў, доўга мацаў і потым, падышоўшы к нам, весела крыкнуў:

— Жывём!.. Убіліся ў агароды!..

— Адкуль ты ведаеш, што ў агароды?..

— Ды во!..

І ён працягнуў мне белую скручаную вяроўку.

— Што гэта?..

— Каслаўка ад гарбузоў!..

Чуваць было, што ён радасна засмяяўся.

На сэрцы як бы нешта растала, зрабілася цёпла. З'явілася тады ў кожнага з нас пачуццё, якое бывае ў безнадзейна хворага чалавека, калі пачне ён ачуньваць.

Неўзабаве мы дабраліся да хлява, ад якога несла мерзлымі сценамі і ледзь адчуваемым парам ад скаціны. І тады ж убачылі малюсенькую, як палявую будку вартаўніка, усю закіданую снегам хатку. Скрозь замёрзлае маленькае акно блішчаў ледзь прыкметны агоньчык газніцы.

Колькі пражыў я, а яшчэ не памятаю, ці была ў маім жыцці большая радасць за тую, калі я ўбачыў хатку з агоньчыкам, і ад думкі, што вось скора буду ў цёплым і прытульным кутку.

Доўга стукаў Ігнат у раму, пакуль нехта не засланіў сабою з хаты ўсё акно. Доўга яшчэ і цэлым калектывам трэба было ўпрошваць гаспадара, маліць, пакуль не згадзіўся пусціць у хату.

Нарэшце стукнуў засоў, з скрыпам павярнулася закрутка, і мы, адубелыя, з цэлай гарой на сабе снегу, уваліліся ў хату.

Як толькі мы пераступілі высокі парог, нас абняў блізкі і знаёмы пах сялянскае хаты. Запахла сырымі анучамі, печанай бульбай і пракіслым хлебам...

Пакуль мы абівалі ад снегу ногі і кажухі, я паспеў разгледзець усю хату.

Адразу што мяне здзівіла, дык гэта нябачаная яшчэ мною бедната. Дзве лавы і стол гаспадару асталіся ў спадчыну, мусіць, няйначай, як ад яго дзеда, настолькі яны былі старыя і нікудышныя. Над сталом скрывіўся набок чорны абраз, пракопчаны тым дымам і ў тую пару, калі яшчэ былі хаты-куранкі. З-за яго тырчаў скрутак газетнай паперы. Відаць, што і абраз, як і стол, пераходзіў ад роду ў род і служыў гаспадару больш для сховы грошай ці якіх-небудзь патрэбных папер, але ні ў якім разе не для малення на яго.

У запечку сышліся ўзгалоўямі два ложкі. Калі ж ярчэй усхліпнуць на комінку карчакі, тады можна ўбачыць на гэтых ложках адну толькі цёртую салому, скручаную дзяругу ды, замест падушкі, нейкую шэрую світку.

Каля комінка стаяла жанчына і падкладала ў агонь смалякі.

Мігам збольшага агледзеўшы ўбранне хаты, я кінуў погляд на жанчыну. Яна гэтым часам адхінулася ад комінка і моўчкі з цікавасцю ды яшчэ і з сполахам нас разглядала.

Нашы вочы сустрэліся...

Я зараз жа адвёў свой погляд убок і пачаў распранацца. Глядзець у вочы гэтай жанчыны было немагчыма.

Гэтыя вочы, цёмныя, як спелыя слівы, гарэлі хваравітым, ліхаманкавым агнём. З іх праменіўся невымоўны боль, нейкая скрытая пакута.

Я дзесьці бачыў гэтыя вочы.

А ўспомніць, дзе і ў каго бачыў, — аніяк не мог, і ад гэтага была вялікая нездаволенасць і крыўда.

Нешта знаёмае, блізка знаёмае і дарагое.

Чые гэта вочы?

Я зноў гляджу на яе.

Яна запрыкмячае гэта, машынальна папраўляе каслаўкі сваіх валасоў і абцягвае на цяжарным жываце зрэбную, афарбаваную ў чорны колер кофту. Пад доўгімі і густымі вейкамі хаваюцца яе вочы...

З-за комінка, з цёмнай печы на мяне глядзяць тры пары дзіцячых вачэй, рухавых, як жывое срэбра, і шырокіх ад празмернай худобы твару.

Я зараз не магу ні аб чым другім думаць: мая памяць занята над успамінамі. Я перабіраю ў памяці вострыя кавалкі перажытага, зноў гляджу ў гэтыя цудоўныя вочы і... раптам успамінаю...

— Вочы... Вочы!.. Ды гэта ж вочы мае сястры-нябожчыцы! У яе былі ў той вечар перад смерцю вось такія ж самыя вочы. Вочы глыбокія, шырокія, як бы не яе, а чужыя, у якіх бушавала мора перажытай пакуты, смяротнай тугі і жаху... О, гэтыя вочы мне не забыць ніколі!

...Зіма. Студзень. Пякучы мароз. На двары з хаты наўвелічкі гурбы снегу. Час ад часу лопаюць сцены.

Я сяджу каля палаючага комінка і з страхам гляджу ў вочы паволі паміраючай маёй сястры.

Навокал сядзяць панура і ціха суседзі. Яны маўчаць, нібы адчуваюць за сабой вялікую віну ў смерці гэтай жанчыны.

Некаторыя цяжка-цяжка ўздыхаюць. А потым нечакана ўсхліпне мая старэнькая і разбітая цяжкай хворасцю маці, уткне ў заскарузлыя і чорныя далоні твар і загалосіць акропным плачам, пачне прычытваць:

А дачушка ты мая,
а мая ты гаротніца...
Ды не наглядзелася я на цябе,
ды не нацешылася...

Вые ў коміне вецер. Гудзе з дзікімі пералівамі і галосіць. І калі голас ветру перамагае маю маці, тады яна спуджана заціхае, горбіцца, убіраецца ў аблезлы і дзіравы кажушок і маўчыць.

На гзымсе[1] гарыць газніца.

Ад дзвярэй цягне вострым холадам, і пахне кастрыцаю.

Святло газніцы калышацца, нізка схіляецца, нібы хоча паглядзець у твар хворай, трымціць і пускае каслаўкі дыму.

Усю шчарбатую печ усыпалі цёмныя ад змрочнасці прусы.

За куфрам забляяла ягнё...

Сястра дзіўна кідае на нас вачыма. Мне здаецца, што яна некага шукае.

Я нагінаюся над яе бела-пазелянеўшым васковым тварам.

Яна раптам хапае мяне за руку і цісне з нечалавечай сілай.

— Мікола!.. Ты... ты... ведаеш?.. Я... паміраю...

У мяне перамяшаліся сполах з непамерным жалем, і вочы засцілаюцца густым палатном туману. У вачах маіх дваіцца, на маю руку капае нешта важкае і цёплае, ад чаго з вачэй маіх спадае туман, і робіцца лягчэй на сэрцы...

— Ды што ты?!! — толькі мог ёй сказаць.

— Мікола!.. Міколка!.. Дарагі... Прашчай... Ды вот... ты не... — і недагаварыла.

Я глянуў тады ў яе вочы.

...О, гэтыя вочы!

То хутчэй усяго былі не вочы, а крыніцы складаных усіх чалавечых перажыванняў, пакуты і слёз...

Мне хацелася адвесці ад іх свой погляд, і я не мог. Мне хацелася кінуцца цалаваць іх, аддаць ім, яшчэ жывым, усё яшчэ бачыўшым і ўяўляўшым, апошні свой доўг, выказаць маё глыбокае і бязмежнае каханне, і нешта такое затрымлівала мяне, прымушала толькі глядзець і запамінаць...

Яна ціха канала...

Спачатку навярцеліся на яе вачах слёзы. Вочы сталі поўнымі, як азёры ў паводку, і калі яе самой як чалавека ўжо не стала, гэтыя слёзы неяк закруціліся, перамяшаліся з густымі вейкамі і роўненькім цёплым струменем пацяклі на суровую падушку...

Так памёрла ў мяне сястра, памёрла і пакінула мне ў падарунак спадчыну сваю: вялікую і чыстую да мяне любоў і ў памяці гэтыя цудоўныя, ніколі незабыўныя вочы...

У мяне падымаецца бунт пачуцця.

Мне хочацца сказаць да гаспадыні нешта такое, каб ад слоў маіх павеела такім родным, такім дарагім, ласкавым...

Пазяхнулі мёрзлыя дзверы, пусцілі пад ногі клубкі густога туману, і як з-за воблакаў выплылі Ігнат і гаспадар.

— А-а-а-а, ну і пагодка!.. Добры вечар у хату!.. — гукнуў Ігнат, крэкнуў і пачаў аддуваць свае ў шэрані вусы ды аддзіраць

намёрзлыя на барадзе ледзяшы.

— Добры вечар!.. — жаласліва кінула гаспадыня і змоўкла.

Гаспадар пастукаў лапцямі: атрос ад снегу, абіў рукаўкі аб полы кажушка, потым іх акуратна злажыў адну к другой і палажыў на гзымсе...

Я грэюся ля комінка. Гаспадар, не знаходзячы для гамонкі слоў, моўчкі разбірае пыльную і кастраватую пяньку і мяркуе віць вяроўкі. Ігнат развязаў замусляную торбу і адаграе на комінку цагліну хлеба.

Марыля сядзіць на ложку.

Дзяцей — як і няма ў хаце.

За акном вые завіруха. Нябачнай і чужой рукою нехта бялёсы і надаедлівы гладзіць касматыя ад марозу шыбы акна. Галосіць у коміне цэлая воўчая гайня.

Я ўспамінаю маю нябожчыцу-сястру, і чамусьці гаспадыня робіцца для мяне блізкай, крэўнай — другой сястрою. Я гляджу на яе, і мне відаць, як па васковым твары раз-поразу прабягаюць тонкія цені вострай пакуты.

Тады ў яе растае радасць ад бязмежнага мацярынскага шчасця, яна забывае аб усім, і вочы яе робяцца двума азёрамі ў восеньскую ноч: глыбокімі, цёмнымі, з смяртэльным на дне іх сполахам...

Мне робіцца зразумела, што гаспадыня зусім хворая і мы тут сёння зусім лішнія і непатрэбныя людзі.

### III

Ноч...

На комінку агонь даўно патух. Толькі зрэдку калі ўспыхне, як бы хто зацягнецца цыгаркаю, патухаючы вугольчык.

Недзе ў падпечку ці мо ў кутку пад ложкам капошацца і падаюць галасы куры.

Чуваць, як за сцяною шалее завіруха. Жудасна стогне вецер і моцна стукае ў дзверы хаты.

Аднак з кожнай хвілінай завіруха ўсё слабее і слабее.

Ігнат неяк прымайстраваўся на печы каля дзяцей. Ён намёрзся і цяпер моцна і шчасліва захрапвае.

Я прымайстраваўся на покуці. Ад цеплаты і ад выцця завірухі ў галаве путаюцца думкі, і я засынаю.

Калі прачнуўся, то не мог разабраць: ці я спаў, ці толькі драмаў, і то зусім маленькімі ўрыўкамі.

Калі я прахапіўся, нада мной, сагнуўшыся, стаяла Марыля і тузала за рукаў.

Газніца гарэла на стале і кідала на твар дзяўчыны святло. Ад гэтага твар Марылі быў рухавы і чужы. Аднак з яе шырокіх вачэй ліўся нейкі спалох.

Яна ціха шаптала:

— Міколка, дарагі... Няшчасце... устань!

— Што?.. Што?..

— А-а-а-і-і-ы-ы-ы... — крыкнула гаспадыня, і яна гэты свой крык невымоўнае болі пахавала ў скрыгаце зубоў...

Ад яе крыку было такое ўражанне: на чалавека навалілі гару каменняў і пасля гэтага нехта яшчэ сам з разбегу ўскочыў на іх і злосна націснуў, каб зусім задушыць істоту.

Я зжахнуўся.

— Што гэта?..

Марыля маўчала і з страхам уваччу глядзела на мяне ды ціснула ў крутой нервовасці маю руку.

За ноч сярдзіты і рэзкі вецер выстудзіў хату, і ад нашых подыхаў ішла густая пара.

На печы вінавата чухаецца Ігнат, а за яго спіною тхімкаюць дзеці.

На комінку разгараюцца толькі што падложаныя смалякі.

Пасярод хаты стаіць гаспадар. Галава яго лахматая, і на фоне святла ад комінка вакол яе дрыжыць ззянне. Барада ўскудлачылася і трохі скрывілася набок. Выгляд жа ў яго быў пануры і сярдзіты.

Ён моўчкі ўздзяе світку і падпяразвае яе пастронкам.

Потым хапае з чорнай сцяны касматую шапку і выходзіць з хаты, ціха прычыніўшы за сабою дзверы.

Зноў працяглы і жудасны крык...

Марыля зрываецца і бяжыць к ложку, дзе ляжыць жанчына... Яна гладзіць яе па галаве.

З печы злазіць Ігнат. Ён моцна сапе, чухаецца і цягне за сабою ахапак ануч.

Галосяць дзеці.

Чорным вокам глядзіць у белае ад марозу акно ноч.

На дварэ ўжо ціха, спакойна.

— А-а-а-й-й-і-і... Ратуй-й-це-е-э!..

IV

Я апрануўся і стаю каля акна, а ў галаве бягуць ліхаманкавыя думкі.

Што зараз рабіць? Што я магу зрабіць?.. Чым дапамагчы?

На свае думкі я не знаходжу адказу. Ведаю толькі адно, што я тут зараз зусім непатрэбны, лішні.

З кожным разам крык і стогны парадзіхі робяцца ўсё мацней і страшней.

Гэтых дзікіх, нечалавечых крыкаў перанесці было нельга.

На ложку каля хворай сядзела Марыля. Яна пяшчотна гладзіла твар яе і плакала ціхімі, ад усяго сэрца слязамі.

Я чуў, як за акном пад нечымі нагамі рыпіць снег і пераплятаюцца жаночыя галасы.

Хочацца ўзрадавацца, што ты не адзін, што зараз прыйдуць жывыя людзі і прынясуць з сабою клопат і дапамогу для хворай, што я сябе ўжо не буду адчуваць тут лішнім, адарваным, чужым.

Ад гэтага супакоіцца трохі і Марыля.

Абросшыя бавоўнай марозу, чорныя і сырыя дзверы грукнулі, рыпнулі і, глыбока пазяхнуўшы, прапусцілі разам з воблакам марознай пары чараду шырокіх постацей.

— Ну і мароз?! Вот мароз!.. Аг-х-х-х!..

— Так... так... Як бы вам сказаць, распранайцеся!.. Праходзьце!.. Ды каб хутчэй, як бы вам... — і ўжо я не чуў апошніх слоў гаспадара.

Ён замітусіўся па хаце і зноў нырнуў за дзверы.

Прыйшлі тры бабы.

Дзве з іх былі рухавыя, як бы нават і вясёлыя, трэцяя ж — ціхая, паважная, негаваркая і што рабіла, дык павольна, але ўпэўнена.

Гэта трэцяя была нізкая, сухая, з жоўта-адутлаватым і заплыўшым тварам. Вочы слязіліся і глядзелі на ўсё з абыякавасцю.

— А дзе ж гаспадар?.. — кінула яна сіплым голасам.

— Ды хто яго ведае?! Не ведаю!.. — бухнуў з кутка Ігнат, зірнуў на жанчыну і спакойна пачаў бэрсаць лапці.

Бабы зашапталіся і пачалі развязваць нейкі клуначак.

На комінак прыставілі вялізны чыгун вады.

Зараз хворую пачалі падкурваць нейкімі зёлкамі. А яна корчылася ў невымоўных болях, крычала нечалавечым голасам і на нейкі момант заціхала. Мне думаецца, што яна ў гэтакія хвіліны ўпадае ў бясчуласць.

— Адапры, галубка, усё што ёсць у хаце запёртае!.. Адапры, лягчэй раджаць будзе... — параіла сухая кабеціна.

— Кацярына, а можа, ты сама гэта зробіш?.. Ты ж бачыш, што нам...

— Дык дзе ж гаспадар?.. Што гэта за чалавек такі?!. Кінуўрынуў і сам чорт ведае куды?! Першы раз бачу такога чалавека!

Ад гаворкі вочы Кацярыны зрабіліся бліскучымі і згубілі

ранейшую да ўсяго абыякавасць.

У хаце не было чаго адмыкаць, але Кацярына пачала нешта шукаць па кутах ды ў мыцельніку.

Яна выцягнула нейкую чорную бутэльку, адкаркавала яе і панюхала. На яе азызшым твары як бы бліснуў нейкі промень радасці. Яна змоўкнула, зусім бязгучна засмяялася і кінула ў мой бок, як бы гэтым хацела сказаць: «Ну, дык здароў будзь!..»

Заклыкала ў бутэльцы.

Кацярына крэкнула, зморшчылася, смачна цмокнула і з нездаволенасцю кінула:

— Адгон... паставіў!.. Эг-х!..

У гэты час крыкі хворай зрабіліся да немагчымасці моцнымі, звера-чалавечымі...

— Трэба парадзіху патрымаць!..

— Кацярына, ды бярыся ж ты!.. Вот ужо маладзіца?! Пасля вып’еш!..

Дапамога жанчын была грубая.

Ігнат апранаецца, відаць, што ён збіраецца запрагаць каня.

Увайшоў гаспадар і вінавата астаўся ў парозе. Зняў вялізныя рукаўкі і пачаў абіваць з лапцей снег.

Гаспадар моршчыцца, як ад болю, ціханька падыходзіць да мяне і ціха кажа:

— А ведаеце... як бы вам сказаць, мароз на дварэ ўжо адваліўся... Адліга... Так ужо, ведаеце, гэты мароз даўся, што іга-а-а!..

Хворая зараз крычыць так, як бы нехта ўзяў тупы нож і пачаў бязлітасна рэзаць яе цела...

Гаспадар змаўкае і потым хапаецца за капшук з табакай. Чорныя і тоўстыя яго пальцы калоцяцца, і ад гэтага сыплецца на падлогу махорка.

— А ведаеце што?..

— Ну?..

— Запрагайце каня і едзьце за акушэркай!..

— За кім, за кім? — нагнуўся ён да майго твару.

— За фельчарам...

— ?!.

— Што ж вы хочаце, каб яна дзяцей асіраціла, ці што?

— Ведаеце... як бы вам сказаць, грамадзянін-таварыш... ад нас фельчар за дваццаць вёрст... Бездарожжа... Дарогі — ні следу...

— А ўсё ж такі ехаць трэба!.. Вот у мяне сястра ад гэтага...

— Ды гэта ж не першы раз!.. Усё наша сяло без яго абыходзіцца... Абы здароўечка!

Я і не запрыкмеціў, як да нас падкралася Кацярына.

— Кінь, таварыш!.. — крыкнула яна на мяне і злосна плюнула. — А яшчэ, здаецца, і чалавек!.. Ці фельчара гэта дзела?! Ці мужчынскае?! Ганьба на ўсё сяло!.. Не першыня... Яна, — і махнула галавою ў бок хворай, — раджае лёгка... Як плюнуць... Паноша яе толькі цяжкая... А роды — дык каб даў бог усякаму добраму!..

Я выйшаў на двор і пачаў дапамагаць Ігнату хутчэй запрагаць каня.

Пасля ўчарашняй мяцеліцы сёння было зусім цёпла. Сінявато ад досвіткаў снег быў мокры. Пасля душнае хаты я ў поўныя грудзі ўбіраў свежае паветра.

З стрэх пробавала капаць. Каплі былі цяжкія і пад капяжом гучна хлюпалі.

Досвіткі.

Заціхлі крыкі. Я пачуў, як у хаце моцна заплакала дзіцё тым плачам, які ўласцівы толькі для навароджанага. Зараз жа выскачыла на двор Марыля.

На вуснах яе я ўбачыў мяккую ўсмешку.

V

Гэтым часам у хаце ішла нейкая работа, ці падрыхтоўка, ці яшчэ што, але досыць таго, што некалькі пар ног бесперастанку грукалі па няшчыльных палавіцах, нехта часта ляскаў дзвярыма, нечага шукалі ў сенцах у кублах.

Потым на двор выйшаў гаспадар і з усмешкаю кінуў Ігнату цераз увесь двор:

— Чалавек?! Як бы вам... Людцы... проша ў хату!..

Ён вёў мяне цераз цёмныя і слізкія сенцы і ўсё нешта гаварыў, а што — разабраць было немагчыма. Я здагадаўся, што гэта гаварыў не ён, а яго сялянская радасць... І таму пытаць аб яго думках я не рашаўся.

Калі мы ўвайшлі ў хату, дык стол ужо стаяў каля комінка, а на ім стаялі чорная бутэлька, талерка кіслых агуркоў і акраец хлеба. Вакол стала сядзелі тры бабы — «акушэркі». Пахла самагонам.

Марыля нечага сагнулася над чамаданам.

У кутку, дзе ложак, было цёмна.

Але калі добра разгледзецца, можна было ўбачыць белую пляму твару з чорнымі дзіркамі замест воч, яшчэ чарнейшы ахапак растрапаных па падушцы валасоў і пры боку жанчыны нешта малое, закручанае ў белае.

Бабы рады: яны смяюцца, упрашаюць адна адну выпіць і гучна чаўкаюць. Па пальцах цячэ на белы абрус агурэчны расол. Кожная

хваліцца, кожная хоча давесці, што, каб тут у гэтай рабоце не яна, справа магла б дайсці і да дрэннага.

Бабы п'янелі. У Кацярыны развязаўся язык, і яна пачала даходзіць да хвальбы. Як гэта яна на сваім вяку вынасіла адзінаццацера дзяцей і радзіла без анічыёй дапамогі. Раджаліся дзеці лёгка і абавязкова не ў хаце: то ў агародзе, то на сенажаці, а то было што і на вяселлі ў суседняй вёсцы. І нічагусенькі!..

— Што ні кажы, а дробны зараз народ пайшоў!.. Мелюзга!.. — з моцнай верай у свае словы сказала Сымоніха, высокая і здаровая баба, і глуха засмяялася...

— Ах, кабеткі, запець мне хочацца... Ой, запела б я... — крутнула галавою Кацярына.

Гаспадар радаваўся і прынёс другую бутэльку самагону. Ігнат выпіў пару чарак, і твар яго зрабіўся як прапаленая цагліна. Ён нешта гаварыў Сымонісе і стараўся абняць яе за распухлы ад адзежы стан. Яна гучна смяялася і жартліва біла нямытымі пальцамі Ігната па губах... Усе смяяліся.

Раптам успомніла Кацярына аб хворай. Яна моўчкі і трохі хістаючыся выйшла з-за стала. І тут жа пры ўсіх яна скрыла хворую.

Я выйшаў на двор.

Бралася на дзень.

З хаты выйшла Марыля. За гэтую ноч і за дарогу твар яе зрабіўся белы як крэйда, пахудзеў, прыняў тонкія рысы і ад гэтага зрабіўся яшчэ прыгажэйшы. Вочы запалі, пад імі ляглі цёмныя кругі і мо ад гэтага набылі матава-хваравіты бляск.

— Мікола?!

— ?!

— Дрэнна!..

— Што дрэнна?..

— Кацярына, — яна сказала ціха і апусціўшы вочы, — дастала ў яе плацэнту жывасілам... Выдрала... Кроўю зараз аблівaецца жанчына... Не магу я...

Выйшаў Ігнат, засмяяўся і п'яна падміргнуў.

— Выязджаем!.. Як плюнуць будзем у саўгасе!.. Сабірайцеся!

— А што там?.. З хворай?.. — вылілася само сабой з шырокіх вачэй Марылі.

— Эт, вядома, дзела бабскае!.. Трохі была лінула кроў, а цяпер нічога... Заўсёды так бывае... У маёй старой не раз так было... і хоць бы што!..

Ігнат пахрумаў па снягу да саней, а мы ўвайшлі ў хату, каб

сабрацца ў дарогу.

Каля ложка з хворай мітусіліся бабы, шапталіся. Гаспадар ціханька стаяў ля печы і тупа глядзеў сабе пад ногі ў адну кропку.

VI

На самым парозе Марыля вярнулася, прыхінулася над хворай і доўга нешта шаптала, гладзіла яе мокрыя ад поту валасы.

Я глянуў цераз плячо Марылі на хворую.

Твар яе быў ужо зусім васковы, як у нябожчыка, вусны пасінелі, нос завастрыўся і набыў колер і форму зусім нежывога чалавека, а вочы...

Гэта вочы мае сястры перад смерцю.

Мне зрабілася не па сабе. Я пачаў падганяць Марылю. Хворая, як бы адчуваючы што нядобрае, слабаю рукою абнімала студэнтку.

У хаце разліваўся мутны дзень. Было холадна і сыра. Востра пахла самагонам, дымам.

І калі выехалі за вёску, Марыля блізка прыхінулася да мяне і сказала так, каб не пачуў яе трэці:

— А ты ведаеш, ахапіў мяне непакой!.. Ці будзе хаця яна жыва?!

Марыля змоўкла. Весела бег конь. Ігнат коўзаўся на сядзенні і ўсё свістаў.

Адліга. На платы цяжка вешаліся вароны і густа крычалі. А поле ў сваёй аснежанасці здавалася недасяжна далёкім, бязмежным.

І, можа, таму нам, з рознымі пачуццямі і думкамі, ехаць хацелася шпарка, так, каб аж дух занімала. Каб ад гэтага свяжылася галава, праясніліся вочы.

VII

Вечарэла, калі мы пакінулі саўгас і, даючы вялікі наклад, звярнулі ў вёску, якую мы сёння раніцаю пакінулі.

Марыля гарэла адным жаданнем: каб хутчэй даехаць, і таму так настойна прасіла Ігната, каб ён не шкадаваў і падганяў каня.

Хата была ўжо зусім блізка. Трэба было пераехаць адну толькі гарушку і лажбіну.

Несліся ў нашых думках ружовыя і радасныя ўяўленні. Нам жадалася хутчэй убачыць хворую і сваім здаровым выглядам, сваімі парадамі і доглядам прынесці ёй каштоўную радасць на хуткае выздараўленне.

Ігнат пачаў насвістваць нейкую песню, ён думаў аб другім: у

яго вачах стаяла чорная бутэлька і ён ужо наперад смакаваў прыемнасць пачастункаў.

Калі мы пераваліліі гарушку, Марыля аж прыпаднялася і цераз плечы Ігната старалася ўгледзець наш начны прытулак.

— Што гэта?.. Чаму?.. — неяк як бы спуджана кінула Марыля.

— А што?.. — ёкнула ў мяне сэрца.

— Ды дзіўна... У хаце такое святло... Відаць, гарыць лямпа, ці што?.. Адкуль яна?.. Нашто? — ціха гаварыла Марыля, і ў голасе яе я адчуваў трывожныя ноткі.

— А можа, радзіны спраўляюць?! — з смехам бухнуў Ігнат. — Цяпер пара, самы раз!.. Ну і глыну ж я з дарогі, эгэ, глыну-у-у!.. Эй ты, хадзі, мілы!.. — і правёў па спіне каня пугаю.

Конь ірвануў, захроп і, закідваючы нас з-пад капытоў снегам, мігам даімчаў да хаты.

На ўсю хату гарэла лямпа, палілася ў печы. Было шмат народу. Яны ціха гудзелі. Нудна, не сціхаючы плакала дзіця.

Мы ўз'ехалі на двор, з хаты ніхто не выйшаў. Калі я дапамагаў вылазіць з саней Марылі, дык адчуваў, як рукі яе дрыжалі. Яна маўчала.

Мы адчынілі хату. У хаце было накурана, пахла свежавырабленымі аўчынамі, падсмажаным салам і нагарам ад васковай свечкі. Я не люблю гэты пах — ён заўсёды нагадвае мне хаўтуры.

Усе расступіліся, і... мы ўбачылі на лаве пад вобразам прыбраную гаспадыню.

Марыля аслупянела толькі на адзін міг.

Аднекуль з чарады выціснуўся гаспадар і засланіў сабою святло. Мне твару яго відаць не было, толькі яскрава рысаваліся контуры яго галавы. Яна была ўскудлачаная і як бы злёгку калацілася...

Ён палажыў на мае плечы цяжкія, поўныя сілы (гэта я адчуваў) рукі і схіліў на плячо сваю кудлатую, пахнучую дымам галаву. Я пачуў яго ўсхліпы.

— Браток мой... таварыш... Загубіла яна мяне... і дзеці...

Кацярына ж паліла ў печы, і па твары яе было відаць, што яна была трохі падвыпіўшая, і мо ад гэтага яе настрой быў вясёлы...

VIII

Мінск.

Зімою я жыў на Вакзальнай вуліцы. І каратаць доўгія зімовыя вечары да мяне прыходзіла Марыля.

І прыносіла яна з сабою невычэрпны запас радасці, гарэзнасці.

У адзін з такіх вечароў, калі мы ўспаміналі перажытае, яна гаварыла:

— Я ўспомніла сёння тую жанчыну, якая памёрла ў палявых дарогах... Ты не забыўся?.. Ну вот!.. Так танна расцэньваецца чалавечае жыццё з-за нашае некультурнасці і дзікунства.

Мы доўга маўчалі.

— Не тут наша месца! — устала яна. Вочы блішчалі. — Пайду ў тыя палявыя дарогі...

Я з шчырасцю цісную яе руку.

## СКАРАБЕЯ

*Урывак з аповесці*

> ...Каханне — тая ж сляпая і незгасальная вера. Людзі кахаюць таму, што кахаюць, і ніякія довады рассудка ім дзеля гэтага не патрэбны.
>
> *Рамэн Ралан*

У тугім пагушкванні вагона меладычна і мякка пагрымліваюць такты, і Андрэй ужо з нейкай абыякавасцю пазіраў цераз адчыненае акно на аднастайную роўнядзь мора. Мутным срэбрам блішчыць яно недзе пад гулкімі коламі, маўчыць і жывым волавам пераліваецца пад роўнай паласою электрычнага святла з вокнаў экспрэса.

А ў акно шырока дыхае мора густым і сыраватым ветрам. Далей жа мора губляецца ў цёмных і цяжкіх даляглядах і зусім зліваецца з небам.

З акна не разбярэш — ці то цягнік ляціць, ці то каля цягніка плаўна адлятаюць назад абрывістыя берагі, глыбокія затокі, срэбныя ад святла кусты і падслепаватыя ды мізэрныя станцыённыя будынкі.

Часамі дзе ў цёмнай затоцы задрыжыць нясмелая зорка, пацягнецца некуды ад сябе палахлівым залатым касніком і згубіцца ў зыбкіх туманах.

Гэта рыбацкі човен ціха блудзіць і рассыпае цераз рыбацкія сеткі за сабою залаты дождж.

Вясенняя ноч душная і да густаты цёмная. Пахне свежаю зямлёю, морам і перапаленым коксам. У Андрэя думкі завязваюцца тугой дзявочаю касою, потым распутваюцца, кудзеляцца і зноў вяжуцца ў нястройныя, у беспарадку наматаныя клубкі, блытаюцца і зацягваюцца ў пялёнку цягучай і надакучлівай дрэмы.

Цяжка ад беспарадачных думак, як цяжка і ад жыцця, што ніяк не ладзіцца, не хоча пайсці па надзейных і пэўных рэйках чалавечага і грамадскага дабрабыту і сямейнага шчасця... Блытаецца жыццёвы цягнік. У мутных, як позні восеньскі вечар, далях.

Цяжка на Андрэевай душы. І пад тугі і плаўны гушкат пераносіцца ён у не так даўно мінулае...

...Тады была вось такая ж самая ноч. Ноч, поўная цемнаты і засеяных зрэдку зор. Была дзівосная беларуская ноч. Таксама ўліваліся ў акно пахі, але толькі родныя і мілыя сэрцу.

Ехалі яны ўдваіх. Ехалі моўчкі, не сказаўшы адно аднаму ніводнага ні добрага, ні дрэннага слова. То былі чужыя, па разладдзю душы, людзі і між тым такія блізкія, родныя, крэўныя. Такімі могуць быць толькі муж і жонка.

Андрэю хацелася тады то злавацца, зрабіцца лютым зверам і рваць яе на кавалкі, так як гэта робіць галодны тыгр са сваёй здабычаю... ці не, не так!.. Хацелася вось так памаленьку, павольна мучыць яе, каб растала, згасла ў жорсткай і жудаснай смерці, і толькі за тое, што вось не сёння, дык заўтра яна будзе ў абнімках другога, будзе цалаваць яго, аддасць усе пяшчоты свае... Той будзе ўвесь шчаслівы, самаздаволены і таму грубы ад свайго шчасця, захоча ўзяць, захоча паказаць сваё першынство і перад ёю (няшчаснаю!) і перад ім, Андрэем.

А то раптам, як вокам змаргнуць, узнікла ў Андрэя пастанова: вось зараз жа, тут, у гэтым цесным і мо такім да шчасця і замілавання прытульным купэ, кінуцца перад ёй на калені і цалаваць яе твар, рукі, ногі, цалаваць гэтую дарагую для яго вопратку і ўжо з памутнелаю свядомасцю прасіць... не, маліць яе, маліць — калі так можна сказаць, — каб яна даравала яму ўсё, усё... І адначасна адчуваў ён, што на гэта ў яго не хопіць адвагі, смеласці. Ведаў, што калі так зробіць, — будуць слёзы, бурныя слёзы, і таму баяўся іх хужэй ад усяго.

Яна сядзела тады за столікам у чорным шаўковым плацці, нямая і бледная, што папера, як казачная прынцэса, памёршая ў крышталёвых палацах на дне залаціста-блакітнага возера.

Здаецца, чакае толькі прыходу каханага свайго з разрыў-травою ды з гаючаю і жывучаю вадою.

Так у казцы, а ў сапраўднасці Андрэю здавалася, што яна за час гэтай катастрофы значна пахудзела і ўсё ж ткі зрабілася больш прыгожаю, больш мужнаю і сільнаю. Увесь час у сваіх руках нервова круціла бэзавую завяўшую галінку і ў глыбокай задумнасці (як бы здавалася) пільна глядзела на Андрэя.

Маўчаў Андрэй і глядзеў у аксаміт ночы, а перажыванні ў іх былі амаль роўныя... Кожны з іх лічыў сябе цалкам ва ўсім вінаватым і адначасова апраўдваў сябе.

Заставалася праехаць ім адзін толькі пралёт. Тады ж Андрэй выйшаў з купэ ў калідор. З шумам адчыніў ён акно і ўспёрся на раму. Не было тады ветру зусім, толькі сярод няроўна абарваных аранжава-блакітных воблакаў уцякаў ад зорак на злом галавы жоўты ўшчэрблены месяц.

Вось ужо хутка і астаноўка. Тут трэба будзе злезці, тут вырашыцца лёс дваіх людзей. Цяпер ужо ў Андрэя было зусім пуста на душы, проста нічога не думалася і не жадалася. Была нейкая абыякавасць да ўсяго. Вось жа ў гэты час нехта павольна няпэўнаю ступою падышоў да яго ззаду і спыніўся. Андрэй падсвядома адчуў, што гэта была яна. Так толькі адчувае закаханы ў сваю любімую, так адчуваюць людзі блізкасць і здань смерці ці няшчасця.

Андрэй не абярнуўся. У Андрэя на адзін няясна вызначаны момант з’явілася ў душы буйная і глыбокая і таму балючая радасць пераможцы. Значыць, не ён, а яна... яна першая падышла...

Вось так, як і сёння, мякка гушкаў цягнік. Не было толькі тых зор, ні месяца, што бачылі ўсё і не далі б зманіць. Там плакалі тады над дарогаю старыя кацярынінскія бярозы, а тут...

Але яна пастаяла яшчэ трохі, нібы нешта вырашаючы, і ах як прыемна яе мяккая рука, што так пяшчотна лягла на ягоным плячы. Андрэй убачыў яе скамянелы, худы і белы, што крэйда, твар і шырокія ды ў ліхаманкавым агні вочы. Хацеў нешта сказаць, ды яна апярэдзіла яго:

— ...Зайграй мне! — а вусны былі чорныя і неяк дзіўна трымцелі.

— Калі?..Чаму?! — не падумаўшы, кінуў Андрэй, абы што сказаць. У ягоным сэрцы ўжо загарэлася няясная надзея... Памятае ён, што калаціліся ў яго не толькі рукі, калаціліся і вусны, і сэрца, і сам увесь...

— ...зайграй мне тую ж самую рэч, якую я так люблю... якую так любіла... — паправіла яна. — Вось калі я пакахала цябе — у

той вечар ты іграў... Ты добра яе памятаеш... Як мы разышліся, і тады... — ды ўжо не было больш у яе слоў. Яна праглынула іх і ўдавілася.

Андрэй ведае без слоў. Чаму яе рука такая халодная?! Ну, дарма, нічога! Можа, адумалася яна, можа, зноў, як і раней, жыццё пойдзе... няхай ужо сабе і не па рэйках...

— Тут, у вагоне?.. Ды гэта ж немагчыма!..

Яна пастаяла перад ім, усё падкрэсленае хараство і шчасце, потым без слоў павярнулася ў купэ і выйшла з капелюшом у руках. Навошта ёй быў ён? Без патрэбы пакруціла ў руках і...

— Ну, Андрушка, — даруй за ўсё... — яна, здаецца, гэтага і не сказала, але толькі пачуў Андрэй.

Потым крута павярнулася ад яго і пайшла з вагона.

Чаму тады не затрымаў яе Андрэй, чаму было не выканаць той цудоўнай і настолькі ж дзіўнай ды віхрыста-страснай рэчы? Ну, так вось сталася! Хто ж гэта дазнаецца, ці каму гэта вядома заўтрашняе ў сваім жыцці?!

Андрэй толькі ў няяснай трывозе і прыбітасці зноў перагнуўся цераз акно і пачаў інстынктыўна сачыць за выхаднымі дзвярыма. Цераз хвіліну чорная фігура выйшла на падножку, і Андрэй адразу ж спазнаў яе. Потым убачыў таксама зусім выразна, як гэта чорная фігура сарвалася з падножкі і матнулася велізарнай чорнай птушкаю некуды ў прадонне, у невядомае і жудаснае...

І, здаецца, яшчэ пачулася Андрэю, што нібы хруснула пад вагонам і вагон згубіў раўнамерны і пастаянны такт.

А вось крык жудасці і нямой нечалавечай смерці — гэты крык ён чуў зусім добра. Такі крык, можа, пачуў не толькі ён адзін, але нават увесь цягнік.

Гэта не забудзе ніколі Андрэй!

Тады ж у бяспамяцтве Андрэй з усёй сілы рвануў за ручку падважніка. Затармазіла. І яшчэ на хаду Андрэй саскочыў з вагона.

Цягнік спыніўся. Людзі спалі. За вокнамі падалі некалькі ў пераборку галасоў. І ніхто не ведае і ведаць не будзе, што адбылося ў тую ноч на рэйках.

Гэта было так нядаўна і так, здаецца, даўно, што ў Андрэевай памяці толькі прамільгне на нейкі момант яе апошні выраз твару, момант, калі яна папала пад калёсы. Не, чаму? — Андрэй памятае і больш з іхняга сумеснага жыцця, ды толькі падзеі асталіся ў памяці горкай крушынавай ягадзінай... Мо таму так хутка і сцерліся з ягонай памяці і сэрца выраз радасці і глыбокай пяшчоты на яе твары.

Як бы там ні было, але сёння ўсё скончана, і сёння трэба пачынаць новае жыццё...

Новае жыццё... А для новага жыцця трэба новыя сілы, свежыя, маладыя, загартаваныя барацьбою і нязломнаю сілай волі, іх ужо ў Андрэя бракавала. Вось і едзе ён сёння на далёкі поўдзень, вось чаму і навеяла гэта ноч столькі думак і перажыванняў, бо паміж сённяшнім і тым памятным назаўсёды вечарам была нейкая аналогія, жудаснае падабенства.

І Андрэй наперакор усяму зайшоў у купэ і выняў з футарала скрыпку. З нейкім задушэўным замілаваннем пакруціў у руках пафарбаваны пад арэх інструмент, старанна здзьмухнуў ад каніфолі з-пад струн пыл, задумаўся, потым разы два тромкнуў і прыслухаўся да цудоўна-малінавых званочкаў у крышталёвых далях. Калі ж гэтыя мінорныя гукі недзе далёка-далёка расталі, Андрэя нешта ўшчыпнула ў сэрца, і ён паклаў скрыпку на сваё месца.

Упрашалі хлопцы, але не было ў яго настрою.

Экспрэс, як люты звер, ляцеў наперад і закалыхваў.

## ЖУРАВІНЫ
*Паэма*

> Дорога назад — дорога к смерти, она закрыта...
>
> *Максім Горкі*

### I

Вось з чаго пачалося:

— Былі самыя прыкрыя размовы з самымі прыкрымі таварышамі. (Зразумела, «таварышы», як азначэнне ў самым вузкім сэнсе.) Былі дарэмныя блуканні па розных рэдакцыях, каб атрымаць не аванс (як гэта некаторым думаецца), але атрымаць свае ўжо даўно запрацаваныя рублі. Вось пасля такіх прыкрых сутычак я, зусім разбіты і сцёрты ў лепшых жаданнях, ледзь-ледзь дацягнуўся на сваю кватэру.

А ўсе часы перад гэтым днём, калі бываў самы добры настрой, я ламаў галаву над распрацоўкаю аднаго сюжэта. Ён мяне, праўда, увесь час вельмі захапляў. Я аддаваў дзеля яго ўсё, што толькі было ў мяне самае найлепшае. Во ў такія разы я нават забываўся і на ежу; толькі ўначы, калі ўжо клаўся адпачываць і

браў па прывычцы прачытаць кніжку, — нешта такое давала ведаць, што я... Ну, але гэта няважна!..

Важна тое: сёння была глухая пустата. Сапраўдная і жудасная пустата. Бываюць жа такія дні!..

Я, ад зморанасці і шэрага непрыемнасцей, як прыйшоў, дык і ўваліўся ў крэсла ды ўтаропіўся вачыма ў адну кропку. Была тады ў мяне нейкая ціхая, павольная, забросненая плынь думак.

Ды што я кажу?! — ніякіх не было думак. Бо расплыліся яны шэрым і цяжкім восеньскім туманам.

А супроць майго акна, на шырокім і брудным пасялковым двары, ужо прагна цягнулася да сонца маладая жоўта-зялёная шчаціна сакавітай травы.

Тут жа чарнелі брудныя плямы. Гэта ж вось за зіму рупныя гаспадыні назлівалі пасярод двара цэлыя кучы рознага смецця і памыяў. Яны густа прэлі пад сонцам, ад гэтага цягнула смуродам. Тады ў маёй памяці, як жывое, паўстала суседняе ля маёй вёскі сяло, дзе ні ўвесну, ні ўлетку ніколі не прасыхала.

Пад акном сакаталі куры. На кучах сметніка біліся і крычалі галкі. Малінавымі званочкамі ліліся жаваранкі. Было зусім падобна на вёску. І тады ўсплыла напаверх свядомасці нейкая іншая, ужо, здаецца, зусім чужая сёння для мяне, плынь.

Вёска.

У гэты вось час возяць гаспадары гной і ягоны аміячны пах блытаецца з вастрынёю свежай тлустай раллі і з прыемнасцю казыча ў носе.

Паскрыпвае ад цяжкасці і тарахціць па калдабаінах цяжкі воз. Намагаецца цягнуць яго пузаты і касматы з зімы конь і ў тахт хады матае галавою. Ад гэтага бразгаюць цуглі. Ён пахрапвае раздутымі ноздрамі.

На ноздрах аж да воч раздуліся жылы. Вельмі ж яно цяжка, на ліха яму!

Кірылка — шчупленькі, каравенькі дзядок — дробненька, пастарыкоўску перабірае за возам босымі нагамі. На нагах «хоць рэпу сей», а падэшвы рэзка блішчаць на сонцы. Гэта ад твані. У хлявох мокра. Не было подсцілу.

Дзед шлёгае растрапанаю пугаю, разводзіць рукамі, нешта некаму гаворыць, ухмыляецца і потым лезе з усёй заскарузлаю пяцярнёю пад аблезлую шапку. Скрабае ён доўга, смачна і, зажмурыўшы свае падслепаватыя, з чырвонымі павекамі (сляды трахомы) вочы, ускідае галаву ўгору і доўга перабірае нешта пад барадою.

Гэтым часам конь адным чорным і вільготным вокам каса-

вурыцца на дзеда, верне назад вуха і нерашуча спыняецца.

— Ны-э-э-э-а! Ваўккарэзіна... — прахапляецца Кірылка, энергічна торгае лейцамі і ўжо цішэй цмокнуў, шлёгнуў пугаю і кінуў: — Даруй ты мне, госпадзі...

За ім бяжыць, перасыпае тоўсценькімі ножкамі маленькі, у адной зрэбнай да пят кашулі ўнучак Ванька. Трусіць і на хаду раскідае:

— Дзя-а-ду-а-алька-а-а, па-а-двя-а-зі-і-й!..

Ля дарогі зляжаліся і пажоўклі леташнія травы і лісцё. Цяжка, але вольна і радасна ўздыхае зямля і — смяецца тлустасцю, трэллю, маравам. Смяецца прагнасцю да работы рук чалавецкіх...

Высока ўздымаюцца старыя Кірылавы грудзі; нешта шэпча ён сам сабе, і на вуснах расплываецца, як кругі па вадзе, слаўная й добрая старыкоўская ўсмешка.

Успамінае... успамінае:

— Маладосць. Дні вясковыя ў жыцці, калі яшчэ маладым хлопцам ішлі яны за блізенькі свет вось такім днём са Ксеняю на ўсяношную, і тады яна...

Конь стаў, і дзед уперся рукамі ў гной.

— Ны-э-э... А-а-а?.. Свалата-а, дохлы на цябе няма, — а прасці госпадзі! — шлёгнуў дзед пугаю па касматых конскіх бакох... Бачыш ты яго, ваўкарэзіна, прыслухоўваецца, каб цябе воўк еў...

Потым старанна паправіў на спіне вераўчаныя падгузы, бордзенька забег наперад, выбраў грыву з-пад хамута, шлёгнуў яшчэ раз пугаю і зноў распачаў сам з сабою гутарку.

Ад дарогі разбегліся загоны. На загонах тлустая ралля. Палісківаючы голымі лыткамі, садзяць бабы бульбу.

— Га-а-а-а!

— А-я-я-яй-і!

— Гыр-гыр-р-р!..

Дружна залапаталі пад маім акном басаногія дзеці. Гэта за імі пагнаўся сабака. Ён стары і бяззубы, аднак вельмі ж раззлаваўся, і дадзелі яму дзеці.

Ураз адляцелі ўсе мае мары.

Гэтым часам да дзіцячага плачу дамешваюцца густыя і танклявыя жаночыя галасы. Выйшлі мацяркі на двор, каб пасварыцца на дзяцей і адначасна спагнаць злосць і на сабаку і на гаспадару.

Да абрыдласці апрыкла мне ўсё гэта, бо так кожны дзень, кожны дзень!

А за акном, за брудным дваром, за папарамі, у лагчыне жмень-

ка прыгарадных хат, налева — хваёвы бор. Пацягнула выйсці хоць раз у поле.

II

Падыхнула свежым ветрам ад вольных грудзей крамянай маладой вясны. На шырокім полі пашырэлі, згубілі свае вузкія межы і думкі, і грудзі.

Хваёвы смалісты лес нагадаў мне мае дзіцячыя гады, мае першыя крокі ў жыццё... Было шмат вастраты ў адчуваннях. Заходзіла сонца. Абліўся барвовасцю лес. Паружавела паветра.

III

Змрок.

Пацягнула сырасцю і прэллю ад перагніўшых за зіму травы і лісця.

На пераездзе павольна прайшоў будачнік, махаючы чырвона-сінім ліхтаром. Трэба зняць шлагбаум. Фігура ягоная ўжо няясная, ахутаная змрокам. Добра відаць толькі ў фантастычна-ненатуральным асвятленні ягоныя ногі. У руках паварочваецца ліхтар. Гледзячы якім бокам павернецца, і ногі набываюць то сіні, то чырвоны колер.

У аўто, за шлагбаумам, стрымана гудзіць і тоўхае ягонае гарачае сэрца. Дальш — шэраг падвод. Нехта ззаду смачна лаецца і заклікае ў сведкі і Бога, і сэрца, і Багародзіцу...

На пасёлку, у задніх дамох, ціснуць хлопцы гармонік. Енчыць, просіцца гармонік, і здаецца, за яго заліхвацкім смехам просіцца дзяўчына.

Моцна грукаючы аб утоптаную зямлю, спяшаюцца туды некалькі міліцыянераў. Нешта радаснае з хваляваннем адзін аднаму расказваюць і заліваюцца рогатам.

IV

На кватэры — у пакоіку — душна. Не запальваю лямпы і пазіраю ў сінюю ноч.

Хочацца думаць. Думкі ж спрэс радасныя, свежыя, слаўныя. Хочацца марыць. Праплываюць у памяці розныя вобразы: вось толькі ўчора прыехала да мяне...

— Стук-стук-стук!..

— Так!

— Вам ліст. Паклалі на стол. Атрымалі ўранку, але вечным правам забыліся...

— Дзякую, дзякую!.. — а рукі калоцяцца і бегаюць па бю-

вару.

Палю лямпу. Доўга не хоча загарэцца, тухнуць сярнічкі. З нейкім незнаёмым мне хваляваннем я разрываю канверт, і ўжо наперад хочацца адгадаць, ад каго ён, што там напісана, ці радаснае, ці мо...

Хочацца, каб усё было добра, навошта тыя прыкрасці, упінкі?

V

Нязграбнаю рукою, каравым і скупым почыркам пісала маці.

Ліст ад маці:

«Здароў, дарагі сынок!

Ну, голубе ты мой, як жывеш? Як жа ты там у сваім Менску гадуешся, дзе ты харчуешся і ці хапае табе хаця з твайго такога заработку на пражыццё? Мо галадуеш часамі? — дык я скажу табе, сынку, як маці.

Ты мо і няўзлюбіш, але што ж?!. Павер, што твая маці табе не вораг. Я табе, дарагі мой, толькі дабра хачу... Дабра, аднаго дабра!..

Анэгды казалі мне — я не веру ім, не! — але перадавалі, што з табою нешта дрэнна... Дрэнна і зусім дрэнна. Веру, дарагі сынок мой, што ты не прападзеш, не загінеш, — так адчувае маё сэрца, — але ж усё можа быць.

І не такія людзі, як ты, гінулі ад гэтай заразы. Хто не мог устаяць перад ёю — гінуў, як сліна. Але ці ж мне табе аб гэтым казаць? Ты вельмі й сам добра ведаеш.

Я думаю над гэтым: няўжо доля твая такая, сокале мой?.. Чым ты... ды якую ты, сынку, правіннасць зрабіў, што цябе бацька твой так жорстка пакараў у жыцці?!. Бо ад яго гэта, ад яго!..

Разумны чалавек быў, а вось без пары загінуў і як яшчэ жудасна загінуў! Асіраціў нас, асіраціў усю сям'ю. Дзеці пагінулі, і сама я набыла такія вось цяжкія незлічоныя хваробы. А за што, за што?!.

Я, здаецца, каб прымела, вам, дзеці, душу ўсю аддала б, сэрца, бы толькі вы жылі як людзі, каб не смяяўся з вас той, хто мо няварты і падмёткі вашай.

Як ад макаўкі тэй, рассеяліся ўсе мае дзеці. Ужо амаль усе парацць зямельку. Вы ўдвох, як вочы мае, асталіся ў мяне. Двох маю сыноў, а ніводнага пры мне!

Цяжка мне, голубе!

Агорк ужо мне жабрацкі хлеб.

Мо выношваю, — хто яго ведае, — грэх я свой перад вамі, дзеці?

Сынок мой, а я ночанькі недасыпала, сну не ведала, зморы, абы толькі вас узгадаваць. Думала: сама ўжо абы-як, дармо, абыдуся ў свята без новай спадніцы, кохты, абы вы былі так, як людскія дзеці. Яблычак, бывала, кавалачак хлеба несла сваім дзецям, каб так сквапна не зазіралі на чужыя раты.

Рукі мае цяпер адбалелі. Выплакала я начамі (гэта каб вы не бачылі й не чулі), выплакала свае вочы.

Не таланіць нешта табе ў жыцці, сынку! Нешта не трапіш ты, як гэта трэба, на пуцявіну.

А я думаю: плюнь на ўсё, вазьміся за работу, як раней гэта, выкінь усё чорнае з галавы — і пройдзе! Вот убачыш — само пройдзе. І замоўкнуць людзі, не будуць брахаць на цябе ўсяк, зарве ім горла...

А то й так: калі ўжо цяперся ты ходзіш і аніяк не знойдзеш сваей сцежкі, дык кідай усё і прыходзь да мяне. Трохі хлеба і бульбы ёсць, а рэшту заробіш. Вось будзем і жыць!

У нас ёсць і калгас. Дык вось і падасіся ў той калгас і не прападзеш. Граматны чалавек не можа прапасці. Гэта ж вось у нас людскія мацяркі толькі цешацца са сваіх сыноў, выхваляюцца, а я як вычураная якая, што адбілася ад статку. Жыву толькі чуткамі пра цябе. Розныя ж бываюць чуткі. А даходзяць да мяне толькі больш дрэнныя, сам жа добра ведаеш!

А ці ведаеш, сынок мой любенькі, вельмі ж росы кожным ранкам бываюць такія буйныя ды сцюдзёныя. І мыюць яны кожным ранкам ногі мае балючыя.

А што росы буйныя, — я кажу, — ну дык будуць сёлета і журавіны буйныя ды ўмалотныя. А памятаеш, яшчэ мо не забыўся, як любіў ты хадзіць увосень на балота збіраць журавіны. Восень такая ўдалая, лёгкая ды цёплая, а ты іх тады прыгаршчамі з купіны, прыгаршчамі.

Дык як жа табе забыцца, сынок? Не забыўся, мусіць, як мы толькі й жылі з таго, што ў лесе назбіраем. А нас аднойчы вазьмі і аб’ездчык злаві. Адабраў, злодзей, каробкі.

Ты тады яшчэ такі мізэрны, нягеглы быў, а памятаю, як усё ж ты на дыбкі стаў з ім! Я й тады ўжо заўважыла, што з цябе будзе скандаліст вялікі! Відаць ужо было.

А тады ж я хадзіла да таго гада жыта жаць, каб хаця добра ўсё абышлося. Пагражаў у суд перадаць. Сам ведаеш: дзе гро-

шы — там і справядлівасць. Адрабляла, а дамоў познім вечарам нават скарынкі хлеба не прыносіла... Было гэта, — што ж ты зробіш! Усё было. Як успамінаю цяпер, дык аж дзіву даюся, як перажыла я гэта...

А ты, сынку, разгубіў сябе па ўсім свеце, і шкада мне не толькі аднэй тваей маладосці...

Мусіць і аблічча ты змяніў зусім. А мо й не спазнала б цябе, каб убачыла сярод людзей... Адылі ж, не! Спазнаю! Не вочы мае спазнаюць цябе, а сэрца, любы мой голубе, спазнае сэрца маці!..

Спазнае сэрца. А сэрца — што скрыпка.

Яшчэ хачу табе сказаць... Ды не ведаю толькі, ці казаць?!. Ну, але мо цябе так ужо й не зарупіць...

...зусім хворая я, сынку. Старасць прыйшла. І смерць ідзе. Чую. Можа й не ўбачымся мы, сынок, з табою?!.

А так паміраць не хочацца, так не хочацца, што страх проста й падумаць... Легчы ў сырую зямліцу навек... навек... на-а-а-век!.. Як не быў на свеце, і ніхто нават словам не ўспамяне...

Акропна!

А каб ты ведаў, вот ці дасі веры, як гэта яшчэ жыць хочацца, хочацца пажыць, паглядзець на свет... Я хацела б прыкласці да работы й свае рукі — ды няма ўжо сілухны... Галава пачала ўжо калаціцца...

Лягла мая сіла ў потнай працы на памешчыцкіх загонах...

Эх-х!..

Як ты жыць будзеш, што з меншым будзе?! Ты хоць раз прыедзь да мяне. Пойдзеш на балота, журавіны збіраць будзеш, а я гэтым часам буду ўспамінаць тваё маленства і мне лягчэй на сэрцы будзе, што я не кнігаўка.

А пакуль што — бывай, сыночак! Цалую, даражэнькі ты мой, моцна, моцна!..

*4 мая 1932 г.* *Твая маці».*

VI

...Я маўчаў.

Маўчаў, скованы вялікімі, для мяне мо такімі вострымі думамі. Маўчаў не затым, што няма чаго гаварыць, — не! У гэты момант у душы — цэлая бура, мяцеліца пачуццяў.

…Я ведаю — бледныя мае словы перад дарагімі пачуццямі.

Потым. А потым бязвольна ўзяў аркуш чыстай паперы і зусім у беспарадку і без сістэмы (бо не было той сістэмы ў маіх думках, нельга іх было сканцэнтраваць) падсеў да стала і накідаў...

Ліст да маці.

VII

«Матуля мая любая!

Няма слоў...

Ну паверыш — вось няма яшчэ на свеце тых гукаў, такіх адценняў голасу, каб з іх скласці такія словы, якія б перадалі, сказалі, паказалі; ну, як бы гэта лепш сказаць?! Ці бо вось так павольна-павольна, альбо не! — раптам так, нібы гэта гром з неба: вывернулі перад чалавечымі здзіўленымі цудам вачыма боль душы, глыбокі і востры, што брытва па горле, чалавецкі боль, паклалі на далоні свежае, жывое сэрца, жывое, матуля, жывое... якое б ды сачылася па кроплі... і... гэтыя кроплі, каб гаварылі, каб загаварылі простымі словамі, словамі аб гэтых перажываннях!

Ці то каб старанна падабраць, як для тонкай мазаікі, такія словы, зліць іх у цудоўныя сказы ды ўпрыгожыць не менш дзівоснымі вобразамі ды імі выказаць тое, аб чым гавораць і моўчкі плачуць вочы?!

— Не!.. Не!..

Любая й родная матуля, няма такіх слоў! Няма, няма...

Ах, праўда! Боль сэрца і рыданне вачэй можна выказаць, можна! Іх выкажа толькі музыка! Вось сродак, які валодае ўсімі пачуццямі чалавека. Музыка, толькі адна музыка!

І ты, матуля, вось што. У вас там у калгасе радыё ёсць. Дык ты ў вольную хвіліну сядзь ля яго (ля рэпрадуктара) і паслухай. Слухай, любая, уважліва.

І зайграюць адну рэч (а яе граюць часта) — гэта «Смерць Азы». Паслухай гэту рэч і потым скажаш мне сваё ўражанне.

…ты адчуеш боль. Гэты ж боль будзе не смяротны, але затое востры і прыемна-салодкі... Ён перамяшаецца з светаценямі тваіх

перажыванняў. Вось такі ж боль я адчуў, калі атрымаў твой ліст.

Мо, дарэчы, ты запытаеш у мяне:

— Чаму менавіта «Смерць Азы», а не што-небудзь іншае?! Я і так баюся смерці, бо ўжо яна ў мяне за плячыма. Чаму пра смерць?

— Матуленька!

У гэту рэч укладзены ўсе слёзы чалавецтва, усе пакуты, увесь боль... і, як ні дзіўна, пяшчота і бязмежнае каханне.

Сэрца тваё, маці, вялікае, поўнае трагічнае такое любві да сына. Не думай, родная, што я ўжо прапашчы чалавек. Не! Калі цяпер стаю ў нізіне чалавечага шчасця і дабрабыту — дык гэта зусім толькі на адзін нязначны момант. Толькі на момант!

Я стаю зараз і разглядаю ды вывучаю гэта перада мною ўзвышша, каб захапіцца храраством жыццёвай барацьбы, каб пазнаць ноч і смурод і потым высока цаніць усё тое, што мяне сустрэне там заўтра. Укусіў горкага, каб не вярнуцца да яго ўжо ніколі.

Я шукаю і ўпэўнена намацваю сцежку да вяршынь, каб ужо ніколі не сысці з яе.

Лепш памерці, чым пайсці назад!

...Я шмат думаў над сваёй бацькаўскай спадчынаю. Але я (мо ты пацікнеш плячыма), я шаную і паважаю свайго бацьку. Гэта быў чалавек высокаэмацыйны, вельмі таленавіты і разумны. З гарачым сэрцам і з халодным розумам.

Гэта — мой жыццёвы ідэал.

Памяць аб ім — вечна.

Не расказаць табе, матуля, словамі, не перадаць, колькі я перажыў за гэтыя гады!

Ды ці ж трэба ўсё расказваць?.. — ты ж будзеш рыдаць слязьмі маці над пакутамі твайго сына.

...Няўдачы ішлі адна за аднэй восеньскімі хмарамі. Змучыла, скатавала гэта жыццё. Я з усіх маіх сіл хапаўся за жыццёвы хрыбёт гэтага быстраногага каня, але не было ўжо больш сіл

і...

сарваўся!

…бяссонныя ночы ...пакуты і боль перажыванняў у часы зруйнавання сям'і……потым, ну, ...вынік — адставанне ад работы. (Ах, як гэта жудасна!!!), бо не мог як след узяць сябе ў рукі і ад гэтага — эканоміка.

Ніякіх перспектыў у далейшым.

Я хадзіў па вуліцы з апушчанаю галавою. Гэта не ад нуды.

Не! Гэта я хадзіў і думаў так:

— А мо так здарыцца (ды гэта ж бывае вельмі і вельмі часта!), што вось хто-небудзь вазьмі ды згубі чырвонец... Ну хаця б чырвонец!.. Што ж гэта значыць чырвонец, альбо, нават калі на тое пайшло, і для дзяржавы?! Што гэта значыць? — плюнуць і расцерці!..

А вось тады твой сын, маці, будзе шчаслівы! Хоць на некалькі дзён скончацца для мяне такія жорсткія мучэнні неабумоўленай злосці.

Я меркаваў ужо зараней, што можна будзе на яго купіць.

Я выходзіў на вуліцу, калі яшчэ дворнікі не прачыналіся, і нічога!

А да таго яшчэ жудасныя да басяцкасці кватэрныя ўмовы. Вуліца. Ніякага прытулку. І міжвольна... Павер, матуля, міжвольна я пайшоў, проста сказаць, у басяцкі прытон...

...гэта не дзіва: тры гады не вытрымаеш, будзь ты хоць каменны, хоць сталь...

Скажы, маці, можна працаваць пад плотам, калі кватэра для мяне — фабрыка?! А вось жа сказаў адзін з «адказных», што можна! Што было рабіць?! Плюнуць у морду ці далікатна пагладзіць яе — пападзеш у міліцыю. Вось ты кажаш, маці, што я скандаліст, — няпраўда! Памыямі лей таму ў вочы!

Вось такія бясчуласць ды нервовасць, якая разбівае ўвесь арганізм, — вось што штурхае на нястрыманасць у выразах. Ды пачакай, пачакай... Забыўся самае галоўнае. Раскажу, а як жа, раскажу, падзялюся з табою, родная мая...

Так. Усё гэта дробязі, але бачыш, што балючыя яны, атрутныя. А прыйшлі яны тады да мяне і забралі цалкам у палон, калі я зрабіў найвялікшы праступак: калі я аддаліўся, адышоў ад нашай клясы і патануў у густым і едкім тумане ўсяго чужога пралетарыяту...

А скандалістам? — я яшчэ ніколі не быў скандалістам, хоць і данімалі мяне ў жыцці.

Ты мне, я думаю, паверыш!

Значыць, аб чым гэта я гаварыў?.. Ага!

І вось у гэты ж момант з дна душы паднялася сама сабою вось гэта чорная хмара, што перайшла да мяне ад бацькі. Я гэтым, праўда, на зусім нязначны час затуманьваў боль сэрца і вострыя перажыванні, каб пасля праяснення яшчэ больш былі яны вастрэйшыя, бо да гэтага яшчэ спавівала маю свядомасць маральная прыгнечанасць.

Я з усіх сіл вырываўся з гэтых цэпкіх абнімкаў, ірваў на сабе

валасы, скрыгаў ад злосці і сораму зубамі і... багна засмоктвала...

Жыццё так кідала мяне, што не было часу не толькі падумаць пра цябе, родная, але і пра столькі ж дарагое, — пра творчасць...

Мама!

Ты не дасі веры, колькі ў мяне ў той час было думак, разнастайных пачуццяў, жаданняў! Гэта быў кіпучы вадаспад і аднachасова нейкі першабытны хаос... Бурболіла, пенілася, востра і жорстка балела, сачылася крывёю і... як ні дзіўна, — я губляўся.

Я траціў сябе, я гарэў, выходзіў з рамак, заліваў горкай гаркату сэрца і бушаванне думак і...

(сёння для мяне ўжо жудасна!)

з'явілася

думка

аб

самагу...

Ах, ды што я?!. Што я, што я сказаў?!. Не, матуля родная, не вер, не вер!.. Зусім не думай. Ты, бачу я, зжахнулася, ад жудасці пачутае ад сына, у цябе так шырака расплюшчыліся вочы і наліліся чыстым дыяментам слязы...

Абнімаю цябе, дарагая... Гэта толькі атрутнай гадзюкай так сабе пранеслася нейкая чорная ў мазгох думка... Нічога — ужо свеціць сонца...

Сонца, сонца, ах, як шмат гэтага сонца...

Яно жытнёвым морам сагрэла мяне...

Так. Я хачу ўсё ж такі даказаць.

А гэтым часам кпінкі, насмешкі, пагрозы, ігнараванні, адпіхванні ўзад, байкоты... і, самае галоўнае, — штодзённае маё адыходжанне нейкімі вар'яцкімі штуршкамі назад ад жыцця, ад клясы... Вось так: нібы ты ідзеш па краі прадоння, а яно ўсё схіляецца крута ўніз, схіляецца. Ты адчуваеш, ведаеш, што яшчэ некалькі крокаў і... назад вярнуцца будзе немагчыма, нават і думаць не варта, — аднак нейкая сляпая сіла цягне цябе ўніз, уніз, уніз... жуды ў чорнае горла смерці... І ты ўжо, як вар'ят ці лунацік, ідзеш, паралізаваўшы свае волевыя цэнтры мазгоў і нават зусім згубіўшы дар мысліць.

Так і я!..

Але ёсць у жыцці і добрыя, чулыя людзі.

Хоць адно добрае слова, хоць трошкі спагады і чуласці і... ад такой цеплаты брудны лёд лопае і сплывае ветрагонам.

Ёсць такія людзі.

Сёння колькі сонца!.. Мора сонечнай цеплаты...

і...

«Памяць мінулага — з дымам», як сказаў Міхась Чарот.

— Мама... матуля... матуленька!..

Я сёння —

другі...

Такі, якім ты хочаш мяне сустрэць. За ноч, за адну толькі ноч у мяне перавярнулася ў думках усё маё жыццё. Я цалютку ноч не самкнуў вачэй. Я сілком сціскаў павекі і думаў, думаў, думаў... Альбо, вярней, — думалася само, вось так, як б'ецца міжвольна сэрца, уздымаюцца грудзі. Не хочаш, каб білася, а яно тоўхае... б'ецца, дыхаюць грудзі.

І так перавярнулася перад вачыма — усё жыццё, усё жыццё!..

І таксама міжвольна, да болю сціскаў зубы, калі ўзыходзіў мне на памяць дрэнны мой учынак...

Дармо, мама, што мы далёка ад цябе, але ты ведай — сыны твае ніколі не пакінуць цябе.

А вось учора ўранку я ішоў па справах у горад і бачыў людзей на рабоце. Голыя, без сарочак, запацелыя, аблітыя мутнаю паліваю загару — гэтыя людзі выконвалі датэрмінова прамфінплан. Ты не дасі веры, што гэта была за карціна і якая захапляючая па сваім характары і энтузіязму ды энергіі!

Я спыніўся, доўга стаяў і думаў. Я нават і цяпер не прыпомню, колькі стаяў часу — аднак ніводзін чалавек не толькі не загаварыў са мною, а нават і не зірнуў!

Прачнуўся толькі тады, калі васьмёх чалавек з крэктам паднялі рэйку і, блытаючыся ў нагах, панеслі ля мяне. Бачыў я, што задняя пара не можа справіцца са сваёй ношкаю. Худы, вяснушчаты хлапчук, здавалася, вось-вось упусціць з рук канец лома і рэйка з'едзе на ногі. Проста інстынктыўна я падбег да хлапчука і хапіўся за лом, каб дапамагчы. Той у момант здзіўлена кінуў на мяне сваімі шэрымі вачыма і з натугі выцадзіў:

— Таварыш-ш, не перашкаджай...

Я апусціў галаву. Разам з крывёю сораму на твары, — на вачох паслаўся мокры туман.

Альбо надоечы быў я на заводзе «Камунар». У ліцейным цаху... Ды што я выказваю табе словамі?

— Маці! — мы сёння абганяем Амерыку.

Гэта наш гонар!

— Маці! У мяне цяпер столькі творчага запалу, столькі энергіі ды новай, свежай маладой сілы, што я зрабіўся зусім маладым.

Сёння мне адышло назад дзесяць гадоў!

Я — юнак.

Я ўвайшоў у вясну, жыву вясною. Я — сам вясна!

...Ведаю, маці, што цяпер росы буйныя ды халодныя! Гэта трэба табе чаравікі дастаць. Я вось скора і куплю іх табе.

А журавіны, мама, мо не ў гэтым годзе, а што налеццем дык і гаварыць няма чаго, што збіраць не будзем, дзе калісь-то з табою збіралі. Не трэба яны нам з табою, даволі ўжо збіралі іх! На тым месцы, маці, збярэм хлеб з зернем, як журавіны. Не верыш? Смяешся?!

Ды не, бачу я, што ты не можаш смяяцца з праўды!

Ты толькі зірні, як высыхае балота, гіне мох, кладуцца, як струны, уздоўж і ўпоперак стромкія і сінявокія равы, магістралі, загрыміць трактар і зашуміць імшарына буйным ды ўмалотным коласам.

Не прыеду я, мама, збіраць журавіны!

— Матуля!

А пра смерць і не думай! Не каштуй таго яблыка чорнага ды атрутнага з дрэва смерці!..

Любая, родная мая!

Зямля сырая ды стопудовая. Закідаюць тваю дамавіну з дошкамі тонкімі, падгніўшымі. І калі будуць утоптваць тваю магілу — не вытрымаюць яны такога цяжару...

...гэта ж дошкі ўломяцца, уломяцца дошкі. Любая... мая мілая! Дошкі грудзі твае белыя раздушаць... Спрацаваныя рукі твае паломяць... Тыя рукі, што мяне песцілі, абнімалі ды абаранялі, тыя грудзі, што ўскармілі мяне...

Матуленька!..

Не думай, не мыслі, не пішы мне пра свае чорныя думкі...

А ў адзнаку шчаслівай хвіліны сённяшняй — я пакланюся ў ногі табе!

— Маці!

Гэта я пакланюся ўсёй чалавечай праўдзе. Ты ведаеш праўду і не будзеш смяяцца над ёю, бо ой як многа зазнала ты палынавае крыўды!!!

А ты, родная, не плач кнігаўкаю над доляй сыноўскаю.

Кнігаўка плача над дзецьмі мо таму, што вось сёння, узаўтра пакінуць яе дзеці і потым нават не спазнаюць яе.

І так кожны год, кожны год... Вось таму і плача-рыдае яна бурамі свайго пакрыўджанага мацярынскага сэрца.

А ты, матуля, не рыдай!

Я вярнуся да цябе і пакладу ля тваіх ног самыя буйныя і

адборныя журавіны сваёй радасці, глыбокага пачуцця... Я назбіраў іх за гэты час, як мы разышліся з табою, усюды. І на балоце, і на палёх калгасных, і на заводах, і сярод басяцтва і сярод разумных людзей і дурняў (бо і дурні калі-нікалі кідаюць афарызмамі...).

Я...я... Ды я пацалую сляды тваіх хворых ног... Я вазьму пясок і захаваю яго, як талісман. Я ў песнях сваіх апяю цябе, любая і вялікая жанчына. Упляту ў вянок сваіх песень твае горкія дні, твае слёзы, твае думы, твае пачуцці... І тады скажы, хто знойдзе цану гэтаму вянку? Хто? Хто, пытаю, знойдзе ці прыдумае, чым заплаціць мне за яго?!.

Але што я?!. Ды ці ж магу я прадаць яго?!. Не, не! Нізавошта! Ні за золата, ні за самацветы, ні за якія грошы!..

Я панясу яго і пакажу ўсей грамадзе. Я пастаўлю яго над сваей галавою і прайдуся сярод натоўпу. І натоўп знямее і зжахнецца. Знямее ад дзіва і зжахнее ад жудасці...

— Што за прыгожыя дыяменты?.. — Не спазнаюць яны тваіх слёз.

— Што гэта за цудоўныя кветкі?.. — Таксама не спазнаюць тваіх пачуццяў.

— Што гэта за сонечныя сяміцветы?.. — Думы твае абернуцца ў сонца.

Цямней ад ночы зіхацяць агаты, і колькі ж іх назбірана! Крыўды, крыўды людской, цяжкай, горкай чалавечай крыўды не адрозняць людзі ад звычайных каменняў!..

Да тваіх ног я пакладу гэтыя скарбы, пакладу за тое найвялікшае здарэнне, якое адбылося ў мяне сёння...

Я раз і назаўсёды выкінуў з сваіх грудзей таго чарвяка, што чарніў маё аблічча і думкі, выпіваў без пары ўсю маю кроў...

Я — новы чалавек! Я — вясна!

З гэтымі новымі пачуццямі, вясною, з радасцю жыццёваю новы чалавек бярэцца за новую работу. Я ўліваюся зноў у кіпучы і бурны творчы калектыў, я пачынаю вялікую радасную і слаўную творчую працу!..

Вось цяпер я, матуленька, пайду ўсюды, пайду ў жыццё і назбіраю поўных, зусім спелых, адборных і буйных журавін маей творчасці і прынясу іх да цябе...

Ты паглядзіш на іх і забудзешся на балотныя журавіны, ды толькі не забудзешся на свайго сына, які ўжо знайшоў і сваю сцежку, і сваё шчасце.

Жыві, матуленька, родная мая. А я прыйду да цябе, чакай!..

Чакай новага чалавека...

*5 мая 1932 г.* *Твой сын».*

VII

Больш хацелася пісаць. Ды толькі ведаю я, што маці сына адчуе, зразумее без слоў, а па-другое, вельмі шмат пачуццяў — вельмі мала слоў.

Ах. Вось граюць «Смерць Азы»...

Гэта не гукі вялікай песні найвялікшага майстра музыкі. Гэта разліваецца растопленае золата маей радасці, скарбы маіх дарагіх для мяне думак, маіх пачуццяў, майго лепшага «я», гэта — зоры маіх перажыванняў душы.

Я ўжо зліўся з гэтай цудоўнай мелодыяй.

Слухай жа, маці мая, родная!..

*12 мая 1932 г.*
*Менск*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Ян Скрыган*

## ПРАПАЎ БЕЗ ВЕСТАК

Напачатку ён помніцца як чалавек лёгкай, шчаслівай, бесклапотнай долі. Прыгожы аблiччам, станам, невысокім, але нейкім надзіва зграбным ростам, ён быў скрозь на людзях, на яго хацелася глядзець. У яго было добрае, ладнае таварышоўства, усюды, дзе б ён ні быў, ці то на вуліцы, ці ў Доме пісьменніка, яго тут жа абступалі сябры, і кожны раз, калі ўспамінаеш, міжволі бачыш яго паднятую ўгору руку і як бы нават чуеш голас: «Будзьце ўпэўнены!»

Чалавек паэтычнай, узнёслай натуры, сваю літаратурную дарогу ён пачаў з вершаў. Але ў 1925 годзе надрукаваў апавяданне «Перарадзіўся» і з таго часу прозе не здраджваў.

Пісалася яму надзіва лёгка. Апроч рамантычнай акрасы стылю чаравала ў яго апавяданнях самая трапяткая рэчаіснасць, не выдуманая, а перажытая. На свае дваццаць тры гады ён паспеў прайсці актыўную школу партызанства пры белапольскай акупацыі, пабыць селавым настаўнікам, браць самы чынны ўдзел у рэвалюцыйнай перабудове вёскі. Апавяданні яго друкаваліся наперабой. У выдавецтве адна за адной выходзілі кніжкі: «Вясковы прамень», «Радасць», «Золак», «Крык працы», «Мяцеліца», «У паўстанцаў».

Літаратурная работа, пісьменніцтва патрабуюць сваіх умоў і свайго асяроддзя. Гэтак, прынамсі, думае шмат хто. І паступова ўсё ўладкавалася як лепш не трэба. Камсамольская газета «Чырвоная змена» запрасіла яго на работу стылістам, ён пакідае настаўніцтва, перабіраецца ў Мінск. Лёгка знайшоўся пакойчык. Сям’я, праўда, асталася дома, у Кляннiку — жонка і дзве дачушкі, — ну але ж з часам і гэта наладзіцца. Дадому пакуль што ён пастараецца часцей наязджаць. Ды адзінота, тым часам, якраз і не шкодзіць, бо яму трэба пісаць і пісаць.

І ён пісаў з пякельнаю асалодаю, не надта гледзячы нават, што часамі не ўсё ідзе зграбна.

Аднак жа колькі небяспекі тоіць у сабе заўчасная слава. Вось ужо ўсюды яго падпільноўваюць аматары вясёлага кампаньёнства,

з якімі можна лёгка прабавіць час за беглаю балбатнёю, адчуваючы, што сярод іх ён першы, што няма-няма дый перакажа хто-колечы з іх нейкую самую пікантную мясціну з яго твора. Вось ужо ўсё радзей і радзей выпадае часіна, каб з’ездзіць дадому, у той Кляннік, які скрозь жывіў яго творчую памяць. Вось усё часцей і часцей вечарамі падступае да яго пустата, і тады з кім папала можна закаціцца ў рэстаран «Еўропа», каб і наслухацца нейкай нетутэйшай, спакуслівы душнай музыкі, і пераняць як бы знячэўку кінуты пагляд чужой жанчыны...

Нягледзячы на тое, што папулярнасць Нікановічава расла, паступова ён пачаў адчуваць, што яго насцігаюць нейкія перамены. Што з ім нешта творыцца. Раптам ён як бы заадзіночаў. З аднаго боку, гэта не блага, ён, напрыклад, зусім не шкадаваў, што паменшала яго сяброўства. Адпаў, па сутнасці, пустацвет, людзі, якія стамлялі Нікановіча сваім марнатраўствам. З другога боку, яму як бы некага не хапала. За ім неадступна ішла нейкая трывога, не пакідала адчуванне неўсталяванасці, няпэўнасці. Перад ім паўставалі пытанні, пытанні і пытанні. Але і субяседнікам, і дарадчыкам перад сабою ён бачыў толькі самога сябе.

Гэта, бадай што, нармальная з’ява, якая спасцігае творчага чалавека. Настае час, калі зробленае ўжо не радуе і трэба асмеліцца ў нечым адмовіцца ад самога сябе. Час творчай спеласці. Калі трывога за заўтрашні дзень тваіх пошукаў расце і расце. І ў гэтым, бывае, вінаваты ты сам: не дагледзеў, што робіцца вакол цябе.

Вось жа сказаў ужо нехта, што пісаць ён спяшаецца і гэтым, ведама, многа траціць. Нехта папікнуў у натуралізме, і якраз у вельмі датклівай асаблівасці яго творчага ўсталявання — у рамантыцы кахання. Недзе ўпомнены ўжо такія словы, як «грунтоўнасць» і «павярхоўнасць». А тым часам жыццё не стаіць, паяўляюцца ўсё новыя і новыя імёны — Васіль Каваль, Сымон Баранавых, Барыс Мікуліч...

Вельмі спадзяваўся Мікола Нікановіч на «Журавіны»: што гэта будзе яго ўзлёт. Новы этап яго творчасці, вынік доўгіх тых пакут і трывог. Надрукаваў. І праўда, пра апавяданне загаварылі вельмі дружна, ды, на жаль, не так, як чакаў Нікановіч. Што гэта хваравітая меланхолія. Зрыў.

Можа, і не варта было гэтак дружна сварыцца на Нікановіча за пошукі самога сябе. Не ён адзін тады шукаў. Шукаў і Кузьма Чорны, і Зарэцкі, і Галавач. Усім хацелася быць самымі патрэбнымі ў служэнні новай савецкай яве. Ды, на жаль, шмат у чым не даваў разабрацца вульгарны сацыялагізм.

І вось аднаго разу, недзе, мабыць, у 1959 годзе, да мяне на работу

зайшлі дзве маладыя жанчыны. Папыталіся, я гэта ці не я. Я зірнуў на адну, на другую. Адна, ніжэйшая, з тварам загарэлым, ясным, дружалюбна глядзела на мяне, як бы пазнаючы ці вывучаючы. Другая, трошкі вышэйшая, з вачыма такімі выразнымі, што мяне аж злякнулі, здаліся знаёмымі. Увесь твар як бы знаёмы — тонкімі рысамі, авалам, губамі, колерам скуры. Такі твар некалі быў у Нікановіча, падумаў я.

— Мы Нікановічы, — сказалі яны бадай што разам. — Маргарыта і Волька. Да вас.

Не дзіва, што я разгубіўся.

— Мы да вас, ад сябе і ад мамы, — удакладніла белатварая, Волька.

— Мы вас вельмі просім, — падхапіла ніжэйшая, Маргарыта, — памажэце нам выдаць татавы творы. Што маглі, мы сабралі, і кніжкі, і розныя дакументы. Мы нават не ведаем, дзе ён пахаваны, бо ён жа загінуў без вестак на фронце. Вось тут і пра гэта дакументы. Дык хоць бы кніжку якую выдаць, каб і людзі ўспомнілі, і нам жа кожная памяць пра яго — дарагая.

Я быў узрушаны. І, ведама, згадзіўся адразу ж і прагледзець сабранае, і адабраць, і памагчы сваёю памяццю, і напісаць прадмову.

Пайшлі яны, і я быў вельмі рады: усё роўна як пабачыўся з самім Нікановічам.

Па нейкім часе сустрэўся я і з яго жонкаю. Таксама прыгожая, яшчэ маладая жанчына, больш падобная не на мацеру, а на сяброўку сваім дочкам. Завецца Ганна. Робіць у Барысаве на піянінннай фабрыцы. Але яны часта збіраюцца сваім сямейным гуртам. Вось гэтак, як і цяпер.

— Вы, мабыць, мяне не памятаеце, — сказала яна. — То няма ніякага дзіва, я бывала ў яго наездамі, і то больш на першым часе. Надта не было калі раз’язджаць, гэтыя ж былі зусім малыя, — паказала яна на дачок, падобных больш на сяброўак. — А потым і зусім у нас неяк расклеілася. Памятаю толькі, вельмі ж ён перажываў з-за тых сваіх «Журавін».

Божа мой, і гэта яна памятае!

Я глядзеў на яе як на гераіню. Я ўжо ведаў, што ў Вялікую Айчынную ў тым жа сваім Кляйніку яна была партызанкаю, падпольшчыцаю, мае ўзнагароды. І яшчэ большаю гераіняю яна здалася мне за тое, што выхавала вось гэтак дзяцей: каб нават імя бацькава насілі з гонарам.

Потым пабываў я і ў Кляйніку, хацелася паглядзець на тапаграфічную прывязку яго твораў. Усё так, як у кнігах: і прасторы з сінімі вятрамі, і паплавы, і лясы. Няйначай як вунь там была схватка з карнікамі, у якой загінула гераіня аповесці «Мяцеліца», адважная

камандзірка партызанскага атрада Ганна. Ці не за тымі процерабамі ішла дарога, якая завяла Адама і Сымона ў першы саўгас? І ці не там герой «Светлай далі» напаткаў дзяўчыну незвычайнай красы...

*1979–1984 гг.*

*Станіслаў Шушкевіч*

## СЫН НЕЗАБЫЎНЫХ ДЗЁН

Два вагоны пасажырскага цягніка поўніліся вясёлым шумам і песнямі. Было гэта 12 мая 1927 года. Звыш сотні маладых хлопцаў і дзяўчат жылі радасцю, што пабываюць у велічным горадзе Ленінградзе, наведаюць Волхаўскую гідраэлектрастанцыю, пройдуць па палубе і пабываюць у кубрыках лінкора «Парыжская камуна», шэфства над якім трымаў у той час камсамол Беларусі. Экскурсія была арганізавана газетай «Чырвоная змена». Ехалі маладыя рабочыя і сяляне, камсамольскія работнікі, вучоныя, пісьменнікі, журналісты і мастакі. З пісьменнікаў былі тут В. Каваль, М. Нікановіч, В. Маракоў. У часе гэтай экскурсіі мне давялося ўпершыню пазнаёміцца з Міколам Нікановічам, якога дагэтуль мімалётна ведаў і калі-нікалі сустракаў на літаратурных гарадскіх вечарах ды ў рэдакцыях мінскіх газет і часопісаў. Я ведаў многія творы пісьменніка, якія змяшчаліся на старонках газет «Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска», «Чырвоная змена» і часопісаў «Малады араты», «Маладняк», «Полымя», «Аршанскі маладняк» і інш. Творы М. Нікановіча адлюстроўвалі партызанскую барацьбу з белапольскімі акупантамі, першыя гады мірнай стваральнай працы, пошукі выйсця з беззямелля і залежнасці ад кулака, імкненне шырокіх працоўных мас, а ў першую чаргу батрацтва, да вучобы і культуры. Многія замалёўкі і апавяданні вызначаліся глыбокай лірычнасцю, непасрэднасцю, народнай вобразнасцю і нагадвалі сабой вершы ў прозе.

Мікола Уладзіміравіч Нікановіч нарадзіўся ў 1902 годзе ў вёсцы Кляннік, цяпер Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Калі хлапчуку было ўсяго восем год, памёр яго бацька. Маці з усіх сіл выбівалася, каб пракарміць і выгадаваць траіх дзяцей. Малога Міколку Юлія Амяльянаўна за апошнія капейкі пасылала ў пачатковую школу, якую ён скончыў з выдатнымі адзнакамі. Знайшоўся чалавек, які ўзяў апякунства над здольным хлопчыкам і паслаў яго вучыцца ў Ігуменскую гімназію.

Хутка, пасля сканчэння гімназіі, юнак ідзе ў партызанскі атрад, а з 1921 па 1928 год настаўнічае ў роднай вёсцы. Тут ён праяўляе сябе як селькор і як актыўны камсамольскі работнік, а ў далейшым піша

вершы і апавяданні. Гэта яшчэ слабаватыя творы па сваіх мастацкіх якасцях, але бадзёрыя і ўсхваляваныя, прасякнутыя верай у шчаслівую будучыню.

То не гром, не віхура бушуе,
Раскудлачыла кудры зарніца —
Гэта моладзь старое руйнуе,
Выганяючы з вёскі начніцу.

*(«Вясковы камсамол». 1925 г.)*

<...> У ленінградскім клубе «Старая і маладая гвардыя» быў арганізаваны літаратурны вечар. Перад выступленнем за кулісамі клубнай сцэны адбылася спрэчка. Нікановіч упарта стаяў на тым, каб беларускія пісьменнікі выступалі апошнімі, а ленінградцы гасцінна патрабавалі даць мінчанам першае слова. Мяне здзівіла неймаверная ўпартасць Нікановіча. Ленінградцы выступілі першымі. М. Нікановіч меў на гэтым вечары вялікі поспех. Прачытаныя ім урывак з апавядання і верш выклікалі бурныя воплескі.

Назаўтра ў гасцініцы я спытаў у Нікановіча, чаму ён дамагаўся, каб мінчане выступалі апошнімі.

— Я яшчэ ніколі не чуў, як чытаюць творы ленінградскія пісьменнікі. Трэба ж было сяму-таму павучыцца ў іх, — пажартаваў М. Нікановіч.

Здольнасць М. Нікановіча дэкламаваць, пераўвасабляцца з першых жа сустрэч заўважыў народны артыст Уладзіслаў Галубок. Ён не раз прапаноўваў яму ісці працаваць у вандроўны тэатр, пісаць п'есы. Ул. Галубок у 1929–1930 гг. часта наведваў рэдакцыю «Чырвонай змены», даваў нават спецыяльныя пастаноўкі для работнікаў рэдакцыі. Тут 28 сакавіка 1929 года М. Нікановіч чытаў свой незакончаны раман «Вясёлка».

З 1934 года М. Нікановіч працуе ў Свярдлоўску ў газеце «Уральский рабочий». У гэты перыяд нямала было змешчана нарысаў і падарожных нататкаў. З 1939 года па 9 красавіка 1942 года працуе ў рэдакцыі газеты «Советский Дон» у Растоўскай вобласці, а пасля служыць у радах Савецкай Арміі.

1944 год быў апошнім годам жыцця і барацьбы пісьменніка, ён не вярнуўся з фронту.

Літаратурная спадчына пісьменніка невялікая, але яго творы поўныя жыццярадаснасці, любові да ўсяго новага, нянавісці да гнілога, аджытага. Кнігі апавяданняў «Золак» (1926), «Радасць» (1926), «Крык працы» (1928), «Вясновы прамень» (1929), аповесці «Мяцеліца» (1930) і «У паўстанцаў» (1931), пасмяротны зборнік «Летнім днём» (1960) — гэта ўсё, што ўбачыла свет і што створана кіпучым маладым пісьменнікам, адданым патрыётам нашай Радзімы.

*1963 г.*

# КАМЕНТАР

## *ПЁТР КАЛБЫКА*

### *Паэзія*

#### *Песня звонам разальецца (с. 5)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2000, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

Публікацыя А. Жалкоўскага.

«Ад лідскіх муроў» — часопіс літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь», выдаецца ў г. Лідзе. Выдавец С. Суднік, рэдактар Ю. Карэйва.

#### *Прадбачу я (с. 5)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2000, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Пакляпаўшы добра касу... (с. 6)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2000, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Ларысе Геніюш (с. 6)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2000, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Сябрам (с. 7)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2000, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Менск — сталіца майго краю (с. 8)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2001, № 5, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *На дзень імянінаў спадару Дзямідаву (с. 9)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2001, № 5, дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Успаміны (с. 10)*

Друкуецца паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2001, № 5, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *У вянок памяці*

### *А л е с ь   Ж а л к о ў с к і*
### *Абарваная песня (с. 13)*

*Жалкоўскі Алесь* (Аляксандр Васільевіч; нар. у 1933 г.) — журналіст, карэспандэнт газеты «Гродненская правда».

Друкуецца з невялікімі скарачэннямі паводле час. «Ад лідскіх муроў», 2000, № 4, дзе змешчаны як прадмова да публікацыі вершаў паэта.

## *УЛАДЗІМІР КАНДРАЦЕНЯ*

### *Проза*

### *Каханне (с. 17)*

Друкуецца паводле выд.: Кандраценя В. Любоў: Апавяданні. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1938. С. 49.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1937. № 11. Пад творам пазнака: *Смалічы – Менск, 1937.*

У тэксце аповесці зроблены невялікія скарачэнні.

### *Днямі асеннімі (с. 53)*

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 3, дзе апублікавана ўпершыню.

### *Корч (с. 63)*

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 1, дзе апублікавана ўпершыню.

### *Генерал (с. 78)*

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1941, № 3, дзе апублікавана ўпершыню.

### *У вянок памяці*

### *М і к о л а   А ў р а м ч ы к*
### *Уладзімір Кандраценя (с. 89)*

*Аўрамчык Мікола* (Мікалай Якаўлевіч; нар. у 1920 г.) — паэт, празаік, перакладчык, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964), заслужаны работнік культуры Беларусі (1980).

Успаміны напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

## *АЛЯКСЕЙ КОРШАК*

### *Паэзія*

#### *Сабраў я песень звонкае бярэмя… (с. 93)*

Друкуецца паводле выд.: Коршак А. Апаленыя пялёсткі: Вершы. Успаміны пра аўтара / Укл. Д. Гальпер. Мінск: Маст. літ., 1993. С. 8.

Упершыню: Маладосць. 1959. № 10.

Верш таксама друкаваўся ў газ. «Вяч. Мінск», 1969, 19 чэрв.

#### *Ростань (с. 94)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 12.

Упершыню: Коршак А. Апаленыя пялёсткі. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1963. С. 21.

У прадмове да гэтага зборніка «Слова пра сябра» С. Александровіч піша: «Яшчэ напярэдадні вайны А. Коршак падрыхтаваў невялікі зборнік «Пялёсткі», рукапіс якога захаваўся ў яго бацькоў. З вялікай патрабавальнасцю ён паставіўся да сваёй творчасці і адабраў для кнігі найбольш істотнае і, на яго погляд, найбольш значнае. Сябры паэта ўключылі ў гэты зборнік і вершы ваеннага часу і назвалі кнігу «Апаленыя пялёсткі…» (С. 11).

#### *Там неба даль… А пад акном таполі... (с. 95)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 20.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1963. 26 лют.

#### *Спакой (с. 96)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 14.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 23.

#### *На ўсходзе рой высокіх зорак (с. 97)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 16.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 25.

#### *Дрэмле човен (с. 98)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 22.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 32.

#### *Перасадка (с. 99)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 24.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 34.

#### *Крочу ў песнях (с. 99)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 26.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 38.

#### *Маладосць (с. 100)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 18.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 27.

### *Ластаўка (с. 101)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 10.
Упершыню: Мы іх не забудзем. Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1941. С. 168.

### *Восень (с. 102)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 28.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 41.
Верш таксама друкаваўся ў час. «Роднае слова», 1994, № 10.

### *Журавіны (с. 103)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 27.
Упершыню: Беларусь. 1946. № 8.

### *Сонца (с. 103)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 29.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 42.

### *Вечар (с. 104)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 30.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 44.

### *У лесе (с. 104)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 25.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 36.

### *Напалам паломана маланка… (с. 105)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 31.
Упершыню: Беларусь. 1946. № 8.

### *Пячнік (с. 105)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 32.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 47.

### *Са студэнцкага дзённіка (с. 107)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 35.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 51.
Верш таксама друкаваўся ў газ. «Чырв. змена», 1964, 30 чэрв.

### *Не назаву я морамі тваіх… (с. 108)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 40.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 57.

### *Што ж, кажы, што сэрца у мяне… (с. 109)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 41.
Упершыню: Беларусь. 1946. № 8.

### *Вечар (с. 109)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 50.
Упершыню: Літ. і мастацтва. 1963. 26 лют.

### *Возера ноччу (с. 110)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 42.
Упершыню: Беларусь. 1946. № 8.

2 Перасыпваў іх кроплямі золата

### *Мігне аўто ў імгле начной… (с. 110)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 47.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 66.

### *Ідзі у луг — трава і краскі… (с. 111)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 43.
Упершыню: Мы іх не забудзем. Мінск, 1949. С. 169.

### *Мелодыя (с. 111)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 54.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 75.

### *Кляновы ліст (с. 112)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі, 1993. С. 57.
Упершыню: Маладосць. 1959. № 10.
Верш таксама друкаваўся ў час. «Роднае слова», 1994, № 11.

### *Павуцінне (с. 113)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 58.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 82.

### *Першы снег (с. 113)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 51.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 71.

### *Пра зорку людзі казкі баялі… (с. 114)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 59.
Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 84.

### *Просты свет (с. 114)*

Друкуецца паводле выд.: Дзень паэзіі-65. Мінск: Беларусь, 1965. С. 169, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Захоча сэрца смеху чалавека… (с. 115)*

Друкуецца паводле выд.: Дзень паэзіі-65. С. 170, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Максім Багдановіч (с. 116)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі, 1993. С. 52.
Упершыню: Беларусь. 1945. № 10.

### *Трыпціх (с. 118)*

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 60.
Упершыню: Полымя. 1946. № 4.

Адрозненні ў тэксце гэтай публікацыі:

1 А патанулі белыя аблокі
5-8 Для хараства яшчэ хіба што трэба,
Калі ад сонца уцякаюць цені?
На берагох стаяць алешын сцены —
Лісты злятаюць і плывуць па плыні.

У другой частцы трыпціху пасля першага чатырохрадкоўя:

Зачэрпне срэбра ў лістоў далоні…
Ручай закленчыць ля калень кляновых,
Спадзе сляза з ліста лагоднай скроні
На астравы густыя лапуховы.

2 і 5 А думы выплываюць, нібы чоўны

### ***Горы вакол і смутак… (с. 119)***

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 62.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 87.

### ***Рэчка (с. 119)***

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 64.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 89.

### ***Успаміны (с. 120)***

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 66.

Упершыню — час. «Беларусь», 1945, № 5, без загалоўка, назва верша па першым радку: «Станеш, слухаеш у смутку светлым…»

2 Вее даўным ад лугоў, далін
3 Быццам зерне ў полі, ледзь прыкметны
5 А за ім другі, а цераз хвілю
6 Зарунеюць успаміны скрозь
14 Калыхні іх — не павее золь

### ***Развітанне (с. 121)***

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі, 1993. С. 67.

Упершыню: Апаленыя пялёсткі. 1963. С. 94.

### ***Гарачынь (с. 122)***

Друкуецца паводле выд.: Апаленыя пялёсткі. 1993. С. 69.

Упершыню — час. «Полымя», 1946, № 4, з прадмовай А. Астапенкі «Памяці маладога паэта» і пазнакай пад творам: *Чэрвень. 1941*. У зб. «Апаленыя пялёсткі» (1963) твор датуецца чэрвенем 1942 г.

2 Над засмагшымі травамі
17 Іншы землю абняўшы
19 Іншы з неба

